Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Міхася Філіповіча:
на 1-й стар.: «На Купалле», 1921;
на 4-й стар.: «Бітва на Нямізе», 1922 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.

Здадзена ў набор 24.06.2021 г. Падпісана да друку 26.07.2021 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб’ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 500 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Цімразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для чытачоў, старэйшых за 16 гадоў. 16+

№4 (113)
/ліпень-жнівень/ 2021

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Людміла Хейдарава



...той, хто любіць,
каб перад ім на задніх лапках стаялі,
сам і поўзаць гатовы
перад больш магутным за сябе...

# Князёўна Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая

*Раман-фэнтэзі*

## Слова аўтара

Хаця падзеі, якія разгортваюцца ў рамане, прыпадаюць на сярэдзіну XVII стагоддзя падчас вайны з Масковіяй і геаграфічна адпавядаюць беларускай зямлі ў басейне ракі Бярэзіны і яе прытока Свіслачы, – гэтая гісторыя магла здарыцца дзе заўгодна і калі заўгодна. Таму не варта гартаць энцыклапедыі ў пошуках імёнаў, пададзеных у рамане, ды строга судзіць храналогію гістарычных падзей, у якія трапляюць героі. Але – хто ўзыходзіў на круты замкавы курган, што высіцца над сутокам дзвюх маляўнічых рэк каля мястэчка Свіслач, якое ў мінулым мелася быць цэнтрам удзельнага княства, слынным горадам, хто ступаў па сцёртым бруку ягонага падножжа, хто падняўся да векапомных волатаў-камянёў, пакладзеных у падмурак аднаго з былых гмахаў замчышча, – той адчуе веліч

гэтай зямлі, якую нішчылі і рабавалі на працягу шматлікіх стагоддзяў ворагі і часовыя гаспадары, суайчыннікі і заваёўнікі, і ўсё-ткі не здолелі адабраць яе моц, зруйнаваць яе памяць, пазбавіць яе гонару. А я – жыла на гэтай зямлі, жыла яе хараством, ласкай і веліччу, жыла яе гнеўнымі і смешнымі, жорсткімі і рамантычнымі паданнямі – такімі, як і самі людзі, якія адвеку сяліліся тут або пакідалі яе ў пошуках лепшай долі, прыходзілі сюды са зброяй або паміралі за яе і на ёй. Гэтыя паданні, як і колішняе падлеткавае ўяўленне, шчодрае на прыдумку, крыніцамі жывілі плынь майго расповеду. Мая праца – не даніна зямлі, якая гадавала мяне, бо даніну плацяць паднявольныя, не ўдзячнасць ёй, бо па аддзяцы чалавек лічыць сябе нічым не абавязаным. Гэты сказ – прызнанне ў любові, якую яна адкрыла мне ў гэтым свеце, з якой вучыла мяне сваёй мудрасці, моцы і слову – прызнанне ў любові зямлі, што ўвасобіла маё запаветнае Белаводдзе, зямлі, на якой жыла і жыве нашая сапраўдная Літва, нашая Белая Русь.

## ЧАСТКА І

## УЛОННЕ ЖЫЦЦЯ

### 1

Знадворку чуліся бязладныя, кароткія ўдары.

Дарута ведала, што маці сячэ ламачча, назбіранае імі ранкам у лесе. Нізкі высахлых зёлак, развешаныя пад бэлькай у запечку, напаўнялі іхнюю маленькую хатку водарам кветак, сонечных лугавінаў, угрэтага палыну. Нават святочная апратка, якую дзяўчына парадкавала ў куфар, перакладаючы торбачкамі з рабінкавай травой, здавалася навобмацак цёплай. У хатнім прыцемку Дарута не адразу пазнала новы андарак[1], які маці каторы год збіралася апрануць на сустрэчу з князем. Тыя сустрэчы кожны раз чамусьці не адбываліся, і дзяўчына ўпотай лічыла іх прыдумкай, незразумелай матчынай прыхамаццю.

“Вось і ўчора казала, што ў нядзелю пабачыцца з князем. Напэўна, таму і андарак дастала, – здагадалася Дарута. – Добра яшчэ, што князь сапраўдны, а не прывід які!” – дзяўчына ажно адмахнулася ад нечаканага ўспаміну. Раптам ёй захацелася прымерыць гэты ўпарта ненадзяваны андарак.

Дарута адступілася да вакна, каб падзівіцца на вішнёвыя ў срэбна-белых росах ружы, вышытыя палосамі па чорнай ваўнянай тканіне. Цьмяная плямка ранішняга святла, якое прапускала акенца, зацягнутае бычынай плеўкай, дазваляла разгледзець хіба што колеры. Дзяўчына расчаравана ўздыхнула і асцярожна праціснулася ў дзябёлую тканіну андарака.

– Еду-у-уць! – нечакана ўварваўся, каб тут жа захлынуцца, жахлівы, пранізлівы крык маці.

“Няўжо не хлусіў Ходзька...” – Дарута ажно скаланулася ад нязвыклага холаду ў сваім целе...

…Не дужа тады паверыла яна сябруку. Думала, што жартам страшыць яе. Ходзька сцвярджаў, што свіслоцкі пан не толькі даў яму дазвол на шлюб, а нават вырашыў, не адкладаючы, ажаніць яго з Дарутай увосень! Але днямі Ходзька прыйшоў дужа ўстрывожаны, паведаміў, што неўзабаве яна можа чакаць гасцей ад пана. Ён чуў, як дзядзька пана падахвоціўся прывезці Даруту ў маёнтак, каб засведчыла сваю згоду на шлюб. Ходзьку здалося, што насмейваюцца паны, быццам нядобрае задумалі. І калі раней Дарута не лічыла вартым распавя-

даць што-небудзь маці, дык тут не вытрымала, на ўсякі выпадак пераказала Ходзькавы звесткі.

“Мы з табой вольныя людзі! Ды ты яшчэ ў дзявоцтва не ўвайшла! Во-оой, што надумалі-і-і-і… – загаласіла Марухна, але спахапілася. – Ходзьку пакліч да нас, можа, сам усё і прыдумаў. Вунь і бацька ягоны быў вядомы на вёсцы прыдумшчык ды баюн!”

Увечары Ходзька паўтарыў Марухне ўсе навіны. Жанчына, нягледзячы на хваляванне, якое адбілася белымі плямамі на яе счырванелым твары, рашуча сказала, што будзе шукаць заступніцтва ў князя.

Ходзька не спадзяваўся на князя і прапанаваў уцякаць…

...“А, можа, насамрэч, уцячы?.. Калі зараз пабегчы гародам да Рэгулянкі, а там кустамі да лесу – шукай ветру ў полі!” – яна памкнулася зняць з сябе святочны андарак, што прымервала, але перадумала. Усё ж такі ёй хацелася на свае вочы пабачыць тое, што мае адбыцца. Ды і страху перад невядомым не было. Наадварот, гэтае невядомае зманліва слала звілістую, поўную прыгод дарогу. Дарута не тое што любіла дарогу, з дзяцінства яна ўспрымала яе як свой дом, як сваё жыццё.

– Чаго стаіш!? – Марухна ўбегла ў хату з сякерай у руках.

Дарута няспешна прыладзіла на куфар накрыўку.

– Ты што, з лёсам барукацца надумалася? – крыкнула Марухна, кідаючы сякеру за дзверы ў сенцы. Жанчыну ажно калаціла ад узрушання.

Дарута ўважліва глядзела на маці. Яна не памятала, каб тая калі-небудзь крычала на яе.

– Ач-чом-майся! Б-бяжы! – заікаючыся ад перапуду, выгукнула Марухна.

– Ад мядзведзя не бегала! – адпрэчыла Дарута. Але трывога маці перадалася ёй, працяла, авінула, блытаючы адчуванні, як бывае, калі плывеш па крынічным возеры, дзе цёплая, угрэтая на паверхні вада нечакана змешваецца са сцюдзёным струменем. Дарута здрыганулася.

Марухна пільна сачыла за дзяўчынай. “Нічога ёй не давядзеш, не ўкладзеш у галаву! Ну, рашайся хутчэй! Коннікі вось-вось будуць на падворку. Можна яшчэ схавацца. Рашайся! – крычала ў думках Марухна. – Як жа так? Слава, а не ганьба належыць ёй на гэтай зямлі. І Зара тое ж наваражыла. Як зберагчы яе? Божухна, падкажы, уратуй, утаймуй неразумную!..”

Дарута вагалася. Нешта як хапала яе за ногі, поўзала каля іх, шаптала: “Не думай... Не пашкадуеш... Хіба тут тваё жыццё?.. Едзь! Гэта шанец! Магчыма, адзіны!..”

Даруце раптам здалося, што яна аддаляецца сама ад сябе. “Не! Сама да сябе!” – нечакана ўзнікла староння, як бы чужая, думка. Яна адчула, што губляе Марухну, Ходзьку, нават сябе, што ўсё, на чым стаяла раней ейнае жыццё, канчаецца ў гэтае самае імгненне, і рванулася да дзвярэй.

– А-ёй! Кідаецца ў мае абдымкі! – зарагатаў рыжы цівун Халей, ступаючы на парог хаты. – Не спяшайся! Цябе чакае лепшая доля! Ды ты прыбралася, дзеўка! – Халей разгледзеў святочны андарак на Даруце. – Добра! Хоць пан і гідзіцца вашай грубай апраткі, але ўпадабае тваю стараннасць, – каб надаць значнасць сваім словам і стрымаць новы прыступ рогату, Халей узвёў свае вочы ледзьве не на лоб. Здаецца, менавіта ад гэтага ў грудзях Халея зрабілася незнаёма тужліва. Халей здагадваўся, што пан рыхтуе здзек з дзеўкі і яе маткі, якія насмеліліся без дазволу яго, гаспадара гэтых земляў, прасіцца ў двор старога князя. “Хоць яны і вольныя людзі, але ж не ў такой ступені,

каб рабіць гэтым прыкрасць пану. Ды і чортава хатка на ўзлеску, хоць і занядбаная праз сваю ліхую славу, на панскай зямлі стаіць", – апраўдваў сябе ў думках цівун. Спалохаўся, схлусіў ён пану, што не самохаць Марухна з дачкой аселі на панскай зямлі. Падабраў іх неяк пад зіму на паштовым шляху, дапытаўся, што ў Свіслачы да князя ідуць, і дзеля пацехі пасяліў тут. Нагаварыў, што ніхто не пусціць іх, простых, брудных вандроўнікаў да таго здзічэлага, звераватага князя. Яшчэ ў скляпенні кінуць, а тое і ў раку на спажыву ракам. А ў гэтую хатку князь нядаўна заязджаў падчас палявання. Вядома заязджаў, але даўно, калі зямля разам з леснічоўкай была яшчэ ягонай. Не адзін год дурыў іх Халей сваімі абяцанкамі. "Дзеўка, вунь, паднялася. А тут, бач, што атрымліваецца! Можа, павярнуць адсюль, пакуль Тамаш не прыйшоў? Скажу, што не заспелі..." – Халей краем вока ўбачыў, што дзяўчына адступіла за гэты час да печы, і яму раптам зрабілася весела ад яе страху, захацелася нават дадаць яго.

– Пан выказаў табе пашану, паслаў брычку, а не так, як Жданку – везлі кулем. Гонар, бач, табе! Не марудзь, дзеўка!

Не ведаючы, што рабіць, Дарута агледзелася і ўбачыла цэбар з пойлам, якое не паспела аднесці карове. Ад разгубленасці яна ледзьве ўтрымала цяжкі цэбар. Пераступаючы нагамі, каб захаваць раўнавагу, Дарута зачапіла нагой стары ўслон з кавanымі ножкамі, адна з якіх канчалася вастрыём і чамусьці была завязаная ў вузел. Ён дастаўся ім гэткім разам з хатай і неяк прыжыўся. Марухна даўно менавала кульгавы ўслон бядой за здольнасць куляцца і пры гэтым рабіць ёй шкоду. Абдзіраючы дзявочае калена, услон перакуліўся і нават задрыжаў. Даруту ажно перакрывіла ад болю.

– Куды! Пастаў на месца! – заступіў ёй дарогу Халей.

– Аднясу пойла карове, – Дарута апусціла вочы. З калена струменьчыкам цякла кроў.

– Не здохне твая карова! А здохне... – Халей нахіліўся, каб ухапіцца за цэбар.

– Ды каб ты сам здох! – Дарута нечакана для сябе абрынула цэбар з пойлам на ненавісную рудую патыліцу.

Цівун бокам ціха асеў ёй пад ногі.

Марухна, якая гэты час не магла ні думаць, ні слова мовіць, апамяталася, падбегла да вакенца. Два вершнікі з нецярплівасцю паглядаючы на хатку, пакінулі сёдлы. У брычцы, здаецца, нікога не было. Мужчыны былі незнаёмыя.

Марухна ў роспачы агледзелася. На вочы трапілася мужчынская апратка, якая знайшлася некалі на гарышчы і з таго часу без патрэбы вісела каля дзвярэй.

– Апранайся! – загадала яна Даруце, зрываючы з цвіка апратку. Хуценька зашчапіла дзверы, схапіла нажніцы з падваконня. Надрэзала ручнік, каб адарваць палоску.

За дзвярыма пачулася лаянка.

Дарута перавязвала калена, як дзве тоўстыя касы засталіся ў руках Марухны. Медны абруч перахапіў валоссе на галаве дзяўчыны, якая цяпер у зрэбнай кашулі і штанах, нагадвала поўнага моцы юнака.

– Князь-дзеўка... – прашаптала ўражаная Марухна, абачліва кідаючы адрэзаныя косы на тлеючае вуголле пячнога ўлоння. Валоссе пачало курчыцца, дымець, і жанчына, каб перабіць пах паленых валасоў, кінула ў печ нейкае рыззё, што трапілася пад руку. Пацягнула смуродам.

Дзверы ажно выгіналіся, трашчалі пад моцнымі ўдарамі раз'юшаных

людзей і нарэшце не вытрымалі, выстралілі, ашчэрыліся вострым ашчэп’ем абапал пралому, у якім злавесна выбліснула лязо сякеры.

– Злітуйцеся, паночкі, – залямантавала Марухна, пераступаючы цівуна. Яна знарок доўга корпалася з засаўкай, каб дакрычаць, давесці тое, што было вельмі важна, што магло ўратаваць Даруту. – Пашкадуйце, мяне, старую! Падслепаватая! Дурная матка трапілася хлопцу! Сіратой пакіну яго на гэтым свеце! Здалося, разбойнік нейкі! Не пазнала я, паночкі, цівуна, а сынок і ўцяміць не паспеў нічога. Цёмна ў хатачцы нашай, паночкі любыя, як і на душы! Злітуйцеся над старой!

У наступны момант Марухна разам з дзвярыма вылецела ў сенцы. Падаючы, яна паспела яшчэ ўхапіцца за нечы пыльны бот.

Дранцвеючы ад жаху, Дарута ўсім сваім целам адчула, як мякка хруснуў пад сякерай матчын хрыбетнік.

– Пся-крэў! Цівун мёртвы! – вылаяўся пісклявым голасам адзін з нападнікаў.

– Сабаку і смерць сабачая, – абыякава азваўся другі, падчапляючы ботам руку цівуна. Рука торгнулася. Глядзі, і жывучы, як сабака! – дадаў ён гідліва, павяртаючыся ў бок Даруты. – Дзеўка дзе? Тамаш, папытайся ў яго! Толькі блізка не падыходзь, мабыць, у штаны наклаў, не варушыцца нават. Ну і смярдзіць тут! Што за прыхамаць у Эдварда!

Дарута няўцямна глядзела на матчыны парэпаныя ступні, нязграбна раскінутыя ногі, на ейныя вылузаныя з рукавоў рукі, абсыпаныя вяснянкамі, і старанна абмінала поглядам тое месца, дзе глыбока, па самае дзяржанне, сядзела сякера – варожая, чужая ў цёплым, жывым целе Марухны. У гэтым было нешта ненатуральнае, прыкрае, непраўдлівае...

– Не скажаш, дзе схавалася дзеўка, ляжаш разам з маткай! – прагучаў зноў пісклявы голас. Насупраць Даруты ўжо стаяў таўстун з вывернутымі пад нос вуснамі на бліскучым ад тлушчу твары.

І раптам Дарута адчула, як гарачая кроў разліваецца па ейных жылах, напаўняе гудкай зямной сілай, як тады, на бабруйскім тандзеце, калі нечакана для сябе яна ўсур’ёз адгукнулася на выклік мясцовага асілка...

...Ад смеху людзі хіба што не качаліся па траве. Марухна, саромеючыся за сваё прастадушнае дзяўчо, схавала твар у поняўку. І толькі асілак уважліва зірнуў у прагныя вочы Даруты і салодка працадзіў скрозь зубы:

– Не тут, мая харошая...

– Чаму не тут? – шчыра здзівілася Дарута, чым выклікала перуновы запал весялосці ў разявакаў. – Не верыш? – яна ўмомант апынулася побач з асілкам. Горда загаліла рукаў, напружыла руку. – Памацай!

Асілак карцінна паставіў вочы ў неба, затым адтапырыў мезенец і асцярожна крануў ім плячо дзяўчыны. Хуценька, нібы апёкся, сунуў мезенец у свой рот.

– Ды я колькі Ходзьку валіла! – Дарута пачынала ўжо злавацца.

– А! – асілак зрабіў выгляд, што напалохаўся, чым таксама пацешыў людзей.

І Дарута не вытрымала, наскочыла на блазнюка, з усяе моцы ўчапілася за ягоную шыю з надзьмутымі жыламі. Нібы жывы ківач, боўтаючыся на бакі, яна вагой свайго цела імкнулася выбіць сусціжніка з раўнавагі. Асілак спрабаваў выкруціцца, адарваць яе ад сябе, і ў той момант, калі Дарута разгублена зразумела, што бываюць людзі больш дужыя, чым ейныя сябрукі, нечакана абрынуўся на калені.

Віскат, улюлюканне, якія да гэтага чуліся ў натоўпе, адразу сціхлі. Не разумеючы, што здарылася, Дарута адпусціла шыю асілка, які абмякла ссунуўся

на дол. Горла асілка выдавала нейкія жудасныя хрыпы. Людзі ўжо не весела, а нядобра глядзелі на яе, як хрыпы сціхлі і моцны храп скалануў варожую цішыню натоўпа. Дарута незнарок націснула на яго шыі кропку Зары...

– Ты што, нямы? – пісклявы таўстун прыўзняў падбародак дзяўчыны.

Дарута перахапіла ягоную руку і штомоцы пацягнула на сябе, адначасна саступаючы ўбок. Гэта была яе ўлюбёная хітрасць, якой Дарута яшчэ ў дзяцінстве карысталася ў шматлікіх бойках з мальчукамі. Хаця яна ўжо вырасла з тых боек і часам адно дзеля смеху паказвала Ходзьку сваю сілу, пісклявы таўстун праляцеў паўз ейны бок і тварам бразнуўся на гліняную падлогу, паказваючы неадпаведныя сваім таўшчэзным нагам маленькія чырвоныя чаравікі.

– Сам нямы! – кінула наўздагон Дарута і азірнулася.

Высокі, незвычайнай худзізны мужчына з прыкметнай сівізной на скронях і абыякавым поглядам халодных, што рыбіных, вачэй, крывіў рот у грэблівай усмешцы. Здавалася, тое, што ён бачыць, не адпавядае ягонаму разуменню, але ўсё ж такі забаўляе.

– Ідзі сюды! – раптам загадаў мужчына. – Ты! – ён тыцнуў у напрамку дзяўчыны пальцам, лянуючыся нават разагнуць яго.

Дарута было памкнулася да гэтага чалавека, але адразу апаматалася і схапіла кульгавы ўслон, пагрозліва ўзнімаючы яго на паскуднага крыўляку. У той жа момант цвёрдыя, моцныя пальцы перахапілі яе прыцэўкі[2]. Выпушчаны з рук услон ляснуўся на падлогу. Немалады, лянотны на выгляд чалавек перамяшчаўся як маланка! Вострае, нібы жалезнае, калена ўдарам пад пахвіну ледзь не зваліла Даруту з ног. Ейная галава тузанулася так, што валасы адкінуліся на патыліцу, адкрываючы гарачы погляд цёмных, шызых з водбліскамі зялёнага полымя вачэй. Медны абруч бразнуўся аб нешта на падлозе і меладычна зазвінеў. Імгненная разгубленасць, нават, хутчэй, здзіўленне, ажывіла вочы мужчыны і дала Даруце магчымасць сабрацца з сілай. Яна штомоцы тузанула даўгалыгага на сябе за ўчэпістыя рукі, якія ўсё яшчэ трымалі ейныя прыцэўкі, і, калі ягонае цела прытулілася да яе, рэзка адштурхнула, адначасна, як вучыў Ходзька, выкруціла свае захопленыя рукі ў бок вялікіх пальцаў нападніка.

Незнаёмец, выгінаючыся, марудна валіўся на спіну, утароплена гледзячы на Даруту, нібыта высільваўся нешта ўбачыць, разгадаць, у той, каго палічыў было за юнака. У апошні момант ён апаматаўся, павярнуў галаву, каб упасці на бок, як трапіў скроннню на вастрыё завязанай у вузел ножкі ўслону. Ягоныя шырока расплюшчаныя вочы заторгаліся, нібыта чалавек яшчэ высільваўся дагледзець штосьці неверагоднае ў сваім жыцці.

– Дароціца... – прашаптаў мужчына і раптам усміхнуўся, выскаляючы доўгія моцныя зубы.

Даруце здалося, што яна бачыць вялізную змяю, якая разявіла сваю пашчу перад укусам. Яна скаланулася ад агіды і жаху.

– Княгіня... – мужчына паспрабаваў падняць галаву, але яна, быццам падсечаная, глуха грукнулася на падлогу...

Дарута аглядзелася вакол. Яна не магла зразумець – што далей рабіць ёй тут, у нечакана ціхай і страшнай хаце? Яна зусім не шкадавала знявечанага жытла, пра якое Ходзька распавядаў і не такія жахі з мінулага. Наадварот, хацелася хутчэй пакінуць гэтае месца. Дарута прыслухалася да сябе, да сваіх адчуванняў. Дык вось якая яна атрымалася – невядомасць! Сцюдзёна і велічна, нібыта ў заснежаную бездань, абрывалася ў будучыню

яе ўражаная душа. Але нешта яшчэ трымала яе тут, самае апошняе, самае лёгкае, самае неверагоднае з яе зусім маладога жыцця.

– Дарута... – пачулася ў дзяўчыны за спінай.

– Марухна! – Дарута забылася на ўсе свае думкі. – Жывая! Я тут, матулька!

Але адразу зразумела, што маці паклікала яе амаль з таго свету.

Вейкі Марухны здрыгануліся і неяк дзіўна прахлюпала ў ейных грудзях:

– Дарута... – Марухна торгнулася і шырока вытарашчыла вочы. – Не маці я... табе... хуста... князь... – прасіпела жанчына і аціхла.

Дарута паклала свае далоні ёй на вочы і апусціла матчыны павекі. Назаўсёды...

Цівун застагнаў і гэта выбавіла Даруту ад здранцвення.

У хаце пахла крывёй, якая сцякаючы па няроўнай падлозе, назбіралася ў лужыну крыху воддаль галавы Тамаша. Над гэтай лужынай віліся мухі. Яны падалі ў яе і тут жа ўзляталі, з цяжкасцю адрываючы лапкі з ліпкай чалавечай крыві.

Дарута накіравалася да печы, разгрэбла вуголле пад яшчэ тлеючай, смярдзючай анучай. Некалькі сухіх лучынак, прыхаваных на растопку, хутка заняліся, калі яна падзьмула на вуголле. Прасмоленае пакулле, наматанае на чапялу, успыхнула чырвоным д'ябальскім святлом, выпускаючы рогі чорнага смуроднага дыму. Цяпер убогая хата падалася Даруце нават злавеснай.

Дарута, як заварожаная, глядзела на агонь, што ахвотна слаўся па старых, пачарнелых бярвёнах, праканапачаных паміж сабой высахлым мохам.

З лужка на беразе Рэгулянкі данеслася трывожнае мыканне.

"Куды з ёй схавацца? Збяруцца людзі на пажар, забяруць карову, не прападзе, – вырашыла яна. – Трэба хутчэй адсюль!"

Дарута ўзняла на рукі Марухну і аднесла ў брычку. Яна прывязала за брычкай двух коней і асцярожна кранула лейцы.

"Хуста!" – нечакана ўзгадаўся наказ Марухны...

...Дарута ведала пра якую хусту казала маці. Марухна хавала яе на саменькім донцы куфра, не дазваляючы нават дакранацца да гэтай каштоўнасці – зеленавата-блакітнай танюсенькай ваўнянай тканінцы, аздобленай срэбнымі ніткамі ды расшытай у кветкі, пялёсткі якіх складаў жэмчуг, а сярэдзіну залатыя пацеркі, мела форму расцягнутага кола, нагадваючы рамонкавую паляну, дзе кветкі разам павярнулі свае галоўкі да ранішняга мяккага сонца. Даруце часам здавалася, што яна памятае гэтую хусту ўсё сваё жыццё.

– Пасаг твой! – мовіла Марухна аднойчы. І заўсёды маўчала на пытанні малой аб паходжанні гэтай незвычайнай рэчы ў іхняй сям'і. Часам дзяўчынка чаплялася дужа моцна і маці жартавала, што дзяўчаты пра ўсё даведваюцца на сваім вяселлі. І, калі раней Дарута адразу пачынала распытваць Марухну пра вяселле, дык аднойчы адступілася назаўсёды. Вяселле пачало здавацца ёй страшнай падзеяй у жыцці і набліжаць яго сваёй цікаўнасцю яна не хацела. Дарута нікому, нават Войцеху не распавядала пра тое, што неўспадзеў давялося ёй ўбачыць у лесе.

Яна пабегла тады ў лес на саменькім золку. Шлях быў не блізкі. Нягледзячы на познюю восеньскую пару, Дарута спадзявалася знайсці познацвет – незвычайна прыгожую вялізную кветку, што вырастае з цёмнай, халоднай, сырой зямлі тады, калі ўжо нават дрэвы амаль страцілі сваю лістоту і цвіце, не зважаючы на першыя прымаразкі, падымаючы штодня новую пяшчотнаружовую галоўку.

Дарута бачыла іх залетась каля паштовага шляху, вяртаючыся з Брыцалавіцкіх балотаў з поўным кошыкам журавінаў. На гэты раз яна вярталася, трымаючы ў руцэ букецік ружовых кветак, перавязаных маленечкай ліянай цёмназялёнага плюшчу. Дарута хацела ахвяраваць гэтыя дзівосныя кветкі самай прыгожай, самай чароўнай дзяўчыне, на якую не маглі надзівіцца вочы кожнага, хто спыняў на ёй погляд. Жданка і Войцех павінны былі ў той дзень пабрацца. Праз нейкую пошасць, што выкасіла ў свой час палову Шэйпічаў, Жданка засталася сіратой, і ў маленстве жыла па суседзях. Цяпер усёй вёскай сабралі ёй пасаг, каб праводзіць у хату Войцеха.

Дзень пачаўся добра, сонца, хаця і нізкае гэтай парой, стварала ўражанне святочнага настрою і нават цеплыні. Дарута радасна бегла якраз насустрач сонцу, калі да яе даляцелі гукі не тое палявання, не тое пагоні. Яна ўжо чула як невядомы звер ломіцца праз нізкарослы гушчар на ўзгорку і саступіла з ледзь прыкметнай сцежкі да сасны, каб на ўсякі выпадак схавацца за ёй. Зямля правалілася пад Дарутай роўна ў той момант, калі яна ўбачыла Жданку, якая выбегла з гушчара. Скрываўлены белы твар са страшэнна вырачанымі вачыма – над букецікам дзівосных кветак у ашчадна ўзнятай пад час падзення руцэ Даруты. Спрабуючы нажом, з якім яшчэ малечай ніколі не расставалася, зачапіцца за край ямы, Дарута чула жудасныя крыкі Жданкі, лаянку невядомых ёй паляўнічых. Толькі ўвечары па прыступках, выдзеўбаных нажом у рыхлай лясной глебе, што абвальвалася пры кожнай спробе выбрацца, дзяўчына пакінула звярыную пастку.

Ад бездапаможнасці і жалю да Жданкі Дарута праплакала на лаве ўсю ноч. Маці моўчкі атуляла яе, давала піць нейкія ўзвары.

...Нават цяпер, у гэты дзень, поўны смерці, крыві і агню, Дарута сканулася ад жахлівага ўспаміну. Яна спыніла коней і хуценька вярнулася ў хату. Ад дыму і гарачыні было цяжка дыхаць. Стараючыся не думаць пра яшчэ жывога ціВуна і двух другіх, цераз якіх ёй давялося пераступіць, Дарута імгненна вывернула долу змесціва куфра. Берасцянка з хустай цяпер апынулася на самым версе. Дзяўчына засунула яе за пазуху і прыхапіла яшчэ два скруткі палатна на пахаванне Марухны.

Ад'язджаючы, Дарута не азірнулася на палаючае знявечанае жытло.

## 2

Адразу ад хліпкага мастка праз Рэгулянку пачынаўся густы лес. Колы брычкі падскоквалі на тоўстых, вылезлых з зямлі каранях магутных соснаў, што раслі абапал вузкай лясной дарогі, якой карысталіся тут падчас нарыхтоўкі драўніны – на будоўлю, або на дровы. Дарута праязджала бліз таго месца, дзе два гады таму прама на яе выбегла скрываўленая Жданка. “Калі б не нож, падараваны Азай, ці выбралася б са звярынай пасткі? –Дарута намацала на шыі матузок і дастала навязаны на ім свой нож. – Дзіўна, але пад час бойкі ў хаце нават не ўзгадала пра яго...”

…Аднойчы напачатку лета да іх з Марухнай неўспадзеў далучылася цыганка Зара. За некалькі гадоў сумеснай вандроўкі Зара навучыла маленькую Даруту разбірацца ў зёлках, мовячы, што гэта будзе яе ключом ад замкоў мінулага і будучыні. Дзеля таго, маўляў, Зара і пайшла з імі. Цыганка вучыла Даруту слухаць зямлю, ваду, паветра, а таксама размаўляць з птушкамі, звярамі. Яна казала, што, каб разумелі цябе, трэба выразна ўяўляць самому тое, што гаворыш. А каб самому зразумець іншага, неабходна

забыць пра сябе і асабліва тое, што ты не ведаеш мову, бо ў адрозненне ад зёлак, усе мовы маюць адно карэнне. Толькі ў дрэваў яно ў зямлі, а ў моваў у небе. Разумець чалавеку замінае не чужая мова, а тое, што ён жадае слухаць толькі сябе самога. Вось жа цыганы і дзеці разумеюць!

Неяк увесну яна прывяла з сабой дзяўчынку, галава якой, уся ў бліскучых цёмных кудзерках, што вятрак, круцілася на тоненькай шыі.

– Аза, ідзі, пакажы Даруце, што ў цябе ёсць, – Зара злёгку падштурхнула дзяўчо.

На парозе хаты, гаспадары якой далі Марухне зімовы прытулак, Зара азірнулася. Здавалася, абедзве дзяўчынкі не дужа імкнуліся да новага знаёмства. Насупленыя тварыкі, на адным з якіх гарэлі ўпартасцю зялёныя, а на другім задзірыстым выклікам чорныя вочы, не абяцалі ўзаемнай прыязнасці. Зара вярнулася.

– Ты ж ведаеш, Аза! Аднойчы яна можа ўратаваць тваё жыццё. Але нічога не атрымаецца, калі вы не пазнаеце адна другую праз гады.

– Лепш памру... – прашаптала Аза.

– Чаму раптам? Мы ж дамаўляліся! – здзівілася Зара.

Дзяўчынка маўчала.

– Добра, пайшлі, скажаш мне, – Зара павяла малую за браму.

Даруце было прыемна чуць, што яна можа паспрыяць у будучыні жыццю незнаёмай, няхай і вяртлявай дзяўчынкі. І яшчэ яе дужа цікавіла, што такое можа паведаміць Аза, чаго не ведае Зара. Але як ні прыслухоўвалася, з хуткай гаворкі абедзвюх вылучыла толькі адно слова, якое Аза горача выкрыкнула некалькі разоў: “Гаджэ!”

– Як хочаш, гэта, урэшце, тваё жыццё, – сярдзіта закончыла перамовы Зара і пайшла да хаты.

Аза прысела на кукішкі па другі бок брамы і пачала нервова драпаць невялікім нажом злёгку ўбраную ранішняй шэранню зямлю. Яна памалу паскарала свае рухі і хутка ўжо вакол яе пачала ўтварацца яміна.

Дарута не магла зразумець, што хоча зрабіць Аза.

“Які незвычайны нож у яе руцэ!” – Дарута нават не заўважыла, што ўжо стаіць каля брамы. У той момант, калі яна збіралася выйсці з двара, нож Азы ўтыркнуўся роўна перад чаравікам Даруты.

– Вось гэта рэч! – узрадавалася Дарута, міжволі выхопліваючы з зямлі маленькі нож з вузкім кароткім лязом і дзяржальнам, зробленым з незнаёмага ёй каляровага рога. Там, дзе злучаўся з клінком, рог меў белы колер, сярэдзіна яго, нібы залапленая, выглядала чорнай, а самае вастрыё палала ярка-чырвоным полымем. Да таго ж дзяржальна, паволі звужаючыся, рабіла нож зручным нават у ейнай маленькай далоні. І не проста зручным, а амаль прыліпала да яе. Дарута пераклала нож у другую руку. Ледзь прыкметны выгін рога не перашкаджаў яму ёмка класціся і ў правую далонь.

– Аддай! Не тваё! – гнеўна зыркнула сваімі чорнымі вачыма Аза, нават не падымаючыся з кукішак.

– Дык чаму тады шпурляешся ім? – азвалася Дарута, неахвотна аддаючы нож зыркатай, вяртлявай Азе. – І чаго капаешся тут?

– Ты не гаспадыня мне, каб я табе адказвала!

– А ты проста злая крыўляка!

– І нічога я не злая! – ускочыла Аза, страсаючы са спадніцы чэпкія былінкі высахлай леташняй травы.

– Злая-злая! – не здавалася Дарута.

– Сама ты злая! – знайшлася Аза.

Дарута не жадала адказваць на такое нахабства.

– Не хачу ратаваць табе жыццё! – заявіла яна, павяртаючы ў двор.

– А я і не прасіла! Падумаеш, князёўна знайшлася! Дзе, дзе тваё княства? – здзекліва закрычала Аза. – Дзе яно, дзе?

Дарута павярнулася да сваёй непрыяцелькі.

– А ты, а ты... – ад крыўды, ці ад слова “князёўна”, якое чамусьці прыпляла Аза і якое не стасавалася на яе думку з абразай, Дарута не знайшлася, што сказаць.

– А я сабе магілу капала, – нечакана самотна прамовіла Аза, гледзячы проста ў вочы Даруце.

Дарута адчула сябе зусім збітай з панталыку. За спінай Азы сапраўды чарнела яміна.

Рухавая, задзірыстая Аза з бліскучымі чорнымі кудзеркамі і яшчэ болей бліскучымі вачыма таксама не стасавалася зямінай нават на недабразычлівы позірк Даруты.

– Бяры, – прапанавала ёй Аза свой ножык.

Дарута адвярнулася. Канечне, яна б з задавальненнем узяла гэтакі скарб, але ж не ад ворага.

– Бяры, – усё адно з сабой туды не забяру, азірнулася Аза на яміну.

– Пакінь сабе, – раптам пашкадавала яе Дарута. – Я цябе ўратую. Толькі пакуль не ведаю як. Але абавязкова ўратую цябе, не хвалюйся. Таму пакінь нож сабе, ён табе спатрэбіцца.

– Не-а, Зара сказала, што без клінка ты можаш забыцца на мяне.

– Не забудуся! – горача заявіла Дарута. – Чаму гэта раптам забудуся?

– Гады пройдуць, пакуль мы зноў сустрэнемся, мы вырасцем і будзем ужо інакш выглядаць.

– А ты нагадаеш мне сваё імя, Аза, я ўспомню і ўратую!

– Не-а, Зара сказала, трэба, каб ты мяне заўсёды памятала, бо не будзе часу ўспамінаць.

– А, можа...

– Бяры! – Аза хуценька ўклала нож у далонь Даруты.

– А ты як? Вазьмі, я, праўда, не забуду пра цябе! – Дарута рашуча вярнула нож дзяўчынцы.

Аза патрымала крыху нож, палюбавалася на яго, прылашчыла, пацалавала і паклала на зямлю перад Дарутай.

– Ён – твой! Я проста берагла яго для цябе. Ён заўсёды быў тваім – так сказала Зара. Сёння я павінна была аддаць яго табе са словамі “князёўна, я вярнула табе твой клінок”. Гэтыя ж словы я павінна буду паўтарыць пры нашай наступнай сустрэчы.

Дарута ледзь разумела тое, што казала Аза. Як можа належаць ёй нож, які яна бачыць упершыню? Чаму “князёўна”? Так часам называла яе ў калыханках Марухна. Гэтак толькі што дражнілася Аза. Хто ж тут можа зразумець? Дзяўчынка старалася ўспомніць хоць якую падказку са свайго жыцця, але нічога не атрымлівалася ў яе, нейкая хуткая чорная плынь праносілася перад вачыма, засціляючы вочы. І раптам...

Дарута магла паклясціся, што бачыла, няхай гэта нічога не тлумачыла, але яна бачыла, як да яе цягнецца белая жаночая рука, на сярэднім пальцы якой раптоўна сляпуча бліснуў пярсцёнак. Яе сэрца, здавалася, сціснулася ў кропку, а пасля закалацілася так, што Дарута зразумела – яна б аддала ўсё, што мела, толькі за тое, каб белая рука дакранулася да яе зараз...

– Князёўна, я вярнула табе твой клінок!

Аза дзвюма рукамі ўрачыста падала ёй нож.

Дарута пагладзіла сталь, рогавае дзяржальна, падняла вочы на Азу. Гэта не было жартам. І яна паверыла – Азе, князёўне, клінку, белай жаночай руцэ са сляпучым пярсцёнкам на сярэднім пальцы, паверыла нават хуткай

чорнай плыні, няхай усё гэта будзе існаваць толькі адно імгненне, яна не сквапная, яна застанецца ўдзячнай гэтаму імгненню назаўсёды...

Але імгненне доўжылася. Толькі вочы Азы блішчалі ўжо цікаўнасцю і, здаецца, разуменнем.

Дарута моўчкі ўзяла шчодры дар. Вольнай рукой яна зняла са сваёй шыі скураны матузок, на якім знаходзіўся адзіны ейны скарб, нядаўна падабраны каля капліцкі. Гэта была цяжкая срэбраная завушніца ў форме кола. На дне кола ляжаў месяц, а з верху на тоненькіх цэпках звісалі зоркі.

– Мне хочацца, каб ты на мяне таксама ніколі не забылася. Гэта належыць табе. Я проста берагла яго да нашай сустрэчы. Вазьмі, цыганская князёўна! – Дарута пастаралася абладзіць свой дар гэтак жа ўрачыста, як і Аза.

Але Аза не варушылася. Яе тварык пабялеў, а гарачыя вочы, якімі яна ўтаропілася на завушніцу, здавалася, маглі расплавіць яе.

– Што з табой? – спалохался Дарута.

Аза, не адрываючы погляд ад завушніцы, зняла са сваёй шыі цэпку з роўна такой жа.

– Адкуль гэта ў цябе? – запыталася Дарута.

– Гэта завушніца Ружаніцы, яе маці, – адказала Зара, якая незаўважна падышла да дзяўчынак. – Ружаніца ўлетку прапала з табару. Мы толькі і знайшлі тую завушніцу, што Аза табе паказала. Іх зрабіў бацька Азы, іншых такіх няма. Ты памятаеш, дзе знайшла сваю?

– Ды непадалёк тут, каля капліцкі...

– Ты нават не ведаеш, колькі ўжо сёння зрабіла для Азы! – мовіла Зара. – Нам пара, – яна ўважліва, як дарослай, зазірнула ў вочы Даруце. – Развітвайцеся.

Дзяўчынкі не хацелі развітвацца. Яны глядзелі адна на адну, пакуль у іх адначасова не паліліся слёзы...

Зара зноў прыйшла да іх у той жа дзень. Яна загадала Даруце нікому не гаварыць пра нож і не хваліцца ім. Растлумачыла, што гэты нож не звычайны, што ён заўсёды вяртаецца да свайго гаспадара, і абавязкова прывядзе Даруту на радзіму.

– Зара, а з чыйго рога дзяржальна гэта? – Дарута, слухаючы цыганку, не выпускала нож са сваёй рукі.

– З конскага.

– Зара, не смейся!

– Паглядзі на мяне, хіба ж я смяюся?

Выгляд у Зары быў сур’ёзным і Дарута разгубілася.

– Хіба ж бываюць коні рагатымі?

– Ну, можа, і не зусім рагатымі, а вось аднарогімі бываюць.

– А ты сама бачыла аднарогага каня?

– Не, Дарута, я не бачыла, а вось дзед Азы – баро шэро Бэнг – князь Бэнг па-вашаму, бачыў аднарога. Паслухай, што я чула пра гэта.

– Зара, пачакай! Што такое “баро шэро”?

– Гэта вялікая галава, Дарута! Князь цыганскі. Але слухай...

...Паляваў неяк на сваіх землях малады князь. А зямлі ў яго было – не абскачаш за тры дні і на кані. Гэты князь быў дужа смелы і сілу меў небывалую, каня падняць пад пуза, мядзведзя мог задушыць голымі рукамі. Таму часта на паляванне выпраўляўся адзін, калі не лічыць яго любімага сабаку Зыра, з якім і ноччу не расставаўся. Забавіўся князь, палюючы на аленя, і заехаў у такую глыб пушчы, куды, напэўна, ніхто з людзей ніколі не залазіў. Надышла ноч і хаця з неба свяціла поўня, у пушчы было даволі

цёмна. Вырашыў князь заначаваць на маленькай прагалінцы, дзе спыніўся разам са сваім канём і сабакам. Але не паспеў ён і вогнішча раскласці, як нечакана конь ягоны стаў на дыбы ды ірвануўся з прывязі так, што адбіў рала[3], да якога быў прывязаны і, ламаючы кустоўе, знік у гушчары. Зыр, скавытаючы, туліўся да ног князя. І тут амаль нячутна з кустоў на прагалінку выйшаў чалавек. Зыр было кінуўся на незнаёмца, але па яго поўсці пачалі бегаць тонкімі змейкамі маланкі і стала яна дыбам. Зыр упершыню за сваё сабачае жыццё схаваўся за гаспадара.

– Стой, дзе стаіш! – загадаў князь незнаёмцу. – Хто ты і што робіш тут?

Чалавек спакойна спыніўся.

– Бэнг я. Быў цыганскім важаком у сваім племені.

– Чаму быў? Я чуў пра такога баро. А што зараз?

– Не прыспешвай, князь! У нас з табой не так шмат часу, каб...

– Як ты пазнаў мяне? – перапыніў цыгана князь. – Ці, можа, сачыў за мной? – У голасе князя прагучала пагроза.

– Зараз я ведаю, што пажадаю, князь!І бываю там, дзе пажадаю!

Чалавек нецярпліва зварухнуўся і князю падалося, што ён убачыў кусты скрозь постаць незнаёмца і нават лёгкія адбіткі святла поўні на тых кустах. Ён страсянуў галавой, каб пазбыцца гэтага наслання.

– Не бойся мяне, князь!

– Як ты насмеліўся...

– Не задзірайся, прашу цябе! – перапыніў яго Бэнг. – Не абраза гэта! Зараз ты ўсё зразумееш. Не ты да мяне, я да цябе прыйшоў, бо не маю іншага выйсця, таму прашу цябе, выслухай мяне!

– А калі я не пажадаю слухаць цябе?

– Твой род можа спыніцца.

– Не кажы лухту, Бэнг!

– Не да таго мне зараз, каб лухтой займацца.

– Чаму я павінен верыць табе? Чаму я павінен верыць таму, што ты збіраешся мовіць мне?

– Добра. Я толькі пачну. Ты сам вырашыш працягваць мне, або не. А каб ты верыў, скажу табе адну тваю таямніцу – падземны ход, што вядзе ад замчышча за раку...

– За раку?! Спыніся! – князь азірнуўся, каб упэўніцца, што ніхто не чуе іх. – Ты гэтага не можаш ведаць! Пра гэта не ведаюць нават мае продкі, якія вывелі адно да ракі ход. Сляпцоў, што рабілі яго пад ракой, я падабраў на дарозе, калі вяртаўся з вайны пасля вызвалення Смаленску. Мяркую, не ведалі сляпцы, што рабілі, бо працаваў з імі толькі я і дзядзька Затко, карміў іх толькі дзядзька Затко і я...

– Твой дзядзька Затко і адвёз іх да Дняпра, дзе паказаў ім шлях у цёплы край...

– Ты адзін з іх?

– Не.

– Ты сустрэўся з адным з іх і выявілася, што не такія ўжо і сляпцы яны былі? – занепакоіўся князь.

– Не хвалюйся! На жаль, зямны зрок не вярнуўся да іх. І ход падземны твой уратуе двойчы тваю сям'ю. Але, калі ты зараз не выслухаеш мяне, жыццё развее тваё семя без следу імя твайго на зямлі.

– Кажы, Бэнг! – узрушана прамовіў князь.

– У нас з табой застаецца зусім мала часу, таму толькі самае галоўнае! – Бэнг час ад часу занепакоена пазіраў на поўню ў чорным небе. – Слу-

хай, князь! Два гады таму, калі памерла ад родаў мая жонка, я абраў сабе самую прыгожую маладую цыганку з іншага табару. Але яна паставіла ўмову – прывесці ёй небывалага каня – аднарога, тады будзе маёй жонкай.

– Аднарога? – перапытаў здзіўлена князь. – Цыганы вераць у аднарогаў? Праўда, тутэйшыя людзі кажуць, што вадзіліся ў пушчы, але чулі тое ад дзядоў сваіх, якім іхнія дзяды баілі...

– Не спяшайся, князь. Не ўсё і не ўсе людзі бачаць, што існуе на гэтым свеце. На тваіх землях, менавіта ў гэтай пушчы год таму я высачыў аднарога. З вясны да глыбокай восені я вывучаў нораў і звычкі гэтага каня, каб падабрацца да яго. Але ўзяць яго немагчыма было ні сілай, ні хітрасцю. Вяртаючыся ні з чым да сваёй нявесты, я набрыў на лясную зямлянку. Старому, які ляжаў у ёй на хваёвай падсцілцы, закіданай імхом, нядоўга заставалася жыць. Ён адмовіўся падзяліць са мной ежу, але папрасіў вады. На раніцу стары закончыў свой зямны шлях, але ён паспеў расказаць мне, што скарыць аднарога можа толькі нявінніца, некранутая мужчынам дзяўчына. Калі яна падыдзе да каня, прылашчыць яго і пацалуе ў рог – той будзе служыць ёй да скону. Падмануць аднарога нельга. Жанчыну, якая намерыцца завалодаць ім, конь нанізвае на свой рог.

– Чакай, Бэнг! Твая казка вартая, каб выслухаць яе не на пусты жывот, перамінаючыся з нагі на нагу. Давай, раскладзем вогнішча і засмажым зайца. Добра, што я з каня майго паспеў зняць сядло з паклажай!

– Спыніся, князь, прашу цябе, – журботна прамовіў Бэнг. – Ужо амаль канец і ты ўсё зразумееш. Я хутка. Дык вось. Стары прасіў мяне аб адным – каб я дачакаўся ягонай смерці і потым спаліў цела, бо так яму належала канчаткова развітацца з гэтым светам. За той клопат стары абяцаў падараваць мне свой нож. Я не стаў дапытвацца, каб не саграшыць часам, а зрабіў, як моўлена было.

– Вось гэты нож, князь, – у руцэ Бэнга раптоўна з'явіўся невялікі клінок з каляровым рогавым дзяржальнам. – Ён з конскім рогам. Гэты рог здольны зрабіць любую ваду, нават атручаную самім змеем, жывой. Калі ў цябе застаецца яшчэ крыху цярпення, каб даслухаць мяне, князь, гэты нож сёння будзе тваім. Ён мяняе гаспадара свайго толькі тады, калі яго дабраахвотна даруюць і заўсёды вяртаецца да гаспадара, калі згублены, або скрадзены. Але таму, з кім вернецца гэты нож, трэба выказаць самую вялікую павагу, на якую толькі здольны, інакай...

– Кажы, – перапыніў Бэнга князь, які пачаў здагадвацца, што за чалавека, які баіцца агню, не хоча есці, а самога палохаюцца конь і сабака, ён бачыць перад сабой.

– Вядома, што лепш за ўсё было б, каб мая нявеста сама прыручыла аднарога і ён, натуральна, служыў бы ёй. Таму пасля пахавання старога я нават не наведаў свой табар, а адразу пайшоў да яе. Яна згадзілася, і мы прыехалі сюды.

– Дзе яна? Ты згубіў яе ў пушчы?

– Князь! Яна аказалася жанчынай! Больш таго. За намі ўпотай ішлі яе супляменнікі. Яны вырашылі, што я падстроіў усё гэта, і забілі мяне. Нават не пахавалі. Маю вялікую просьбу да цябе, князь! Калі развіднее, прайдзі крыху ў тым напрамку, у якім я пайду зараз. Там ты знойдзеш мае косці і свайго каня. Не пашкадуй тваёй скураной торбы для маіх касцей. Збяры іх і ўбачыш пад імі нож, які я паказаў табе. Ён твой цяпер. Пахавай мае косці, прывядзі на магілу мой табар і святара, каб адпелі мяне. А каб ніхто не падумаў, што мяне забіў ты, я скажу табе такое, што ведаем толькі я і мая дачка Ружаніца. Ружаніца

гэта пацвердзіць. Бывай, князь! Куды б ні трапіла мая душа, яна будзе маліцца за цябе, калі выканаеш маю просьбу.

Бэнг ціха, але так, каб пачуў князь, прашаптаў два патаемныя словы і знік у гушчары...

– І што далей? – запыталася Дарута, калі Зара замоўкла.

– Князь усё так і зрабіў, як прасіў баро Бэнг.

– У мяне зараз той самы нож? – крыху раскосыя вочы Даруты акруглелі ад захаплення. – Нож старога, нож Бэнга, нож князя? – удакладніла дзяўчынка.

– Чула нават, што роўна такім рогам валодала Лізавета Першая, ангельская каралева.

– Зара, а якія патаемныя словы шапнуў Бэнг таму князю?

– Магу сказаць, бо гэта ўжо не таямніца, хаця тады ніхто ў табары нават не здагадваўся пра яе. У жаночым жыцці, Дарута, шмат таямніц, якімі яны не дзеляцца ні з кім да пары, а тое і забіраюць з сабой у магілу. "Ружаніца цяжарная" – былі тыя два словы.

У Даруты ажно круцілася ў галаве ад ведаў, што шчодра сыпаліся на яе ў той дзень. Яна хацела яшчэ распытаць цыганку пра многае, але тая змоўніцкі прыклала палец да вуснаў.

Зара навучыла дзяўчынку трапна кідаць нож. Дарута кідала нож з левай рукі, але гэта не замінала ёй. Яна магла трапна зрэзаць ім шышку на вершаліне сасны. І не прамахнулася нават у ястраба, які на яе вачах ледзь не ўчапіўся сваімі кіпцюрамі ў лясную галубку. Пасля яна плакала над скалечаным ястрабам, ужо шкадуючы яго. Зара параіла вылечыць птушку. З дапамогай зёлак, якімі Дарута лекавала птушку, ястраб загаіласяся крыло і ён суправаджаў іх, часам адлятаючы па сваіх птушыных справах. Цяпер Дарута не толькі не ратавала ад яго галубоў, але іншым разам і ласавалася птушкай, засмажанай маці або Зарай са здабычы, ахвяраванай ім ястрабам Рабі.

Калі шляхі вандроўнікаў скрыжоўваліся са знаёмым ці родным табарам Зары, дзяўчынка з радасцю вучылася ездзіць верхам на кані. Яшчэ Зара паказала Даруце кропку на шыі, якую варта прыціснуць, каб чалавек заснуў. Дарута адразу паспрабавала выпрабаваць гэтую кропку на сабе, але прага да жыцця, з якога націснутая кропка выкідвала яе нібыта ляльку, не дазваляла змірыцца з падобным здзекам над сабой.

Аднойчы Марухна паказала Зары свой скарб – дзівосную рамонкавую хусту. Зара доўга разглядала яе, пасля ласкава правяла па хусце рукой, нібыта сустрэлася з даўняй знаёмай і асцярожна аддала Марухне. Яны аб нечым ціхенька гаварылі цэлы вечар. Дарута так і заснула пад іхні шэпт. На раніцу Зара знікла. Болей яны не бачылі яе і нават нічога пра яе не чулі. Дарута яшчэ доўга сумавала па Зары, бо Марухна, занятая працай, зазвычай пакідала яе на догляд і клопат цыганкі.

Напэўна, маці дужа давярала Зары…

..."Не маці..." – скаланулася Дарута ад непараўнальна вялікай пустэчы, якая раптоўна ўтварылася ў ейным жыцці. Затрэсліся плечы, перахапіла дыханне. Дарута падняла вочы, шукаючы падказкі неба. Бліскучыя гронкі арабіны над ейнай галавой здаваліся чырвонымі ў касых промнях вечаровага сонца. Абкружаная старымі ляснымі дрэвамі, арабіна знайшла выйсце да святла, выбавілася з цемры і нават песціць ужо свае ягады. Дарута не адчула ні гарачыні слёз, ні дравяністага смаку здобраных імі зялёных арабінавых ягад.

"Трэба спяшацца, хутка сцямнее", – нечакана зразумела яна.

Заставалася яшчэ шмат клопату на рэшту гэтага жахлівага дня. Дарута выпрагла каня, прывязала разам з іншымі да дрэва.

Брычка лёгка скацілася ў яміну, парослую абапал густым размаітым кустоўем.

Коні палахліва касілі вачамі на Марухну, пакладзеную ўпоперак сядла аднаго з іх, белая пляма на ілбе якога нагадвала зорку, стрыглі вушамі, але слухаліся. Дарута кіравалася на абрубель[4]. Там, на паляне, паблізу лукавіны Бярэзіны, яна пахавае Марухну, прачытае над ёй апошнюю малітву. А далей? Дарута ўжо ведала, што будзе рабіць далей.

На небе ледзь бачна праступіў маладзік, калі Дарута сякерай, якую яна дастала з Марухны, выкапала апошнюю схованку незразуметай ёю, заўсёды ціхай, палахлівай, але гэтакай рашучай, адданай і адважнай у рашаючую хвіліну жанчыне. Зямля на палянцы каля абрыва была мяккая, сыпучая, сухая, Марухна будзе задаволена. І Дарута зможа прыходзіць да яе штодзень. Яна, уласна кажучы, і не развітвалася, бо таямніца, якая легла паміж імі з апошнімі словамі Марухны, звязала іх мацней ад роднай крыві на гэтай зямлі.

Дарута па зацененым схіле абрыву асцярожна спусцілася да Бярэзіны. Хуткая чорная вада, віравала, прыцягвала, заварожвала. Напэўна, Дарута не рашылася б зайсці ў яе другім разам, але не ў гэтую ноч. Дзяўчына нецярпліва зняла апратку і кінулася ў ваду. Глыбіня пачыналася ад берага і плынь адразу падхапіла, панесла яе. Дарута не супраціўлялася. Над ёй дрыжалі зоркі, а бязважкасць, якую адчувала цела, пакрысе напаўняла лёгкасцю ўсю ейную істоту...

Летам на іхнім шляху часта трапляліся цыганскія табары. Звычайна цыганскія шатры былі раскінутыя на беразе якой ракі. Аднойчы Дарута з Марухнай спынілася адпачыць паблізу нейкага табара. Дарута, як рабіла гэта заўсёды, зайшла па калена ў ваду, астуджаючы натруджаныя дарогай ногі. Ёй падабалася ісці супраць цячэння, адольваючы пругкі націск плыні. Дзяўчынка не заўважыла, як да яе далучылася маленькая цыганачка. Ды і што заўважаць, калі тая проста моўчкі прыладзілася ісці разам з Дарутай. Так дайшлі да лукавіны ракі. Дарута ўжо хацела павярнуць назад, да Марухны, калі нечаканым наскокам маўклівая цыганачка спіхнула яе на глыбіню, што падступалася ў тым месцы да самага берага. Дарута не ўмела плаваць і, спалохана б'ючы рукамі па вадзе, трымалася з усёй сілы. Калі ейная непрыяцелька падплыла, ушчэнт стомленая Дарута, не жадаючы скарацца ёй, вырашыла – лепш на дно. І тут раптам яна зразумела, што гэта не так проста. Вада ўпарта трымала расслабленае цела. Дзяўчынку пачало ўжо зносіць уніз па цячэнні ракі і крыху на сярэдзіну, дзе плынь была мацнейшай, калі побач вынырнула чорная бліскучая галоўка.

– Рабі, як я! – весела загадала непрыяцелька, паказваючы, як рухае рукамі. – Бі нагамі!

Марухна жахліва баялася вады. Яна ніколі і не вучылася плаваць, хоць і правяла палову жыцця разам з братам на ягоным ветразніку. Жанчына бегла берагам следам за Дарутай і галасіла так гучна, што каля ракі сабралася ледзьве не палова табара. Калі Дарута выбралася з плыні да мацi, цыганы са ўзбуджанай гаманой абкружылі яе з маці. Дарута і Марухна з цяжкасцю зразумелі, што іх запрашаюць быць дарагімі гасцямі ў табары і не крыўдаваць на неразумную дзяўчынку. Яны пражылі ў тым табары да канца лета. Даруце дужа спадабалася плаваць. Але яшчэ болей яе захапілі цыганскія коні, дакладней, язда на іх.

Настаўніцай новага занятку Даруты сталася для яе Зема, тая самая дзяўчынка, якая спіхнула яе ў ваду. Пад восень Дарута годна трымалася ў сядле, але часцей за ўсё абедзьве дзяўчынкі не абцяжарвалі сябе клопатам пра конскую вупраж. Трымаючыся за грывы коней ды сціскаючы пяткамі конскія бакі, загарэлыя да чарнаты, яны з гіканнем насіліся па наваколі проста так, бяздумна, ад радасці жыцця, ад асалоды хуткасці, ад гарачыні маладой крыві, выклікаючы ў рэдкіх сустрэчных самыя розныя пачуцці – ад здзіўлення да зайздрасці і страху. Цыганы з разуменнем перасміхаліся між сабой.

Дзякуючы вандроўнаму жыццю Дарута не прывыкала да сваіх сяброў, яна з лёгкасцю развітвалася з імі, ніколі не сумавала па іх і, можа, таму дзеці адразу патраплялі пад уплыў яе незалежнай натуры. Ва ўсякім разе адстойваць сябе ёй давялося толькі некалькі разоў – і тое часцей з мальчукамі, якія сілай, дакладней, у бойцы спрабавалі ўзяць верх над Дарутай. Бойкі звычайна завяршаліся часовым прымірэннем, або гэткім жа часовым сяброўствам. Сяброўства з Земай атрымалася без вяршэнства і на гэты раз Дарута ледзьве стрымлівала слёзы, каб не выказаць сваю разгубленасць пад час развітання з ёй. Дзяўчынкі моўчкі стаялі адна насупраць другой, стараючыся не сустракацца вачамі, калі Зема раптоўна крутанулася і пабегла ў табар…

...Дарута выйшла з ракі толькі тады, калі адчула, што ёй зрабілася холадна. Неба пачынала шарэць, калі яна пешшу вярнулася па апратку, пакінутую на беразе. Заставалася прайсці да Каменкі, якая ўпадала непадалёк у Бярэзіну, а там – падняцца па ёй да мядзведжага логава – пячоры, на якую неўспадзеў натрапіла Дарута, калі бегала на Бярэзіну пабачыць першыя караваны купецкіх стругаў, што падымаліся да Свіслачаў...

…Не зважаючы на цвёрдую і, здаецца, адзіную забарону Марухны не хадзіць да княскага замка, Дарута ўсё-ткі не аднойчы любавалася ім, прабіраючыся бездарожжам адна ці з Ходзькам уздоўж Бярэзіны да сутоку. Там, на зліцці наравістай, мажнай прыгажуні Бярэзіны і легкаплыннай Свіслачы, на высокім кургане, ці не тысячу гадоў таму назад насыпаным палоннымі даўнішніх князёў, проста на касцях гэтых палонных, што даўно струхлелі ў высцюдзенай вятрамі зямлі, стаяў волат-замак. Шэсць радоў аканіц-байніц пільна сачылі за наваколлем. Нягледзячы на велічнасць замка, складзенага з цэглы ўперамешку з валунамі, здавалася, што ён вось-вось усім сваім гмахам зрушыць і падымецца ў неба. Гэтае ўражанне ствараў вятрак, усталяваны на самай макаўцы муроў. Яго шырокія, пакручастыя крылы амаль ніколі не ведалі спакою і сыпалася, сыпалася з-пад жорнаў пахкая хлебная мука. Калі раней багацце замка выклікала зайздрасць і менскага ваяводы, то цяпер у князя, які болей не хадзіў у паходы, апусцела казна. Большасць навакольных земляў хутка перайшла ў маёмасць да польскага графа, які даўно паклаў вока і на сам замак…

...“Не меў князь шчасця загінуць на вайне”, – пашкадаваў яго неяк Ходзька, распавядаючы Даруце тое, што пашчасціла яму пабачыць там і пачуць ад людзей.

“Дзе зараз сам той шкадавальнік?” – падумала Дарута. Яна, як тое рабіла тут заўсёды, плюхнула сабе ў твар сцюдзёнай, крынічнай вады Каменкі і атрэсла рукі. Разам з гэтым Даруце здалося, што яна канчаткова атрэсла ўсё, што было з ёй раней. Лёгкі павеў ветру прынёс нечаканы ў гэтай дзікай мясціне, але дужа знаёмы і жаданы пах – пах дыму, да якога прымешвалася ўсё тое, што складае пах жытла. Па другі бок Каменкі,

насупраць, у адным са схілаў камяністага пагорку, парослага рэдкалессем і густым кустоўем, знаходзілася пячора, да якой трымала свой шлях Дарута. Яна прывязала да нейкай лясіны коней і асцярожна перабралася па камянях на другі бок рэчкі.

Адразу бачылася, што былая мядзведжая пячора не пуставала апошнім часам. Подступы да лазу ў яе былі заваленыя вялізнымі камянямі і Даруце давялося караскацца ўгору па схіле, каб зазірнуць за гэтую нечаканую сцяну. Здавалася, што тут абжываліся надоўга. Дарута яшчэ не паспела вырашыць – ісці ёй да людзей, што, як і яна, шукалі схову ў лесе, або адступіцца, як моцны ўдар па галаве зваліў яе з ног.

Зенка, а гэта менавіта ён упільнаваў няпрошанага госця, агледзеўся.

– Здаецца, адзін. І што яму ў гэтакую рань спатрэбілася тут? – незадаволена прамармытаў ён. Але яму здалося, што юнак ведаў, куды ішоў. Чаму тады не падаў сігнал? Зенка не асабліва любіў думаць, таму тут жа вырашыў, што ўсё зрабіў ладам, а там – няхай Войцех разбіраецца. Зенка заўважыў нож, які, трымаючыся на матузку за шыю прышлага юнака, вываліўся з-пад кашулі. Такога нажа ён ніколі не бачыў!

– Вось гэта здабыча! – уголас абрадваўся маладзён, чапляючы нечаканую здабычу сабе на шыю.

Па хуткім часе Зенка ўжо адчыняў плеценыя з лазы, шчыльна пракапачаныя мохам дзверы, за імі яшчэ адны, адхінаў скураны полаг. Каля агменю ён цяжка скінуў са свае спіны непрытомнае абмяклае цела.

– Хадзіў тут, нібы нешта вышукваў... – патлумачыў Зенка мужчынам, якія, хто неахвотна, а хто з цікавасцю падымаліся з насцілу, зробленага з бярвёнаў, накрытых паверх саломы звярынымі скурамі, мешкавінай, кавалкамі пушніны.

У агмені, абкладзеным каменнем, цьмела шызачырвонае вуголле. Зенка падкінуў палена. Пячора асвяцілася і Дарута, якая на гэтую пару, пацiраючы на галаве мокры вялізны гузак, спрабавала стаць на ногі, са здзіўленнем аглядала абкладзеныя бярвёнамі сцены, на якіх вісела размаітая зброя гэтага часу: дзіды, арбалеты, лукі, тулы са стрэламі, шаблі, мячы, мушкеты... Яна раптам засмялася, настолькі неверагодным здавалася гэта ўсё ў мядзведжым логаве.

Зенка адразу ж заступіў выхад з пячоры. Па мужчынскіх постацях, якія заварушыліся каля сцен, скакалі водбліскі полымя. Барадатыя твары разам павярнуліся ў бок Даруты. Людзі ад дурнаватага смеху Даруты канчаткова прачнуліся і ўважліва сачылі за ёй..

– Ты хто і пашто тут? – запытаўся нізкаросы, паўнацелы мужчына, абмінаючы агмень. Выраз яго твару быў строгі, нават суровы, але цёплыя, лагодныя вочы абяцалі Даруце спакой і спагаду. Яна ўжо хацела мовіць, як уцяміла, што тут апроч гэтага ласкавага чалавека ёсць і іншыя, глуха насцярожаныя да яе, чужака. Хто яны, гэтыя лясныя людзі? Па наваколлі хадзілі чуткі, што недзе пад Сычкавам на езжым шляху абрабавалі паштовую карэту. І купцы, якія прыйшлі па Бярэзіне ў Свіслачы, сцвярджалі, што ў гэтым краі ёсць мытныя канторы проста на рацэ.

– А ты хто, каб дакладаць табе? – азвалася Дарута.

– Гляньце! Яшчэ і выскаляецца, дрэнь! – падхапіўся нехта зласліва ў цёмным куце логава.

Цяпер ужо зарагаталі мужчыны.

– Што ты чапляешся са сваёй мянушкай да ўсіх? – пакпіў адзін з іх.

– Не бойся, дзіця маё, – працягваў мяккі голас, – добрага чалавека

дабром сустрэнем. А благі – сам сябе пакарае. Што прывяло цябе ў гэты час, у гэтае месца?

Дарута ўжо не слухала яго. Яна ўглядалася ў кут, адкуль весела і хітра блішчэлі нібыта знаёмыя вочы. “Войцех!” – ледзь не ўсклікнула яна. Але вочы незразумелым ёй чынам загадалі маўчаць. Дарута адвяла вочы. Ёй не было чаго тут баяцца. Яна сама і расказала Войцеху пра мядзведзя з пячоры, якога выратавала ад магчымай смерці...

...Вясна залетась была хуткая, імклівая. Даруце вельме хацелася ўбачыць першы караван купцоў, які павінен быў прайсці адразу пасля крыгаходу. Гэта перадалося ёй ад Марухны, якая часта вадзіла дзяўчынку сустракаць караваны. Аднойчы Марухна сустрэла знаёмага купца – і болей не хадзіла да ракі. Але Дарута ведала сама дарогу і гэтага было дастаткова. Яна бегала туды без Марухны. І тады, увесну, па дарозе на абрубель яна павярнула да Каменкі, каб накапаць для Марухны карэння валяр’яну, які нагледзела там яшчэ ў грыбную восень. Навокал было вельмі прыгожа – маленькія плямкі-лужкі здаваліся залатымі ад кураслепу, у лясных закутках яшчэ траплялiся пралескі, а на сонечных прагалінах прачыналася кветка-сон. Стаяла вясновая ўрачыстая лясная гамана. Жалобная нотка, якая раптам прагучала на гэтым свяце жыцця, выклікала ў Даруты ледзь не абурэнне. Хто сваёй несувымернай жадобай насмеліўся ісці супраць, скардзіцца на самую багіню вясны Лялю?

Скарга ішла з-пад зямлі. Дарута аблазіла ўвесь пагорак, пакуль зразумела, што вялізны камень, які трымалі на схіле карані старой сасны, абрынуўся разам з векавым дрэвам і заваліў уваход у логава звера. Той, напэўна, здыхаў ад смагі і голаду, бо толькі ціхае сіпенне, якое час ад часу перабівалася слабым стогнам, чулася з маленькай шчылінкі між камянямі. Дарута намачыла ў рэчцы хлеб, які заставаўся ў яе на дарогу і, абдзіраючы руку, прасунула ў шчыліну. Мокры хлеб чмякнуўся недзе побач са зверам, але не было чутна, каб той варухнуўся. Дарута ўзялася за працу. Дзяўчына разабрала завал, падкапала з верхняга краю валун і падсунула пад яго адбітае пры падзенні сасны рала. Спатрэбілася парадкам часу, пакуль яна ўсё-ткі разгайдала камень і скінула яго са схілу.

То быў мядзведзь. Ён ужо не сіпеў, толькі худыя, апалыя, са звалянай поўсцю бакі час ад часу дробна ўздрыгвалі. Распухлы язык не ўмяшчаўся ў пашчы. Не зважаючы на смурод, які ішоў з пячоры і ад мядзведзя, Дарута паспрабавала запіхнуць у ягоную пашчу хлеб, але не змагла. Тады прыгаршчамі і ў роце яна пачала насіць ваду з Каменкі і выплюхваць на мядведжую морду. Напэўна, вада ўсё ж такі дабралася да горла звера, бо сутаргава заторгаўся ягоны язык, засмоктваючы гаючую вільгаць, расплюшчыліся нагноеныя, напаўзацягнутыя плеўкай, маленькія, круглыя вочы. Праз нейкі час Даруце ўдалося скарміць яму яшчэ і некалькі кавалачкаў хлеба.

Наступнага дня Дарута зноў прыбегла да мядзведзя. Звер сустрэў яе варожым сіплым рыкам. Калі дзяўчына загаварыла з ім, мядзведзь прыпадняў пярэднія лапы і смешна асеў, хітаючы галавой то на адзін, то на другі бок. Дарута паклала свой пачастунак за крок перад ім і стала крыху воддаль.Мядзведзь рушыў было ў наступ – не зразумела толькі да хлеба, размочанага ў малацэ з мёдам, ці на дзяўчыну, але без сілы ўпаў і расцягнуўся на жываце.

Дарута не вытрымала.

– Ну, хопіць артачыцца, нябога! – яна па-гаспадарску падышла да звера, паклала ежу перад ягонай мордай. – Еш!

Мядзведзь яшчэ раз паспрабаваў зрабіць варожы выгляд, але абмяк ад упэўненасці дзяўчыны, з якой яна запіхнула ў разяўленую пашчу салодкую спажыву.

Той вясной Марухна займалася гаспадаркай адна. Дарута знікала з хаты на зары і вярталася толькі поцемкам. Ёй вельмі хацелася, каб сімпатыя, якую выклікаў у яе лясны асілак, была ўзаемнай. Мядзведзь ужо ведаў, якой сцяжынай прыходзіць ягоная сяброўка і часам сустракаў яе далёка ад логава, куды не залазіў болей, не зважаючы на тое, як рабіла гэта Дарута. Дзе ён абраў сабе жытло ў наступную зіму, Дарута не ведала...

...– Фр-р-р! – нечаканы выгук, пагардлівы і насмешлівы, пачуўся злева ад Даруты. Дзяўчына хутка азірнулася ў той бок. Пячора там разгаліноўвалася.

– Коні! – здзівілася яна ўслых і ўспомніла пра тых, што пакінула на другім беразе Каменкі. – Прывядзі маіх! Знойдзеш іх за Каменкай! – загадала яна праз плячо Зенку.

Мужчыны прыкметна ажывіліся.

– Паўтары! Ты прывёў коней? – пасур”ёзнеў адразу Войцех. Ён падышоў да дзяўчыны. – Колькі? Чые?

– Тры. Са стайні свіслоцкага пана.

– Прывядзі! – Войцех зірнуў на Зенку, які нецярпліва таптаўся на месцы. З коньмі ў іх было цяжка. Сялянскія не падыходзілі да іхняга ладу жыцця, ды і не забярэш каняку ў такога ж знядоленага, як і самі яны, аратая! Два кані, здабытыя на паштовым тракце – гэта было ўсё, што мелася на восем чалавек.

– У мяне і брычка схаваная ў гушчары! – пахвалілася Дарута, бо адчула, што гэтыя людзі ўжо радуюцца ёй.

Мужчыны зарагаталі.

– Давядзецца дарогу насыпаць сюды!

– Ну, зух!

– Можа ты і пана захапіў з сабой? – чулася з усіх бакоў.

– З панам у мяне свае рахункі! – сказала Дарута.

“Даверлівая Дарута, над якой часцяком падсмейвалася іхняя вёска ў трыццаць дымоў, стала на шлях ваяра?” – Войцеху не дужа верылася ў гэта, хаця сіла яе выклікала зусім не смех.

Яны з маткай аселі наводшыбе, у лесе, якраз тады, калі палова вёскі вымерла ад чумы. Марухна казала, што іхнія родзічы загінулі ад той жа пошасці. Цівун быў рады дадатковым рукам, ды яшчэ і за сялібу, у якую ніхто і за грошы не пайшоў бы жыць, бо ўсе ў ёй неўзабаве паміралі ад той ці іншай трасцы, прызначыў падымны падатак, ды талаку.

Працавітая, маўклівая Марухна і прастадушная Дарута спадабаліся вяскоўцам. Ад аседлага жыцця дзяўчынка хутка падрасла, выцягнулася. Неўзабаве ўсе пачалі заўважаць яе не зусім звычайную сілу. Гэтая сіла была не столькі патрэбная ў гаспадарцы, колькі служыла падставай для вясковых баек. Войцех неяк пераказаў ёй, як выскаляюцца мужыкі пра яе.

– Аднойчы Дарута палезла да мужыкоў на млын... – Войцех пільна сачыў за тварам Даруты. – Было такое, Дарута?

– А хто не лазіў на той млын? – шчыра здзівілася Дарута.

– Тады слухай далей... Мужыкі мяшкі з мукой цягалі. Яны па два – на адзін мех, а Дарута адна – мех на спіну і нясе. Пабіліся мужыкі аб заклад і ўклалі ёй цішком у мех двухпудовую гіру. Дарута – як і не заўважыла. Млынар тую гіру шукаць, важыць трэба, а гіры няма! Тут усё і выкрылася.

Войцех убачыў, што Дарута ўсміхаецца.

– Ты ведаеш, дзе я пачуў гэтую байку? У Свіслачах на кірмашы!
– Ну і што? – не зразумела Дарута.
– Няўжо табе не крыўдна?
– А што тут крыўднага?
– Не, ты скажы, было гэта ці не было?
– Ну, было.
– Мех з двухпудовай гірай?
– Ды выцягнуў яе Ходзька з меху таго! Пасля зноў засунуў у мех, калі мы аднеслі, вось і пайшла гуляць байка.
– Дык ты з Ходзькам цягала мяхі?
– А то ж!
– А чаму кажуць, што ты адна?
– Дык яны ж знарок!
– Чаму?
– А што ты ўсё ў мяне пытаешся? Запытайся ў Ходзькі.
Хіба магла яна сказаць Войцеху, што мужыкі рабілі выгляд, што забыліся на Ходзьку, бо хацелі раззлаваць маладзёна. Ды і не палез бы Ходзька на той млын, каб не Дарута. І што ён даўся ім! Вольнаму – воля! Падумаеш, ад зямлі – і раптам захацеў конюхам да пана! Дык на гэта яго два гады падбівала Дарута, выхваляючыся цыганскімі скакунамі, на якіх насілася некалі разам з чарнавокай Земай.
– І ты зусім не крыўдуеш?
– Не-а! – шчасліва ўсміхнулася дзяўчына.
– Ну, глядзі!
– А што мне глядзець? Хіба сіла – загана?
– Будуць жаніхі баяцца цябе. Хто ж з табой ажэніцца?
– А ты?
– Ты гэта сур'ёзна?
– Войцех, няўжо і ты баішся мяне?
– Жданка ў мяне, ты ж ведаеш!..
На хвіліну склалася няёмкае маўчанне.
– Ты пакрыўдзілася? – зажурыўся Войцех.
– Яшчэ што прыдумаеш...
Дарута проста збегла ад яго тады. Войцех так і не зразумеў – ці то на ім дзяўчына вучылася жартаваць з маладзёнамі, бо апроч яго не засталося тут, напэўна, ніводнага, з кім бы яшчэ падлеткамі яна не пабілася, хутчэй мовіць, не адшкумятала добра, ці то... Войцех не хацеў нават дадумваць сваю думку. У яго ёсць адна любая і другой не будзе ніколі. Ён гэта ведаў дакладна...

...Войцех уважліва паглядзеў на Даруту. Адвага і боль, рашучасць і спакойная ўпэўненасць, моц і даверлівасць – усё гэта, змяняючы адно другое, адбівалася на твары дзяўчыны. Войцех здагадаўся, што яна перажыла ў апошні час нешта вельмі значнае.
– Вось як? – весела прамовіў Войцех. – Тады мы – браты! А цяпер? Адпачні крыху з дарогі.
На насціле каля сцяны мужчыны заварушыліся, вызваляючы месца Даруце.

## 3

Дарута прачнулася ад ютрані, якую, стоячы на каленях перад абразом

Божай Маці, служыў той лагодны чалавек, які ноччу пачаў яе допыт. Ён адразу нагадаў Даруце святара, але яна не мела часу абдумаць гэта. Астатнія мужчыны шапталі за ім словы малітвы.

“Няўжо тут, у звярыным логаве, прытулку лясных уцекачоў, можа гучаць Божае Слова?” – не паверыла Дарута. Яна цішком пакінула насціл. І, хаця Зенка азірнуўся, ніхто не затрымаў яе.

Дарута прабіралася ляснымі сцежкамі да абрубелю, дзе ў магілцы, пад ледзь прыкметным, абкладзеным дзірваном грудком, яна пахавала Маруxну. Там жа, пад саменькі дзірван Дарута паклала акрываўленую сякеру і берасцянку з каштоўнай хустай. Ёй патрэбна было ўзважыць усё, што адбылося апошнім часам, перабраць у памяці тое, што яна калі-небудзь чула ад маці і чужых людзей.

“Не маці я... табе... хуста... князь...” – прыгадала дзяўчына апошнія словы Марухны, спрабуючы зразумець, якую таямніцу высільвалася тая выкрыць ёй у апошнія імгненні свайго жыцця.

Дарута не памятала, каб Марухна калі сварылася на яе, або распытвала пра ейныя вандроўкі. Здаецца, проста радавалася ёй, засцерагала ды служыла, як умела. Даруце заўсёды здавалася, што Марухна нібыта пабойваецца сварыцца на яе. Яна іншым разам знарок рабіла так, каб праверыць мяжу матчынай цярплівасці.

“Не маці...” Але ж Дарута не ведала другой маці. І хаця людзі казалі, што ўжо вельмі яны непадобныя, яе гэта ніколькі не засмучала. Надаючы мала ўвагі адносінам з маці, Дарута звычайна менавала яе звычайна патаварыскі – Марухнай. Толькі яшчэ дзіцём, прачынаючыся на раніцы, Дарута клікала яе са сну мамай і Марухна ляцела да яе з усіх ног, лашчыла, мілавала. Але спадаў сон і яна зноў рабілася Марухнай...

...Адкуль яны прыйшлі з Марухнай у гэты край, Дарута не ведала. Маці казала, што праз нейкую сваю хваробу не памятае таго. У маці былі застуджаныя ногі, яны часта непакоілі яе, асабліва з халадамі. Напэўна таму Марухна з Дарутай звычайна зімавалі на якім падворку, а не ў дарозе. Спыняліся, як правіла, на заможным двары, куды Марухна часта паступала хатняй настаўніцай граматы і рукадзелля для дзяцей гаспадароў. Зразумела, што Дарута вучылася разам з імі. Марухна была добрай швачкай і, калі патрэбы ў настаўніках не было, зазвычай цэлую зіму абшывала сям’ю гаспадароў. Бялізна і апратка, выраблены ёю, не толькі мелі прыстойны, ахайны выгляд, але былі да таго ж аздобленыя карункамі, узорамі, вышыўкай, што яна таксама рабіла па-майстэрску. Дарута спачатку цікавілася ўмельствамі маці і нават пры неабходнасці магла сабе тое-сёе сшыць-вышыць, але доўга сядзець на месцы ў яе не атрымлівалася. Значна болей дзяўчынку вабілі заснежаны лес, заінелыя сады, белыя курганы, абрывістыя пагоркі, заледзянелыя ручаі і рэчкі, нізкія, бухматыя, як бы ўважлівыя, задуменныя зімовыя нябёсы. Велічнае царства прыроды нагадвала ёй казачныя краіны, пра якія іншым разам маляўніча распавядала Марухна.

Яшчэ да першай сваёй сапраўднай школы ў Кіеве Дарута добра лічыла, умела чытаць літары. Вандроўнае жыццё спрыяла разуменню розных гаворак ад габрэйскай да цыганскіх, ужо не кажучы пра польскую. З пісьмом было не так проста. Дарута ніяк не магла замірыцца з драпаннем маленькіх літар на вошчанай дашчэчцы. Яе натура патрабавала размаху. Да таго ж ёй належалі цэлыя прасторы некранутага снегу. Літары на цаліку атрымліваліся жывымі, зіхоткімі, уражлівымі, асабліва, калі вытоптваць іх нагамі. З прыходам цяпла разам са снегам чэзнуў і спакой маці. Колькі б ні прасілі яе гаспадары застацца

хаця б яшчэ на які год-другі, затрымаць Марухну было немагчыма, як птушку, што ўвесну ляціць з выраю на радзіму.

Пасля той апошняй размовы з Зарай Марухна пачала клапаціцца, каб Дарута атрымала добрую адукацыю. Дзеля гэтага яны два гады запар пражылі ў Кіеве пры дзявочым Флораўскім манастыры на Падоле. Марухна баялася, што праз свавольства Даруты, дзяўчынцы адмовяць у навучанні. Так бы і сталася, калі аднойчы пад раніцу Дарута без дазволу сышла з манастыра на цэлы дзень. Яна вярнулася з вузельчыкам зёлак, назбіраных для хворай на вушы матухны ігуменні. Даруце вымавілі і папярэдзілі, што ў наступны раз не даруюць падобныя паводзіны. Дзяўчынка нават маці не сказала, што правяла гэты сонечны дзень на Дняпры, праўда, пасля таго ўжо, як пазнаходзіла на лугавінах патрэбныя зёлкі. Неўзабаве настаяцелька падлячыла тымі зёлкамі свае вушы і Дарута зрабілася запатрабаванай асобай у манастыры. Яе тамтэйшае жыццё магло стаць амаль вольным, але Даруце раптоўна спадабалася вучыцца, хаця да вучонай жанчыны навакольныя ставіліся насцярожана. Можна было пачуць, што тая, якая чытае, спявае і грае, – наўрад ці будзе дабрачыннай. Дарута не дужа зважала на гэта, а прагнула перамогі над ганарлівымі гарадскімі таварышкамі па вучобе, якія не планавалі зрабіцца манашкамі і не вельмі абцяжарвалі сябе ні тэалогіяй, ні навукамі. Адзіным, ад чаго катэгарычна адмовілася Дарута, было рукадзелле. Зноў жа, дзякуючы здольнасці да лекавання зёлкамі, якія прыносіла Дарута, ёй прабачылі гэтакую вольнасць, але за манастырскую браму выпускалі толькі разам з маладой манашкай, якая вучылася ў Даруты зёлкам. За вучобай дні праляталі імгненна. Чытанне духоўнай літаратуры, пісьмо, логіка, гісторыя, музыка, асновы філасофіі… Гэта былі не сістэматызаваныя веды, проста манашкі дзяліліся тым, чым валодалі самі. Дзякуючы Марухне, якая дапамагала адной з манашак у шыцці адзення для насельніц манастыра, а таксама царкоўных харугваў і богаслужэбных рызаў для кіеўскіх святароў, дзяўчынка атрымала ад гэтай манашкі пачатковыя звесткі па геаметрыі і нават астраноміі, хаця пра астраномію моўлена было не казаць нікому. Па хуткім часе настаўніцы пачалі вылучаць Даруту не толькі за стараннасць, але і за веды. Хаця жылося ім з Марухнай сярод добрых манашак няблага, на трэцім годзе манастырскай жыткі Марухна пачала збірацца ў дарогу. Калі знаходзілася якая школа на месцы іхняй зімоўкі, Дарута абавязкова хадзіла на ўрокі. Часцей ад усяго гэта былі школы пры каталіцкіх касцёлах. І ў любым выпадку Марухна яшчэ сама працягвала навучаць Даруту. Яна проста распавядала што-небудзь з таго, што вывучала раней сама, што чула ад брата, людзей, з якімі зводзіла яе жыццё. Такім чынам Даруце выпала даведацца шмат цікавага з гісторыі зямлі, па якой яны хадзілі, і чаго яна не пачула б у школе. Ёй падабалася ўяўляць сябе то гордай князёўнай Рагнедай, якая не пажадала ісці за сына рабыні, то ейным праўнукам князем-ваўкалакам Усяславам Чарадзеем... Дзяўчынка слухала тыя расповеды маці, нібы казкі на ноч...

...Вось і грудок. Дарута апусцілася на калені.

– Марухна, як надзейна было мне з табой і як пуста цяпер! Даруй мне, што падсмейвалася над тваім клопатам, перасцярогамі, тваёй уважлівай дабрынёй! Даруй, што зрэдзь называла маці, хаця не ведала іншай. Даруй, што не заслужыла ў тваіх вачах даверу на таямніцу, якую табе давялося забраць з сабой і праз якую не маеш там спакою. І што мне рабіць з тым аскалабкам, які ты пакінула ў маім сэрцы? А, можа, не дарма таілася ты да апошняга ўздыху? Хто мне падкажа зараз? Якое гора звяло нашы жыцці? Што шукаць мне ў князя? Чаму ты не жадала гаварыць пра

яго, колькі я цябе ні распытвала! Я не ведаю, адкуль прыйшла і куды мне ісці мне, Марухна? – дзяўчына ўпала тварам на траву і нешта яшчэ доўга шаптала, нібыта хацела, каб гэты гарачы шэпт працяў зямлю, што легла на адзіна блізкую ёй жанчыну разам з яе нечаканай, недамоўленай таямніцай жыцця Даруты.

Войцех, які цішком прасачыў шлях дзяўчыны ад логава, бачыў, як яна падняла перад сабой сякеру і паліраваная сталь, што паспытала чалавечай крыві і плоці, злавеснай чырванню бліснула ў ранішніх промнях сонца. Дарута гаварыла з металам. Так размаўляюць з рабом. Так размаўляюць з Богам. Так размаўляюць з братам. Войцех скалануўся. Замова, праклён або клятва, што безаглядна горача і шчыра кладліся на халодную сталь, рабілі яе жывой, разумнай і непераможнай у руках гаспадара. Войцех дачакаўся, калі Дарута загарнула сякеру ў нейкую адзежыну, з асцярожлівай павагай паклала яе на грудок і зноў накрыла дзірваном. Рашучым крокам, знарок наступаючы на сухія галінкі, каб дзяўчына пачула яго і не спалохалася, ён выйшаў на прагал па другі бок паляны. Войцех пабываў ужо ў Шэйпічах. Там ад вернага чалавека ён уведаў не толькі тое, што адбылося з Дарутай, але мог шмат чаго паведаміць і ёй.

– Добрага табе, Дарута! – павітаўся Войцех.

– І табе!

– Забяры, – Войцех перш чым аддаць нож дзяўчыне, палюбаваўся на яго. Ён ведаў гэты нож столькі ж, колькі і Даруту, якая кожную вольную хвіліну бавілася з гэтай штуковінай, не выпускаючы з рук.

– Дзякуй!

– А чаму ўчора не паскардзілася, што Зенка адабраў?

– Сама б забрала сёння ў яго, калі б убачыла, – абыякава засведчыла Дарута. Яе думкі яшчэ не маглі адарвацца ад Марухны, падзей учарашняга дня.

– Давай дамовімся, што ў нашым атрадзе не кожны сам па сабе, а ёсць парадак, – прапанаваў Войцех.

– А што гэта за парадак, каб у мяне нож мой забіраць?

– Дарута, а калі б гэта не ты была, а вораг?

– Прабач, зусім забылася, што тут войска, лічы!

– Таму, як толькі ўзнікне пытанне – адразу да мяне. Пасля, як абвыкнешся, будзеш пачуваць сябе больш вольна, а зараз прызвычайся ўзгадняць са мной свае дзеянні і цалкам жыццё ў атрадзе. Згода?

– Няма куды мне пайсці, Войцех, апроч гэтай мядзведжай пячоры, дзе ты галоўны мядзведзь.

– Галоўнае, каб ты на гэта не забылася...

Нейкі час яны ішлі моўчкі.

– Я быў у Шэйпічах. – Войцех прамовіў гэта ціха, каб празмерна не ўзрушыць дзяўчыну, але тая ажно пабялела з твару.

– Чаго ж ты маўчыш! – усклікнула Дарута.

– Супакойся спачатку. Не ўсё, напэўна, атрымалася так, як ты думаеш.

– Не цягні з мяне жылы, Войцех! Хаця... Марухну ўсё адно не вернеш да жыцця...

– Так, Дарута. Але слухай... Ходзька працаваў з коньмі на грэблі, не чуў, як па цябе прыехалі. Ён прыімчаўся на пажар, калі дах ужо бокам ледзьве ліпеў на кроквах. Ходзька ўскочыў у хатку, баючыся, што ты з маткай там гібееце. Ён паспеў выцягнуць з полымя цівуна ды белага ад страты крыві слугу пана, Тамаша.

– Жывыя? – запыталася Дарута.
– Так, цівун дык зусім, як і не быў у полымі.
– Шчасце ягонае, што цэбар з пойлам на яго выкуліла!
– Вось яно што! А людзі казалі, што, мабыць, моцны вядзьмак, калі агонь яго не бярэ.
– А Тамаш?
-- Абгарэў месцамі, але не страшна. Адзіна, што язык свой страціў.
– Як гэта страціў?
– Ну. Няма языка, можа быць, як падаў, адкусіў сам сабе.
Як ні дзіўна, але Дарута абрадвалася. Не таму, што Тамаш застаўся без языка, а што жывы. І цівун кляты няхай жыве.
– Няхай Бог іх судзіць! Я толькі бараніла сябе! – Даруце зрабілася нават крыху лягчэй.
– Дарэчы, цівун сцвярджаў, што гэта вы з Марухнай адрэзалі язык Тамашу і спаліць іх хацелі, каб украсці коней з брычкай. А вось трэцяга абгарэлага чалавека не пазнаў ніхто. Ды і як пазнаць... – Войцех памаўчаў. – Мала што ад яго засталося. Відаць, ён быў важным панам, бо, кажуць, цівун – то маўчаў, то ўздыхаў, то кляў усіх, пагражаючы, што яны ўсе яшчэ атрымаюць за гэта.
– А дзе Ходзька? Ты бачыў яго?!
– Не, Дарута. Ходзьку цівун загадаў запрэгчы каня ў які панарад[5] і адвезці іх у маёнтак. Адтуль яго і на раніцу не дачакаліся.
Дарута выслухала ўсё гэта па дарозе да пячоры. Яна ў сваю чаргу расказала Войцеху тое, пра што ён не мог даведацца ад староннiх.
Войцеха не здзівілі вясковыя падзеі. Але тое, што дзяўчына выйшла жывой з такога лупу... было дзівам...

...Войцех быў абавязаны ёй жыццём, якім, папраўдзе, тады ўжо і не вельмі даражыў. Дарута ведала толькі, што тры гады таму назад Войцех, пасля таго, як цівун з дворняй па загадзе пана прымусілі мужыкоў заараць закінуты, яшчэ паганскіх часоў пагост з рэшткамі дамавінаў над пахаваннямі, падпаліў панскі маёнтак. Але няўдала. Палац уратавалі. Згарэла тролькі летняя прыбудова. У той страшны дзень, калі прапала Жданка, Войцех зноў падпаліў маёнтак. На гэты раз яго бачылі і пазналі. Калі б не пячора, пра якую апавяла яму Дарута, знайшлі б Войцеха ў лесе. У гэтую пячору і сабраў ён пакрысе сваё маленькае войска.
Айцец Стахор, пасля таго, як зачынілі ягоную царкву і разагналі вернікаў з абразамі, некалькі гадоў блукаў, шукаючы прытулку. Узімку знясілены і агаладалы, з падмерзлымі нагамі святы айцец, як ні дзіўна, сам знайшоў пячору. Войцех заспеў яго якраз у той момант, калі святар схіліўся над казаном, услых вырашаючы вельмі важнае для сябе і веры пытанне.
– Сыну Божы, ты паслаў мне збавенне і хлеб надзённы – або гэта спакуса д’ябла, каб парушыў я запавет твой “не ўкрадзі” і трапіў у пекла? Ты, Чалавекалюбца, прыгатаваў мне, грэшнаму, салодкі спачын каля цяпла агменю – або гэтае полымя ёсць водбліск таго, што чакае мяне, акаяннага? Падай мне знак, Збавіцель, што гэта Твая Рука прывяла мяне ў гэтае самотнае месца, а не хітрыкі нячысціка. Не дазволь аддаць душу маю, што Табе належыць, да Твайго Святла імкнецца з лапаў цемры паганай. Дай лепш моцы загінуць вартым, угодным Табе!
Войцех асцярожна выйшаў з-за ласінай скуры, якая завешвала тады ўваход у пячору.
– Частуйся, святы айцец! Падзялі са мной, што Бог нам паслаў на дваіх, бо нездарма сягоння ў сіло маё трапілі дзве курапакі. Нездарма на стале

маім ляжыць бохан свежага хлеба, а ў дзежцы – мядовая брага. Грэх аднаму спажываць такое багацце. Дык не дай мне ўпасці ў такі грэх, сядай са мной да стала, святы айцец!

Айцец Стахор, не паварочваючыся да Войцеха, узнёс малітву ўдзячнасці, якую закончыў такімі словамі:

– Слава Табе, Госпадзі! Дзякуй табе, шчодрая рука твая! – апошняе несумненна тычылася Войцеха.

Стахор так і застаўся з Войцехам, мяркуючы, што, калі Гасподзь прывёў яго туды, дзе ён мае паству і ёсць патрэба ў ім, то грэх пакідаць іх без Слова Божага. Праўда, гэта было ўжо ўвесну, калі да іх далучыліся тры беглыя катаржнікі.

Агей, Сяргушка і Захар'я былі браты – і гэта ўсё, што Войцех ведаў пра іх. Яны спавядаліся айцу Стахору і той наклаў на іх дзіўную епітым'ю: год маўчаць, не спажываць мяса і маліцца – што яны бездакорна выконвалі. Парушаць маўчанне дазвалялася толькі на споведзі. Тады святар і браты знікалі ў лесе. Агей, Сяргушка і Захар'я абзавяліся казой, з якой разам зыходзілі на ранку з пячорнага лагера, даследуючы наваколле.

Усціжане Пратас і Хадор за тыдзень да Зялёных святак далі ў лесе лыка, калі іх заспелі за крадзяжом ляснічы са сваім братам. Дзецюкі распавядалі гэта жартам. Маўляў, усціжане заўсёды ездзілі ў гэты лес драць лыка. Бывала, што і разам запрагаюць усё цягла, якое ёсць – і едуць. А Піліп, ляснічы, сказаў пану, што лыка дзяруць. Ну, пан і загадаў пільнаваць ноччу. Страшна Піліпу аднаму поначы за такую справу брацца, дык і пачаў прасіць свайго брата Гаўрылу, каб з ім пайшоў. А каго яшчэ прасіць? У Гаўрылы ёсцека і самапалка пішчальная, сапраўдная, ад Міхайлы маскоўскага засталася, як уцякаў з нашых земляў. Але ж Гаўрыла ўпарты, наадрэз адмаўляецца.

– Не, заб'юць нас яны! Яны, усціжане, такія! Ды яшчэ і самапал забяруць!

Піліп упрошвае.

Гаўрыла сядзіць на лаве, то абуе пасталы, то здыме. Але пайшоў пішчалю сваю начыняць.

Як сцямнелася, выправіліся. Піліп наперадзе. Гаўрыла следам за ім з пішчалькай напагатоў. І тут Піліп убачыў злодзеяў, ды як закрычыць страшным голасам! Гаўрыла следам як пальне, ды не ўтрымаўся на нагах і плюхнуўся долу.

Піліп азірнуўся, а Гаўрыла ўжо ляжыць. Ну ён і вырашыў, што гэта ўсціжане яго забілі. Ад жаху так прыпусціў у вёску бегма, сабака б не здагнаў. Маркоціўся Піліп да ранку дома, не ведаў, што рабіць яму, што бацькам, што жонцы брата казаць. Ды што зробіш…

Прыйшоў да Гаўрыліхі, плача:

– Забілі ўсціжане твайго Гаўрылу.

А Гаўрыла на печы ляжыць, з пастала палец тырчыць, падрыгвае ад смеху...

Гаўрыла тады не толькі жывым вярнуўся, але і цягло[6] іхняе разам з лубам забраў. Сорамна было Пратасу з Хадорам перад бацькам, што гаспадарку разбурылі. Так і засталіся ў лесе. А чалавек у лесе, як і звер – чужынца на сваім абшары адразу ўчуе. Неўзабаве і прывёў іх да сябе Войцех. Вясёлыя, кемлівыя браты падабаліся яму. Гэта яны здабылі паштовых коней і скураны мех дынарыяў. Войцех прапанаваў ім пакінуць дынарыі сабе, але Пратас і Хадор пароўну падзялілі сваю здабычу на ўсіх. Толькі айцец Стахор адмовіўся ўзяць грошы – і цяпер ягоная частка ляжала ў Войцеха.

Ісай быў з купцоў, якія праз свае габрэйскае паходжанне і веру паводле замірэння Яна Казіміра і Багдана Хмяльніцкага былі пазбаўленыя права не толькі гандляваць, але і жыць у Кіеўскім і іншых ваяводствах чаркасаў. Мала таго, што неаднойчы рабавалі іх на дняпроўскай вадзе, дык і з зямлі сагналі. Ішоў разам з

такімі ж выгнаннікамі, як сам, на поўнач, спадзеючыся знайсці прытулак і працу ў літве, дзе бываў раней у свае маладыя гады. Але, здавалася, гвалтам, пагромамі, забойствамі поўніла ўся зямля. Ён стараўся абмінаць любыя селішчы, але часам ад голаду губляў розум і тады ішоў да людзей. Бывала, нехта карміў. Бывала, краў. Бывала, білі. Яго, кудлатага, у лахманах ад адзежы, а дзе-нідзе і скуры, амаль што бяспамятнага, здзічэлага ад страху і доўгага бязлюдства напаткалі айцец Стахор разам з Сяргушкам і Захар'ям.

Яцку-цыгана Войцех адкупіў на тандзеце, калі таго ледзь не забіў гаспадар украдзенага цыганам каня.

Зенка не ведаў змалку ні сваіх бацькоў, ні месца, дзе нарадзіўся. Падлеткам прыйшоў у Свіслачы разам са сляпымі. Жыў пры свіслоцкім князі, але вечна галадаў там і збег ад яго. Быў на пабягушках у пана, але звыклы да волі і востры на язык хутка нажыў сабе ворагаў сярод пыхлівай панскай дворні і розных мясцовых падпанкаў. Зенка сцвярджаў, што бачыў, як Войцех краўся да панскага маёнтку, але не перашкодзіў яму. Гэтаму можна было даць веры. Калі пайшлі чуткі аб лясных разбойніках, Зенка, німала не шкадуючы свайго быцця пры панах, выправіўся шукаць атамана. Войцех тады вяртаўся ў лагер з хлебам, які выпякалі для яго ў Шэйпічах, калі з высокага дуба на ўскрайку абрубеля нехта весела прысвіснуў:

– Войцех!

– Злазь! – загадаў Войцех у гушчу кроны, адкуль паміж босымі пяткамі звешвалася кудлатая ў ільняных кудзерках галава з блішчастымі нецярплівымі вачыма.

– Не-а! – пачулася адтуль. – У атрад возьмеш?

– Злазь, пагаворым.

– Не-а, абяцай наперад! – У юначым голасе чуўся адчай.

– Хто ты? – запытаўся Войцех, не ведаючы, як сябе паводзіць з нахабнікам.

– Чалавек, – пакрыўджана азваўся Зенка.

– Ну, а калі чалавек – чаму сядзіш, нібы цецярук на суку? – вырашыў падсмяяцца з яго Войцех.

– Зенкам мянуй, як і ўсе! – юнак стаяў навыцяжку перад Войцехам. На выгляд яму было гадоў шаснаццаць. Шырокатвары, лапавухі, плячысты юнак з блакітным поглядам вачэй, што ажно торгаліся ад напружанасці моманту і жадання спадабацца, спадабаўся Войцеху.

– Адкуль ведаеш мяне? – падзівіўся Войцех.

– Бачыў з крэсівам у маёнтку.

– А што табе ў атрадзе?

– Між паноў не прыжыўся, на зямлі не журыўся, над нівай не гібеў – у самы раз паспеў!..

...Цяпер Дарута ведала ўсіх у атрадзе. Але ці знойдзецца ёй там месца?

Войцех, нібы чытаючы яе думкі, прапанаваў:

– Табе трэба мужчынскае імя, Дарута. Няхай будзеш Міткам, добра? Так лепей для ўсіх.

– Міткам, дык Міткам, – Даруце было ўсё адно.

Учарашні дзень, які разбурыў ранейшае быццё Даруты, здаваўся ёй цяпер далёкім-далёкім, нават несапраўдным праз сваю далеч. “Ну што ж, новае імя – законны чынш, які трэба плаціць лёсу за новае жыццё,” – вырашыла Дарута.

Нараўлівая Каменка была той мяжой, якую пераступаў малады, паўнаваты, але грацыёзны Мітка. Апушаныя цёмнымі густымі вейкамі, раскосыя зялёныя вочы дзяўчыны, якая хавалася за гэтым імем, былі такімі

цяжкімі і гарачымі, што, здавалася, западалі ў душу Войцеха, прапякаючы да дна. Войцех злавіў сябе на думцы, што гатовы служыць Даруце, столькі адчувалася ў ёй жыццёвай моцы, чысціні навароджанай страсці і полымя разняволенага духу. Ён не змог зразумець, адкуль узнікла гэтая думка і апусціў вочы долу. Босыя, па-дзіцячы пухлыя, зусім не сялянскія ногі Даруты з маленькай ступнёй і тонкай шчыкалаткай, лёгка ступалі па мяккай імшанай сцежцы. “Да халадоў патрэбна справіць ёй боты,” – падумаў Войцех.

Лагер сустрэў іх навіной.

## 4

За магутным сталом, стальніцу якога складалі абчасаныя доўгія бярвёны, замацаваныя на зрубе, сабралася маленькае лясное брацтва. Каржакаваты мужчына з выбеленымі скронямі і пасмачкамі сівізны ў барадзе быў у асяродку ўвагі. І не толькі таму, што госць. І не таму, што Пратас і Хадор даводзіліся яму сынамі. Ды і не з таго, што амаль два месяцы, як Даніла застаўся ўдаўцом. Навіна была болей значная і тычылася лёсу, як кожнага з іх, так і грамады ў цэлым. Гэтага чакалі, але навіна ўсё адно прагучала, як нечаканы стрэл гарматы.

Поначы ў Свіслачы ўвайшло маскоўскае войска.

За гэтую ноч горад перагрэсла не горш ад габрэйскіх пагромаў. Войт, каб дагадзіць пану і даняць князя, параіў размясціць царскую залогу на тэрыторыі замчышча. Маўляў, князь, які раней, мабыць, выспавядаў паганства, а цяпер дажывае свой век праваслаўным, не здолее адмовіць братам па веры. А потым, як кароль выганіць войска лапатнікаў, канец і гэтаму здзічэламу, абрыдламу тутэйшай шляхце князю. Кароль, хоць і стараецца паказаць, што аднолькава ставіцца да ўсіх сваіх падданых і нават выдаў указ у абарону іншаверцаў, але ўсё і не зусім так, а здраду кароне, дакладна, не даруе.

Зарана радаваўся войт. Князь замураваўся ў замчышчы, як у каменнай труне, быццам бы, сапраўды, памёр там.

– Ну і папацелі ў гэту ноч пан з падпанкамі, каб дагадзіць новай уладзе! – апавядаў Даніла. – Войска разбіла свой лагер на лугавіне, па гэты бок Свіслачы. Царская слабада[7] пазбавіла пана значнай часткі пашы. Пан локці кусае.

Дарута азірнулася на нейкі рух за спінай. У логава ціха, нібы крадком, праслізнуў Сяргушка. Яна паспела перахапіць хуткія позіркі, якімі, сядаючы да стала каля Агея і Захар’і, абмяняўся ён з айцом Стахорам. Дарута заўважыла, што гэта выклікала некаторае здзіўленне ў Войцеха, хаця ў адрозненне ад яе атаман не тое што галавой не круціў, але і брывом не павёў.

– Той, хто любіць, каб перад ім на задніх лапках стаялі, сам і поўзаць гатовы перад больш магутным за сябе. Гэта ўжо закон! – заўважыў Войцех.

– Няхай паны між сабой разбіраюцца, але чым гэта закончыцца для нашых сялянаў? – запытаўся Даніла. – Пан сябе не абрэжа. Прымусіць нас гнуць хрыбціну ўдвая. І што за доля такая! Кармілі нашых паноў, а цяпер яшчэ і маскоўскіх! – Даніла ўдарыў кулаком па стале. – Не бываць гэтаму!

– Ну, мы хрыбціну на іх не гнём і шапку перад імі не ламаем. Хутчэй, наадварот! – запярэчыў Зенка.

– Колькі вас тут? – горка ўсміхнуўся Даніла. – І воля ваша – да першай шыбеніцы. У лес усіх не перацягнеш.

Гэта было праўдай. Усе, нават Зенка, раптам прыціхлі. Кожны ведаў, што свет ім не перарабіць. Так было заўсёды – каралі і іх падданыя, паны і аратаі, генералы і салдаты. Той, хто жадаў жыць уласнай воляй, вымушаны быў ісці ў лес, як яны, збівацца ў атрады гэткіх жа самых няшчасных беглякоў. Казалі, маскоўцы больш за Урал бягуць. Там лясы, што нашыя пушчы некранутыя, і балоты бясконцыя. Аратай сябе не пракорміць, але хто ўмее звера біць – не прападзе, ды і рыба там, кажуць, што коні ў табунах. Праўда, і значна бліжэй, на востраве Дняпра, ёсць казацкая вольніца, але ж і ў іх атаман. Распавядалі купцы яшчэ пра вольныя землі на далёкім поўдні, каля самага мора, там цэлыя паселішчы ўтварыліся з людзей, якія пакінулі раздзіму ў пошуках лепшай долі. Як яны жывуць? Няўжо зусім без прыгону? А цар – дзе? І хто абараняе іх? І хаця дых займала ад уяўлення волі на зямлі, як ад дыхання супраць ветру, але жыццё на чужыне здавалася ім варожым у сваёй незразумеласці. Нават “маўчальнікам” не хацелася зрывацца з наседжанага месца. Ну, хіба што ўжо, калі зусім ніяк. Нарэшце кожны прыйшоў да згоды з самім сабой, дакладней да таго, што прамаўляецца, як “хай будзе, што будзе”, мужчынскія твары разняволіліся, цяжкая задуменная адсутнасць перайшла ў некаторую робленую зухаватасць, якая нагадвала выклік лёсу.

Напэўна, адну Даруту не зачапіла заўвага Данілы. Ёй увесь час карцела распытаць старога пра тое, што сталася з князем. “Не маці я... табе... хуста... князь...” – пульсавалі ў галаве словы Марухны.

– Трэба да князя пагоню слаць! – рашыўся Войцех. – На гэтай зямлі спрадвеку разам жылі і бараніліся разам ягоныя і нашыя продкі. Няхай думае, што рабіць? Можа быць, збярэ сваю старую дружыну, тады і ў нас ёсць шанец далучыцца да яе. Будзем прасіць князя.

Усе раптам зразумелі, што гэта можа не толькі ўратаваць іх зараз ад маскоўцаў, але і даць магчымасць наладзіць пад рукой князя нармальнае жыццё ў будучыні, калі, вядома, пашчасціць застацца жывымі.

Зенка, ведаючы ўсе хады-выхады ў замчышчы, адразу ж вызваўся на ганца.

– Войцех! Даручы мне! – усхвалявана выгукнуў ён.

Даруту ажно захлынула жаданне трапіць у княжы замак.

– І мне! – ускочыла яна з-за стала.

Войцех убачыў, якой рашучасцю ўспыхнулі вочы Даруты. Ён ведаў упартасць дзяўчыны. І вырашыў не адказваць на яе выкрык. “Няўжо давядзецца звязаць яе, каб не выпускаць з лагера? – усміхнуўся ён сваім думкам. – Калі ўдасца!”

І тут нечаканую прапанову ўнёс айцец Стахор.

– Я пайду, – спакойна абвясціў ён, як нешта вырашанае.

– Стахор, ты ж нікога і нічога не ведаеш тут, – здзівіўся Войцех.

– Я быў у князя, сын мой.

– Ты? – усклікнулі тут ужо ўсе разам, апроч “маўчальнікаў”.

– Я гаварыў з князем у ягоным замку, – цвёрда паўтарыў айцец Стахор.

Мяркуючы па адведзеных некуда на сцены логава позірках, можна было засведчыць, што Агей, Сяргушка і Захар’я пра гэта ведаюць даўно.

– Пра што? – з’едліва пацікавіўся Зенка, самалюбства якога пакутавала. Ён сам сабе пыжыўся, што быў тут адзіным, хто меў калісьці такі гонар.

– Я не даверыў бы табе і тваю таямніцу... сын мой, – лагодна прамовіў

да Зенкі айцец Стахор, – а слова споведзі – слова да Бога. Я ж толькі самы нікчэмны яго слуга. Князь ужо, магчыма, пакінуў нас, – сумна дадаў ён.

– Як гэта пакінуў? – не стрывала Дарута.

– Так, – айцец Стахор узняў рукі ўгору.

– І ты маўчаў?! – Дарута памкнулася да святара.

Войцех з цікавасцю сачыў за дзяўчынай. Ён не мог зразумець, што за справа была ў яе да князя, але нецярплівасць і трывога Даруты былі відавочнымі.

– Сын мой, на ўсё воля... – Айцец Стахор нечакана задумаўся, як бы прыслухоўваючыся да самога сябе. І ўсё-ткі Дарута ўбачыла, як Сяргушка злёгку пакланіўся яму. – Так, сын мой... Магчыма і не... – філасофскі вызначыў айцец Стахор, – бо хто б тады адпяваў князя? – Здавалася, ён, і сапраўды, задумаўся над сваім пытаннем.

– Пойдуць Зенка і святар! – загадаў Войцех. – Праводзяць і чакаюць іх... – Войцех абвёў поглядам сваё маленькае войска. Агей, Сяргушка і Захар'я выцягнуліся перад ім у струнку. – Праводзяць Агей, Сяргушка і Захар'я!

Браты-катаржнікі моўчкі рушылі да коней.

Войцех убачыў Даруту і зразумеў, што яшчэ крыху і яму давядзецца абараняць свой атаманскі аўтарытэт. Дзяўчына, здавалася, страціла галаву праз магчымасць трапіць да князя. Яна ажно торгалася ад нецярпення. У той момант, калі Дарута ўжо ўставала з-за стала, каб заявіць уголас пра сваё жаданне, Войцех рашыўся.

– Мітка, ты казаў, што валодаеш таямніцамі зёлак? – запытаўся ён, каб перашкодзіць дзяўчыне выказацца.

– Так, – здагадалася Дарута.

– Тады давядзецца і табе выправіцца ў паход, – з непадробным шкадаваннем сказаў Войцех. – Магчыма, князю болей да спадобы твае зёлкі, чымся прычасце, – упэўнена дадаў ён.

Ужо добра сцямнела, калі ганцы пакінулі лагер. Пажадана было давідна прабрацца ў замак.

Даруце дастаўся той самы скакун, які нёс Марухну да яе апошняга прытулку. Гэта быў чорны, як смоль, жарабец з белым трохкутнікам, востры вугал якога выцягваўся паміж маленькіх чуйных вушэй.

Святар, пасаджаны ўсёй грамадой ззаду Зенкі, ехаў, аберуч трымаючыся за світку юнака. Айцец Стахор не прыціснуўся да яго і таму складалася ўражанне, што святар кіруе Зенкам, а той у сваю чаргу кабылай.

Каб абмінуць царскую слабаду і пазбегнуць цікаўных вачэй свіслоцкіх гараджанаў, ганцы меліся двойчы ўтаймаваць Бярэзіну. Першая пераправа адбылася непадалёк ад іх лагера, там, дзе перад паваротам Бярэзіна, не змяшчаючыся ў новае вузкае лагво, утварала вялікія пясчаныя мелі. Тут можна было і не злазіць з коней. Другая – мелася адбыцца вышэй ад сутоку Бярэзіны і Свіслачы каля старажытнага габрэйскага пагосту. Зенка сцвярджаў, што бачыў там камень, датаваны адна тысяча трохсотым годам. Наўрад ці хто-небудзь можа перашкодзіць ім у месцы, якое і ўдзень людзі без патрэбы не наведваюць. Другая пераправа ў значнай меры залежала ад моцы коней, інакш магутная, вірлівая плынь пагражала падхапіць іх і вынесці да слабады, проста ў рукі маскоўцаў.

Войцех прадбачыў такі выпадак, таму Агей, Сяргушка і Захар'я везлі скруткі пяньковай вяроўкі, прытарочаныя да сёдлаў.

Княскі замак, абліты няпэўным святлом месяца, высіўся на кургане па другі бок ракі, захутанай у нізкі, рэдзенькі туман. Лёгкія подыхі ветру,

якому нібыта ўжо не спалася пад раніцу, пагражалі развеяць і гэты ненадзейны шчыт начных ганцоў.

Адзін канец вяроўкі Агей прывязаў да бярозы, якая падступілася ў гэтым месцы да самай вады. З другім канцом, навязаным на руку, пераправўлялася Дарута.

Чорны жарабец лёгка зайшоў у ваду і, моцна перабіраючы тонкімі нагамі, упэўнена трымаўся ўпоперак плыні. Па хуткім часе мокрая Дарута, якую калаціла ад холаду, надзейна замацавала свой канец вяроўкі да каменя, што зваліўся ў ваду з падмытага на павароце ракі берага, і тройчы торгнула за нацягнутую вяроўку. Гэта быў сігнал да пераправы Зенкі і айца Стахора. Агей, Сяргушка і Захар'я заставаліся па другі бок, вартуючы пераправу.

Ужо можна было разгледзець Зенку. Ён плыў сціскаючы ў руцэ аброць, нібыта цягнучы за сабой каня разам з айцом Стахорам. Дарута не паспела ўсміхнуцца гэтаму, як убачыла, што яе чорны жарабец узбуджана раздзімае свае ноздры. Дзяўчына разгубілася, бо толькі цяпер згадала, што конь са Свіслачаў і, напэўна, пачуў родныя пахі. Яна не паспела спахапіцца, як жарабец наравіста выгнуў шыю і з распушчанай аброццю ўпэўнена паімчаў да горада, кіруючыся, напэўна, да сваёй стайні.

– Белазор! – нечакана выгукнула Дарута ўслед каню, даючы яму імя. Конь запаволіў бег і ў нерашучасці спыніўся, заторгаў вушамі. – Ідзі сюды, ідзі да мяне, Белазор! – ціха паклікала яна.

Конь, здаецца, выбіраў – і не спяшаўся з выбарам. Дарута прысела на кукішкі, развяла ў бакі раскрытыя далоні і адчула, што вочы яе робяцца бязданню, з якой падымаецца, разгінаючы агністыя кольцы спіралі, белая светлавая змяя. І гэтая змяя шаптала:

– Памажы мне, Белазор! Заклінаю крывёй Марухны, якая сцякала па тваіх баках! Заклінаю тваім конскім богам! Мне служы, Белазор! – Дарута паволі ўставала, не спускаючы вачэй з каня.

Айцу Стахору і Зенку, якія на гэты час з трывогай сачылі за незвычайным паядынкам, здалося на момант, што конь знік у дзівосным светлавым кольчатым кумчаку, што працягнуўся ад Міткі. Святар жагнуўся, бязгучна прамаўляючы словы нейкай малітвы. Але ўсё ўжо скончылася. Жарабец перабіраючы нагамі, нібыта песцячыся, бокам падышоў да Міткі і нават ласкава пацёрся пысай аб ягонае плячо. Зенка баяўся сустрэцца вачамі з тым, каго зусім нядаўна з цяжкасцю прыцягнуў на сваіх плячах у лагер.

– Сын мой, – прашаптаў айцец Стахор, падступаючыся да Даруты. – Хто даў табе такую ўладу? Пакайся, сын мой!

– Зямля, неба, вада, паветра, агонь, – пачала Дарута, але ўбачыла, як цяжэе погляд айца Стахора і перадумала. – Вера, айцец! – Яна прывязала аброць да канца вяроўкі, падвяла каня да вады і ласкава падштурхнула. – Ідзі на той бок, Белазор! Чакай мяне там!

Айцец Стахор перахрысціў спіну Міткі сваім крыжам, якім не аднойчы выганяў нячысцікаў са сваёй былой паствы і калі той нават не азірнуўся на гэта, святар уздыхнуў і супакоіўся – ён верыў у свой крыж. А не верыць у зямлю, неба, паветра і агонь ён таксама не мог, бо, што ў іх верыць – вунь яны! Але ж усё – з ласкі Божай!..

Пакуль айцец Стахор разважаў сам з сабой, Агей і яго браты пераймалі Белазора на другім баку Бярэзіны.

Дарута нецярпліва торгнулася:

– Пайшлі!

Берагам ракі, парослым бярозамі і вербалозам яны хутка дайшлі да

замкавага кургана, абкружанага з гэтага боку радамі завостраных дубовых бярвёнаў, якія надзейна мацавалі курган, не даючы рацэ пад час вясновага разводдзя падмываць яго.

– Давай, Зенка! Вядзі! – прашаптала Дарута.

Заўсёды блазлівы юнак злёгку ўздрыгнуў і моўчкі рушыў да вострых бярвёнаў, што заступалі дарогу. Аднолькавыя на выгляд, яны былі добрыя знаёмыя Зенку. Ён упэўнена штурхнуў адно з іх. Бервяно нібыта зварухнулася, але не падалося.

– Іржа! – ахнуў Зенка, у абавязкі якога калісьці ўваходзіла дапамога старому наглядчыку патаемнай механікі княжага замчышча.

– Дай! – Дарута плячом навалілася на бервяно.

– Ніжэй бяры, – падказаў Зенка, становячыся побач.

І праўда, бервяно з’ехала ўбок, адкрываючы невялічкі праход над рудымі ад іржы палазамі. Зенка юркнуў у гэты праход і нечакана праваліўся пад зямлю разам з пляцоўкай зубчастых бярвёнаў.

– Ідзіце сюды! – з лазу высунуліся рогі драўляных крокваў.

Дарута і айцец Стахор па чарзе спусціліся па кроквах у цёмную каменную клетку.

– Адступіцеся да сцяны! – загадаў Зенка. Гэта было ягонае імгненне.

Тут жа пляцоўка з бярвення ўзляцела ўгору, шчыльна перакрываючы адзіную крыніцу святла. Даруце зрабілася страшнавата ў каменным палоне, асабліва калі з-пад рукі яе, якой яна абаперлася на сцяну, папоўз камень.

Зенка вёў іх некуды ўверх па прыступках, якія Дарута і святар намацвалі нагамі. Неўзабаве яны апынуліся на роўнай каменнай пляцоўцы. Зноў Зенка паштукаваў з камянямі і перад ім адкрыўся доўгі, вузкі праход, асветлены знадворку за кошт маленькіх байніц, раскіданых па левы бок.

У калідоры гуляў знаёмы рачны вецер, які прыносіў з берагоў Бярэзіны і Свіслачы пах рыбы, хвоі, туману. Можа таму на нейкі момант Даруце здалося, што яна ўжо была тут. Яна міжволі затрымалася на апошняй прыступцы. “Глупства! – адмахнулася Дарута ад свайго адчування. – Ніколі не ступала на каменны дол гэтых муроў! Нават у сне! Хаця... Не, якраз адзін такі сон быў! – раптам згадала яна. – Так. Але тады святло падала па правы бок і байніцы мільгалі вельмі хутка, нават хутчэй, чым цяпер!”

...Маленькія пухлыя рукі дзяўчынкі моцна трымаліся за шыю мужчыны з тонкімі чорнымі вусамі. Галава мужчыны і частка твару хаваліся пад высокім шаломам. А скрозь мяккую срэбраную кальчугу дзяўчынка чула моцныя, роўныя ўдары сэрца. Побач, каля сцяны асветленай байніцамі, подбегам ішла светлавалосая, станістая жанчына, на плячах якой срэбрам і золатам успыхвала ў сонечных промнях зеленавата-блакітная накідка, абсыпаная жамчужнымі рамонкамі. Гэтая накідка з закругленымі канцамі нагадвала рамонкавую паляну, дзе кветкі разам павярнулі свае галоўкі да ранішняга сонца. Празрыстыя ў бакавым святле байніц зялёныя вочы прыгажуні амаль не адрываліся ад мужчыны з дзяўчынкай. Рачны вецер, час ад часу забіраўся пад рамонкавую накідку і раздзімаў яе, што крылы за плячамі жанчыны. У нейкі момант яна ўскінула руку, каб прытрымаць сваю накідку і сонечны бляск каменьчыка ў пярсцёнку на сярэднім пальцы асляпіў дзяўчынку. Жанчына заўважыла гэта і наблізілася. Яе вочы выпраменьвалі такую пяшчоту, трывогу, любоў і покліч, што дзяўчынка не вытрымала, ірванулася да яе...

– Ма-а-ма! – нечакана ўголас закрычала Дарута. Ад свайго няўцямна-

га крыку яна спатыкнулася і, нязграбна куляючыся, паляцела ў цёмную каменную яміну са сцертымі ад часу краямі прыступак.

**5**

Ноч была навальнічная. У лагеры ніхто не клаўся. Чакалі ганцоў. Бавілі час за байкамі, успамінамі.

...У Данілы было чатыры сыны. Калі два ажаніліся, Даніла аддзяліў іх на ўласную гасподу. Жыў ён раней заможна. І сыноў змалку прывучаў да сялянскай працы. Бо як інакш? Калі мужчына нічога не ўмее рабіць – ні страху паправіць, ні малаціць, ні кош сплесці, ні каня дагледзець – якая ў яго можа быць гаспадарка? Зайздросцілі Данілу вяскоўцы. Ну, ад заможнага жыцця каму не весела на душы? І пачаў Даніла жарты рабіць. Днём з сынамі добра высплюцца, а светлая ноч – ідуць малаціць. Наступны дзень – носяць. Вяскоўцы дзівяцца:

– Калі ты паспеў, Даніла?

Даніла толькі рукамі развядзе:

– Дык хіба ж гэта я?

Рашылі ўсціжане падпільнаваць Данілу. А ён, як ішоў да току, угледзеў гэта і крычыць:

– Ну, глядзіце, чэрці, каб не так як учора – адзін пралёт змалацілі! Тады вам будзе латушка мёду! А ў гумно я сам перанясу!

І пайшоў дахаты. Павячэраў. Як месяц устаў, малаціў усю ноч. А раніцай крычыць на падворку:

– Баба! Нясі чарцям латушку мёду! Змалацілі ўжо!

Супакоіліся тады ўсціжане:

– Чаму б не жыць Данілу, калі ў яго чэрці ў памагатых!..

Войцех слухаў гэта ў паўвуха. Самым жаданым для яго было б пачуць тупат коней. Мужчыны бачылі, што Войцех трывожыцца і, каб падняць яму настрой, прыгадвалі адну смешную згадку за другой.

...Жыла на Усціжы дзеўка-векавуха. Даўно б ёй час дзяцей нарадзіць, ды і час той мінуўся, а ніхто вока не кладзе. Непрыгожая была – нос дужа доўгі. А праз гэтае – злая, як той сабака на ланцугу. Перасварылася з усімі бабамі. Так яе і клікалі ўжо – Гора Бабіна. Вырашылі неяк за медавухай мужчыны ўратаваць сваіх баб. Пусцілі па кругу шапку – ёй на пасаг. Знайшоўся на яго жаніх з Таценкі. Селі. П'юць. І раптам жаніх пытаецца:

– Зірнуць бы на нявехну!

Спалохаліся мужыкі. Параіліся, ну, і грошы – на абрус:

– Глядзі!

Так і запілі маладую...

– А ты ведаеш, як у Вязычыне бровар будавалі? – паспрабаваў уцягнуць Войцеха ў размову Даніла?

Войцех толькі галавой крутнуў. Паміж ударамі перуна яму здалося... Не, гэта, сапраўды, коні! Войцех нырнуў у лаз, праз які адразу апынуўся на вяршыні кургана.

У мокрым старым, што вёў натарочаных коней, Войцех пазнаў дзеда Мікулу – свайго вернага чалавека з Шэйпічаў. Ён адмахнуўся ад нядобрага прадчування.

Пакуль Ісай і Даніла з сынамі цягалі мяхі, дзед Мікула паведаміў, што ўдзень вёску абрабавалі маскавіты – разабралі бурт з хлебам. Гэта быў агульны запас зерня на ўсе выпадкі жыцця. З тым запасам яны не

страшыліся ні засухі, ні мокрадзі, ні агню. Так рабілі тут спрадвеку. Зерня хапіла б вяскоўцам не толькі есці, але і засяваць палі на некалькі гадоў. Да таго ж у гумне Мікулы стаяла паштовая карэта, захопленая людзьмі Войцеха, і ён, баючыся, што яе раптам знойдуць, падпаліў увечары ўласнае гумно разам з зімовым запасам зерня і крупаў. Мяхі, якія Мікула прывёз у лагер – уласна, усё, што маглі павезці коні.

– Калі ты не супраць, у наступную ноч нашы звязуць сюды сваё дабро, – мовіў Мікула.

– Абмяркуем, дзед Мікула, – адказаў Войцех, уяўляючы ўва што можа пераўтварыцца іхні схоў. – Ноччу буду ў вёсцы.

На дасвецці, калі навальніца даўно адышла на захад, вярнуліся ганцы. Сярод іх не ставала Даруты.

Хворы князь даваў зброю, але на чале паўстання стаць не мог.

А Мітка?..

Чаго тут толькі не верзлі Зенка і святар!

– Ваўкалака! – запэўніваў Зенка. – Немаведама чаго як закрычыць страшэзным голасам “А-ама-а-а-ма!” А пасля як бразнецца вобзем – і ў дзеўку пераўтварыўся. Айцец Стахор – паслухаць – ці сэрца б’ецца, а яно – дзеўка! Далібог, дзеўка!

– Ведзьма? – з сумненнем у голасе і страхам у вачах пытаўся ва ўсіх айцец Стахор, згадваючы яшчэ і нагоду з канем і светлавым змеем. – Дарэчы, конь той вырваўся ад іх, калі яны вярталіся ў лагер і наўскач – без конніка! – паімчаў назад у Свіслачы. Мабыць да яе! Прываражыла! – цяпер амаль упэўнена зазначыў святар і перахрысціўся.

Мітку – ці як цяпер клікаць ведзьму? – яны пакінулі ў замку на догляд дзвюх жанчын, адна з якіх падалася ім...

– Не ў сабе, – паспяшыў вызначыць святар, пакуль Зенка вылупліваў вочы і круціў пальцам каля скроні.

Войцех у душы пасмейваўся над іх расповедам і страхам. Ну, што ж, калі адкрылася, што Мітка дзяўчына, дык і лепей ёй цяпер пабыць воддаль, а там – будзе бачна! Яго чамусьці зацікавіла згадка пра другую.

– А што гэтая ... не ў сабе? Што яна робіць у князя. Я не чуў, каб там жыла такая.

– А... нічога! Уцеха Князева – кажуць пра яе дворныя. Яшчэ кажуць, што знайшлі яе ў лесе, прывязанай да асіны. Хацелі да войта весці. А пасля пабаяліся, бо як растлумачыць, што княскія людзі ў панскім лесе рабілі? Ды хто слухаць будзе? Кінуць у астрог і ўсё тут. Вось і прыцягнулі яе ў замчышча. А тут сам князь! Дзеўка без памяці была і раптам вочы расплюшчыла, нешта лапоча весела...

– Дык яна маладая?

– Ну, кажу ж, дзеўка!

– А што далей? – Войцех пашкадаваў, што перапыніў Зенку.

– Далей?.. Нічога, – Зенка страціў свой запал. Гэтая дзеўка не цікавіла яго. – Прыхамаць князя! Пакінуў у замку. Наняў жанчыну, каб даглядала яе. І гэта князь! Цень ад былога, а не князь! З тае пары, як знікла кудысьці, кажуць, яго жонка – ніводнай жанчыне не было месца ў яго пакоях А тут ласкавы нейкі да гэтай блажэннай... Цьфу! – не вытрымаў Зенка. – Яшчэ і дачкой да таго ж кліча! Князёўна на галаву нашу знайшлася!

– Сын мой, князь робіць добрую справу, што ўзяў на сябе клопат пра божага чалавека, – умяшаўся ў размову айцец Стахор.

– А я – хто па-твойму?

Войцех не вытрымаў, засмяяўся, бо гэты хлопец, відавочна, раўнаваў убогую да сваёй былой прыдворнай жыткі.

Зенка зразумеў, што гамонка пайшла не ў зручны яму бок і перавёў усё на жарт.

– З галавой парадак – раз! – Зенка загнуў адзін палец. – Нікому не слуга – два! Сам сабе князь – тры! І чхаў на ўсё з гары!

– Ну, пра "чхаў", дык дарма ты гэта, – перапыніў агульны смех Войцех. – Хоць мы і лясныя князі, ды без людзей лясным зверам зробімся.

– Лясныя князі, кажаш? Вось гэта па мне? – усклікнуў ганарліва Зенка. – Але што за князі без дворні? Дзе ж нашыя падданыя? – занепакоіўся ўсур'ёз хлопец.

– Паны! – азваўся Даніла.

– І падпанкі розныя! – падтрымалі яго сыны.

– І мытнікі, – няўпэўнена прашаптаў Ісай.

Дзед Мікула, пераводзячы позірк з аднаго прамоўцы на другога, недаверліва ківаў галавой. Бач ты іх! Ускладалі спадзяванні на Багдана з Галотай! Дзе яны зараз? Галоту зямля паглынула. Багдан маскве служыць... Вось ужо хто ваўкалака! Душыць цяпер сваіх, п'е кроў родную...

Увечары ў лагеры заставаліся толькі Стахор і Зенка. Атрад на чале з Войцехам прабіраўся глухіміляснымі сцежкамі ў Шэйпічы. Задача была не натыкнуцца на які чужынскі патруль і выйсці ў тыл вёскі да спаленага бурта.

Ваколіцы Шэйпічаў пахлі спаленым хлебам. Гэта быў пах голаду.

Капой, скліканай у Мікулавай хаце, вырашылі хаваць сваё дабро – лепшую адзежыну, посуд, хлеб – у зямлю, як рабілі даўней тут дзяды іхнія, на выпадак татарскіх набегаў. Ніхто яшчэ не мог узяць у толк, як новая ўлада паладзіць са старой, і чым гэта адгукнецца на іхнім жыцці. Мяркуючы па тым, як завіхаўся каля маскавітаў цівун, ды войт наклаў цяпер царскую стацыю[8] на агнішчан – чакаць добрага не выпадала. Яшчэ добра, што дзякуючы навальніцы, пажар, які знішчыў дабро Мікулы разам з клятай карэтай, прыпісалі навальніцы. Жалеззе ад карэты расцягнулі па сваіх падворках вяскоўцы.

Казалі тут і пра тое, што ў Свіслачах апроч станавога і прыстава ды іншых новых уладаў з'явіўся нейкі царскі камісар, якога народ тут жа ахрысціў чорным камісарам – не толькі за ягоную чорную апратку, але і за тое, што ён умешваўся ў кожную тамтэйшую справу. Слова чорнага камісара было апошнім. Усе свае слухаліся яго, а панства непакоілася і дужа баялася. Дайшла да Шэйпічаў і чутка, што напрыканцы месяца мясцовая шляхта ладзіць баль у гонар новых уладаў.

Яшчэ не світала, калі атрад падыходзіў да свайго лагера.

## ЧАСТКА II

## У ПАЛОНЕ СУТАРЭННЯЎ

### 1

Дарута прачнулася ад дзіўнага шчабятання. Здавалася, што гэтае шчабятанне ўтвараў чалавечы голас, але яна не змагла разабраць ніводнага слова. У галаве нешта стагнала, скавытала, падсвіствала, нібыта вецер гуў у падстрэшшы. Дарута хацела прыпадняцца, але нават не паспела, як нешта варам разлілося ў галаве, і дзяўчына абмякла. Праз нейкі час

яна зноў апрытомнела і паспрабавала хаця б расплюшчыць вочы. Гэта было балюча, але тое, што ўбачыла Дарута, прымусіла яе нават крыху прыўзняцца на ложку.

Каля акна скляпеністага пакоя стаяла напаўпаварота амаль празрыстая дзявочая постаць у строі колеру вясновай кіпені бэзу з язмінам, доўгія белыя валасы вольна кла́ліся на плечы, спадаючы з іх над згінастым станам.

Дарута заплюшчыла вочы. Яна ўспомніла сваё падзенне ў пашчу каменнай яміны з прыступкамі і зразумела, што апынулася ўжо на другім свеце. “Няўжо анёлы бываюць такімі? – здзівілася Дарута. Яна не дужа задумвалася, якімі бываюць анёлы, але ўсё ж такі ўяўляла іх крыху інакшымі. – Але тады і Марухна павінна быць тут!” – Апошняя думка так ускалыхнула дзяўчыну, што яна зноў прыўзнялася на ложку, каб агледзецца.

Марухны не было бачна. Дарута не зводзіла вачэй з анёльскай постаці, якая раптам напаўпаварота нахілілася, каб нешта падняць за падлогі. Белыя валасы яе ўпалі, закрываючы твар, а глыбокі выраз сукенкі неўспадзеў выкрыў слабыя маленькія грудзі.

“Не. Дзяўчына ўсё-ткі!” – з палёгкай вырашыла Дарута. Яна зусім не ведала, як трэба паводзіць сябе з анёламі.

Дзяўчына ў вясновым строі выпрасталася, трымаючы ў танюткай руцэ белую стужку і раптоўна зашчабятала нешта стужцы.

Дарута страсянула галавой, баючыся, што гэта ўсё-ткі жарты Мары, за якія жорстка расплочваюцца людзі. Востры боль апёк скронь. Дзяўчына, сціскаючы штомоцы зубы, трывала яго, каб толькі зноў не страціць прытомнасць. Цела пакрылася лёгкім потам, але боль адступіўся.

– Эй, – ціха паклікала Дарута дзяўчыну.

Незнаёмка, як бы нехаця павярнула свой твар, перапыніла шчабятанне.

У наступнае імгненне Дарута з усяе сілы памкнулася з ложка і тут жа звалілася на падлогу, прыбраную мяккім блакітным дыванам.

– Жданка, – прашаптала яна, высільваючыся стаць на ногі.

Што было далей – ява, сон, трызненне, Дарута не магла зразумець. Яна была маленькай дзяўчынкай, якая коўзалася па гэтым блакітным дывану і чыесьці клапатлівыя рукі, не даючы ёй выпаўзці за ягоныя межы на каменную падлогу, мякка і настойліва вярталі яе да сярэдзіны пакоя. Нехта браў яе, ужо дзяўчыну цяпер, на рукі і клаў на ложак.

– Жданка, – часам жаласліва клікала яна. – А чаму не прыйшла Марухна? Пабудзь са мной. Дзе ты?..

…Яна зноў поўзала па блакітным дыване, куляючыся на ім, спрабуючы абхітрыць клапатлівыя рукі. Ёй давалі нешта піць – то невыносна брыдкае, то незнаёма смачнае. Калі яна была маленькай дзяўчынкай, то біла ручкамі па шклянцы, адпіхваючы яе ад сябе на выпадак брыдкага пітва. Калі яна была той, якой апошняй памятала сябе, у яе не было ніякай моцы ні адхінуць ад сябе конаўку з незразумелым пітвом, ні нават проста падняць руку. Некалькі разоў яна зноў чула ўжо знаёмае шчабятанне, але цяпер ніяк не магла ўспомніць імя той дзяўчыны…

Колькі прайшло так часу, Дарута не ведала. Аднойчы яна прачнулася. Галава была нечакана лёгкай. Дарута адразу паспрабавала сесці на ложку. Перад вачамі паплыў, закруціўся знаёмы ёй пакой з вялікім празрыстым акном, пабітым на белыя плямкі святла, і блакітным дыванам. Калі яна

здолела засяродзіць свой позірк на адной кропцы, адразу паспрабавала ўважліва агледзецца. Гэта не дужа атрымлівалася і Дарута наважылася стаць на ногі, упэўненая, што болей не дазволіць сабе ўпасці. Каб здзейсніць апошняе, давялося зноў апусціцца на ложак. Але імгнення, якое яна прастаяла на нагах, хапіла, каб убачыць велічны суток Свіслачы з Бярэзінай, вярнуць памяць і ўсвядоміць сябе на гэтым свеце

“Жывая! У замку самога князя!” – Дарута апусцілася на ложак, прылегла, каб сцішыць празмернае біццё сэрца.

Ранішняе сонца стала ў небе насупраць акна, якое складалася з пласцінак слюды ў свінцовых пераплётах. Промні, быццам чакалі гэтага моманту ўсё сваё жыццё, уварваліся ў пакой, асляпляючы Даруту, забіраючыся праз вочы ў самыя патаемныя куткі душы. Але не было ў гэтых кутках такога, чаго б яна баялася зараз.

– Жданка! – шчасліва прашаптала яна, калі дзверы адчыніліся і ў пакой увайшла тая, якую яна гукала нават у сваім цяжкім забыцці.

Так. Цяпер Дарута не сумнявалася. Гэта была Жданка. Самае незямное стварэнне, якое бачылі калі тутэйшыя жыхары. Жданка, якую прама з возу па дарозе з царквы перахапілі служкі пана. Жданка, якую даўно аплакалі вяскоўцы. Мілая суперніца!..

…Дарута не магла дужацца з ёй за Войцеха, але вырашыла адстаяць сваё права на Ходзьку, бо той, што смала, заліпаў на Жданку вачыма, часам засяроджваючы свой погляд і на другіх дзяўчатах. Дарута раптам падумала, што Ходзька ўвайшоў у пару, калі маладзёны звычайна прыглядаюць сабе нявесту. Яна не толькі не кахала Ходзьку, але і не думала нават пра ўсялякія пачуцці да яго. Дык што з таго? Губляць задарма адзінага вернага сябра? Яна і не збіралася кахацца з ім. Часам Даруце рабілася нават смешна, калі яна ўпотай сачыла за ім, углядалася, шукаючы хоць якой прывабнасці. Ходзька не раз лавіў яе за гэтым заняткам і заўсёды бянтэжыўся. Ён не вельмі давяраў нечаканай увазе Даруты да сваёй асобы, але неяк у лесе, куды яны выбраліся за галінкамі на Зелянцы, насмеліўся і прыабняў яе. Не на жарт агаломшаная адчуваннем, якое выклікалі ў яе нецярплівыя, гарачыя, нечакана пяшчотныя рукі і вусны сябра, дзяўчына знянацку пагадзілася каб той прасіў у пана дазволу на шлюб з ёй. Ужо наступнага дня Дарута не ведала, як сказаць Ходзьку, што гэта няпраўда, што ў яе проста закруцілася ў галаве і яна не разумела тады, што прамармытала яму, карацей – атрымалася поўнае глупства. З таго вечара Дарута не тое што абдымацца, але і дакрануцца б да сябе не дазволіла. Яна не рашалася пакрыўдзіць сябра, але Ходзька ніякіх захадаў на абдымкі не паўтараў і Дарута была ўпэўненая, што ейны сябра даўно выкінуў з галавы дурную прыгоду з пацалункам. Вядома, што Дарута і не падумала казаць маці пра той выпадак у лесе. Так мінулася лета, надышла восень…

...Далей Дарута не адважылася ўспамінаць.

“Але Жданка! Не пазнае? Няўжо я так змянілася? Не можа быць, каб не пазнала! Вунь, сама, што цень выцвілы, а я адразу пазнала яе! Ды хоць бы зірнула на мяне! Туляецца, туляецца... Чаго яна?.. Але як Жданка трапіла сюды? І што яна робіць тут, у замку?” – думала Дарута, назіраючы за дзяўчынай, якая гуляла па пакоі, нібыта ў голым полі, зусім не зважаючы на сваю былую сяброўку.

“Божухна! Я ж – Мітка!” – раптам успомніла Дарута.

Яе падман, несумненна, быў раскрыты. Доўгая кашуля на голым целе

яскрава сведчыла пра гэта. Дзяўчына расплакалася. Лясная сям'я, што прыняла яе да свайго агменю – ці не адвернецца, ці даруе гэты падман?

– Жданка! – гукнула Дарута.

Жданка лёгка падбегла да ложку, нахілілася над Дарутай, нешта журботна і ласкава прашчабятала.

– Як добра, што ты жывая! А Войцех не ведае, гаротны! – Дарута паспрабавала абняць дарагую сяброўку.

Жданка лёгка ўхілілася ад абдоймаў, але засталася на месцы. Яе погляд прабягаў па Даруце, па сценах, абцягнутых жоўтай парчой з тканымі золатам райскімі птушкамі, зноў па Даруце, па блакітнаму дывану, зноў па сценах, не спыняючыся, не затрымліваючыся ні на адзін момант і ні на чым. Здавалася, яна не чула, што ёй гавораць.

– Жданка! – скаланула дзяўчыну Дарута.

І раптам Жданка пачула. Яна імгненна адхінулася, адбегла да сцяны. Вочы яе і рот зрабіліся круглымі ад жаху. Здавалася, яна зараз закрычыць.

Даруце зрабілася не па сабе.

– Жданка, не бойся, гэта ж я, Дарута, – ціха паклікала яна.

Але Жданка прыціснулася спінай да сцяны і, не адводзячы свайго страшнага погляду, слізганула паўз сцяну да дзвярэй.

Праз хвіліну ў пакой увайшла высокая, ахайная, зграбная жанчына.

– Што тут надарылася? – строга запыталася яна, аглядаючы пакой.

– Хто гэта? – пытаннем на пытанне адказала Дарута, паказваючы кіўком галавы на дзверы, адначасна ўхіляючыся ад сонечных промняў.

– Не твая справа! Як стала на ногі азнаёмлю князя, – жанчына павярнулася выйсці з пакоя.

– Чакай! Я ведаю яе! – усклікнула Дарута.

Жанчына адразу ж вярнулася. Яна так блізка падсунула свой твар, што Дарута адчула пах вяндліны і кіслага малака. Напэўна, жанчына ела іх нядаўна.

– Ведаеш? – прашыпела жанчына. – Дык і ведай сабе адна! Лепш бы табе не прыходзіць сюды!

– Чаму? – шчыра здзівілася Дарута нечаканай варожасці зусім незнаёмага ёй чалавека.

– Таму! Не твая справа! – паўтарыла, злосна ўсміхаючыся кабета. – І што ён знайшоў у гэтай вар'ятцы? – дадала яна, як бы сама сабе. – Ён сам... – яна ўсё-ткі ўтрымалася, каб не прамовіць нядобрае, і хуткай хадой накіравалася ў дальні кут пакоя, дзе знікла за шырмай.

Дарута, нягледзячы на пагардлівасць кабеты, канчаткова зразумела, што мае справу з прыслужніцай.

Падчас вандровак з Марухнай ім выпадала зімаваць у розных сядзібах, якія часта належалі і высакародным гаспадарам. Дзякуючы сваім умельствам, працавітасці і выхаванню ў заможнай сям'і, Марухна хутка наладжвала добрыя адносіны з гаспадарамі. Даруце дазвалялі не толькі гуляць з іхнімі дзецьмі, але і вучыцца разам у хатніх настаўнікаў. Апроч навучання ў царкоўна-парафіяльных, ці манастырскіх школы, дзяўчынка, дзякуючы свецкай адукацыі, пераймала ў зносінах і высакародныя манеры. Яшчэ тады Дарута заўважыла, што чым болей пыхі выказвае чалавек, тым ніжэйшы ягоны статус у асяродку, дзе ён сцвярджае сябе. Неразлучнай сяброўкай пыхі была зласлівасць, адсутнасць павагі да каго б то ні было. Такія людзі часцей ад усяго падпарадкоўваліся толькі страху, які ставіў іх на месца. Праўда некаторых страх, рабіў ужо зусім невыноснымі і тады

яны хутка некуды знікалі і тут жа забываліся ўсімі, калі не ўчынілі раптам чаго вельмі незвычайнага.

За думкамі Дарута не заўважыла, што жанчына зноў стаіць побач і з цікавасцю глядзіць на яе. Сонца прайшло ўжо нейкі шлях па небу і болей не сляпіла Даруту. Яна таксама ўтаропілася на прыслужніцу. Нешта непрыемнае і нават варожае было ў сухаватым твары з вострым падбароддзем і настолькі нізкім ілбом, што нават налобнік чырвонага каптура на галаве прыслужніцы не хаваў пасмачкі рудых валасоў, у якія , здавалася, адразу пераходзілі бровы.

– Лепш бы табе тут не з’яўляцца! – раздражнёна прамовіла прыслужніца. – Хочаш, я выведу цябе з замчышча? – нечакана прапанавала яна. – Ты можаш ісці?

– Скажы, ты ўжо двойчы мовіла, што лепш бы я сюды не хадзіла! Што пагражае мне тут? Дзе людзі, з якімі я прыйшла?

Прыслужніца крывавата пасміхнулася. Як бы нешта згадваючы, яна з цікавасцю зірнула на апратку, якую трымала ў руках, калі вярнулася з-за шырмы. Зноў задуменнасць на яе твары змяніла ранейшая крывая ўсмешка. Хаця і не зусім так, бо ўсмешкі, уласна, і не было, проста падцягваліся да звужаных вачэй шчокі, губы, наадварот, не расплываліся, а выпіналіся пад саменькі зморшчаны нос. Вочы пры гэтым успыхвалі нейкай вострай думкай, якая падабалася жанчыне, але не абяцала Даруце нічога добрага.

– Чаму ты маўчыш! Адказвай! – абурылася Дарута.

– Апранайся! – жанчына кінула ёй шэрую шаўковую сукенку, аздобленую па ліфу срэбным шаўронам і шыза-зялёным аксамітам.

Дарута, нібыта баючыся апёку, схавала рукі за спіну. Сукенка мякка легла ёй на калені.

– Я хачу гаварыць з князем! – заявіла Дарута.

– Так, у нацельнай кашулі пойдзеш да князя? – з’едліва пацікавілася кабета.

– Дай маю апратку!

– Мужчынскую? Спалілі даўно бруд той смярдзючы! Нават святар твой жахнуўся падману! А што, страшна зрабілася бандыту Мітку ад шоўку з аксамітам? – жанчына сіпла хіхікнула.

– Ты ведаеш...

– Ведаю-ведаю, не сумнявайся! Хто жадае ведаць – ведае! Чула, як і памешаную называла Жданкай і сябе Дарутай...

– Што ты хочаш...

– Апранайся, кажу! Сама княгіня гэтае насіла некалі. І пакой яе. Жданка твая не захацела тут жыць! А ўжо як князь стараўся дзеля яе! Уга-га! – рагатнула жанчына. – Хіба ж ён мог ведаць, што я шчацінне свіное нарэзала ёй пад просціну!

– Чаму ты мне гэта кажаш? – Дарута зразумела, што жанчына выскаляецца, каб зачапіць яе і, магчыма, нешта даведацца. – Ты не баішся, што я распавяду пра гэта князю?

– А чаму б табе не запытацца па якому такому праву сама знаходзішся ў адным з лепшых пакояў замка?

Гэтае пытанне збіла Даруту з панталыку. Ёй уяўлялася, што ў замку ўсе пакоі не меней прыгожыя, чым гэты. Яна вырашыла прамаўчаць, каб прыслужніца сама як мага болей выказала ў запале.

– Я магу дапамагчы табе, калі ты адкажаш, дзе ўзяла нож князя, –

жанчына наблізіла свой чырвоны ўзбуджаны твар настолькі, што Дарута зноў згадала яе сняданак.

– Гэта мой нож!

– Твой, кажаш? Уга-га! – Яна знарок доўга смяялася, каб раззлаваць Даруту. – А князь кажа, што ягоны!

– Вядзі мяне да князя! – Дарута ўсхапілася з ложку.

Галава зноў закружылася, але дзяўчына хутка справілася з раптоўнай млявасцю.

– У кашульцы сваёй да князя пойдзеш? – запыталася прыслужніца. – Не хочаш гэтую сукенку, выберы сабе іншую за шырмай. Князь загадаў, што пакуль ты тут, табе належыць усё самае лепшае, што толькі знойдзецца ў замку. Карыстайся дурасцю тых, хто выжыў з розуму!

Дарута нічога не магла зразумець і толькі з недаверам глядзела на цяжкі шызы шоўк з зялёным аксамітам на яе ложку.

– Бач ты, лепшае, што ёсць у замку! – з абурэннем прадоўжыла свой сказ жанчына. – Адкуль толькі бяруцца такія, як ты! Так бы я і паслухалася! Маёй дачцэ належалі б гэтыя шаты, каб не ты і не твая Жданка! Князь ужо старога веку і апошні са свайго роду. Пакуль якія родзічы знойдуцца, можна няблага разжыцца тут!.. – раптам жанчына схамянулася, апамяталася. Яна дапытліва зірнула на Даруту, якая заварожана разглядала сукенку на ложку. Жанчына з палёгкай уздыхнула. – Ты мяне чуеш? Апранайся, а там – пажадае цябе выслухаць князь, дык выслухае, захоча выгнаць адсюль, дык выганіць, надумае ў яму пасадзіць, дык пасадзіць...

– Паслухай! – абарвала гэтыя злавесныя прадказанні Дарута. – А ты б не магла мне даць якую сваю апратку!

– Вывалішся з майго! – са шкадаваннем адмовіла прыслужніца, нібыта ўжо мела такі намер сама. – Ды і моўлена – лепшае, што знойдзецца! Але горшага і няма тут. – Яна павярнулася ісці да дзвярэй, на парозе прыпынілася, з нейкай вясёлай думкай азірнулася на Даруту. – Будзеш гатовая да сустрэчы з князем, пагрукай у дзверы, а пакуль я зачыню цябе, каб зноў не спалохала гэтую, як ты кажаш, Жданку, за яе князь галаву тут ссячэ любому. – Жанчына хутка зачыніла за сабой дзверы. Скрыгатнуў нейкі механізм у дзвярным замку.

Дарута скаланулася ад непрыемнага адчування, што пазбаўлена свабоды.

“Не прыдумвай! – загадала яна сама сабе, як часам рабіла раней Марухна. – Валялася тут непрытомная колькі – і нічога! А гэта горш ад палону! Але што яна сказала? Нібыта вывалюся з яе адзежыны?”

Дарута ўважліва паглядзела на свае рукі, загаліла ногі з-пад доўгай кашулі. Несумненна, яна моцна схуднела, але ж колькі тады часу мінула з таго, як яна трапіла ў замак? Дарута не магла гэтага нават уявіць.

Касы прамень сонца бліскуча адбіваўся ад адной са сцен на другую, ствараючы ўражанне яшчэ аднаго акна ў пакоі.

Гэта было вялікае люстра ў цёмнай, даўно не чышчанай латуннай аправе, аздобленай рысоўнай палівай. Праўда, з люстра на Даруту глядзела не яна. Тая шызагаловая зялёнавокая дзяўчына з запалымі шчокамі, ярка ружовымі пульхнымі вуснамі, крыху раздвоеным падбароддзем не магла быць Дарутай не таму, што ўжо так дужа выглядала непадобнай да яе. Проста яна была занадта прыгожай, каб быць ёю. Яна была амаль такой жа прыгожай, як і Жданка! Дарута саромелася гэтай прыгажосці, нават сваіх думак аб гэтай прыгажосці, але не магла адвесці вачэй ад чароўнай

дзяўчыны, распушаныя попельныя валасы якой зіхацелі ў сонечным святле срэбна-залатым німбам. Дарута скінула долу кашулю.

– Божа! – міжволі сарвалася з яе вуснаў.

Дарута ніколі не бачыла сябе голай у люстры. Хіба што адзін раз ноччу, калі пасля купання выходзіла на бераг з ціхай затокі, парослай з трох бакоў вербалозамі, дзе можна было неўпрыкмет распрануцца. Яе здзівіў дакладны, выразны ў святле поўні адбітак постаці ў нерухомай, што люстра, вадзе. Ва ўсім астатнім гэты адбітак не выклікаў тады ў яе ніякай цікавасці.

– Божа, – паўтарыла яна больш мякка.

Несумненна, яна моцна схуднела за час, праведзены ў замку, але маладая скура вытрымала гэтае выпрабаванне і гожа трымалася, абмалёўваючы маленькія грудзі, якія выступалі цвёрдымі купінкамі, увенчанымі вішнёвымі кружкамі з маленькімі пупырынкамі па краях і набрынялымі, як спелая вішня сокам, саскамі. Дзяўчына ў здзіўленні дакранулася да аднаго – і салодкі боль працяў яе, ударыў у ніз улоння. Закружылася галава. Дарута ўхапілася аберуч за аправу люстра, не жадаючы падпарадкоўвацца нечаканай соннай млявасці. Яна прагла даследаваць свае цела, на якое дагэтуль мала звяртала ўвагі.

Мяккая лінія жывата прыгожа закруглялася над блакітнай крэсай, што аддзяляла жывот ад ледзь прыкметнага цёмнага пушка, што прабіваўся ўнізе. Дарута не вытрымала, абвяла далонню гэтае сваё нечаканае багацце. І зноў ударыў салодкі боль, раздзіраючы нешта, напаўняючы цяжарам улонне. Дарута не хацела болей гэтых выпрабаванняў сябе. Яна памкнулася адысці ад люстра, як убачыла тоненькі чырвоны струменьчык, што сцякаў па ўнутраным баку яе нагі. Дарута дакранулася да яго пальцам.

“Яно! – раптам бліснула радасная згадка. – Тое, што гэтак хвалявала Марухну!”

Цяпер Марухна магла б супакоіцца. Дарута сталася сапраўднай дзяўчынай.

– Яно, яно, яно, яно! – закруцілася Дарута на месцы...

…Марухна часам распытвала Даруту аб рэгулах, асабліва, калі яны мыліся ў лазні. І кожны раз з недаверам аглядала дзяўчыну. Дарута злавалася тады. І аднойчы, калі Марухна зноў прычапілася са сваім, пацікавілася:

– А ў мальчукоў такое бывае?

– Чаго? – сумелася Марухна.

– Ну, крыві, рэгулаў, як ты кажаш у дзяўчат бывае?

– Не. – Марухна падціснула вусны, не ведаючы, куды хіліць небяспечную размову Дарута.

– Тады буду лепей мальчуком! – адпрэчыла Дарута , чым выклікала божы страх у Марухны. Яна пырскала на Даруту святой вадой, хрысціла, клала на сябе крыж, але дзяўчынка ўпарта сцвярджала:

– Буду! Мальчуком!

З тае пары Марухна адчапілася і нават у лазні старалася не глядзець на яе...

...Дарута падхапіла сукенку.

– Бедны Мітка! – пашкадавала яна са смехам.

Сукенка дужа пасавала да яе зялёных вачэй і русых з попельным адценнем валасоў. Даруце трапілася на вочы белая стужка на маленькім століку і дзяўчына перахапіла ёю свае кароткія непаслухмяныя валасы. Прадчуванне жыцця закончылася.

– Пачынаецца сапраўднае жыццё! – усклікнула яна ў захапленні. – І што ёй чакаць запрашэння? Дарута сама рушыць настрач свайму жыццю!

Цяжкія дубовы дзверы аказаліся замкнёнымі. Дарута біла ў іх кулакамі, але безвынікова. Тады яна кінулася да акна. Яшчэ ніхто, ніколі не адбіраў у яе свабоду! Што-што, а куды ісці – яна заўсёды мела.

Без штучнага, падчас пыхлівага і пустога шляхетнага выхавання, як і без рабскай прыніжанасці зацуглянага паншчынай ды барствам прыгоннага – Дарута расла, магчыма, самым свабодным чалавекам у гэтым гаспадарстве. Свабода вызначала яе думкі, жаданні і моц, якія, здавалася, былі разліты ў здаровай, блізкай і зразумелай ёй прыродзе – толькі даверся ім, чэрпай іх, не адрынай, убірай у сябе. У прыроды ўсё было надзвычай проста і разумна – толькі глядзі, вучыся, не прыдумляй нічога, бо розум, там, дзе не здольны спасцігнуць, будуе свае пачварныя стварэнні, разбураючы сугалоснасць і прыгажосць...

За акном, далёка ўнізе, паважна і лянотна цякла Бярэзіна, гатовая ўвабраць у сваё ўлонне ўсе воды, якія сабраў ёй на сваім шляху настромлены прыток, каб прынесці ёй гэты шчодры дар.

Дарута расчыніла акно, перагнулася праз яго.

Не! Абрывісты схіл замчышча быў не настолькі зручным, каб Дарута, мінуючы вострае бярвенне, натырканае ў яго, магла скочыць з акна ўніз. Адвесная сцяна замка, хаця і складзеная з асобных цаглін уперамешку з камянямі, выклікала ў Даруты прыступ слабасці. Пасля кароткага адпачынку дзяўчына яшчэ шмат разоў спрабавала знайсці спосаб адчыніць дзверы пакоя.

Ужо цямнела, калі Дарута зразумела, што гэты замак па сіле не саступае ёй. Яна супакоілася, бо ведала – перамагае той, хто ўмее чакаць памылкі супрацiўніка.

Стомленая, знясіленая дзяўчына моцна спала, калі дзверы ў пакой адчыніліся і каржакаваты мужчына разам з той, каго ў думках Дарута ахрысціла чапялой, паднеслі да яе твару палахлівае полымя свечкі. А, можа быць, дрыжала жаночая рука, якая трымала свечку? Хто ведае?

Мужчына зняў з шыі залаты медальён і націснуў спружынку. Ён узяў у жанчыны свечку і ўважліва разгледзеў мініяцюрны жаночы партрэт, укладзены ў медальён, хаця за тыя гады, што разглядаў дагэтуль, мог бы, здаецца, ужо сам намаляваць яго. Каб не страціць свежы вобраз, які толькі што аднавіўся ў яго памяці, мужчына хуценька нахіліўся да ложка. Рэдкае, абвіслае валоссе неўспадзеў дакранулася да вуснаў дзяўчыны. Дарута расплюшчыла вочы.

– Копія княгіні! – з жахам усклікнуў мужчына, хаваючы медальён.

Свечка патухла і ў той жа міг на Даруту абрынуўся цяжкі мот[9]. На яе навaліліся, нечым заткнулі рот, скруцілі, пацягнулі па каменных падлогах і прыступках доўгіх цёмных пераходаў...

## 2

– Пан Змога просіцца! – у дзвярах кабінета стаяў стары слуга, прывезены графам Пржэвіцкім з Варшавы.

Твар графа паморшчыўся.

“Грошы, грошы, грошы – усё, што ім патрэбнае ад мяне. Адно ў іх слова – “дай”. Я сам набыў гэтую зямлю, каб выцягнуць з яе ўсё, што можна. Хто з гэтых новаспечаных смярдзючых паноў, гэтых мужыцкіх

выскачак служыць мне праўдай, як хаця б сабе, гэты стары? – падумаў граф, узмахам рукі адпускаючы слугу. Упершыню ў жыцці ён усвядоміў, што нават не ведае імя старога, якога памятае каля сябе змалку. Гэтая нечаканая, пустая згадка выклікала толькі новы прыступ раздражнення. – А навошта халопу імя? Дастаткова пляснуць у ладкі, хлоп-хлоп – і на парозе табе халоп! Напэўна, халопам самім гэта падабаецца, калі сыноў сваіх хлопчыкамі клічуць! ” – падсумаваў ён нечаканыя думкі.

Пайшоў пяты год, як граф пакінуў караля, Варшаву, сям'ю. Ён думаў, што едзе сюды на адзін-другі месяц, каб завесці тут свой парадак, які б адчыніў заслону грашовай плыні ў ягонае жыццё.

“Так бы і сталася, калі б не гэты кляты князь! І што ён чапляецца за сваё нікчэмнае жыццё? Які можа быць сэнс жыцця разумнага чалавека, замураванага ў сцены? І што мне цяпер той каморны суд? – прыгадаў граф няўдалую спробу падкупіць судзейства. – Нічога не атрымаецца ў князя! Цяпер мае паперы падпісаны самім каралём, а з іх вынікае, што гэтыя землі былі набытыя маімі продкамі яшчэ ў мінулым стагоддзі. Добра, што каралю не абавязкова самому чытаць тое, што ён падпісвае, пасміхнуўся сам сабе граф. – А, можа, кароль не захацеў чытаць менавіта мае паперы. Мужыцкі ваявода са сваім логовам – што фальшывы камень у аправе каталіцкай кароны. І гэты халоп! Стаіць, што слуп верставы!”

– Кліч! – раздражнёна крыкнуў граф.

Слуга падняў галаву, і, як навучаў яшчэ ягоны бацька ў Варшаве, з годнасцю павярнуўся і выйшаў. Навука гэтая была простай: чым болей пыхі ў слугі, тым болей павінны баяцца і паважаць ягонага пана.

Дзверы цяпер хуценька адчыніліся і амаль подбегам да графа кінуўся пан Змога.

– Пан граф! – твар Змогі імкнуўся выказаць як раз тыя пачуцці, якіх ён ніколі не меў у дачыненні да графа.

Графу здалося, што гэты прайдзісвет зараз кінецца яму на шыю. Ён ажно сцяўся ад злосці.

Пан Змога, прэтэндуючы на звышдалікатнасць, паддыгваў па паркеце, пакідаючы брудныя сляды ад сваіх ботаў.

– Прэч! – гыркнуў граф, хапаючы са стала званочак.

– Князь... пан Змога знарок прыпыніўся на гэтым магічным для графа слове.

– Прэч! – цяпер ужо граф крычаў на слугу, які спаважна зайшоў у кабінет.

– Гавары! – граф пастараўся гэта сказаць ласкава і нават прыпадняўся з-за стала насустрач пану Змогу, хаця апошні рух вынікаў хутчэй ад нецярплівасці.

– Я ўжо казаў пану графу пра лясную банду. – пачаў пан Змога.

– Якая мне зараз справа да банды! Пляваў я на банду! Ты, здаецца, мовіў “князь”? – нагадаў граф.

Пан Змога адчуваў, што граф ужо трапіў у расстаўленыя ім моты і не спяшаў. Ён нетаропка рассеўся ў вольным крэсле, дастаў люльку. Вопыт падказваў, што чым болей маланак будзе ў вачах графа, тым болей веры ён дасць навіне, якую прынёс пан Змога і якой сам ён, па-шчырасці, не зусім даваў веры. А хто б даў той веры на гэтакія рэчы небывалыя? Але як і не паверыць, калі Марфа на свае вочы бачыла партрэт гэтай дзеўкі ў княжай спальні.

– Ты, здаецца, мовіў “князь”? – у голасе графа прагучала пагроза.

– Я пра князя, – на ўсякі выпадак запэўніў пан Змога. – Дык вось, я ўжо казаў пану графу пра лясную банду...

Граф ашалела абрынуўся ў крэсла.

– Дык вось... – пан Змога па-гаспадарску набіваў сваю люльку графскім тытунём, – бандыты на гэтым тыдні былі ў князя.

– Напалі? – ажывіўся граф.

– Не, у госці хадзілі.

– Тады і казаць было трэба! – графа не займалі разбойнікі.

– Яны прывялі з сабой... – спакойна прадоўжыў пан Змога і зацягнуўся дымам, – ...дачку князя!

Граф з недаверам зірнуў на пана Змогу. Той некалі распавядаў яму што ў князя былі жонка і дачка, якія даўно не то прапалі, не то загінулі. Знайшліся людзі, якія сцвярджалі, што князь адправіў іх не то ў Львоў, не то ў Варшаву.

Навіна, калі гэта праўда, заслугоўвала ўвагі. Але якая карысць ад яе графу?

– Ну і што? – граф хацеў выцягнуць з пана Змогі ўсё, што мелася за ягонай блудлівай душой.

– Я падумаў, што пану графу гэта цікава будзе, – пан Змога ззяў ад задавальнення. Удача, несумненна зважала на яго.

– Цікава, канечне. Але не сёння-заўтра, я б сам даведаўся пра гэта.

Пан Змога не быў упэўнены ў тым, што сцвярджаў граф, але выказваць гэта не збіраўся.

– Я падумаў, што пану графу было б цікава пазнаёміцца з князёўнай.

– Знаёміцца з мужычкай! – абурыўся граф.

– Калісьці князя прымаў сам кароль, – асадзіў графа пан Змога. – А мужычкамі, кажуць, пан граф нібыта зрэдзь цікавіцца... – Ён пастараўся сказаць апошняе як мага абыякава.

Граф пранікліва паглядзеў на пана Змогу, які зусім не імкнуўся сустракацца з ім вачамі.

“Ад такога можна ўсяго чакаць! – зрабіў граф выснову свайму назіранню. – І графіні – цыдульку. І пра паперу спадчынную тое-сёе мог вынюхаць. Нюхаўка ў яго, вунь, што трэба! Так і ходзіць, так і ходзіць! Аж кропля, што ў сабакі з языка звісае! А вочкі! Вочкі, хоць і ваўчыныя, а бегаюць, бегаюць, што ў лісы шалёнай! Трэба з ім асцярожней!” – граф сумна ўсміхнуўся.

– Чаго людзі ні напрыдумваюць! Мой дзязька па маці, нябожчык ужо, сам ведаеш. Адкажуць мне вінаватыя ў пагібелі ягонай!.. – граф спыніўся, сціснуў кулакі, збіраючыся з духам.

У свой час матчын брат, якім граф апекаваўся пасля смерці сваіх бацькоў, і падбіў яго набыць тутэйшыя землі, нібыта ўпадабаныя ім пад час нейкага ваеннага паходу.

“Упадабаў пацеху на сваю галаву! Бывалы ваяка! І як такое магло надарыцца з ім? І што, наогул, там надарылася? Цівун хутчэй ад усяго брэша, каб выказаць сябе з лепшага боку. Але хто ведае? У каго запытацца? Дзеўка знікла некуды. Тамаш без языка застаўся. Жаніх той няўдалы? На тым свеце. Мабыць, дзядзьку майму там служыць. Вяскоўцы, як адзін, сцвярджаюць, што бачылі, як вершнікі і брычка праімчаліся. А потым збегліся на пажар ужо. Не, не дарма кажуць, што лёс вядзе чалавека! Бедны дзядзька! – пранеслася ў думках графа. Апошні эпітэт скіраваў ягоныя думкі ў інакшым напрамку. – Так, сапраўды, бедны! Спадчыны ад яго не засталося. Хіба што медальён той з жаночым партрэтам, што

знайшлі пад абгарэлай рукой на сэрцы. Глянь ты, аднак каханку меў, а ніхто не чуў, не ведаў пра тое! А, можа, і не каханка зусім? Каханкі часу і грошай патрабуюць. У дзязькі на ягонай памяці не было ні таго, ні другога. Усё спусціў на нейкія раз'езды па свеце, росшукі-вышукі, таямніцы. Можа, у якім тайным ордэне быў? Хто яго ведае, куды знікаў? А вось дарадца быў варты. І ход з паперамі ён прыдумаў. Сам і быў на прыёме ў караля...” – граф уздыхнуў, упершыню за свае жыццё адчуваючы сябе сіратой.

– Дзядзька мой, калі гасцяваў тут, можна сказаць, цікавіўся. – прадоўжыў граф перапыненую размову. – Але дзеля пацехі адной. Мы паспрачаліся неяк, хто хутчэй упалюе – я зайца, ці ён дзеўку. Іх разам і выпусцілі на ўзмежку леса. Дзеўка тая не горш ад зайца скакала на бакі. Нарагаталіся мы, пакуль іх гналі... – развесяліўся граф, але ўспомніў пра тое, чым закончылася апошняя пацеха і зноў сціснуў кулакі. – Адкажуць за пагібель, пся крэў! Няшчасны! Казаў мне, што хацеў пасля тую дзеўку нават пакаёўкай да сябе ўзяць, нібыта прыгожай падалася яму. А як зірнуў у вочы – дык жагнуўся, нечысць нейкая, не чалавечыя вочы, нібыта не ў сабе яна. Пашкадаваў, думаў, спалохалася ўсё-ткі, загадаў прывязаць да дрэва ў лесе – раптам адыдзе, схлыне з яе нячыстае. А потым і не знайшлі яе. Куды падзелася? Нават следу не засталося. Ведзьма, няйнакш! Вось было з кім ледзь не звязаўся! Не гляджу нават у іхні бок!

Пан Змога насцярожана слухаў графа.

“Вось яно што! Ці не тая паланянка графа, якую даглядае Марфа? Князева Уцеха – казала яна! Ох, няма часу абдумаць! Дзязька графа ўжо нябожчык. Каму яна зараз можа быць патрэбная? – разважаў пан Змога, прыслухоўваючыся да ўласных думак. – Пуста. Нічога вартага не ідзе ў галаву. Ну і не трэба! Не ўсё адразу. Падумаю пазней. А цяпер – маўчок пра яе!” – загадаў ён сабе.

– Але ж я пану графу пра князёўну казаў, а не мужычку...

– Слухай, што ты да мяне прычапіўся з ёй! Нават, калі б я хацеў пабачыцца з ёй, то ў замак нам не трапіць.

– А навошта ў замак хадзіць? – нібыта прастадушна пацікавіўся пан Змога.

Граф, не разумеючы напрамку гаворкі, зноў дапытліва ўтаропіўся на пана Змогу.

– А калі б князёўна сама прыйшла?

Ад нечаканасці граф ажно адхінуўся ад пана Змогі. Але такая думка спадабалася яму.

“Князёўна ў маіх руках! З такім козырам любую партыю ў князя выйграю! Ды з такім козырам... у нагах маіх валяцца будзе! Матка Боска! Тады і гэтай паперы не трэба будзе даваць ходу! – разважаў граф, захоплены празорам, які нечакана адкрыўся яму. – Кароль, як гнеў на міласць, так і наадварот – мяняе хутка! Князь цяпер сам усё падпіша!”

– А... – апамятаўся граф. – А як зрабіць гэта?

– З панам Змогам – можна зрабіць усё! – запэўніў госць.

Граф трасянуў званочкам.

Неўзабаве на стале разам з вінамі, якія графу пастаўляліся з Францыі, з'явіліся самыя лепшыя тутэйшыя прысмакі для госця.

Граф так завіхаўся вакол пана Змогі, што той вырашыў не адкрываць свае карты ў гэтай гульні ў дурня.

Князёўна, ці проста дзеўка, як дзве кроплі вады падобная да княгіні,

якой яе памятаў пан Змога, звязаная, валялася ў сутарэннях замчышча. Князь нават не бачыў яе і шукаць не будзе. Марфа, стрыечная сястра пана Змогі, якая падлеткам разам са сваёй маці служыла княгіні, а зараз даглядала Уцеху, скажа князю, што забраў новую дзеўку адзін з тых, хто прывёў яе ў замак.

“Няхай паспрабуе знайсці тых бандытаў! – падсумаваў свае думкі пан Змога. – А навіну пра Уцеху я прадам графу асобна. Болей будзе! Ды і не ўсе радасці яму разам!”

Граф тым часам не зводзіў натхнёных вачэй з пана Змогі. Яны адзін за другім шукалі празору, як заманіць, або выкрасці князёўну. І кожны раз, калі ўсё, здавалася, было ўзважана, прадумана, пан Змога незадаволена моршчыўся і знаходзіў памылкі ў гэтых празорах, ушчэнт разбураючы ўласныя пабудовы. Перашкоды, якія ён паслужліва прапаноўваў уяўленню графа, да таго распалілі апошняга, што ён хацеў мець князёўну ўжо сёння, зараз, бо неўзабаве даваў баль у гонар новай улады..

“О, як бы мне балявалася, маючы такую палонніцу!” – думаў граф, паціраючы вільготныя ад узрушання рукі.

– Папярэджваю пана графа, каб не закахаўся! – пан Змога вырашыў падкінуць палiва ў раскладзенае ім вогнішча ўяўлення графа.

– А што? Прыгожая? Не верыцца, што ў тым звярыным логаве магло нарадзіцца нейкае хараство!

– Якое ж яно звярынае логава? Яшчэ гадоў пятнаццаць таму мінскі ваявода лічыў за гонар гасцяваць у князя! А прыгажосць княгіні, магчыма, і паслужыла яе гібелі. Князь вымушаны быў выправіць яе з дачкой перад нападам на замак.

– А што за напад? На маёй памяці тут нічога такога не было, – зацікавіўся граф. Ён не аднойчы прыкідваў, як можна захапіць замак. Дзядзька, цяпер ужо нябожчык, чамусьці страшыўся яго намераў. І раіў не чапаць замак, бо сам нібыта спрабаваў захапіць яго з дапамогай наймітаў. Граф, вядома, распытваў дзядзьку, але зразумеў адзіна – быццам замак зачараваны і жорстка помсціць ворагу, забіраючы калі не жыццё, дык шчасце ўсяго жыцця. Логіка графа слаба арыентавалася ў такіх катэгорыях, як чараванне і шчасце, таму размова з родзічам заўсёды заходзіла ў тупік. Праўда тут толькі тое, што дзядзька ніколі не выдаваў на шчаслівага. Ды, калі азірнуцца зараз на яго жыццё, дык што там? Вучоба ў Францыі. Дыпламатыя. Пяць гадоў Кітая. Войска. А вынік? Бязлюдным жыў, ні гнязда свайго, ні маетнасці, ні славы. Калі б усе так жылі, дык што б на зямлі засталося? – Ні-чо-га, – падсумаваў граф плынь сваіх думак.

– Ну, на памяці пана графа і не было нічога такога, мабыць, а, наогул, было, – пан Змога перавёў дых, дзівячыся прамоўленаму ім набору слоў, з якіх вынікаў усё-ткі нейкі сэнс. – Даўно, праўда. Ды вось, гадоў пад пятнаццаць таму і будзе, – пан Змога ўжо двойчы згадваў у размове гэтае “пятнаццаць”, яму захацелася дзеля большай праўдзівасці назваць які інакшы лік, але граф не даў часу выправіць гэтую прыкрую памылку.

– На тваей памяці?

– На маёй!

– І што ты памятаеш? – дамагаўся граф, усведамляючы, што зараз можа выкрыцца таямніца жыцця ягонага дзядзькі.

– А нічога!

– Вось дык памяць!

– Памяць тут ні да чаго. Гэта князь ведаў, што нехта рыхтуе напад. Мы

ж даведаліся толькі, калі стрэлы ды выбухі грымнулі. На ранак з бярвёнаў, што шчэрацца з боку ракі, паздымалі княскія людзі пабітых ды параненых. Сваіх сярод іх, здаецца, не было. Чужых – яшчэ жывых і мёртвых, кажуць, пабралі ў мяхі з каменнем, ды на дно. Я тады маладым зусім быў, хадзіў на лугавіну перад Свіслаччу, дзе зараз слабада, войска стаіць, шмат чаго ад бойкі там засталося. Але самае дзіўнае – падабраў там медальён з партрэтам княгіні – можа, яна сама насіла на сабе і згубіла пад час бегства, а, можа быць... нехта з нападаючых згубіў. Толькі адкуль у іх той партрэт узяцца мог? Напэўна не здарма хадзіў почут, што бойка праз княгіню была. Хто на гэта зараз адкажа? Але і адказ той цяпер ужо нікому не патрэбны.

– А медальён сабе пакінуў, так?

– А каму я павінен быў дакладаць пра гэта? Князю? А калі княгіня той медальён на сабе насіла, ці не падумалі б што благое на мяне?

– І дзе партрэт той прыгажуні, як ты кажаш? – пацікавіўся граф. – Ахвота ж людзям тыя цацкі на шыі цягаць!

– Няхай пан граф не здзіўляецца, але я прынёс яго, каб не было сумненняў. Дачка – копія сваёй маці.

– Давай сюды!

– Пан граф!

– Што такое?

– Я баяўся залаты аклад аддаць у пераплаўку, або прадаць, бо раптам князь дазнаецца пра гэтую рэч! Вось і захаваўся медальён з партрэтам, але ж ён каштуе добрых грошай!

– Калі ён мне спадабаецца або спатрэбіцца – заплачу колькі каштуе.

– Пан граф абяцае?

– Слухай, пан Змога, можа, у цябе няма нічога вартага і ты мяне тлуміш?

– Няхай пан граф паглядзіць, – пан Змога зняў з шыі медальён, замацаваны вузлом на тонкім скураным пасаку.

Ад аднаго позірку на медальён у графа затрымцела сэрца. Жаночы партрэт, схаваны пад вечкам, цяпер ужо выкрываў канчаткова таямніцу былога апекуна. І медальён, і патрэт у ім былі дакладанай копіяй прыціснутага дзядзькам да сэрца ў апошнія імгненні зямнога жыцця. Дзіўна, але сваім целам ён выратаваў маленькі партрэцік ад полымя. “Навошта яму было два аднолькавыя медальёны? А, можа, адзін з іх усё-ткі не належаў апекуну? А, можа ён як раз і зрабіў сабе копію, калі гэты медальён нейкім чынам трапіў да яго? Ці падкупіў каго? Ці нават забіў?..” – графу зрабілася страшнавата.

– Ну, што я казаў! Магічнае ўздзеянне! – выхваляўся тым часам пан Змога.

З партрэта на графа глядзела маладая жанчына. Яе прыбраная карункамі галоўка была павернутая да акна, ад чаго адно вока на прасвет пабралася зялёным полымем у той час, як другое, заварожваючы цьмяным бляскам, пазірала з ценю. Стваралася ўражанне, што перад ім маленькае люстэрка, якое схапіла ў акне постаць жывой жанчыны. Граф ажно азірнуўся на акно, шукаючы там незнаёмку.

– Вось-вось, я таксама заўсёды азіраўся, – падсмяяўся пан Змога.

Графу быў непатрэбны другі экземпляр медальёна. Але гэты медальён ніяк не стасаваўся ў яго разуменні ні з рудым валоссем, што вызірала з прарэхі расшпіленай кашулі, ні з тлустымі чырвонымі пальцамі, на ніжніх фалангах якіх таксама шчацініўся руды параснік, ні з ліслівым выразам твару, ні з буйным чуйным носам са звісаючай кропляй, карацей, ні з чым, што ён бы жадаў бачыць у крэсле насупраць сябе.

Пан Змога пакідаў маёнтак у поўным задавальненні. Медальён каштаваў графу добрага каня. І гэта за копію! Пан Змога нават уявіць сабе не мог, колькі запатрабуе ад графа за жывы арыгінал! Апошняя думка крыху псавала настрой. Яны з графам разышліся на тым, што ўвесь далейшы клопат з князёўнай бярэ на сябе пан Змога. Князёўна павінна быць у маёнтку да наступнай раніцы. Клопат, па-праўдзе, быў не такі і просты – выцягнуць дзеўку з сутарэнняў за межы замчышча, каб ні адна душа пра гэта не ўведала.

## 3

"...Багдан! Я адпускаў да цябе разам з маімі баярамі[10] непахожых[11] людзей і нават ваяроў. Дзе яны зараз? Масква чыніць ворап[12] на нашых землях, у нашых гарадах і сялібах. Ці не дзеля таго ты паслаў свайго кума пабіць Януша Радзівіла, каб расчысціць шлях маскавітам? Ты назваўся гетманам, а зрабіўся маскавіцкім халопам!.." – Князь перачытаў апошні абзац свайго ліста і адкінуўся ў крэсле. Ён хацеў спыніць руку гетмана, якую той занёс на сваіх жа братоў. Але адчуваў, што варожасць ягонага паслання зусім не адпавядае такой задуме.

"Бачна, дыпламат з мяне так і не атрымаецца!" – з горыччу падумаў князь, ламаючы, камечачы ў руцэ пяро.

Праўда, князь ніколі не палітыкаваў, бо не вылучаўся глыбокай прадбачлівасцю, а іншым разам і простай абачлівасцю. Папера з пячаткай самога караля была таму яскравым сведчаннем...

…Ужо цямнелася, калі вартавыя пад рукі прыцягнулі ў замак знясіленага, ледзьве жывога чалавека, якога падабралі каля загнанага ім каня ў ваколіцы Свіслачаў. Чалавек, хістаючыся, дастаў з-пад кунтуша пакет і працягнуў яго князю. Па выяве на пячатцы манаграмы "RW" з каронай над літарай "R" князь адразу прыгадаў Уладзіслава IV – "Rex Wladislavs". Так. Гэта было ліст ад караля. "Уладзіслаў Чацвёрты, з ласкі Божай Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Мазавецкі, Жамойцкі, Інфлянцкі, Смаленскі, Чарнігаўскі, а Шведскі, Гоцкі, Вандальскі спадчынны Кароль… – князь хутка прабег вачыма па лісту. Кароль папярэджваў, што на Свіслоцкі замак неўзабаве мае адбыцца напад. Падмога можа не паспець. Калі князь не ўпэнены ў абарончай моцы крэпасці, кароль раіў яму неадкладна адправіць у Варшаву сваю сям'ю і вартыя бяспекі каштоўнасці… – Дадзены з Варшавы дня 3, месяца ліпеня… – жахнуўся князь. Было шостае ліпеня.

Ад ганца болей нічога не дазналіся, бо той неўспадзеў нязручна ўпаў на калені перад князем і адкінуўся на спіну. Князь нахіліўся, каб упэўніцца, што жыццё яшчэ не пакінула ганца, але ў таго, як і ў загнанага каня, з рота біла пена. Белы твар з вылупленымі, як бывае ў чалавека ад здзіўлення, вачамі разам абмяк.

Было зразумела, што справа надзвычай сур'ёзная, калі ёю апякуецца сам кароль. Раздумваць не было часу, бо напад мог адбыцца ў любую хвіліну. Тым болей, што ўвесну нейкія рабаўнікі ўжо спрабавалі ўзяць замак сілай, але ў апошні момант адступілі. Магчыма, гэта была разведка. Князь ад хвалявання не мог толкам абдумаць ні паведамленне караля, ні заняцца абаронай.

Гаспадар аднаго з гандлёвых караблёў каравана, які павінен быў ісці да Дняпра і далей, быў раней у княскай дружыне. Князь цалкам давяраў яму, таму скарыстаўся нагодай, каб выправіць княгіню з дачкой у дарогу…

"Даруй нам, Божа," – перахрысціўся князь, як і тады. За столькі гадоў

ён не атрымаў не толькі медальёна Дароціцы, які б сведчыў, што яна з з дачкой дабраліся да Варшавы, але і ніводнай весткі ні ад іх, ні ад слуг і вояў, якіх выправіў суправаджаць сваю сям'ю. Вядома, ён ужо не спадзяваўся, што ўбачыць каго-небудзь з іх жывымі...

… Замак атакавалі ў тую ж ноч. Але ўсё адбылося, як і ў мінулы раз. Князь нічога не разумеў. Нападнікі нешта ваяўніча пакрычалі, пастралялі і адступілі ў лес. Тое, што папера ад караля была фальшывай і, калі б не прыцемак ды настойлівая парада караля дзейнічаць неадкладна, князь заўважыў бы гэта. Праз чатыры тыдні, чакаючы пасыльнага ад княгіні, як было з ёю дамоўлена, князь зноў узяў у рукі ліст ад караля. Ліст быў сапраўдным, пячатка і подпіс караля – таксама. Але… князь усё зразумеў, калі ўбачыў сляды ад неахайна выведзенага папярэдняга паслання, паверх якога быў зроблены злачынны допіс. Спяшаліся...

...Гарачыя тонкія рукі абхапілі шыю князя.

Князь скалануўся.

Уцеха заўсёды нячутна, быццам скрозь сцены праходзіла па замку.

Князь шкадаваў дзяўчыну. Тады яшчэ, калі яе прывялі з лесу ягоныя людзі, князь адчуў, што душа яе збегла ад ліха гэтае зямлі, але не пакінула яе назусім, павісла паміж небам і зямлёй, чакае, мабыць, верыць, спадзяецца на лепшае ў долі. Князь чамусьці таксама верыў, што нешта шчаснае прыпасла доля і для яго. Не можа ж быць, каб чалавек жыў на свеце тады, калі ўжо нічога добрага свет прапанаваць яму не можа. Бог літасцівы. А ён з Уцехай, што брат і сястра перад Богам, перад верай у дабрыню гэтага света.

"Сястра..." Зларіў сябе на думцы князь. Але не, па-шчырасці, дзяўчына была яму болей чым сястра. Ён не хацеў прызнавацца сабе ў гэтым.

Князь асцярожна зняў з шыі гарачыя далоні Уцехі і міжволі перавёў погляд туды, дзе над шырокім ложкам вісеў, займаючы палову сцяны, партрэт русавалосай, спакусавуснай прыгажуні, зялёныя вочы якой нагадвалі гэткія ж цёмныя смарагды, як і ў каралях на ейнай шыі. Яна, здавалася, вабіла яго сваёй непрыступнасцю і разам з тым выразным поклічам кахання. Нават з гэтага – мёртвага палатна! Як ён мог адпусціць яе?!

"Лепш бы забіў сам!" – нечакана падумаў князь, хаця дакладна ведаў, што ніколі не здолеў бы не тое што забіць, а нават параніць Дароціцу нядобрым словам.

Белыя галава і вусы, глыбокія зморшчыны ілба над затуманенымі выцвілымі вачамі, нягледзячы на прамую, дзякуючы ваеннай выпраўцы, постаць – усё гэта наводзіла на думку, што князь дажывае свой век у глыбокай старасці. На самой справе ён не так даўно разам з сямнаццатым летапісным векам ад нараджэння Хрыстова пераваліў на другую палову свайго стагоддзя.

Уцеха абышла крэсла князя і таксама запыніла погляд на жаночым партрэце. Князю на момант здалося, што ў яе поглядзе прамільгнула думка. Але дзяўчына раптам весела залапатала, як малое дзіця, якое яшчэ не навучылася прамаўляць словы. Князь адвярнуўся.

Уцеха, не перапыняючы сваёй неразумнай гамонкі, пачала кружыцца вакол яго, тузаючы за рукаў, крысо скураной камізэлькі, потым слізганула да дзвярэй, зноў вярнулася, прабягаючы няўцямнымі вачамі то па партрэту, то па князю. Бачна было, што нешта хвалюе яе.

Калі князь падняўся з крэсла, каб супакоіць гэтае жаласнае стварэнне, дзяўчына зноў памкнулася да дзвярэй. У яе ўчынках была нейкая пасля-

доўнасць – князь яшчэ не мог вырашыць якая, але рушыў за дзяўчынай.

Уцеха, трымаючыся ўздоўж сцяны калідора, на замацаваных круках якой вісела старадаўняя зброя і даспехі прашчураў князя, нібы празрысты цень слізгала, калыхаючы полымя рэдкіх свечак, зацепленых увечары самім князем у памяць сваіх продкаў. Былі асяніны.

Дзяўчына ўпэўнена бегла, мінаючы пераходы і лесвічкі. Князь ледзьве паспяваў за ёй. Ён ужо хацеў пакінуць гэтую бессэнсоўную пагоню за прывідным ценем, як Уцеха спынілася каля нізкіх дубовых дзвярэй, што вялі ў адзін з дальніх гасцявых пакояў замку. Яна застыла каля іх, насцярожана ўслухоўваючыся, пастаяла некаторы час і адступіла са звычайным для яе абыякавым выразам твару.

Князь ледзьве не раззлаваўся на самога сябе за тое, што даверыўся Уцесе, яе неразумнаму памкненню. Але ўспомніў, што гэты пакой прызначыў быў для нейкага непрытомнага юнака, які прыйшоў разам з ляснымі людзьмі. Потым высветлілася, што гэта зусім не юнак, а дзяўчына. Калі ж на целе яе знайшлі княжы нож, згублены ім, а, можа быць, і скрадзены кім-небудзь падчас аднаго з паходаў, ён загадаў перавесці тую дзяўчыну ў самы лепшы пакой замка, якім, несумненна, быў для яго пакой княгіні. Князь добра памятаў наказ старога – каб не страціць свой добры лёс, трэба аддаць усё самае лепшае таму, хто прынясе згублены нож адзінарога.

На ўсякі выпадак князь адчыніў дзверы ў пакой для гасцей. Уцеха адразу ж праслізнула туды і ўпала каля ложка на калені. Яна прабегла па пасцелі дрогкімі неўтаймоўнымі рукамі, нібыта аблашчыла там кагосьці. Гэта было неверагодна. Дзяўчына, якая дзічылася ўсіх, апроч князя, аддавала сваю ласку той, што была тут раней!

Князь успомніў пра Марфу. Лісліваая прыслужніца звычайна імкнулася трапіць на вочы, але ён, здаецца, не бачыў яе з мінулага дня, калі Марфа паведаміла князю, што ягоная шаноўная госця апрытомнела. Князь сказаў тады, што, калі дзяўчына будзе пачуваць сябе здаровай, пакліча яе да сябе.

Каб суняць узрушанасць, што нарастала ў крыві, князь вырашыў сам зазірнуць у пакой княгіні.

Уцеха бегла наперадзе, нібыта чытала ягоныя думкі.

Перад дзвярыма князь на нейкі час прыпыніўся. Яму не хацелася бачыць там чужую жанчыну, а сэрца тым часам замірала, нібыта зараз адчыняцца дзверы, а там...

Князь далікатна пастукаўся. Ніхто не азваўся і, мяркуючы, што дзяўчына можа моцна спаць пасля страты здароўя, ён хацеў павярнуць да бібліятэкі, як Уцеха сама прашмыгнула за дзверы, адкуль адразу пачуліся гукі плачу. Князь усхвалявана кінуўся ў пакой.

І гэты пакой быў пустым, але цяпер Уцеха не тое плакала, не тое скавытала, стоячы на кленях перад раскіданым, як у бойцы ложкам.

Князь не любіў нечаканасцей у сваім замку. Апошнім часам яны надараліся тут усе часцей. Гэта нараджала прадчуванне трывожных падзей.

Слугі апавядалі, што мінулай ноччу нібыта нехта хадзіў па пераходах замку. Чулі нават ускрыкі, нейкую валтузню. Князю падумалася, што гэта незадаволеныя людкі, душы ягоных продкаў збіраюцца на асеннія дзяды. Ён вырашыў ушанаваць памяць сваіх продкаў па тутэйшым звычаі.

Стары дзядзька Затко – з маленства князя ягоны настаўнік у вайсковых ды іншых навуках – быў адзіным, апроч Уцехі, каго князь пакінуў на гэтую ноч у замку. Затко не ведаў, куды падзеліся Марфа з госцяй, але мовіў цікавую рэч.

– Не варта, князь, у такую ноч падымаць гаману, – ён перахрысціўся і шэптам дадаў, мне здаецца, яны ўжо тут. – Затко агледзеўся. – Я абыходзіў на ноч сутарэнні, расчыняў усе дзверы, каб душы тваіх прашчураў маглі агледзець свае ўладанні, упэўніцца, што іх тут помняць, паважаюць, чакаюць і вітаюць. І ў адным месцы ўбачыў здань маладой княгіні. – Затко ўспомніў, як святло факела выхапіла ў куце падзямелля маладую прыгожую жанчыну. У яе твары не было ні крывіначкі. Гэта, безумоўна, была здань.

“Але чаму яна падалася звязанай? Можа, такім быў канец яе жыцця?” – падумаў Затко, але вырашыў не турбаваць князя такімі здагадкамі.

– Чаму ты падумаў, што гэта была яна? – Голас князя дрыжаў.

– О! Я пазнаў бы яе сярод усіх жанчын свету! – усклікнуў Затко. Але ён тут жа зразумеў, што гэта не довад князю. – Ды яна была ў сваёй любімай шэра-зялёнай сукенцы, якая так пасавала да колеру яе вачэй і валасоў! – прыгадаў Затко...

…У князя загуло, закруцілася ў галаве, ён, быццам бы гэта адбывалася цяпер на ягоных вачах, убачыў мякка рассыпаныя па круглых плячах попельныя валасы Дароціцы, якая схілілася над дарожнай скрыняй .

Жанчына падняла галаву. Яе чаруючыя вочы глядзелі на князя ласкава, але хітра.

– Не, гэтую сукенку я апрану, калі вярнуся да цябе. Я не хачу быць прыгожай без цябе, – яна дастала са скрыні свае каштоўныя ўпрыгожванні. – І гэта няхай чакае мяне тут...

... – Вядзі! – загадаў князь дзядзьку.

Затко яшчэ раз перахрысціўся і зашпіліў на худых грудзях ваўняную камізэльку – у сутарэннях было халодна.

Падзямелле мела складаныя заблытаныя шмат’ярусныя пераходы. Князь ад нецярплівасці ледзь не наступаў сам сабе на ногі. Затко, пастарэчы пакрэктваючы, нетаропка вёў князя. З кожным годам абходы замка рабіліся для яго ўсё цяжэйшымі. Нарэшце яны спыніліся. Каля расчыненых у глухую камору дзвярэй Затко саступіў убок, прапускаючы наперад князя.

Лучнік асвяціў белыя каменныя сцены. Падзямелле, дзякуючы вышыні кургана, на якім знаходзілася замчышча, было сухім, але ад настылых камянёў цягнула магільным холадам. Князь нервова павярнуўся да дзядзькі Затко. Ужо другі раз ён сёння паверыў трызненням!

Нечакана паміж князем і лучнікам узнікла чорная жаночая постаць. Канечне, гэта была Уцеха. Яны пакінулі яе наверсе адну і, мабыць, дзяўчына цішком увязалася за князем. Гэта было за ёй, і князь не пярэчыў. Уцеха нейкім чынам заўсёды чуйная да яго настрою бывала то непрыкметнай побач з ім, то вясёлай і ласкавай, але як раз такой, як у гэты момант было яму прыемна.

Дзяўчына хуценька прайшла ў дальні цёмны закутак і застыла як бы да нечага прыслухоўваючыся.

Затко зноў жагнуўся. Менавіта там, дзе стаяла Уцеха, ён бачыў прывіда.

Князь, па-шчырасці, не верыў у прывідаў, бо ніколі не сустракаў іх за сваё жыццё. Ён узяў лучнік з рукі Златко і рушыў у цёмны закутак. Ануча, паднятая ім з рыззя наваленага ў кут не была пыльнай. Князь падчапіў наском бота астатняе рыззё. Чырвоны яблык, што выкаціўся з-

пад ануч быў надкусаны з аднаго боку. Нехта ласаваўся гэтым яблыкам не так даўно, можна сказаць нават, што зусім нядаўна, бо месца адкусу было абсалютна свежым.

– Твой? – запытаўся князь, працягваючы дзяўчыне яблык.

Уцеха не разумела пытанне. Яна не магла засяродзіцца на словах, але яблык не забрала з рук князя.

“Хто ж апроч яе мог толькі што кінуць гэты недакусак? Хіба хто чуў, каб здані грызлі яблыкі? Хопіць займацца пагоняй за ветрам!” – князь на расстанне яшчэ раз паддаў нагой рыззё. Уцеха тут жа нахілілася і, быццам які штукар, выцягнула да святла кавалак хлеба. Князь панюхаў хлеб. Такі хлеб з водарам кмену, мёду, зёлак пяклі толькі ў ягоным замку. Рэцэпт гэтага хлеба даўным-даўно стаўся рэліквіяй княжага роду, і князь сам клаў у замес тое, што надавала хлебу адметны водар. Да таго ж выпечаны тут хлеб ніколі не пакрываўся цвіллю і захоўваў свежасць напрацягу месяца пасля таго, як пакідаў печ. Бясспрэчна, гэта быў ягоны хлеб.

“Ну што ж, ужо лягчэй”, – падумаў князь, працягваючы скарынку дзядзьку.

Затко ўмомант зразумеў князя.

– Але ж тут быў і ейны прывід! – упарта сцвердзіў дзядзька.

Князю было невыносна ад уласных перажыванняў, ад бязглуздых пошукаў немаведама чаго, ад усёй гэтай блытаніны разам з яе таямніцамі. Яму здалося, што ўсе яны тут звар’яцелыя, настолькі неверагодныя карціны малявала ўяўленне. Ён моўчкі павярнуўся і пайшоў прэч.

Калі б князь вырашыў прайсці ўсяго некалькі крокаў убок, дзе праход пад прамым вуглом мяняў свой напрамак, магчыма, што не адной таямніцай зрабілася б меней у ягоным жыцці...

## 4

Там, куды ледзьве далятала рэха крокаў князя і дзядзькі Затко, прыціскаючы сваім целам да каменнага долу звязаную Даруту, ляжаў пан Змога.

Пот, сцякаючы з-пад рэдкай чупрыны, еў вочы. Яму карцела выцерці пот рукавом, але было страшна, што дзеўка скарыстае гэты момант, каб вызваліцца. Яна была незвычайна дужая і калі б Марфа не прыдушвала яе за шыю, пан Змога наўрад ці справіўся б з гэтай дзеўкай. Хаця...

Чуў пан Змога ад людзей – ды хто ў Свіслачах і не чуў таго? – што і стары князь, дзед цяперашняга, быў самым магутным асілкам у тутэйшых мясцінах. Аднойчы, калі ён вяртаўся з Кракава са сваёй світай, пад Бабруйскам на іх напалі бандыты. Князь і з месца не зрушыўся, каб не пэцкаць свой меч крывёй нявартых мяча людзей. Світа памалу радзела ў бойцы і, калі да князя ўтварыўся праход у яе радах, ён вырашыў, што гэта знак і рушыў у наступ. Некалькі мяхоў чалавечых галоў прывёз тады валадар у сваё замчышча. У ветранае надвор’е, уздзетыя на калы вакол умацаванняў замка, яны яшчэ доўга страшылі наваколле посвістам голых чарапоў, у якія пераўтварыліся з цягам часу.

...“Можа, і праўда, князёўна, – падумалася раптам пану Змогу, на якога час ад часу нападалі сумненні. Ад гэтага зрабілася непрыемна, страшнавата. – Князь яшчэ мае такую-сякую сілу і ўладу. А калі даведаецца, што я ўчыніў з ягонай дачкой... – пан Змога не стаў паглыбляцца ў гэтую думку, паколькі яна не абяцала яму нічога добрага. – Ды ці мала бывае

падобных людзей? Вунь, з бандытамі ляснымі прыйшла дзеўка, хіба ж так прыходзяць князёўны?" – вырашыў ён.

– Пранесла... – прашаптала Марфа. – Гэта іх прывяла тая Уцеха-Жданка, каб ёй...

– Чаму не падсыпала ёй зелля якога, каб спала? Князь з дзядзькам, кажуць людзі, добра валодаюць зброяй. Пазабівалі б нас тут і на дно без следу...

– Не думала, што яна ў гэтых сутарэннях бадзяцца будзе ў такую ноч.

– Не думала... – са злосцю прасіпеў Змога.

Марфа не разважала. Яна крыху шкадавала Даруту, якую сама ратавала пад час хваробы, але прага, што вяла свіслоцкую мяшчанку па жыцці, была значна мацнейшая за любыя шкадаванні. Марфа марыла мець гонар шляхцянкі. Пан Змога ведаў прагу сваёй стрыечнай сястры і ўсяляк запэўніваў яе, што за грошы можна ўсё атрымаць, нават індульгенцыю. Такія грошы яны і заробяць, калі ўсё ў іх атрымаецца. Пан на свае прыхамаці не шкадуе выдаткаў.

…Дзякуючы аднаму зручнаму выпадку пан Змога даўно ўжо займеў у замку свайго чалавека, які баяўся яго і іншым разам даваў некаторыя звесткі. Гэта быў стары лоўчы князя. Неяк, аб'язджаючы ў лесе пасткі, лоўчы заўважыў у зарасцях касулю. У пагоні за ёй стары апынуўся ва ўладаннях графа Пржэвіцкага. І трэба ж так, каб на гэты час Змога, які аказваў графу самыя розныя паслугі, разам з былым цівуном вершнікамі праставалі лесам, каб выканаць далікатнае даручэнне ў Шэйпічах. Яны меліся перасекчы ўладанні князя, але мала турбаваліся з тае прычыны. З княжымі леснікамі пан Змога добра ладзіў і, трэба сказаць, абодва бакі мелі ад гэтага ўзаемныя выгоды, калі не лічыць стратаў князя. Не даязджаючы мяжы ўладанняў, цівун і ўгледзеў лоўчага, які з нажом у руцэ схіліўся над параненай касуляй, каб дабіць яе. Цівун пагнаў свайго каня прама на лоўчага. Бізун з налёту апусціўся на плечы старога. Цівун не спяшаўся валіць з ног сваю ахвяру, мабыць, хацеў паказаць сваё майстэрства і стараннасць уплывоваму пану Змогу. Бізун свістаў у паветры, то вырываючы кавалкі адзежыны лоўчага, то ўзрываючы мох і кустоўе буякоў абапал старога, не даючы яму выйсці з кола, якое ўтваралі хуткія ўдары. Астатнія лахманы на плячах лоўчага былі ўжо ў чырвоных плямах крыві, калі, даведзены да адчаю, ён злаўчыўся паднырнуць пад каня цівуна і, адным махам выхапленага нажа, па-ранейшаму заціснутага ў руцэ, паласнуў па раменьчыку над дужкай страмёнаў. Цівун, які прыўстаў у страмёнах, каб патрапіць бізуном па лоўчым, страціў апірышча і выкуліўся з сядла на нож у руках старога. Пан Змога ўсё гэта назіраў крыху воддаль, гатовы не прапусціць момант удачы, каб раздзяліць перамогу, або той момант, калі яшчэ не позна прышпорыць свайго каня. Ён ужо і хацеў зрабіць апошняе, як убачыў, што лоўчы ў разгубленасці апусціўся побач з цівуном і занепакоена перакуліў яго на спіну. У шыі цівуна тырчэў нож.

– Так… забойства свабоднага! – Грозна, але па-ранейшаму здалёк, засведчыў пан Змога.

Лоўчы быў не ў сабе – узяць такі грэх на старасці! Ад роспачы ён абхапіў сваю сівую галаву скрываўленымі рукамі. Седзячы побач з цівуном, ён, хістаўся на месцы, нібыта хацеў закалыхаць усё, што надарылася тут.

Змога імгненна скеміў, што можа мець пэўныя выгоды ад чалавека, якому давярае князь.

– Шчыра шкадую, што ўсё так атрымалася. Але гэты цівун – не касуля, а звер, драпежны звер! Не шкадуй яго. Вось толькі што будзе, як даведаюцца? І забойства, і паляванне ў графскім лесе… – пранікліва пачаў пан Змога і замаўчаў, каб лоўчы пачуў, усвядоміў усё да рэшты, зразумеў, што нябеснаму пакаранню папярэднічае зямное.

Лоўчы памалу вяртаўся свядомасцю на вільготную ад блізкага балота зямлю, расквечаную расплывістымі плямамі крыві.

– Шкада цябе... – Змога падбіраўся накінуць захлыску, якую спланаваў ужо ў думках. – Плюнь на гэтую падлу! Ніхто апроч нас не ведае, што тут адбылося. – Змога ўважліва сачыў за старым, які, здавалася, ужо слухаў яго. – І што, калі прыгадаць, адбылося такога? Ну выправіліся мы з цівуном у Шэйпічы. Я крыху адстаў па патрэбе. Неўзабаве чую нібыта бойка ідзе на мяжы ўладанняў, прышпорыў каня свайго. Калі даскакаў да гэтага месца, дык толькі і ўбачыў яго з дзіркай у шыі, аленя зарэзанага, зямлю ўздзёртую ды кроў абапал. Ворагаў у цівуна шмат…

Лоўчы не верыў яму, але глядзеў з надзеяй.

– Не такі пан Змога, каб шкоду каму рабіць! Так што, ідзі, чалавеча, з мірам! Ідзі, ідзі адсюль хутчэй! – больш дакладна патлумачыў сваю думку Змога.

Лоўчы разгублена азірнуўся.

– Ды ты, не бойся! – падахвоціў яго Змога.

Калі непрыкметным, як бы слізкім, рухам лоўчы знік у бліжэйшым кустоўі, пан Змога наступіў на шыю цівуна і з цяжкасцю выцягнуў за рабрыстае дубовае дзяржальна шырокае акрываўленае лязо, якое тут жа старанна выцер аб адзежыну загінулага. На чыстым лязе выступілі напаўсцёртыя выявы выгравіраваных па ім качак.

“Прыкметная рэч, – задаволена адзначыў сабе пан Змога, хаваючы нож у скураную торбу, прымацаваную да сядла, – выкрые лоўчага адразу”, – ён вырашыў не лавіць каня цівуна, каб хутчэй дабрацца да маёнтка з навіной.

Узмылены конь хістаўся,, калі пан Змога саскочыў з яго на падворку маёнтка.

Граф, якому былі даспадобы вострыя перажыванні, прымусіў пана Змогу некалькі разоў паўтарыць свой расповед. Урэшце з няўцямнага, блытанага на пачатку пераказу лясной падзеі атрымалася красамоўная гісторыя бойкі пана Змогі з бандытамі і гераічнай гібелі цівуна.

Імя лоўчага не было моўлена.

Зазіраючы наперад, можна ўбачыць няшчаснага старога, які шчыра служыў на сваім вяку ўжо другому князю, але пасля гэтага здарэння заплаціў спакоем сумлення на ўсю кароткую рэшту свайго жыцця. Пан Змога не гвалціў яго ніякімі даручэннямі, нават не прыгадваў таго, што адбылося на лясной прагаліне. Ён проста, нібыта па-сяброўску, заходзіў наведаць лоўчага, хаціна якога месцілася на пад’ездзе да замчышча, хоць і бачыў, што той ненавідзеў гэтыя візіты, падчас якіх за гаворкай выкрывалася тое-сёе з жыцця княжага двара.

Па настойлівай просьбе пана Змогі лоўчаму давялося параіць для догляду за Уцехай цыбатую Марфу, сваячку пана Змогі, якая з юначых гадоў служыла ў плябана. Там яна паводле вострых языкоў свіслачанаў выконвала ўсе жаночыя абавязкі, што тычылася як гаспадаркі, так і самога плябана, ад чаго каталіцкі святар зусім не зрабіўся бліжэйшым да святасці. Калі плябан сканаў, Марфа каменем павісла на шыі пана Змогі. Але ж цяпер, пільнуючы неспакойную Уцеху, жанчына ўжо няблага арыентаваўся ў хітраскладзеных мурах замка. Падаць сігнал у горад было вельмі проста, дастаткова Марфе апоўначы запаліць якое цяпельца ў яе каморы, што выходзіла акном да брамы, каб Змога ведаў: у ім пільная патрэба…

...Пасля размовы з графам Пржэвіцкім пан Змога ледзьве дачакаўся цёмнай пары, каб накіравацца да лоўчага. На ўсякі выпадак, каб прыстрашыць старога, ён нават прыхапіў з сабой нож лоўчага, выцягнуты з шыі папярэдняга цівуна. Пан Змога трымаў каня збоч ад брукаванкі, каб той у цемнаце не паслізнуўся раптам на слізкай ад дажджу і апалай лістоты брукаванцы. Нечакана загрымелі абкладзеныя металам колы падводы, якая ўз’ехала на дарогу. Змога стаіўся. Калі падвода параўнялася з ім, радасна пацёр рукі. Змога пазнаў лоўчага і скіраваў свайго каня да падводы.

– Пан Змога! – жахнуўся стары.
– Не чакаў мяне, бачна!
– Ды спяць ужо ўсе, каго тут чакаць?
– Мы вось з табой не спім і ў замку, мяркуючы па агнях, што запалілі там, не спяць. Цябе чакаюць?
Стары стамлёна ўздыхнуў. Ён не мог уцяміць, што поначы патрэбна тут гэтаму чалавеку, які наровіць заступіць яму дарогу.
– Дзіка вязу. Праз некалькі гадзін прыйдуць кухары, адразу і разбяруць яго.
– Выбачай, бачу натаміўся за дзень. Мне ў замчышча трэба. Марфу забраць, каб паспела заўтра апоўдні ў Бабруйск на пахаванне родзіча свайго, можа, якая спадчына перападзе ёй, сіраце, на жыццё. – Змогу не палохала ягоная хлусня, бо не ведаў ён ніякіх родзічаў Марфы, а, калі, дзякуючы графу, з'явяцца ў яго з Марфай якія грошы, дык лоўчы можа прыгадаць цікаўным свіслачанам, адкуль тое ўзялося.
– Уночы? – здзівіўся лоўчы. – Князь ведае?
– Адкуль ён можа ведаць, калі я сам толькі што ўведаў? Ды і Марфе тое навіна.
– Добра, я праз кухара перадам Марфе, няхай просіць дазволу, князь позна кладзецца.
– А раптам спалохаецца? Ды і хто князю засведчыць, калі пытанні будуць? Правядзі мяне на кухню, там і яе пачакаю, і князю, як што, адказ дам.
Лоўчы адчуў, што трапіў у пастку. Ён не давяраў пану Змогу. Але пачалавечы, як тут не дапамагчы? Сам пасівеў ужо, ці знойдзецца хто, каб праводзіць яго ў апошні шлях? Жонка апярэдзіла, сыны служаць менскаму ваяводу... На кухню? Чаму б і не?..
Па дарозе Змога прадбачліва, каб не прыцягваць да сябе ўвагі напрасіўся навязаць свайго каня каля былога гумна наводшыбе сядзібы лоўчага, мяркуючы, што прымусіць старога дапамагчы яму вывезці дзеўку з замчышча. Хаваючы позірк, ён нацягнуў на лоб лямцавую магерку, ды, нібыта з нагоды халаднечы, прыхапіў з-пад стрэшкі гумна шэрую ваўняную світку. Ён некалькі разоў бываў у замчышчы, але тады сваёй звычайнай апраткай болей адпавядаў шляхціцу. Наўрад ці яго там памятаюць. Ды, па-праўдзе, свіслачанаў ён не цікавіў. Ціхі, утойлівы бабыль, які зрабіўся шляхціцам і атрымаў чын харунжага, дзякуючы таму, што некалі падаўся ў войска. Амаль адразу пасля кантузіі быў вызвалены ад службовых абавязкаў. Пра кантузію ён тут нікому не апавядаў. Ды і што апавядаць? Проста бачыў кантужанага і хапіла розуму падрабіцца...
– Беражонага Бог беражэ, – прашаптаў сабе Змога, нацягваючы паверх свайго куцага жупана сялянскую світку.

...На раніцу, калі кухары возьмуцца за працу, лоўчага знойдуць у самай вялікай печы...

Марфа перахрысцілася, мінаючы гэтую печ. Вернага служаку ні пагрозамі, ні за ўзнагароды не здолелі яны прымусіць дапамагаць ім. Напэўна, яны і забілі б яго, каб не падняў трывогу ў замку, але стары нечакана памёр сам.
У прасмаленай торбе, якую сцягнулі з забітага дзіка, скурчаная, пераціятая вяроўкамі, з кляпам у роце ляжала Дарута. Ад гэткага гвалту над ёй, ад аглушальных удараў крыві, што з цяжкасцю прабівалася сваімі шляхамі ў целе, ад задушша і немагчымасці павaрушыцца дзяўчына ледзьве не губляла прытомнасць. І толькі намаганнем волі старалася не прапусціць

нічога з таго, што рабілася навокал. Па колькіх словах, якімі перакінуліся яе гвалтаўнікі, Дарута зразумела, што гэта ўсё дзееецца без ведама князя.

Змогу на гэты час хвалявала іншае: як часта мяняецца пароль у замчышчы. Ён пачуў той, што мовіў варце лоўчы. Ад таго часу прайшло, мабыць, крыху болей за гадзіну.

“Як часта мяняюць тут пароль? Раней было ранкам ды на ноч, казала Марфа. Цяпер, у ваенны час, несумненна. часцей..” – Змога ўздыхнуў. Заставалася спадзявацца.

Падвода, на якой яны з лоўчым прывезлі маладога дзіка, стаяла на падворку. Змога скінуў з плячэй на падводу смярдзючую торбу. Марфа адразу села на задок падводы і на ўсякі выпадак навалілася целам на мех.

– Не ўзялі дзічыну? Што надарылася? Дзе лоўчы? – падзівіліся на варце, не зважаючы на правільны пароль.

– Ці не зашмат пытанняў да мяне? Задайце іх князю! І давайце хутчэй, бо адказваць будзеце перад ім! – Змога ішоў напралом.

– А жанчына?

– Я сказаў – пытанні да князя! – штомоцы гыркнуў Змога, вылупляючы вочы.

Начальнік варты вагаўся. Турбаваць князя ў такую ноч было страшнавата. Затрымаць да раніцы яшчэ страшней, калі нейкія планы князя ад таго парушацца. Ды і пароль ведае чалавек. Невядома якое рашэнне прыйшло б яму ў галаву, калі б, устаючы на дыбы, б’ючы капытамі ў браму, не ўсчыніў вэрхал нейкі чорны д’ябальскі конь.

– Прапусціць! – рашыўся начальнік варты, спадзеючыся займець выдатнага каня, які сам просіцца ў рукі.

Браму хутка адчынілі, спусцілі мост.

Конь, які шалёна ўварваўся на падворак, раптоўна сцішыўся каля падводы, толькі пераходзіў з аднаго яе боку на другі, каб не дацца вартаўнікам.

Змога пазнаў Чарлі з графскай стайні і не мог даўмецца, што трэба тут гэтаму каню. Але было не да роздумаў. Ён у думках падзячыў каню і падвода імкліва знялася з месца. І тут ад жаху ў Змогі перахапіла дых – Чарлі наўскач паляцеў следам за імі. Варта, незадаволеная такім паваротам падзей, узняла крык.

Змога, не шкадаваў упрэжанага каня лоўчага. Падвода цудам не перакулілася на першым павароце брукаванкі. А з княжага двара з гіканнем ужо імчала пагоня.

“Толькі б не зламала гэтае быдла ногі! – бязлітасна паганяючы каня, маліўся Змога. – Толькі паспець бы да касцёла! – Жахаўся ён блізкай пагоні. Там, пад сценамі касцёла, яго чакала панская дворня. Напэўна, гэта ўваходзіла і ў планы пана Бога, бо хутка Змога ўгледзеў цені вершнікаў, якія аддзяліліся насустрач ім ад муроў касцёла.

– Сюды! Памажы-ы-ы-ыце! – загаласіла Марфа, ускладаючы апошняе спадзяванне на людзей графа. Конскі тупат ужо наганяў іх, калі скрыжаваліся шаблі двух атрадаў. Відавочная перавага была на баку людзей графа: дванаццаць вершнікаў супраць сямі бывалых ваякаў князя.

Княскія ваяры нічога не разумелі: людзі графа абаранялі падводу і, суправаджаючы яе, зусім не прагнулі бойкі, якая мела б усе шанцы пакінуць перамогу за праціўнікам.

Ваяры спыніліся. Ад маёнтка аддзяліўся яшчэ адзін атрад. Заставалася ў апошнім запале адзіна праводзіць позіркамі падводу, абрысы якой паступова размываліся ў імжы.

## 5

Граф сам сустрэў атрад уцекачоў. Яму карцела зірнуць на здабычу, але Змога запатрабаваў плату. Іншым часам можна было б і адтэрмінаваць яе, каб не дворня, якая, што вачуная гайня на важака, дапытліва цікавала за ім. Граф не верыў у адданасць сваіх людзей ды і ўсіх астатніх таксама, але ад шчодрасці, якую зараз ён выкажа, залежала іхняя стараннасць. Усё-ткі гэта была чужая зямля і чужыя людзі.

Граф ацаніў момант і паволі сцягнуў са свайго пальца сыгнет[13].

– Пан Змога! Я прызначаю цябе маім аконамам[14]! Лічы, казнакрадам, сам возьмеш, што табе належыць, – жартам, але са злосцю дадаў граф. Ён прыехаў сюды выправіць свае грашовыя справы, а ўсе прагнулі грошай якраз ад яго.

Дворня дружна зарагатала. Людзі разумелі адно другога, чаго ж таіцца!

Граф хутка прайшоў у кабінет, куды следам за ім зацягнулі торбу з Дарутай.

Тое зліплае, з заткалам у роце, што выкулілася на падлогу са смярдзючай торбы, глыбока расчаравала графа, бо ніяк не стасавалася з яго ўяўленнем пра князёўну і яшчэ меней з малюнкам у медальёне. Ён нават хацеў загадаць аднесці гэтае стварэнне ў склеп. Але ў ім азваўся выхаваны каралеўскім дваром прыдворны.

– Развязаць! Віна ёй!

Слугі імгнення выканалі загад. Змога адступіўся да дзвярэй. Ён з жахам чакаў, што дзеўка зараз кінецца на іх, а яе недзявочая сіла была яму ўжо вядомая. “Але не мая справа ўмешвацца зараз. Што абяцаўся выканаў, сваё атрымаў. Нават лепей, каб яна цяпер вырвалася адсюль! – падумалася раптам. – Ніякага клопату доказваць, што князёўна, – пазіраючы на Даруту, якая кулём ляжала пад нагамі слуг, на ейную, калісьці гожую, а цяпер падраную, заплямленую скарэлай крывёю сукенку, пан Змога ўжо не верыў у “князёўну”. – І дзе толькі паранілася, гэтая падла? Стараліся ж з Марфай не пашкодзіць, а тут... Рэгулы! Марфа ж казала, што рэгулы ў яе!” – згадаў ён.

Дарута радавалася вольнаму дыханню, глытку віна, якое нехта ўліў ёй у рот. Яна расплюшчыла свае вялізныя, крыху раскосыя зялёныя вочы і першае, што сустрэла, насмешлівы, зацікаўлены погляд высокага, хударлявага чалавека, на лоб якога падалі саламяныя кудзеркі, напэўна, рэдкіх валасоў. Штосьці ў постаці і насмешлівасці чалавека здалося ёй знаёмым, але яна не дадумала тое.

– Прашу, паненка! – граф падаў ёй руку, дапамагаючы падняцца. Другой рукой ён заціснуў свой нос карункавай хусцінкай.

Ад хусцінкі, якая апынулася побач з яе тварам, сыходзіў незнаёмы Даруце, але прыемны пах.

Граф клапатліва пасунуў да дзяўчыны крэсла, якая з цяжкасцю паднялася на ногі, спакойна і ўважліва аглядаючы пакой па-над галовамі прысутных. У яе ўпэўненасці графу пачулася прыроджаная веліч. Можа быць, ён сустракаў яе ў Варшаве? Вавелі? Ці Львове? Празе?.. Перабіраючы ў памяці жанчын, якія трапляліся яму ў яго прыдворным жыцці, ён не знаходзіў там падобных да гэтай зялёнавокай дзяўчыны, якую паспеў разгледзець у атачэнні яе раскудлачанага шызага валосся, і, разумеючы жаночае хараство, быў цяпер прыемна ўражаны. Ён нават не падумаў, што на пару ягонага прыдворнага жыцця яна была яшчэ маленькай дзяўчынкай. Але, Матка Боска, які смурод ішоў ад яе!

– Вы што, пан Змога, трымалі князёўну сярод падлы? – з’едліва і раздражнёна запытаўся граф, якому смурод замінаў наблізіцца да дзяўчыны.

– Пан граф!.. – пакрыўджана выгукнуў Змога, не рашаючыся пярэчыць, але ж і не адчуваючы сваёй віны.

Дарута не магла паверыць у тое, што пачула. “Князёўна? Ды вось чаму яе выкралі ў князя! Палічылі за князёўну!” – яна гучна засмяялася, бо вельмі недарэчна і нават бязмозгла было ўсё гэта ў дачыненні да яе.

Граф ажно скалануўся ад нечаканага смеху Даруты. Жахлівы крык і раптоўны смех прыгоннай, на якую яны з дзядзькам зладзілі вясельнае паляванне, часам урываўся ў ягоныя сны і нават мроіўся, звінеў увушшу сярод белага дня. Граф пільна ўгледзеўся ў вочы князёўны. Яны свяціліся розумам, гумарам, адчуваннем перавагі над ім, усімі прысутнымі і нават спачуваннем да іх. Граф з палёгкай уздыхнуў.

“Чыста князёўна!” – падумаў Змога, ніякавеючы ад погляду сваёй нядаўняй паланянкі.

У графа іншага і ў думках не было.

– Прабачце, што вымушаны быў выкарыстаць сілу, каб убачыць вас, каб зазірнуць у вашыя вочы і ў сваё сэрца. Прабачце, князёўна. Але вы хутка ўпэўніцеся, што гаспадыня тут вы, а я ўсяго толькі ваш слуга. Вы не пашкадуеце, паверце мне, – граф прыпыніў дыханне, асцярожна цалуючы руку Даруты, якая ледзьве стрымала сябе, каб не азірнуцца на гэтае “вы”...

…Дарута ўжо амаль забылася на тую пару, калі яшчэ дзяўчынкай, зімуючы з Марухнай у высакародных гаспадароў прызвычаілася было да “выкання”. Але гэта было даўно. Апошнія гады яна не памятала, каб хто з чужых людзей гэтак звяртаўся да яе. Хіба што Марухна. І тое, калі яны заставаліся адны. Маці так важна ўмела часам дапякаць яе за якую правіну: “Вы ўжо не маленькая, Дарута, але яшчэ не навучыліся стрымліваць сябе. Вашыя ўчынкі не адпавядаюць вашаму гонару…” Гэтыя вымовы не столькі палохалі, колькі насцярожвалі Даруту. Ёй здавалася, што маці тоіцца, нешта не дагаворвае. Марухна часам, жартуючы, называла яе “вы мая маленькая князёўна”, ці падхвальвала – “мая вы каралеўна”, але тое было як бы жартам, гульнёй, ды і “каралеўны” тыя гучалі больш у калыханках і, вядома, ад матчынай любові…

...“Матчынай... Не маці...” – скаланулася яна ад відовішча сваёй памяці.

Дарута не слухала графа. Вось ужо што-што, але яшчэ ніхто ніколі не цалаваў ёй рукі.

Граф, які адразу выклікаў у яе гідлівасць сваёй нервовай гаворкай з пырсканнем сліны, сваім прыкметна аблыселым чэрапам і тонкімі, няўстойлівымі нагамі ў жаночых панчохах, хаця і ўпаў гэтым цалаваннем яшчэ ніжэй у ейных вачах, але выклікаў нечаканы прыліў цеплыні. Магчыма, віной таму былі ягоныя па-дзіцячы мяккія, рэдкія, духмяныя кудзеркі, якія ласкава крануліся яе твару, калі ён схіліўся над рукой Даруты.

– Ці жадае паненка князёўна перамяніць туалет, узяць ванну? – граф злавіў вокамгненную цеплыню і пагарду ў вачах князёўны. Але ж тут ён мае французскую ванну Левеля – зайздрасць усяго тутэйшага панства з іхнімі драўлянымі чорнымі лазнямі! А яна і не падзівілася нават! Дзева Марыя! Ён гатовы быў падпарадкавацца гэтай незразумелай, незвычайнай, спакойнай і смяшлівай дзяўчыне! І не так, як жонцы, баючыся яе слёз ці гневу, а проста таму, што інакш не мог, не жадаў.

Дарута раптам успомніла, што ўсё гэта няпраўда, што ніякая яна не князёўна. Яшчэ яна ўспомніла, што, казалі, нібыта гэты пан меў звычку

памыць дзеўку, прыгожа апрануць, а потым цешыцца з ёю паперад маладога мужа. Яна спахмурнела.

– Паклічце пакаёўку Паляну! – таропка загадаў граф і ласкава звярнуўся да дзяўчыны. – Князёўна, выбачайце! У гэтай глухмені я нават забыўся прызначыць вам пакаёўку! – ён зноў нахіліўся да яе рукі, але Дарута прыціснула яе да сваіх грудзей і паднялася.

– Ды вось, мая сваячка, яна даглядала князёўну ў замку! Навошта яшчэ каго! – уклініўся Змога, выпіхваючы наперад Марфу, якая хавалася за ягонай спінай.

У гэты момант у дзверы кабінета асцярожна зазірнула сонная дзяўчына, якую толькі што паднялі з пасцелі графа.

Паляна, паціраючы вочы, нясмела наблізілася.

– Служы князёўне! – загадаў граф, пакідаючы без адказу прапанову Змогі. – Калі паскардзіцца, жывот пакладзеш. – прашыпеў ён у здзіўленыя вочы прыслужніцы, якая ніяк не магла даўмецца, што князёўнай пан мянуе нейкае скамечанае, незразумелае, стварэнне побач з ім..

Вымытая, расцертая пульхнымі далонькамі маладой жанчыны, Дарута дзівілася той лёгкасці, з якой прымала паслугі пакаёўкі. Апранутая на ноч у батыставую з атласнымі стужкамі і тонкімі карункамі кашулю, яна засынала на пуховай пасцелі з думкай, што ўсё гэта было раней у яе жыцці, хутчэй нават не ў жыцці, а яшчэ да яго, у тым святым раі, пра які вечарамі апавядала ёй Марухна.

“Не маці... князь...” – пачулася над вухам. Дарута ўсхапілася. Ёй неабходна быць у князя!

Але пасцель была такая ўтульная, а княжы замак сустрэў яе так непрыветна.

“Заўтра... потым...” – прамармытала сабе Дарута, падаючы адначасова ў сон і ў ложак...

*(Працяг будзе).*

---

[1] Андарак – доўгая шырокая саматканая спадніца.

[2] Прыцэўкі – запясці.

[3] Рала – адгаліненне ствала дрэва, тоўсты сук.

[4] Абрубель – строма, круты абрыў.

[5] Панарад – калёсы.

[6] Цягло – сродкі цягі ў сельскай гаспадарцы.

[7] Царская слабада – у дадзеным выпадку маецца на ўвазе ваколіца горада, дзе размясцілася царскае войска.

[8] Стацыя – феадальная павіннасць сялян і мяшчан ВКЛ на ўтрыманне вялікага князя і яго світы ў час выканання ім судова-адміністрацыйных функцый на месцах.

[9] Мот – сетка, якая звычайна выкарыстоўваецца для адлову жывёлы

[10] Баяры – у дадзеным выпадку маюцца на ўвазе сяляне-слугі, якія неслі вайсковыя абавязкі ў феадала.

[11] Непахожыя людзі – феадальна-залежныя сяляне ў Вялікім княстве Літоўскім у 15-17 ст., якія, у адрозненне ад пахожых, былі пазбаўленыя права пераходзіць ад аднаго феадала да другога.

[12] Ворап – разбой, рабаванне, гвалт.

[13] Сыгнет – пярсцёнак-пячатка.

[14] Аконам – кіраўнік панскай гаспадаркі.

Фелікс Баторын



...Пакуль растане свечка,
Паспее ноч растаць...

# Чаёўня Левензона

* * *

Я складаю вершы, як камлаю
Ці як варажу, даруй, Гасподзь.
Я – паэт: мяне сам Бечык лаяў
(Хоць, сказаўшы праўду, мімаходзь).

Я вымаю небылі і былі
З кубела, які не мае дна.
Ах, як шмат жанчын мяне любіла!
(Праўда, закахалася адна).

З ёю мы жывем паўвека (жарты!),
Ля яе душа мая пяе.
Нечага на самай справе варта
Тое, што пішу я для яе.

Для яе жалобу і жадобу
І ўвесь белы свет апець я змог.

І калі вам нешта даспадобы,
Ёй паклон за гэта, далібог!

## *НАСТАЛЬГІЧНЫ ЭЦЮД*

Мне шмат гадоў – а мо стагоддзяў? – сніцца
Вясёлая зялёная сініца.
Яна дзяўбе чырвоныя суніцы.
Але ж сініцы ягад не ядуць?
Я помню, мама мне калісь казала:
– Сініц зімой падтрымлівае сала.
І сала да галінкі прывязала,
І я глядзеў, як радасна дзяўбуць.

А ж раптам – во: чырвонаштанны дзятлік.
Спярша кружыў, ныбы над свечкай мятлік,
А потым наваліўся, як сцярвятнік.
Аднак сінічак ён не распужаў.
Разгойдвалася сала, як арэлі.
А птушкі елі весела, дурэлі,
Адно "штаны" чырвоныя гарэлі
Сярод сініц зялёных, як пажар.

Але са сну дзівоснага сініца
Дзяўбе са смакам спелыя суніцы,
А ў іншым сне – барвовыя брусніцы
Альбо пунсовы россып журавін.
Яна дзяўбе, дзяўбе без перапынку,
І робіцца мне ў роце поўна слінкі,
Я адчуваю слодыч і кіслінку –
І зноўку мамін я маленькі сын.

Мы з мамай часта ў дальні лес хадзілі,
Як ліхаманцы ягаднай гадзілі.
Я думаю, карэньчыкі пусцілі
Мы ў гэтым лесе сто эпох таму...
Калі душу ірве цвярозасць явы,
Усе яе крывавыя праявы,
У віры іх знядужаны раззява,
Я аж да слёз зайздрошчу сну свайму.

*25.05.2021 на лецішчы*

## *ЧАЁЎНЯ ЛЕВЕНЗОНА*

У чаёўні Левензона
Не бывала без шансону:
Тут спяваў Арнольд Кірбліцкі
(Для сяброў Арон Кірблат).

Ён казаў сваім клязморым[1]:
– Чарвячка хіба заморым! –
На замор ішло па гусцы
(Быў няхілы чарвячок!).

Пасля чаркі і закускі
Спеў габрэйска-беларускі
Сэрцы добраму паў-Мінску
То шчыміў, то весяліў.

У чаёўні Левензона
Не бывала несезона.
Тут заўжды было завозна:
Кожны дзень сядзеў народ –

І сярмягі, і пагоны,
Пан гуляў і кмець ягоны,
Паліцмайстар і паштмайстар,
Бондар, лекар, канавал.

Тут я ў дужках пазначаю:
У чаёўні – не без чаю.
Чай духмяны быў і моцны –
Крамбамбулі рады дасць.

А пад чай не сушак нейкіх –
Штрудаль вынесуць ці лэйкех[2] .
Смачна – пальчыкі абліжаш
(І свае, і дзеўцы той)!

У чаёўні Левензона
Хто з грашыма, той – персона.
А ў каго ў кішэні вецер,
Той каштуе спіты чай.

Хто ж каштуе чай той спіты,
З ног заўжды бывае збіты.
І для гэткіх у чаёўні
Утульная бакоўка ёсць...

Сёння ўсюды рэстараны.
Там частуюць не пагана.
Але той старой чаёўні
Левензона ўсё-ткі брак.

*25.05.2021 на лецішчы*

---

[1] Клязморы – габрэйскія музыкі.
[2] Штрудаль – яблычны пірог, лэйкех – мядовы.

* * *

*Я нарадзіўся, ён памёр.*

**Валер Ягораў**

Ён народзіцца – я памру.
І душа паляціць угару.
У каторы раз – хто падлічыць –
Вецер часу лістоту клычыць
На разгалістым дрэве жыцця?
А пад кожным лістком куцця.

## ЛЕТНІ ДОЖДЖ

З лавак дождж прагнаў бабуль
І – па лужынах: буль-буль!
Ён ідзе
Па вадзе
Анікуды ніадкуль.

Дождж ідзе – і я іду,
Як і ён, тапчу ваду.
Чаравікі –
Чвякі-чвікі –
Прамакаюць на бяду.

Я скідаю іх: ну што ж,
Будзем тупаць басанож.
Мокрадзь, золь...
Грошай – ноль –
Хоць дзялі, а хоць памножю

Дождж прайшоў – цяплынь ідзе.
Скачуць зайкі па вадзе.
Трэба мала,
Каб заззяла
Ўсмешка ў Бога ў барадзе.

* * *

Душэўны стан зрабіўся іншы –
Пачуццяў плынь і думак ход.
Я выпаў з адзінотнай нішы
У зыркі сонечны ўзыход.

Праменьчык па-заечы скочыў
На хваляй вымыты пясок,
І раскрычаўся па-сарочы
На нізкім беразе лясок.

Было ўсё зыбкім і трывалым:
Святло бярозы, цень куста.
Скрозь непахісна царавала
Багіня свету – прастата.

* * *

Маю сястру вучыла мама
Старое латаць, цыраваць,
Шыць новае, каб нібы з крамы,
Каб зайздрасцю душы не рваць.

Інакшы свет іначай вучыць.
Багата ўбраных зайздрасць мучыць.
Круцельства ў нас за дабрадаць.
А шчасця нешта не відаць...

## *МАЖОРКА*

Знак прыналежнасці да сфер,
Да найвышэйшых вокан –
З яе пярсцёнка салітэр
Глядзіць халодным вокам.

Плячэй пыхлівы разварот
І выгін броваў вузкіх,
І белазуба хіжы рот
З пагардаю на вуснах.

Усё ў гармоніі ў яе:
Прычоска, твару выраз,
У выглядзе стралы калье,
Нацэленае ў выраз.

Грудзей у станік не схаваць –
Яе казырнай карты...
Ёй толькі рота раскрываць,
Каб штось сказаць, не варта.

## *Я ЗАБЫЎСЯ*

Я забыўся на Вас, каб Вы ведалі,
Кожнай думкай і кожным радком –
Як на поплаве мы абедалі
Чорным хлебам і малаком.

Я не помню вачэй Вашых колеру,
Я не помню шэпту свайго.
І фацэта ў руцэ з ляўкоямі,
Што Вас звёў, – я не помню яго!

## ВЕРШ З ЭПІГРАФАМ

*Харчуецца халуйскі люд*
*Лізаннем ягамоцкіх блюд.*

**Себасцян Брант,**
"Карабель дурняў", 1494 г.

Шматлікіх начытаўшыся газет,
Шкадую я, што сённяшні клазет
Паперай адмысловай забяспечаны
Й газеты не ўжывае пакамечанай.

Наслухаўшыся радыё й ТБ,
Пачаў я моршчыць скуру на ілбе:
Выношваць я пачаў задумку шчырую
Народ пацешыць з'едлівай сатыраю.

Але прыйшоў я ўрэшце да высновы:
**Эпіграфа аж з лішкам дастаткова.**

* * *

Сяду я ў вагон апоўначы,
У апошні міг ускочу –
І цягнік на Асіповічы
Паляціць і загрукоча.

Буду я, сябе не помнячы,
Проста ў ноч імчацца вечна
Мо зусім не ў Асіповічы,
А ў Бабруйск ці Маладэчна.

Дзе мяне вы ўсё ж застанеце,
Бліз якога перагону?
Ці ж ідзе пра назву станцыі,
Нумарацыю вагонаў?

Ваш натоўп па сэрцы топчацца
І сабой прастору поўніць.
Мне не хочацца, не хочацца
Вас ні бачыць і ні помніць.

Столькі вас наўкол насаджана,
Як сабрана ў свеце цэлым,

Каб замазваць чорнай сажаю.
Дзе чырвонае на белым!

* * *

Б’ю чалом, прабіваю ілбом,
Здабываю грудзьмі і гарбом.
Я з людзьмі з падабенствам людзей
Гавару без вялікіх надзей.
Валюхаюся, крочу, іду
І пісьмёны кладу на ваду.
То з бяды застагну, то з нуды.
Чырванеючы, стынуць сляды.

* * *

А дзіцятка ёсць дзіцятка –
Цацачны караблік:
Ваўчанятка, тыгранятка.
Кракадзільчык. Д’яблік.

* * *

Як сугучча галля і сучча
З ветрам: нізам і верхавым –
Як двувочча, двуножжа, двуручча,
Роднамоўе трэба жывым.

Чужамоўе – як аднаножжа,
Як вялізнай гары падножжа:
Праз гадзіны, дні ці гады,
А лавіны і сель – сюды.

І пахаваюць.

* * *

Час – не гадзіннік, якому наладжваюць ход,
Гіру навесіўшы альбо напяўшы спружыну –
Мае ані неаслабны заўсёдны завод,
Вечнасць за вечнасцю лічыць ён, а не гадзіны.

Нас не заўважыць ён нават у змене эпох.
Мы ж не ахопім ні думкай яго, ні вачыма.
Хто ж не хвіліннае спраўдзіць, а вечнае змог,
З памяці часу не знікне без следу. Магчыма...

* * *

Бярозава-бела, саснова-бурштынна
Збіраецца вогнішча ў лоўж.
Затым разгараецца – шэрае – дымна,
Паўзе ў ім аранжавы смоўж.

А потым – атожылак сонца жывога,
Што іскры шпурляе ў зеніт,
І спеву траскучага, радасна-злога
Завабны гарачы магніт.

А следам чырвона-блакітнага жару
Бульбяніста-смалевы пах
І попелу буры, і белы, і шары
Саляны апёк на губах.

А ранкам, забраўшы ў дажджлівае ночы
Усю, што была, чарнату,
Вуголле жалобнаю кучаю вочы
Засмокча па дно ў пустату.

### *ПАКУЛЬ РАСТАНЕ*

Пакуль растане свечка,
Паспее ноч растаць,
Усход адчыніць вечка,
Каб сонейка дастаць.

Пакуль жа ноч растане,
Растаць паспее снег
І з капяжоў паўстане
Вясёлы гімн вясне.

Пакуль адтане сэрца,
Растане цэлы лёс –
І нацячэ азерца
Салёна-горкіх слёз.

Спатоліць схочаш смагу,
Але ў азерцы соль...
Ля ног тваіх я лягу,
Сабой прыкрыўшы боль.

А з-пад яго крынічка
Салодка зацурчыць.
Там, нібы мёд, вадзічка,
А ўсё ж такі гарчыць.

## СМЕЦЦЕ І ЗОЛАТА

Смецце ў нас у крамах,
Золата – на сметніку.
Бог у нашых храмах
Толькі для прыметнікаў:
Ўсевідушчы, Усячутны,
Ўсюдыісны, Ўсемагутны,
Усяцерпны, Усядайны.
А за храмам свет звычайны,
Дзе па брамах –
Жабракі на мыліцах,
Смецце ў крамах,
Золата ў памыйніцах.

## У ЧАСЫ РАСПРОДАЖАЎ І РЭКЛАМ

У часы распродажаў і зніжак,
Постаў-перапостаў і рэклам
Не чытаюць людзі добрых кніжак,
А калі чытаюць – кніжны хлам.
А паэты, ў геній свой паверыўшы,
Пішуць вершы, вочы ў неба ўперыўшы,
Галасы змарноўваюць у гаме
І не бачаць ямаў пад нагамі.

## НЕПАТРЭБШЧЫНА

*Чатыры мандаліны*
*І скрыпачка адна,*
*Чароўныя хвіліны*
*Над келіхам віна.*

**Л. Дранько-Майсюк**

Не хацеў бы расчароўваць –
Ды рамантыка ў труне.
Мілавусніць, чарнаброўваць
Свет не ўмее нат у сне.

Свет прапах крывёй і смаллю,
Праржавеў наскрозь – якраз
Як з адбітаю эмаллю
Пад дажджом забыты таз.

Сам сабой заняты кожны:
Дзень пражыў, як змог – і досць.
Можа быць, што ты – апошні
Поўны веры ў прыгажосць.

Я ў яе таксама веру
Праз зняверанасці пласт.
Мы з табой у нашу эру –
Непатрэбшчына, баласт.

*Чатыры мандаліны*
*І скрыпачка адна,*
*Чароўныя хвіліны*
*Над келіхам віна.*

## ***ЛЮСЦЫНІЯДА***[1]

Ахвярую беларускім дзеячам
мастацтваў, якія, праз пэўныя падзеі,
засталіся па-за справаю.

Салаўя злавіла кошка,
Замарыла чарвяка.
Засталіся пер'е й ножкі
Ад ляснога спевака.

Ад такой неспадзяванкі
Разгубіўся я, бядак:
Мо яна – не меламанка?
Мо з салоўкам штось не так?

Патлумачыць трэба трошкі.
І на тое ёсць петыт:
У нядобрай гэтай кошкі
Вельмі добры апетыт.

* * *

"Не бяры ў галаву!" – а бярэцца.
І нічога з тым не зрабіць.
Лёгкіх думак – так, абярэмца,
Важкіх думак – не абхапіць.

* * *

Напаўшчасце – напаўшок:
Сэрца па́дае – ўзлятае,

[1] Ад лацінскага *luscinia* – салавей.

І старэнькі кажушок
Раптам крылле набывае.

І даводзіць марна мне,
Што не крылле то, а крыссе.
Аж чатыры дні вясне
Ў позняй восені знайшліся.

Снег растаў, і скрозь слату
Сонца пырснула па свеце
І збудзіла пекнату,
Ажывіўшы астраў квецень.

Над астральным дываном
Узлятаю я без стра́ху
Не кажушным кажаном,
А шчаслівым сінім птахам.

* * *

На восьмым дзясятку, хоць ломіць у крыжы,
Хоць з’едзены зубы і чуб парадзеў,
Я той жа хлапчук, кучаравы і рыжы,
Што казкі чароўныя спраўдзіць хацеў.

проза

Сяргей Рублеўскі



...творцу ніколі не хапае славы,
як жміндзе грошай...

# Ізаграф

***Аповесць***

У дзяцінстве Максім быў адным з тых хлопчыкаў, якія спачатку вучацца маляваць, а потым пісаць. Але і пісаць ён пачынаў з "выкрунтасамі". Настаўніца пачатковай школкі Антаніна Канстанцінаўна казала неслуху: "Не вымалёўвай ты мне літаркі, Максімка, не ўпрыгожвай іх! Пішы па правілах, як я вас вучу!"

Лепшым падарункам для хлопчыка ў тыя гадочкі быў набор алоўкаў. Чым больш, тым лепш. Прытым не важна, якія алоўкі – каляровыя або простыя, з чорным графітавым стрыжнем, абы пакідалі на паперы зыркі след.

Часцей за ўсё найлепшыя алоўкі дарыла яму цётка па бацьку Васіліна, якая жыла ў суседняй вёсцы.

Максімка, калі выпадала якая нагода ці было шмат "вольнага" ад хлапечых забаў часу, садзіўся на веласіпед і ехаў да Васіліны. Слова "садзіўся", прызнацца, недакладнае. Напачатку маленькі хлопчык, як і ўсе яго равеснікі, аніяк

не мог сесці на сядло – не даставаў нагамі педаляў. Дык улюбёны цётчын пляменнік ездзіў на веліку, як у іх казалі, “пад раму”, стоячы на педалях. Балазе, да хаты Васіліны было недалёка.

Калі Максім прыязджаў да цёткі, дык адразу пытаўся ў яе, чым дапамагчы: можа, храп’я свінням назбіраць, можа, вады курам прынесці ці яшчэ што зрабіць... Пры гэтым вочкі хлопчыка міжволі блішчэлі, усё адно як кранутыя густым алеем, да таго яскрава адбівалася ў іх лісьлівасць і шчырая адданасць. Асабліва напярэдадні школьных заняткаў. Маленькі хітрун ведаў, што Васіліна абавязкова падрыхтуе для яго чарговы падарунак – новы і яшчэ больш багаты набор алоўкаў. Таму ён загадзя распытваў маці, ці не ведае яна выпадкам – ездзіла цётка ў Віцебск ці яшчэ не...

Нават калі Васіліна не набыла пакуль аловачкі, усё адно не лішне было ў чарговы раз засведчыць ёй сваю прыязнасць.

Менавіта Васіліна больш, чым хто з родных, прызнавала адметныя Максімавы здольнасці і аднойчы вычытала ў газеце, што ў Мінску ёсць адмысловая школа-інтэрнат, у якую з пятага класа прымаюць адораных у маляванні, а можна сказаць, азораных ім вучняў з усіх куткоў краіны.

“У тым ліку і з нашага Ліпна, выходзіць...” – усхвалявалася Васіліна і праз які тыдзень павезла пляменніка ў Мінск.

Бацькі-калгаснікі не выявілі аніякай ахвоты ўладкоўваць сына ў адмысловую школку ў сталіцы, маўляў, няхай вучыцца, як усе, не “белая костка” якая. Але цётка з іх дазволу ўрэшце рэшт узялася дапамагаць хлопчыку. Яна, мусіць, употай верыла, што выведзе Максімку ў людзі, гэта значыць, у выбітныя мастакі.

***

Наступнай прыступкай у вучобе пасля школы-інтэрната быў для Максіма Шарага тэатральна-мастацкі інстытут.

І вось тут у інтэрнаце ён спаўна адчуў цесныя абдоймы сяброўскага кола.

Звычайна ў пятніцу або ў суботу студэнты збіраліся разам усім пакоем і садзіліся наўкруг невялічкага стала. А калі далучаліся хлопцы з іншых пакояў, сябрына сціскалася больш шчыльна, даводзілася сядзець бачком і праточваць руку між таварышаў, каб узяць шклянку «Савіньёна» або слабенькага “Эрэці”. І ў дадатак – скібачку хлебца са смажанай мойвай або скрылькам прывезеных з дому сала, вяндлінкі і тоненькім колцам яшчэ не надта ўкіслага гурка зверху. Хлопцы былі неперабарлівыя ў ядзе, а далікатэсаў не хацелася, бо на іх не было грошай.

Пару шклянак – і пачыналася спачатку прыцішаная гамана (баяліся рассердаваць дарма што прыхільнага да іх вахцёра Валяр’янавіча, хоць, ідучы з крамы, неўпрыкмет і паставілі яму пад стол бутэльку віна на пачастунак).

Дадаць да зацікаўленай размовы свой голас было ўсё адно што пратачыць руку паміж сашчыльненых сяброў за чарговай шклянкай. Многім невыносна было трымаць у сабе даўно хвалюючае.

Як не расказаць, напрыклад, пра свае толькі што зробленыя адкрыцці новых старонак сусветнага жывапісу, пра ўпершыню ўбачаныя творы знаных мастакоў. Асабліва, калі пашчасціла ўвішнымі захадамі набыць альбом славутага жывапісца, зазвычай замежнага, творчасць якога прызнавалася тады “ўрэднай” і таму абачліва замоўчвалася.

– Учора цэлы вечар гартаў таўшчэзны альбом Сальвадора Далі, які

прывёз мне на замову дзядзька-марак з Іспаніі. От дзе майстра жывапісу, дык майстра! Якая дэталізацыя выявы, якія гнуткія лініі! І пры гэтым такія трапныя... Ад яго фантазійных відарысных вычварэнстваў дух захоплівае... – пачынаў хто-небудзь з удзельнікаў вечарыны.

– А ў чым сэнс такога мастацтва?! – усхопліваўся каторы аматар паспрачацца. – Гэта ж усё адно што перамалёўваць прыснёную ці незнарок надуманую выпадковасць! Не звяртаць увагу на спрадвечныя повязі паміж людзьмі і рэчамі. Нібыта ніколі і не было іх. Абсурд! Шмаццё сноў, якое аніяк не сціснеш у якую-небудзь абладаваную суцэльнасць... Прыснёнае забудзеш, як чаднае ачмурэнне...

– Ой, дык так і Марка Шагала можна залічыць у тлумачальнікі сноў...

– О, не! – пярэчыў яму віцяблянін, які ўжо толькі па месцы свайго нараджэння лічыўся аўтарытэтным знаўцам творчасці Шагала. – Марк Захаравіч не сны ўвасабляў на палотнах, а мроі свайго народа, якія сапраўды можна прыняць за сны ў нязмушаным мястэчковым аздабленні...

І так доўжылі і доўжылі маладзёны сваю гамонку да поўначы, вобразна кажучы, перамывалі пэндзлі славутых мастакоў – ад Ван Гога да Кандзінскага і Малевіча.

І многія пры гэтым зноў і зноў згадвалі творчасць Амедэа Мадыльяні: ну сапраўды, хіба не дзіва – так прасценька, па сутнасці, схематычна і даволі аднастайна вымалёўваў майстра жаночыя партрэты, а вачэй ад іх не адарваць.

– Усё ўглядаешся і ўглядаешся, каб прыкмеціць нарэшце якую малюсенькую таямнічую дэтальку...

А як ты ўгледзіш, калі гэта зусім не дэталька, а ўсеахопнае пачуццё кахання, якое працінае ў тым ліку і душу гледача. Амедэа ж не шкадуючы падмешваў яго, гэтае пачуццё, у фарбы, і яно не сыходзіла з яго пэндзляў.

***

На такіх сумоўях Максім зазвычай сядзеў сцішаны і рэдка калі ўступаў у гарачую размову. Больш слухаў і ўпотай параўноўваў свае думкі з думкамі сяброў. Да таго ж ён вучыўся на аддзяленні графікі, можна сказаць, пайшоў за лініяй алоўка, хоць і вельмі любіў жывапіс і нават у вольны час настойліва вучыўся пісаць алейнымі фарбамі. І добра-такі засвоіў тэхніку валодання пэндзлем. У інстытуцкай майстэрні жывапісу са згоды прыхільнага да яго выкладчыка прытуліў у куточку свой мальберцік, на якім заўсёды стаяла накрытая прасцінай распачатая карціна нібыта самога выкладчыка. Дамовіўся і прыходзіў маляваць пасля заняткаў.

Але яго кумірамі на той час былі графікі Тулуз Латрэк і Рэната Гутуза. Праўда, аднойчы на сяброўскай пагулянцы Максім не ўтрымаўся і нечакана азваўся:

– А я днямі нанова адкрыў для сябе Віталя Цвірку, – сказаў ён. – Проста добра ўгледзеўся ў адзін яго пейзаж і быў шчасліва ўражаны і нават трохі акрылены... – выпіў чарговую шклянку віна. – На палатне нічога асаблівага: палі, бераг рэчкі, крануты восенню дуб з каляным, нібы выразаным з бляхі лісцем, дрыготкі асіннічак... Але як удумна пакладзены на палатно фарбы! Як дакладна скампанаваны каляровыя пляміцы – ніводную на адведзеным ёй месцы не заменіш на іншую і нікуды, нават на міліметр, не мусіш зрушыць...

– Масы, масы каляровыя, а не пляміцы... – кпліва азваўся хтосьці з хлопцаў.

– Ну вядома ж, – махнуў рукой Максім і прадоўжыў. – Па сутнасці, Віталь Канстанцінавіч не адкрывае нічога новага. На палатне лёгка пазнаеш сваю адвечную прыроду, свой відарыс, які адкрываўся вачам штораз, калі выходзіў на ганак. І не толькі з чароўнай лёгкасцю пазнаеш безліч разоў бачанае, але ўсё адно як адкрываеш яго нанова! Нібы спрасоння. Бо гэтае да болю звыклае месціцца не ў будзённай рэчаіснасці, а ў мастацтве! Вось жа, дзякуючы мастаку і прыродзе, беларусы занялі "пачэсны пасад між народамі"!

– Авохці, сядзеў мэтр вечарамі ў сваёй майстэрні і думаў, як бы давесці такім, як Максім Шары, сваю выснову аб беларускай годнасці, хоць ты дуддзём з капешкі сена на палатне яго ўкалі... – падкусіў Максіма адзін землячок, віцебскі малец, які вучыўся на скульптара. Але Максім на гэта і брывом не павёў:

– Можа, я таму так па-свойску ўспрымаю творчасць Цвіркі, што ён мае загарадную даміну ў ляску каля Церабутаў у Пухавіцкім раёне, дзе паблізу жыве мой дзядзька Ігнат. У яго жонкі Таццяны Віталь Канстанцінавіч часта прыкупляе малачко, смятану, яйкі... Я прыязджаю да дзядзькі, і заўсёды, калі іду ад цягніка з Талькі, праходжу каля яго "маёнтка", азіраю... Але мастака так ніколі й не бачыў.

– Ай, і ты пайшоў на графіку?! – усклікнуў старэйшы ад іншых, бо вучыўся пасля арміі, Яўген Пузач. – Дурань, на жывапіс трэба было паступаць! Малачко, смятанка... – перадражніў ён хлопца.

Нягледзячы на кепікі і абыякавасць да яго слоў, Максіму ўсё адно было хораша ў сяброўскім коле. Надзіва хораша. І ён быў упэўнены, што сказаў важкае слова.

***

На трэцім курсе ў Максіма адбыўся запамінальны паварот у жыцці – яму ўдалося наладзіць супрацоўніцтва з выдавецтвам "Прыгожае пісьменства". Тут больш, чым дзе, былі запатрабаваны ілюстрацыі, па сутнасці, у кожную грунтоўна выдадзеную кнігу. А студэнт-ілюстратар быў для выдаўцоў жаданы аўтар. У тым ліку і Максім, вядома. У маляванні ў яго ўжо даволі выразна пазначыўся пэўны стыль, да таго ж хлопец не разлічваў на вялікі ганарар, рады быў і маленькаму грошыку. А выдавецтва апошнім часам вымушана было эканоміць свае выдаткі, улічваць кожную капейку. Апроч таго, Максім быў згаворлівы ў рабоце, не ўпарціўся, як перакормленыя славай сталыя мастакі. Ён уважліва прыслухваўся да заўваг рэдактараў і, вядома ж, пісьменнікаў.

Аднойчы падчас вяртання з выдавецтва да Максіма далучыўся Фабіян Узгорскі, знакаміты графік, аўтар шэрагу высока адзначаных у кніжным свеце ілюстрацый.

Ім было спачатку па дарозе, і калегі (так, дарэчы, да Максіма – "калега" – ці то жартам, ці то ўсур'ёз звяртаўся Фабіян) вырашылі зрабіць разам невялічкі шпацыр. Мэтр толькі што атрымаў ганарар і прапанаваў зайсці ў кавярню "Пралеска", якая месцілася трошкі наўзбоч праспекта і славілася сваёй цудоўнай, згатаванай у турках кавай. А якраз жа кавай з адмысловым печывам і надумаў пачаставаць маладога творцу Фабіян.

– Пра нейкае пітво, апроч кавы, і думаць забудзь, – адкрываючы дзверы, сказаў знаны графік. – І наогул раю табе як мастаку асцерагацца алкаголю, нібы крапівы ў дзяцінстве. Крый Божа! Тым больш у маладыя гады. Са свайго жыцця ведаю, што гэта значыць выкінуць, па сутнасці, на сметнік, нібы якую непатрэбшчыну, вялікі прагал дадзенага табе звышай часу. А разам з непаўторным часам – задумы графічных серый, і сярод іх, можа быць, адну роўную ўзроўню Гойі! Ну так! Чаму б не прымерыцца і да недасяжнай вышыні. Многія ж з юначых гадоў прызнавалі мой талент. А скончылася тым, што я, зарабляючы на скарынку хлеба, пачаў ілюстраваць чужыя думкі. Добра, калі яны хоць крыху хвалююць душу, абуджаюць яе, нібы зямныя сокі веснавыя пупышкі... – сівы, з прыкметна парадзелай шавялюрай мастак зрабіў доўгі глык і, смакуючы, затрымаў каву ў роце, нібы каньяк. Фабіян пранізліва паглядзеў на Максіма: мэтру было цікава, уважліва і згодліва або адчужана, дзеля прыліку слухае яго хлопец. А калі ўбачыў, што той пазірае на яго спакойнымі халоднымі вачыма, трохі засмуціўся: маўляў, такі ж самаўпэўнены, як я калісьці.

Фабіян Феліксавіч даволі часта сустракаўся са сваім маладым “калегам” у выдавецтве і неўпрыкмет палюбіў яго. З першых ілюстрацый ён заўважыў, што ў хлопца цвёрдая рука, і ён можа элементы якога-небудзь арнаменту, напрыклад, маляваць не па лякале, а толькі па памяці.

У гэтым слынны мастак пераканаўся, калі аднойчы запрасіў Максіма ў сваю майстэрню трохі дапамагчы выкананаць адну афармiцельскую замову. Тады ж высветлілася, што хлопец мае і добрае кампазіцыйнае мысленне, і прытым вельмі хуткае – новы ўяўлены відарыс, нібы фотаўспышка, выбліскваў у яго свядомасці. Да таго ж Максім быў дужа ўважлівы да дробных дэталяў, вымалёўваў іх старанна і з задавальненнем. Фабіян і сам у маладыя гады меў такую асаблівасць і цяпер усё адно як зводдаль пазіраў на сваё мінулае. І пры гэтым употай заціскаў у сэрцы тугу.

Заядлы аматар кавы, ён замовіў сабе яшчэ адну філіжанку, закурыў і прадоўжыў размову:

– Ты, Максім, калі ствараеш ілюстрацыі, увесь рукапіс, ад першай да апошняй старонкі чытаеш, уяўляеш, як выглядаюць галоўныя героі твора, іх адпавядаючае часу адзенне, а тады “апранаеш” іх на паперы, будуеш якую-небудзь мезансцэнку па апісанні ў тэксце?

– Прыкладна так, калі ілюструю прозу...

– Марнатраўства. Не губляй часу!

– А як трэба?

– Узяў рукапіс, адгартаў старонак дваццаць, прачытаў уважліва колькі абзацаў, потым старонак праз дваццаць яшчэ, потым далей у якую старонку ўчытаўся, і калі, няхай сабе пункцірам, адсочваецца жыццё героя, лічы, адна з ілюстрацый, табой “убачаная”, ёсць!

– Дык гэта ж...

– Халтура, хочаш сказаць... – перасмыкнуўся Фабіян. – Ха! Затое колькі часу эканоміш, не зморваючы сябе дакукай ад чытання якога нудоцця! Як яны пішуць, так мы і аздабляем...

Гэта было дастаткова з’едлівае і крывадушнае выказванне.

“Халтура, халтура... – сыходзячы з Фабіянам з кавярні, паўтараў пра сябе Максім. – Якое нікчэмнае слова. А з гэтым жа словам, хутчэй за ўсё, давядзецца ісці па жыцці подручкі, нібы з жонкай”.

***

Фабіян і Максім разышліся – за кавай доўга час бавіць не будзеш. Студэнт пайшоў да свайго жытла пешкі, балазе ад кавярні да інтэрната было не надта далёка.

Пачынаў пакрысе згушчацца адвячоркавы морак, і паветра на вуліцы пасвяжэла.

“Добра, што мне замаўляюць ілюстраваць больш паэзію, чым прозу, хоць і невядома, чаму так... – падумаў Максім і ўсё адно як падоўжыў размову, распачатую ў кавярні. – А што тую паэзію чытаць – звычайна вершыкаў сто, а то й напалову менш у зборніку... А сярод іх шмат карацелек, або, што яшчэ лепш, падробак пад трохрадковыя хоку ці пяцірадковыя танка ў наваспечаных, як бульба ў прыску, «японцаў» на беларускай зямлі...” – ледзь прыкметна ўсміхнуўся Максім і павярнуў на вулку, якая наўпрост выходзіла да інтэрната.

У іх студэнцкім доме на першым паверсе ўжо свяціліся пару вокнаў у заўсёды цемнаватым вестыбюлі. Максім узяў у другую руку свой партфельчык і толькі цяпер спаўна адчуў яго вагу. У партфелі ляжалі колькі кніжак, прэзентаваных яму выдавецтвам. Усе яны, вядома, з мноствам ілюстрацый, каб вучыўся хлопец, як гэта робіцца. Апроч таго, яшчэ і рукапіс паэтычнага зборніка “Скрыдлы”, які ён па дарозе забраў у невялічкім прыватным выдавецтве “Прынт” для стварэння да яго па даўняй дамоўленасці малюнкаў. У разгары была пара эйфарычнай “перабудовы”, і ў Мінску з’явілася колькі выдавецтваў і друкарняў прадпрымальнікаў, якія таксама імкнуліся танна замаўляць пазаштатным аўтарам патрэбную ім работу. Асабліва калі тыя зноў жа пагаджаліся на невялікі ганарар. Максім пагаджаўся, бо яму, апроч грошай, на якія заўсёды даводзілася поўнай чаркай частаваць сяброў, было цікава на аснове літаратурных тэкстаў ствараць свой, для многіх нечаканы, графічны свет. Да таго ж ён узбагачаўся новым і новым досведам, “набіваў руку”, як казалі сябрукі.

“Скрыдлы, скрыдлы...” – хлопец пачаў думаць, дзе сустракаў гэтае даўнейшае слова, і згадаў Максіма Багдановіча, але ўспомніць радкі славутага паэта не мог.

“Эх, мець бы цяпер за спінай скрыдлы і нязмушана, як у сне, паляцець да Ліпна, ды расказаць Васіліне, як я трывала замацаваўся ў выдавецтвах, а яны пасля абароны дыплома, можа быць, – такі намер нібыта ёсць, – возьмуць мяне на сталую працу...”

“Скрыдлы, скрыдлы... Але ж яны хутчэй за ўсё зламаныя, калі прыслухацца да гукапісу слова, а калі не зламаныя, дык надломленыя, як жыццё аўтара зборніка... – раптам падумаў Максім. – Крылы, толькі крылы, паястрабінаму хуткія, як імгненны ўдар маланкі, а не марудна-мяккія, нібы намочаныя ў вадзе анучы, якія паволі ледзь узнімаюць угору няўклюдную чаплю... Крылы!”

Максім і не згледзеўся, як стаяў ужо на ганку інтэрната, адчыніў дзверы і ўвайшоў у сваё звыклае жыццё.

***

У наступным годзе на апошнім курсе навучання жыццё хлопцаў стала больш строгім. Яны сталі не такімі, як раней, гаваркімі, куды радзей збіраліся на свае вечаровыя сумоўі... Усе засяродзіліся на стварэнні дыпломных работ, галоўным цяперашнім выпрабаванні на прафесійную годнасць.

Але Максім праходзіў гэтае выпрабаванне з параўнальна меншым напружаннем, бо загадзя выбраў тэму і загадзя пачаў рабіць накіды сваёй заліковай графічнай серыі. Ён задумаў тузін азораных гістарычнай даўніной Полацка работ. Аднойчы хлопец між іншым падумаў: ”Якое шчасце нарадзіцца непадалёк ад славутага месца! Полацк дапамагае жыць!”

***

Калі дыпломная работа была амаль што гатовая, Максім займеў больш часу, каб як след папрацаваць над афармленнем зборніка “Скрыдлы” Багдана Дзербіча (гэта быў ён). Малады мастак зрабіў колькі запамінальных кампазіцый: вось скрыдлы шырока развінутыя ў паветры, а гэта – пераможна ўзнятыя ўгору, як літара “V”, вось яны бездапаможна абвіслыя, нібы сабачыя вушы – зламаліся яшчэ падчас мрояў аб нябёсах... Скрыдлы-крылы, самі па сабе, без прыналежнасці якой-небудзь птушынай істоце.

Максім старанна вымалёўваў кожнае пёрка, нібы толькі ад яго, адзінага, залежаў хуткацечны палёт на злом галавы.

Некаторыя пёркі былі натапыраныя і выбіваліся з агульнага строгага парадку. Усё адно як іх крануў пранізлівы вецер, які ўзварушвае ў душах трывогу.

Максім маляваў і думаў: “Крылы ў арла, пер’е ў курыцы... А ў анёла? А ў анёла крылы ўяўленыя людзьмі і ўрэчаісненыя мастакамі толькі для ўмацавання гэтага ўяўлення... Бялюткія і прызначаныя хіба што для ахоўнага разгортвання над галавой чалавека...”

***

Багдан Дзербіч быў вельмі ўсцешаны графічным перапевам сваёй паэзіі. І перакананы, што малады творца ўзмацніў яго паэтычны голас да водгулля рэха.

Паэт сустрэўся з Максімам і з радасці ў дадатак да ганарару выдавецтва падарыў яму прывезеную з-за мяжы бутэльку цудоўнага італьянскага віна “Masi costasera”, якую мастак дагэтуль ніколі не бачыў, нават парожнюю.

З ганарару Максім надумаў купіць сабе альбом якога-небудзь знакамітага мастака. Па ўкаранёнай звычцы, вядома, замежнага, балазе на паліцах кнігарняў цяпер быў шырокі выбар, не тое што да перабудовы.

Хлопец купіў таўшчэзны, выдадзены ў Нямеччыне альбом Ван Гога, свайго ўлюбёнага, як і многіх студэнтаў на той час, творцы. І збянтэжыўся: груваскі том каштаваў амаль столькі ж, колькі і дарагушчая бутэлька віна, падораная Дзербічам, які наўмысна назваў цану і пераможна засмяяўся: “Каб ты ведаў і ашчаджаў кожную кроплю...”

Максім, дарэчы, не адразу надумаў, што рабіць з цудоўным напоем. Піць у сябрыне і закусваць мойвай – блюзнерства, ды і супольная размова ў іх не надта ўжо ладзілася – усе толькі і думалі пра маючую адбыцца праз пару месяцаў абарону дыпломаў і, як восеньскія яблыкі сокам, наліваліся куслівым эгаізмам.

І хлопец вырашыў застацца з напоўненым вінаградным тамленнем бутэлькай сам-насам. Адпрасіўся з заняткаў, балазе, да іх наведвання выпускнікамі ўжо не так строга, як раней, ставіліся выкладчыкі; сябрам схлусіў, што занядужаў... Шчыра кажучы, апроч усяго іншага яму было і трошкі шкада дзяліцца з імі сонечным напоем. “Не той фармат”, – прыйшло Максіму на розум адчэпнае выслоўе, якое ўсё больш і больш уваходзіла

тады ва ўжытак. – “Аніякай галоснасці!” – усміхнуўся ён і пайшоў у краму па кавалачак вяндлінкі, сыр і садавіну.

А калі вярнуўся, дык стала трохі непамысна ад цішыні ў пакоі, якая, здавалася, аб нечым хоча запытацца ў яго, але не можа вымавіць ні слова...

Максім нарэзаў і расклаў па невялічкіх студэнцкіх талерках купленыя ў гастраноме паляндвічку і сыр, адкаркаваў віно і наліў палову шклянкі. У палосцы зыркага сонечнага святла на стале з’явіўся водсвет чырвані, аслаблены да ружовага адцення, напой усё адно як увачавідкі страціў свой высокі кшталт. Хлопец зрабіў глыток і затрымаў віно ў роце, пабарляў яго языком і ўзняў колькі кропляў да паднябення... Ён імкнуўся хоць крышку адчуць “аксамітную тэкстуру”, пра якую вычытаў у апісанні віна, але не ведаў, як яна адчуваецца – праз смак ці такцільна, праз дакрананне да напою тканак рота... Успомнілася адчуванне навобмацак далікатнай мяккасці панаксаміту, з якога была пашыта дарагая – а таму на яе больш пазіралі, ці добра вісіць у шафе, чым насілі – кофта цёткі Васіліны. Тканкі рота куды больш далікатныя, чым скура рукі, але, можа, ёсць хоць якое слабое падабенства ў адчуваннях.

Нічога не было... і Максім наліў сабе ў шклянку яшчэ, цяпер ужо куды паўней. Выпіў і адчуў куды больш – і асвяжальны подых ветрыка, і слабую кіслінку, і прынесеныя гэтым ветрыкам з лясной палянкі духмяны пах ягад... А яшчэ здалёку – пах садавіны, не крамнай, а жывой, з-пад сонца, яшчэ не кранутых рукой чалавека. А таксама ледзь улоўны пах грэцкіх арэхаў, і нават кавы... І яшчэ штосьці таямнічае, не апісанае ў характарыстыцы віна, у яго своеасаблівай “анатацыі”, як да каторай знакамітай кнігі. Вінцо трохі высушвала ў роце, усё адно як наўмысна, каб праз яго загусцеласць лепш адчуваўся непаўторны смак ды хацелася піць яшчэ і яшчэ.

Паволі смакуючы, Максім піў шклянку за шклянкай, і яму згадаўся калісьці ўбачаны надпіс на этыкетцы амерыканскага віскі – “п’ецца, як шоўк”. Віно ж, з яго загадкавай тэкстурай, пілося, як аксаміт...

Максім больш не дакранаўся да ежы. Якое можа быць закусванне, калі рассмакаваўся і добра адчуў, што напой перапоўнены сонцам. Дык чым “закусваць” сонца?.. Хіба якім саспелым роздумам...

“Так атрымалася, што я, па сутнасці, адзначаю сёння завяршэнне нашых гаманлівых гулянак, а з імі і юнацтва. Можна сказаць, па-здрадніцку зацвердзіў разрыў сяброўскага кола, якое колькі гадоў атачала вось гэты стол...” – пагладзіў хлопец залітую сонцам паверхню і раптам засумаваў да таго моцна, што захацелася прагуляцца па вуліцы, пабыць сярод натоўпу незнаёмых людзей і такім чынам на пэўны час забыць пра сваё існаванне.

***

Пасля заканчэння інстытута Максім атрымаў накіраванне на работу ў мастацкі камбінат у Віцебску. Седзячы ў цягніку па дарозе дадому, ён азіраў у вакне звыклыя краявіды і думаў пра новае жыццё.

“Ну вось, прайшло звыш дзесяці гадоў вучобы ў школе-інтэрнаце, потым у інстытуце, а ў выніку давядзецца зарабляць на хлеб мастаком-афарміцелем. Адно што час змяніўся, і цяпер, мусіць, не давядзецца дасціпным шрыфтам выводзіць на кумачах лозунгі для дэманстрацый з немінучымі згадкамі шчаслівай дарогі, па якой вечна мусіць крочыць з’яднаны ў шчыльныя шэрагі народ...” – думаў хлопец.

Не тое што ён быў супраць гэтай дарогі, зусім не – дарога ж нібыта

правільная. Проста яна здавалася невыносна доўгай і да адчування вусцішнай адзіноты была асветленая зыркімі пражэктарамі. А надалей трывалай веры, каб па ёйісці-брысці, ужо не было. Усё адно як у слабага верніка, якому не стае спадзявання на ўваскрашэнне пасля смерці...

"Ат, неяк будзе... – зварухнуў плечукамі Максім ад надакучлівага сядзення. – Добра, што я, апроч графікі, спаўна засвоіў яшчэ і жывапіс. Больш будзе надзеі ўзняцца на прыступку вышэй – са "шрыфтавікоў" да знаных майстроў-афарміцеляў з трывалым гарантаваным заробкам..." – горка ўсміхнуўся ён.

Максім яшчэ не ведаў, што замоваў на мастацкае афармленне цяпер на камбінаце ўжо вобмаль, і прадпрыемствы, калісьці славуты і заможны агітатар і прапагандыст недасяжнага шчаслівага жыцця, ледзьве зводзіць канцы з канцамі. Маладому спецыялісту яшчэ не давялі, што ва ўсім вінаваты яны самі, мастакі: хацелі свабоды творчасці, дык калі ласка, хацелі жыць пры рынку – жывіце... А тое, што рынка мастацтва ў краіне амаль няма, што нашыя людзі прывучыліся цешыцца з набіваных кілімчыкаў з двума лебедзямі над ложкам, ніхто з афіцыйных асоб не згадваў...

***

Падчас стаянкі цягніка ў Барысаве Максім дастаў з кішэні пінжака канверт з лістом ад Тосі Тоўкач, сваёй сардэчнай прысухі, якая вучылася на тэатральным факультэце і была на пару гадоў маладзейшая за яго. Дзён дзесяць таму Тося паспяхова здала экзамены і адразу паехала дадому, у Нараўлянскі раён, у сваю невялічкую вёсачку Рыдамля на дальнім лясным кардоне. Паколькі адтуль праз высозны частакол пракаветных елак не праходзілі ў свет эфірна-тэлефонныя хвалі, дык адразу па прыездзе і адпісала яна Максіму звычайны ліст на аркушыку паперы.

Максім лёгка ўявіў, як каханая амаль дзесяць кіламетраў ішла пешкі да бліжэйшай вёскі, дзе месцілася пошта. Добра, калі хто падвёз на легкавушцы або на падводзе. Але Максіму больш да спадобы было ўяўляць, як яна ідзе менавіта пешкі, бо тады перад вачыма паўставаў стройны стан дзяўчыны, абхінуты мадняцкай спаднічкай, якая падчас хадзьбы звабліва пагойдвалася на яе клубах. А калі Тося, пераходзячы плыткую рэчку-ручаіну не па мастку, а ўброд, напрасткі, азіралася па баках і падбірала ўгору, каб не замачыць, падол сваёй гожай адзежыны, дык агаляла стройныя звабныя ножкі... А Максіму ж усё бачна патаемным унутраным зрокам!

Ён добра ведаў усе Тосіны звычкі, бо аднойчы па яе неадчэпнай просьбе з'ездзіў быў у Рыдамлю. Хлопец і па сёння не мог даўмець, чаму аднойчы перад выхаднымі Тося знячэўку пачала ўпрошваць яго наведаць яе схаваную ў лесе вёсачку. Можа, агледзіны будучага, як яна планавала, мужа для бацькоў наперад хацела наладзіць, а можа, проста дакука заціснула душу, дык забаялася доўгай дарожнай нудоты, якая для яе заўсёды была дужа зморнай...

Хто іх ведае, гэтых рэжысёраў тэатраў, якія зноў і зноў упарта імкнуцца стаць рэжысёрамі жыцця.

"У лесе пасля таго як ты пабыў у нас, Максімка, усё толькі пра цябе мне нагадвае! – прабег вачыма хлопец радкі з чытанага-перачытанага раней ліста. – Здаецца, нават мякенькі мох дзеля таго пасланы ў бары запрашальным кілімам, каб мы з табой любіліся на ім на кожным кроку... Памятаеш?.. Я вось таксама не магу забыць, нібы ўпершыню тады цябе да

сэрца прыгарнула з усяе сілачкі. Ты дапытваўся, помню, навошта я цябе прывезла з Мінска ў сваю таямнічую далячынь. А вось для гэтага якраз і паклікала, каб займець да веку незабыўныя ўспаміны. І ты, я ведаю, будзеш з прыемнасцю ўспамінаць нашае радзіннае котлішча. Мама ж расказвала, як ты здзіўляўся, калі ўбачыў, як яна падмятае галеньчыкам лясныя сцяжынкі, якія разыходзяцца ад нашай хаты ў лес, ён жа за парогам... Праўду кажучы, толькі перад святамі яна так рупіцца, асабліва перад царкоўнымі. Спачатку ў хаце парадак навядзе, а потым і ва ўсім свеце, бо лес змалку для нас – "увесь свет" і нават трохі космасу... – хлопец уявіў, як у гэтым месцы пісьма Тося ўсміхнулася. – Цяпер у цябе, Максімка, я думаю, няма ўжо здзіўлення, чаму я паступіла на рэжысуру, загарэлася марай займацца гэтым жывым мастацтвам, нягледзячы на тое, што вакол мяне ў маленькай вёсачцы ніколі не віраваў людскі свет з ашуканствам куплі-продажу, са спрадвеку ўсім знаёмымі жарсцямі кахання і здрады, нашым нязводным тэатральным хлебам... Калі і было што ў нас з людскога вычварэнства, дык ціхенька, незаўважна, "шапаточкам", як нашы бабы кажуць. А вось жа захапіла, павяла за сабой тэатральная справа... Можа таму, што мне, як ты, думаю, пераканаўся, прасцей было зразумець, што мастацтва па сутнасці ірацыянальная, асабліва для лясных людзей, справа, якая зусім не гарантуе вялікіх грошай, а толькі пакутлівы душэўны ўзрух, а калі-небудзь і ўзлёт... Я думаю, ты гэта таксама ўжо ўцяміў...

Ой, сумую я па табе, Максімка, ой, сумую... Не ведаю, як і жыць на свеце..."

Мастак прачытаў і, нібы заадно з Тосяй, таксама засумаваў. А потым падумаў, што ў яго душы ўсё ж няма такой жарсцевай захопленасці сваёй каханай, як у яе ім. "Мусіць, у каханні заўсёды такая няроўнасць... – падумаў ён. – Такая непераможная няроўнасць..."

Цягнік раптам заскрыгатаў коламі і рушыў далей. Больш жвава замітусіліся людзі на пероне, а зверху ў вакне паплыла ў супрацьлеглы руху бок назва "Барысаў". І Максім міжволі згадаў Тосінага бацьку, негаваркога строгага лесніка з цвёрдым імем Барыс.

***

По прыездзе ў Віцебск Максім подбегам кінуўся на аўтобусны вакзал, балазе ён месціўся побач з чыгуначым, і паспеў на бліжэйшы аўтобусны рэйс да сваёй вёскі. Да пачатку работы ён наважыўся крыху адпачыць пасля вучобы, перавесці дух ды наталіць душу спакоем.

Спачатку хлопец дапамагаў бацькам па гаспадарцы – касіў сена, даглядаў пчол, рамантаваў плот... А дні праз два сабраўся да Васіліны. Дастаў з кладоўкі веласіпед, на якім цяпер ездзіў малодшы брат, узняў сядло як мага вышэй і паехаў. На шырокай шлейцы цераз плячо ў яго вісеў эцюднік з поўным наборам фарбаў, да багажніка быў прымацаваны невялікі падрамнік з нацягнутым і добра загрунтаваным палатном... Максім даўно надумаў напісаць партрэт любай цёткі, і вось настала пара.

Як толькі яны сустрэліся і абцалаваліся, Васіліна спытала:

– Ну што, пляменнічак, храп'я назбіраеш або куркам вадзічкі прынясеш? – і прывітальна ўсміхнулася.

– Чаю пап'ю... – сказаў у адказ Максім, і яны ўвайшлі ў хату.

За сталом хлопец пачаў угаворваць цётку якія гадзінку-дзве пасядзець перад ім нерухома, каб можна было распачаць маляванне яе партрэта.

– Не выдумляй! – адразу запярэчыла Васіліна. – Знайшоў мне прыгажуню... Паглядзі, зморшчынак ужо колькі, вочы ўсё адно як павучкі сваімі сетачкамі захінаюць... А гэта ж павукі старасці, Максімка, і не згледзела, як яны з неба на сваіх шаўковых нітах спусціліся...

– А мне твае зморшчынкі любыя, кожную з іх гатовы вымалёўваць...– пярэчыў Максім, але толькі бліжэй к вечару яму з цяжкасцю ўдалося ўгаварыць цётку.

Мастак усадзіў яе каля хаты, на тле вымытых незлічонымі дажджамі ды выпетраных вятрамі шызых бярвенняў. Час надаў ім непаўторны каларыт.

Васіліна паводзіла сябе на табурэтцы няўседліва, варушылася, сарамліва ўсміхалася, а калі хто з'яўляўся на вуліцы, тут жа хавалася ў калідорчыку.

Але праз паўгадзіны малявання, калі партрэт набыў ужо пэўную выразнасць, і яго ўважліва разгледзела Васіліна, яна была нечакана ўсцешана, перш за ўсё тым, што доўгае навучанне пляменніка не прайшло марна. Ну і самім партрэтам, вядома. Падабенства было пераканаўчым. Асабліва ўдаліся Максіму вочы цётачцы, якія з любасцю глядзелі на вясковую вуліцу ды і на ўвесь навакольны свет. Васіліна была ўпэўненая, што ў партрэце адкрыліся яе шчырыя пачуцці да Максімкі.

А калі гадзіны праз тры прыйшла да іх суседка Кацярына пацікавіцца, што за сумоўе такое сціпленькае, без звыклай гаманы адбываецца паблізу яе хаты, Васіліна ўжо не тулілася ў сваю схованку, а ўсмешліва прывітала бабулю.

– Во пляменнічак надумаў мой партрэт вымаляваць... Зірні, ці падобная... – трохі сарамліва, нібы ў чым вінаватая, але і з прытоенай у душы гонарам за пляменніка прамовіла яна.

– І кропелькі пабрала! – праз даволі доўгую паўзу, бо прыдзірліва ўглядалася ў палатно, адказала суседка. І потым яшчэ доўга, абапёршыся на кіёчак, стаяла каля мальберта, не магла адарваць вачэй ад выявы.

– Ай, гэта так па крошачцы маляваць трэба... Цярпенне ж не абыякое трэба мець і вучобу дужа вялікую прайсці... Малайчына, Максімка, спраўдзіў цётчыну надзею, сапраўдным мастаком стаў! А як хусціначку тваю, Васілінка, намаляваў! Здаецца, усё адно як з галавы зняў ды на палатно прымацаваў... Дужа падобная на сапраўдную!

Максім слухаў і ледзь стрымліваў усмешку задаволенасці. Радасць усхадзілася ў ім, нібы які шыпучы напой пасля адкрыцця бутэлькі.

“Ці скажа мне калі-небудзь яшчэ хто такія натхняльныя словы...” – падумаў мастак, і зноў папрасіў Васіліну пачаставаць яго чаем.

***

На другі тыдзень пасля прыезду ў вёску Максіма да яго завітаў даўні знаёмец Юрась Дзямчук і прапанаваў паехаць разам з ім на пленэр, прысвечаны юбілею знакамітага мастака Івана Хруцкага, які меўся адбыцца ў пасёлку Ула, дзе нарадзіўся юбіляр. А гэта ж у якіх сямідзесяці кіламетрах ад Віцебска... Юрась распавёў, што адзін з заяўленых удзельнікаў пленэра захварэў і адмовіўся ад паездкі, а ён прапанаваў арганізатарам замест яго ўзяць свайго сябра. Маўляў, малады перспектыўны мастак, з грунтоўнай адукацыяй з цягам часу папоўніць творчы Саюз, які заўсёды трэба ўмацоўваць.

– Так што не сядзі седма каля бацькоў – пабачыўся і досыць. Прамый свае вочы свежымі колерамі на барагах Дзвіны і Улянкі... Паедзем! Другі раз могуць і не запрасіць, калі адмовішся...

Максім не адмовіўся. Яму захацелася прыняць удзел у такім адмысловым, як пленэр, сумоўі жывапісцаў, калі іх, нібы дзетак, аб'ядноўвае і затуляе ў свім прыполе маці-прырода.

Да таго ж Максіму дужа падабаўся жывапіс Івана Хруцкага. Мастак, па сутнасці, атрос рукі ад будзёншчыны і ў фруктах ды іншых Божых шчадротах бачыў і да драбніц вымалёўваў водсвет раю на зямлі. А рэчы на палатне размяшчаў так, што невядома – рабіў ён гэта па здавён усталяваных законах кампазіцыі або толькі цалкам аддаваўся свайму адчуванню прыўкраснага.

І гэта ж наш, народжаны на Віцебшчыне, малец!

...На пленэры Максіму было і вольна, і ўтульна, і цікава. Амаль як дома. Мастакоў ніхто не змушаў, ніхто нічым не абавязваў, апроч аднаго: па завяршэнні пленэра кожны з яго ўдзельнікаў павінен быў ахвяраваць арганізатарам, а ў іх ліку найперш Саюзу мастакоў, два эцюды, а калі будуць цалкам завершаныя карціны, дык яшчэ лепш. Тады і адной абысціся можна.

Мастакі самі вызначалі, што пісаць і дзе, але, вядома, у межах пасёлка Ула ды яго бліжэйшага наваколля.

Юрась з Максімам аблюбавалі месцейка на беразе рэчкі і ўстанавілі свае эцюднікі. Але было б дзіўна, каб толькі яны. Адна за адной засвяціліся на сонцы алюміневыя трыножкі ды жоўценькія фанерныя крышкі эцюднікаў. Месцічы добра-ткі дзівіліся з гэтага ажыўленага пярэстага відовішча.

Юрась і Максім побач з выбраным месцам закінулі ў рэчку донкі, якія прадбачліва ўзялі з сабой. А неўзабаве заўважылі, што не толькі яны такія разумныя: сваю слабасць перад спакусай рыбнай лоўлі адкрылі і яшчэ колькі мастакоў.

Праўда, у гэты дзень рыба амаль ні ў кога не лавілася, калі не лічыць, што якраз жа Юрась з Максімам пад вечар выцягнулі з Улянкі чырвонапёрага двухкілаграмовага язя. Аднаго-адзінага...

Гэта стала добрай падставай для распальвання вечаровага вогнішча і запякання ў прысаку вялізнай рыбіны. Але яе гаманлівай чарадзе мастакоў хапіла хіба што паспытаць па драбочку. А вось віна было ўволю, накуплялі з ахвоты ўсё адно як адразу на два пленэры.

***

Назаўтра Юрась і Максім вырашылі пазбегнуць гаманы і нікчэмных звадак мастакоў, пачапілі на плечы эцюднікі і пайшлі ў суседнюю вёску. Густа парослая паміж слаба пазначаных каляін трава сумна сведчыла аб рэдкім руху па прасёлкавай дарозе...

Дзянёк, як і ўчарашні, быў пагодлівы, сонечны, спявалі птушкі. На душы рабілася асабліва хораша, калі ўдавалася ўбачыць на галінцы каторую спявачку. "Без карцінкі для мастака самы залівісты спеў няпоўны..." – падумаў з усмешкай Максім, але нічога не сказаў Юрасю пра сваё "адкрыццё".

Яны ішлі моўчкі – ці то не было пра што гаварыць пасля ўчарашняга, ці то замінала прадчуванне цікавага здарэння, якое мусіла з імі адбыцца.

У вёсцы аб'ектам для малявання яны выбралі самую нехлямяжную сялібу. Уласна кажучы, яе і выбіраць не трэба было – напаткалася па дарозе, стаяла з краю.

Хлопцы паставілі свае эцюднікі на ўзгорачку крыху воддаль ад хаціны. Такія сялібы прывабныя для мастакоў тым, што лініі іх контураў ужо

згубілі свой строгі геаметрычны парадак і прагінаюцца, нават блытаюцца, нібы аслабленыя вяроўкі. Надзвычай заманлівая графіка!

Калі хлопцы перакурылі і ўзяліся за пэндзлі, дзверы адчыніліся і з хаты выйшла бабулька ў вязанай кофце і модных, з бліскучай бляшкай, відаць, доччыных або ўнуччыных туфлях на босую нагу. Бабулька мела дробненькія рысы твару і ветлую ўсмешку.

– Бачу, незнаёмыя людзі да нас прыбіліся, пайду, думаю, спытаю, хто такія...

– Мастакі мы, – азваўся Юрась, – прыехалі ў Улу памаляваць царкву вашую, краявіды, людзей...

– Цэркаўка ў нас і праўда прыгожая. А што яшчэ, і не ведаю...

Бабулька трошкі пастаяла і зноў спытала, цяпер пра тое, што яе хвалявала больш за ўсё:

– Ну а ў нас, што вы вымалёўваць надумалі, чаго каля старой нашай хаткі спыніліся? – у голасе бабулькі з'явілася ледзь прыкметнае хваляванне.

– Якраз жа хата вашая і спадабалася, яшчэ даволі звонкая, нягледзячы, што даўно пастаўленая. У "чысты вугал" рубленая ...

– І прыбудовы гаспадарчыя – хляўчук, пунька, дрывотнік нішто сабе. Аздобяць карціну сваёй непаўторнасцю, – уступіў у размову Максім, але раптам запнуўся, бо адчуў, што сказаў даволі крывадушна, калі не кпліва.

Дахі хлеўчука і іншых гаспадарчых пабудоў не для мастакоўскага, а для гаспадарчага вока выглядалі зусім непрывабна. Крытыя толлю, у некаторых месцах падлапленыя, латы, відаць, падгнілі і месцамі прыкметна абнізіліся, усё адно як па іх пахадзіў мажны асілак...

– Кіньце вы, не прыхарошвайце нашу беднасць! Даўно ўсё рамантаваць трэба, а сілачкі няма ні ў дзеда, ні ў мяне. Каб жа сынок хоць адзін быў, дык не даў Бог, не пашкадаваў нашую старасць... Толькі дочкамі надзяліў..., – усё адно як паскардзілася мастакам бабуля і павольна пайшла дахаты.

***

Хлопцы ж зноў захапіліся сваёй творчасцю.

Але неўзабаве з сялібы пачуўся глухі грукат, хтосьці біў абухом па дрэву. І тым часам дах над хлеўчуком пачаў зыбацца, а потым выраўноўвацца – выгіна амаль выпрасталася...

Праз колькі хвілін аб усім даведаліся ад гаспадара сялібы дзеда Васіля, які падышоў да мастакоў.

Спачатку, як заведзена, ён паздароўкаўся. Потым пастаяў трошкі моўчкі і зайшоў за спіны хлопцаў, каб разгледзець, што яны малююць. А тады, няведама чым супакоены, папрасіў закурыць. А ў курцоў жа заўсёды размова ідзе больш суладна...

– А вы ўсё малюеце і малюеце... Да вечара будзеце шчыраваць? Гэта ж колькі на ножках трэба адстаяць! Я не змог бы. І не толькі цяпер, калі гады на схіле, але і ў маладосці. Дужа няўседлівы быў. Заўсёды кідаўся ад адной справы да другой... – задумліва прамовіў дзед Васіль.

– А што рабіць... Карціны ж пакрысе пішуцца. Вось такімі маленечкімі мазкамі. Зірніце... – узяўся Максім растлумачваць зацікаўленаму дзеду асаблівасці жывапісу.

– А куды вы гэтыя карціны ладзіце, на прагляд каму, якому начальству?

– Ды не, для сябе ў асноўным пішам. Ніякага начальства над намі

няма, дзякаваць Богу. Хіба што потым выставу для аматараў жывапісу ў мастацкім музеі зладзім...

– А сельсаветчыкам нашым не будзеце паказваць?.. – дапытваўся недаверлівы дзед.

– А яны тут пры чым, няхай сваімі справамі займаюцца, – усміхнуўся Юрась.

І тут раптам у дзеда Васіля прарэзаўся малады імпэт. Ён перасмыкнуў плячыма, нібы ад якога прыкрага свярбення паміж лапаткамі, і ўсклікнуў:

– От, чортава стрыкалка! Няма клёку ні на грош! А я, дурань, і паслухаўся яе... Амаль ніколі ў жыцці не слухаўся, а тут слабіну даў, разгубіўся знячэўку...

– А што здарылася, дзед Васіль?

– Прыйшла ад вас і давай скуголіць: а яны вунь нашыя прыбудовы хліпкія вымалёўваюць, ды так праўдзіва, з усімі дзіркамі ды лапікамі, глянеш – упудзішся! А калі ў сельсавеце ўбачаць... Во як абразліва Амбрасёнкі праслаўляюць нашую мясцовасць, скажуць. І вытурыла мяне на гарышча хоць трохі дах у хлеўчуку падправіць, каб лагадней выглядаў. Давялося падбіваць пад латы падпоркі, каб хоць крыху ўзвысілася выгіна. Узрушыла баба на дурную работу... Цьфу! – дзед Васіль вылаяўся і папрасіў яшчэ адну цыгарэту.

– Ды не злуйцеся вы так на сваю Насту, дзед Васіль, дах жа і сапраўды раўнейшым стаў і, мусіць, прыгажэйшым... – супакойваў гаспадара Максім.

– Але мы ўжо свае карціны выпраўляць не будзем. У жывапісе падпоркі не паставіш... – дадаў Юрась, і Максім заўважыў, што ён ледзьве стрымлівае смех.

А неўзабаве дазнаўся, чаму напарніка апанаваў такі гуллівы настрой.

Юрась не так даўно прачытаў у кнізе аднаго расійскага гумарыста пра здарэнне, якое ў савецкі час адбылося ў Адэсе. Яно нагадвала показку.

У знакамітым сваімі характэрнымі абрысамі адэскім двары маладыя мастакі прыладзіліся маляваць гарадскі пейзаж, расказаў Юрась. Гуляюць гарэзлівыя дзеці, на звыклых нацягнутых вяроўках сохне бялізна...

І тут пачынае раскручвацца сюжэцік, вельмі падобны на сённяшні.

З дома выходзіць старэнькая бабулька і пытаецца ў мастакоў, чым яны займаюцца, і калі чуе, што малююць карціны і ганарыстае – "магчыма, і для выставы ў Маскве", бабулька хуценька сыходзіць.

Праз колькі хвілін яна вяртаецца з новым тазікам бялізны. І можна сказаць, бялізны не звычайнай, а куды лагаднейшай, амаль што "святочнай" – "для Масквы". Бабулька здымае з вяроўкі ранейшую непрывабную, на яе думку, бялізну і на яе месца вешае прынесеную абнову.

– У кожнага свой сельсавет! – падтрымаў вясёлы настрой сябра Максім.

Падчас вяртання ў Улу хлопцы дзяліліся ўражаннямі ад нечаканага здарэння ды абмяркоўвалі жыццёвыя перамены.

– А як ты думаеш, Юрась, чаго на свеце больш: людской абагуленасці ці індывідуальнай непаўторнасці? – раптам задаў Максім зусім не абавязковае пытанне, навеянае толькі што ўбачаным дзівацтвам старых людзей.

– Абагульненага, вядома, – сходу, усё адно як чакаў гэтага пытання, адказаў Юрась. – Падумай сам, людзі ж спрадвеку аб'ядноўваюцца, гэта значыць, абагульняюцца, каб памножыць сваю сілу. Ці то зарослыя валасамі з даўбешкамі ў руках, каб укакошыць маманта, ці то пастрыжаныя "пад нуль", каб заваяваць чужую зямлю або абараніць сваю. Зазвычай

іх аб’ядноўваюць і заклікаюць у паход правадыры з выцягнутай уперад рукой, на якую, нібы зачараваныя, пазіраюць людцы з ачмуранымі ад захапляльных ідэй галовамі і перапоўненымі страхам за свой будучы лёс душамі. Страх жа таксама аб’ядноўвае. Страх і нават аблудная перасцярога, як у Васілёвай Насты і невядомай нам адэсіткі... – Юрась спыніўся і дастаў з кішэні цыгарэты.

– Калі нас збіраецца так шмат і трэба зноў і зноў пералічваць колькі, дык ад імён можна і адмовіцца. Мы ж усе абагульненыя арыфметыкай, просценькім правілам складання! – падоўжыў сваю думку Юрась. – А навошта імёны, калі значна прасцей хадзіць пад нумарамі! Напрыклад, “Нумар шосты, да мяне!” або “Нумар семдзясят першы, змоўкніце, не трылузьце сваю “адсябеціну”!..” А можна і не ўжываць слова “нумар”, а проста казаць “шосты...”, “семдзясят першы...”. Людзі хутка пагаджаюцца са сваім статыстычным вызначэннем. Вось я, напрыклад, адзінаццаты, а ты адпаведна – дванаццаты... Мы ж ужо не самі па сабе, мы ж абагульненыя арганізатарамі пленэру. Падглядваем адзін у аднаго, што малюем, як фарбачкі кладзём на палатно... – памкнуўся пажартаваць напрыканцы сваёй прамовы Юрась.

– Я, выходзіць, апошні ў спісе?

– Гэта ж я за цябе хадайнічаў, так што запісалі ў апошні момант...

Калі хлопцы падыходзілі да Улы, яны здалёк убачылі, што на ўскрайку пасёлка, дзе пачыналіся палі, на ўчарашнім месцы мастакі зноў расклалі вогнішча.

– Можа, і сёння хто язя спаймаў... – усміхнуўся Юрась і весела таўхануў Максіма плечуком.

***

Час для Максіма, як заўсёды бывае ў маладосці, ішоў імкліва, іншы раз і подбегам. Праўда, мастак гэтага амаль не заўважаў. Дарма што ў бліжэйшыя гады ён прыняў удзел яшчэ ў некалькіх пленэрах, праведзеных Саюзам мастакоў з розных нагодаў. Было і колькі калектыўных выстаў жывапісу, які пакрысе амаль выціснуў з яго творчасці графіку. Душа так запатрабавала.

На Шарага звярнулі ўвагу не толькі аматары выяўленчага мастацтва, але і знаныя майстры.

А на пачатку пятага года пасля заканчэння інстытута Максім наладзіў і персанальную выставу, у экспазіцыю якой уключыў усё ж і некаторыя графічныя работы, у тым ліку і густоўна зробленыя ілюстрацыі да кніг.

Але творчыя поспехі з кожным разам усё менш і менш грэлі яго. Ды і як назваць важкім поспехам тое, што так лёгка даецца, без асаблівых высілкаў. Выставачных залаў у горадзе было шмат – толькі загадзя падавай заяву аб намеры паказаць публіцы свае новыя творы.

Да таго ж Максім заўважыў, што адкрыццё ўсіх выстаў, а ён стараўся не прапусціць ніводную, адбываецца на адзін манер, усё адно як пад капірку. Спярша віншавальныя словы загадчыцы залы або дырэктаркі мастацкага музея (гэтыя пасады ў горадзе здавён займалі жанчыны), потым прывітальны знак ад уладаў праз выступленне каторага прысланага на адкрыццё прыўладнага службоўца: маўляў, жывапіс, які мы разумеем, вядома ж, светлая з’ява ў жыцці нашага грамадства... А пасля гэтага – ухвальна-прывітальныя словы калег-мастакоў. Ані драбочка крытыкі, ані

якой-кольвечы заўвагі аўтару... Навошта! Тады ж на тваю выставу, якая адбудзецца неўзабаве, вярнецца табой жа атручаны бумеранг... Дурняў няма! Няхай лепш вяртаецца з той жа, а то і памножанай лагодай і пахвальбой!

А строгіх мастацтвазнаўцаў у правінцыі амаль не бывае...

І Максім хутка зразумеў, што мастакі, нібы грыбы, варацца ў сваім соку – нават булькаценне ледзь чутно з-пад накрыўкі...

Праўда, на адной з выстаў да яго падышоў знаны мастак, удзельнік вайны, партызан Харытон Заяц. Сумуючы па ўважліваму слухачу, ён спрытна залучыў Максіма ўбок ад грамады і пачаў распавядаць пра набалелае:

– А мы ж, хлопец ты мой, на старых дражджах яшчэ раскашуем... Як ні круці, а мусім быць удзячнымі партыі за шчаслівы, урэшце для нас творцаў, міф аб прыналежнасці мастацтва народу. У свой час у горадзе было набудавана вунь колькі выставачных залаў, якраз жа дзякуючы гэтаму міфу. Улада ў літаральным сэнсе імкнулася наблізіць мастакоў да людзей. І тое, што чынавенства, каб прывеціць нас, прыходзіць на выставы – таксама працяг партыйнай завядзёнкі. Услед за партыйнымі папярэднікамі па інерцыі гэта робіцца... Партыя сышла са сцэны, а інерцыя так хутка не затухае! Вось так, мой даражэнькі...

Максім углядаўся ў твар мастака, каб глыбей зразумець, якія пачуцці пры гэтай поснай гамонцы напаўняюць яго душу. Наколькі шчыры яго водгук на перамены, якія адбываюцца ў грамадстве... Але нічога, апроч стрыманай усмешкі: маўляў, паглядзіш, што далей яшчэ будзе! – заўважыць не ўдалосяся. Між тым Харытон Іванавіч, які, дарэчы, доўгі час узначальваў партыйную арганізацыю абласнога аддзялення Саюза мастакоў, доўжыў сваю споведзь:

– Апошнім часам, Максім, мастакі, хто імкліва, хто пакрысе, пачалі аддаляцца ад народа, цурацца еднасці з ім. Асабліва ў нашым горадзе. Яшчэ б! Тут жа стваралі свае творы такія зацятыя індывідуалісты, як Малевіч і Лісіцкі, не кажучы ўжо пра Шагала, які наогул нарадзіўся ў Віцебску...

– І яшчэ шмат хто з выбітных мастакоў адзначыўся ў нашым прывабным месцы!.. – міжволі лісліва дадаў Максім.

– Вось жа! Дык прадоўжу. Некаторыя сённяшнія маладыя захапіліся так званым нематэрыяльным жывапісам – імкнуцца цалкам адцурацца ад рэчаў, жывых людзей, ад натуры, карацей кажучы, ад рэалізму. Я ўжо не кажу пра рэалізм сацыялістычны, які яны ўспрымаюць як колішнюю прыгнётную няволю...

Аблудна думаюць, што адмаўленне ад матэрыяльнага, рэалістычнага лёгка пераносіць іх у духоўную сферу ўзаемаадносін з гледачом. А ці ёсць у іх творах хаця б грамулька якой-кольвечы духоўнасці? Маладыя творцы, накшталт цябе па ўзросце, – Харытон Іванавіч хітра ўсміхнуўся на гэтых словах, – сёння ўвобміг робяцца абстракцыяністамі. Нагледзяцца альбомаў мастакоў з-за мяжы, балазе іх цяпер поўныя паліцы ў кнігарнях, аблюбуюць якіх пару прыёмчыкаў у тамтэйшага творцы, спалучаць з мясцовым каларытам, перабарляюць сваё і чужое, як сыраквашу, і вось гатовая абстракцыйная куламеса. Але ж каб займець адпавядаючае абстракцыянізму мысленне і пачаць выяўляць свой унутраны свет праз яго, для гэтага трэба прайсці доўгі шлях, часам пакутлівы і роўны цэламу жыццю... Праўда, ніхто й не збіраецца так рабіць. У сапраўдных абстракцыяністаў непаўторная стылёвая плынь, свая рака. А сходу ўвайсці ў яе – значыць заняцца эпігонствам, падрабляцца пад чужое... – Харытон Заяц гаварыў

так гладка і нязмушана, як па-пісанаму. Здавалася, ён паўтарае на памяць урывак з асветніцкай лекцыі.

Пасля адкрыцця выставы Максім па дарозе дамоў думаў чаму менавіта яго выбраў Харытон Іванавіч Заяц, каб уволю нацешыцца са сваіх развагаг і сваёй непахіснай перакананасці. Можа, на яго ўжо мала хто звяртае ўвагу, а тут раптам убачыў, адчуў і прыцягнуў да сябе паслухмянага слухача... Можа, з неверагодна пранікнёнасцю зразумеў, што душа Максіма яшчэ падатлівая да ўздзеяння, нібы мяккі воск...

Так альбо інакш, але маладому мастаку было непамысна на душы.

***

Стаяў пагодлівы, сонечны веснавы дзянёк. У кронах квітнеючых дрэў гулі пчолкі. І Максім вырашыў зайсці ў батанічны сад, які быў якраз па дарозе на работу. Яму заманулася паглядзець, як расквітнела сакура. У садзе ж расло адзінае на ўвесь горад дрэўца з даволі разгалістай кронай – згадка пра Краіну ўзыходзячага сонца. Але каля сакуры, нягледзячы на тое, што сонца ўзнялося даволі высока, нікога не было. Мастак знерухомеў у адзіноце перад нахваленай на ўвесь свет прыгажосцю.

Сакура да апошняй галінкі была ўбрана пеністай квеценню. Кранутыя ружовым колерам пялёсткі пацалункава лашчылі вочы... Вочы...

Максім раптам згадаў... сваю вёску і старую суседку бабу Просю, да якой пры неабходнасці звярталіся маладыя маці, каб яна языком дастала з вочка каторага дуроніка парушынку, якая падчас свавольства трапіла пад павека і зноў, і зноў даводзіць хлопчыка да слёз. А “цалаваць” вочкі маленькіх шаляніцаў умела ў вёсцы толькі гэтая ласкавая бабулька.

Цяпер каля квітнеючага дрэва Максіму міжволі ўспомнілася, як у свой час і сам быў яе “пацыентам”.

...Баба Прося прытуліла яго да сябе, прыхінулася да засмечанага вочка ротам, абдаўшы цёплым, напоўненым духмяным пахам свежаспечаных хрушчыкаў дыханнем, і... паміж павекаў, настойліва расхінаючы іх, патачыўся тонкі і гнуткі, як хвасток вужачкі, кончык яе языка. Потым язык слізгануў па воку да самага куточка, дзе сыходзяцца павекі, і працер яго, нібы мякенькай анучкай, якой маці працірае люстэрка...

– Вось твая парушынка... – зняла Прося пальцам са свайго языка ледзь прыкметны, амаль незаўважны драбочак. Але навошта яго заўважаць і тым больш запамінаць, калі вочка глядзіць ужо ясна, а што яшчэ слязіцца, дык гэта ж не ад болю, а толькі ад страху перад бабуліным чарадзействам.

Максім, міргаючы ад хвалявання, каб не прапусціць якое помнае імгненне, пільна ўглядаўся ў абсыпаную кветамі крону сакуры. Але нечаканасці не было. Толькі японская, улагоджаная адметнай прыгажосцю вечнасць...

“Мусіць Стваральнік так прыглушыў каляровую насычанасць кветак, каб яго лепш зразумелі вытанчаныя японцы...” – падумаў Максім.

Подых ветрыку раптам сарваў з галінкі колькі буйных пялёсткаў, і яны, віхляючы, паволі паляцелі долу. “Пакуль ляцяць, які адмысловы майстра паэзіі мог бы скласці хоку... Але не ў нас, вядома, а на радзіме сакуры і гэтай паэзіі...” – падумаў Максім, і вусны яго ледзь прыкметна кранула ўсмешка.

Мастака вывеў з одуму голас незнаёмца, які незаўважна падышоў да яго са спіны і, калі наблізіўся, звярнуўся з просьбай даць... прыкурыць.

– А хіба тут можна курыць, перад такой дзіўнай квітнеючай з'явай?! – спытаў здзіўлены нечаканым зваротам Максім.

– Мне можна! Я тут працую, аранжарэю з кактусамі ў холад ацэпліваю. Падумаеш, вішня заквітнела... Кактус, во гэта кветачка!.. Калі ўгадаеш колькі дробных прыкметаў маючага адбыцца цвіцення, дык пачынаеш хадзіць вакол раслінкі, нібы кот на мяккіх лапах, асцярожненька дыхаеш, баючыся паветра зварухнуць, гатовы да сэрца прытуліць ганарлівую калючку... А як за тэмпературай сочыш, каб спрыяльнай была да апошняга неабходнага ёй градуса! Ночы гатовы не спаць, пільнуючы! І не спіш. Затое як цешуся, калі амаль што на маіх вачах кактус, як гусак разбуджаны сярод ночы, выкідвае ўгору, нібы доўгую шыю, сцябло, а на ім пачынае пакрысе раскрывацца кветачка. І яна, здаецца, усміхаецца, нібы таксама адчувае святочны момант. А праз колькі дзён сцябло ападае, усё адно як зрэзанае смяротнай касой. Усё, адцвіла раслінка! Хоць ты плач... – прачулена прамовіў высозны і сухі, як хорт, незнаёмец, нянголены не па модзе, а хутчэй з неахайнасці, і пабрыў далей.

Здзіўлены Максім ледзь было не пашкадаваў, што не даў яму запальніцу, і праводзіў чуйнага небараку самотным позіркам. А праз колькі хвілін і сам пайшоў.

***

Па дарозе Максіму згадалася, што японцы, калі надыходзіць пара цвіцення сакуры, пакрысе пачынаюць, па сутнасці, паломніцкі рух па краіне – з поўдня на поўнач, туды, дзе сакура зацвітае пазней. Едуць на цягніках, у аўтобусах, легкавушках, каб паспець убачыць узыход яшчэ аднаго далікатна-ружовага сонейка. І дзеля чаго? Дзеля падаўжэння прынятага ўсім грамадствам любавання чароўным дрэвам. А як жа інакш, калі ўзор нязгаснай, як веснавое жаданне жыць, прыгажосці прыняў сэрцам найдалёкі продак, можа, тысячу гадоў таму! Прыгажосці, якая родніць людзей.

"А гэтае ж адмысловае паломніцтва ўтварае людскую плынь на далёкіх астравах, плынь, якая рухаецца па супольна пракладзеным рэчышчы, – падумаў Максім. – І ўсе гэтыя паломнікі, можна сказаць, займаюцца выяўленчым мастацтвам. Ну так, гэта ж яно і ёсць, толькі форма адмысловая – сузіранне як сутворчасць. Але з кім сутворчасць! З найвялікшым Стваральнікам! Чуе Усемагутны, як душы людскія ад яго твора трымцяць і, мусіць, радуецца..." – Максім аж здрыгануўся ад гэтай гожай думкі.

"А Харытон Заяц меў рацыю, калі казаў пра раку творчасці, у якую апроч аўтара, больш ніхто не ўвойдзе. А ў гэтую, паломніцкую раку, выходзіць, ніхто яшчэ, апроч аднаго народа... Цікава, а ці ёсць у беларусаў такое адно на ўсіх захапленне?" – схамянуўся Максім, але апроч смалення вепрукоў у зазімак, а з цягам часу нецярплівае, да слінкі ў роце, сквапнае любаванне хлопцамі-падлеткамі падвешанымі на шастку на гарышчы духмянымі кіндзюкамі і кілбасамі – не кратаць да касавіцы, матка загадала! – нічога згадаць не змог.

***

А тады адбылася падзея, якая па значнасці для Максіма была параўнальная з цвіценнем сакуры. У Віцебск пабываць у тэатры імя Якуба Коласа і дамовіцца аб праходжанні тут (а дзе ж яшчэ!) маючай адбыцца восенню

азнаямляльнай практыкі прыехала Тося. Яна колькі разоў упрошвала выкладчыка аб шчаслівым для яе накіраванні. Паабяцалі...

І яны сустрэліся. Тося здзівіла Максіма сваімі нечакана новымі ўборамі. “Ёлачка мая навагодняя...” – усміхнуўся ён у душы, калі пабачыў на сваёй каханай доўгія срэбныя завушніцы-вісючкі і колькі разоў абкручаныя вакол шыі гірлянды доўгіх караляў.

Тося адразу заўважыла здзіўленне каханага і з усмешкай, якую не змагла звузіць і на адзін зубок, кінулася ў абдоймы Максіма.

– Ну як табе мезансцэнка нашая, як я да яе падрыхтавалася?! – Тося патрэсла галавой, каб прывітальна азваліся адметныя званочкі-завушніцы. – І як табе мой сцэнічны вобраз? – засмяялася яна, – Я наўмысна нашую чаканую сустрэчу так абладзіла, каб хоць на крышачку адчужыніцца падчас сустрэчы, не захлынуцца ад радасці. Вось і мусіла ў “сцэнічным” абліччы зачарсцвець, як скарыначка. Калі пайду ў тэатр, вядома, паздымаю з сябе ўсе гэтыя цацачкі... Затое цяпер ведаю: калі кахаеш, сэрца аніякімі хітрыкамі і на імгненне не астудзіш...

І Тося зноў прыхінулася да Максіма, з усяе сілачкі абшчапіла яго, усё адно як раптам забаялася, што ён сыйдзе па якой пільніцы.

– Родны мой... Родны... Як я змарнела без цябе... – і яна, нібы сляпая, зноў і зноў цалавала яго твар, пакуль напаткала нарэшце пажадныя мілыя губы.

А потым яны пайшлі гуляць па Віцебску, у якім Тося раней ніколі не была. І зноў, як ужо здаралася, калі да Максіма прыязджалі сябры і ён вадзіў іх па гарадскіх вулках, на душы мастака гусцела горыч і самота. Даводзілася зноў і зноў згадваць вайну і, нібы за брустверам, хавацца ад цяжкіх пытанняў. Ну як, напрыклад, расказаць аб Дабравешчанскай царкве XII стагоддзя, значна пашкоджанай падчас вайны, і не сказаць, што яна была амаль цалкам зруйнаваная па рашэнні гарадскіх уладаў у 1961 годзе?.. А тады, напрыканцы 1990-х нарэшце адноўленая. І навошта было так бязладна закальцоўваць час!

Але ў горадзе было шмат утульных скверыкаў са зручнымі лавамі, дзе можна было пасядзець, пацалавацца, не звяртаючы ўвагу на мінакоў, і ўволю нагаварыцца. Не так і мала для закаханых.

У пятніцу з раніцы Тося схадзіла ў тэатр, хоць Максіму не дужа верылася ў неабходнасць гэтай сустрэчы з рэжысёрам, і наперадзе ў іх быў вольны вечар і заўтрашні выхадны дзень. Не так і мала для закаханых.

І тады Максім паказаў ёй сваю ўлюбёную вулачку Талстога, якая месцілася непадалёк ад тэатра. Яны прайшліся па ёй падручкі. А што там было ісці – усяго якіх дзвесце з лішкам крокаў, як аднойчы, шпацыруючы на самоце падлічыў задуменны мастак.

На сярэдзіне вуліцы Максім абшчапіў Тосю за плечы, прыхінуўся да яе і змусіў паглядзець уверх:

– Бачыш, якія ліхтары дзівосныя!... Вісяць акурат над сярэдзінай вуліцы на дроце, напятым паміж слупоў. А лямпачкі, зірні, затоеныя ў глыбіні плафонаў, як у гняздзечках, цемру чакаюць.

– Ой, і праўда, дзіўна! – усклікнула шчасслівая Тося, нібы ёй адкрылі нязнаны дагэтуль свет.

– Дык гэта што, толькі словы... А каб ты пабачыла вулку, калі святло запальваецца! Краі плафонаў абразаюць яго, і на асфальце высвечваюцца выразныя жаўтаватыя кругі. А падчас дажджу, яшчэ лепш – густога снегу,

святло з-пад лямпаў набывае форму правільных жывых конусаў! Вецер пагойдвае ліхтары на дроце, а ўсё адно ўтульна, нібы ўздоўж вуліцы запалены вялізныя настольныя лямпы. Ты дома, у Віцебску...

Максім з задавальненнем пазіраў на Тосю, на яе шырока раскрытыя ад захаплення вочы і азораны замілаванасцю твар.

Мастак зразумеў, што яна імкнецца ўявіць пераказаны відарыс.

Між тым яны падыходзілі ўжо да завяршэння вулачкі, у канцы яна плаўна паварочвала на Пушкінскі мост цераз Віцьбу. І тут Максім звярнуў увагу Тосі на яшчэ адну адметнасць:

– А зірні вось на гэты дамок, Тосечка!

– Ну дом, як дом, двухпавярховы, звычайны, адно што старажытны...

– Мала, мала... – памкнуўся падурэць з ёй Максім, але Тося не падтрымала яго настрой.

– Здаюся, кажы хутчэй...

– Звярні ўвагу на выгін вуліцы, тут яна пачынае паварочваць улева, а дом паўтарае яе абрыс, ні адной цаглінкай не пярэчыць, дапасоўваецца шчыльненька. Прытым, відавочна, дом будаваўся пасля таго як была пракладзена вулачка, і будаўнікі, звярні ўвагу, не прастукутны падмурак зрабілі, а выгнуты па ёй. Якое далікатнае стаўленне да гарадской забудовы! Хіба не ўражвае...

– Захоплены ты мой... – прытулілася да Максіма Тося і памкнулася пацалаваць яго. Пры гэтым дзяўчына пакрысе паварочвала на Пушкінскі мост, думаючы, што такім маршрутам падоўжыцца іх прагулянка. Але Максім, цвёрда падстаўляючы плячо, змусіў яе ісці простым кірункам – на бераг Дзвіны.

Ціха булькацела, упадаючы ў яе, Віцьба, зводдаль, леваруч месціўся шырокі Кіраўскі мост, па якім і на імгненне не спыняўся напружаны рух... Якраз тут і падоўжыў сваю “экскурсію” Максім:

– Бачыш на супрацьлеглым беразе вунь той будынак побач з гасцініцай? У свой час там быў клуб металістаў. А пасля вайны ў разбураным горадзе яго аддалі пад тэатр – іншых падыходзячых памяшканняў не было. Мост праз Дзвіну ляжаў у руінах, на вуліцах друз, цэгла. Электрычнасці няма... А тэатр з асветленымі вокнамі адкрыў свае дзверы гледачам. Вайскоўцы перадалі дызель-генератар, вось ён і асвятляў... Але самае цікавае для цябе не гэтае, а вось што, Тосечка...

– Куды ўжо цікавей. – здзівілася дзяўчына.

– Паслухай. Каб патрапіць на прэм’еру, аматары тэатра, якія жылі на гэтым беразе, па колькі чалавек садзіліся ў лодкі і веславалі на сустрэчу з ўлюбёнымі акторамі. Золь, вецер сіверны, рака шырокая паўнаводная, а яны вяслуюць. І гэта ў галодны, неўладкаваны пасляваенны час...

– Зайздрошчу тым рэжысёрам і акторам... – з сумам і жалем у голасе прамовіла Тося.

А потым яны пайшлі ў яшчэ адзін скверык, які быў непадалёк ад прыстані і прабавілі на лавачцы добрую гадзіну – гаварылі, гаварылі, гаварылі і, здавалася, не будзе канца іх гамонцы.

***

Пакрысе ў жыцці Максіма праз яго нястомнае старанне адкрылася некалькі важных абставін. Па-першае, набралася ўжо дастаткова выстаў з яго ўдзелам, каб збірацца да ўступлення ў Саюз мастакоў. “Дастаткова”

– гэта дзесяць. Такім было даўнейшае, яшчэ савецкае правіла: пакажы людзям на дзесяці, не менш, выставах на што ты здатны як мастак, здзіві публіку, а тады ўжо спрабуй атрымаць "афіцыйнае пасведчанне" аб прафесійнай годнасці. Сяброўства ў Саюзе маладым мастакам найперш было неабходнае дзеля атрымання асабістай майстэрні – без яе якая творчасць!

Максім, нібы мастак-самавук, па сетцы накрэсленых квадрацікаў "перамалёўваў" на чыстае палатно накіды сваёй біяграфіі. Усё, як ва ўсіх, раней ці пазней: выставы, Саюз, майстэрня... Апошнія па часе клетачкі, праўда, былі яшчэ ў густым мораку. Але не бяды, галоўнае не збочваць!

У сталічнай прыватнай галерэі – к таму часу з'явіліся ўжо і такія – яму ўдалося прадаць два свае нацюрморты. (Рынак нарэшце пачаў віраваць, ці што?!) Менавіта ў напісанні нацюрмортаў Максіму ўдаваліся найлепшыя творы. І сёння ў яго партманэце ляжала пэўная сума з продажу, каб чарачкамі падзяліць радасць поспеху з калегамі.

Раняшняе набліжэнне да будынка мастацкіх майстэрняў змусіла хлопца падумаць пра тое, што з цягам часу яму давядзецца куды далей дастававацца да працы, бо яна будзе месціцца ў іншым месцы.

Будаўнікі збіраліся неўзабаве завяршыць унутраныя работы ў чатырохпавярховым гмаху, які ўзводзілі адмыслова для мастацкага камбіната: са шматлікімі майстэрнямі, як індывідуальнымі, так і супольнымі, вялізнымі – для выканання талакой ёмкіх замоваў (будаўніцтва планавалася, калі такія замовы яшчэ былі); з вытворчымі цэхамі, ну і, вядома, з актавай залай ды кабінецікамі для начальства.

Праўда, гэтае "неўзабаве" доўжылася ўжо колькі гадоў, а цяпер, падчас перабудовы, з-за мізэрнага фінансавання праца на аб'екце і наогул ішла надта вяла. Але ж далей зацягваць тэрміны і фінансістам, і будаўнікам не выпадала – высокае абласное начальства раз'ятрылася, пачало сыходзіць гневам, больш не магло цярпець прамаруджвання. Адказныя за будаўніцтва па даўняй завядзёнцы пачалі вышукваць "унутраныя рэзервы".

А мастакі між тым пакуль месціліся ў жылым доме ў цэнтры горада, цалкам займалі адведзены ім першы паверх.

Ступіўшы на парог, Максім лёгка ўявіў, як пройдзе сённяшні дзень. Ён быў упэўнены, што ўсё адбудзецца, як звычайна...

Спачатку яны рупна зоймуцца вытворчымі справамі, пачнуць паказваць адзін аднаму на прагляд эскізы і гатовыя часткі супольнай працы, якія павінны скласці суцэльны твор. Трэба было ўдакладніць, як гэтыя часткі стасуюцца, ці трапна ўсё сашчыльніваецца, ці так, як планавалі, калі не, – пачнуць дапрацоўваць, змяняць ці нават перарабляць, каб нарэшце выставіць праект на зацвярджэнне мастацкай радай.

Потым мастакі пачнуць за мальбертамі ці сталамі туліцца па сваіх кутках і не звяртаць увагу адзін на аднаго. Хіба што раз-пораз будуць вымушаны адгукацца смехам на свежую гучна расказаную показку або, зацікаўленыя расповедам аднаго з творцаў пра ўдалую рыбалку ў выхадныя, выпытваць у яго месца лоўлі і дазнавацца пра найбольш спакуслівыя прынады.

А потым усе будуць прасякнутыя адчуваннем самай маруднай у свеце хады часу, паралельнай з рухам кроплі жывіцы па шорсткай кары да замацаванай на ствале набіркі.

Асабліва зморным было гэтае чаканне на сыходзе працоўнага дня, і каб прагнаць маркоту, мастакі часцей, чым раніцай, пачнуць расказваць показкі і вясёлыя гісторыйкі. Ніхто не будзе трымаць пад сподам душы

прадчуванне добрага вечаровага настрою, які вось-вось возьме іх у вясёлы палон. Пры гэтым яны раз-пораз будуць дапытліва пазіраць на самага высокага ў іх грамадзе Руслана Равяку – на яго самога і на адмысловую, старанна абгабляваную рэйку, якая заўсёды ў яго пад рукой.

Апошнюю паўгадзіны да наступлення чаканага моманту мастакі пачнуць туляцца з кута ў кут, не ведаючы, куды сябе падзець. Некаторыя будуць падыходзіць да люстэрка на сцяне і прычэсваць свае пышныя фрызуры, нібы перад якой урачыстасцю.

Нарэшце! Руслан браў у рукі рэйку, станавіўся на зырка пазначанае на падлозе месца і рабіў тры ўдары ў столь яе расплясканым ад доўгага ўжывання канцом. І мужчыны адразу садзіліся за стол: даставалі ежу, якую прыкупілі ў абедзенны перапынак, а таксама смачнейшую, не крамную, а прынесеную раніцай з дому.

Хвілін праз пяць у дзверы грукалі, і на парозе з'яўлялася ветлая і даволі прывабная для яе немаладога ўжо веку спадарыня Клаўдзя. Яна перадавала аднаму з мастакоў сваю невялічкую сумачку, атрымлівала ад яго грошы і чакала, пакуль творцы заменяць посуд, напоўнены... самагонкай, на раней спарожнены, які, дарэчы, быў загадзя падрыхтаваны. Роўна чатыры бутэлькі, колькі і прынесла жанчына. Наўзамен. Усё было даўно вызначана: колькасць, якасць, кошт... Адладжаная сувязь!

Быў час, калі прадпрымальніцтва набірала сілу. У тым ліку і стараннем Клаўдзі.

І таемная самагоншчыца яшчэ што! У пад'ездзе, у якім на першым паверсе месцілася майстэрня скульптара Яся Яндзюковіча, напрыклад, кааператары абсталявалі кіёск па продажу спіртнога. Сярод мноства розных напояў праз вакно, якое выходзіла на вуліцу, можна было ўбачыць на вітрыне і пузатыя бутэлькі славутага ў той час, дарма, што тэхнічнага, галандскага спірту “Раял”. Раніцай увайшоў у пад'езд з двара (а так ім і карысталіся): направа дзверы твайго творчага прытулка, а проста, рукой дастаць – металічныя дзверы прытуленага кіёска, праз якія дастаўляўся тавар. Можна было пагрукаць, павітаць кіяскёрку Алу і папрасіць у яе бутэлечку “беленькай”, маўляў, не нацэлены з раніцы на работу, нешта нутро круціць... Можна было нават “на павер” узяць напой, як у вясковай краме, гэта значыць, пазычыць, пакуль грошы завядуцца. Усе ж свае!

І Клаўдзя, дарэчы, колькі разоў прыносіла свой, упадабаны мастакамі напой, “на павер”. Праўда, гэта было на пачатку перабудовы.

Суседка мастакоў па доме, яна жыла, як вы ўжо зразумелі, на другім паверсе, акурат над вялікай супольнай майстэрняй, а кухня, дзе руплівіца гнала самагонку, месцілася наўпрост над Русланавай пазначкай на падлозе.

Клаўдзя мела звычку прыносіць свой “сельскагаспадарчы напой” у малочных бутэльках. Яны ўжо практычна выйшлі з ужытку, на змену прыйшлі тэтрапакеты, але ў яе захавалася, колькі трэба.

Спагадлівая суседка зверху выкарыстоўвала просты спосаб закупорвання шырочанькіх рыльцаў адмысловых бутэлек: накладвала зверху лапік поліэтыленавай плёнкі для цяпліц, абціскала яго ўніз і абвязвала шпагатным матузком.

Клаўдзя і ведаць не ведала, што яе фірмовы спосаб закупорвання стане смешнай уцехай для разьбяра па дрэву Зміцера Лушчыца. Як толькі бутэлька трапляла на стол, яе тут жа падхопліваў, развязваў матузок і здымаў накрыўку ўвішны разьбяр. Матузкі Клаўдзя завязвала лёгкімі вузельчыкамі,

“у банцік”, і Зміцер успрымаў гэта як знак асаблівай ветласці суседкі. Ён упільноўваў кожную бутэльку і стараўся толькі асабіста адкрываць яе.

З цягам часу многія мастакі заўважылі, што матузкі Лушчыц, у адрозненне ад накрывак, не выкідвае ў смецце, а звязвае адзін з адным, усё адно як маючы намер такім чынам паказаць усім удзельнікам сябрыны працягласць, у сэнсе даўжыню, іх супольнага разгульнага жыцця. Але як неўзабаве высветлілася, ён паказаў не даўжыню суцэльнай вяровачкі, а велічыню скручанага з яе клубка. І некаторыя, у тым ліку і Максім, добра-ткі жахнуліся, калі ўбачылі ў тым клубку блытаніну звілін, вобразна кажучы, іх калектыўных мазгоў.

Некаторыя падумалі: няўжо Зміцер, чалавек з ушчэнт парэзанымі рукамі, наўмысна дамогся такога ўражання і адпаведна іх агульнага спуду.

***

Спачатку Максіму вельмі падабаліся сябрыны з калегамі, доўгія размовы і жартаўлівыя падкусванні адзін аднаго. Ва ўсім гэтым была іскрыстая бадзёрасць і пацешная праява людскога свету. Іншым разам яму здавалася, што час закальцаваўся і зноў доўжыць сваю ходу па ўтаптанай у маладыя гадкі сцежцы. Але неўзабаве ён зразумеў, што гэта толькі здаецца. Час у людзей з прадвызначаным, прадказальным жыццём, як у мастакоў з камбіната, ніколі не кружляе і не ўзвіхурваецца, а зазвычай лінейны, сумны і няўхільны.

“Ну так, збіраліся падчас вучобы і збіраемся цяпер за сябрынным сталом. Але цяпер смачней закусваем і менш гаворым пра жаданую будучыню. І тады, і цяпер гаварылі і гаворым пра выяўленчае мастацтва, але ў маладосці – пра яго горныя вяршыні, пра выбітных творцаў, цяпер – пра навакольныя ўзгорачкі, сваіх майстроў-таварышаў... Тэму вызначае вышыня мары.

У студэнцкім інтэрнаце цяжка было ўціснуцца ў шчыльнае кола ўдзельнікаў вечарынкі наўкруг стала, цяпер побач з кожным – свабоднае месца, а калі і ёсць цесната, дык хіба што ад абніжанай столі і адсутнасці ўзнёслых думак...” – з сумам думаў Максім, ідучы ўвечары дадому.

...Каб абмінуць батанічны сад, не спакушацца светлым уражаннем, якое ўжо здзьмуў з галін віхурысты вецер, ён даў кругаля і пайшоў на трамвайны прыпынак другой вуліцай.

Максіму чамусьці не хацелася дадому (жыў пакуль што на кватэры), і ён прысеў на лаўку на трамвайным прыпынку, усё адно як знайшоў найлепшае месца ў горадзе для роздуму.

Пра сваё жыццё ён думаў заўсёды і паўсюль, як і ўсе людзі, асабліва ў маладым узросце, але сённяшні вечар давёў нязводныя думкі да хвалюючай трывогі.

І паспрыяў гэтаму Зміцер Лушчыц са скручанай у клубок вяровачкай з Клаўдзіных матузкоў. Вострыя на язык хлопцы тут жа назвалі яго клубочак “мазгамі нацыі”, і зусім не бянтэжыліся ад свайго перабольшанага і відавочна ганарлівага вызначэння.

“Што гэты клубочак – наглядны вобраз нашых засыхаючых ад частых пагулянак мазгоў, ніхто не будзе пярэчыць! – даводзіў адзін з дасціпнікаў, азіраючы калегаў насмешлівым позіркам. – А мы, як ні круці, належым да айчыннай эліты. Вось і выходзіць...”

“А ўсё ж цікава, чаму мастакі такія схільныя да “гарачанькіх” напояў...

– думаў Максім на прыпынку, прычым яго вечароваму роздуму зусім не перашкаджала людская мітусня. – Падазрона, што да нас, як ні да каго іншага, так неадчэпна прыліпаюць увішныя Клаўдзейкі ды Алы-кіяскёркі са сваёй атрутай...”

І тут Максіму міжволі згадалася гутарка з выкладчыкам універсітэта, філосафам і мастацтвазнаўцам Яўгенам Жоўкстысам, з якім пазнаёміўся ў адной прыватнай галерэі жывапісу ў Мінску.

“У мастакоў ёсць адна глабальная праблема. – сказаў тады прызнаны знаўца. – Вы ж міжволі вымушаны ісці ўслед за Стваральнікам, імітаваць Яго! Азіраецеся наўкруг сябе, аблюбоўваеце якое дрэўца ці масток над затокай з лілеямі, ліпаваю алею або прыгажуню з натоўпа і робіце іх аб’ектамі свайго адлюстравання. А гэта ж усё створанае Усявышнім, апроч мастка, бадай. Вось і выходзіць, што вы займаецеся толькі плагіятам! Сам падумай. А некаторыя з вас яшчэ і нахабна выхваляюцца: маўляў, я ствараю свой свет! Замест Божага, белага свету?! Не ствараеш ты яго, небарака, а толькі пераліцоўваеш на свой капыл. Добра, калі яшчэ не павычварэнску. Але мастак сваё плагіятарства наўрад ці калі прызнае. Ён, хітрун невыпраўны, наўмысна не хоча прызнаваць загану ў сваім творчым метадзе, някідкую, але зморную для душы, нібы плямца на сумленні. Дарма што неўсвядомленую...”

Максім згадаў, як Яўген гаварыў яму, што менавіта гэтыя абставіны змушаюць мастакоў раз-пораз куляць чарку, каб праверанымі спосабам пазбавіцца ад смяротнай тугі, схавацца ад яе ў сугрэўны кокан.

– Ай, якія мы нікчэмныя! Жах-жах! – з іроніяй сказаў тады Яўгену Жоўкстысу Максім.

І пачуў у адказ: маўляў, дарма іранізуеш, лепш бяры прыклад з сусветна вядомага скульптара Генры Мура. У яго ж амаль усе скульптуры не суцэльныя, а са скразнымі дзіркамі – меншымі, большымі, зусім вялікімі, нібы прагалы...

Некаторыя знаўцы мяркуюць, што творца наўмысна прапускаў Божую прастору праз свае груваcткія стоды і такім чынам, усё адно як здымаў капялюш перад непаўторным Стваральнікам...

Максім спачатку зніякавеў, а потым схамянуўся:

– А як жа праз карціну гэтую прастору прапусціць, хіба што... дзірку ў палатне прарэзаць?!

Мастак закурыў і прапусціў яшчэ адзін трамвай. На прыпынку нядаўна паставілі новыя зручныя лавы, і ён на адной з іх адчуў дагэтуль нязнаную шчаслівую бадзяжніцкую ўтульнасць. Ён быў сёння на слабым падпітку, але ўсё адно хацелася на ветрыку асвяжыць галаву да стану чысцюткай, толькі што памытай крышталёвай чаркі.

“Многія знаўцы адзначаюць, што я трапна “перdesignеказваю” фарбамі на палатне святло, якім атулены рэчы, тонка адчуваю яго паступовы пераход ад зыркасці да таямнічага ценю... А можа, гэта ў жывапісе і ёсць своеасаблівае здыманне шапкі перад Стваральнікам... Чаму б і не...” – усё адно як завочна падоўжыў мастак размову з Яўгенам.

***

Дома, нібы шалупінне з цыбулі, зляцела з нядаўніх думак Максіма прыкрая філасофская прыўкраса.

“Лухта ўсё гэта! Які плагіят! Якая плямка вінаватасці на сумленні, а

праз яго і гнятлівае затлумненне... Мастакам проста падабаецца весела жыць і ўсё тут!" – засердаваў на свайго колішняга суразмоўцу Максім. Але, нягледзячы на гэтую ўспышку рашучасці, хлопцу ўсё ж аніяк не ўдавалася пазбавіцца ад сумнага роздуму. І нездарма.

Апошнім часам ён з хваляваннем пачаў заўважаць, што даволі-такі моцна прыахвоціўся да выпіўкі. Міжволі заўважаеш і звяртаеш увагу на тое, што неадчэпна паўтараецца.

Ён ніколі не адстаўляў чарку ўбок, калі збіралася кампанія мастакоў. Піў з ахвотай, не звяртаючы ўвагу на смак. І пры гэтым рабіўся амаль непадуладны п'янючай сіле гарэлкі або віна – толькі паспявай чарку напаўняць... Гэтай непераможнай цвярозасці, пагрозлівага прадвесця неадчэпнай хваробы, як сказаў знаёмы медык, Максім якраз і пачаў баяцца. З прыкрай немаччу які будзе жывапіс?! Адна толькі прага хутчэй апахмяліцца, ды мітуслівыя ўцёкі ад дэпрэсіі... "І ад папрокаў гаваркога Жоўкстыса аб бессаромным плагіяце... – іранічна ўсміхнуўся мастак. – Хоць ты ў абстракцыяністы пераходзь: у каляровым ды графічным бязладдзі аніякага плагіяту нямашака, нават праз павелічальнае шкло не ўгледзіш..."

На частых пагулянках Максіму пачало надакучаць тое, што мастакі, варта было сесці за стол – і ні то ад зайздрасці, ні то дзеля насмешкі, крытыкуючы творы жывапісу або графікі, пачыналі ў едкім шчолаку злой іроніі перамываць і костачкі сваіх калег. Гэта вам не адкрыццё выстаў, дзе словы льюцца, як ручаёк срэбразвонны.

"Ну што за карцінкі зноў выставіў наш заслужоны і ганарлівы?.. Усё адно як аблюбаваў пару клавіш на піяніна і дзяўбе па іх, дзяўбе, дзяўбе, мусіць, да смяротнай стомы будзе доўжыць сваю, як яму здаецца, творчую дзею. А між тым пара ўжо пра вечнае пачынаць думаць. А ён, жыццялюб несуцешны, усё гарбузы ды кабачкі на сваіх нацюрмортах вымалёўвае, нібы цешчын агарод уваччу застыў і больш нічога..." – казаў хто-небудзь з ганарлівых маладзёнаў.

"Пайшла мода на перформансы, хоць ты ратунку крычы, – азываўся мастак сталага веку, які ўсё жыццё адпрацаваў на камбінаце і стварыў для розных чырвоных куткоў і куточкаў дзясяткі партрэтаў ніколі не старэючага правадыра. – Гэта ж трэба, у труну кладзецца ў белым адзенні, колькі метраў па Дзвіне праплыве на хісткай сваёй пасудзіне, а як набярэцца ў няшчыльныя ночвы-дамавіну вады, выходзіць мокры на бераг і перад натоўпам пачынае прамаўляць казань, нібы месія нованароджаны, які са сваёй блюзнерскай калыскі ўзняўся. Перформанс! Глядзець гідка..."

Максім аніяк не мог даўмецць, чаму мастакі так не любяць адзін аднаго.

"У канкурэнтнай валтузні, кожны імкнецца адціснуць калегу ад грашова прывабнай замовы..." – прыйшла яму на розум просценькая думка.

Маладому мастаку ўсё гэта было прыкра і нялюба.

Праз колькі месяцаў Максім замаляваў новыя квадрацікі на палатне сваёй біяграфіі. Ён быў прыняты ў Саюз мастакоў, прытым амаль аднагалосна – супраць падаў голас толькі адзін чалавек. "Зайздроснік!" – падумаў хлопец.

У Мастацкім музее, дзе экспанавалі свае работы прызнаныя майстры, прайшла яго персанальная выстава. Балазе, да таго часу ў яго назапасілася ўжо шмат работ, і пад іх экспазіцыю была адведзена найвялікшая зала.

Выстава атрымала добры розгалас у мясцовай прэсе і на тэлебачанні. І Максім упершыню пашкадаваў, што па заканчэнні інстытута зрабіў далёка

не ўсе захады, каб застацца ў Мінску. Цяпер, падчас такога прыкметнага творчага ўзвышэння, яму падаліся ўжо цеснымі межы правінцыйнага Віцебска, хоць і адзначанага ў свой час прысутнасцю тут многіх выбітных мастакоў. Але колькі можна пра гэта казаць з бясконцай ганарлівасцю!.. Мінулае!... Калі тое было, ды і не ўвойдзеш услед за знанымі творцамі ў іх бруістыя рэкі, казаў той Харытон Заяц.

А ў Мінску шырокі жыццёвы прасцяг, і большасць сяброў па студэнцкай лаве засталіся ў сталіцы. Тамтэйшыя мастакі, думаў Максім, не такія зайздроснікі і нядобразычліўцы, як нашы. Апроч усяго, творцу ніколі не хапае славы, як жміндзе грошай, а ў Мінску куды большыя магчымасці для разгортвання яе шумных крылаў. Цяпер мастак адчуў гэта асабліва востра.

***

Адной з падзей, якой найбольш запомнілася персанальная выстава Максіма, было яго знаёмства з Мікалаем Ягоравічам Шолахам, сталым мужчынам гадоў пяцідзесяці пяці. Раней мастак часта бачыў яго на розных выставах жывапісу, і гэты тады яшчэ незнаёмы чалавек кінуўся яму ў вочы сваёй сукрыстай фрызурай і вялізнымі, на палову твара акулярамі ў рогавай, даўно ўжо нямоднай аправе. На штрыфелі яго пінжака прыцягваў увагу кругленькі значок таварыства “Веды”, якое з разгортваннем перабудовы апынулася ў вялікім заняпадзе.

Мікалай Ягоравіч знайшоў момант і падышоў да Максіма: лагодна ўсміхнуўся і прывітальна паціснуў руку.

Гэта быў настаўнік літаратуры адной з першых, створаных у гады перамен у Віцебску гімназій. Яна, дарэчы, і назву атрымала адпаведную, посна-ганарлівую – “Гімназія № 1”, усё адно як не знайшлося айчыннага выбітнага пісьменніка або грамадскага дзеяча, каб годным чынам ўвекавечыць яго памяць.

– У вас неблагая атрымалася выстава, – сказаў Мікалай Ягоравіч, і Максім падрыхтаваўся слухаць звыклую ў такіх выпадках пахвалу, але настаўнік прадоўжыў зусім інакш:

– Я, прызнацца, дужа люблю жывапіс і не прапускаю ніводнай магчымасці паглядзець новыя творы тутэйшых мастакоў.

– А я вас бачыў колькі разоў якраз на выставах, – з ледзь прыкметнай усмешкай азваўся Максім.

– Прыемна, што заўважылі, – у сваю чаргу стрымана ўсміхнуўся Мікалай Ягоравіч. – Я, шчыра кажучы, наогул рэдка ўсцешваюся творамі нашых жывапісцаў: квадраты, трохкутнікі, кампазіцыя просценькая, адным словам, супрэмус. І трэба ж было Малевічу завітаць у наш горад! А яшчэ акварэлькі, якія даўно нікога не здзіўляюць, адно і тое ж уражанне па сутнасці тыражуецца... Да таго ж, мушу прызнацца, я дужа люблю імпрэсіяністаў. Але ж да іх і блізка не падступаюць сучасныя творцы, усё адно як зусім не здзіўляе іх белы свет. А вам, Максім, у адной з работ, як я заўважыў, удалося, няхай сабе фрагменцікамі і бадай што ўскосна, нагадаць пра некаторых вялікіх французаў, можна сказаць, прырадніцца да іх. Дзякую. Як добрая навіна ўразіла мяне такая спроба.

Вось так і адбылося іх знаёмства, і Максім быў задаволены, што настаўнік залішне не задоўжыў гутарку, не заліў шчаслівага творцу сіропам кампліментарнасці. Усё было тактоўна і ў меру. Максім падзякаваў Міка-

лаю Ягоравічу і наважыўся было адысці да сяброў, але той на хвілінку затрымаў яго і звярнуўся з просьбай:

– Максім, а можна калі-небудзь завітаць да вас у майстэрню, пагаварыць трошкі пра творчасць, жывапіс...

“Каб жа яна была, тая майстэрня...” – хацеў было сказаць мастак, але схамянуўся і затушыў у сабе залішнюю эмоцыю перад слаба знаёмым чалавекам, не стаў расказваць, што ў абласным праўленні Саюза мастакоў пасля ўступлення ў яго шэрагі паабяцалі падшукаць яму творчы прытулак...

– Добра, калі атрымаю майстэрню, абавязкова запрашу, – прамовіў мастак. – ...Як толькі з’явіцца магчымасць...”

І яны абмяняліся тэлефонамі.

Суразмоўцы яшчэ не ведалі, што ў хуткім часе ім наканавана стаць шчырымі сябрамі.

***

Прыкра, пуста і вусцішна на душы, калі ў выніку чыёй-небудзь смерці ты атрымліваеш пэўныя выгоды. Але так здарылася з Максімам Шарым.

Праз тры месяцы пасля персанальнай выставы ён атрымаў майстэрню. А гэтая радасць для мастака не менш вялікая, чым атрыманне кватэры. У кватэры ад пісклявасці да басавітасці ўзмацняецца з гадамі голас дзіцяці, а ў калысцы-майстэрні гайдаецца ў самоце адцураная ад абывательскага свету душа творцы.

І Максім, седзячы на толькі што купленай канапе, міжволі задумаўся аб Іване Кіралавічы, былым гаспадары цяперашняй яго майстэрні. Даволі доўгі век пражыў мастак – восемдзясят сем гадоў і ў майстэрні, дарма, што ўсе рэчы былога гаспадара вывезелі, засталіся мары старога мастака, а шолах яго дыхання, здавалася, завіс у паветры над месцам, дзе стаяў мальберт.

“Вось і ўсё, што застаецца пасля творцы... І то большасць людзей і гэтага не заўважыць”, – падумаў Максім.

Маладому мастаку згадалася размова з адным суродзічам, які толькі выйшаў на пенсію і аніяк не мог супакоіцца ад гэтай перамены жыцця:

“А-я-яй, гэта ж трэба, столькі гадоў за плячыма, і амаль ніякага знаку, па сутнасці, нічога годнага не зрабіў. Паміраць будзе сорамна...”

“А праводзячы ў апошні шлях мастака, у газеце або ў жалобнай прамове, згадаюць, што яго карціны захоўваюцца ў назапашваннях Мастацкага музея і ў прыватных калекцыях Германіі, Італіі, Францыі... – з сардэчнай мілажальнасцю падумаў Максім. – А што набылі іх людзі, якія ладзяць на куплі-продажу жывапісу свой бізнес, прамаўчаць, вядома...”

Максім горка ўсміхнуўся і адчыніў вакно.

Шум з вуліцы трохі перабіў настрой на што, дарэчы, ён і разлічваў. Але толькі трохі. Максім узяў са стала невялічкі аркушык шчыльнай паперы з малюнкам былога гаспадара майстэрні, які знайшоў, аглядаючы памяшканне. Замацаваў яго ў рамачку і павесіў на сцяну. “Усё ж будзе хоць які і мой, ды і яго ў памяці працяг пазначаны...”

З вакна патыхнула халадком, і гэта канчаткова перамяніла думкі і настрой Максіма. Ён згадаў, што неўзабаве сярэдзіна месяца і трэба будзе ўпершыню плаціць за майстэрню. А потым, калі ўключаць ацяпленне, плаціць давядзецца куды больш, бо камунальнікі прыраўнялі мастакоў да прадпрымальнікаў і ўвялі для іх бязлітасныя тарыфы: маўляў, рынак на двары, круціцеся!

Гэты грашовы ўціск яшчэ ў мінулым годзе прывёў да таго, што некаторыя мастакі пачалі адмаўляцца ад сваіх майстэрняў і працаваць дома, калі дазваляла плошча кватэры, або на лецішчы, асабліва калі не паспяшылі прадаць бацькаву хату або прыкупілі ў вёсцы якое жытло. Праўда, тыя, хто адмаўляўся, пакідалі не такія шыкоўныя майстэрні, якую займеў Максім, а даўно атрыманыя – падслепаватыя, у паўпадвальных памяшканнях і далёка ад цэнтра горада.

***

Максіму хацелася зноў і зноў заходзіць у майстэрню, а калі меў вольны час – колькі разоў на дні. Зайсці і проста пасядзець, пагартаць альбомы, якія панавёз з дому, выпіць кубачак кавы пад цыгарэтку...

І хоць на мальберце стаяў падрамнік з чысцюткім, даўно загрунтаваным палатном, браць у рукі пэндзаль не хацелася. Усё адно як баяўся ўпудзіць працай сваю адзіноту, зварухнуць яе дзеяй, ці нават якой неабавязковай думкай. Максіму было хораша і здавалася, што час у гэтыя дні сыходзіць у невараць не імклівай плынню, а па адным імгненні, дробненька, усё адно як праз зробленую тоненькай іголачкай дзірачку: закрыў яе пальчыкам – і запыніў вечнасць.

Кожная аблуда, якая ўлагоджвае душу, такая шчаслівая!.. А ўсвядомленая і цалкам прынятая душой адзінота так яскрава сведчыць пра тое, што ты ёсць на гэтым свеце!

Але цнатлівае пачуццё цалкам прападала ў сценах мастацкага камбіната. Апошнім часам працоўныя дні тут праз абыякавасць начальства былі расцугляныя, нібы здарожаныя коні, і гэта дужа спрыяла свярбліваму памкненню супрацоўнікаў да калектыўнай гульбы.

Цяпер Руслан мог далёка да завяршэння рабочага дня атрымаць каманду калег пасылаць сваёй адмысловай рэйкай, якую вострыя на язык хлопцы назвалі тамбурмажорскім жэзлам, сігнал Клаўдзі.

Такія перамены адбыліся таму, што ў мастакоў практычна не стала замоваў, і вольныя афарміцелі шукалі хоць якую ўцеху, але іх позіркі штораз застывалі на чарцы. Нуда...

Максім заўважыў, што размовы за сталом сталі больш сумныя, радзей, чым раней, гучалі показкі ды вясёлыя гісторыйкі.

Усе раптам сталі “палітолагамі”, горача спрачаліся аб уладкаванні грамадскага жыцця ды аб дзяржаўным будаўніцтве... І ніколі не прыходзілі да згоды, бо кожны быў перакананы, што толькі ён ведае, як жыць.

Праўда, не ў securities... 

Праўда, не ў эканамічнай сферы. Эканоміку не краталі. Матэрыяльныя шчадроты мастакі здавён успрымалі як звышай дадзеныя, бо надзённы хлеб, дзякуючы адмысловым здольнасцям даваўся ім параўнальна лёгка, можна сказаць “балмаччу”, як, дарэчы, казалі ў Максімавай вёсцы. Маўляў, гэта ж не калгасны дзірван уздымаць плугамі.

Хоць аднойчы, зноў жа седзячы за чаркай, Сямён Бобрык, які ўжо гадоў дваццаць адпрацаваў на камбінаце, не ўтрываў:

– Страх што робіцца! Няма паратунку ад цяперашніх “шпікулянтаў”, як іх называюць бабулькі, або ад дробных камерсантаў, калі казаць далікатна. Гэта ж трэба, усе хамуты са склада рымарскай фабрыкі на базары ў Польшчу вывезлі. Няблага раскупляюць іх паны, нават наперад замаўляюць: прывозьце яшчэ, прывозьце... Там жа малазямельныя рольнікі

яшчэ напоўніцу выкарыстоўваюць коней на сваіх надзелах, асабліва як транспартны сродак. Ад звычкі даўняй не могуць пазбавіцца...

Голас Сямёна выдаваў хваляванне і нават крыўду, усё адно як фабрычны склад з рымарскай прадукцыяй належаў асабіста яму, і ён недагледзеў за яе выкарыстаннем.

Сямён Бобрык і сапраўды меў, няхай сабе і ўскосныя адносіны да рымарскай вытворчасці – быў родам з Бешанковіч, дзе месцілася гэтая дзедаўская фабрыка і дзе ў свой час працавала яго маці. Даўней бешанковіцкіх рымараў ведалі і ў Саюзе, у прыватнасці на Каўказе, куды яны пастаўлялі маленькія, нулявога нумару хамуцікі для ішакоў.

– Не хвалюйся ты, Сёма! Ніякага прыніжэння нашай годнасці нямашака! Наадварот, гэта наш хварсісты адказ палякам на іх насміханне над чырвонаармейцамі ў верасні 1939-га года! – сказаў сталага веку мастак Фёдар Чэзлік. – Яны ж і па сёння ў драбніцах згадваюць той бядачы для іх паход, і па сёння насміхаюцца: маўляў, ваякі гарапашныя прыйшлі згаладалыя, абарваныя, шынялькі куртатыя, абмоткі матляюцца... А конікі ў саматужную вупраж з вяровачак – дзіва ды і толькі – запрэжаныя... Дык вось вам – глядзіце і купляйце за свае пянёнзы! Хамуты – залюбуешся! А якой сырамяццю аснашчаныя – светленькай, найвышэйшага гатунку, хоць ты чаравікі з яе шый мадняцкія! І гэта на мясцовай фабрыцы ў невялічкім пасёлку зроблена!

Мастакі слухалі Фёдара адкрыўшы раты і не маглі даўмецць: жартуе ён так з’едліва ці сур’ёзна кажа? Многія толькі горка ўсміхаліся.

– А людцам жа трэба выжываць неяк, дзетак карміць... Пры такой нявыкрутцы, як цяпер, нікуды нягодную балдавешку на продаж не завязеш... – зняў няведама як узніклае напружанне адзін памяркоўны мастак.

***

Жыццё Максіма і яго калег з кожным днём станавілася ўсё горай і горай, хоць ты хамуты ў Польшу вязі. Работы на камбінаце практычна не стала. Невялічкія творчыя групы даразблялі распачатыя праекты, больш па абавязку, чым з надзеяй атрымаць недаплочаныя па дамове, няхай сабе і невялікія грошы. Дзе іх узяць, тыя грошы, калі прадпрыемствы і калгасы ў заняпадзе, ледзь зводзяць канцы з канцамі. А ў вузельчыках спехам звязаных аслабелых гаспадарчых нітаў, здавалася, наглуха зацiскалася перспектыва – выжыць бы сёння.

Жыццёвая доля мастакоў-афарміцеляў, поўнай жменяй у свой час адмераная ім дзяржаўным ладам, ўвобміг здрабнела ад абвальнага ціску перамен. Многія творцы заселі ў асабістых майстэрнях, у кватэрах і на лецішчах. І адкрылі для сябе асалоду доўгі час занядбанага імі творчага жыцця. Даставалі з паліцаў у цёмных кладоўках даўно напісаныя карціны, ставілі адну за адной на мальберт, углядаліся ў іх і з горкім шкадаваннем думалі пра час, калі яны дзёрзка марылі аб высокім мастацтве. Недапісаныя творы адстаўлялі ўбок з намерам неўзабаве ўзяцца за іх з пэндзлямі і свежа наладаванай палітрай. Ды і завершаныя работы трэба было “асвяжыць”, як яны казалі, бо фарбы за час сумнага быцця ў павучыным атачэнні прыкметна патухлі. Праўда, ніхто з мастакоў не падумаў: а чаму ж я толькі ад выпадку да выпадку спрабую займацца мастацтвам і то амаль што змушана, як цяпер... Чаму не служу яму?

Усё змянілася. Клаўдзі ў сваю чаргу трэба было думаць, як цяпер пражыць на адну пенсію...

У гэтыя расцугляныя, пушчаныя на волю, дні Максім вырашыў з'ездзіць у вёску: пабачыць бацькоў, схадзіць да цёткі Васіліны, сустрэцца з сябрамі маленства, надыхацца гаючым паветрам, каб хоць трохі ачомацца ад жыццёвых непярэлівак.

Ён паклаў у багажнік загадзя прыкупленыя прысмакі для пачастункаў, дробныя падаруначкі: бацьку – гумавыя боты, маці – розны рыштунак для ўраблення градаў, брату – доўгае вудзільна для лоўлі з берага, Васіліне – шаўковую хустачку...Паклаў і эцюднік, бо задумаў адну карціну. Яго маленькая легкавушка, нядорага купленая з рук паўгода таму, калі яшчэ трохі зараблялі на камбінаце, завялася на гэты раз, як кажуць, з паўабароту, і хлопец рушыў у дарогу. Але колькі той дарогі, сорак хвілін – і дома.

Абдымкі, пацалункі...

– Чаму цябе так доўга не было... Як у горадзе маешся, з чаго там жыць... Ай, Божа, Божа... Можа кінеш-рынеш усё ды пераедзеш у вёску? Агарод свой разам будзем ураблаць, бульбу-ячмень вырошчваць... У вайну ж так ратаваліся людцы, аж з Ленінградскай вобласці да нас пешкі йшлі некаторыя. З пекла ў пекла, праўда. Ну яго, той горад з бясконцымі мітынговымі прамовамі пра новае зноў жа шчаслівае заўтрашняе жыццё. Досыць, навеліся ўжо... Тлум адзін, – не сціхаючы вяла свой рэй маці, праўда, тым часам не забывала засцілаць чысты абрус ды збіраць на стол.

Бацька грукнуў бутэлькай, ставячы яе між страў, і такім чынам засведчыў намер па-святочнаму прывеціць сына, пры гэтым нават не глянуў у бок жонкі.

Але падчас сямейнай бяседы Максім і не дакрануўся да чаркі, адставіў убок. Ён даўно ўжо меў намер як-небудзь адцурацца ад беленькай і сівенькай, ад таннага вінца і наогул ад усіх напояў, якімі без дай-прычыны, па-вычварэнску падвясельваў настрой.

Усцешаная паводзінамі сына, маці радасным голасам звярнулася да мужа:

– А ты выпі, Андрэйка, выпі! Прывець дарагога нашага госцейку. На здароўечка!

І Максім падумаў: “Як гэта лёгка адракацца перад маці ад сваіх заганаў, шкодных звычак, аблудных жарсцяў... Раз – і гатова! Без напругі. І дарма што, магчыма, праз колькі дзён міжволі зноў возьмешся за старое. Але ж у памкненні ачысціць перад матуляй душу няма і знаку падману, тым больш якой патаемнай наўмыснасці. Проста развінаюцца крылы перад прасцягам яе даверу і ўсёдаравальнасці”.

Між тым Максім міжволі звярнуў увагу на тое, што думкі яго ўзнёслыя і трохі напышлівыя, і таму ўсё адно як няшчырыя.

“Гэта ад радасці...” – супакоіў ён сябе.

Увечары хлопец наведаў цётку Васіліну і, натуральна, зноў адмовіўся ад чаркі, выпіў з ёй духмянай гарбаты ды палюбаваўся, як на вачах памаладзела любая цётачка, калі прымерала падораную ёй хустку. А яна тут жа і пацвердзіла гэтае назіранне:

– Мы зноў маладзенькія з табой, Максімка! – гарэзліва ўсміхнулася яна пляменніку.

Хлопцу было прыемна, што Васіліна так нязмушана паяднала іх – “маладзейшыя”.

Цёплы лагодны настрой напоўніў душы родных людзей.

***

Гэтым вечарам Максім лёг спаць запозна – пакуль не нагаварыўся з бацькамі, пакуль, палячы цыгарэты, не насядзеўся на ганку... Над галавой, нібы вулічны ліхтар, вісела вялізная поўня, якая залівала наваколле млявым, уласцівым для спелага жніўня святлом. Можа, і ў які іншы месяц святло гэтае было звыклым, але ж цяпер на двары стаяў жнівень, другая яго палова... Асцюкастыя жытнёвыя каласы, а калгаснае поле падыходзіла да самай сялібы, здавалася, штосьці хацелі прашаптаць хлопцу на вуха, але вецер перамяніўся і падзьмуў у другі бок. Максім крышку пасядзеў ды пайшоў у хату.

І здзівіўся, калі ўбачыў, што маці яшчэ і не думала класціся спаць, а сядзіць самотная за прыбраным сталом і разглядае газету. Здавалася, што яна нібы чакае Максіма з якой дальняй дарогі, дарма, што ён толькі на хвіліну выйшаў. Матулі іншы раз могуць перажываць за свайго дзіця і без дай-прычыны, каб не прызвачайваць да бестурботнага жыцця сваю душу.

Маці і сын пажадалі адно аднаму добрай ночы і разышліся па сваіх кутках. Але Максім яшчэ доўга не спаў, усё адно як пачала спраўджвацца жартаўлівая прыказка старой суседкі Анісі: добрай ночы, добрай ночы, а з паўночы – вытарашчыць вочы... Мастак вытарашчыў іх куды раней, нават не змежыў павекаў. Спачатку ўглядаўся ў столь, якая ў іх была адмысловая, нефарбаваная і свяцілася жоўценькімі, заўсёды памытымі і, таму, здавалася, толькі што пасланымі дошкамі. Максім змалку на памяць ведаў натуральную "кампазіцыю" столі – дзе які, маленькі ці вялікі знаходзіцца сучок, якім месцам, каля коміна грубкі ці над сталом, сучкі збіваюцца ў чародкі, на якой дошцы бацькаў гебель па недагляду пакінуў пасля сябе прыкметную, заглыбленую на шырыню ляза палоску... Такая доўгая, падрабязная памяць...

Святло ад поўні ў хаце рабілася зусім бляклым, але хіба трэба большай зыркасці, калі на зубок ведаеш узвышаную бацькам з талакой непаўторную карціну твайго маленства. "Тут жа кожны сучок з табой гаворыць..." – аднойчы з нагоды сказала яму маці.

А потым нечакана, а насамрэч зусім не, хлопец пачаў згадваць помную нядзельку, калі маці яго маленькага вазіла ў царкву ў раённы гарадок. Як ён стаяў каля яе ў светлым ад свечак куце, а матуля вышэптвала перад абразом малітвы; як прыслухваўся да набажэнства, калі поп працяжным гучным голасам выводзіў незразумелыя словы, а бабулькі наўкруг вышэптвалі іх услед за ім... Змаркочаны Максім, натапыраўшы вушы, хацеў было больш выразна ўчуць і іх шэпт, але не змог, не раўнуючы як сёння на ганку шолах каласоў.

Потым ён зусім занудзіўся. Ад доўгага стаяння пачалі гудзець, усё адно як электрычныя слупы ўзімку, ногі. Засмактала пад лыжачкай, і Максімка згадаў, што маці змусіла яго ехаць у царкву нашча, забараніўшы браць у рот і якую крошку...

Хлопчык узрадаваўся, калі поп закончыў сваё бубненне і выйшаў да людзей. Усе выстраіліся ў чаргу, а разам з імі і ён з маці. Яна паказала, як трэба скрыжаваць ручкі на грудзях. Хлопчык скрыжаваў і адчуў раптам незвычайную палёгку, але і трывогу – ні то ад прадчування блізкага завяршэння няўцямнай дзеі, ні то ад чаго іншага, зусім яму невядомага.

Максімка пакрысе разам з іншымі людзьмі прасоўваўся наперад і дайшоў да папа, які паднёс да яго роту лыжачку з незнаёмай, вішнёвага колеру

вадкасцю. Хлопчык праглынуў змесціва і пацалаваў крыж, які паднёс да яго губ поп. Святар крыху нахіліўся наперад і ціха, амаль шэптам сказаў: “Слухайся маму...”

Вадкасць у лыжачцы была незвычайна салодкай, смачнай, і маленькі прыхаджанін пашкадаваў, што лыжачка дужа мелкая, зусім не такая, якой ён прывык дома есці кашу, і што барадаты поп паднёс яе да роту ўсяго адзін раз.

Пасля службы Максімка разам з усімі выйшаў з царквы і здзівіўся, калі матуля ўзяла яго за руку. Ён спачатку хацеў вызваліць яе, ісці вольна, не маленькі ж ужо, але потым скарыўся і пайшоў моўчкі. Хлопчык падумаў, што маці, мусіць, баіцца, каб ён незнарок не трапіў пад машыну, якіх на вуліцы было даволі.

Адкуль яму было ведаць, што матулі хацелася адчуць асаблівую, дагэтуль нязнаную еднасць са сваёй крывінкай.

Свяціла зыркае сонца, лезла промнямі ў вочы, здавалася, дурэла з маленькім, казытала і лашчыла яго.

Маці зайшла ў сталоўку і накупляла ў мяшочак пончыкаў з павідлам, якія дужа любіў Максімка, і бутэльку крэм-соды ў дадатак. Яны не селі за стол, а пайшлі на лаўку ў бліжэйшы скверык. Згаладалы хлопчык похапкам, на поўны рот еў пончыкі і раз-пораз паглядаў на мяшочак – ці многа яшчэ засталося... Дзіўна, але слодыч пончыкаў не перабівала слодыч з паднесенай у царкве лыжачкі, якая, відаць, запомнілася надоўга. І Максімка міжволі прыхінуўся да маці.

Седзячы ў скверыку, ён тым часам не мог адвесці вачэй ад размешчанай паблізу высознай скульптуры часта бачанаму раней у розных кнігах і газетах дзядзькі, які таксама, як і поп, быў з барадой, толькі кароценькай.

Праз пару дзесяцігоддзяў Максім даведаецца, што гэта “кармільшчык” – так знаёмыя скульптары, атрымліваючы замовы на яго ўвасабленне, зноў і зноў называлі Леніна.

Пасля згадкі гэтай хвалюючай падзеі, Максім яшчэ доўга не мог заснуць, сон зморваў яго марудна, пакрысе. Затое ён соладка праспаў да позняй раніцы. Маці, калі ўходжвалася па гаспадарцы, старалася не грукаць у трысцене саганамі, каб не разбудзіць сына.

***

Калі Максім расплюшчыў вочы, дык адразу падхапіўся і ўстаў, бо ведаў: пачнеш кунежыцца ў ложку – зноў заснеш. Такое было магічнае ўздзеянне роднай хаты з сасновых бярвенняў, са столлю на вышыні дасяжнага неба, з адметнымі зоркамі-выявамі адгабляваных сучкоў, са шчыльна сціснутым за гады і ўшчэнт высахлым мохам паміж вянцамі, які замест спеваў балотных птушак даўно ўвабраў у сябе людскую гаману. А яшчэ, вядома ж, лёгкае, роўнае дыханне жыхароў хаты падчас сну.

Ён апрануўся, перакусіў спехам і выйшаў са двара.

Калі б у час яго маленства прыезжага чалавека з дзіўнай скрынкай на плячы ўбачыла вясковая дзятва, тут жа акружыла б і прыліпла да яго, пакуль не прагнаў бы назолаў. Цяпер на Максіма ніхто не звярнуў увагу, вуліца была пустая.

Да ўзгорка непадалёк ад вёскі можна было ісці нацянькі, але ён пайшоў наўкруг, спачатку па вуліцы, каб паўзірацца ў хаты аднавяскоўцаў, усё

адно як паздароўкацца з імі. Вёска ж стала малалюднай – хто памёр, хто з'ехаў у горад, адно хаты засталіся.

Неўзабаве ён збочыў і пайшоў па даўно някошаным, добра ўтравелым лузе, узрушаючы з пахілых сцяблоў мятлікаў ды іншую жамяру. Калі падышоў да ўзгорка, дык з прыкрасцю ўбачыў, што ён густа зарос глогам, а знізу яго купкамі атачалі высокія сцяблы светаянніку. І Максім засмуціўся: ні пад ўзгоркам, ні на ім не было бачна ніводнай сцежачкі. Ён зноў згадаў сваё маленства, калі ўвесь узгорак быў ператаптаны хлапчуковымі нагамі. Тут яны, жаўтароцікі, часта збіраліся чародкамі і гулялі ў вайну.

"Разам з маленствам прайшлі тыя войны з немінуча горкай для ўсіх паразай..." – з сумам падумаў мастак.

Ён узняўся наверх, дзе ляжаў вялізны валун, а каля яго – меншыя камяні, як узняць, ды цагляны друз.

Камяні былі пакладзены ў адну лінію, якая ў канцы паволі закруглялася, а потым знікала, усё адно як хто перадумаў доўжыць яе далей, каб злучыць канцы.

Максім прысеў на вялікі камень, але не асмеліўся тут курыць, хоць і карцела. Потым паклаў на яго эцюднік, а сам пайшоў уздоўж выструненых камянёў, уважліва ўглядаючыся ў кожны з іх паасобку.

"Ну як яго знойдзеш, хіба будзе на ім пазнака... Наўрад ці крыж зубілам высякалі. Можа, вугалем святар маляваў ці фарбай якой... Усё дажджы даўно змылі." – падумаў Максім.

Ён памкнуўся знайсці закладны камень, які ўсталёўваецца ў падмурку пры ўзвядзенні новай царквы. Гэта ж была яшчэ не дарэшты зруйнаваная першаасднова храма Святой Варвары. Храма асабліва помнага, бо тут хрысцілі Максімава дзеда Паўла, які загінуў на вайне.

"Мусіць жа, дзядуля-хлопчык і першае сваё прычасце тут прымаў", – падумаў мастак і спыніў свае, як ён зразумеў, марныя пошукі закладнога каменя ды пачаў устанаўліваць эцюднік.

Ён вырашыў найперш зрабіць падрабязны малюнак руінаў.

Мастак старанна перамалёўваў кожны камень, які адкрываўся позірку з абсталяванага ім месца. Як сказала б з любоўю маці, кожны "камянёк". Гэта ж будзе своеасаблівае дакументальнае сведчанне! І вядома ж, Максім надумаў зрабіць алейнымі фарбамі эцюд, каб захаваць для сябе праўдзівы каларыстычны лад будучай карціны.

Мастак працаваў дужа засяроджана, не звяртаючы ўвагі на дакучанне варон, якія зноў і зноў праляталі над галавой або непадалёк збоку ўзнімалі крык на зямлі, распачаўшы свае звыклыя звадкі.

Хлопец і не згледзеўся, як сонца абнізілася і не так шчодра, як у паўдзён, рассыпала ўжо свае промні. І тут ён убачыў, што акурат па яго следу-сцежцы да царковішча ідзе маці. Не вытрымала. Нічога дзіўнага – даўнейшая звычка. Хлопец мілажальна ўспомніў, як іншы раз на змярканні пасля работы на ферме бегла яна на возера, каб паклікаць яго, маленькага захопленага рыбачка, дахаты: адзін ды яшчэ на хісткай дубіцы паплыў!..

– Такую цэркаўку зруйнавалі, бязбожнікі! – сказала маці, усё адно як прадоўжыла толькі што перапыненую размову. – А я ж трохі помню нашу цэркаўку Святой Варвары, хоць і зусім маленькая была. Помню яе і пасля закрыцця, калі яна стаяла з вялізным замком на дзвярах. А ў сярэдзіне трыццатых гадоў у нас льнозавод будаваць пачалі, дык і знайшлася цэгла, нібы сякера пад лаўкай. І не абы-якая, а гатунковая, з густога замесу,

бурачковая па колеру. Разабралі па цаглінцы за лічаныя дні цэркаўку. А пасля будаўнікоў яшчэ вяскоўцы прыходзілі падабраць, што засталося. Па цаглінцы збіралі, хто на комін, хто на якую іншую патрэбу... Дык мала таго, з пагорка царкоўнага будаўнікі і чысценькі, прыдатны для іх пясочак пачалі браць. А ты думаеш адкуль гэты вялізны камень. Абнізілі грунт, вось ён і выкаціўся з падмурка. Зруйнавалі цэркаўку, о-хо-хо... Але памяць так лёгка не зруйнуеш! Добра, сынок, што ты надумаў намаляваць хоць парэшткі. Не забудзецца! – не магла супакоіцца расхваляваная маці.– Але калі ты закончыў, сынок, дык пойдзем дамоўкі. Ты ж дзянёк не еўшы...

Сын і маці ішлі па вясковай вуліцы поплеч – люба глянуць.

Калі падыходзілі да сваіх весніц, Максім з горыччу ўхмыльнуўся і сказаў:

– Вось і прычасціліся з табой, мама...

***

Па вяртанні ў горад Максім адразу зачыніўся ў майстэрні. Ён зняў з мальберта і адставіў убок партрэт жанчыны, які пісаў на замову з фотакарткі дзеля грошай. Балазе тэрмін яшчэ трываў, час не падціскаў. Потым ён прынёс з кладоўкі новы падрамнік з напятым на ім і загрунтаваным палатном. Такіх асноў для карцін у яго было зроблена даволі. Максім устанавіў падрамнік на мальберт і згатаваў сабе каву. Не сказаць, што палатно было загадзя адмыслова падрыхтаванае для пейзажу з руінамі дзедаўскай царквы, але памер патрапіў той, што трэба – метр на метр дваццаць. Максім наліў сабе кавы і пачаў узірацца ў белату палатна. Пры гэтым ён раз-пораз паглядаў на ўчарашні малюнак царковішча, які трымаў у руцэ. Мастак прыкідваў, як яго перанесці на палатно, ад якіх дробных дэталек трэба адмовіцца... І ў гэтым прымерванні была лёгкая асалода прадчування шчасліва-абуджальнай для душы работы.

Ён пісаў пейзаж дзень за днём, і ўся яго істота была ахоплена ўзвышальным настроем. Такога пачуцця ў яго даўно не было.

Максім згадаў, як Багдан Дзербіч, з якім падчас стварэння ілюстрацый ён меў аднойчы доўгае сумоўе, расказаў між іншым пра сваё захапленне знакамітым вершам Галакціёна Табідзэ, у якім той сцвярджаў: не я пішу вершы, гэта яны, нібы аповесць, пішуць мяне й хада часу суправаджае іх...

“Не раўнуючы як у мяне цяпер. Толькі не паэзія, а жывапіс піша мяне...” – падумаў Максім, і на яго твары з’явілася шчаслівая ўсмешка. Такая шчаслівая, якая бывае толькі тады, калі міжволі ўсміхаюцца самому сабе.

***

Калі праз колькі дзён работа была завершана, Максім сядзеў і зноў углядаўся ў цяпер ужо напоўненае фарбамі палатно. Ён пакуль не думаў здымаць гатовую карціну з мальберта. Мастак быў задаволены, што яму трапна ўдалося перадаць буянне ружовакаляровых кветак, густую перапляценасць галінак глогу, у якіх, здавалася, знерухомеў павеў ветра з возера. Сцяблiны красак выглядалі так, нібыта пакрысе ўзыходзячы на ўзгорак, не змаглі пераадолець нябачную мяжу і спыніліся ў некалькіх кроках ад руінаў. А вялізны камень усё адно як невядомая засцерагальная сіла ўтрымала ад далейшага скочвання са схілу. Усё багацце размаітых фарбаў у гарманічным суладдзі свяцілася на палатне.

Але Максіму раптам здалося, што ён не так пераканаўча, як хацелася

б, адлюстраваў свой душэўны неспакой за-за незваротнай страты святыні, гнятлівую трывогу, якая напаўняла яго душу на царкоўным узгорку.

"Але ж як гэта выказаць, калі ў прыродзе няма і знаку тваіх пакутлівых перажыванняў... – знайшоў сабе лёгкае апраўданне мастак. – Толькі суладнасць ды вечнае памкненне да працягу разнастайнага жыцця. А пейзажны відарыс перапоўнены спакоем..."

Максім збянтэжыўся ад сваёй усхваляванасці.

"Цяпер давядзецца ўсім растлумачваць, што я хацеў адлюстраваць, а на выставах прымацоўваць побач з карцінай адпаведную доўгую назву: "Руіны царквы, у якой хрысцілі майго дзеда Паўла"".

Мастак зніякавеў і колькі хвілін сядзеў разгублены, калі нічога не хочацца рабіць. І ён раптам нібы з чыёй падказкі згадаў Мікалая Ягоравіча, якому абяцаў у свой час на выставе запрасіць да сябе ў майстэрню, як толькі атрымае яе і ўселіцца.

"Самая пара!" – падумаў хлопец і зірнуў на гадзіннік: з гімназіі настаўнік ужо павінен вярнуцца... І патэлефанаваў.

***

Мікалай Ягоравіч, надзіва, прыехаў даволі хутка, жыў, як высветлілася непадалёк. Максім сустрэў яго на парозе пад'езда, бо ў майстэрні не было дамафона, каб адчыніць дзверы. Яго творчы прытулак месціўся на самай верхатуры дома, над кватэрамі жыхароў. Дык падсяленцам у іх галубятні і не прадугледзелі камунікацыйных зручнасцяў, маўляў, навошта яны самотнікам...

Калі ўваходзілі ў майстэрню, Мікалай Ягоравіч на хаду дастаў з сумкі, якая вісела на плячы, высокую бутэльку віна.

– З наваселлем! – усклікнуў ён і паставіў прывітальны напой на столік пры канапе. – Хванчкара! Такім віном Сталін частаваў Рузвельта падчас іх сустрэчы ў Крыме, і таму дужа спадабалася гэтае вінцо, нават з сабой колькі бутэлек папрасіў. Адным словам, бутэлечка ўсім прыдатная для святкавання наваселля! Сябра-грузін год таму прывёз мне. Сапраўднае! – натхнёна прамовіў настаўнік, які не менш высока, чым імпрэсіянізм у жывапісе, цаніў з напояў грузінскія віны.

Мікалай Ягоравіч пачаў няспешна хадзіць па памяшканні, разглядаючы Максімаў прытулак.

– Як светла, якія высокія вокны, хоць ты іх шторамі захіні. А столь пад неба! – цокаў ён языком і прымружваў вочы. – А мусіць жа для мастака залішняга святла не бывае, хіба толькі нестае калі, падчас імглы якой, мораку...

Максім тым часам перамываў шклянкі і наразаў долькамі яблыкі. Агледзеўшы майстэрню, Мікалай Ягоравіч падышоў да мальберта, пачаў узірацца ў карціну і злёгку, ледзь-ледзь дакрануўся да палатна пальцам:

– Фарба свежая, не зусім засохла яшчэ, – сказаў ён з задавальненнем, нібыта і сам толькі што далучыўся да творчасці. – Цікавая работа. Вось гэта ўражанне адлюстравана, жывое, нібы дыханне... Але я адчуваю пэвеў незразумелай трывогі ад палатна. Яна наўмысна выказана? – Мікалай Ягоравіч зірнуў на мастака, чакаючы адказу.

Для Максіма была дзіўная і надзвычай прыемная такая рэакцыя на карціну, і ён распавёў пра яе стварэнне, у тым ліку і пра ўдзел у ім маці.

Яны адкаркавалі бутэльку і выпілі пакрысе за светлую майстэрню, за

нязмушаную ніякім шкодным уплывам, тым больш уціскам творчасць... Уражаны пранікнёнасцю Мікалая Ягоравіча, глыбокім успрыманнем яго новага твора, Максім з вялікай ахвотай узняў шклянку, тым больш такога славутага напою. Ды і не было аніякай патрэбы выстаўляць сябе непітучым чалавекам, як гэта рабіў ён дома. Праўда, падчас размовы Максім шчыра распавёў Мікалаю Ягоравічу пра свае праблемы з алкаголем, па-простаму кажучы, пра гнятлівую залежнасць ад яго. А можна сказаць, набраўся смеласці і паскардзіўся на сваю жыццёвую нявыкрутку са спадзяваннем атрымаць хоць якую параду ад сталага чалавека. Ён адразу адчуў, што з настаўнікам можна ладзіць сумоўі толькі шчыра, развінуўшы душу нарасхрыст, нібы палітон у прыгрэўны веснавы дзень.

***

Мікалай Ягоравіч, які ўжо асвойтаўся ў майстэрні, быў у добрым гуморы, доўжыў і доўжыў размову з Максімам. Раптам ён больш уважліва агледзеў сцены памяшкання і звярнуў увагу на тое, што яны раўнюткія, як стол, відаць, пасля стараннага шпаклявання, да таго ж свяціліся свежай белатой і ніводнага цвічка на іх або шрубы.

– Рамонт давялося зрабіць, асвяжыць пакой, – улавіў яго дапытлівы позірк мастак.

– Гэта нагадала мне... Германію. Падчас разгортвання перабудовы я пабываў там па абмену настаўнікамі і тры дні жыў у аднаго калегі, таксама выкладчыка літаратуры. Ён толькі што развёўся з жонкай і здымаў кватэру. Дык у яго большасць рэчаў ляжалі або стаялі на мяккім кіліме на падлозе – там, музычны цэнтр, іншыя прылады... Ашчаджаў сцены – каб табе палічку якую для кніг прымацаваў, нават адтулінку для шрубы баяўся прасвідраваць, каб карцінку пачапіць. Па дамове з гаспадаром, калі надумае з’язджаць, павінен быў здаць яму кватэру, каб і знаку не было, што тут хто жыў. А інакш трэба было б рамантаваць. А гэта ж грошыкі! Дык такім чынам калега прадухіляў магчымыя выдаткі. Нямецкая прадбачлівасць і ашчаднасць! А ў вас, я бачу, многія карціны таксама да сценаў прыткнутыя... – усміхнуўся настаўнік.

– Ніякай перасцярогі, проста рукі пакуль не дайшлі. З’язджаць жа адсюль нікуды не збіраюся, ды і гаспадар у нас не прыватнік які строгі, а па сутнасці той самы, сацыялістычны – домакіраўніцтва... – у сваю чаргу ўсміхнуўся мастак.

– Ну так, вядома... А наогул мне цяпер вашая майстэрня нагадвае чысты аркуш паперы, які паклаў на стол пісьменнік. Толькі адзін радок пакуль на ім напісаны... – зірнуў настаўнік на мальберт. – Я, дарэчы, лічу, што творчасць жывапісцаў у многім падобная на пісьменніцкую. Так і ёсць, не ўхмыляйцеся. Дарма, што вы, мастакі, грэбліва ставіцеся да вербальнага выяўлення чалавечай натуры. Калі пачнеш раіць катораму якую свежую тэму, дык зазвычай фанабэрліва махне рукой: “Ат, літаратура...” Мы, мастакі, маўляў, мыслім зусім па-інакшаму, візуальнымі вобразамі. Няхай сабе, але ж падыход да ўвасаблення задумы ў творы адзін і той жа – паступовасць і настойлівая паслядоўнасць. Дарма што гучыць, амаль як “масла маслянае”.

Суразмоўцы зрабілі невялічкую паўзу, выпілі па кроплі, і Мікалай Ягоравіч прадоўжыў:

– Ну падумай сам: пісьменнік ад радка да радка пакрысе, па кропельцы

накрэслівае на паперы свае думкі ў межах распачатага твора, выказвае панітаваныя з ім пачуцці, адметнасці свайго светапогляду, успрымання людскога свету... Адным словам, раскрывае сваю душу творцы. І пасля-доўна ва ўмовах адведзенага часу і збегу абставін доўжыць і доўжыць сваё выказванне. Да скону...

Максім захоплена слухаў настаўніка.

– У мастакоў тое самае, толькі сродкі выяўлення, сапраўды, зусім іншыя. І ў многіх з вас, дарэчы, ёсць адна агульная загана, часткова абумоўленая і прафесіяй, – вінавата, нібы загадзя просячы прабачэння, зазначыў Мікалай Ягоравіч. – Вы мала... чытаеце, асабліва літаратурных твораў, усё адно як сапраўды лічыце, што мысліць і адчуваць можна толькі... ручкамі на палатне, а для напаўнення свайго духоўнага свету дастаткова вачэй. Што ўбачыў – тым і напоўніў душу. А гэтага ж дужа мала, дружа...

Зусім мала ў суразмоўцаў заставалася і віна ў бутэльцы...

Максім разліў яго па шклянках, прытым тонкім струменчыкам – каб было пароўну.

– А вазьмі такіх пісьменнікаў, як Сцяпан, Глобус, Сіўчыкаў, той жа Быкаў, нарэшце... Усе яны пачыналі з выяўленчага мастацтва, а потым ужо перайшлі да літаратуры. Хіба гэта не сведчанне панітаванасці двух светаў, двух відаў творчасці...

Максім няўпэўнена хітнуў галавой. Ён хацеў пазней, сам-насам абду-маць сказанае настаўнікам.

А Мікалай Ягоравіч, як кажуць, завёўся і доўжыў, доўжыў свае развагі.

– Я ўзіраюся на выставах у карціны тутэйшых жывапісцаў і не магу даўмець: а што яны любяць? Па іх жывапісе гэтага не зразумееш. Вось Ван Гог, як мне здаецца, любіў свае чаравікі, колькі нацюрмортаў з імі, ушчэнт стаптанымі, напісаў! А сваю гнятлівую назолу-трывогу, ён пера-канаўча выявіў у намаляваных звілістымі неспакойнымі лініямі разбэр-саных шнурках. Аніяк не змог яе пераадолець. А вазьмі Рэнуара. Якая захопленасць жаночай прыгажосцю! Якая ўлюбёнасць у светлыя вобразы! А нашыя? Улюбёнасць у квадраты ды супрэматычныя прастакутнікі... Ды і тая нейкая вялая, не ўзбадзёраная, як, напрыклад, у таго ж Малевіча неўтаймоўным імпэтам адкрывальніка... – захоплены Мікалай Ягоравіч прыкметна ўсхваляваўся. А тады, мусіць, сумеўся ад свайго нястрымнага пачуцця і пакрысе, няспешна пачаў збірацца дадому. Ды раптам апамя-таўся – не ўсё сказаў. І павярнуўся да Максіма:

– А пра вашую праблему з алкаголем, дружа, я ўвесь вечар пра сябе згадваў і думаў, асабліва калі ўзнімалі шклянкі. Але ж смакаванне знака-мітага віна толькі ўмоўна можна назваць выпіўкай. Пагадзіцеся! – дапытліва зірнуў ён у вочы мастаку і змоўк у чаканні адказу.

– Цалкам згодны, – з радасцю прамовіў Максім. – Так, смакаванне і аздоба размовы...

– А як вам выкарабкацца з гэтай яміны, як вам зверху руку падаць, прызнацца, і не ведаю. Мусіць, такія лёсавызначальныя праблемы чалавек можа вырашыць толькі сам. Хаця... – схамянуўся настаўнік і па-сяброўску паклаў руку на плячо Максіма. – Як жа я забыў... Аднаму майму знаёмцу святар раіў пачынаць вызваляцца ад гэтай гнятлівай звычкі з малітвы...

– Папы што іншае і не параяць. Яны і на хаўтурах па нябожчыку, калі ў людзей душы дранцвеюць ад болю, замест памінальнай чаркі і клёцак малітвачку прашаптаць раяць. Маўляў, нябожчыку толькі малітва

і патрэбная, больш нічога. Нічога! А жывым як быць? Толькі ж гарэлкай і можна балючае гора заглушыць!

– Ну вы, Максімка, знайшлі што параўноўваць. Да таго ж не даслухалі, – з прыкметнай сярдзітасцю зазначыў Мікалай Ягоравіч. – Маліцца з такой нагоды аб умацаванні душы, як я ведаю, трэба перад абразом "Неўпівальная чаша". А ён далёка не ў кожным храме ёсць. У Беларусі я найбольш адну такую цэркаўку ведаю – у Мінску, на вуліцы Мендзялеева.

– Адкуль вы ведаеце?

– От жа, забыў сказаць. Ад святара, айца Міхаіла, які нядаўна ачоліў царкву Васіля Вялікага ў новым мікраараёне, на ўскрайку горада. Ведаеце ж, мусіць, пра яе адкрыццё ў гарадской газеце пісалі. Ды і былі ж, напэўна.

– І чытаў, і быў, нават лоб перахрысціць заходзіў. У прыстасаваным памяшканні месціцца...

– Але вы не ведаеце, што ў мінулым годзе айцец Міхаіл набыў кватэру ў нашым доме і стаў... маім суседам. Ды прытым блізкім – дзверы ў дзверы жывём, часта сустракаемся, гутарым...

Так размаўляючы, яны пакрысе набліжаліся да выхаду. Мікалаю Ягоравічу засталося толькі на развітанне паціснуць Максіму руку, і тут ён убачыў нечаканы відарыс: на фанернай перагародцы, якая аддзяляла невялічкую бакоўку, дзе ў старога гаспадара месціўся афортны станок, на цвічках, утвараючы прывабную кампазіцыю, віселі невялічкі высушаны жоўты гарбузок, кіях з чубікам-мяцёлкай і... машынка для стрыжкі валос. Яе Максімаў дзед Яфім, які ў адрозненне ад дзеда Паўла вярнуўся з вайны, і прывёз у якасці трафея. Мікалай Ягоравіч стаў як скамянелы...

– Гэтай машынкай, дарэчы, бацька пастрыг мяне перад школай, калі ў першы клас выпраўлялі... – трошкі сарамліва прамовіў Максім, каб парушыць паўзу, якая прыкметна задоўжылася.

– Ай, які цудоўны нацюрморт састаўлены! Якая выразная асацыяцыя: мяцёлка-чубок кукурузных валаскоў і машынка напагатоўку, каб іх састрыгчы за колькі імгненняў... Такая дзіўная перабарлянасць светаў – расліннага і людскога побытавага. Нібы ў якой гульні ўяўлення. Вы ж, мусіць, надумалі перанесці гэтую інсталяцыю на палатно?

– Прызнацца, не. Проста сценку аздобіў, каб позірк з фанеры не саслізгваў, і ўсё тут, – сумеўся Максім.

– Дарма вы так абыякава ставіцеся да сваіх нацюрмортных пастановак. Яны ж нездарма, не самі па сабе атрымліваюцца...

– Ну а як да гэтых рэчаў, – кіўком галавы паказаў Максім на сценку, – гарбузок дапасоўваецца?

– Па-першае, у яго амаль ідэальная форма, а па-другое, нагадвае вашую стрыжаную галаву першакласніка ці лепш сказаць першакласную... – засмяяўся са свайго, як яму здалося, удалага жарту Мікалай Ягоравіч.

На гэтым яны паціснулі адзін аднаму рукі.

***

Узбадзёраны сяброўскай сустрэчай Максім прыйшоў у майстэрню зарана. У адрозненне ад папярэдніх дзён, ён меў дакладныя намеры, што рабіць. Найперш мастак прасвідраваў адтуліну для шрубы і павесіў на сцяну пейзаж з руінамі дзедаўскай царквы. Потым узяўся накідваць падмалёвак заўважанага Мікалаем Ягоравічам нацюрморта. У мастака не было сумненняў у слушнасці яго падказкі. Настаўнік заўважыў вынік стараннага

падбору Максімам рэчаў, абціснутых вязьмом асацыяцый. Хоць раней на гэтую асацыятыўную повязь мастак не звяртаў належнай увагі. І паяднаў ён гарбузок, кіях і машынку бадай што несвядома, па інтуіцыі. “А вось жа ўбачыў чалавек у гэтым паяднанні і патаемны сэнс. Значыць, і хто іншы ўбачыць...” – падумаў Максім і пачаў перастаўляць мальберт бліжэй да перагародкі, на якай віселі “нацюрмортныя” рэчы, каб не дакранаючыся да іх, зручна было рабіць падмалёвак.

Гледзячы на машынку для стрыжкі, Максім міжволі згадаў дом, бацьку і тое незабыўнае, як само маленства, падстрыганне перад школай. Душу агарнула шчымлівая мілажальнасць. Ён нават правёў рукой па галаве, усё адно як праз столькі гадоў спадзяваўся хаця б ва ўяўленні намацаць сваю дзіцячую гладзенькую стрыжку, а тады асцярожненька пасунуў далонь крышку ўперад, як рабіў у той далёкі год, каб раптам намацаць нечаканую мяккасць чубка і яшчэ крышку – каб адчуць колкі, старанна падраўняны нажніцамі яго краёк... Ах, якое гэта было прыемнае завяршэнне святочнай фрызуры! Максім згадаў, як было звабна, не чакаючы, пакуль маці паднясе люстэрка, абмацаць сваю хвалюючую прыгажосць. Але цяпер пад рукой быў толькі ціхі шолах шорсткіх валасоў.

І яго было дастаткова, каб абудзіцца ад даўнейшых згадак.

Калі падмалёвак быў гатовы, мастак агледзеў яго зводдаль ды з прыемнасцю згадаў Мікалая Ягоравіча: яго аблічча, постаць, паходку... І міжволі зазначыў, што глыбей як чалавека, па сутнасці, не ведае настаўніка.

Ён яшчэ не паспеў адчуць сардэчную шчырасць Шолаха і як яна моцна панітавана з нязводным жаданнем дзяліцца з блізкімі людзьмі чым толькі можна – новымі ведамі, кнігай, свежым, як вечаровы вецярок, пачуццём, здзіўленнем ад нечаканай філасофскай высновы, нават калі яна многім даўно вядомая. Да пасу шчырасці і звычкі дзяліцца сваімі здабыткамі была ў Мікалая Ягоравіча і заўсёдняя гатоўнасць дапамагчы сябру.

Максім жа неўзабаве стаў для яго блізкім чалавекам. Можа таму, што Мікалай Ягоравіч не толькі апантана любіў выяўленчае мастацтва, але і патаемна дужа шкадаваў, што Бог не расшчодрыўся для яго на талент малявання.

***

У гэты дзень чвэрць гадзіны Мікалай Ягоравіч прасядзеў на лаўцы каля пад’езда дома, у якім месцілася майстэрня Максіма, чакаў каго-небудзь з жыхароў, каб увайсці ўслед. Не хацеў турбаваць мастака, выклікаць, каб спусціўся са сваёй верхатуры і адчыніў дзверы: а раптам ён натхнёна працуе...

Настаўнік дачакаўся бабульку, якая вярталася з гастранома. Перад ліфтам яна ветліва прапусціла Мікалая Ягоравіча наперад (“Вам, мусіць, вышэй...”) і ўгледзелася ў трасціну, якую настаўнік трымаў у руцэ. Трасціна сапраўды была адметная, зробленая знаным беларускім разбяром Яўгенам Осіпавым, з якім настаўнік разам вучыўся ва ўніверсітэце і моцна сябраваў у студэнцкія гады.

– На які вам паверх? – спыталася бабулька.

Цяпер яе агледзеў у сваю чаргу Мікалай Ягоравіч: сухенькая, сівенькая – упартыя валасы выбіваліся з-пад зграбнага капялюшыка; самавязаная кофта і таксама кавенька ў руцэ, толькі звычайная, з аптэкі, з якімі ходзяць старыя людзі.

– А я гляджу, у вас трасціна, мусіць, дзеля хварсы, мала на яе абапіраецеся...

– Хутчэй за ўсё так і ёсць... – вінавата ўсміхнуўся настаўнік. – Толькі на шпацыр з сабой бяру. Добры знак сяброўства, руку грэе...

Рукаяць арэхавай трасціны была выразана ў выглядзе пакорліва складзенага птушынага крыла, а ніжэй за яе, на патаўшчэнні, месціліся паядналыя Скарынам Сонца і Месяц з яго знакамітай гравюры. Сцябло трасціны мела зверху выгляд у меру закручанай спіралі з выразна адцененымі святлом віткамі.

– А вы да каго, я дык вас і не прыпомню штосьці, не сустракала раней, здаецца. Відаць, да Максіма, мастака нашага?

– Да яго...

– Ветлы хлопец, паважлівы... Заўсёды паздароўкаецца, добрага дня пажадае на развітанне, калі, як з вамі цяпер, у ліфце разам едзем, – сказала гаваркая бабуля.

– Добрага вам дня! – усміхнуўся ёй Мікалай Ягоравіч, калі ліфт спыніўся і яны развіталіся.

Уваход на дзясяты паверх або, можна сказаць, паддашак, дзе месціліся майстэрні мастакоў, нібы своеасаблівыя дзверы, перагароджвала рашотка з металічных прутоў, зачыненая на замок. Адразу за ёй збоку на сцяне былі прымацаваны кнопкі званкоў у майстэрні. Мікалай Ягоравіч пратачыў праз рашотку руку і націснуў на кнопку з надпісам “Шары”. Не паспеў згледзецца, як па прыступках подбегам спусціўся ўзрадаваны Максім. Яны з прыемнасцю павіталіся і пайшлі ў майстэрню.

Цяпер настаўніку ўжо не трэба было азірацца ў памяшканні, і ён першым чынам падышоў да мальберта. Убачыў распачаты нацюрморт, тэму якога падказаў у мінулы раз, і коратка сказаў:

– Рады за вас, – і больш нічога.

А тады папрасіў Максіма прыгатаваць гарбату і сеў на канапу, на месца, да якога прызвычаіўся ў першае сваё наведванне.

– Не магу спакойна глядзець, як вам даводзіцца маляваць партрэты незнаёмых, чужых людзей, якіх вы ніколі не бачылі. Па сутнасці, рабіць, няхай сабе адметныя, але копіі з фотаздымкаў, – Мікалай Ягоравіч зірнуў на выяву жанчыны, якую Максім зняў з мальберта падчас мінулай сустрэчы.

Потым цяжка ўздыхнуў і прадоўжыў:

– Айцец Міхаіл паабяцаў запрасіць вас на вонкавы роспіс барабана храма Васіля Вялікага. Роспіс, дарэчы, пачаў ужо рабіць мастак з Мінска, які мае добры досвед у такой рабоце. Але ён не паспявае. Задумана зрабіць тры выявы: Хрыста Усеўладцы, Божай Маці і Свяціцеля Васіля. Айцец Міхаіл гатовы даверыць вам стварэнне якраз выявы Васіля Вялікага, паверыў у мае словы пра вашую шчырасць і бліскучы талент. Блаславіць наважаны. Бярыцеся за гэты гуж, хопіць у вас, Максім, сілачкі, верую... – з мяккай усмешкай сказаў Мікалай Ягоравіч. – Грошы невялікія, але месяцы на тры заплаціць за майстэрню хопіць. Пагаджайцеся.

Максім быў здзіўлены такой нечаканай прапановай. Але неўзабаве, калі падаспела гарбата, ад якой патыхнула духмяным светаяннікам і чабарком, яго здзіўленне змяніў лагодны спакой.

Мастак і настаўнік завялі звыклую гаворку пра французскіх імпрэсіяністаў, пра тое, як яны бязладна, з нязводна крыўдлівым высвятленнем адносін сябравалі, як дужа любілі абсент, так званую “зялёную фею”...

Калі зайшла гаворка пра п'янства знакамітых мастакоў, Максім падумаў, што лёс іх яшчэ літаваў Клаўдзінай сівухай, ад якой ніколі не было глюкаў, як ад абсента, а толькі цяжкая галава назаўтра і то не заўсёды. Ды і таннае вінцо раней яшчэ не было "чарнілам", а насамрэч пладоваягадным. "Хоць у напоях можна прымерацца да славутасцей..." – падумаў Максім і ўсміхнуўся з нікчэмнасці сваёй высновы. Праўда, з асцярогай, усё адно як баяўся, што Мікалай Ягоравіч прачытае яго думкі.

Якую хвілінку суразмоўцы, усё адно як перад дарогай, пасядзелі моўчкі, а тады Мікалай Ягоравіч зноў па-дзелавому сказаў:

– Ну вы ж, Максім, ад прапановы не адмаўляецеся?! – узрушаны мастак хітнуў галавой. – Я так і думаў, разлічваў на вашую згоду. Пашчыруйце дзеля царквы нашай. Мне здаецца, прапанова для мастака вельмі прывабная. Урэшце, хоць спазнаеце глыбіню сваёй душы і шчодрасці. Дык давайце заўтра сустрэнемся з айцом Міхаілам, а чацвёртай гадзіне ў царкве. Я, прызнацца, ужо дамовіўся з ім. І сам таксама падыду, каб смялей вам было...

І Мікалай Ягоравіч наважыўся сыходзіць дадому.

***

Настаўнік дапіў ужо амаль астылую гарбату, падхапіў трасціну і зняў з вешалкі капялюш, на які раней Максім зусім не звярнуў увагу, хоць ён быў вельмі прыкметны – з цёмна-сіняга фетру, з шырокім полем наўкруг...

– А-а... Гэта зусім не дзеля хварсы. На дождж збіраецца, а я люблю дажджы, толькі, каб за каўнер не капала. Дык мой капялюш засцерагае... – трохі засаромеўся Мікалай Ягоравіч свайго мадняцкага ўбору.

Максім таксама неўзабаве сышоў з майстэрні. Пасядзеў на лаўцы ў скверыку ў ціхім одуме, які напаўняў яго душу адчуваннем прыемнай цеплыні і спакою. А потым вырашыў зайсці ў царкву Прачыстай Багародзіцы, якая месцілася непадалёк.

У храме было даволі шмат людзей, завяршалася вячэрня. Максім дачакаўся цалавання крыжа, і калі вернікі, у асноўным бабулькі ўзросту яго маці, выйшлі на вуліцу, ён усё яшчэ заставаўся ў царкве. Мастаку наогул хацелася б застацца там сам-насам. "Але ж у храме гэта немагчыма, – падумаў Максім. – Тут заўсёды застаешся з Богам..."

Гэтая думка падалася яму залішне прыгожай і ў той жа час даволі просценькай.

У храме разам з ім затрымаліся лічаныя вернікі: хто ставіў яшчэ адну свечку на канон і доўжыў сваю скруху па роднаму чалавеку, хто пасля службы ўсё яшчэ зацята вышэптваў малітву каля ўлюбёнага абраза і не мог спыніцца...

Максім, каб нікому не замінаць, стараўся рухацца ўздоўж сцен храма ўнепрыкмет, паволі пераступляючы ногі. Ён пераходзіў ад абраза да абраза, хрысціўся і колькі хвілінак стаяў і ўглядаўся ў выяву Хрыста, Божай Маці або каторага святога. Ніхто і падумаць не мог, што ў гэты момант ён прымерваецца да таго або іншага абраза як да жывапіснага твора і ўяўляе яго яшчэ падчас стварэння: вось высвечваюцца клееныя дошкі з-пад слоя няшчыльнай грунтоўкі, вось ізграф макае пэндзаль у тэмперу і... Максім падхоплівае з яго рукі звыклы інструмент...

Ад гэтага накліканага ўяўлення ў мастака раптам пацямнела ў вачах, і ён выратавальна перахрысціўся каля абраза Божай Маці...

Мастак выйшаў на вуліцу і патрапіў пад дождж. Невялікі, але настой-

лівы. Такога няма чаго баяцца і спешна затуляцца ад яго. Але і не звяртаць увагу на яго было нельга. Дарма, што яму зноў заманулася пасядзець на той жа лавачцы, з-за дажджу гэта было немагчыма, і ён напрасткі, дварамі пайшоў на прыпынак. Пасля наведвання царквы на душы яго, як заўсёды, пасвятлела, але і горыч дала свой прысмак. “Нельга, нельга так стаяць перад абразамі і ўяўляць, як яны ствараліся, узірацца ў кожны, нават ледзь заўважны дотык пэндзля. Як ні круці, а гэта халодны рацыяналізм... І цынізм...” – ідучы пад дажджом, які цяпер толькі спрыяў яго самоце, дакараў сябе Максім. Хоць і ведаў, што інакш паводзіць сябе гэтым адвячоркам ён не мог.

***

У наступны дзень мала што нагадвала пра мінулы дождж. Зноў было сонечна, цёпленька, а лёгкі ветрык дакранаўся да людзей ледзь заўважна, нібы з пяшчотай.

Пасля паўдзёна ўсё пайшло па плану Мікалая Ягоравіча. У прызначаны час яны з Максімам сустрэліся ў царкве з айцом Міхаілам. Святар уважліва ўглядаўся ў вочы мастака, дружалюбна паціскаў яму рукі і спытаўся, ці даўно ён быў у царкве. У адказ Максім прамармытаў штосьці няўцямнае. Выразна і цвёрда прагучалі толькі апошнія словы: “...у бліжэйшы час збіраюся”. Але айцец Міхаіл не звярнуў на іх увагу.

Як неўзабаве высветлілася, вонкавы роспіс храма рабіў Арцём Крывец, які вучыўся на два курсы раней Максіма, і хлопцы, няхай сабе аддалена, ведалі адзін аднаго.

Арцём расказаў, што ён робіць роспіс ужо трэцяй царквы, ды і яшчэ колькі хлопцаў з іх курса прыхінуліся да гэтай высакароднай справы, балазе цяпер надышла благаславёная пара адраджэння свята-бацькоўскай веры.

– Анягож, ленінскія дзеці раптам сталі дзецьмі Хрыста... – вылецела ў Максіма ні то іронія, ні то горкая насмешка, у тым ліку і над сабой.

– О не! Дарма ты так кажаш, братка! Мы заўсёды былі дзецьмі Хрыста. Спытай у маці сваёй, калі не верыш. Толькі доўгі час былі і ў ачмурэнні ад тлумнай прапаганды. Але, дзякаваць Богу, працверазелі! – зусім сур’ёзна, сказаў трохі надзьмуты сярдзітасцю Арцём.

Але гэтае прыпіранне доўжылася якую хвілінку. Мінчанін вельмі дружалюбна расказаў і паказаў наверсе, калі ўзняліся па рыштаваннях да барабана царквы, якую частку роспісу засталося зрабіць. Па сутнасці, траціну, толькі выяву Васіля Вялікага, як і казаў айцец Міхаіл. Прытым падмалёвак са спіса вядомага абраза, які ўпадабаў святар, Арцём паспеў ужо накідаць светла-карычневай фарбай. Ён адмовіўся ад вугалю, каб не накрышылася драбкоў чарнаты.

– Зірні, учарашні дождж зусім не крануў яго, нават знаку няма! – задаволена адзначыў ізаграф.

Ён перадаў Максіму фарбы і купленыя за царкоўныя грошы пэндзлі розных памераў. А яшчэ расказаў, у якой краме ў Віцебску можна дакупіць акрылавыя фарбы, калі раптам не хопіць.

– Там яны адмысловыя, вядомай італьянскай фірмы. Прадавец казаў, што такімі ўся Венецыя размаляваная. Устойлівыя пры любой вільготнасці! У той краме і машына ёсць для перамешвання фарбаў, каб атрымаць якое табе заўгодна адценне. Бацюшкі не супраць такога ўплыву каталіцкага Захаду... – усміхнуўся Арцём і пачаў збірацца да ад’езду ў Мінск.

Як высветлілася, ніякіх строгіх тэрмінаў завяршэння роспісу не было, і Мікалай Ягоравіч з недасведчанасці ўвёў Максіма ў зман, калі казаў, што мастак не паспявае. Насамрэч у Арцёма здарылася вялікае гора: патэлефанавала жонка і паведаміла, што яго маці стала зусім кепска, і яе з невылечнай хваробай, на якую яна пакутуе не першы год, адвезлі ў Бараўляны, так што трэба тэрмінова вяртацца.

***

Максім зранку апрануў сваё рабочае адзенне і паехаў у царкву. Адзенне было звыклае для ўсіх, хто хоць трошкі знаёмы з жыццём мастакоў: грубы швэдар, пацёртыя джынсы, сям-там ледзь пазначаныя дробнымі, з сярнічную галоўку, плямкамі фарбаў. Максім не саромеўся, калі іншым разам, як цяпер, напрыклад, даводзілася з'яўляцца ў такіх строях на людзях. Чаму трэба саромецца рознакаляровых, вясёлага настрою пазначак на адзежы. Мастак ідзе!

Ён прыехаў рана, яшчэ толькі завяршалася ютрань, і вырашыў пакуль не ўзнімацца на рыштаванні для больш дэталёвага, чым учора, агляду месца роспісу. Не хацелася ўзвышацца над людзьмі, думкі якіх скіраваны ў неба.

Калі закончылася служба, айцец Міхаіл ухваліў яго за такую цярплівасць і павагу да вернікаў, а потым блаславіў і праводзіў да рыштаванняў.

І натхнёны мастак узяўся за пэндзаль. Але цяпер яму стала крыху непамысна, бо не з чыстай сцяны пачынаў маляванне выявы Васіля Вялікага, а прадаўжаў з гатовага падмалёўка. Праўда, неўзабаве ён супакоіўся: гэта ж не наватвор які, а выбраны абраз, кананізаваны спіс, да якога прычыніўся не адзін ізограф, а цяпер вось у тым ліку і Арцём. Пачэсна далучыцца да такой годнай супольнасці.

Максім з імпэтам узяўся за працу і любаваўся фарбай пасля кожнага мазка пэндзля, нібы яму адкрывалася дагэтуль нязнаная прыгажосць. Але праз якую паўгадзіны сумеўся: мастаку раптам падалося, што ён на пленэры – наўкола дрэвы, жывая прырода, хоць і падціснутая камяніцамі. Праўда, гэта ўсё ўнізе, там, дзе трава... Але ж яму адкрываліся нябёсы з белымі, калматымі, нібы ахапкі воўны, аблокамі, якія прасціраліся да самага далягляду. Тая ж прырода, толькі ў горніх сферах і рухомая, амаль няма за што звыклае зачапіцца воку.

Ён звярнуў увагу на тое, што айцец Міхаіл раз-другі прайшоў уздоўж храма, неўпрыкмет пазіраючы на яго работу. Святар стараўся не паказваць сваёй зацікаўленасці і не загаварыў з мастаком. Мусіць, каб не выдаць сваё апекаванне і, крый Божа, магчымы недавер. "Хвалюецца не менш, чым я," – падумаў Максім і з яшчэ большай стараннасцю падоўжыў роспіс.

Але назаўтра, калі мастак па ўсяму падмалёўку нанёс на паверхню сцяны першы слой фарбаў, паводзіны айца Міхаіла прыкметна змяніліся. Ён пачаў адкрыта спыняцца насупраць Максіма, задзіраць угору галаву, прыкрываючы каптурыкам далоні ад сонца вочы, і загаворваць з ім.

– А я вам мінералачкі прынёс. Яшчэ і паўдзён не надышоў, а так прыпякае. А на вышыні і схавацца няма дзе... – усміхнуўся святар і памкнуўся зазірнуць у вочы мастаку, але дарма – Максім быў высока. – Спусціцеся ды вазьміце, будзе чым смагу прагнаць...

Айцец Міхаіл трымаў у руцэ дзве невялічкія бутэлькі "Баржомі". Мастак спусціўся па сходнях і з задавальненнем узяў напой крышталёвай

свежасці, тым больш што і сапраўды хлопца на адкрытым сонцы пачала ўжо даймаць смага.

Яны якую хвілінку памаўчалі, і гэта было маўчанне, якое ўбірала ў сябе і сцішаныя галасы ў царкве, і прыязнае паразуменне двух людзей, і пульсуючы час, у той яго плыні, якая не прыцііскае долу, а толькі ўзвышае. Кароткае маўчанне, якое не хацелася перапыняць, усё адно як чаканую размову.

Назаўтра айцец Міхаіл зноў прынёс ваду і яшчэ бутэрброды з маслам і сырам. Праз нечаканыя паводзіны святара мастак адразу адчуў, як цяплеюць, становяцца куды больш прыхільнымі адносіны да яго. А ў айца Міхаіла, натуральна, гэтыя адносіны мяняліся ў залежнасці ад таго, як усё больш выразна і пераканаўча пачынаў выбівацца з-пад пэндзля мастака роспіс-абраз.

Але нешматслоўнае сумоўе, калі святар быў ніжэй мастака, стаяў на зямлі, блізілася да завяршэння. Праз тры тыдні Максіму нарэшце засталося толькі ўважліва прагледзець роспіс, далікатна крануць пэндзлем некаторыя яго мясцінкі і асобныя лініі, каб было поўнае адчуванне завершанасці, ды зрабіць стараславянскім шрыфтам надпіс “СТЛЬ Василий” – скарочана “СВЯТИТЕЛЬ” ды імя.

Раптам мастака агарнула дзіўнае пачуццё: з аднаго боку, ён цвёрда ведаў, што ўсяго толькі выводзіць на сцяне імя Свяціцеля, надпіс, які з’яўляецца кананічным складнікам роспісу і які даўней у манастырах рабіўся рукой каторага паважанага архіярэя, а з другога, цяпер вось з-пад яго, Максімавага, пэндзля паўстаюць стылёва выструненыя літары, цяпер ён, мастак, можна сказаць, зацвярджае толькі што скончаную работу, панітоўваецца са светлым імем Вялікага Васіля і ў той жа час пакідае сведчанне свайго саўдзелу ў яго пачэснай справе... У гэтым нечаканым пачуцці пераблыталіся і здзіўленне, і разгубленасць, а таксама і збянтэжанасць Максіма. І патаемная асалода, пра якую нікому не хацелася казаць.

Айцец Міхаіл, пакуль мастак пакрысе выводзіў надпіс, увесь час стаяў паблізу і, задраўшы галаву, не адрываў вачэй ад яго пэндзля, усё адно як баяўся, што мастак незнарок прапусціць якую літару. Дык у думках ён таксама вадзіў пэндзлем па сцяне. І так шчыранька аддаўся гэтаму стаіранню, што, захоплены, варушыў вуснамі. Але не літары ён вышэптваў, а малітву. І не з перасцярогі, а з удзячнасці: “Дзякаваць Богу, усё атрымалася...”

Калі Максім завяршыў працу і з фарбамі і пэндзлямі пачаў па сходнях спускацца долу, дык толькі цяпер непадалёк ад святара ўбачыў ён Мікалая Ягоравіча. Яны прыязна парукаліся і нават абняліся, як было ўжо ў іх заведзена.

– Не вытрымаў, дужа захацелася пабачыць ваш роспіс. Суладна атрымалася, нібы адной рукой усе тры абразы напісаныя! Патрапіў. Віншую! – свяціўся ўсмешкай настаўнік, ахоплены агульнай, але ў той жа час і сваёй асабістай, радасцю.

А тады дадаў, гледзячы на айца Міхаіла:

– А да месца было б, айцец духоўны, зрабіць надпіс па-нашаму, па беларуску – “Васіль”... Амаль тое самае, але бліжэй да сэрца ўсім тутэйшым людзям, гучыць трошкі інакш, цяплейшае для нас слоўца. Вунь колькі Васілёў наўкола ходзіць! Няхай сабе не святыя, а не раўнуючы як усе мы, скасабочаныя жыццём грэшнікі... Але як я прыкмеціў, сярод Васілёў трохі больш, чым сярод людзей з іншымі імёнамі, годных і сумленных...

Праўда, праўда! І не таму кажу, што сярод маёй радні даволі Васілёў, хоць усе і яны безумоўна годныя людзі. А праз адвольнае назіранне чужых людзей пераканаўся. Ды і Максімку нашаму менш работы было б. Усё ж такі карацейшае слоўца "Васіль", чым "Василий"... – настаўнік усміхнуўся і хітра падміргнуў мастаку.

– Не ўздымайцеся на дыбачкі перад канонам, Мікалай Ягоравіч. Гэта на ўроку літаратуры можна даваць волю фантазіі, а ў нас усё па благаславенню. Роспіс зроблены як положана!

Апошнія слова святар прамовіў са сваім родным паляшуцкім каларытам, чым міжволі падкрэсліў нязводнасць нашай скразной тутэйшасці.

Здаецца, толькі настаўнік адразу зразумеў гэта і перасмыкнуў плячыма.

Максім увесь час маўчаў, душу яго напаўнялі іншыя пачуцці. У думках ён спяшаўся ў майстэрню, каб трошкі пабыць сам-насам са сваёй мастакоўскай радасцю і астудзіць яе адзінотай.

***

Мастак не ведаў, што неўзабаве ён зноў сустрэнецца з айцом Міхаілам. Праз пару дзён святар патэлефанаваў яму і папрасіў дазволу прыйсці ў майстэрню, каб абмеркаваць адну яго задуму. І мастак адразу пачаў рыхтавацца да, як ён прадчуваў, важнай сустрэчы. Схадзіў у бакалею, купіў пачак буйналіставога зялёнага чаю і печыва, розных гатункаў – на выбар.

Калі надыходзіў час сустрэчы, Максім выйшаў на вуліцу і чакаў святара на лавачцы каля пад'езда.

Айцец Міхаіл быў пунктуальны.

Бабулькі, якія прыглядалі на дзіцячай пляцоўцы за ўнукамі, зусім не здзівіліся нязвыкламу госцю мастака – колькі іх у яго бывае! Ды і прывыклі ўжо людзі да бацюшак, не тое што раней.

– А цэркаўка нашая засвяцілася пасля роспісу, нібы свечачка Божая... Асабліва, калі рыштаванні ўбралі, – яшчэ ў ліфце пачаў горача дзяліцца сваімі ўражаннямі айцец Міхаіл. – Відушчымі вачыма на свет навакольны зірнула... Дзякую вам, Максім, за старанне!

– Арцёмава заслуга, а я так, на падхваце трошкі паўдзельнічаў у роспісе. Адно што калегу падтрымаў... – адказаў на ўдзячнасць крыху збянтэжаны мастак і заўважыў, што святар з прыкрасцю ўспрыняў слова "калега", якое нагадала яму несвядомае, як ён лічыў, жыццё да службы ў царкве. Але пра гэтае асабістае пачуццё Максім амаль нічога не ведаў.

А ў майстэрні ўсё пайшло звыкла. Айцец Міхаіл няспешна хадзіў уздоўж сцен і азіраў карціны. Часам спыняўся каля каторай на колькі хвілін у задуменні і ледзь прыкметна ў знак згоды або з іншай прычыны хітаў галавой – кожны раз па-рознаму.

Так пакрысе дайшоў ён да невялічкага абраза Хрыста Збавіцеля, намаляванага на дошках. Усцяж адной з іх, акурат па цэнтру прайшла даўнейшая расколіна. Айцец Міхаіл перахрысціўся, прашаптаў кароценькую малітвачку і сказаў мастаку:

– Як добра, Максім, што вы асвяцілі свой прытулак Хрыстовым Святлом.

– А-а... Можна сказаць, найдарагім святлом – з кута дзедавай хаты абраз. Мама ў свой час перадала мне...

– От жа! Узорны прыклад свята-оцечаскай веры, – і зноў па фразе, прамоўленай айцом Міхаілам, пракацілася паляшуцкае рухомае "о". Але

гэтым разам сказаў ён па-свойму не наўмысна, а міжволі, з невыводнай звычкі.

Тым часам Максім ужо сабраў на стол, і яны селі піць чай ды гаварыць аб прапанове, з якой прыйшоў да мастака святар.

Размова, вядома ж, пайшла пра царкву.

– Вы ж заходзілі, Максім, у наш храм і бачылі, што ў ім даволі вялізных вокнаў, будынак жа прыстасаваны, не так даўно перададзены для царкоўнай службы. Шмат вокнаў, адпаведна і прасценкаў паміж імі. І пакуль не ўсе з іх, як вы бачылі, аздобленыя царкоўнай прыгажосцю. Мы храм абжываем і намольваем. Дык вось, надумаў я ў кожным прасценку ўсталяваць абраз і прытым абавязкова вялікага памеру, амаль што параўнальны з вакном.

– Такім чынам, усё адно як атрымаецца яшчэ адно вакно паміж тымі, што ўжо ёсць?... – зазначыў Максім.

– Як трапна вы сказалі, браце! Нібы мае думкі прачыталі. Абразы як вокны! Прытым галоўныя ў царкве, з якіх і познім прыцемкам, і ноччу бруіцца святло. Толькі што прырода яго і вартасць інакшыя – духоўныя. А ў светлы дзянёк промні святла вонкавага і святла духоўнага, уявіце сабе, зліюцца-ссукваюцца, нібы дзве розныя ніты на Божым калаўроце...

Святар так захапіўся расповедам, так узвысіўся на хвалі паэтычнай вобразнасці, што амаль забыўся на свой кубак чаю і толькі пасля таго, як Максім падліў яму гарачанькага, суняўся і нарэшце звярнуў увагу на ўлюбёны свой напой.

– Дзякую... – прачулена прамовіў айцец Міхаіл і спытаўся: – Ну дык, Максім, вы зразумелі, з якой прапановай я да вас прыйшоў?

Максім зразумеў, але баяўся паверыць у яе верагоднасць і таму ўнікліва адказаў:

– Не надта каб...

– Я хачу вас папрасіць напісаць задуманыя абразы. Уладыка блаславіў, дык мне адно з майстрам, гэта значыць з вамі, засталося дамовіцца. А я ў вас веру, Максімка, і ўпэўнены, што вы здольныя стварыць гэтыя абразы лепш, чым хто іншы. Хоць у такой святой справе і не варта параўноўваць майстроў. Да таго ж пачаць выкананне гэтай бласлаўёнай задумы вырашана з абраза Васіля Вялікага, імем якога названа нашая царква. А вы ўжо дакраналіся і ў думках, і пэндзлем да яго святога вобраза. Пагаджайцеся, браце Максім! Хоць ты імем Госпада папрасі вас...

Мастак на хвіліну задумаўся: “Няўжо святар і ўзапраўду баіцца, што я адмоўлюся ад такой пашанотнай, надаючай гонар прапановы...”

А ўслых, каб не выдаваць сваю хвалюючую радасць, сказаў:

– Дайце мне дзянёк падумаць, айцец. Да заўтрашняй раніцы...

***

Ранічкай, незадоўга да пачатку ютрані, Максім быў ужо каля царквы Васіля Вялікага і чакаў айца Міхаіла – усё адно як баяўся, што той перадумае і скасуе сваю прапанову па напісанні абразоў. “Гэта ж трэба было так перамудрыць: ...дайце дзянёк падумаць, дайце дзянёк падумаць... А цяпер гэты дзянёк вечнасцю здаецца”.

Але... здаваўся. Айцец Міхаіл, які неўзабаве падышоў, і слова не сказаў пра іх учарашнюю размову. Адразу перадаў спіс будучага абраза – даволі вялікіх памераў рэпрадукцыю невядомага для Максіма паходжання, ды

сказаў мастаку, каб абраз вымалёўваў алейнымі фарбамі на палатне памерам два метры на метр сорак.

– Пабачымся яшчэ і не адзін раз, а цяпер, выбачайце, трэба ютрань пачынаць, час надыходзіць, людзі сабраліся... І вы, Максім, зайдзіце ў цэркаўку, перахрысціцеся, малітвачку прашапчыце, свечку дзеля Божай славы пастаўце...

Мастак так і зрабіў, але на службе пастаяў нядоўга. Вырашыў, як і перад вонкавым роспісам, схадзіць на вячэрню ў царкву Прачыстай Багародзіцы, ды і наогул хадзіць цяпер туды штодзень.

Максіму дужа захацелася больш дэталёва разгледзець перададзены яму спіс Васіля Вялікага. І ён знайшоў зручную лавачку ў бліжэйшым дворыку.

О, гэта была зусім іншая, чым на роспісе звонку, выява. Свяціцель сядзеў на троне, які, вядома, атаясамляўся з яго духоўным узвышэннем. Левай рукой ён прытрымліваў на калене кнігу Святога пісьма, а вольная правая, мяркуючы па складзеных пальцах, была напагатоў блаславіць вернікаў. Васіль Вялікі быў на выяве строгі і рашучы, пра што красамоўна сведчыў яго позірк.

Пасля сустрэчы з айцом Міхаілам, падчас якой Максім адчуў, што святар добра разумее асаблівасці жыцця мастакоў, іх пачуццёвы стан, іх перасцярогі і сумненні...

Ён паехаў у майстэрню і пачаў больш дэталёва разглядаць выяву спіса. І раптам схамянуўся, бо звярнуў увагу на тое, што значная частка фона абраза пакрыта сусальным золатам. І адразу пачаў думаць, як быць. Спадзявацца на айца Міхаіла, што ён зможа набыць дарагі матэрыял, не выпадала – чым яго аплаціць, дзе ўзяць маленькай цэркаўцы вялікія грошы...

І Максім раптам уцяміў: а калі знайсці якую замену такім танюсенькім, як валасок, лісткам святланоснага золата! І здагадаўся: паталь, ну так, паталь! Амаль такія ж танюткія лісткі, амаль такое ж зыркае жоўценькае святло ад іх. Хіба што трохі халаднейшае. А ўсё адно, амаль сусальнае золата! Амаль... А што рабіць, калі грашовая нявыкрутка даводзіць сённяшняе жыццё ў многіх яго праявах да сумнага і непазбежнага “амаль”.

Максім згадаў, што ў галоўным мастацкім салоне горада пару месяцаў таму ён бачыў на вітрыне паталь. “Эх, каб жа не раскупілі! Але хіба вялікі на яе попыт... Лічаным адмыслоўцам патрэбная...” І мастак хуценька сабраўся ды паехаў у салон. А калі з’ездзіў і даведаўся, што паталь ёсць, тут жа сеў на трамвай і паехаў да айца Міхаіла прасіць, балазе не надта вялікія, грошы для набыцця неабходнага матэрыялу, бо сваіх у Максіма было вобмаль, хіба што на сціплае пражыццё.

Пасля сустрэчы са святаром ён крутануўся на адной назе, вярнуўся ў салон і купіў паталь, амаль усю, што была ў продажы.

Усё атрымалася так, як ён спланаваў, прытым на адным дыханні. Максім падумаў, што ў высакароднай справе інакш і быць не можа.

Адно што не змог зрабіць ён у гэты дзень, дык наведаць царкву Прасвятой Багародзіцы. Было пазнавата ўжо, а спяшацца ён не хацеў, бо калі спяшаешся ў духоўным памкненні, ўсё адно не паспееш.

***

Максім пачаў рупна ладзіцца да працы. Ён з прафесійнай успрытнёнасцю за пару гадзін змайстраваў неабходны падрамнік, пругка нацягнуў палатно і старанна ў два слаі загрунтаваў яго. Потым прыгатаваў фарбы

– толькі перамешвай на палітры да неабходных адценняў; падрыхтаваў розныя пэндзлі, іншы рыштунак... Амаль усё было гатова, засталося самае галоўнае і складанае – падрыхтаваць да напісання абраза сваю душу.

Максім схадзіў у царкву Прасвятой Багародзіцы і адстаяў там усю службу – ад пачатку літургіі да цалавання крыжа. Але спавядацца і прычасціцца, хоць і падрыгатаваўся, не асмеліўся. Нібы дзяцё, якое ў паўдзённую спёку нават пад зыркім сонцам аніяк не можа наважыцца акунуцца ў азёрную, з калючымі сцюдзёнымі іголачкамі ваду. Яго страшыла неабходнасць пераліку перад святаром сваіх, як яму здавалася, недаравальных, асабліва ў дачыненні да маці, грахоў.

Калі пасля службы ў царкве Максім ішоў у майстэрню, дык па дарозе пачаў шкадаваць, што не хапіла смеласці, і папракаць сябе за маладушнасць.

Міжволі згадаўся расповед добрага знаёмага пра тое, як аднойчы яго, прыгнечанага маркотай і тугой, пабачыў у такім душэўным стане архіярэй, для якога на замову пісаў ён гістарычную даведку, і які ведаў пра яго несамавіты, хоць і дробны ўчынак. Уладыка, праходзячы міма, спыніўся каля стала і сказаў яму: “Іван Пятровіч, а чаму вы так моцна перажываеце, нібы скрушнае гора якое. А можа, Госпад даўно ўжо дараваў вам...”

“Вось каб мне перад наведаннем царквы сказаў хто такія надзіва суцяшальныя словы! Напэўна, і не было б тады прыкрай нясмеласці...” – думаў Максім.

У майстэрні ён нарэшце паставіў падрамнік на мальберт і... упершыню ў жыцці зніякавеў перад белым палатном. Белата здалася бязмежнай, бо мастак невядома чаму раптам адчуў сябе маленькай парушынкай у неабсяжным свеце. Апусціў рукі і знясілены сеў на канапу. Адкінуў галаву на спінку і заплюшчыў вочы. І ўсё адно замест думак свядомасць яго запаўняла асляпляльная белата. Максім зразумеў, што ён пакуль не гатовы да стварэння абраза. І тады ён пайшоў у лазенку і абмыў халоднай вадой твар. А калі ўціраўся, міжволі ўспомніў, што ў нагруднай кішэні кашулі ляжыць паясок з напісанай на ім славутай малітвай “Жывы ў дапамозе Вышняга...”, які ён колькі дзён таму, як параіў айцец Міхаіл, набыў у царкоўнай лаўцы. Максім падышоў да абраза Хрыста Збавіцеля і падперазаўся. Прытым вузельчык, як патрабавала правіла, зрабіў пад левай рукой. Але раптам схамянуўся: трэба ж было найперш прачытаць малітвачку! На памяць ён яе не ведаў, дык развязаў паясок, тройчы перахрысціўся і пачаў чытаць надрукаваныя на ім пранікнёныя словы. Але пры чытанні мастак раптам адчуў, што яму нестае душэўнага спакою, а з ім і патрэбнай засяроджанасці. Дык шэптам прамовіў: “Ай, Божа мой... Мітусня. Не дзіва, калі дрыжака біць пачне...”

І вырашыў чытаць малітву нанова і ўслых. Але збіўся і да вачэй пачалі падступаць слёзы.

“Усё не так, усё не так... Чытаю ўслых і, здаецца, чакаю водгуку, нібыта Госпад павінен адгукнуцца, ці добра Яму чутна...” – з роспаччу падумаў Максім.

А калі нарэшце дачытаў-такі малітву да апошняга слоўца, дык адчуў, што зрабіў гэта без належнага імпэту і рашучасці. І каб заняць сябе найменш адказнай работай, вырашыў склейваць лісты кардону на памер абраза, каб потым на гэтай плашчыні зрабіць са спіса папярэдні падмалёвак, а потым ужо пераносіць яго на палатно і такім чынам пазбегнуць якіх-кольвечы памылак.

Праўда, толькі адвячоркам крануў Максім кардон тонкім пэндзлем – правёў першую лінію, якая, дарэчы, да заўтрашняга рання так і засталася без падаўжэння і разгалінавання. Нібы адзінае слова на чыстым аркушы.

Увесь гэты час цесна завязаны паясок зноў і зноў нагадваў пра сябе пры няўклюдным руху.

***

Увечары Максім патэлефанаваў Мікалаю Ягоравічу і папрасіў яго разам пашпацыраваць перад сном па якім ўлюбёным скверыку. Яму хацелася напоўніць душу спакоем, а калі спакой, нібы акраец хлеба, па-сяброўску дзеліцца напалам, дык тады ён яшчэ больш улагоджвае душу.

Яны вырашылі пагуляць уздоўж Віцьбы ў тым месцы, дзе яна атуленая прысадамі дубоў і клёнаў, а па берагах зроблены ходнікі з адмысловага шчыльнага, раўнютка закатанага асфальту.

Маршрут прагулянкі замыкалі два масткі цераз рэчку: прайшоўся па берагу, перайшоў па мастку на супрацьлеглы, вярнуўся да першага мастка і зноў перайшоў цяпер ужо на свой бераг, на месца, адкуль пачынаў прагулянку, і такім чынам сашчапіў выцягнуты ў даўжэзны абаранак маршрут.

Вечарамі тут заўсёды збіралася даволі людзей: маладзёны гойсалі на ролікавых каньках і на падцятых, як харты, веласіпедах, шчаслівыя дзядулі са сваімі бабулямі прагульваліся падручкі, а гаратныя займаліся шведскай хацьбой, рытмічна грукаючы аб асфальт сваімі адмысловымі кіёчкамі.

Мікалай Ягоравіч і Максім шпацыравалі па-беларуску: паволі, усім ветла саступаючы дарожку, размаўляючы аб якіх-небудзь сваіх цікавостках...

Настаўнік захоплена расказаў пра шэраг выстаў жывапісу і графікі, якія Максім прапусціў з прычыны сваёй пільнай занятасці. А яшчэ пра тое, што віцебскія авангардысты пачалі фанабэрліва і, як многія палічылі, з прытоенай абразай, называць мастакоў, улюбёных у беларускі свет, фальклор і мову, “каранямі”.

– Хоць ты ім лупцоўку лейцамі задай у выглядзе перфоманса на іх жа выставе. – з’едліва ўсміхаўся настаўнік.

Сябры гаварылі таксама пра новую кнігу Андрэя Федарэнкі, якую яшчэ да “царкоўнага паслушэнства” Максіма прынёс яму пачытаць Мікалай Ягоравіч. Пра тое, як слынны аўтар высыпае на кніжныя старонкі, нібы бульбу з меха, свой нязмушаны, мяккі і лагодны, на які заўсёды зверне ўвагу чуйны чытач, гумар. І што гэты дасціпны гумар найперш вынікае з натхнення аўтара, а ўрэшце рэшт суладна панітоўваецца з жыццём, нібыта ўсплыў акурат з яго вірлівай глыбіні...

– І ў гэтым мне бачыцца вышэйшы клас пісьменніка. Так захапіць даверлівых! А можа, усё наадварот: і з чытачоў, і з пісьменніка ўволю цешыцца жыццё, якое, як вядома, смяецца і першым, і апошнім... – крыху сумеўся ад сваёй, як яму здалося, не надта выразнай высновы Мікалай Ягоравіч.

Шмат пра што яшчэ гаварылі ў той вечар сябры, але ні слова не прамовілі пра напісанне абраза, хоць настаўнік і здагадваўся аб пакутлівым пачатку яго стварэння, які перажываў Максім. Ну няхай сабе не пакутлівым, але зусім нязвыклым для мастака. А пра царкоўную замову на абраз, дык ён, вядома ж, даўно ведаў ад айца Міхаіла.

Максім быў вельмі ўдзячны сябру за далікатнае маўчанне.

Гэтым вечарам мастак наважыўся легчы спаць раней, чым звычайна, а каб засцерагчыся ад непрыемных сноў, пакуль не змяжыліся павекі

згадваў сваю вёску, родныя твары, найперш матулін. І даволі хутка заснуў.

Але ненадоўга, бо і праз сон кальнула: ён жа не зняў з сябе малітоўны паясок, а па правілах трэба было. Максім узняўся з ложка, няспешна развязаў вузельчык, перагнуў паясок у колькі столак і паклаў яго на сваё месца – у кішэню кашулі. А пасля гэтага зноў пачаў згадваць родную вёску, яе насельнікаў і заснуў яшчэ хутчэй, чым у першы раз – ледзь паспеў дайсці ў сваіх згадках да цёткі Васіліны...

***

Назаўтра ў майстэрні Максім да драбніц паўтарыў заведзены ў першы дзень парадак падрыхтоўкі да напісання абраза. Нават твар зноў абмыў халадзёнкай. А калі падпераны пояском наблізіўся да мальберта, дык яшчэ і прачытаў Ісусаву малітву і нібы святар перахрысціў палатно, дарма што пакуль не гатовы быў дакранацца да яго пэндзлем. Але ж неўзабаве... Максім ведаў, што на стварэнне падмалёўка і на кардоне, і потым на палатне не спатрэбіцца замнога часу.

Ён укленчыў на падлозе, дзе была разасланая кардонная плашчыня, і гледзячы на рэпрадукцыю спіса, пачаў выводзіць яго абрыс.

І ўсё пачало надзіва гожа атрымлівацца, хоць пакуль і даволі марудна, бо мастак імкнуўся старанна адлюстраваць дробныя дэталі, якіх асабліва шмат было ў выяве трона.

Падмалёвак на кардоне быў гатовы праз дзень. Пасля яго завяршэння Максім зверху і знізу сціснуў склееныя лісты кардону тонкімі рэечкамі і павесіў за мальбертам, каб лацвей было глядзець і пераносіць малюнак на палатно.

Калі мастак старанна перамаляваў на палатне выяву Свяціцеля, ён пачаў на вызначанае месца наклейваць паталь. А гэтая работка запатрабавала асаблівай стараннасці і вытанчанасці.

Максім прызвычаіўся выразаць паталь патрэбных памераў і выгінаў спрытнымі, адмыслова найстронымі нажніцамі.

А пасля гэтага, падтрымліваючы лісткі паталі мяккім і лёгкім, як подых ветрыка, пэндзлем з вавёрчынай поўсці, пачаў пераносіць зіхатлівыя лапікі на палатно і асцярожненька іх наклейваць.

І зноў надзіва, усё атрымалася суладна, хіба што спачатку мастак сапсаваў (скамшаў незнарок) колькі лісткоў паталі. Але ж запас яе быў вялікі!

Палатно засвяцілася мяккім лагодным святлом... Максім міжволі згадаў, што ў іканаграфіі сусальнае золата, а ў яго выпадку паталь, сімвалізуе менавіта святло і толькі яго.

І вось святло духоўнага паходжання асвяціла з абраза, нібы сонейка веснавы поплаў, душу мастака.

Сімвалічнае святло ўспрымалася душой гэтак жа адчувальна, як вочы ўспрымаюць зыркія промні на вуліцы.

Сімвалічнае для душы і ёсць самае рэчаіснае.

***

На пяты дзень працы над абразом Максім нарэшце ўзяўся за пэндзлі, распачаў жывапіс, па якім дужа змаркоціўся.

Ён вырашыў пісаць абраз пакрысе, але шырока, адразу на ўсім палатне

і не засяроджвацца падоўгу на якой адной дэталі. Яму хацелася, каб выява хоць і паволі, але цалкам праступала з небыцця як чаканы цуд.

Мастак прыладзіўся выкарыстоўваць адначасова чатыры-пяць пэндзляў, розных па шырыні і калянасці.

З асаблівым стараннем вымалёўваў ён твар Свяціцеля. Строгія з ясным позіркам вочы, цёмная барада, у чарнаце якой зырка свецяцца пунсовыя вусны... Якое імгненне – і абаронца святой веры прамовіць палымяную казань!

Максім асцерагаўся нават маленькай хібы ў рабоце, каб не спатрэбілася перамалёўваць каторы няўдалы фрагмент. Гэта ж прыкрая няўдача, калі фарбы толькі з другога разу суладна кладуцца на палатно. Якая тут вытанчанасць стылю, калі выява нараджаецца не з натхнёнага ўзруху душы, а пасля змушанага "прымервання" праз памылку...

Гэтай магчымай няпэўнасці ён страх як баяўся. Але насамрэч, дзякаваць Богу, выява Васіля Вялікага вось ужо на працягу тузіна дзён бездакорна прабівалася праз белату палатна.

Усё адно як блаславёная звышай, работа доўжылася далей і далей і наблізіла ўрэшце мастака да напісання імя Васіля Вялікага, як у свой час пад небам, на барабане царквы.

І Максіму здалося, што з пачатку работы над абразом прайшоў не месяц, а цэлае жыццё. А з жыццём развітацца дужа цяжка.

Між тым надышоў час, і ён з сумам думаў, што неўзабаве давядзецца перадаваць абраз царкве.

Максім зажурыўся так, што не знаходзіў сабе месца. Ніколі раней, з такой шчымлівасцю, як цяпер, не адчуваў ён адзіноту. Змарнелы сядзеў нерухома на канапе і стараўся не глядзець у бок мальберта, каб не ўбачыць у строгіх вачах Васіля Вялікага дакор: маўляў, што раскіс, чаму напоўніў душу скрухаю, нібы пахаваў каго; навошта са сваёй маркотай дабрачынна пераходзіш у чараду знерваваных грэшнікаў...

Гнятлівы настрой заціснуў Максіма так моцна, што і на грамульку не адпусціў і назаўтра, і колькі дзён пасля.

Пакуль не прыехаў Мікалай Ягоравіч.

Сябра невядома якім чынам адчуў пільную неабходнасць сустрэчы, сам патэлефанаваў і прыехаў.

– Ну як тут наш Васіль! – наўмысна бадзёрым голасам прамовіў ён, уваходзячы ў майстэрню. Настаўнік пабачыў панылы выгляд Максіма, калі той чакаў яго на вуліцы, і таму стараўся падзяліцца з ім жартаўлівым настроем, абудзіць ад самоты. Але калі ўбачыў абраз на мальберце, тут жа асёкся. Пачаў падступаць да яго мяккай хадою, а тады спыніўся і застыў утрапёны:

– Дык вось які ты, Васілечка... – ціха сказаў сам сабе з прыдыханнем і перахрысціўся.

І гэтым усё адно як зняў з душы Максіма камень. Мастак адразу зразумеў, што абраз аднаімгненна страціў з ім доўгі час напоўненую трывогай ды іншымі пакутлівымі перажываннямі повязь, зажыў сваім жыццём.

Узрадаваны і агаломшаны, ён пачаў прапаноўваць Мікалаю Ягоравічу зялёны чай, на які сам ужо глядзець не мог, але за кампанію наліў і сабе.

– Ну вось, Максімка, – прамовіў настаўнік, – цяпер цябе смела можна называць ізаграфам! Спрыт і ўмельства дзівосныя ў ручках маеш, а ў душы – паважлівасць і ласку! Хоць, прызнацца, "ізаграф" не зусім беларускае

слова. Па-нашаму ж не "ізабражэніе" будзе, а "выява". Так што "выяграф" атрымліваецца. Але, праўда, гучыць у наш час не надта каб. Пігулкі для ласых на жаночыя вабноты і пры гэтым добра аслабелых мужчын згадваюцца... Ат, буду называць цябе скарочана "граф" – і пашанотна, і высокая годнасць рода на ўвазе маецца...

"Граф" ледзь выціснуў з сябе слабую ўсмешку. Яму было хораша слухаць і слухаць.

А ўзнёслы Мікалай Ягоравіч ніяк не мог спаўна выказаць свае ўражанні, і не толькі іх, але і шмат чаго яшчэ неадчэпна-хвалюючага.

– Я сёння добра разгледзеў, Максім, якая пераканаўчая глыбіня вашага выяўленчага таленту, – падоўжыў сваю гамонку захоплены настаўнік, – і цяпер упэўніўся, што вам пад сілу напісаць... абраз нашай апякункі перад Богам Святой Еўфрасінні Полацкай. Свая, з мясцовых людцаў святая і створаны сваім, тутэйшым майстрам яе абраз!.. Пра гэта я даўно мару. – зрабіў паўзу настаўнік. – Як мне хочацца, каб пры яе адлюстраванні з-пад пэндзля з'явіўся не аблізаны да ідэальнай прыгажосці твар славянскай прыгажуні, як цяпер увайшло ў моду маляваць Святую, а твар да мілажальнасці пазнавальны, як маці або сястры ці якой іншай роднай... Твар жанчыны, якіх мы штодзень бачым у сваім жыцці. Да таго ж даволі падобны на выяву на старажытнай фрэсцы, якую рэстаўратары адкрылі на скляпеннях знакамітай Свята-Праабражэнскай царквы ў Полацку, у блаславёным гняздзечку нашай Заступніцы. А на ёй жа, на фрэсцы, твар такі знаёмы, такі па-нашаму гожы! Знаўцы кажуць, вельмі верагодна, што гэта адлюстравана якраз жа сама Еўфрасіння. А яе постаць у хрысціянскім свеце, я думаю, параўнальная з постаццю Васіля Вялікага.

Мікалай Ягоравіч вельмі захапіўся сваім расповедам, па ўсім было відаць, што ён хацеў пераканаць Максіма ў важнасці і шчырасці сваіх пачуццяў, напоўніць імі і яго душу, пастарацца зрабіць хлопца сваім аднадумцам.

У дадатак настаўнік яшчэ распавёў, як аднойчы яны з сябрам наўпрост звярнуліся па дапамогу да Святой Еўфрасінні. У Канстанціна дачка-студэнтка патрапіла ў аўтамабільную аварыю і каторы дзень трызніла на ложку ў абласной бальніцы. І вось, напужаныя станам Людмілы, яны спешна паехалі ў Полацк і акурат да заканчэння вячэрні паспелі ў Крыжаўзвіжанскі сабор, дзе ў той час стаяла рака з мошчамі Прападобнай. Увайшлі і ўкленчылі перад ёй. Памаліліся простымі словамі, як мага шчыранька папрасілі Маці нашую дапамагчы знявечанай дачушцы. І Еўфрасіннюшка пачула іх словы і пахадайнічала перад Госпадам за маладзенькую душу. Праз тры месяцы дзяўчо акрыяла...

– Калі б вы, Максім, стварылі абраз Святой Еўфрасінні без якой-кольвечы замовы, па шчырым памкненні душы, няхай сабе не такога ўзору, як мне бачыцца, а як самі разумееце і ўяўляеце, я, у адрозненне ад авангардыстаў, без усялякай іроніі называў бы вас Коранем! З найвялікшай пашанай. А можна сказаць і больш сціпла: адным з карэньчыкаў разгалістага беларускага дрэва.

Максім з цікавасцю слухаў Мікалая Ягоравіча і ва ўсім, апроч пахвальбы, быў згодны з ім, адно што стрымліваў сябе.

...Калі праз колькі дзён прыехаў мікрааўтобус і абраз забралі ў царкву, у майстэрні стала зусім пуста, бо ранейшыя карціны на сценах здаліся Максіму нікчэмнымі. Усе да адной.

Абраз асвяцілі і ўсталявалі ў прасценку ў царкве на запланаванае месца. Максім было добра пакрыўдзіўся, што яго не запрасілі на гэты святочны для вернікаў абрад. “Усё адно як у спешцы забыліся запрасіць на дзень народзінаў блізкага чалавека...” – з горыччу думаў ён. Але даволі хутка супакоіўся, пагадзіўся, што гэта зусім нармальна, калі мастак застаецца ўбаку. Трэба ведаць сваё месца і ганарыцца ім.

Тым больш, што праз колькі дзён патэлефанаваў айцец Міхаіл і з радасцю распавёў, што вернікі з вялікай прыхільнасцю і цеплынёй прынялі ў храме з’яўленне Свяціцеля і шчыранька моляцца перад абразом.

А потым святар зноў папрасіў мастака аб сустрэчы ў майстэрні.

Максім здагадаўся дзеля чаго і дужа ўзрадаваўся.

***

На гэты раз мастака прыемна здзівілі паводзіны айца Міхаіла падчас наведвання майстэрні. Не спатрэбілася ні сустракаць яго каля пад’езда, ні праводзіць... Святар, як і ў свой час Мікалай Ягоравіч, дачакаўся, пакуль хто з жыхароў адчыніць дзверы, узняўся на ліфце – і званок у дзверы.

Айцец Міхаіл адразу пачаў расказваць пра сваю царкву, якая цяпер, дзякуючы Максіму, наўпрост ачолена самім Васілём Вялікім, і гэта адчуў, бадай, кожны вернік.

Ён глянуў на мальберт і прыкметна ўзрадаваўся, што галоўная прылада мастака ніякім новым палатном не занятая.

– Вы ж зразумелі, Максім, што я прыйшоў да вас з новай прапановай?

– Прызнацца, зразумеў адразу, яшчэ калі дамаўляліся аб сустрэчы.

– Ну і дзякаваць Богу! – усміхнуўся святар. – Вось паглядзіце... – дастаў ён з тонкага скуранога партфеля спіс новага абраза.

– Божая Маці...

– Божая Маці Усецарыца! Старадаўні спіс. Візантыя.

– А памер амаль той жа, што і ў абраза Васіля Вялікага?

– Вышыня тая ж, а ўшыркі, праўда, на дзесяць сантыметраў менш.

Максім звярнуў увагу, што размова іх, у адрозненні ад папярэдняй, мае куды больш строгую дзелавую акрасу. Аніякіх сантыментаў, як і прынята ў размове замоўцы і выканаўцы. І гэта трохі засмуціла яго. Але, праўда, ненадоўга.

Айцец Міхаіл раптам падышоў да высокага, усё адно як адмыслова зробленага століка каля мальберта, на якім стаялі абавязковыя ў майстэрні кожнага мастака бутэлечкі з лакамі розных гатункаў, растваральнікам, льняным алеем, шкіпінарам... Святар трохі пастаяў, разглядаючы этыкеткі, і з хлапчукоўскай сарамлівасцю на твары спытаў Максіма:

– А можна мне панюхаць ваш шкіпінар? Ён жа з жывіцы, як на этыкетцы напісана?..

– Калі ласка... – ветла прамовіў разгублены ад нечаканага пытання Максім.

– Не здзіўляйцеся, – адкаркоўваючы бутэлечку, сказаў айцец Міхаіл, – маленства згадалася. Не вытрымаў спакусы...

І ў іх завязалася цёплая размова.

– У маленстве, калі прастуджаўся і падымалася тэмпература, такім шкіпінарам націрала мне матуля і грудзі, і спіну, а потым закручвала ў сваю пухнатую вялікую зімовую хустку. І па сёння скурай помню яе сялянскія шурпатыя і такія ласкавыя рукі... – айцец Міхаіл удыхнуў напоўніцу пах свайго дзяцінства і, здавалася, вінавата ўсміхнуўся Максіму.

– І мне такое ж лекаванне маёй матулі згадваецца. Адно што да шкіпінару яна дадавала яшчэ драбок нутранога свінога тлушчу – баялася, каб далікатную дзіцячую скуру чысты шкіпінар не апёк.

І яны паразумеліся. І абоім хораша стала на душы, усё адно як аднаверцам, якія вышэптваюць у храме аднячасова адну і тую ж малітву.

***

Як заўсёды ўвечары Максім патэлефанаваў Мікалаю Ягоравічу і зноў прапанаваў яму пашпацыраваць, а месца прагулянкі, маўляў, ужо аблюбаванае, лепшага не знойдзеш. Па сутнасці, засноўвалася традыцыя: перад напісаннем абраза супакойваць душу, настройвацца на творчую працу разам з улюбёным сябрам. Максім бачыў у гэтым адмысловым шпацыраванні не толькі рэальную дапамогу, але і амаль містычную: прагулянка абяцала – мастаку ў гэта верылася – поспех у маючым адбыцца стварэнні абраза.

Паступова гэтыя сяброўскія шпацыры на цэлыя тры гады сталі асноватворным рытмам яго жыцця. І дарма, што яны адбываліся нячаста. Максімава сэрца ўсё адно адчувала паміж ім і настаўнікам трывалую сяброўскую ніту повязі.

Былі шпацыры, таму што былі замовы айца Міхаіла, які доўжыў і доўжыў сваю задуму напісання абразоў у прасценкі ў царкве. Задуму, якая з цягам часу пашырылася і на іканастас.

Максім, натуральна, толькі радаваўся гэтаму пашырэнню: заўсёдная работа, невялічкі, але надзейны заробак – з голаду не памрэш, за майстэрню разлічышся...

Дзякуючы прыхільнасці айца Міхаіла, апроч абразоў Васіля Вялікага і Божай Маці Усецарыцы, ён напісаў яшчэ абразы Хрыста Усеўладцы, Іаана Прадвесніка і Іаана Златавуста, Міколы Цудатворца... Для іканастаса – абраз Святой Тройцы і Тайнай Вячэры, а таксама апосталаў-евангелістаў Матфея, Марка, Іаана і Лукі ... І яшчэ, і яшчэ. Калі аднойчы падчас шпацыру Мікалай Ягоравіч папрасіў Максіма пералічыць яму ўсе свае наробкі для царквы, мастак, загінаючы пальцы, скарыстаў іх усе на абедзьвух руках і яшчэ не хапіла. Дык і сам здзівіўся і ўсміхнуўся ад задавальнення. А потым не ўтрымаўся і расказаў настаўніку, што яго ў царкве Васіля Вялікага асабіста ведаюць ужо многія сталыя вернікі.

– Аднойчы пасля ютрані да мяне падышла старэнькая, сагнутая ў крук бабулька з кавенькай, – распавёў сябру мастак. – А ў храме якраз ўсталявалі новы абраз маёй работы. Дык бабулька й кажа мне: “А Максімка ты наш! Якія ў цябе ручкі залатыя! Залатыя, праўдачка! Дай я табе іх пацалую...” І да мяне наблізілася. Я, збянтэжаны, спачатку адхінуўся, а тады абняў старэнькую і пацалаваў у галоўку, як маці. Светла на маёй душы стала...

– Яшчэ б! Гэта ж сапраўднае народнае прызнанне, любоў да мастака, які адорвае людзей сваім талентам. Можна ганарыцца!

Але Максіму было не да гэтага. Апошнім часам яго займалі, пра што добра ведаў Мікалай Ягоравіч, зусім іншыя пачуцці. Яго душу пачала ўжо шкуматаць, нібы галодны збадзяжаны воўк, неадчэпная трывога.

***

Так можа трывожыць хіба што цьмяная будучыня. Месяцы праз чатыры надышла пара, калі яна пачала адкрывацца перад Максімам шэрым сутоннем. Набліжалася да завяршэння супрацоўніцтва з царквой. Ад айца

Міхаіла мастак даведаўся, што засталося напісаць толькі адзін абраз – проста больш не было ў храме месца, сцены ж не рассунеш. Але і апошнюю сваю замову святар не спяшаўся рабіць – стрымлівалі абставіны.

І Максім пачаў думаць пра тое, як яму знайсці хоць які спосаб зарабляць сабе на скарынку хлеба ды на аплату майстэрні, каб захаваць над галавой утульны дах.

Іншы раз гэтыя думкі даводзілі яго да адчаю. Дык што, зноў маляваць партрэцікі з фотаздымкаў, якія заможныя людзі замаўляюць да дня народзінаў добрага знаёмца, сябра або каго з радні?! Маляваць пейзажыкі, гарадскія краявіды, нацюрморты з васількамі ў слоіку і выстаўляць на продаж у які мастацкі салон?! Вунь год таму выставіў свае даўнейшыя работы – і па сёння пыляцца на сценах. Не надышоў час, калі апроч ежы, нашы людзі займеюць ахвоту і магчымасць прыкупляць што-небудзь для душы.

Часам Максіму згадваліся па вялікаму рахунку марнатраўныя, але такія бестурботныя для мастакоў гады, калі ў іх была дзяржаўная замова на работы пра гераізм і маючае адбыцца ў будучыні ўсеагульнае шчасце...

Аднойчы, згадваючы мінулае, Максім міжволі злучыў у ланцужок перыяды сваёй мастакоўскай біяграфіі, і ўслед за працай на мастацкім камбінаце, натуральна, згадалася працяглае супрацоўніцтва з царквой Васіля Вялікага. І яго перасмыкнула, мастак схамянуўся і ўсё адно як атрос з сябе гэтую прыкрую, па сутнасці зністажальную для яго душы повязь. І згадваць яе больш зарокся. “Аніякага сашчэпу ў гэтым жыццёвым ланцужку нямашака, а калі і ёсць, дык зусім выпадковы! Сыдзі, насланнё!” – як мог, праганяў са свядомасці вусцішную згадку Максім.

А на спакойны розум разважліва думаў: “Адно што паядноўвае розныя перыяды жыцця, дык гэта іх завяршэнне. Усё на свеце заканчваецца – і песня ў гонар будаўніцтва камунізму, і малітоўнае маляванне абразоў...”

Што рабіць, калі ва ўпраўленні епархіяй чынны ўдзел Максіма Шарага ў аздабленні царквы Васіля Вялікага ўспрынялі з ухвалой, але чамусьці без захаплення, якое магло б паспрыяць далейшаму супрацоўніцтву. Не здарылася...

І тут зноў праз добра адладжаны ў душы камертон сяброўства Мікалай Ягоравіч адчуў, што мастаку патрэбная яго рука падтрымкі.

Ён патэлефанаваў увечары і прапанаваў не звыклы шпацыр, а ледзь свет паехаць заўтра ў грыбы, маўляў, баравікоў нарасло – людзі кашолкамі носяць.

І Максім пагадзіўся.

Яны з’ездзілі ў знакаміты лес каля вёскі Пяцігорск, які добра ведаў Мікалай Ягоравіч.

Ведаў і ведаў, але Максім назбіраў крамяных маладзенькіх баравічкоў куды больш, чым настаўнік.

– А я здагадаўся, чаму вам удача ўсміхаецца! – звярнуўся да яго па дарозе дадому Мікалай Ягоравіч.

– І я ведаю: дзядуля ў маленстве навучыў грыбы збіраць... – спешна, каб не апярэдзіў сябра, адказаў мастак.

– І не толькі, – спакойным голасам сказаў настаўнік. – Вы працэджваеце праз сітцы вачэй усе фарбы разасланага пад нагамі ляснога кіліма ці, можна сказаць, скануеце яго, і як чалавек з адметным зрокам мастака тут жа распазнаяце плямку-шляпку грыба. Ды ў кошык яго! Ну хіба

не так?! – усміхнуўся задаволены, нібы зрабіў арыгінальнае адкрыццё, натаўнік, і ўсю дарогу дадому працягваў нахвальваць свайго малодшага сябра. Не толькі за сённяшнія лясныя набыткі, але і за шмат што іншае, абы прыгадалася нагода.

***

Калі звечарэла, і стомлены Максім лёг у ложак, яму нечакана пачало згадвацца... збіранне грыбоў. Але не з Мікалаем Ягоравічам, пра якое стомлена гулі і нагадвалі натружаныя на лясных сцяжынах і ўсё яшчэ ватныя ад нечаканай напругі ногі, а даўні паход у лес з Тосяй на яе радзіме. Калі яны прысланяліся да высозных соснаў і цалаваліся, цалаваліся... І надумалі знайсці штосьці агульнае... паміж пракаветнымі дрэвамі і сваімі хрыбетнікамі. Гэта Тося памкнулася да такога неверагоднага параўнання.

Яна прытулілася да старой сасны і паклікала да сябе Максіма:

– Станавіся вось тут, – паказала на месца побач, – прытулі вуха да ствала.

Яна таксама прытулілася, так, што іх твары апынуліся побач: яшчэ крышачку, і можна было б цалавацца.

– Ну, што чуеш?

Максім не чуў нічога асаблівага, хіба што даволі гучны шолах ветра ў вершаліне і то, калі адхінешся ад ствала і накіруеш, нібы лакатар, угору вуха.

– А я чую крэкт маёй старэнькай любай бабулі, калі дапамагала ёй, разамлелай на глінянай гарачыні, злазіць з печы. Добра нагрэўшы спіну, бабулі трэба было адысці ад млявасці ў халадку хаты і адчуць кожнай жылкай сваё здароўечка. А калі нядаўна бабуля адышла ў лепшы свет, я чую, што так, як яна, крэкча ўся нашая зямелька, нібы з печы злазіць. Вось прыслухайся, сасна гэты гук узмацняе...

“І як можна прыслухацца да сваіх фантазій, Тося, – падумаў Максім, а сам тым часам крыху абнізіўся і з развароту аберуч абхапіў пругкі стан дзяўчыны ды прытуліў вуха да яе спіны акурат пасярэдзіне.

– Што ты чуеш, Максімка, – перадражніў ён Тосю. – Крэкт бабулькі, дык ці гучны?.. Ой, насамрэч зусім не бабулькі, зусім не старэчы крэкт, а маладзенькі енк нецярпення! – з гучным смехам прамовіў ён і тут жа памкнуўся шырока разяўленым ротам жартаўліва ўкусіць каханую ў спіну і дурэючы пацягнуў яе долу на пухнаты мох.

З цягам часу Максім заўважыў адну асаблівасць у паводзінах Тосі. Кожны раз, калі яны адчувалі сябе на вышыні акіянскай хвалі кахання, калі зацінала дыхаць асалода, і кожнага з іх перапаўняла магчымасць існа жыць у сваім адлюстраванні (ён – у ёй, яна – у ім), Тося немінуча згадвала... смерць.

– Ой-й, як добранька! – глыбока, з працяглым войканнем ўздыхала яна. – Каб цяпер увобміг і памерці, толькі разам... Толькі каб разам!.. – пры гэтым яна абшчэплівала Максіма за шыю, нібы баялася і на імгненне адпусціць яго ад сябе.

І хлопец няведама як, хіба з падказкі ў сне, адчуў, што з Тосяй ён ніколі не зможа займець доўгі, да самага краю жыцця працяг супольных дзён.

Дзякуючы Тосі Максім прасякнуўся ўзрушальнай думкай: сапраўднае каханне – а ў іх жа такое і ёсць! – загадзя пазначана сваім, немінуча

маючым адбыцца завяршэннем. Вечнае каханне жыве толькі ў казках для дарослых дзецюкоў і дзяўчат. А тое, што Тося імкнецца ў думках прыспешыць смяротны сыход іх паяднання, дык гэта з адчаю, з непераадольнага нявер'я ў магчымае шчасце. Навек адвучылі людзей ад згадак нават ценю мінулага раю...

"Як я люблю яе, як кахаю – да смерці, якую яна зноў і зноў згадвае, нібы збавенне ад прыўкраснага наслання..." – падумаў Максім і адчуў, што павекі яго цяжэюць.

Адно што хлопец яшчэ паспеў згадаць, дык гэта як яны з Тосяй у той дзень нарэзалі ў вялізныя лазовыя кашы, якія ўспрытнёна пляце яе бацька, крамяных баравікоў. Прытым баравічкі патрапляліся каханай на кожным кроку, куды часцей, чым яму. Вось табе і калярова абвостраны зрок, вось табе і "сканаванне ляснога покрыву"...

***

Назаўтра Максім прыйшоў у майстэрню з невялічкім харчовым кантэйнерам, наладаваным смажанымі з цыбулькай баравікамі. Па звычцы пераапрануўся ў рабочую вопратку, хоць і не было на мальберце распачатага твора.

Каб чым-небудзь заняцца, ён пачаў праглядаць апошнія каталогі выстаў некаторых знаёмых жывапісцаў. Потым нечакана вырашыў перанесці ўсе свае карціны на захоўванне ў кладоўку, дзе, палічыў, якраз ім і месца.

Яму захацелася, каб майстэрня выглядала амаль як у першыя дні пасля засялення, была нібы чысты аркуш на стале пісьменніка, як сказаў тады Мікалай Ягоравіч.

Ён востра адчуў, што яму зусім, зусім не хочацца пачынаць прадзірацца праз гушчар жыцця па якой новай сцяжыне. Хоць і ведаў, што давядзецца. І яму замест чарговага перайначвання сябе востра захацелася толькі завяршэння колькі гадоў таму распачатага жыццёвага кола.

І Максім у той дзень перастаў думаць пра сваю будучыню. Ён хуценька пераапрануўся і выйшаў на вуліцу.

Ногі прывялі яго ў гастраном за вуглом, дзе ён купіў бутэльку таннага віна, яблыкі ды пару бананаў, і вярнуўся ў майстэрню. "Сарваўся з ланцуга і вось вяртаюся, каб зноў пачапіць яго на шыю..." – зніякавелы, думаў ён па дарозе.

У майстэрні Максім наліў сабе поўную, як вочка, шклянку віна, а было б куды, падліў бы яшчэ.

Ён выпіў рашуча, вялікімі глыкамі і нарэшце зусім забыўся на сваю будучыню. Мусіць здалося, што яна ўжо надышла.

Калі віно сугрэўным спакоем разышлося па целе, Максіму, як заўсёды бывае ў такім выпадках, захацелася сяброўскага сумоўя, шчырай і гаючай, як лекі, размовы. Ён было надумаў патэлефанаваць Мікалаю Ягоравічу, але ўспомніў, што той цяпер заняты, ды і чамусьці сорамна было турбаваць такога блізкага сябра. Максім з самотай зірнуў на грыбную смажаніну на стале, якую ён зранку забыўся пакласці ў лядоўню, і быў чамусьці задаволены, што не скарыстаў яе як закуску.

Мастак пачаў думаць дзе, у якім бы цёплым для сэрца куточку прытуліць свой голаў.

...І паехаў у царкву Васіля Вялікага.

Падыходзячы да храма, Максім убачыў, што вернікі пасля службы ўжо

разыходзяцца па дамах. Раптам сярод іх ён убачыў скурчаную бабульку з кавенькай, якая нядаўна ў царкве хацела пацалаваць яму руку. Яму стала дужа непамысна, сорамна да горычы.

Хлопец хуценька павярнуўся і шпаркім крокам пайшоў назад. “Ад каго ўцякаю, ад любых сэрцу людзей, ад сябе... А куды?” Ён раптам прыпыніўся на хвілінку, ды зноў падумаў: “А сапраўды, куды?! У майстэрню і буду смягнуць там да ночы? Не тое...”

І Максім вырашыў наведаць Паўліка Стрыжонка, з якім разам працаваў у мастацкім камбінаце і майстэрня якога месцілася непадалёк. І хлопец рушыў да знаёмца.

Праходзячы скрыжаванне вуліц, Максім адстаў ад натоўпу, жоўтае святло ўжо заміргала на светлафоры, і ён кінуўся на супрацьлеглы бок вуліцы подбегам...

І навошта было так спяшацца?!

Такое ж пытанне можна было б задаць і кіроўцы вялізнага чорнага джыпа, які вынырнуў з-за паварота і завішчаў тармазамі, нібы рэзаны парсюк...

Скразны боль працяў Максіму правае сцягно. Балела так востра, што ён забаяўся ці вытрымае.

Мінакі ўвобміг схамянуліся, і дужыя хлопцы – якраз патрапіліся такія – перанеслі небараку на ходнік. Але праз якія імгненні адумаліся, адзін з іх зняў з сябе лёгкі плашчык, каб скарыстаць яго ў якасці насілак. І Максім паплыў над зямлёй на трамвайны прыпынак, які быў побач. Пры гэтым адзін з хлопцаў, расставіўшы ўшыркі рукі, перагарадзіў машынам дарогу, каб не чакаць, пакуль гэта зробіць светлафор. Хтосьці выклікаў хуткую. Неўзабаве хлопцы моўчкі сышлі і пакінулі мастака аднаго на шырокай лаве прыпынку. Толькі зноў і зноў спыняліся каля яго чуллівыя бабулькі, якія падыходзілі на прыпынак да чарговага трамвая.

– Што з табой, дзетка, можа сэрца заціснула, дык у мяне валідольчык у сумачцы ёсць...

– “Хуткую” чакаю... – цераз сілу адказваў ім Максім.

А сам ляжаў і ўзіраўся ў неба, якое паглынала кожны яго позірк. І было чыстае, некранутае, як свежае палатно на мальберце.

Толькі на захадзе сонца ўжо прыкметна абнізілася і заліло нябесны абсяг ружовым колерам. А бліжэй да свяціла – па-ранейшаму праменілася залацістае святло, якое трохі воддаль ад дыска рабілася жаўцейшым, нагадваючы Максіму яго паталь для абраза.

“А я ўсё ж такі наблізіў да сябе нябёсы...” – падумаў ён і ледзь не ўзрадаваўся.

Але боль, які і трохі не слабеў, перашкодзіў яго светламу пачуццю.

Аксана Данільчык



...цела –
усяго толькі частка існага...

# Другая чвэрць

***Вершы***

* * *

Восеньскім туманным днём,
ад якога не засталося ніякай даты,
мяне паклікала рака, а туман,
як гаспадар зарослых берагоў,
павёў цераз імглістую прастору

туды,
дзе сцябліны святла прараслі праз ваду,
згубілі карэнне і гайдаліся на хвалях.

У прыцемкавай таямніцы
я назірала светлавыя спецэфекты
з банальнай думкай, што рака – жывая,
святло жывое, і адно праходзіць праз другое,

адныя хвалі праз другія хвалі
гэтаксама як жыццё і смерць,
якія мы носім у сваім целе,
зведзеным да хімічных формул.

І цяпер, калі кожная клетка
змагаецца за існаванне,
мне згадалася неадольнае
прыцягненне восені і туману,
святла і вады, пачатку і канца,
маіх слядоў на вільготнай зямлі
і птушак з мокрым крыллем,
якія нават не глядзелі ў неба,
непрыдатнае для палётаў...

* * *

На Вялікдзень усе яны пойдуць да царквы ці касцёла,
яйкі пасвенцяць, як добрыя самарыцяне,
запаляць васкоўкі, нахіляцца долу,
кшталту і мы гэтаксама просім у Бога
грошай, здароўя, каб усё там прыстойна,
зробяць выгляд, што разам з Богам штодзённа.

Яны ведаюць што добра, што дрэнна,
ўсе мы ведаем пра добра і дрэнна,
і не гэта нас раз’яднае:
проста адзін Бога бачыць,
для другога – Бог аднойчы памёр
і болей не ўваскрасае.

Ці варта заклікаць глухіх, каб пачулі,
сляпых – каб убачылі,
расцілаць перад імі шляхі да выратавання,
спадзявацца на Божую ласку цяпер,
калі кожны дзень –
як апошні перад канцом свету?
Чалавечнасць – слова пустое ці не пустое?
Кажуць, кожны з нас мае голас,
толькі гэта не дае суцяшэння.

Мяккім святлом
лістапад праплывае між сосен,
дні робяцца доўгімі і цягучымі.
Нас прымае міласэрдная восень
і вядзе за руку да збавення
праз сады

гефсіманскіх аліваў.
Невядома, каму можна верыць,
але хто як не Бог
можа гэтую цемрадзь парушыць?

Асыпаецца неба на жоўты мурог
слюдзянымі пласцінамі змерзлай вады.

* * *

Шапаценне, шамаценне,
Кажановых крыл шахценне,
Восень дробны дождж цярусіць
Па Заходняй Беларусі.
Восень нервы нам казыча,
Жоўтымі вачыма кліча
За яловыя кусты, за сухія верасы.

Шаргаценне, мармытанне,
Лісця з веццем развітанне,
Шоргат, шорхат, сум сшарэлы
Пад страхою пацямнелай
Мышы шастаюць уночы,
Прагны шашаль дрэва точыць,
Заціхаюць у дрымоце пасівелыя лясы.

Мо самотнік, мо журботнік,
Мо з аселіцы гаротнік,
Як ты будзеш жыць на свеце
У часіну ліхалецця,
Хто цябе бадзяцца змусіў
Між абедзвюх Беларусяў,
Слухаць шорхаты і рыпы, і памежжа галасы?

Перамытнік, перабежнік,
Тут зялёнкі, там памежнік,
Тут карчомка, там меліна,
Раз загінуў, два загінуў.
Свет маленькі, свет вялікі,
Хто твае пачуе крыкі,
Сам сябе не надта ўчуеш у памежныя часы.

Шапаценне, шамаценне,
Сэрца згубнае трымценне,
Небяспечная то справа –
Шлях налева, шлях направа.
Дзе падзецца, дзе падзецца –

Сцежка тонкая кладзецца
Каля самае граніцы, ля памежнай паласы...

## *LIMBUS PUERORUM*

Восень вітае нязвыклаю ласкаю,
дакранаецца ялінавай лапкаю
да помнікаў– старых з шэрай крошкі
і новых – гранітных і мармуровых,
але маленькіх-маленькіх.
Гладзіць іх вострыя плечыкі,
суцяшае, распытвае,
і цябе распытае, што ты робіш у лімбе –
сярод усіх гэтых
Каценька, Паўлік, Сярожка –
пару месяцаў, пару гадзікаў,
а ты такая дарослая.
А што на Чыжоўскіх,
дык для лімба ўсе месцы добрыя.

На некаторых помніках –
састарэлыя мамы,
іх таксама пусцілі ў лімб –
як малым без аховы.
Каго не давялося далюбіць пры жыцці –
далюбяць у вечнасці.

Голкі падаюць круглы год
на магілкі, на лавачкі,
на штучныя кветкі, на жывую травічку.
Восень. Дзяды. Час прыбіраюць
і ў Limbus puerorum –
месцы, дзе спачываюць дзеткі.
Чыесьці брацікі і сястрычкі.

* * *

Подых ветру здзьмувае
з цукрыстых клёнаў
шматкі першага снега разам з лісцем,
апускае іх на прыступкі палаца,
на лесвіцу, што крута ўздымаецца
да параднага ўваходу.
Гаспадыня, захінутая ў паланцін,
прыадчыняе дубовыя дзверы
і з сумам глядзіць на пабелены шлях...

Ці вернецца, ці вернецца
той вершнік малады,
гасцінец мякка сцелецца,
гасцей – гады ў рады.

Празрыстымі алеямі
сыходзіць лістапад,
імклівымі завеямі
туманіцца пагляд.

За садам – сцежка тайная –
не вырасла трава,
усё, што трэба – памятаць,
сынам перадаваць.

Хоць зернейка, хоць каліўца –
гадуюцца сыны,
а правыя не каюцца,
на іх няма віны.

І песнямі і вершамі
маліць аб тым найперш,
каб з пасівелым вершнікам
сустрэцца ў рэшце рэшт.

***

Верш адрываецца, як ліст,
што падае з галіны дрэва,
і ў падзенні
вызваляецца ад цялеснасці,
калі ён далятае да зямлі,
то ператвараецца ў вобраз самога сябе,
у чысты вобраз вонкавага аблічча.

Цела – ўсяго толькі частка існага –
прылада для руху,
спасціжэння свету,
тое, што рана ці позна сыдзе,
пакідаючы чысты вобраз ракі,
якая сціснула зямлю
ў блакітных абдымках,
дрэва, застылага ў літанні,
каменя, чыё аблічча выразней за голас.

Верш адрываецца,
каб паляцець туды,

дзе завяршаецца сезон дажджоў,
а восень кладзецца жоўтай стужкай
на разгорнутыя далоні
верасовых пустак,
дзе вецер гартае дні і
ловіць разгубленыя аблокі.

А потым падхоплівае нашыя душы,
і нясе іх
спасцігаць неспасцігальнае.

### *ДРУГАЯ ЧВЭРЦЬ*

У люстэрку шафы,
што стаіць насупраць акна,
сплятаюцца дрэвы і ліхтары.
Пражэктары,
падкінутыя ўгару,
апускаюцца
жоўтымі коламі
на белае поле стадыёна.
Выпаў снег,
і сёння ніякага футболу не будзе.
Кран дасылае прывітанне
шпількай стралы,
а бубачкі агеньчыкаў на канцы
выдатна ўпісваюцца
ў міжзорную прастору.

Маё вандроўнае сэрца
заўсёды падарожнічала
ў рыштунку рэбраў,
а сёння, здаецца,
гатовае выправіцца
на пошукі прыгодаў самастойна.

Адчыняю акно,
і марознае хрусткае паветра
трапляе ў пакой.

Дыхаю.

Апошні раз
я так доўга хварэла
ажно ў трэцім класе ☹.

***

Вецер,
не вецер,
вецце
вярбы
гайдаецца
быццам арэлі
нябачных
эльфаў.

***

Час туману – зіма,
злучэнне неба і снегу,
дотык туману – вада
на тваіх валасах.

Пальцы туману
дацягваюцца з возера
праз твае вокны,
закрываюць табе вочы,
гладзяць твае косці.

Дрыжыш ад холаду,
вечнага холаду слотнага,
нялётнымі раніцай,
днём, вечарам,
а ўночы абуджаюцца
рэзаныя, колатыя
і ўсякія іншыя
незагоеныя
раны нашых сэрцаў.

Час туману – зіма.

***

*А. Братачкіну*

Яшчэ ўчора
вецер гнаў хвалі
насустрач ледзяному покрыву,
нацягнутаму
ад берага да берага,
хвалі падхоплівалі
прыгаршчы ландрынак,
білі іх аб сустрэчны лёд,

ландрынкі шоргаліся адна аб адну,
захлыналіся новаўтворанымі гукамі:
шарош, шарош, шарош...

Нарэшце ўночы
на люстранай паверхні ракі
хвалі заледзянелі
крывымі белымі лініямі.
Нібыта супакаенне сышло
на ваду, на берагі, на маё сэрца...
Калі нас, як той шарош,
лупяць хвалі аб лёд –
што ёсць нашае жыццё,
як не суцэльнае выпрабаванне?

Таму
мы і заміраем
час ад часу
у ледзяной стыхіі,
абдымаючы
белыя глыжыкі ландрынак.

Каб самазахавацца.

* * *

Магчымасць бачыць дзень.
Яго пачатак, аформлены
ў блакітна-шэрай гаме.
Пасля бялее неба,
бледнатварыя палеткі
выпростваюць смарагдавыя дзіды
праз нітніцу бялюткай маскі.
Ёсць белае на жоўтым і зялёным,
ёсць чорнае ў бялюткім атачэнні –
і толькі. Небагацце спалучэнняў
у першы дзень зімы.
Але – магчымасць
бачыць. Не спяшацца.
Паветра бы шампанскае
казыча горла. Вераб'і, сініцы
страсаюць з вецця снег
маленькім крыллем.
Забыцца, што найгоршая
ўласцівасць чалавека –
не вызначаць дабро і зло.
Або адрозніваць, але згаджацца.

Забыцца. Не бывае перапынкаў
доўгіх. Дыхаць гэтым небам
пасля раптоўнага memento mori.
З-за рэчкі  далятае дым
і брэх сабак з суседняй вёскі.
Магчымасць бачыць дзень.

* * *

Сцюдзёнасць і празрыстасць.
Ледзяшы, застылыя ў нязвыклым руху,
бы вадаспад, замерзлы ў накірунку
настойлівых уздзеянняў вятроў.
Такой парой – ісці гуляць па рэчцы
і слухаць лёд, засыпаны снягамі,
і адчуваць, як дзесьці пад нагамі
гуляюць рыбіны, што так і не паснулі.

У горад-лес, у горад-сад зімовы,
пазначаны красою безумоўнай,
у горад-рэчку, дзе на сподзе льдоў
то тут, то там вігвамы рыбакоў,
ідзі, душа мая, жыві натхненнем
снягоў і сонца. Не пужаюць цені,
і квецяць снег на радасць вераб'ям
каліны ягады – то тут, то там.

Іна Снарская



…зорак тых ужо няма,

але святло ад іх усё ідзе, усё ідзе…

# Зачараваны скарб

***Аповесць з аповедаў***

## У ночы кароткая памяць. Замест уступа

Сёння мне прыснілася баба Матрона. Яна засцілала стол белым ільняным настольнікам, а я была шчаслівая, як у дзяцінстве. Час не спяшаўся, мы пра нешта гаварылі, а мне думалася: як гэта цудоўна, што я такая дарослая, а бабуля яшчэ жывая... Нібыта сяджу ў нашай хаце за гасцявым сталом, абапершыся галавой на кулачкі, а час нібы запаволіўся і загусцеў, – размаўляю з бабуляй... Сёння нам было б пра што пагаварыць, ужо і сама бабуля, але так сябе ўспрымаць яшчэ не навучылася: здаецца, па-ранейшаму іду дарогамі маладосці, – што там за паваротам, якія дзівы дзівосныя?..

Часам я задаю сабе пытанне: чаму ў бабулінай хаце мне было так добра, так светла і радасна? Нібы рай апусціўся на зямлю з усімі тымі белымі настольнікамі, вышыванымі ручнікамі, спарышом у двары, каровай Малышкай, якая волка і цёпла дыхае на далонь лугавымі кветкамі... Ляціць

гэта ўсё цяпер па сёмым небе, і толькі ў снах праступаюць няўлоўныя абрысы таго дзіцячага раю, чуюцца родныя галасы, інтанацыі, словы, якія да раніцы забываюцца, бо начная памяць кароткая, як узмах крылаў ластаўкі. Прачнешся – і застаецца толькі празрысты лёгкі ўспамін-адчуванне, і хоць плач, хоць крычы, ужо не ўтрымаеш, пройдзе рай, як вада скрозь пальцы... Памяць новага дня, вярні мне тыя словы, што гаварыла бабуля ў сне! На жаль, не паўторыць, самой сабе даводзіцца быць і пытаннем, і адказам, і дачкой, і маці, і бабуляй...

Кожны падарунак нясе ў сабе ахвяру. За падарункі дзяцінства мы плоцім немагчымасцю паўтарэння. Нельга вярнуцца ў тую першародную чысціню, ранішнюю свядомасць, шчырае захапленне светам, любоў да ўсяго жывога, тое «ах», «няўжо», «гэта ж трэба»... У маленстве мы марым хутчэй вырасці, а калі вырастаем, паступова нібы глухнем, слепнем, губляем вастрыню пачуццяў... «Чаму чарствее душа, бабуля? Няўжо гэткай цаной мы плоцім за падарункі дзяцінства? А можа, гэта ахвяра, якую трэба прынесці, каб жыць далей?» – задаю пытанні, а бабуля маўчыць. Не, яна нешта гаворыць, толькі я не чую, не чую, не магу ўспомніць... У ночы кароткая памяць.

«Зачараваны скарб» – аповесць, якая складаецца з аповедаў, як і «Бабуліна хустка з падпалінамі». Па сутнасці, гэта другая частка твору, аб'яднанага галоўнай гераіняй – маленькай дзяўчынкай, якой некалі была я сама, а цяпер, хоць і вырасла, у душы ёю засталася. Месца дзеі – вёсачка Сястронкі, дзе жылі мае бабуля з дзядуляй па маці, а я дарастала да школы, Варонічы Полацкага раёну, дзе жыла мая бабуля па бацьку. Узгадваю і Запалоцце ў Полацку, час майго дашкольнага маленства... Гэта не традыцыйныя ўспаміны, ці, як цяпер модна гаварыць, зацемкі, не эсэ, не апавяданні ў звычным разуменні, а нейкі сінтэз усяго гэтага. Тут праглядаюцца і элементы мастацкай публіцыстыкі з майго тэлевізійнага мінулага, калі пісала сцэнарыі да перадач, дакументальных фільмаў, брала інтэрв'ю як журналіст...

У «Зачараваным скарбе», як і ў «Бабулінай хустцы...» жывуць мае родныя, суседзі, сябры, сустракаюцца і мастацкія персанажы, падзеі, якія ажывіла ўласнай фантазіяй. Ды як бы там ні было, кожны аповед напісаны сэрцам, з вялікай любоўю да маіх герояў. Вельмі хочацца, каб яны жылі не толькі ў маёй памяці ці ва ўяве, а і на старонках гэтай damatканай аповесці. Тут я магу размаўляць з роднымі, каго ўжо даўно няма, а вы цераз мяне зможаце пазнаёміцца з добрымі, шчырымі людзьмі ды іхнім няпростым шчасцем. Магчыма, нейкай душы на небе стане ад гэтага трохі лягчэй.

## Баба Маня і дзед Іосіф

Зноў цяжка на сэрцы. Не тое, што яно баліць, а неяк цісне. Тата сказаў бы: «Пі, Іначка, валяр'яначку», ён пісаў мне пра гэта не раз, калі я ўжо жыла ў Палтаве, і гэтыя лісты былі для мяне, як птушкі з Радзімы. Днём я будавала шпакоўню, каб разабраць яе ноччу і выпусціць птушак на волю. Татавы лісты так і ляжаць стосікам у шуфлядзе, перачытаць іх нават цераз столькі гадоў не хапае духу... Бацька ведаў пра маю эмацыйнасць, уразлівасць. Усе Снарскія трохі нярвовыя. А яшчэ яны ўсе вельмі любяць лес...

Калі мне цяжка на сэрцы, я думаю пра дзеда Іосіфа і бабу Марыю, нібы

фіранкі на вокнах адтуляю. І ажывае памяць нашага роду, прачынаюцца казкі і легенды, праяўленыя і не праяўленыя, усе гэтыя зачараваныя скарбы, цэрквы, што праваліліся скрозь зямлю, князі і князёўны, звяры, якія ўмеюць размаўляць... Усё навокал жыве, дыхае, зіхціць на сонцы і на месяцы, вяшчуе, творыць сусвет, які не зблытаеш з іншым, бо ён родны, з-пад сэрца. Падыходжу да вакна, хукаю на школо – і ўжо зіма не зіма, і я – нібыта не я. Не тут, а недзе далёка – за гарамі, за барамі, куды не дабегчы, не даляцець... Бягу, бягу з гарушкі памяці, расставіўшы рукі, як крылы... лячу, лячу... і толькі вецер свішча ў вушах, бароніць, калыша, люляе...

* * *

Гэтай грушы, каля бабулінай хаты, ужо болей за сто год. Яе шурпатая кара нечым нагадвае скуру цмока, якога ніколі не бачыла, але ведаю, бо тата расказваў і нават паказваў, нібы на сцэне граў. Ён у мяне вельмі артыстычны, і нават вершы па-троху піша, але гэта наш з ім сакрэт. Маўчу, нікому ні слова... Пад грушай стаіць драўляны стол, засланы цыратай у шырокую сінюю клетку, можна ў шахі гуляць, толькі няма з кім, Баба Маня не ўмее. Яна нават чытаць і пісаць не ўмее, але гонар мае панскі. «Шляхцянка ганарова», – дражняць маю бабулю суседкі. Яны не заходзяць да нас у госці, толькі калі ідуць па бальшаку, у вокны заглядваюць, аж шыі скручваюць. Што яны там пабачыць хочуць, якія залатыя намёткі?..

– Некалі за гэтым сталом дзве сям'і збіралася. Аднаго стала не хапала, дык другі даточвалі, як рукавы да кашулі, – апавядае баба Маня пра тое сваё мінулае жыццё. Гаворыць, а ў самой слёзы ў вачах. Шкадую, гладжу бабулю па галаве. Яе валасы пахнуць лесам і сенам, і колеру такога, як сена. Не разумею, чаму яна замотвае гулю на патыліцы, нібыта хавае валасы ад людзей... Мая бабуля – прыгажуня. Як апранецца ва ўсё чыстае, кірмашовае, як праплыве па бальшаку паваю, – суседкі вачамі з'есці гатовыя...

– Мабыць, у Манькі кавалер завёўся, бач як вынарадзілася... Унучцы шэсць год, а яна ўсё маладзіцца. Ідзе, нібы шчасце вядзе, бач, валасы папраўляе...

Ну чаму суседкі злуюцца, чаму такія зайздросныя? І хатка ў бабулі маленькая, і сын хворы, і мужыка ўжо столькі гадоў няма, што не падлічыць. Мне крыўдна за бабулю, ды што зробіш, бываюць языкі, як вужакі... Неяк бачыла ў лесе, як вужакі спляліся ў адзін бліскучы клубок, ён варушыўся, нібы дыхаў. Жахліва было глядзець, ды я не магла адвесці позірк, стаяла, як зачараваная, аж пакуль сэрца зусім не правалілася ў пяты, і тады я пабегла куды вочы глядзяць, далей ад таго месца... А пасля тата сказаў, што гэта я бачыла вужынае вяселле...

* * *

Баба Маня ў маладосці была адчайнай весялухай, прыгожая – кроў з малаком. Так таньчыла на вяселлі сваёй сястры Веры, што абцасікі на чаравічках зламала. Добрыя чаравічкі, лакіраваныя, у цыгана на кірмашы ў Полацку купленыя. Дык і што з таго? Разулася дый закінула тыя чаравічкі ў сажалку, так і булькнулі яны пад ваду на вачах у спалоханых качак. А далей што? Босая танцавала! Мясцовыя хлопцы ад Мані вачэй не маглі адарваць, ды не па Саўку той капялюш...

– Менавіта тады мы з тваім дзедам і пазнаёміліся, – апавядае далей бабуля, а я нават слова не магу вымавіць, так мне тых лакіраваных чаравічак

шкада... – Іосіф быў каталікам, радня звала яго Юзікам, на польскі манер, а можа гэта было яго другое імя, ніколі не выпытвала. У Варонічах усе дзеда твайго звалі Ёсіпам. Ды хоць гаршком назаві, толькі ў печ не стаў... Ён быў такі панок далікатны – усім дзяўчатам і кабетам ручкі цалаваў, а калі вітаўся здалёк, то галаву нахіляў, нібы кланяўся. І Стасік, сынок, бацька твой, так робіць, вось жа ж шляхетная парода па крыві перайшла... У нашай вёсцы ўсе ведаюць, што Снарскія – не з простых сялян, хоць і збяднела тая шляхта яшчэ да рэвалюцыі. На хутары Падлеснае жылі, за лесам даглядалі. А бор каля Вароніч і сёння называюць борам Снарскіх... Вось жа ж, колькі гадоў мінула, а людзі памятаюць...

– А мой дзядуля быў прыгожы? Ты, баба Маня, у яго з першага погляду закахалася ці потым, калі прыглядзелася?

– Ай жа ж ты муха-цакатуха, усё табе трэба ведаць... Сэрца ў яго было прыгожае, во, гэта галоўнае! А так... паглядзі на свайго татку – і дзеда пабачыш. Дужа яны падобныя між сабой: валасы цёмныя, кучаравыя, а вочы сінія. Як на Стасіка гляну, нібы ў люстэрку свайго Юзіка пабачу. Без сонейка свету не быць, без мілага нельга жыць... – Бабуля выцерла вочы фартушком, слёзы ў яе блізка да сэрца, але ж мне цікава, што далі было, як жа яны з дзедам пазнаёміліся...

– У мяне былі косы заплецены, ды я так таньчыла, што распляліся. На вяселлі як жа даўней было? Калі ўжо таньчыць пачалі, то або скачы, або памірай, ніякага табе перапынку. Кавалер за кавалерам, кавалер за кавалерам... а я не магу адмовіцца, хоць ужо з ног падаю. А Юзік падышоў, нібы на танец мяне запрошвае, ручку пацалаваў і валасы ў касу заплёў. Я нават не паварушылася, адчула, што вось жа ж ён, мой суджаны. У яго сініх вачах я нібы патанула, лёс свой прачытала. Забылася пра ўсё чыста: і пра вяселле, і пра музыкаў, і пра танцы... Ёсіп трохі кульгавым быў, яшчэ ў маленстве нагу пашкодзіў, дык жа ж, якія яму танцы! Махнулі мы рукой на тое вяселле ды й пайшлі ў лес гуляць. То паходзім, то на ўзмежку пасядзім. Юзік у лесе кожную сцяжынку ведаў... А ўжо ноч была, зорак у небе, як красак у полі, і кожная – нечая доля... Вось там, пад зоркамі, дзед твой да мяне і пасватаўся...

– А пра што вы з ім гаварылі?

– Ды ж пра ўсё на свеце... Ай, ці ж я помню слова ў слова?.. Дужа Юзік лес любіў, нібы дрэвы ягоныя браты і сёстры. Дзед твой верыў, што ў кожнай расліны – свой непаўторны характар, што ў дрэваў можна навучыцца мужнасці і цярпенню. Яліну выпаленую наскрозь маланкай паказваў. У яе маланка ўдарыла, наскрозь прайшла, як куля, выпаліла нутро ўсё, а дрэва выжыла, выстаяла. І чалавеку такім мужным трэба быць, ніколі не губляць надзею... А яшчэ Ёсіп лічыў, што кожнае дрэва мае свой адметны голас. Ты ж паглядзі: птушачка, калі спявае, садзіцца не на кожнае дрэва, а на якое ёй спадабаецца. І тады гэтае дрэва спяваць птушцы дапамагае, надыхае, ці што... Людзі ачарсцвелі цяпер душой, дрэваў не чуюць, бо занадта ў іх цяжкія думкі. Злосць, зайздрасць, сквапнасць робяць думкі цяжкімі, і тады людзі не бачаць ні лесу, ні зорак, ні нават радасці ў сваім уласным жыцці...

* * *

У бабы Мані на сцяне вісяць фотакарткі ў вялікай карычневай раме: вось кучаравы худзенькі хлопчык, гэта мой бацька маленькі, яго сястрычка

Валя, яна памерла ў дзяцінстве, стрыечная татава сястра Міля са сваім сужэнцам Сцяпанам. Па цэнтры – маладыя дзядуля і бабуля, прыгожыя, у святочным адзенні. Дзеда Іосіфа дрэнна відаць, ягоны твар нібы ў нейкім бялёсым тумане...

...Тады, у фотастудыі, Ёсіп шчодра разлічыўся з мясцовым фатографам, лепшых майстроў у Полацку днём з агнём не знайсці. Пабачыў здымак, усміхнуўся аднымі вачамі – спадабаўся, адчуваецца, што яны тут з Маняй шчаслівыя, надыхацца адно адным не могуць... Зайздросціць будуць людзі, калі пабачаць. Але ж для сваіх родных рабілі, у новай хаце партрэт будзе вісець... Ці адчуў мой дзед у тое імгненне, што адлічана ім з бабуляй шчасця з гулькін нос, што нядоўга стаяць ім вось так – галава да галавы? Прыйдуць па іхняе шчасце з чарацянымі торбамі, сталёвымі віламі, заграбуць, зачысцяць, а груша каля хаты перажыве свайго гаспадара на шмат гадоў. А недзе пад чорным лесам спаткаюцца чорт з бесам, і будзе вайна, і будзе голад, ды дзеда тады ўжо не будзе сярод жывых. Ніколі не сядуць за стол пад грушай вялікім родным колам браты Іосіф ды Клаўдзій, а трэці іхні брат, палкавы ўрач Кліменцій, складзе галаву на вайне недзе пад Ленінградам, і нікому з дзядоў не паставяць помнік, а я, кроў ад крыві, буду за іх маліцца і шукаць сляды па ўсіх усюдах, ды ступлю на запаветныя сцежкі толькі ў вершах, аповедах, успамінах... Так будзе. Так будзе... Але мой малады дзед там, на фотаздымку, нічога гэтага яшчэ не ведае...

* * *

Яечня ў Варонічах пахне святам. Гэта не таму, што баба Маня ведае нейкую таямніцу. Проста яна смажыць яешню на керагазе. Гэта зусім не тое, што печ у бабулі Матроны ў Сястронках, і не тое, што бацькоўскаяварыўня ў Полацку. Гляжу на керагаз – і вачэй адарваць не магу – крутабокі паніч ажззяе начышчанымі бакамі. Агеньчык можна рабіць большым і меншым, я кручу маленькую ручачку туды-сюды, назіраю, як мяняецца колер агеньчыка – то ён жоўты, то чырвоны, то блакітны. Уяўляю агонь вельмі пяшчотным – патэльня аж пасвіствае, аж прыцмоквае ад задавальнення. Яечня скварчыць. Яна на скварках, таму і скварчыць. Керагаз пахне газай, у паяднанні з яечняй – вельмі прыемны пах. Вось адчыняюцца сенцы, і ў хату заходзіць баба Маня са слоікам малака, яна толькі што падаіла сваю казу Зоську. Не вельмі люблю казінае малако, але вып'ю, канечне, каб не пакрыўдзіць бабулю.

– Баба Маня, а я падсмажыла яечню! Сама! На керагазе! Усё зрабіла, як ты мяне вучыла: рук не апякла, яечня не падгарэла. Так прыемна ў хаце цяпер пахне! Святам! Адчуваеш? Праўда, я малайчына?

Ну чаму мне заўсёды хочацца, каб мяне хвалілі? Гэты Хвалько проста чарцянём выскоквае з майго рота. Не паспею адкрыць – ужо выскачыў: «Бе-е-е!»

– Канечне, малайчына. Ты ж мая ўнучка. Адзіная, найлепшая...

Бабулі таксама падабаецца хваліцца. Значыць, Хвалько мне ад бабы Мані дастаўся. Бабуля мые рукі, выцірае іх чыстым ручніком з карункамі і адразу да люстэрка – прычэсвацца... Сумую над яечняй, пакуль бабуля прыхарошвацца, але маўчу. Чакаю... Бацька ж мяне ненадоўга ў Варонічы прывёз, усяго на тыдзень. Сказаў, калі буду неслухам, нечым пакрыўджу бабу Маню – яна адправіць мяне аўтобусам у Полацк, дадому, а мама

адразу адвязе ў Сястронкі. Вось і ўсё падарожжа, вось і ўсе прыгоды... А бабуля тым часам дастае з шафы чырвоную кофту, чорную выходную спадніцу...

– Бабуля, а мы некага ў госці чакаем? – нарэшце не вытрымліваю.

– Не. Нікога не чакаем... Толькі мы з табой. А хіба ты не ведаеш, што за стол нельга садзіцца непрычасанай і неахайнай? Нават калі нікога больш дома няма, Бог цябе бачыць. Перад ім сорамна...

Прысаромленая, вылажу з-за стала, хоцькі-няхоцькі, а пераапранаюся, Божанька ж нас бачыць, а яшчэ дзед Ёсіп з партрэта, ён жа на небе, а фотакартка – як акенца да нас, нават фіранкі не трэба адхінаць. Гэта я толькі што прыдумала, але, магчыма, так яно і ёсць...

* * *

У майго бацькі добрая памяць, ён памятае сябе гадоў з трох. Ведае, як гэтую хату будавалі, дзе мы зараз з бабуляй сядзім і яечню з малаком намінаем. Тады ён у сваёй бабы Ганны жыў, гэта непадалёк, а сюды прыбягаў паглядзець, як ставяць зруб, як расце новая хата.... Мужчыны габлявалі дошкі, а стружкі на зямлю падалі, нібы пена з ляснога мора. Ён збіраў яе ў кошык, а калі той рабіўся поўны-паўнюсенькі, накрываў зверху палатнянай анучкай, а потым, у бабулінай хаце, раскрываў і нюхаў духмяны водар лесу...

– Стасік даўней толькі пачуе пах свежага дрэва ці смалы, адразу свайго бацьку ўспамінае, – апавядае бабуля, – забыўся, які ў Юзіка твар, а лясны водар яму нібы родны, бо смалой пахлі бацькавы рукі, калі ён Стася па галаве гладзіў... Гладзіць-гладзіць – дый пацалуе ў патыліцу. Ласкавы быў Юзік, і бацька твой такі ж... Вось жа ж перадалося....

Хату паставілі, пад вуглы манеты падклалі на шчасце, ды выйшла тое шчасце кароткае-пералётнае. Адно толькі лета Ёсіп у новай хаце і пажыў...

* * *

Тры гады Стасю было, калі ягонага бацьку арыштавалі. Лацвей, калі памяць кароткая, шмат такога, што і ўспамінаць не хочацца. Лепш бы загубілася тая халодная ноч пачатку лістапада 1937 года ў віры яго памяці, дык жа не, баліць, цісне...

Тады на вуліцы добра падмарозіла. Вада зацягнулася тонкім лядком, Марыя любіла выстаўляць вядро на ганак пад зоркі, каб вада здаровай сілы набралася. Карысна такой умывацца раніцай, твар будзе чыстым, маладым, прыгожым... Тыя, хто зруйнаваў шчаслівае жыццё Іосіфа ды Марыі, прыйшлі ноччу. Зачапілі вядро на ганку: грымнула так, што дзеці прачнуліся, думалі, пачалася навальніца. Ды якія грамы ў лістападзе, ці ж такое можа быць? Загрукалі ў дзверы, вокны... Дзеці, Валечка і Стасік, заплакалі. Марыя схапіла на рукі меншага Стасіка, загарнула ў пуховую хустку, каб не так баяўся, а Ёсіп, так-сяк апрануўшыся, пабег адчыняць дзверы. Рукі ў цемры ніяк не маглі намацаць халодную клямку, не слухаліся. Здагадваўся, якія нязваныя госці могуць у такі час з'явіцца на парозе, ды забараняў сабе думаць пра горшае... Стасік не бачыў тых чужынцаў, што ўварваліся ў іхнюю хату, толькі чуў, як рыпіць падлога, як яны мацюкаюцца, як агідна смярдзіць потам і махоркай... (Калі бацька ўспамінае гэтую падзею са свайго дзяцінства, у яго ходарам ходзяць жаўлакі на сківіцах... Навошта такая памяць?.. Навошта?..)

– За што?! Я ні ў чым не вінаваты, гэта несправядліва, незаконна, – голас Ёсіпа дрыжаў, зрываўся на фальцэт.

– Маўчаць, шляхта недабітая! Здраднік, польскі шпіён! Збірайся, падла, там табе пра ўсё раскажуць, даведаешся за што...

...Зайды штурхалі Ёсіпа, брудна лаяліся, тыцнулі ў нос рэвальверам, аж кроў палілася. Схапіў ручнік, прытуліў да носа, выскачыў з хаты. Марыя загаласіла, як па памерлым, кінулася за мужам следам... Стасік абгарнуў галаву пуховай хусткай, схаваўся пад ложак... На печы плакала сястрычка Валя, і баба Ганна яе суцяшала, шапацела нешта, як апалае лісце, але што, хлопчык ужо не разумеў... А калі з двара вярнулася ахрыплая ад плачу і енку Марыя, Стасік загаўкаў з-пад ложка, як сабака...

– З перапуду развучыўся размаўляць, толькі мугікаў, як нямы, а часам гаўкаў ці выў... Доўга пасля таго мы ягоны перапалох па знахарках вышэптвалі...

* * *

Пасля таго, як Іосіфа Снарскага арыштавалі, Марыю трымалі ў жыцці толькі дзеці – чатырохгадовая Валя і трохгадовы Стасік. Асабліва падобным на бацьку быў Стасік, усе крошкі падабраў. Калі яна абдымала сына, ёй здавалася, што прытуляецца да свайго Юзіка, нібы цёплая шчака сына дыхала памяццю шчасця, кароткага і балючага... Маня яшчэ спадзявалася, што яе суджаны жывы, што недзе далёка, на краі свету, жыве на пасяленні, таму і яе перадачы ў полацкую турму не прымаюць. Тое суровае «выбыл» яшчэ звінела тоненькай жылкай надзеі: значыць, жывы, хутка прышле вестачку... А яшчэ Марыя спадзявалася, што будзе хутка яшчэ адна крывіначка падобная да Ёсіпа... яна ж цяжарная... Так, рэдка адтуль вяртаюцца, але ж бывае такое, трэба верыць і маліцца... Маня кожны дзень хадзіла ў касцёл, потым бегла ў царкву, ставіла свечкі і там, і там, малілася па-польску і па-беларуску, можа лепш Бог пачуе... «Дык жа ж не вінаваты мой Юзік, мухі не пакрыўдзіць, – думала Марыя. – Які ж ён здраднік, агітатар, калі нічога, акрамя свайго лесу, не бачыў. Ды і негаваркі ён, не было такога, каб нешта пра ўладу казаць... Барані Божа. Вунь суседа Антона пасадзілі за тое, што вершык смешны пра Леніна прачытаў... Да брата Клаўдзія мыцца хадзіў, у нас лазні сваёй яшчэ не было, дык усе мы хадзілі. Ну, размаўлялі пра нешта, смяяліся, жартавалі. І да нас брат з братавай прыходзілі, сядалі за стол пад грушай, песні спявалі, дзеці каля стаўка бавіліся, гулялі, жабак пужалі... Ці ж за гэта ў турму? А?.. Пасля і Клаўдзія забралі... Таксама вестачкі няма... Ах, Божачка ж мой, якое гора...»

Маня кожны дзень наведвала сельскі савет: раптам пачуе нейкія навіны пра Ёсіпа. Можа вестачку якую перададуць?.. Чакала, чакала – не дачакалася... Ні ўчора, ні пазаўчора, ні сёння... Сельсавецкія глядзелі на яе падазрона, з-пад лоба, нібыта яна ў нечым вінаватая, забыліся, як за дровы дамаўляцца бегалі да яе мужыка-ляснічага, прасілі-малілі, а ён кожнага разумеў. Скокне на калёсы, паедзе, пакажа, дзе той сухастой, дзе якое дрэва старое можна спілаваць... Вось як яго самога спілавалі... пад корань, і ніхто не абараніў, не заступіўся... Людзі ў вёсцы апошнім часам як ваўкі сталі: злыя, непрыветныя, па дарозе ідуць – галовы ад Мані адварочваюць ці на другі бок дарогі пераходзяць. Вунь і суседка Тэкля зрабіла выгляд, што Марыю не пазнала, а ў маладосці ж сябравалі, на танцы разам бегалі... Закалола пад сэрцам, яна спынілася на мосце цераз рэчку Ушачку.

– А можа кінуцца ўніз? Захіне вада, пакрые ўсе трывогі. Прыйдзе нарэшце доўгачаканы спакой... Ды што гэта я? Пра такі грэх думаю?.. А як жа без мяне дзеці, што з імі будзе?.. – Марыя доўга глядзела на рэчку, навакольныя хаты нейкім зчужэлым, нетутэйшым поглядам, аж пакуль не замерзла, позняя восень ужо, тады пахукала на пасінелыя пальцы і павольна, нібы старэнькая, пабрыла дадому.

* * *

Валечку, дачушку, Маня не ўберагла. Вясной, калі на вярбе з'явіліся першыя жоўтыя коцікі, дзяўчынка захварэла на менінгіт і памерла. Добра, што не доўга мучылася, Пан Бог яе хутка да сябе забраў. У труне дзяўчынка ляжала, як лялечка, а Маня нават плакаць не магла, нібы ў саляны слуп ператварылася. Стасік прытуляўся да маці, не разумеў, што адбываецца. Цікава было глядзець у яму, яна, нібы бездань, прыцягвала позірк, як прыцягвае ўсё жахлівае і незразумелае.

– Мама, пойдзем ужо хутчэй дадому, пойдзем, – цярабіў Стасік Марыю за спадніцу, – нас жа дома Валечка чакае... Яна галодная, плача.... Пойдзем адсюль, пойдзем ужо... Мне страшна тут, забяры мяне, матуля...

А недзе праз тыдзень Маня скінула дзіця. Спачатку проста забалеў жывот, думала, з'ела нешта нясвежае... Дык не, пасля такое пачалося, што лепей не ўспамінаць... Дужа дачушку хацела, была б Юзікава крывіначка...

* * *

Замуж другі раз Марыя не выйшла. Ды й што з таго замужжа, калі няма кахання? Другога, такога, як Ёсіп, яна не сустрэла. Так і жыла з сынам Стасікам: спачатку яна за ім глядзела, а потым ён за ёй... Мая матуля не заўжды разумела, чаму бацька амаль кожны тыдзень імчыцца да маці ў Варонічы. Дык хто ж ёй яшчэ дапаможа?..

...Баба Маня не была зайздроснай да чужога дабра і чужога шчасця, ёй усяго свайго хапала, няхай і там, у мінулым. З любоўю яна вышывала ручнікі й сарочкі, мыла падлогу, выцірала пыл на зашклёных партрэтах. У яе беднай, на адзін пакой, хаце заўжды было чыста і ўтульна. На акне цвілі кветкі, асабліва ёй падабаліся калачыкі – чырвоныя, ружовыя, белыя. Часам бабуля садзілася каля вакна, адсоўвала накрухмаленую, аж каляную, фіранку, апіралася на падваконне і глядзела на бальшак, нібы выглядала некага ў той далі-далечыні, куды не дабегчы і не даляцець... Кожны ранак і ноч перад сном баба Маня малілася па-польску і па-беларуску за Іосіфа, як за жывога, а таксама за яго братоў. Яна прыдумала гісторыю, нібыта дзед застаўся жыць на той халоднай зямлі, дзе адбываў сваё пакаранне, нібыта там у яго з'явілася новая сям'я... Ёсіп прыходзіў да Марыі ў снах і расказваў пра сваю гаспадарку, жонку і дзяцей, яна не раўнавала, радавалася, што ён там шчаслівы... І так жа хацелася верыць, што гэта праўда... Часам бабуля даставала з шуфляды загорнуты ў цалафанку акраец паперкі з вучнёўскага сшытка і казала мне, што гэта запіска ад дзеда з турмы. Як тая паперка патрапіла да бабулі, мне невядома. Сама яна не ўмела прачытаць тэкст, бо была непісьменнай, але вадзіла вачамі, рабіла выгляд, што чытае. Кожны раз, гэта была нейкая новая гісторыя, новыя пяшчотныя словы... Калі я навучылася чытаць, то таемна ад бабулі прачытала тую запіску. Вось што там было напісана: «Дарагая Марыя... (тры словы неразборліва) 6 снежня 1937 года». Ужо дарослай я даведалася, што

праз некалькі дзён пасля даты, пазначанай у запісцы, дзеда расстралялі. Усе дакументы па справе Іосіфа, а таксама Клаўдзія Снарскіх прыслалі з КДБ Беларусі па запыце майго стрыечнага брата, да іх прыкладалася і даведка пра рэабілітацыю...

Дзе пахаваны мой дзед, у якой брацкай магіле спачывае? Ці хопіць майго жыцця, каб даведацца пра гэта? Але пакуль у Варонічах мяне сустракае старэнькая груша, пад якой некалі сядзелі мае родныя, я ўсё яшчэ спадзяюся...

## Зорны мост

***1.***

Зоркі хістаюцца туды-сюды: то яны ўгары – на небе, то ўнізе – у вадзе, а я між імі стаю на падвясным мосце. Трохі страшна, бо ўпершыню наважылася перайсці мост з Запалоцця ў Полацк без бацькоў, але рашучасць надае смеласці. Запалоцце – ваколіца Полацка, ды яны нібы асобна, бо між двума берагамі, і каб з Запалоцця патрапіць у Полацак, трэба перайсці хуткую нараўлівую рэчачку Палату, прыток паўнаводнай Дзвіны... Калі я гляджу на нашую Палату, мне здаецца, што тата на адным беразе жыве, а матуля на іншым, такія яны непадобныя між сабой. Мама нарадзілася ў Сястронках, тата – у Варонічах, матулі – на поўнач, тату – на поўдзень. Так яны і цяпер жывуць: хоць і разам, а нібы кожны сам па сабе, хоць і блізка, ды на самай справе далёка, можа й далей за тыя сорак кіламетраў, што ад Сястронак да Варонiч....

* * *

Мая матуля добрая, але строгая, з ёй увесь час трэба ладзікам-ладзікам, слухацца трэба і не спрачацца. Яна ж працуе настаўніцай, звыкла да парадку, інакш вучні на галаву сядуць... Бацька лагаднейшы за маму, але запальчывы, пакрыўдзіць яго дужа лёгка. Адыходзіць хутка, але калі раззлуецца, яго не пазнаць: бялее, як палатно, і біцца да мамы кідаецца... а потым у яго кроў з носа бяжыць. Да бойкі, дзякуй Богу, не даходзіць, бо з крывёю татавы лютасць і крыўда знікаюць. Ён кладзецца на канапу дагары тварам, а мама яму лёд з халадзільніка да пераносся прыкладае...

Калі тата з матуляй сварацца, яны на мяне ніякай увагі не звяртаюць, нібы мяне зусім няма, нібы я невідзімка. Чаго толькі тады ні раблю: па хаце лётаю, як куля, пласцінкі, тыя, што на 33 абароты, заводжу на 78, тады галасы ў спевакоў смешныя, пісклявыя, як у гномікаў. Скачу, танчу пад гэтыя спевы, смяюся, як шалёная... А на самой справе мне зусім не смешна, плакаць хочацца... Калі бацькі сварацца, я з паштовак на падлозе будую хаткі, а потым разбураю, раскідваю па ўсёй хаце. Можа, Дзяды Марозы і Снягуркі супакояць маіх бацькоў, яны ж чараўнікі?! Аднойчы я такое прыдумала, такое... Парэзала маміны калготы і на галаву нацягнула: глядзіце, я Фантамас! Хацела бацькоў рассмяшыць, ды зноў нічога не выйшла... Калі мае бацькі сварацца, мне так сумна, што лепей бы я ў Полацк з Сястронак не прыязджала, ці паехала б да бабы Мані ў Варонічы... Ды хто мяне слухае...

* * *

Сёння ноччу бацькі сварацца ціхенька, каб мяне не разбудзіць, ды я ўсё роўна прачнулася. На ложак з вакна падае месячнае святло, сцены

блішчаць срэбрам, ды мяне гэтая прыгажосць не радуе. Цераз прасвет пад дзвярыма ў бацькоўскую спальню прабіваецца штучнае святло ад начніка, і мне здаецца, што з той шчыліны да майго ложка паўзуць вужакі. Святло поўні для іх – нібы малако. Я гатовая ўцякаць, куды вочы глядзяць, хоць у Сястронкі, хоць у Варонічы, абы толькі некуды з дому... Успамінаю пра мост цераз Палату, бо ўчора абяцала сябрам перайсці яго туды-сюды і не спужацца. Паспрачалася з Галькай Заленскай і яе братам Віталькам, што такое зраблю, праўда, удзень, не сярод начы, але што зробіш, калі я ўсё роўна прачнулася і не засну...

Мае сябрукі па Запалоцці называюць мяне «дзяроўня», а сябе лічаць гарадскімі. Яны размаўляюць па-руску, а я шпару на трасянцы, як усе ў Сястронках. Калі да бацькоў у Запалоцце прыязджаю, «русіць» у мяне ўсё роўна не выходзіць, так што гавару, як прывыкла... Галька з Віталькам абазвалі мяне «малой баязліўкай», калі даведаліся, што я на мост без дарослых яшчэ не хадзіла. Як такое можна сцярпець?! Пазаўчора баялася, учора баялася, а сёння пайду! Асмялела ад сваёй крыўды, злосць надае адвагі. Цяпер мне мора па калена, не тое што маленькая рэчка Палата...

* * *

І ўсё ж, калі па шчырасці, мне падабаецца прыязджаць у горад, тут нават пахне не так, як у вёсцы. Можа, таму, што ў Полацку шмат кветак і мятных пернікаў, якія я вельмі люблю. У Полацку возяць квас у жоўтых бочках, падобных да вагончыкаў, ёсць аўтаматы з газаванай вадой – за адну і тры капейкі. Мне падабаецца газіроўка за тры, бо яна салодкая, з сіропам... У суботу мы з татам ходзім у парк адпачынку катацца на каруселях. Я сядаю на шэрага ў яблыках коніка, а сама на ваўка паглядаю, ён мне мілейшы, ды яго ўжо заняў тоўсты хлопчык ў жоўтай панамцы. Давядзецца пачакаць, за другім заходам пакатаюся. У майго бацькі сёння добры настрой, ён жартуе і нічога для мяне не шкадуе... Але найбольш у Полацку мне падабаюцца цэрквы, яны такія велічныя, як караблі, асабліва Сафійскі сабор. Так і плыве, так і плыве... Яго нават у наша вакно відаць. Калі я была зусім маленькая, думала што бачу Маскву.

– Мама, тата, там – Масква! – шчасліва крычала я бацькам, мне было тры гады, толькі гаварыць навучылася... Потым, калі падрасту, я зразумею, што Полацк для мяне нашмат лепшы за Маскву, бо родны, адзіны на ўсё жыццё...

...Калі мае бацькі сварацца, з мяне выходзіць радасць, тады я пра ўсё добрае, што ёсць у Полацку, забываюся. Мне страшна, што тата з мамай аднойчы развядуцца, як бацькі маёй сяброўкі Жанкі, і тады я застануся зусім адна...

* * *

Стаю на мосце, ён хістаецца туды-сюды, страшна, аж мароз па скуры. Заўважаю, што выбегла з дому босая, у адной начной сарочцы. У жніўні ўжо ночы халодныя, дрыжу ад холаду ці са страху, але ж усё роўна перайду гэты мост...

Ну чаму дарослыя не жывуць дружна? У Гальκі з Віталькам бацькі сварацца, і ў Зінкі, маёй сястронскай сяброўкі, таксама... Я б хацела ўсіх нашых бацькоў ноччу на гэты мост прывесці, каб яны на зоркі паглядзелі. Тут такая прыгажосць, што яны ўсе сказалі б: «Ах!» і забыліся пра дурныя спрэчкі...

Тата мне расказваў, што святло ад зорак ідзе на Зямлю тысячы, а можа й мільёны год. Бывае так, што зоркі ўжо даўно няма, а святло ад яе яшчэ ідзе, і мы яе бачым... Якімі мізэрнымі, проста камарынымі, выглядаюць нашы спрэчкі на фоне зорак, святло ад якіх ідзе няспынна, нават калі яны самі даўно пагаслі... Мая крыўда на бацькоў з гэтымі думкамі драбнее, аж пакуль не знікае зусім, нібы яе і не было. І цяпер мне ісці па мосце не страшна...

***2.***

...Калі я бываю ў Полацку, мяне цягне ў Запалоцце. Іду туды старой дарогай цераз Верхні замак і навясны мост. Пасярод моста спыняюся, каб пабачыць свой адбітак у вадзе: мне здаецца, нібы на мосце я дарослая, а ў вадзе адбіваюся маленькая, нібы час застыў у адмысловай кропцы майго існавання ў прасторы Радзімы... Нават дзіўна, як добра ўсё памятаю: за мастом, каля крамы, павярнуць направа, потым налева і зноў направа, да беленькіх аднапавярховых будыначкаў на горачцы. Дамы называюць «фінскімі», аднак Фінляндыяй там і не пахне. На самой справе гэта звычайныя зборна-шчытавыя баракі, якія будавалі хутка і спраўна, з надзеяй вырашыць кватэрнае пытанне шматлікіх сямей, якія ў 70-я гады мінулага стагоддзя няструмна пацягнуліся з вёсак у горад, нібы там мёдам намазана. На самой справе перавагі горада ў нашым Запалоцці былі дужа адносныя: у кватэрах зімой халодна, усе зручнасці на вуліцы, да цэнтра Полацка трэба дабірацца аўтобусам, або ісці цераз мост. Далёка. На ўсё Запалоцце быў толькі адна крама, асартымент якой мала чым адрозніваўся ад вясковай: кількі ў тамаце, трохлітровыя слоікі бярозавага соку, цукеркі-падушачкі... Людзі жылі бедна, а каб неяк выжыць заводзілі курэй, гусей, трусоў. Некаторыя ўмудраліся нават свінку трымаць у драўляным хлеўчуку. Мне запомніўся парсючок з мянушкай Борка, якога мы з дзецьмі кармілі морквай і капустай у складчыну. Кожны з нас таемна ад бацькоў прыносіў Борку прысмакі з дому з надзеяй, што аднойчы парсючок навучыцца гаварыць. Мы ўяўлялі сябе настаўнікамі або вялікімі дрэсіроўшчыкамі, аднак далей за ўдзячнае «рох-рох» наш вучань не прасунуўся...

З усёй магчымай гаспадаркі ў нашай сям'і былі толькі рыбкі, і то нядоўга. Яны жылі ў трохлітровым слоіку з недалугай галінкай водарасцяў. Парачку мечаносцаў і тры гупі тата прынёс з полацкага базара, хоць я прасіла браціка або сабаку.

– Пачнем з рыбак, – сказаў тата, – а далей відна будзе...

Рыбак даручылі даглядаць мне, бо бацькам на гэта не хапала часу. Некалькі дзён я частавала рыбак сухім кормам, яны радасна варушылі сваімі вялікімі вуснамі, і мне здавалася, што гэтак яны размаўляюць і радуюцца маёй прысутнасці ў іхнім свеце... А потым я паехала ў Сястронкі – і ўсё скончылася... Калі цераз месяц я вярнулася ў Запалоцце, рыбкі захварэлі – у іх пачалі адпадаць хвасты і плаўнікі. Яны выглядалі такімі няшчаснымі, але я нічым не магла дапамагчы. Цераз некалькі дзён мы з мамай выпусцілі рыбак у Палату, з надзеяй, што там, на свабодзе, яны калі-небудзь ачуняюць...

– Мама, гэта я вінавата, я! Рыбкі захварэлі вірусам суму...

– Не плач, Іначка, у рэчцы рыбкам будзе значна лепш, чым у трохлітровым слоіку. Плаўнікі ў іх адрастуць, і яны паплывуць у мора...

Мама гаварыла нешта яшчэ, зусім казачнае, вядома, каб супакоіць

мяне, ды сама не надта верыла ўласным словам, я гэта бачыла... Калі ранкам мне давалі рыбін тлушч (фу, якая брыдота!), я ўспамінала сваіх няшчасных гадаванцаў, ніяк не магла праглынуць карысную вадкасць, а потым непаметна выплёўвала яе ў памыйнае вядро.

* * *

Летам каля нашага будыначка ў Запалоцці расцвіталі чырвоныя макі. Маёй матулі падабаўся іхні водар і колер. Неверагодна духмяны салодкі пах напаўняў прастору майго полацкага дзяцінства аж да дарослай Палтавы. Калі я бываю ў Запалоцці, то па-ранейшаму адчуваю пах матуліных кветак. Калі мы пераехалі на іншую кватэру, у нашым будыначку пасялілася сям'я маёй аднакласніцы. З часам яго знеслі, а на гэтым месцы збудавалі краму без вокан на Сафійскі сабор...

Ужо даўно няма маёй матулі.... Яе паклалі ў труну ў трыкатажнай бардовай сукенцы, якую яна любіла і апранала толькі «на выхад». Няма бацькі... Ён так і не купіў сабе надзіманы гумавы човен, пра які марыў усё жыццё... Бацькоў пахавалі кожнага ў сваёй вёсцы, як яны і пажадалі.

* * *

Калі я прыязджаю з Палтавы ў Полацк, то абавязкова іду да Сафійскага сабора, Сафійкі, як любоўна называюць свой храм палачане. Цяпер тут гучыць арганная музыка, гэта канцэртная зала. Плыве Сафійка, як вялізны белы карабель, плыве праз гады і стагоддзі. Унізе – старадаўняя Дзвіна, уверсе – сіняе полацкае неба...

Стаю на мосце, які вядзе ў Запалоцце, гляджу ў ваду, нібы намагаюся пабачыць тыя зоркі, што свяцілі мне даўно-даўно. Зорак тых ужо няма, але святло ад іх усё ідзе, усё ідзе...

## Зачараваны скарб

Калі я еду ў Варонічы аўтобусам, заўсёды баюся праскочыць патрэбны прыпынак. Бальніца, школа... потым, за мастом, мне трэба выходзіць.

– Вось тут, каля крамы, спыніцеся, калі ласка, – прашу кіроўцу аўтобуса «Полацк-Ушачы». Ён глядзіць на мяне незадаволена, з-пад лоба, бо пасля маста толькі набраў хуткасць, і мне становіцца няёмка, зноў нешта зрабіла не так.

– Папярэджваць трэба раней, а не ў апошнюю хвіліну, – незадаволена буркнуў кіроўца і скінуў хуткасць...

Ужо трэццяе дзесяцігоддзе мой маршрут па Варонічах амаль не змяняецца. Спачатку могілкі, дзе пахаваны бацька, баба Маня, цётка Міля і дзядзька Сцяпан, потым – рэчка Ушачка, дзе заўсёды стаю на мосце і гляджу ў ваду, як некалі ў дзяцінстве. За мастом і царквой – павярну направа, і дарога прывядзе мяне ў Кукшынава, так называецца гэты раён Варонічаў, бо вёска вялікая. Раней там жыла бабуля, а цяпер нават хаты не засталося. Месца пазнаю па старэзнай ігрушы і яблыні, яны на шмат гадоў перажылі сваіх гаспадароў, па кустах абляпіхі, якую садзіў яшчэ мой бацька... Вядзе мяне па тых дарогах памяць – цяжкая, балючая, але дарагая, з-пад сэрца...

...Заходжу ў краму. Асартымент тавараў тут, здаецца, гадамі не змяняецца, і толькі фасад штовясны фарбуюць новым колерам. Сёлета крама

жоўтая з сінімі ваканіцамі. Прыгожа. Кветкі пад вакном граюць вясёлкамі бабінага лета. Прадавачка глядзіць на мяне здзіўлена: што за незнаёмка парушыла яе спакой раніцай?

– Добры дзень. Дайце мне, калі ласка, цукерак карамельных па сто грамаў кожнага гатунку і пячэння пару пачак...

Прадавачка спраўнымі рухамі важыць цукеркі, і я ўдзячная ёй за маўчанне. Цяпер мне не да размоваў...

Дарога на могілкі – роўненькая, асфальтаваная. Направа, пад гарой, прытулілася некалькі маленькіх, нібы лялечных, хатак. Налева – агароды дачнікаў. Краявіды яшчэ па-летнему вясёлыя, нават не адчуваецца, што ўжо палавіны верасня няма. Сонечна. Неба ў лёгкіх хмарынках. Высокая трава абапал дарогі запрашае паглядзець на неба з гэтага ракурсу. Нахіляюся, гляджу, як некалі ў маленстве. Сіняе-сіняе святло ўліваецца ў маё сэрца, запаўняе да дна, як крынічная вада з бабулінага калодзезя, выштурхоўвае ўсё непатрэбнае, чужое, няшчырае...

* * *

Мы з Андрэем сядзім на бабуліным ложку з вялікімі пуховымі падушкамі ў накрухмаленых навалачках, і я распавядаю брату страшныя гісторыі пра зачараваныя скарбы, цмокаў, чортаў і чарцянят. Расказваю і сама баюся. Вечарэе... Дома нікога няма, мяне пакінулі на гаспадарцы, бо мне ўжо дзевяць гадоў – палавіна дзеўкі. Раблю выгляд, што сапраўды дарослая. Накарміла трохгадовага брацiка, пасадзіла між падушак, нібы пасярод хмарак, і расказваю, расказваю....

– А ўсё гэта адбывалася тут, у Варонічах... Пайшла дзяўчынка ў дванаццаць ночы ў лазню мыцца. А ёй сказалі перад тым, каб узяла з сабой люстэрка і свечку. Калі запаліць у лазні свечку і сесці насупраць вакна, каб месячнае святло на свечку падала, то можна пабачыць свой лёс і суджанага-раджанага. Дзяўчынка зрабіла ўсё, як ёй сказалі, хоць і дужа страшна ёй было. Зірнула ў люстэрка, а там – чорт...

Ад жаху карыя вочы Андрэя становяцца яшчэ цямнейшымі. Вочы ў брата вялікія і круглыя, як гузікі на матуліным паліто. Я і сама баюся: кожны цень на падлозе, кожная галінка ў вакне ператвараюцца ў цара-крумкача, які пільнуе дзяцей-неслухаў. Як бараніцца, калі прыляціць па нас? Мы з Андрэем залазім пад коўдру, накрываемся з галавой і, абшчапіўшыся, трасемся, як асінавае лісце. Адчуваю, як спалохана б'ецца Андрэева сэрца, уяўляю яго маленькай птушачкай, і такая пяшчота раптам мяне агортвае, такі сорам, што я, такая дарослая, яго маленькага, спужала. На маім твары з'яўляюцца чырвоныя плямы, здаецца, Божанька мой сорам бачыць, як бы цёмна ні было...

– Даруй, Андрэйка, даруй... – шапчу брату ці Богу, – я ж усё гэта прыдумала! Няма ніякага чорта. Няма цара-крумкача. Нічога не бойся! Давай я табе добрую кніжку пачытаю, з малюнкамі... Хочаш?

Мы вылазім з-пад коўдры мокрыя, цяжка дыхаем, нібы пабывалі ў лазні. Нарэшце вырваліся на свабоду! Дыхай вольна, Андрэйка, і нічога не бойся!

* * *

Па дарозе на могілкі – хаты жывыя і мёртвыя. Нехта пакінуў зямныя дамы й перабраўся вышэй да неба, на пагост. Не хочацца пра гэта

думаць, ды напрамак высцілае думкі. Нежывыя апусцелыя хаты стаяць бліжэй да гары, якую мясцовыя называюць замкам. Існуе легенда, што некалі тут быў сапраўдны замак, такі магутны і непрыступны, што ніякія ворагі не маглі яго адолець. Жылі ў гэтым замку князь з княгіняю, і была ў іх дачка-красуня. Князь быў справядлівы, жаласлівы да людзей, і ўсе яго паважалі. Не было ў свеце мацнейшай дзяржавы. Ды праляцеў над гэтым месцам чорны крумкач, а за ім яшчэ дзесяцёра, і зацягнулася неба дымам. Пачалася вайна. Доўга біліся нашыя ваякі-волаты з басурманамі, нібыта і перамога была ўжо блізка, ды знайшліся тыя, хто здрадзіў князю. Знішчыла чорная навалач нашых волатаў, забіла князя. Яшчэ трохі – і замак захопяць... І тады маладая князёўна запрэгла тройку коней, завязала ім вочы і паімчала з гары ў рэчку... Людзі кажуць, што апоўначы, калі ярка свеціць месяц, на дне рэчкі Ушачкі можна пабачыць адбітак князёўны і яе коней... А замак праваліўся скрозь зямлю, нібы яго і не было зусім...

...Звяртаю ўвагу на асірацелую пустую хату. У гэтых мясцінах дамы без людзей жывуць нядоўга. Калі камунальныя службы не знойдуць гаспадароў, ці выявіцца, што хата ім непатрэбная, ссунуць яе бульдозерам у яму, засыплюць зямлёй. Чысценька, роўненька, ніякіх табе праблем... Але хто заплача над пахаванай хатай, каму яна перадасць сваю памяць?..

Стаю каля апусцелай хаты, заглядаю ў вакно. Ці ўспамінае яна тых, што некалі тут жылі? Якія сны ёй сняцца? Паміж рамамі, на штучным снезе з ваты задрамалі пластмасавыя зайчыкі, лісічкі, ваўкі. Цацкі выцвілі ад часу, засумавалі. Ужо незразумела, якога яны былі колеру раней, калі тут жылі людзі. Дзе тыя дзеці, што бавіліся-гулялі гэтымі цацкамі? Ці вяртаюцца яны ў гэтыя мясціны хаця б у сваіх снах?..

Каля хаты – калодзезь-журавель. Вядро хістаецца на ржавым ланцугу, «дзінь-дзілінь», нібы нехта хоча прывітацца са мной, сказаць нешта важнае, таемнае, ды яму слоў не хапае... А вада ў калодзезі яшчэ ёсць, ад гэтага неяк лягчэе на душы. Набіраю ваду для кветак. Жывая яна ці мёртвая?.. Пластмасавы воўк глядзіць на мяне цераз шыбку доўгім уважным поглядам, нібы я яму некага нагадваю...

* * *

Пра брацікa я марыла даўно. І вось у пяць з паловай гадоў дачакалася... Каравокі баравічок Андрэйка быў больш падобны да Светкі, нашу стрыечную сястру, чым на мяне, удаўся ў матулін род, а я – у бацькаў – блакітнавокая ды русакосая, як баба Маня. Фотаапарат дзядзькі Йвана зафіксаваў цікавы момант: на стракатай вярблюджай коўдры ляжаць паўгадовая Светка і трохмесячны Андрэй. Брацiку яшчэ цяжка трымаць галаву, ды ён ужо разумны – паклаў галаву на кулачкі: «Вось які я, красунчык-баравічок». Мяне на фота няма, бо стаю каля дзядзькі Вані. Потым бяру Андрэя на рукі і цягну да торбы з цацкамі. А Светка так і засталася на коўдры, няхай сабе гуляе, яна ўжо поўзаць умее... Цягну Андрэя, яму нязручна, крэхча, але не плача. Вось і матуля заглядае з кухні, асцерагае мяне, хвалюецца за Андрэя.

– Інка, гэта ж табе не цацка, а брацік... Асцярожна...

У сваёй уяве я бачу здымкі з сямейнага альбома... Вось мы з братам ужо падраслі, стаім абняўшыся каля барвістага кіліма ў бацькоўскай ква-

тэры. Андрэю чатыры, а мне амаль дзесяць год. Я ўжо паўнацэнная нянька: куды я, туды і Андрэй. Бяру яго з сабой да сяброўак, выводжу на вуліцу, а калі раблю ўрокі, з Андрэйкам няньчыцца баба Маня, яна прыехала да нас з вёскі, каб дарасціць свайго пястунчыка да школы. Брацік я вельмі люблю, ды ён бяжыць за мной, як хвост, куды б ні пайшла...

– Ты, Ленка, будзеш матуляй, я – татам, а гэтыя галышы – нашы дзеткі, – камандую я, бо ва ўсіх гульнях завадатар. Мы з сяброўкай раскладваем лялек на канапе, засланай брунатным суконным пакрывалам.

– А я кім буду? – пытае Андрэй.

– А ты будзеш... будзеш гледачом. Гэта дужа цікава! Ты бачыў тэатр? Не? Дык мы табе зараз пакажам!

– Не-е-е... – незадаволена цягне Андрэй, ды потым пагаджаецца на ролю гледача, з намі яму ўсё ж цікавей, чым з бабуляй.

* * *

Іду між крыжоў, нібы сярод зорак, якія ўпалі на зямлю. Вось яны – драўляныя, металічныя і, нават, каменныя. Крыжы жывуць доўга, не тое што людзі. Вось каменны крыж урос у зямлю, зазямліўся карэннем. Ён такі стары, што дзе-нідзе зарос мохам, можа ўжо не адну сотню гадоў тут стаіць. Хто пад ім спачывае? Няма надмагілля, вянкоў і кветак, шыльдачкі з прозвішчам, гадамі нараджэння і смерці. Адзінокі каменны крыж нібы ходзіць між дрэваў і размаўляе з душамі... Як бы яму хацелася быць крыжыкам на шчаслівым вясельным рушніку, а не стаяць тут адзінока пад ветрам, дажджом і снегам. Ніхто не падыходзіць да каменнага крыжа, і толькі ідучы сцежкай да сваіх памерлых родных, калі-нікалі чапляецца поглядам. Чужы крыж муляе родную памяць... Магчыма, і мой дзед Іосіф ляжыць недзе пад адзінокім невядомым крыжом, і халодна яму, і няўтульна. А можа і крыжа няма... Кранаюся крыжа рукой, а сэрцам прамаўляю: «Перадай прывітанне майму дзеду Ёсіпу, дзе б ён ні ляжаў. Скажы, што ўспамінаю яго, хоць і ніколі не бачыла...» Каменны крыж нешта адказвае, ды я не магу разабраць ніводнага слова. Вецер...

...Пад каржакаватым дубам спачываюць мае родныя – бацька, баба Маня, цётка Міля з дзядзькам Сцяпанам. Дуб укрывае месца пахавання зялёнымі шатамі, на галінах начуюць птушкі. Хочацца верыць, што памерлым тут не адзінока. Жалуды, лісце, старыя галінкі – жывая прысутнасць на халодным мармуры незваротнага хуткаплыннага часу...

* * *

Калі б Андрэй мог усё забыць... Спачатку памерла мама, пасля – тата. У свае сямнаццаць гадоў брат застаўся са старэнькай бабай Маняй у нашай кватэры на Марыненка, бо я на той час выйшла замуж і пераехала ў Палтаву. Агульнае гора нас з братам не аб'яднала, а развяло. Па брату няшчасце ўдарыла мацней – тата памёр на яго руках. Магчыма, пасля гэтага нешта сапсавалася ў яго свядомасці, зламалася, як пластмасавая лялька... А цяпер... нават на могілкі перастаў ездзіць... Мой родны, дарагі брат, мы старэем, але з кожным годам аддаляемся ўсё больш і больш. Ужо амаль не чуем адно аднаго...

...Цалую дарагія твары на памятніках, стаўлю кветкі, кладу на надгробак цукеркі з пячэннем. Гэта для птушак. Няхай нясуць у свой вырай родным душам звестку, што іх памятаюць і любяць на зямлі.

– Тата, баба Маня, я была тут, я вас люблю...

Нешта трэснула над галавой. З суседняга дрэва ўспырхнула сарока. На бацькаў надгробак упала галінка з трыма жалудамі. Няўжо гэта ад яго падарунак? Ах, як тата неверагодна стракатаў сарокай! На жаль, яго здатнасць перадаваць галасы птушак засталася амаль нікім не заўважаная... Толькі не мной!

– Тата, прашу, пакажы мне сароку! – крычу цераз прорву часу і пазнаю свой дзіцячы голас. Як гэта ў бацькі непаўторна, таленавіта выходзіла! Яго сароку можна было зблытаць з сапраўднай! Чаму ж цяпер, на могілках, стракатуха-сарока зляцела з дуба моўчкі? Няўжо радасная бацькава душа ў сваім засвецці забылася птушыную мову?

* * *

– Татусечка, а праўда, што ты ўмееш спяваць па-птушынаму? – пытаю ў бацькі, веру і не веру адначасова. Мы з татам сядзім на жэрдцы, як на лавачцы, пацíху гайдаемся. Я не баюся ўпасці, бо тата падтрымлівае мяне за спіну. У цянёчку, пад кустом бэзу, пануе спакой. Так лёгка дыхаецца, што я ўжо забылася, як хварэла на запаленне лёгкіх. Галоўнае, што побач тата, і гэтае імгненне ўплятаецца ў мой спакой, як каснічок у косы.

– Канечне, умею, вось паслухай... – Бацька пачынае сакатаць сарокай, пераходзіць на дзятла, зязюлю... і мне здаецца, што розныя птушкі зляцеліся ў наш вясёлы сад. Столькі гаманлівай вясны прарасло ў маім сэрцы, як толькі яно вытрымлівае такую радасць! Пачынаю падпяваць: «Піў-піў, ф'юць-ф'ьюць...» Не дужа спрытна выходзіць, свішчу, як умею. Ды дзіва! Разам з татавым мой слабенькі голас мацнее, і я веру, што таксама ведаю птушыную мову, што мы разам з птушкамі спяваем пра вясну, пра шчасце, пра любоў... «Толькі б так было заўжды...», – паўтараю недзе ў глыбіні сваёй свядомасці. Прымружваю веі, і палымяная манета сонца рассыпаецца на мільёны ліхтарыкаў, сонца танцуе, раскідвае рознакаляровыя струмені святла, грае вясёлкай.

– Татуся, глядзі, сонца грае, сонца грае!

– Гэта на шчасце, Іначка, на шчасце! Сёння будзе радасны дзень, які яшчэ не раз цябе здзівуе. Ты яго ўспомніш не раз... Успомніш...

... У майго бацькі поўны мех розных легенд і казак, аж дух захоплівае, калі ён нешта расказвае. Усе гэтыя замкі і зачараваныя скарбы, якія праваліліся пад зямлю, малюю ў сваім уяўленні, веру, што так яно і было на самой справе, у гэтых мясцінах, на роднай зямлі...

– Бачыш, Іначка, вунь тую гару за апошнімі хатамі перад самым лесам? Раней там стаяла царква, во, дык яна пад зямлю правалілася. Калі туды пайсці апоўначы і прыкласці вуха да зямлі, то можна пачуць, як галосяць званы...

– Галосяць?! Званы?! – мне цікава і жахліва адначасова. – А там моляцца па-польску, як баба Маня, ці па-руску, як баба Мура?

Тата не ведае, што адказаць на гэткае пытанне, і ніхто не ведае... Мне вельмі хочацца пачуць тыя званы, а яшчэ больш знайсці зачараваныя скарбы. Хочацца, каб мы, нарэшце, разбагацелі, каб не лічылі кожную капейку, каб бацька купіў сабе надзіманы човен, а бабуля перакрыла хату новым шыферам, каб у зліву са столі не капала, і мы не падстаўлялі міскі і тазікі...

– Зачараваны скарб проста так нікому не даецца, – працягвае тата. – Як толькі лапата ўдарыць па металічнай крышцы, скарб закопваецца

глыбей у зямлю. Не дастаць... Толькі дзіцячаму чыстаму сэрцу адкрываюцца ўсе скарбы...

– Татачка, а калі мы ўжо пойдзем шукаць той скарб? Калі?!

Зноў і зноў я заводжу будзільнік на дванаццаць ночы, ды ён чамусьці не звоніць, і я бачу тыя скарбы толькі ў снах...

* * *

Гляджу з маста на ваду, нібы зачараваную княжну шукаю, ды бачу толькі залатыя смужкі на вадзе, толькі свае ўспаміны... Ушачка яшчэ палетняму чароўная, вада чыстая, здаецца, сонечныя праменьчыкі дастаюць да самага дна. Старадаўняя рачулка зберагла цяплынь душы, не зважаючы на блізкія халады... Пераходжу мост, паварочваю на Кукшынава. З горачкі на горачку, з горачкі на горачку... Неба такое сіняе, што нагадвае мора... нібы плыву небам на чарацяным плыце. Дзе яны, берагі?.. Ды марыць асабліва няма калі, трэба спяшацца, каб не спазніцца на зваротны аўтобус. Хочацца спакойна пастаяць каля бабулінай хаты... месца, дзе яна некалі была. Тут цяпер усё зарасло травой і кустамі. Прывязаная да суседскага плоту, пасецца каза. Вось і ўсё. Цішыня...

Па раскідзістай ігрушы пазнаю месца, дзе некалі быў бабулін двор і сад. Вось і яблыня, якая перажыла і бабулю, і тату. Груша і яблыня памятаюць мяне тою бяляваю дзяўчынкаю, якая марыла знайсці зачараваны скарб. Прывітаннечка, мае дарагія!..

Бабуліна хата ўжо некалькі гадоў ляжыць у зямлі. Яе зсунулі ў яму, закапалі. Куды падзеліся бабуліны ручнікі, карціны, партрэты нашых блізкіх і далёкіх родзічаў? Няўжо ніхто не забраў памятныя рэчы, не пашкадаваў, не прытуліў? Андрэю і яго сям'і хата выявілася непатрэбнаю. Адрэзаў брат мінулае, як нешта цяжкое, хваравітае... Хавалі бабуліну хату, а я нават нічога пра гэта не ведала. Прыехала неяк летам, амаль жа кожны год бываю на Радзіме, і пабачыла... пустку. Нават не развіталася.

Прытулілася да шурпатай грушы спінай і нібы пачула галасы маіх родных. Вось яны, усе чыста, у маёй памяці. Груша ўжо такая старэзная, што не пладаносіць, а яблыня нарадзіла, зберагла свае познія яблыкі. Няўжо адчула, што сёлета прыеду? Жоўтыя, духмяныя яблыкі ўсцілаюць зямлю коўдрай, ды балюча па ёй ступаць... Нахілілася, сабрала, колькі змагла. Яблыкі ад маіх родных – самыя смачныя...

А развітанне з Варонічамі было цалкам нечаканым. Проста нейкае дзіва! Суседскі хлопчык на месцы, дзе раней была наша хата, знайшоў некалькі манетак 34-га і 37-га гадоў. Мабыць, яшчэ тыя, што мой дзед Іосіф падкладаў пад вуглы зрубу, калі будавалі хату. Замаўлялі на шчасце, на доўгія гады. Добрая традыцыя прыжылася ў гэтых мясцінах... У 1934-м нарадзіўся мой бацька. У 1937-м расстралялі дзеда. Цяпер гэтыя манеткі са мной. Берагу.

– А часам, Іначка, зачараваны скарб сам выходзіць да людзей. Гэты бывае дужа рэдка, але ж бывае...

Я нібы чую бацькавы словы. І веру, і веру...

## На Вялікдзень сонца грае

Калі я ўпершыню адчула прысутнасць Бога ў сваім жыцці? Можа тады, калі босая бегла па сястронскаму бальшаку, даўно, яшчэ да асфальту, і пыл курыў пад нагамі, падымаўся вышэй, аж да плеч, і кожная пылінка

свяцілася, як маленькае сонца, а на душы было так прывольна й весела, што не думалася пра шчасце, а проста прарывалася з глыбіняў: «Слава Богу! Слава Богу!» Адкуль з'явіліся тыя словы, я не ведала. Можа іх раней вымаўляла бабуля? Але не, яны гучалі менавіта маім голасам, гэта была я і не я, нешта большае за мяне... Радасць ува мне і была Богам... Пасля было некалькі выпадкаў, калі захоплівала дух ад прыгажосці краявіда або нейкай кветкі – ландыша, сон-травы, званочка, рамонка. Ад дотыку да тых чароў мне чамусьці хацелася плакаць, на вочы набягалі слёзы, і тады свет выглядаў яшчэ прыгажэйшым, нібы быў прамыты першародной чысцінёй. Я думала: "Вось Бог, Ён у красе, якую бачу..."

Калі хварэла бабуля, я ўжо ўмела маліцца. Прыціскалася лобам да прахалоднага вакна і паўтарала словы: «Божанька, добры, міласэрдны, абаронец усіх дзяцей і ўсіх старэнькіх, зрабі так, каб мая баба Мура не памёрла, а паправілася, а я Табе за гэта абяцаю не падманваць, слухацца дарослых і не хваліцца...» Я думала, што Бог – гэта міласэрднасць, Ён набліжаецца, калі некага шкадуеш усім сэрцам... У дзяцінстве Бог блізка, нават калі ты не заўсёды выконваеш абяцанні... А потым... потым мы аддаляемся ад сваёй шчырасці ў часе і прасторы, і ўсё больш не выконваем свае абяцанні. Ды ўсё роўна Ён з намі, бо шкадуе і даруе...

* * *

У гэты дзень я прачнулася рана, каб нават расу абагнаць. Трэба ж пабачыць, як сонейка на золку грае. Бабуля ўжо вярнулася з царквы. Пасачкі ў яе кошыку, аж свецяцца, аж зіхцяць ад радасці, так і хочацца пакаштаваць. Мы разам пяклі іх учора, і яйкі лушпіннем цыбулі фарбавалі. Ну, па-праўдзе, гэта ўсё бабуля рабіла, а я толькі дапамагала – даставала з-за печы аж залатую цыбулю, лушчыла яе, пасачкі на вышыты ручнічок ставіла. Ой, яны такія гарачыя былі, што пёкам далон пяклі, і дыхалі... дыхалі, як жывыя. Я і зараз адчуваю гэтую цеплыню, нібы ў далонях б'ецца нечае сэрца...

Учора я так прасілася з бабуляй да царквы, так прасілася... Але яна мяне не ўзяла, бо йшла на ўсю ноч. Сказала, што я яшчэ малая і ноч у царкве не вытрымаю.

– Пабудзь дома з дзядулям, добра паспі, а я раненька вярнуся і пакажу табе, як сонца грае...

Усю ноч мне снілася, як па небе лётаюць цэрквы, паскі і птушкі, зіхацяць залатыя купалы, і крылы ў птушак таксама залатыя. А паскі, нібы храмы, дзе Бог жыве, таму яны дыхаюць цеплынёй і жывыя...

– Бабуля, пойдзем хутчэй на сонца глядзець! – хапаю бабулю за руку і цягну на вуліцу. Але яна не спяшаецца: спачатку падыходзіць да абраза Божай Маці, які вісіць у кутку на кухні, хрысціцца, шэпча малітвы. І я станаўлюся побач, задзіраю галаву, малюся Богу, як сама ўмею.

– Божанька, няхай усе будуць здаровымі і ніколі не паміраюць – і мама, і бабуля, і тата, і дзядуля, усе-усе нашы родныя і няродныя, няхай таксама жывуць вечна і будуць шчаслівымі. І нават сыны бабы Франі, хоць яны п'яніцы і на яе шыі сядзяць, няхай ім таксама будзе добра. Божанька, няхай баба Даша памірыцца з дзедам Васілём, Зіна вырасце і закахаецца ў добрага хлопца, і каб Алег стаў урачом, як яго матуля, цётка Таіса. Хачу, каб дзед Панас часцей да нас у госці прыходзіў, і каб мама з татам не сварыліся, і ў вёску да мяне прыязджалі

не толькі на выхадныя... А яшчэ дай, Божанька, каб больш ніколі не было вайны...

Хрыстос на абразе Казанскай Божай Маці яшчэ зусім немаўлятка, але ўсё бачыць і малітву кожнага з нас чуе. А Маці Божая – прыгожая і дужа сумная. Яна свайго Сына да сэрца прытуляе, і так ёй хочацца, каб маленькі Ісус быў шчаслівы... Ці ведае яна, як потым усё абернецца? Мне бабуля расказвала, што потым, калі Божанька вырасце, яму здрадзяць вучні, а людзі, якія яго раней праслаўлялі, захочуць, каб Ён памёр на крыжы... А Немаўлятка на іконе ўжо ведае пра гэты свой лёс, і Маці Божая ведае, таму такая сумная... Але сёння асаблівы дзень – Божанька ўваскрэс! Гэта значыць, што смерці няма, і ўсе мы будзем жыць доўга-доўга. Гэта, як дарога, якая ідзе за небакрай і няма ёй канца...

Ікона Казанскай Божай Маці належала бацькам маёй бабулі, Данілу і Вользе, іх раскулачылі, саслалі ў Сібір і болей пра іх бабуля нічога не ведае... Ды гэта не значыць, што дарога маіх прадзедаў абарвалася. Проста яны пайшлі за небакрай, а бабуля засталася, нарадзіла маму, дзядзьку Івана і дзядзьку Міхася, а яны – усіх нас, сясцёр і брата. І калі наша дарога таксама зойдзе за гарызонт, нашы дзеці і ўнукі будуць вось так стаяць і глядзець удалеч, думаць, што канца краю гэтай дарозе няма...

У вайну абраз Казанскай Божай Маці ўратаваў бабу Муру і маму. Калі яны хаваліся ад фашыстаў у лесе і пачынаўся абстрэл, бабуля садзіла на калені малую маму, і захінала абразом, як чароўным шчытом. Аднойчы яны сядзелі ў акопе, і снарад разарваўся зусім блізка. Іх штурханула паветранай хваляй, і па абразу дзінькнуў асколак – адзін, другі... Паглядзелі пасля і пабачылі, што са зваротнага боку, які быў падшыты нейкай металічнай пласцінай – дзве выбоіны. Так бы і абарвалася іхняе жыццё, калі б не абраз. Божанька і Божая Маці дапамаглі выжыць усяму нашаму роду...

...Калі памёрла мая бабуля, я ў Палтаве адчула, што абраз кліча мяне. Забрала яго з пустой асіроцелай хаты ў Сястронках, павесіла на сцяну ўжо ў сваім доме. Калі зірнула на Святыя Лікі, у першы момант нават галава закруцілася: цёмныя, нібы прытрушаныя пылам часу, Ісус і Багародзіца выпраменьвалі цяпло...

* * *

– Ну вось, памаліліся і добра, цяпер можна ісці глядзець, як таньчыць сонца, – сказала баба Мура і зірнула ў мае вочы. У гэты момант я адчула, як дабрыня Багародзіцы з карых вачэй бабулі ўліваецца ў маё сэрца, і гэтае сэрца становіцца такім вялікім, што можа ўмясціць у сябе і бабулю, і нашу хату, і двор, і царкву, і цэлую вёску, і ўсю маю Радзіму з яе птушкамі і дрэвамі, жытам і васількамі...

Мы стаялі на ганку і глядзелі, як над лесам узыходзіць сонца. Яно пяшчотна кранался верхавінаў дрэў, і яны хісталіся туды-сюды, нібыта ў танцы. Вакол сонца гарэў арэол, які нагадваў мне німб на абразах...

– Вясёлка, глядзі бабуля, якая вакол сонца вясёлка! – крычала я і падскоквала, як маладзенькае казлянятка, толькі б даўжэй бачыць гэткае дзіва. Тады бабуля ўзяла мяне на рукі, і разам з ёй я стала нашмат вышэйшай. Проста над лесам я пабачыла сонечную дарогу, якая ідзе за гарызонт і няма ёй ні канца, ні краю...

*(Заканчэнне будзе)*

## Уладзімір Мароз



...Жыццё заўжды багатае на дзівы,
Калі ты сэнс яго спазнаць дарос...

# Мой гербоўнік

***Шляхецкая нізка***

### *РАДАВОДНЫЯ ЗНАКІ*

*Імя ёсць знак*

Туман падступна-мройлівы, густы –
Ад мітусні адхланне, перадышка.
І наплыве, калі сам-насам ты:
Мароз, Міцкевіч, Дземідовіч, Кішка.

Усе чатыры прозвішчы твае,
Хоць ты адным вядомы ў гэтым свеце.
Праз іх відушча повязь паўстае,
Наказ ад продкаў – жыць па Запавеце.

Туманам злучыцца стагоддзяў плынь,
Праз вэлюм часу бачыцца яскрава:
Лячу з Пагоняй, рвуся ў далячынь,
Каб выгнаць ворага – такая справа.

Ды замка гмах узводжу на вякі,
Каб мацавалася штораз Айчына.
Дух перамогі ўзвысіць трапяткі,
Энергій згустак коціць несупынна.

А на картушы брамы зладжу герб –
Тым замацую годнасці кляйноты.
Залашчу свой неўтаймаваны сверб
Шляхецкай вольнай непазбыўнай цноты.

### АСТОЯ[1]

*Гэтым здабудзеш перамогу*

Сплывуць гады-стагоддзі, застанецца
Амбівалентнасць: ветах – маладзік.
Спалучны стан ніколі не парвецца,
З якога боку ты не паглядзі.

Сягоння месяц маладосць вястуе,
А неўзабаве старасці крыжы.
Між іх жыццё – пражыў ці не ўпустую?
Давай адказ, па шчырасці кажы.

Было ўсяго, як ёсць жыццё адвеку –
Кахаў-любіў, змагаўся, бунтаваў.
І бараніць Айчыну чалавеку
Трывала ўвек адной з галоўных спраў.

Арду прагнаў Пагоняю імклівай,
Не пойдуць больш туды, дзе ёсць Мароз.
Жыццё заўжды багатае на дзівы,
Калі ты сэнс яго спазнаць дарос.

Твой меч таксама – знак амбівалентны:
Не ў похвах ён, хоць тронкам дагары.
І бой, і мір – адно, ты запаветна
Нязводнасць волі людзям падары.

### ГІПАЦЭНТАЎР

*Забі ворага ў сабе*

Было, было і мірнае жыццё,
Дзе ні мяча, ні дзіды, ні гарматы.
Ад ворага збавенне, забыццё –
Ніхто нікому больш не вінаваты.

Падумаць можна рупна аб душы,
Развагі лягуць на шчыце ў малюнак.
На дапамогу міф разварушы,
Адкуль кентаўр ідзе як паратунак.

Глядзі, глядзі – там хвост змяёй паўстаў,
Кентаўр, хутчэй назад ты азірніся!
Не зробіш, змей, сваіх ты подлых спраў –
Маёй стралы-адплаты сцеражыся.

Тады, тады на праўду час праб'е,
Калі дабро паднімецца над светам.
Забі спачатку ворага ў сабе –
Той запавет Міцкевічаў аб гэтым.

Шляхецкай годнасці надзейны знак
Мецць зброю, каб пазбавіцца ліхога.
Адчуеш зноў жа перамогі смак,
Яе здабудзеш з Божай дапамогай.

### ДУБРАВА

*Перамагаю, але не шукаю*

Я не птушка з прабітым крылом,
Хоць хацелі не раз ужо знішчыць.
Я – ваяр з маім верным канём –
Не адседзіш свой бой на гарышчы.

Вораг лезе забраць гэты край
Мы з Пагоняй ляцім бараніцца.
У руках цвёрда зброю трымай,
Каб свабоды сваёй не пазбыцца.

І нашчадкам сваім раскажы,
Перамогі пазнач ім у слове.
Кавалерскія сведчаць крыжы,
Ажно тры, ды на срэбнай падкове.

Як сябруеш з сваёй галавой –
Праз раку забыцця маеш броду.
Я, нашчадак, душою з табой,
Слаўны Кішка, магутны мой продак.

## КАРЧАК

*Пачынай са свайго агменя*

Я шукаў, дзе тры рэкі мае? І знайшоў –
Грыўда, Шчара і Нёман да мора імкнуцца.
На шчыце тры палоскі малюю наноў –
Праз той герб мне стагоддзі наўсцяж адгукнуцца.

Адплылі, як і воды па рэках маіх,
Што на гэтай зямлі маюць руслы спрадвеку.
Так мінулае раптам упляжыць пад дых,
Каб бяспамяцтва збыўся, каб стаў чалавекам.

Каб згадаў, дзе балота Пагоня** ляжыць –
Там, дзе Грыўда ўліваецца водамі ў Шчару.
Гнаў чужынцаў без страху, як мае тут быць,
За свабоду Айчыны прыносіў ахвяру.

Лес Літва*** сустракаў пераможцаў як след –
Князь Мароз і яго баявая дружына
Баранілі свой край ад нашэсцяў і бед,
Расціскалася супраць чужынцаў спружына.

Трыста вояў-ліцвінаў у шэрагах тых,
З імі верны мой пёс неад'емна на стражы.
Гэтай згадкай сябе не забудзешся ты –
Памятай праз стагоддзі на час той адважны.

Памятай, што Літва – наш наднёманскі край,
Дзе тваіх вечных рэк беларускіх сутокі.
Так гісторыі краю даніну аддай –
Добрай весткай плывуць над зямлёю аблокі.

## ЛІС

*Служу Айчыне, адказваю перад Богам*

Кожны скажа вам – хітры, як ліс,
І ад праўды зусім недалёкі:
Чалавек не выходзіць на "біс",
Калі кружаць ваенныя скокі.

Лепш тут хітрасцю ўзяць, чым аддаць,
Шмат ахвяр на аўтар перамогі.
Агнямётныя стрэлы ляцяць –
Кліч харугвам прыйсці на падмогу.

Знак стралы, даляцелай да нас,
Стала стаў у чырвоным у полі.
Крыж падвойны тут з'явіцца ўраз,
Дадае хрысціянскай спатолі.

І кляйнот аніяк не адняць,
Дзе над прылбіцай годна ў кароне
Залатога паўліса відаць.
Мы старонку на тым перагорнем.

Кліч, Міцкевіч, усіх за сабой –
Хай здымаюць са стрэл апярэнне.
Перманентны адступіцца бой,
Іншасвет будзе нам вымярэннем.

## ЛЮБІЧ

*Першы сярод роўных*

Я пехам не пайду ў апошні бой,
Шляхецтву роўня толькі збройны вершнік,
Які пакліча ў прышласць за сабой,
Наяве сцвердзіць – быць заўсёды першым.

На тым адвеку цвёрда мы стаім –
За волю бой не ведае знямогі.
Стаіць падкова на шчыце маім,
І два крыжы адзнакай перамогі.

Не толькі той, здабытаю мячом,
Але й духоўнай знак узнагароды,
Якую мы ад Бога дастаём,
Калі нябесныя паклічуць зводы.

А на зямлі ўсё бачыцца прасцей –
Падковы знак вястуе і аб шчасці.
Стварай сям'ю, гадуй сваіх дзяцей –
Людское долі зведаеш прычасця.

Як дадзенае звыш свой лёс прымай,
Усё суладна прагучыць на дзіва.
Наканаванне горда датрымай –
Міцкевіч, брат мой, мы з табой радзіна.

## *НАЛУЧ*

*Памятай аб жыцці*

Аб радасці вястуйце ўсцяж званы –
Жыццё раздольна абяцае цноты.
На досвітку вярнуўся я з вайны,
Змяню апратку і пайду ў залёты.

На голаў хустку срэбну павяжу,
Каб прыцягнуць пагляд сваёй дзяўчыны.
Ёй аб каханні ўранні раскажу,
Адмовіць мне не будзе больш прычыны.

Гісторыя вядомая здавён –
Удвух калі, дык быць наканаванню.
Яна – Міцкевіч, Дземідовіч ён,
У промнях сонца гімн гучыць каханню.

Хусцінка-знак застыне на шчыце,
Кляйнот – дзяўчына між рагоў аленя.
Выяву герба нам жыццё спляце,
Не пакідай адно аб ім малення.

## *ПАРАЙ*[4]

*Шчаслівы той, хто кахае*

Спарадчы справы ты свае штораз,
Калі рахуеш роздумаў высновы.
Нарэшце знойдзецца адзіны сказ,
Засвеціцца пяшчотай новай.

Адам Міцкевіч мог яго знайсці,
Равеснікам спяваў ён аб каханні[5],
Чаго ў жыцці ніяк не абыйсці –
Адзіна праз яго дастаць адхлання.

Цар-кветка, ружа-альба ў цішыні
Раскрые для цябе свае пялёсткі.
Запомні дотык пекнай чысціні,
Каб першасмак не знік за часам жорсткім.

Навек засведчыць свету пра любоў
Знак срэбнай ружы на чырвоным полі.
Яна спатольна расхвалюе кроў,
Цябе з жыццёвай вызваліць няволі.

## РАВІЧ

*З выпрабаванняў з гонарам*

Паслухай, брат, адметную прыгоду,
Мядзведзя дзіўна як змагла скарыць
Дзяўчына з Дземідовічава роду –
З Канфузіі Вікторыю стварыць.

Каб збыцца ад суперніка-нашчадка,
Дзяўчыну ўпхнулі гвалтам у бярлог.
Фіналу простая ідзе разгадка –
Адтуль вярнуцца ўжо ніхто не мог.

Але не так было за гэтым разам –
Мядзведзь скарыўся мужнасці яе.
Малюнак ворагам нясе паразу –
Тут звер вярхом праехацца дае.

Бяры за прыклад, як з выпрабаванняў
Суровых выйсці, гонар годна мець.
Хто заслужыў – дастане пакарання,
Неміласэрны будзе ім мядзведзь.

А да паненкі пекнай свайго сэрца
У лапе ружачку трымае ён.
Кляйнотны знак той рыцарствам завецца,
Трымай яго праз згубу шэрых дзён.

## ЯЛІТА

*Мужным лёс дапамагае*

Колькі зведаў я бітваў – лічыць абцяжарыцца слых,
Аніякаю мерай ваярскія дзеі не змераць.
Гістарычны спарыш мой, бяром мы з табой перадых,
Каб згадаць аб здарэнні, якому не кожны дасць веры.

Тая бітва была не апошняй, ні першай – глядзі,
Словы “Грунвальд-Дуброўна” над светам лятуць праз стагоддзі.
Як і “Вільня”, наш кліч баявы і суладны наўздзіў –
Неад’емна лунае ўгары перамогі нязводдзе.

Я ў баі атрымаю ад першае дзіды зварот,
І другая, і трэцяя ўжаляць – ляжу бездыханны.
Адляжуся, вантробы наноў уладкую ў жывот,
Ажыву пераможцам, на дзіва загояцца раны.

І вярнуся дадому ў свой лес, дзе пякучы Мароз,
Дзе спатолі даюць блаславёныя цішаю зімы.
І мой дзікі казёл мне чарговую вестку прынёс –
Зноў чакаюць сябры-ваяры – абарона Радзімы.

З тых часоў залатыя тры дзіды на тарчы наўскос,
Мае продкі гатовы зноў за Айчыну змагацца.
Ды няхай ужо Марс не зачэпіць вайною наш лёс,
Не ваярскай, а мірнай хай будзе стваральная праца.

## ПОВЯЗЬ СТАГОДДЗЯЎ

*Крычы аб сваім*

Як будзеш ведаць продкаў – сам жывеш,
Трывала на сваёй зямлі стаіш ты.
Складай аб тым хоць сагу, а ці верш,
Ці ўзнось да неба светлыя малітвы.

Сабе кажу я – аб сваім крычы,
Каб зразумець – дзе завапет падзелі?
Мароз, Міцкевіч – продкі па мячы,
А Дземідовіч, Кішка – па кудзелі.

Праз тлум стагоддзяў бачу ваш пагляд
І запытанне – як трымаеш годнасць?
Ідзём-брыдзём, шукаем райскі сад,
Дзе беларуская жыве нязводнасць.

Мацуйся духам, думай аб сваім –
Абмыешся спатоляй дабраводдзя.
Навала немачы развеецца як дым,
Нанова повязь ажыве стагоддзяў.

---

[1] Назвы беларускіх прыватных гербаў згодна кнігі Уладзіміра Крукоўскага “Срэбная страла ў чырвоным полі”.

[2, 3] Балота Пагоня, лес Літва – геаграфічныя назвы ў Івацэвіцкім і Слонімскім раёнах Беларусі.

[4] Парай – герб таксама і роду Адама Міцкевіча.

[5] “Я пра каханне пеў равеснікам сваім” – радок з санета Адама Міцкевіча “Прабачэнне”, пераклад Кастуся Цвіркі.

Вячаслаў Лапцік



...вялікае шчасце, калі адно і тое адначасова прыходзіць для дваіх...

# Афрыканачка

***Апавяданне***

У час летніх канікулаў мне нечакана пашанцавала патрапіць ва Усесаюзны аўтацягнік “Дружба” для замежных студэнтаў. Аўтапоезд сабраў шмат хлопцаў і дзяўчат з розных краінаў свету, але найбольш іх было з Афрыкі і Лацінскай Амерыкі.

Тым гарачым летам нашая доўгая аўтакалона з двух дзясяткаў новых венгерскіх чырвоных “Ікарусаў” пад пільнай аховай міліцэйскіх машынаў з міргалкамі круцілася па Беларусі. Прымалі ўсюды нас паказушна і з высокай пампезнасцю. Кармілі смачна – вячэралі мы звычайна ў рэстаранах пад музыку, куды простаму студэнту-эсэсэсэраўцу амаль не трапіць з-за надта высокіх цэнаў. На начлег спыняліся ў добрых гатэлях або ў новых студэнцкіх інтэрнатах з дзвярыма без павыдзіраных ручак і выламаных замкоў, ложкі былі засланыя чыстай і папрасаванай бялізнай, а з падушак камякамі не вылазіла пажоўклая і збітая вата.

Жылі мы дружна і весела, а з некаторымі сваімі равеснікамі, няхай, як кажуць, тыя з мангалоіднымі тварамі альбо афрыканскімі, чорнымі ці жоўтымі, я пасябраваў. Мне адразу кінулася ў вочы адна цёмна-жоўценькая прыгажунька, звалі яе Марыя-Яўгенія і нарадзілася яна ў далёкай афрыканскай Гвінеі за тысячы кіламетраў у Заходняй Афрыцы.

Самабытная і кідкая прыгажосць ёй дасталася па спадчыне. Маладзенькая мулатка, на той час студэнтка аднаго з украінскіх інстытутаў, мела бацьку белага партугальца і маці афрыканку. Як яна мне растлумачыла, еўрапеец ажаніўся з мясцовай дзяўчынай толькі таму, што тая лічылася агульнапрызнанай афрыканскай прыгажуняй, ад якой млелі ўсе цемнаскурыя аўтарытэтныя кавалеры.

Афрыканка сваімі падкрэслена роўнымі рысамі твару, моцнымі ножкамі з адточаным станам і позіркам адразу прыцягнула маю ўвагу. Мне спадабалася гэтая дзяўчына з пастаяннай, няхай часамі і сарамлівай усмешкай на вабных багатых вуснах. Яна заўважыла маю цікавасць і недзе на трэці дзень сумеснай вандроўкі перасела да мяне, каб быць побач, закінула нага за нагу, ад чаго лёгкая светла-блакітная сукенка падкурчылася, а верхняе мілае сцягно стала яшчэ больш па-афрыканску поўненькім і прыцягальным для хлапечага вока. Яна без усялякай патрэбы паправіла над ілбом густыя курчавыя валосікі і спакойна сказала:

– Еду вместе... Не баісяя...

Пасля гэтага мы з ёй разам хадзілі на канцэрты і прагулкі, харчаваліся ў рэстаранах толькі за адным сталом, і калі нехта прыпазняўся, то другі абавязкова прытрымліваў месца. Проста клаў на сядзенне кніжку або газету і папярэджваў усіх, хто яго хацеў заняць, што чалавек затрымліваецца.

У магілёўскім рэстаране гатэля, падцікаваўшы, пакуль мой выкладчык-наглядчык некуды выйдзе, я хуценька папрасіў сухога, хай і самага таннага віна. Мы дзынкнулі бакальчыкамі і выпілі, а пасля ў абліпачку пад інтымны голас млоснага Дэміса Русаса доўга танцавалі танга. У абліпачку – значыць надзвычай моцна абняўшыся і з жаданнем прыцiснуўшыся адзін да другога. Чароўны голас грэка, якога тады ўсе надта любілі і аж млелі, мяне таксама ўміляў, кроў і кіпела ў жылах, і калі я застываў пад музыку на месцы і пачынаў пяшчотна гладзіць ейную спінку, яна не працівілася, а яшчэ больш злівалася са мной. Яе мілы для пацалункаў роцік (Божа мой, якімі ты казачнымі вуснамі надарыў жоўценькіх мулатак!) застываў каля майго вуха, і тады чуў я ўсхваляванае і частае дыханне...

А ў ейных вялізных карых вачах бачыў я застылае пытанне: што далей? Прынамсі, мне так падалося. У нечым я мог і памыліцца, бо дакладна прадказаць ейнае жаданне, гледзячы ў жаночыя вочы, – справа вельмі складаная, хоць і інтрыгуючая.

Калі голас Русаса заціхаў, мы таксама нейкі час стаялі абняўшыся, і бачыў я пад лёгкай сукенкай высокія грудзі, а яны часта ўздымаліся ад хвалявання, бачыў асалодна прымружаныя вочы. Яны проста заманліва клікалі мяне, беларускага вясковага хлопца на больш рашучыя дзеянні, прымушалі знайсці ў сабе сілы і растаптаць мяжу боязі. Каб прыўзняць уласную планку мужчынскасці і наталіць спакуслівае прыроднае жаданне. Тады я мог паклясціся, што яе густыя афрыканскія валасы, такія чорныя і густыя, пахнуць сокам маладой пальмы – тым казачным дрэвам, што захапляла мяне з ранняга дзяцінства і якое я чамусьці лічыў найвышэйшым і найпрыгажэйшым у свеце. Яно расло ў тых самых густых непралазных джунглях...

“Рызыкнуць – не рызыкнуць? – я так і не мог прыняць разумнае рашэнне. – Але ж трэба быць надта асцярожным, бо яна не тое што наша... Марыя-Яўгенія ж афрыканка, з-за якой можна так “пагарэць”, што не адыдзеш да канца жыцця!”

Перад самым ад’ездам нас, маладых беларускіх студэнтаў, два мужчыны з рэктарату і два дзядзькі ў цывільным сабралі ў аўдыторыі ўнівера і доўга мурыжылі, даводзячы, што трапіць у аўтацягнік “Дружба” маюць гонар выдатнікі і правераныя студэнты. І не дай Бог там, у дарозе, каму-небудзь павесці сябе амаральна, прыабняць замежніцу ці засвяціцца павышанай цікавасцю да людзей з-за мяжы – з імі на лішні кантакт ісці катэгарычна забаронена! Праўда, што такое “лішні кантакт” мы, хлопцы, не ведалі, толькі інтуітыўна здагадваліся: гэта значыць, з імі нельга часта і доўга размаўляць і трэба ўцякаць ад замежніка, які з табой намерваецца паразмаўляць. Асабліва насцярожана ставіцца да тых, хто пачне распытваць пра воінскія часці, усуне нос у негатыўныя бакі нашага быцця ці занадта пачне цікавіцца ўмовамі працы калгаснікаў. У падобных выпадках адразу дакладваць свайму куратару, а каб не засвяціцца, такое трэба рабіць без сведак, нават можна ноччу падняць таго з пасцелі і ўціхую перадаць – такое дазваляецца і нават вітаецца. За падобнае стукацтва абяцалі пры вяртанні ўзнагароду і ўдзячнасць ад імя рэктарата. Асабліва сурова нас папярэджвалі пра адказнасць за “желание сойтись с иностранкой”. “Тут ужо ніхто факты правяраць не стане і капацца доўга не будзе, адбылося ў вас гэта самае ці не”, – катэгарычна даводзіў нам неяк расстроена памочнік рэктара ў белай кашулі і белых штанах і часта апускаў долу вочы, быццам сам некалі пагарэў на нечым падобным і ведае, як гэта небяспечна. Ён апрануў усё белае, а выглядаў надта сурова, з такім хмурым тварам, і калі разважаў пра студэнтак і персанальную адказнасць кожнага, то жаўлакі на ягоных шчоках без толку каталіся туды-сюды.

– Кароткая пісулька ад аднаго чалавека, што будзе за вамі сачыць дзённа і ночна – і бывай вучоба, – казаў ён, – адразу керзавікі на ногі, анучы пад пахі, і загрыміш туды, у войска ў здзеклівым званні радавога...

Яны ўсе па чарзе падкрэслівалі, што мы, савецкія людзі, павінны разам садзейнічаць выхаванню замежнікаў, пераконваючы тых, маўляў, вучыцеся, таварышы і сябры, зайздросціце і набірайцеся вопыту ў будаўніцтве камунізму на зямлі, ідучы з намі нага ў нагу, тады і вашы народы абалдзеюць ад шчасця, ніколі не адчуваючы праблем і дэфіцыту, і вы адчуеце сапраўдны рай, а пасля пройдзе пару дзясяткаў гадкоў – і сумеснымі намаганнямі раздушым паскудных буржуяў, бо тыя зараз, абабраўшы просты люд, жывуць на апошнім здыханні, надышоў час іхняга поўнага заняпаду і краху...

Я выдатна ведаў куратара ў кожным “Ікарусе”, хто можа падвесці нас пад манастыр і залажыць, мазюкнуўшы дурную паперку: узростам і знешнім выглядам яны адразу выпадалі з абоймы нас, маладых і вясёлых хлопцаў і дзяўчат. Таму не тое што баяўся, а проста асцерагаўся пажылых і нейкіх няўклюдных дзядзькоў у аўтобусах больш за ўсіх, нават за выкладчыкаў, якія там-сям сядзелі сярод студэнтаў.

Нашае жыццё на колах з дробязямі і некаторымі асобнымі мізансцэнкамі, калі нехта з некім заігрываў або зачаста кантактаваў, не магло прайсці міма вачэй тых кемлівых і спрактыкаваных наглядчыкаў. Ніхто з імі не меў ніякіх кантактаў і мець не хацеў, мы іх проста абыходзілі бокам,

хоць месціліся тыя ззаду і на ўзвышэннях, адкуль добра праглядаўся доўгі салон. Адтуль выдатна бачылася, хто з кім размаўляў і жартаваў, сядзеў і пачынаў неўпрыкмет сыходзіцца. Вартавыя маўкліва за намі сачылі і такога не хавалі. Харчаваліся яны з намі, хоць і месціліся за асобнымі сталамі і па кутках, хадзілі на канцэрты разам і рассыпаліся звычайна па ўсёй зале, начавалі па адным у сваіх пакоях, доступ куды быў нам закрыты, хоць, шчыра кажучы, нас і не цікавіла тое, чым яны доўгімі вечарамі займаюцца, глядзяць тэлік ці жлукцяць піва. Мы проста іх асцерагаліся і абыходзілі бокам, каб не мець нічога агульнага і не выклікаць у дзядзькоў ніякай падазронасці, бо такі інтарэс, адчувалі, нам карысці не прынясе.

Маім аўтобусным назіральнікам быў нейкі Аляксандр Фаміч. Круглатвары і невысокага росту, з вялікай залысінай над лобам, ён запомніўся тым, што меў занадта доўгі нос, як у таго гусака, і звычку сістэматычна пагладжваць кончык носа ці вырываць валасінкі са сваіх шырокіх ноздраў. Не ведаю, гэта было ягонай звыклай забавай ці такое жаданне надыходзіла ў час глыбокага роздуму пра маральнае аблічча савецкага студэнта, але вось едзе ён у аўтобусе, пацярэбіць рукой сваё насішча, уставіцца вачыма ў салонную публіку, а затым засуне два пальцы ў ноздру, намацае там валасінку і скубе. Пасля разглядае яе ўважліва, як той скрупулёзны мікрабіёлаг праз мікраскоп, нібы ацэньваючы шкоднасць і колькасць шкодных бактэрый.

І вось тады, у магілёўскім рэстаране, я набраўся смеласці і прыабняў сваю афрыканку: “Правядзём вечар разам?” Сказаў ціха, але даволі рашуча, а сам у гэты час падумаў: чаму бываць – таго не мінаваць. Надышоў час беларускаму хлопцу рызыкнуць, а пасля памяць пра гэта застанецца на ўсё жыццё!

“Пагодзіцца ці не?” – тухкала ў маёй свядомасці.

І раптам яна ледзь прыкметна кіўнула галоўкай, вельмі ўважліва зазірнуўшы ў мае вочы і ціха сказаўшы: “Пойдзіш ка мне”.

Узяўшыся за рукі і міла размаўляючы, мы са сваёй афрыканкай вярталіся з рэстарана. Яна надта разгаварылася, як ніколі, і тут я адчуваў, што гэта не проста так – яўна нервуецца і хоча прыкрыць сваю нерашучасць, бо, хутчэй за ўсё, у галаве пракручвае розныя варыянты – што атрымаецца далей? Напэўна, перад паездкай іх таксама пужалі адказнасцю за “забароненыя сувязі”, казалі пра тое, што за падобныя дзеянні можна выляцець імгненна з інстытута і зноў чакае вас гарачая і галечная Афрыка з малпамі і сухімі вятрамі, і беднае жыццё без пабудаванага сацыялізму.

Ужо ссутонела, але надвор’е стаяла па летняму цёплым, а вечар ціхім. Барвовы захад наклаў на горад цёмна-памаранчавы колер, і ўсё навокал было для мяне ўзнёслым і ўрачыстым. Лёгкай і мілай афрыканачкай выглядала і Марыя-Яўгенія ў сваёй ярка афрыканскай блузачцы без каўнерыка і рукавоў, але з шырокімі кутасікамі зверху.

Яна ўсё старалася сваімі мяккімі пальчыкамі неўпрыкмет паказытаць далоньку маёй рукі, за якую надта моцна трымалася, і тады нутро маё поўнілася вялікай пяшчотай і прадчуваннем нечага нечакана асалоднага, чаго, выдавала, я не адчуваў ужо даўно, хоць часта гуляў па Мінску з прыгожымі дзяўчатамі. У нас з’явілася нясцерпнае жаданне адасобіцца ад народу і застацца толькі ўдвух, каб ніхто не бачыў і мы нікога не чулі. Каб можна было нікога не баяцца, не саромецца і гаварыць пра самае сакрэт-

нае, чаго пры людзях не скажаш, заняцца тым, чым хочаш і да чаго так моцна цягне. Галоўнае, разважаць як хочаш і нікога не асцерагаючыся, у ціхай інтымнай атмасферы, абняўшыся і занурыўшыся ў цёплай пасцелі, калі мы аддадзены толькі самім сабе...

І вялікае шчасце, калі адна і тая спакуслівая пажадлівасць адначасова прыходзіць для дваіх.

Але пра сваё жаданне адкрыта яна не магла сказаць ці нават намякнуць: у такім выпадку, я ведаў, кавалер сам павінен браць ініцыятыву ў свае рукі.

Мы маўкліва, але спяшаючыся, каб надта не прыцягнуць увагі, падняліся на чацвёрты паверх і выйшлі з ліфта. Доўгі калідор быў пусты, на ім, дзякуй Богу, нікога. Тады я смела ўзяў яе за руку, паказваючы, што зараз кірую працэсам і таму ёй неабходна падпарадкоўвацца ўсім маім настойлівым намерам.

Спачатку ўбачыў у вялікіх вачах дольку здзіўлення разам з прыхаваным жаданнем, яна не ўпарцілася, а вельмі спакойна ішла са мной, быццам у чытальную залу, і мне стала зразумела: трошкі саромеецца і не ў сілах прызнацца!

Яна дастала свой ключ з нейкай доўгай меднай разгравіраванай надвязкай, якія давалі толькі замежнікам, бо нам уручалі ў гатэлях самыя звычайныя, адамкнула дзверы, я пераступіў парог і тут жа адчуў гарачыя жаночыя рукі на сваёй шыі. Яны былі не проста цёплымі, а перагрэтымі, быццам яшчэ не астылі пасля гарачага афрыканскага сонца. Далей я не паспеў праявіць першым сваю ініцыятыву, хоць надта да падобнага імкнуўся: яна ўся прыпала да мяне, прыціснулася і жарснымі пацалункамі асыпала ўвесь мой твар:

– Любы... Цібя любы... – Задыхалася і не магла гаварыць, нібы пару хвілін назад з асалодай доўга ныраў у салёным моры, і таму яшчэ цяжка адыходзіць і надта часта дыхае, бо лёгкім не хапае паветра.

Каля дзвярэй мы застылі ў гэтых зацяжных абдымках, я адчуваў пахучы водар яе афрыканскага цела, з маленькіх гадоў абласканага марской вадой, непраходнымі густымі джунглямі і гарачым сонцам. Я не мог чакаць і спяшаўся адразу зацягнуць яе ў кут пакоя, дзе святлеў гатэльны драўляны ложак з высокім пярэднім брыжом. Але яна не хацела пагадзіцца на асалодныя адчуванні груба і па-славянску, без усялякай прэлюдыі насычацца жарсцю, як у нас прынята ад дурнога нецярпення і вечнай нястачы часу, таму са спрытам афрыканскага звярка напружылася і ўперлася, выгнулася і, застыўшы на месцы, спрытна ўхапілася за жалезныя кручкі вешалкі каля вушака дзвярэй:

– Не-не... Патом, ждзі!..

Тады ў галаве савецкага студэнта, зацыкленага на хуткім будаўніцтве камунізму, усё ж прабілася цвярозая думка: сапраўды, чаго я рвуся, так нельга! Дзе ж падрыхтоўчы этап, як кажуць? Па рабоча-сялянску, вераломна, як улады робяць у савецкай краіне, непрыстойна і не цывілізавана. Паддаўшыся яе ўгавору, але не адпускаючы прыгажуню, бо баяўся, што тая можа імгненна астыць і выскачыць за парог (зноў жа, наша беларускае “Каб нешта не здарылася!”), я пацягнуў каханку да мяккага фатэля пасярод нумара. Яна ішла без асаблівага жадання, але па-ранейшаму не ўпіралася. Хоць фатэль быў цеснаваты і аднамесны з круглымі тоўстымі падлакотнікамі, але мы неяк прыстроіліся. Сагнуўшыся амаль дугой, я няўклюдна ўлёгся на скрыпучыя спружыны, абхапіўшы ейную талію, а

яна абвіла рукамі маю шыю, лёгкае цельца маладзенькай гнуткай пантэры прыхінулася да мяне, і вусны зліліся.

Нас выбіў з каляіны і вярнуў да суровых рэалій жыцця раптоўны і моцны грукат у дзверы:

– Срочно откройте! Сейчас же! – я пазнаў голас куратара – аматара ірваць валосікі з носу. Таго насатага дзядзькі, які сёння, калі нас вазілі па горадзе, нешта падазрона зыркаў на мяне з мулаткай, калі яна смяялася і дэманстравала свае прыгожыя асляпляльна-белыя зубы.

Я ўвесь здрыгануўся, быццам па мне імгненна праскочыў ток у трыста восемдзесят вольт. Заціх. Сэрца ў грудзях затрымцела веснавой птушкай, што трапіла ў клетку, а кроў прыліла да скроняў і цяжкім малатком застукала ў галаве.

Нервова заляскацела шырокая бронзавая ручка, тую часта торгалі. Я пачуў, як моцнае мужчынскае плячо настойліва шаруе па дзвярах, быццам тая прыбіральшчыца позна вечарам шырокай швабрай вырашыла іх моцна адмыць.

– Повторяю, сейчас же открой! – пішчаў той, хто днём сядзеў на сваім узвышэнні і нешта старанна натаваў у жмутку папер з заношанай папкі. Потым хаваў яе ў тоўстым дыпламаце, з якім не расставаўся ніколі, нават ідучы ў кавярню не пакідаў у нумары, і трымаў пры стале ў час харчу. Ствaралася ўражанне, быццам там ляжалі сакрэтныя распрацоўкі міжкантынентальных балістычных ракет, за якімі палявалі і рускія, і амерыканцы.

Глыбокі страх паралізаваў мяне: “Канец! Во дзе ўліп! Што рабіць? Загрымлю ў армію, выганяць з універа! А што скажу бацькам?”

Такую нечаканую навалу прадугледзець я не мог, цела маё абмякла і стала ватным, спакуслівае жаданне імгненна ўлятучылася і саступала месца поўнай разгубленасці. Ад нахлынулага страху воля мая не магла пярэчыць крыкліваму загаду, а абвялыя ногі самі аўтаматычна падымалі цела і неслі туды, да дзвярэй. “Хутчэй адчыніць! Каб падпарадкавацца насатаму мужлану і выканаць усё, што ён скажа”.

Ідэалагічнае выхаванне ва ўніверы ў атмасферы страху і масавага падпарадкавання так проста не праходзіла, нас прывучылі цвёрда да аднаго: чуеш загад кіраўніка – не думай і не разважай, тым больш не аспрэчвай і не шукай свае варыянты, а адразу выконвай! Ніколі не мазгуй над любым загадам зверху, не шукай розуму і не разбірай ягонага сэнсу, не лезь у дэталёвы аналіз, якім бы дурным і пустым той ні быў, гэта не твая справа, а спяшайся зрабіць тое, што скажуць. Зашпіленая наглуха металічная панцырная кашуля падпарадкавання і страху з вялікімі замкамі-гузікамі, без любых ячэек для паступлення свежага паветра, якую не скінеш і з якой не вылезеш, на ўсіх была зашпілена занадта моцна, яна ціснула і шчыльна аблягала ад галавы і да самых пятак, толькі пакінуўшы месца для слабенькага дыхання плоці.

І тут усю закладзеную ў маёй галаве праграму далейшых дзеянняў паламала яна, мая афрыканка. Марыя-Яўгенія адной рукой ухапіла маю шыю і яшчэ бліжэй прытулілася да мяне ў доўгім пацалунку, ад якога я проста разгубіўся. Яна проста трымала мяне і не пускала ісці ды адчыняць дзверы, быццам не зразумеўшы, у якім становішчы я апынуўся і што мне пагражае, а пальцы ласкава гладзілі галаву і казыталі мой твар.

– Любіма, не баісь... Ціша... – шаптала яна. – Адкрыць плёха... Всем плёха...

– Пусці! Не-не! Трэба адамкнуць! – дрыжыкі авалодалі маім целам, а неадольнае жаданне цягнула да дзвярэй з бронзавай ручкай, якая зноў моцна заляскала, я стараўся далей адпіхнуць яе, тую мілую, якую толькі што так пажадліва прыціскаў да сябе.

– Іцці страшна! Нельзя! – надрывіста шаптала яна, – я цібя не аддам! Люблю... Слышыш?

– Але ж там стукае, – я імкнуўся неяк вызваліцца з гарачых абдымкаў і выпрастацца ў вузкім крэсле ды падняцца, але яна трымала тоненькімі рукамі за шыю і не адпускала, – той самы плахой Аляксандр Фаміч стукае!..

– Ну і что... Не слушай іво!.. Нам с табой харашо, будь здесь са мною...

Я, наіўны беларускі юнак, рваўся хутчэй выканаць загад і расчыніць тыя цяжкія гатэльныя дзверы, выйсці на калідор і аддаць сябе на жорсткае шкамутанне, фактычна сваімі рукамі накідваючы грубую пятлю сабе на шыю. Я імкнуўся ўпусціць сюды тайнага наглядчыка, які, без сумнення, без усялякага жалю і разумення адсячэ мне галаву і прымусіць аднагалосна ўніверсітэцкую чэлядзь вытурыць мяне з навучальнай установы, і можа нават без права аднаўлення. І ўся дружная савецкая грамадскасць, даведаўшыся, што здарылася, і як гэты студэнт “нізка і амаральна” сябе павёў, зацягнуўшы на ноч дзеўку з іншай краіны ў пакой, рашуча мяне асудзіць: “Заслужыў, гэта ж трэба так абнахабнічаць і гуляць з афрыканкай!”

Я хацеў падняцца – але Марыя-Яўгенія павісала на мне, мацней ухапіўшы за шыю і прыціскаючы паміж круглых падлакотнікаў ды не дазваляючы ўстаць, цалуючы безупынна. Мне немагчыма было адкрыць рот і пакорліва вымавіць таму, хто злосна грукаў:

– Пачакайце, я зараз адчыню!

Прызнацца, што я тут, што ён не памыліўся і правільна мяне заспеў з дзяўчынай з далёкай краіны, я вось-вось адчыню і ўжо бягу-бягу...

Скрыпелі натужна спружыны ў старым крэсле, ейнае цела ціснула маю худую плоць і не дазваляла стаць на ногі, а гарачыя вусны рабілі бяссільным, бо я не меў магчымасці ад іх адарвацца, а на калідоры чуліся грубыя крыкі: “Откройте сейчас же!”

Той вартаўнік каля дзвярэй стаяў доўга, хвілін пятнаццаць, пастаянна бразгаючы ручкай, паказваючы, што ён на караўуле мяне чакае і сыходзіць не думае.

А яна адарвецца ад маіх вуснаў на пару секунд, ціха паўторыць добра знаёмае: “Толька не баісь!”, і ейная ручка залазіць пад кашулю, міла лашчыць маё цела. Так-так, я балдзеў, і на мяне находзіла нябеснае сущашэнне і тая асалода, ад якой мала хто з зямных істотаў можа адмовіцца ці перапыніць.

“Цс-с-с!” – нарэшце замерла, прыпадняла галаву і ўслухалася. Пасля ўзнагародзіла мяне доўгім пацалункам і лёгка саскочыла з месца, абцягнула сукеначку і пагладзіла маю галаву, затым, знакамі паказаўшы, каб я толькі сядзеў і не цягнуўся ззаду, на дыбачках падкралася да дзвярэй. Ішла настолькі ціха, што пачуць яе было немагчыма нават самаму чуйнаму вуху – так ходзяць афрыканскія хітрыя звяркі, баючыся крыважэрных драпежнікаў. Адтуль махнула мне рукой і прыклала пальчык да роціку, маўляў, сядзі і не варушыся, затым стала на калені і прыклала вушка да дзвярэй.

– Он ждет, – прашаптала ледзь чутна.

Яна стаяла там, прытуліўшыся да дзвярэй, і па-змоўніцку махала мне

рукой, каб я заставаўся на сваім месцы. Так прайшло пяць хвілін, дзесяць. Ціха паднялася на ногі і зноў замерла. Пераканаўшыся, што афіцыйны дзядзька, страціўшы ўсялякую надзею прабіцца ў пакой, нас пакінуў, афрыканачка на лёгкіх дыбачках пракралася назад і прыпала вуснамі да майго вуха:

– Посідім в ночы! О-о, мілай, я люблю цібя! І только! – і ласкавыя рукі пяшчотна казычуць маю патыліцу і прыціскаюць галаву ніжэй, і тады я пачынаю шукаць пальцамі яе налітыя маладыя грудзі пад летняй сукеначкай і чую частыя тухканні сардэчка.

– Сійчас мы вдваём! І нам нікто не нужэн! Ты ево не баісь, будзь герой! – шэпча яна. – Цэлуй міне! – вочы ў яе заплюшчаныя, – цэлуй отчэнь! – ейная галава нерухома адкінута назад, а вочы прыплюшчаны. Паўзмрок з вакна таямніча пераліваецца на шчоках. – Умееш?

Пасля нейкі нервовы цік нечакана прабег па ейным целе, рукі ўхапіліся за мае плечы, нібы шукаючы паратунку ў час падзення з вышыні, затым затрымцела, як маладое дрэўца ад нечаканага павеву ветру, ускінула галаву ўверх з заплюшчанымі вачыма ад страснага гартаннага воклічу: – Ой, ву-ву-ву!

Ён, той афрыканскі жаночы крык, дзіўны і незразумелы, жыве ў маіх вушах і, я перакананы, застанецца да самай смерці. Гэты гук яна мне падарыла, як можна дарыць на памяць нешта дарагое і матэрыяльнае, што захоўваецца і не выкідаецца, той самы медальён, пярсцёнак альбо каменную статуэтку.

Мы нейкі час сядзелі маўкліва. Астываў я, адыходзіла яна.

– Будь сдэсь! – не запальваючы святла, мулатка зноў паднялася і ціха пайшла, жывыя водбліскі ад ліхтароў за вакном гулялі па ей ценямі і прыносілі нейкую таямнічасць. Прытуліла вушка да дзвярэй і замерла, быццам насцярожаны ў джунглях афрыканскі звярок: – Пуста! – радасна шэпча адтуль. Ціха пстрыкнула ключом, бясшумна прыадчыніла дзверы і вызірнула на калідор. Бачна, яе спачатку штосьці насцярожыла, бо не выходзіла, а, трошкі прыадчыніўшы іх, застыла і нешта ўсё выглядала, а затым павярнулася да мяне і махнула рукой: – Сюда! Бегі!

На развітанне я ўзнагародзіў яе кароткім пацалункам і выслізнуў на калідор. І тады ў вачах пацямнела: проста насупраць на шырокай канапе, зняможана звесіўшы галаву на грудзі, стомлена раскінуўшы ногі ў бакі, ціха спаў мой страшны наглядчык са сваім прыстаўленым да нагі дыпламатам. Ён трымаў нейкую ручку, а збоку ляжаў вялікі разгорнуты сшытак. На дыбачках і ціха, як мышка, я крутнуўся за вугал.

Раніцай на сняданку ў рэстаране я нёс сабе на стол налітую гарачую гарбату ў шклянцы і хукаў на яе, каб не абпаліць пальцы. Мой суровы кантралёр з заспаным тварам сядзеў ужо за сталом і ўплятаў за дзве шчакі салат. Толькі дазволіўшы паставіць гарачае пітво, ён ускочыў, ухапіў свой дыпламат і панёсся да мяне. Груба рвануў за рукаво кашулі, стол тарганууся і мая гарбата плесканулася праз край шклянкі, карычневымі рагозамі паплыла па стале, зверху закапала на пустое месца маёй каханкі, але ён, не даючы ачомацца, настойліва пацягнуў да вакна. Прыпыніўшыся і агледзеўшыся навокал, каб ніхто не слухаў, злосна зашыпеў:

– Непростительно много позволяете себе вольностей и позорите звание советского студента! Думаешь, уважаемый товарищ, ты меня раскрутил? Шиш! Да, вчера хитро проскочил! – ён замоўк, рухаючы цяжкімі сківіцамі

і спешна дажоўваючы салат, а вадзяністая бурачковая сліна з’явілася ў куточках суровых вуснаў і з аднаго боку тоненькай палоскай пацякла па барадзе. Павярнуўшыся ў наш бок, палова залы перастала снедаць, застыла і з адкрытай цікавасцю сачыла за намі, дзякуй Богу, зусім не разумеючы таго, што тут адбываецца. Праўда, у “савецкіх студэнтаў” тое здзіўленне на тварах хутка замяніў непрыхаваны сполах: “Недзе, бядак, пагарэў на начных гулянках!” – Следующим разом запеленгую нарушение в докладной и выгоню, к чертовой матери, из бэгэу! Еще, молодой бабник, меня припомнишь!

Мне было ўсё роўна, злуецца спец на мяне і стругае свае пісулькі альбо не, бо ў вушах чуўся мілы галасок: “Толькі не баісь!” Ведаў, што той ноччу пагарэў і ў такую паездку мяне больш ніколі не возьмуць, але ж і адлічыць з вучобы не маюць падстаў. Аднак падобнае начное ліхацтва больш сабе я не дазваляў, у пакой да мілай дзяўчыны не заходзіў, а вось адкрыта сябраваць з ёй зусім не баяўся і спецыяльна дэманстраваў гэтую вольнасць. Пад здзіўленыя позіркі публікі мы весела размаўлялі і смяяліся ды злёгку абдымаліся ў аўтобусе. У час паездак яна тулілася і часта спружыністай ляшкай ціснула на маю нагу. І мяне неадольна цягнула прапанаваць ей перасесці на мае калені, а затым, абхапіўшы ў дзве рукі мілае гарачае стварэнне, з усёй сілы прыціснуць да сябе і цалаваць ды цалаваць, бесперастанку і да знямогі. І шчыра ёй расказаць, што яна мяне фактычна ўратавала той ноччу. Каб не такая дзяўчына, я, звычайны беларускі студэнт прывучаны ва ўсім павінавацца начальству, паказаў бы сябе трусам, аддаўся ў рукі суроваму дзядзьку, і мяне чакала б суровая расправа. Тэмпераментная вясёлая мулатка, якая вырасла ў густых джунглях Афрыкі, не затлумленая песнямі пра розных герояў і рэвалюцыянераў, паказала сябе ўдумлівай і дасціпнай, а, галоўнае, смелай і на галаву вышэйшай за мяне. Але ж я не мог ёй у падобным прызнацца.

Пасля мы вялі сябе надта незалежна і вольна. На паваротах Марыя-Яўгенія спакойна клала сваю галоўку мне на плячо ці пяшчотна абдымала за шыю, ільнула да мяне і я на поўныя грудзі прагна наталяў свой парфюмерны смак афрыканскім водарам ейных густых валасоў. Зрэдку кідаў вока на ўзвышэнне ў “Ікарусе” з ганарова ўссядаючым спецам і бачыў ягоны пачарнелы ад абурэння твар, а ён зыркаў у вакно і рабіў выгляд, нібы нічога не заўважае. Праўда, валосікі з носу выдзіраў часцей, чым раней. Але не ведаў, што ў душы я радуюся ягонай кіпучай злосці і апошнімі словамі праклінаю яго разам з усёй смуроднай хеўрай, што не дазваляе маладым людзям адчуць сябе раскаванымі, свабоднымі і вольнымі...

Яна Будовіч



...мы здолеем, усё стрываем,
Што ў марах назаўжды – жыве і будзе жыць!..

# Глыбее цемра ў кроку ад світання...

## *ЖАДАННЕ*

*Вікенцію Загавалку*

Ты не раскажаш мне,
Да каго дакранаўся думкай
У апошнюю ноч тваю
Перад расстрэлам
Тады, у студзені 38-га.

Мо да сірочае долі дачок
(Іх маці, Анэлю, забілі
Нажом у жывот,
Калі дзялілі тваю зямлю).

Мо да малодшага, вашага сына
З новаю жонкай, Марыяй,

Рукі чые дасталі
Цябе,
Лічы, з таго свету,
Калі атрымаў
25 нажавых
(Сабой захінаў Анэлю).

А можа, і да мяне,
Якая
Амаль праз стагоддзе
Ў першую раніцу
21-га года
Блукацьме сярод
Безыменных магіл
Тысяч такіх, як ты,
І памяці хмызнякоў,
Без пэўнае мэты.

...Ці ёсць падабенства
Ў Каляднай зоркі
З тымі,
Што кулі намалявалі
На грудзях у цябе, Вікенцій,
Тады, у студзені 38-га?

А ўзыдзе яна, Калядная,
Над краем збалелым,
Замыкаючы кола пакут,
І я за цябе
(Дарма, што запознена)
Загадаю жаданне:
Дочкам – мужоў лагодных,
Сыну – нязломнай волі,
Жонцы – каб хлеб у хаце.
Табе, Вікенцій, – абняць Анэлю.

Сама ж хачу я
Тайнапіс расчытаць
Гадоў тваіх непражытых...

* * *

Сонца маё, мой месяц...
Хто з вас больш патрэбны мне?
Сонца – далёка, яго чаканне
Сэнс надае

Ланцужку аднастайных дзён,
Моцы – узняцца
Над мурам будзённасці
І не зляцець пад адхон...
Месяц – скупы на цяпло,
Ды блізкі,
Люстэрка нібы,
У якім
Бачу сябе, —
Двайняты мы з ім.
...Сонца маё, мой месяц,
Каго не стае мацней?
...Ты – быццам дзень альбо ноч,
Па чарзе
Адной толькі з граняў сваіх
Вяртаешся да мяне.

* * *

Нешта ёсць па-за простаю музыкай словаў,
Што далоньмі тваімі кладзецца на плечы
І знясілены дзень ажыўляе нанова.
І ледзь чутна за спінаю дыхае вечнасць...

* * *

Апошні восеньскі дзень
Шэранню залатою...
Куды, у якія далі
Ляцім з табою?..
Што там, за краем Сусвету,
Яго недасяжнай мяжою?

А можа быць, гэта:
Апошні восеньскі дзень
З шэранню залатою...

* * *

Што за мроі душы навявае
Вечаровага сонца пагляд?
Яно промні палошча ў хвалях
Перад скокам за далягляд,
Высцілаючы сцежку да шчасця,
Што далёка па моры вядзе.

...Крок за крокам ісці б па ёй,
каб упасці
Ў абдымкі твае.

* * *

Фіранка прысадаў
Сонца хавае.
Яно
Нібы падглядае:
Не ўсё адно,
Ці складзецца сустрэчай
Пазл дня:
Размовы, званкі, жарты
(большасць іх – не да месца,
І толькі твае – дарэчы),
Звыклы такі дэпрэсняк...

* * *

Бясстрашна імкнуцца
Парасткі да святла
Скрозь асфальт —
Помняць яшчэ,
Што было
Там...
Невыказнае...

* * *

Вечар
Лезе ў пакой
Праз акно
І вязне, —
Становіцца вязнем
Калючых абдымкаў
Альясу,
Што на падваконні
Шчупальцы растапырыў.
Таксама
І мары, бывае,
Згасаюць
У хватцы практычных
Роздумаў —
Вязні
Цвярозага розуму...

* * *

Падушка месяца на неба прасціне.
Калыска горада і цені сноў.
Не спіцца толькі ходзікам і мне.
Яны ідуць па коле, я ўвесь час – дамоў...

* * *

*Эдуарду Дубянецкаму*

Цябе няма на гэтым свеце. А я жыву...
І нават радасці скупыя весткі
Трапляюць часам без абвесткі.
Трымаюць на плаву...

Як дзіўна. Прыкра, недарэчна:
Я – тут. Ты – там:
Ні атрымаць на ліст адказ,
Ні збудаваць маста...
Ды ўсё ж я некуды іду...
Нібы з табою на сустрэчу.

* * *

Апошні дзень зімы ў вясну дажджом сплывае,
Надзеі карабель як прывід на мяжы...
Дай, брат, руку – мы здолеем, усё стрываем,
Што ў марах назаўжды – жыве і будзе жыць!

* * *

Мінулых дзён сівыя вены
Наскрозь прайшлі муры і сцены:
Усё ў адным, адно ва ўсім
Сусвеце поўным і пустым....

* * *

Імжака снедае
Рэштаю снегу,
Што за ноч
Не паспела з’есці,
І агаляе схаванае
За тры замкі
Чаканне...

* * *

Сіроцтва стылы цень гусцее
Ў здзічэлым даўкім надвячорку,
І часу лютая завея
Шпурляе сэрца на іголкі
Тугі, адчаю, шкадавання
Аб тым, чаму няма вяртання,
І кокан з невідочных ніцяў
Так цісне, душыць... Знак спыніцца...
Дапяць: жыццё – супрацьстаянне...
Глыбее цемра ў кроку ад світання.

* * *

Маятнікам,
Спыненым у імгненні,
Поўня над горадам...

* * *

Слова – усё, што з табою маем.
Словам – адно для аднога – ёсць.
Без перашкодаў – да небакраю.
Без страхаў, сумненняў,
Ад Бога – мілосць...
Пяшчоты Ягонай дотык –
Як быццам спыніўся міг.
Ні суму, ні адзіноты –
Вечнасці ўздых.

проза

Змітрок Кузменка



...у хаце гаспадарылі

чужыя людзі...

# Шаманы́

***Апавяданне***

Мама не прыйшла і ўчора.

Яны чакалі яе яшчэ два дні таму. Чысценька прыбралі ў хаце. Перавесілі транты на кручках, каб матулі было куды павесіць сваю вопратку. Малая Волька выклала на ўслончыку сонейка з круглых пляскатых каменьчыкаў...

Кацярына ўздыхнула.

Гэтыя каменьчыкі яшчэ для яе назбіраў тата. Ён называў іх дзівосным словам – „мазаіка“. Казаў, што недзе ў далёкіх гарадах ёсць велічныя цэрквы і палацы, дзе з такіх вось каменьчыкаў зробленыя прыгожыя карціны. Толькі там каменьчыкі не простыя, а каштоўныя. Рознакаляровыя і неверагодна бліскучыя.

Яна дужа любіла гуляць з мазаікай. Уяўляла сябе славутым майстрам, які за сваю дасканалую працу атрымае шмат-шмат грошай... Цяпер каменьчыкі перайшлі ў спадчыну Вольцы. Іх прыкметна паменшала, бо малая

параскідала. Што паробіш – дзіцё. Волька забаўлялася з колішнім татавым падарункам па-рознаму: то як з капейчынамі, гуляючыся ў кірмаш; то як з цукеркамі для Лукер'і – старой самаробнай лялькі з ужо не раз падмаляванымі вачыма і вуснамі. Але на кожнае свята малая абавязкова выкладвала з каменьчыкаў які-небудзь малюнак.

На кожнае свята. Анягож... Для дзіцяці заўсёды свята, калі вяртаецца дамоў мама. Тым больш, калі яна прыходзіць здалёк, ад таты. І з яе вяртаннем у хаце ажываюць цёплыя памяткі былога ўтульнага жыцця.

Адно толькі памяткі. Бо так, як было раней, мусіць, ужо не будзе ніколі.

Сонейка з татавых каменьчыкаў па-ранейшаму свяціла з услона. Чаканае заўчора свята не адбылося. Мама не прыйшла, і яны зноўку леглі спаць адны. Спярша трывожна не было, хоць раней матуля заўсёды вярталася на трэці дзень. Але ж дарога да Гомля няблізкая. Пехатою трэба ісці цэлы дзень, і потым столькі ж – назад. Ды і ў тым Гомлі ж абернешся не так хутка: пакуль сустрэнешся з таткам, пакуль зойдзеш на базар. А там, можа, тата перайшоў на якую іншую будоўлю, дык пакуль яшчэ знойдзеш яго. Дый ці мала якіх затрымак можа здарыцца.

Наступным днём Волька амаль увесь дзень праседзела ля акна. Ды і яна, Кацярына, усё часцей паглядала на двор, хоць і спрабавала заняць сябе справамі. Зноўку не пайшоўшы раніцай у школу, дастала кніжкі. Мерылася чытаць, рашаць у галаве задачкі. Але думалася зусім пра іншае. Расла трывога.

Познім вечарам дзяўчаты даелі рэшту халоднага крупніку. А потым надышла бясконцая ноч. Волька ціхенька плакала ў падушку, і Кацярына, абняўшы яе, прылегла побач.

– *Ой, люлі-люленькі. Прыляцелі гуленькі...*

Мама заўсёды спявала ёй гэтую калыханку, калі яна была такой, як Воля. Чамусьці ў маленстве тыя галубкі-гуленькі ўяўляліся не шызымі, а белымі, з пухнатым раскудлачаным пер'ем. Яна заплюшчвала вочы і бачыла, як казачныя птушкі сядзяць у іх на веснічках у сваіх яркіх боціках. А мяккі матчын голас вёў напеў далей, і ад гэтага станавілася так цёпла і зацішна.

– *Селі на варотах у чырвоных ботах...*

Малая пакрысе супакоілася. Кацярына ляжала на ложку з расплюшчанымі вачыма і глядзела ў цемру. Было зусім ціха. Толькі недзе, пэўна, на ніжнім канцы вёскі, некалькі разоў гаўкнуў сабака. Што ім рабіць? А раптам мама не вернецца? Няўжо іх напраўду забяруць у дзетдом? Не, не... Гэтага не будзе! Не можа быць! Мама абавязкова прыйдзе заўтра. Не можа не прыйсці! Толькі прыйдзе яна, напэўна, пад вечар. Значыць, раніцой трэба згатаваць нешта есці. Сёння яны абышліся рэштай крупніку... Яна б сама пацярпела, а Волька... Згатаваць... Але што?

– *Сталі яны варкаваці, чым дзіцятка гадаваці...*

Кацярына асцярожна, каб не пабудзіць сястру, павярнулася на бок і заплюшчыла вочы. Колькі яна сябе памятала, ежы ў іхняй хаце было ўдосталь. На стале заўсёды ляжаў накрыты ручніком свежаспечаны хлеб з соллю. У буфеце ў цемнаватым калідорчыку пузатымі панамі выстройваліся збанкі з малаком і смятанай. Там жа ляжала жоўтае-жоўтае масла і чакалі свайго часу кіславата-салодкія сыры з кменам. А на гары, куды можна было падняцца па адмысловых драбінцах з сенцаў, віселі вэнджаныя кумпякі ды каўбасы. І гэта ўсё было такім... будзённым і звычайным. Як зялёная трава ў садзе. Як квет ліпы. Як сцюдзёная вада ў глыбокім ка-

лодзежы адразу за плотам. Рэчы, якія пачынаеш заўважаць, толькі калі яны знікаюць.

Гэта было іхняе жыццё.

Цяпер нічога гэтага ўжо не было. Летась Кацярына доўга не магла прызвычаіцца да таго, што на панадворку больш не рыкае карова. Што не чуваць нават крыку пеўня, і за вокнамі пануе цішыня.

У іх не стала гаспадаркі. У іх не стала зямлі.

Першай парой суседкі раз-пораз прыносілі ім штосьці ў вузельчыках. Мама дзякавала, але браць наадрэз адмаўлялася. Аднойчы, калі яна, Кацярына, вярталася са школы, падышла цёця Маруся і крадком сунула ёй пад кацавейку нейкі мяккі палатняны мяшэчак. Там было з два фунты мукі... Мама на тую муку нават не зірнула. Загадала аднесці назад. Можа, прыняць дапамогу маці не дазваляла нейкая падсвядомая крыўда? Гонар? А можа, яна проста не хацела, каб на суседзяў лёг цень тога ліпучага страху, які пасяліўся ў іхняй хаце?.. Ведаць гэтага дзяўчынка не магла. Яна толькі памятала, як, прымаючы з яе рук назад мяшэчак з мукой, цёця Маруся злосна буркнула:

– Дурніца!

І як, пакрыўджаная, ішла тады дадому. За што цёця Маруся так? Ну якая ж яна дурніца?

Яны не галадалі, не. Але жыццё стала іншым. Нейкім бясколерным. Разы два на месяц матуля пакідала іх адных і хадзіла да таты ў Гомель. Прыносіла адтуль прадукты. Гэтым і жылі. А што рабіць цяпер, пакуль мамы няма? Можа, схадзіць заўтра зрання па шаманы? Маці колькі разоў хадзіла збіраць пакінутую ўвосень у зямлі і перамерзлую за зіму бульбу. Дробную, счарнелую, але прытым надзіва салодкую. Хоць і з трохі непрыемным гнілаватым прысмакам. Толькі ж яна брала шаманы на былым сваім полі, адразу за алешнікам. Кацярына бачыла здалёк, як мама чамусьці азіралася па баках. Навошта? Ніякім крадзяжом гэта не было. Які ж то крадзеж, калі яны самі тую бульбу садзілі? Але цяпер там, здаецца, ужо ўсё сабрана, і ёй трэба будзе ісці далей, да старой таполі, на абшчэсцвеннае поле. Зрэшты, і іхняе поле цяпер ужо – абшчэсцвеннае. Ды тое, што перад таполяй, іхнім не было ніколі. Значыць – красці... Але каму патрэбная перамерзлая за зіму бульба? Каторая ўсё адно згніе. Які ж гэта крадзеж?

*– Няхай дзетцы пташкі прыгатуюць кашкі...*

Яна сходзіць заўтра па шаманы і напячэ з іх праснакоў. Яны дачакаюцца маму... Абы толькі не дзетдом. Яны ж з Волькай не сіроты. У іх жа ёсць бацька і маці. Жывыя бацька і маці...

Дзяўчынка прахапілася, калі ў вокнах пачало шарэць. Ціха ўстаўшы і апрануўшыся, яна выйшла ў пярэднюю хату. Тут было зусім халодна. Учора ў печы не палілася, і сіверныя вятры выдзьмулі з хаты ўвесь дух. Тонкімі дзіцячымі рукамі Кацярына ўзяла вілкі і асцярожна выцягнула на загнет чыгункі. Справа гэтая давалася ёй цяжкавата. Чыгункі ўвесь час мерыліся перакуліцца і выліць сваё змесціва на вуголле. Улетку, калі мама пачынала прывучаць яе абыходзіцца каля печы, з гэтым была проста бяда. Цяпер дзяўчынка ўжо ўмела даць ім рады. Пагатоў, з пачатку восені яна паліла печ сама – пад строгім матчыным наглядам, ведаючы, што зімою ім з Воляй часта давядзецца заставацца адным.

Вады ў вядры было яшчэ многа, значыць, трэба прынесці толькі дровы. Каб, прыйшоўшы з поля, можна было адразу запаліць у печы. Адкінуўшы

кручок у моцных дзвярах з высокім парогам, Кацярына выйшла на двор. Зусім нядаўна іхняя хата не заканчвалася гэтымі дзвярыма. За імі быў трохсцен. Той самы цёмны калідорчык з буфетам, у які мама ставіла малако. І вялікі светлы пакой, дзе яны з Волькай любілі гуляць у хованкі. Цяпер за дзвярыма адразу была вуліца. Чамусьці снег тут доўга не паддаваўся веснавому сонцу: ляжаў некранутай тоўстай шапкай. Але ўрэшце амаль растаў і тут, выявіўшы колішнія заваліны і агаліўшы раскіданыя па зямлі паламаныя дошкі ды трэскі-драніцы. Абмінуўшы напаўразбураныя сенцы, якія выглядалі недарэчнай адзінокай халабудай, немаведама адкуль прынесенай і пастаўленай пасярод двара, Кацярына пайшла за хату. З восені дрывотня ў іх была тамака.

Неба хмарылася. Вялізныя шэрыя космы несліся над галавой з неверагоднай хуткасцю. Куды ні паглядзі – паўсюль было адно шэрае. Або чорнае. Нібыта свет недзе згубіў усе астатнія фарбы. Пранізлівы вецер дзьмуў з халоднага боку, працінаючы кволую дзявочую постаць наскрозь. Дождж, праўда, не ішоў, але ўсё навокал здавалася набрынялым вільгаццю. Нават дровы.

Трэ было накінуць на сябе што-кольвек цяплейшае. Хутчэй, хутчэй назад, у хату. Там хоць зацішна...

Кацярына прабыла на двары літаральна колькі хвілін. Але калі яна, задыханая ад ветру, вярнулася з бярэмцам дроў, ля дзвярэй яе ўжо сустракала Волька. Сяк-так апранутая, з раскудлачанымі пасля сну валасамі.

– Што, прачнулася ўжо, жаваронка?

Скінуўшы дровы на падлогу пры печы, Кацярына павярнулася да малечы.

– Ну то давай умывацца, ды будзем прычэсваць валасы.

Тая неадрыўна глядзела на старэйшую сястру сваімі глыбокімі блакітнымі вачыма і маўчала. Воля не гаварыла ўжо амаль год. Мама спрабавала нешта рабіць з гэтым маўчаннем. Давала малой піць свянцоную ваду, чытала ў яе над галоўкай малітвы, вадзіла ў суседнюю вёску да старой шаптухі... Яны хадзілі ажно нават у Неглюбку да нейкага дзеда. Усё марна, нічога не памагала. Людзі казалі: дасць Бог, само пройдзе.

А калі не дасць?

Волька маўчала з таго самага дня, каторы канчаткова і незваротна змяніў іхняе жыццё. Гэта быў звычайны летні дзень. Сонца тады ярка свяціла ў вокны. Яны якраз ладзіліся абедаць, калі на панадворку адчайна забрахаў сабака, і праз хвіліну ў хату ўваліліся чацвёра мужчын. Паперадзе ўсіх шыбаваў Апанас Воўчар. Дзядзя Панас. Ён жыў на высокім канцы вёскі, але не раз прыходзіў да бацькі пазычыць табакі ці проста пагутарыць. А аднойчы нават пачаставаў яе, Кацю, ледзянцом – агромністым чырвоным пеўнікам на палачцы. Дзяўчынка памятала, як сарамліва глядзела на пачастунак, не рашаючыся ўзяць, – маці строга забараняла браць чужое. Але бацька мякка пасміхнуўся:

– Бяры, дачушка... То ж ад дзядзі Панаса. Мы ж тут свае...

Другога чалавека Кацярына таксама пазнала і вельмі здзівілася. Гэта быў Ахрэм Салавей. Тата яго не любіў. Ды й прозвішча ягонае было зусім не Салавей, а, здаецца, Нічыпаровіч. Салаўём яго клікалі за тое, што днямі сядзеў з асалавелымі вачыма на прызбе сваёй зарослай дзядоўнікам хаціны. Чаму ж ён заявіўся да іх? Ды яшчэ не адзін?

Двое астатніх былі незнаёмыя. Мажны мужчына ў форменным кіцелі і фуражцы, з вялікай драўлянай кабурой на баку, спыніўся каля дзвярэй.

А хударлявы маладзён у акулярах з папкай пад пахай разам з Салаўём і дзядзем Панасам падышоў да мамы.

– Гдзе хазяін?

Кацярына сцепанулася ад нечаканасці. Голас у дзядзі Панаса быў зусім іншы. Нейкі жорсткі, самаўпэўнены. Ён ніколі не гаварыў так, калі заходзіў да іх раней. Міжволі дзяўчынцы згадаліся абрыўкі размоў, выпадкова чутыя апошнім часам. Тата абураўся... Маўляў, як толькі паставілі, дык адразу зрабіўся панам... Ходзіць у чорным і людзей перад сабой не бачыць... Патрабуе, каб яго ўжо клікалі не Пятровічам, а абавязкова „таварышам прадсядацелем“... Цьху!.. Ды яшчэ і гаворыць па-гарадскому... Мама ціха казала нешта ў адказ, бы супакойвала. Але, заўважыўшы побач дачку, абое ці змаўкалі, ці пераводзілі гутарку на іншае. Мабыць, таму гэтыя размовы так і прайшлі міма ейнай увагі. Дзяўчынка нават не ўсвядоміла да канца, пра што гавораць бацькі. Яна ведала, каго выбралі старшынём калгаса ў іхняй вёсцы. І што сам гэты калгас не падабаецца татку. Аднак веданне гэтае было неасэнсаваным і заставалася недзе на ўскрайку свядомасці. Справы дарослых Кацярыну тады не цікавілі зусім.

Цяпер дзяўчынка шырока расплюшчанымі вачыма глядзела на знаёмага чалавека. І не пазнавала яго. Ён стаў нейкім пагрозлівым, чужым. Пачуваецца ў іхняй хаце як гаспадар. І сапраўды, увесь у чорным. Глядзіць на маму з пагардай, нібы яна злодзей які. І гаворыць неяк дзіўна. Ніхто ў ваколіцы ніколі так не гаварыў. Але... Дзесьці яна чула падобныя словы. Толькі гучалі яны зусім іначай. Праз імгненне дзяўчынка сцяміла: дзядзя Панас спрабаваў гаварыць так, як гаварыла іхняя новая настаўніца ў школе. Але ў яго не надта выходзіла.

– Я спрашываю, гдзе хазяін?

Матуля вонкава спакойна выцерла рукі ручніком.

– Няма яго.

– Эта я знаю, што няма. Я спрашываю, гдзе ён?

– У горад падаўся. На працу.

Дзядзя Панас... Апанас Воўчар з’едліва ўсміхнуўся. Ягоны рэзкі тон цяпер стаў адкрыта здзеклівым.

– У горад, гаварыш? А то тут яму работы мала было?

Маці ў адказ прамаўчала.

– Уцёк, значыцца, – прыхадзень кінуў позірк на іх з Волькай ды гучна пацокаў языком. – Кінуў жану, дваіх малых дзяцей, і ў кусты.

– Апанас! – мама абурана выпрасталася.

– Не забывайся, Стаховіч! – хвостка абарваў яе начальніцкі голас. – Перад табой таварыш прадсядацель калхоза.

– Апанас, табе не сорамна?!

– Каму? Мне?! – прадсядацель амаль тыцнуў пальцамі абедзвюх рук сабе ў грудзі. – У атлічые ад твайго мужыка я не занімаюсь сабатажам і не хаваюсь ад уласці непанятна гдзе!

– Разумных слоў нахапаўся, а ні на каліва не паразумнеў, – не стрывала мама.

– Што-о-о?!

– У чым гэты ваш сабатаж? У тым, што Пятрок адмовіўся ўступаць у калхоз? Але ж гэта справа кожнага! На сходзе казалі!

– Яно, канечна, дзела каждава. Но на едзіналічніка Стаховіча глядзяць другія. А эта ўжо дзела абшчэсцвеннае! – Воўчар выцягнуў з кішэні бліскучы партсігар, выняў з яго папяросу і са смакам запаліў. – Няўжо

ты думаеш, што ніхто не знойдзе твайго мужыка? Рана ілі позна знойдуць. І ў Гомелі, і ў Пінску. Нават у самым Мінску ці Маскве знойдуць. Заарыштуюць, і – цю-цю!

Прадсядацель махнуў рукой.

Кацярыне падалося, што яшчэ крыху, і мама схопіцца за даўгую ўчарнелую качаргу і выгане няпрошаных гасцей прэч. Але матуля маўчала. Толькі твар ейны стаў нейкім шэрым, суровым. А прыгожыя, заўсёды пяшчотныя вусны скляліся ў тонкую жорсткую лінію.

Прадсядацель па-гаспадарску прайшоўся па хаце і зазірнуў у чыстую палову.

– Ну, абыдземся тады без хазяіна. Мы ж сюды не балакаць прыйшлі. А рабіць экс-пра-пры-я-цыю, – Воўчараў твар расплыўся ў задаволенай ўсмешцы. І незразумела было: ці то ён усцешаны тым, што яму ўдалося з першае спробы вымавіць такое вучонае слова, ці то яму было радасна ад чагосьці іншага.

– Што рабіць? – на абліччы ў мамы на момант з'явілася разгубленасць.

– Экс-пра-пры-я-цыю... Так сказаць, дзвіжымага і нядзвіжымага імушчаства... Не ўсё ж вам раскашаваць... Таварыш Зайкоў, аб'ясніце гражданцы.

Хударлявы маладзён у акулярах выцягнуў з папкі якуюсь паперчыну і абыякавым тонам працадзіў:

– Постановили... Изъять у кулака Стаховича излишки земли и конфисковать домашний скот. А также реквизировать все остальное излишнее движимое и недвижимое имущество, как то: хозяйственные постройки и инвентарь, домашнюю утварь и прочее. Изъятые ценности обратить в пользу коммуны.

Кацярына нічога з гэтага не зразумела. Чужыя казённыя словы ні пра што ёй не казалі і падаваліся абсалютна пустымі, бессэнсоўнымі. Але дзяўчынка заўважыла, як шэрае ад абурэння матчына аблічча раптам спалатнела.

– Вы не пасмееце!

– Эта пачаму? – прадсядацель робленым жэстам развёў рукі ў бакі. – Усё законна.

– Закон?! Гэта грабежніцтва, а не закон! Па якому закону можна пакінуць дзяцей галадаць?! – маці ўшчыльную падступілася да Воўчара, але той толькі пасміхнуўся ёй у вочы.

– Пра дзяцей успомніла? Ну дык скажы спасіба свайму мужыку. Якому на вас напляваць.

Мамін твар зрабіўся страшны. Яе рука ірванулася, каб даць прыхадню поўху, але той перахапіў яе, жорстка сціснуўшы за запясце.

– Глядзі ў мяне, Адамаўна!

Адштурхнуўшы маму, Воўчар рушыў на чыстую палову хаты. За ім пасунулася ягоная світа. Тут і здарылася тая жудасная неспадзяванка, пры ўспаміне пра якую ў Кацярыны і цяпер нібы апускалася сэрца.

Калі прадсядацель па-гаспадарску адчыніў вялікі куфар з вопраткай, дзе ў адмысловых мяккіх мяшэчках спаміж некранутых скруткаў саматканкі і крамніны хаваліся няхітрыя маміны ўпрыгожанні і важкі татаў гадзіннік на зіхоткім ланцужку, Волька раптам сарвалася з месца і кінулася да Воўчара. Нейкім незразумелым чынам пяцігадовае дзяўчо лепш за яе, Кацярыну, адчула, што адбываецца. Там, пад самым вечкам, на ваўнянай мамінай сукенцы ляжала блакітная хустачка, куплёная татам у Мазыры.

– Не ад-да-а-ам! – цяжкую гнятлівую цішыню захопленай рабаўнікамі

хаты ўспароў адчайны тонкі голас малодшай сястры, якая штосілы адпіхвала дужага дарослага чалавека прэч ад куфра.

Гэта адбылося вокамгненна. Ніхто нават не паспеў сцяміць, што да чаго. Рэзка крутануўшыся, Воўчар схапіў малую за каўнерык і адкінуў убок. Як звяглівага шчанюка ці непатрэбную анучу. Волька адляцела да самых дзвярэй, і наступнае, што яны пачулі, быў глухі ўдар дзіцячай галоўкі аб парог. Дзяўчынка аціхла. У той жа момант да нерухомага цельца кінуліся двое: мама і Ахрэм Салавей, у вачах якога быў жах і... боль. Воля ляжала моўчкі з шырока расплюшчанымі сінімі-сінімі вачыма. Гэтыя вочы на збялелым тварыку здаваліся такімі глыбокімі, нібыта за імі хавалася бездань. Але яна дыхала. Схапіўшы дачушку на рукі і прыціснуўшы да грудзей, мама вырачылася на Салаўя і амаль прахрыпела:

– Прэч!!!

Скалануўшыся, той вінавата ўнурыў галаву ў плечы і пацёгся назад. Відаць было, што Воўчар таксама ў першую хвіліну спалохаўся. Але, пабачыўшы, што дзіця апрытомнела, ён знарочыста злосна плюнуў на падлогу.

– Убяры дзіцёнка.

– Каб ты, падла, так за жалеззе распаленае хапаўся, як за маіх дзяцей, – хрыпла выдыхнула маці, люта гледзячы на чалавека, які зрабіўся ёй цяпер ненавісным ворагам. У адказ той пасміхнуўся агіднай, пагрозлівай усмешкай.

– А ну, ціха! Ілі пайдзёш следам за сваім Пятром! А малыя – у дзетдом! Поняла?!

Каго – у дзетдом? Іх з Волькай? А куды пойдуць мама з татам? І што такое наагул дзетдом? Кацярына села проста на падлогу. Ногі ў каленях дрыжэлі, а ў галаве круцілася ад пытанняў, на якія не знайсці адказаў. Станавілася зусім вусцішна ад мамінага зацятага маўчання і маўчання Волькі, якую матуля па-ранейшаму трымала на руках. Наступнае, што Кацярына памятала, была тая самая блакітная хусцінка пад брудным ботам Воўчара. І аглушальны стрэл на панадворку, пасля якога адчайны брэх татавага ўлюбёнца Каштана змяніўся кароткім жаласлівым скавытаннем. І потым заціх...

У хаце гаспадарылі чужыя людзі.

Хударлявы чалавек у акулярах нешта ўсё запісваў у свае паперы. Яны адбіралі ўсё лепшае. Усе рэчы, на якія праквапіліся вочы, звязалі ў вузлы і вынеслі. Забралі нават яе, Кацярынін, кажушок. Амаль новы і дужа цёплы. Але найгорай тое, што яны вывелі з двара Зорку. Зрэшты, не толькі Зорку. Не стала ні каня, ні парсюкоў, ні авечак... Ды страціць карову было асабліва балюча. Без цёплай рахманай Зоркі адразу спынілася і абрынулася прывычнае кола іхняга жыцця, і на пустым месцы ціха засвісталі вогкія скразнякі нястачы. Гэта быў дзень, калі яны з Воляй упершыню пачулі слова "дзетдом". Дзень, калі яна перастала быць Кацяй, а стала Кацярынай. Перастала быць дзіцём.

Волька маўчала.

Назаўтра Воўчар прывёў з паўдзясятка маладых хлопцаў разбіраць пуню і адрыну. Хлопцы працавалі, хаваючы вочы, адно зрэдчас перакідваліся паміж сабой кароткімі нячутнымі фразамі. Мама глядзела на гэта амаль безуважна. Толькі часам бачна было, як варушыліся яе вусны. Яна затоена шаптала – ці то малітву, ці то праклён. Праз тыдзень ад усіх будынін, якія паўколам атачалі іхні падворак, не засталося нічога. Не кранулі толькі апусцелую сабачую будку. А яшчэ дзён праз дзесяць разабралі трохсцен...

Не стала ў іх цяпер і зямлі. У мамы вырвалася нейк: абрэзалі па самыя вокны. Знешне гэта ніяк не выявілася. Зямлю няможна ўзяць ды перанесці на іншае месца. Яна засталася там, дзе і была. З усімі дрэвамі, кустамі ды лясамі. Але на гарод ля хаты матуля цяпер не выходзіла. Ён раптам стаў „усіхны“. Хаця ўсё, што там расло, увесну пасадзілі-пасеялі яны. Як такое можа быць – у дзіцячай галаве не ўкладвалася. Аднак так было.

Пагрозлівыя словы Воўчара ніяк не знікалі з памяці. Кацярына колькі разоў пыталася ў мамы, што такое дзетдом, але тая знервавана адмахвалася. Тое, што здарылася, а асабліва маўчанне маленькай Волькі, моцна змяніла матулю. Знікла яе заўсёдная весялосць і рухавасць. Урэшце адным вечарам яна адказала, што дзетдом – гэта прытулак для асірацелых дзяцей.

– А там... Дужа блага?.. – ціха перапытала агаломшаная Кацярына.

– Горш, чым з мачыхай, – кінула ў адказ маці і пайшла да печы.

Гэткі адказ Кацярыну нават суцешыў. Дзетдом – для сірот, а яны ж не сіроты. Значыць, яны туды не пойдуць, хто б там што ні казаў.

Тады суцешыў, а цяпер... Цяпер яны з Волькай ужо колькі дзён запар адны... І пагроза Воўчара зноўку загучала ўвушшу. Яшчэ мацней і гучней, чымся ўначы.

Апошняя палка дроў, якая мелася легчы на версе складзенай у печы хацінкі, раптам вываліласяз рукі і з грукатам упала на падлогу. Дзяўчынка страсянула галавой, спрабуючы пазбавіцца ад наслання. Гэта ўсё глупства! Мама вернецца сёння па абедзе. І з таткам таксама ўсё будзе добра.

Падняўшы палена, Кацярына паклала яго на месца. Заставалася запаліць знізу тонкую лучыну ды асцярожна засунуць усю спаруду вілкамі глыбей у печ. Але гэта пазней, калі яна вернецца дамоў з шаманамі...

Волька прыладзілася каля акна, пасадзіўшы побач з сабой на падваконне Лукер'ю, і задуменна глядзела на чорныя дрэвы ў сонным садзе. Што яна там выглядала, Кацярына не ведала. Мама заўсёды прыходзіла з іншага боку, ад вуліцы. Можа, малая ўяўляла сабе, што раскірэчаныя голыя дрэвы – гэта зачараваныя злой вядзьмаркай асілкі, якія чакаюць ласкавага дотыку сонечнага зайчыка, каб вярнуць сваё сапраўднае аблічча? Хто ведае. Дазнацца было немагчыма.

– Я зараз збегаю набяру шаманоў. Я хуценька. А ты зашчапіся і нікому не адчыняй.

Павярнуўшыся, Волька нейкае імгненне, не міргаючы, засяроджана глядзела на старэйшую сястру, а потым раптам падхапілася і кінулася да яе. У сініх вачах маленькай дзяўчынкі чытаўся непадробны спалох.

– Ну ціха, ціха, чаго ты? – абняўшы малую, Кацярына пасадзіла яе на ўслон і сама села побач.

– Знаю, што мама наказала нікуды не хадзіць, – яна пагладзіла Вольку па мяккіх валасах. – Але нам нешта трэба есці. Ты ж галодная, праўда?

Малая згодна хітнула галавой.

– Ну дык... То ты пакуль пасядзі ў той хаце, там цяплей. А я хуценька збегаю. Ты й не заўважыш, як я вярнуся! Напячэм з табой праснакоў і будзем сустракаць маму.

Волька здрыганулася і энергічна заматала галавой. У яе на вачах выступілі слёзы.

– Паслухай, – сказала Кацярына гэтым разам строга, – я ведаю, што ты ніколі не заставалася адна. Але ты ўжо вялікая. І табе... – пачуўшы, што малеча хліпае, яна ўздыхнула і прытуліла Вольку да сябе. – Ды чаго

ты ўжо так баішся? Ніхто ж цябе тут не ўхопіць, нікога тут няма... І са мной нічога не станецца.

Малая адсунулася і, закінуўшы галаву назад, склала вусны дудачкай. Кацярына міжволі ўсміхнулася і выцерла краем хусткі замакрэлыя Вольчыны вочы. Татка гэтак заўжды паказваў ваўка, калі доўгімі зімовымі вечарамі яны гуляліся ў адмысловую забаўку, дзе трэба было ўдаць нейкага звера ці свойскую жывёліну, не вымаўляючы пры гэтым ані гуку.

– Дурнічка, у ваколіцы няма ніякіх ваўкоў, – Кацярына змахнула няпрошаную слязу. Але Волька адмоўна замахала рукамі. А потым паднялася і пайшла па хаце з закінутай галавой і па-ранейшаму складзенымі дудачкай вуснамі. Старэйшая сястра няўцямна глядзела на малую. Што гэта? Воўк на дзвюх нагах? Ваўкалака? І тут яе скаланула.

Воўчар.

Прысеўшы перад Волькай, Кацярына ўзяла малую за плечы.

– Ён не прыйдзе! Чуеш? Яму тут ужо няма чаго рабіць.

Але Воля па-ранейшаму глядзела на яе ўмольнымі вачыма і матала галоўкай. Абняўшы сястру, Каця раптам заплакала. Бязгучна. Ад стомы. Ад невымоўнай тугі і няпэўнасці, якая з кожнай трывожнай думкай палохала ўсё больш. Цяжкі гнёт, які паступова клаўся на сэрца напярэдадні, за гадзіны бяссоннай ночы стаў балючым і задушлівым. І цяпер ён выліваўся вонкі. Дзяўчынка спрабавала стрымацца. Мама пакінула яе за старэйшую. Не хапала яшчэ тут разрумзацца перад малечай. Ёй здавалася, што яна ўтаймоўвае сябе, але Волька, канечне, усё адчула. Вызваліўшыся ад абдоймаў, малая ўважліва паглядзела на Кацярыну. Яна рэзка паднялася і адвярнулася.

– Апранайся. Пойдзем удвох.

Хаваючы твар, Кацярына паспешліва нацягнула на сябе старую татаву ватоўку, закасаўшы латаныя рукавы і звыкла падперазаўшыся паяском ад матчынай сукенкі. Адзежына была задоўгая, завялікая, але дзяўчынка ўжо да яе прывыкла. Усю восень і гэтую вясну, калі не было моцнага марозу, яна гэтак хадзіла ў школу. Паправіўшы на галаве вынашаную, але ўсё яшчэ цёплую хустку, Кацярына пакрысе супакоілася і дапамагла апрануцца сястры. Вольцы было лацвей. У малой захаваўся ніштаваты сястрын палітончык. Амаль што новы – колькі там Каця яго панасіла, покуль вырасла. Дзякуй богу, тады, летась, ён нікому не спатрэбіўся. Урэшце яны былі гатовыя. Падышоўшы да дзвярэй, Кацярына нагадала:

– Вазьмі ж там ля печы кошык.

Лепш бы яна ўзяла яго сама... Воля бегма зачапілася за ўслон, і той перакуліўся. Сонейка з маленькіх пляскатых каменьчыкаў разляцелася па ўсёй падлозе, і ў халоднай пахмурнай хаце стала яшчэ цямней. Волька стаяла, разгублена сузіраючы сваё маленькае няшчасце. У іншы час тут не абышлося б без кепікаў і мора слёз ды крыўды ў адказ, а зараз... Кацярына проста падышла і ўзяла малую за руку.

– Не бядуй! Мы з табой усё збяром, як вернемся. Усе да аднаго. А потым складзем новае сонейка. Або што іншае. Як захочаш...

Дзяўчынкі выйшлі з хаты.

Ісці было не дужа далёка. Прайшоўшы краем гароду, яны хутка прамінулі чорныя дрэвы ў садзе, якія так і стаялі настылыя ў чаканні сонечнай пяшчоты. Самотныя і асірацелыя... Далей трэба было прайсці паўз равок, абсаджаны ляшчынамі, і адразу пачыналася іхняе поле. Колішняе іхняе. Напярэдадні той ночы, калі сышоў бацька, яны сеялі тут бульбу. На бліжняй палове, ад Халімонавай мяжы, – далей зямля была адведзеная

пад ячмень. Спачатку працавалася весела: нават Воля ў ахвотку клала ў барозны сеянку. Штопраўда, неўзабаве ёй гэта надакучыла, і малая пачала нядбайнічаць. Увесь час спынялася, угледзеўшы ў зямлі якую казюрку ці дажджавога чарвяка велізарнай даўжыні. Бульба ўжо ляцела з ейнай рукі ў зямлю як папала, часцяком скочваючыся туды, дзе зусім недалёка ляжала іншая. Пачуўшы заўвагу, Волька рабіла незадаволена-пакрыўджаны твар і некалькі хвілін трохі старалася. А потым – зноў за сваё. Скончылася тым, што пасля чарговага ўшчування дзяўчо павярнулася і порстка пашыбавала ў бок хаты. Матуля строга гукнула свавольніцу назад, ды бацька, які праходзіў міма з канём, толькі ўсміхнуўся ў вусы:

– Няхай... Малое шчэ...

Яна, Каця, тады таксама натамілася, але не падавала выгляду. Калі Волька яшчэ малая, то яна ўжо – вялікая. І можа працаваць нароўні з татам і мамай. Яны завіхаліся да самага вечара і ў хату вярнуліся стамлёныя, але задаволеныя. Тата заўжды казаў: „Трэба кожны дзень пражываць так, каб увечары можна было сказаць, што ты прыжыў яго не дарма“. Што ж, той дзень сапраўды быў пражыты не дарма. Прынамсі, ёй гэтак здавалася.

Павячэраўшы, яны пакладіся адпачываць, але толкам заснуць не паспелі: нехта ціха пастукаў у шыбіну. Потым яшчэ раз, гучней. Тата падхапіўся і выйшаў у пярэднюю хату. Праз хвіліну за ім пайшла маці. З-за прачыненых дзвярэй чуліся няпэўныя галасы. Штосьці зразумець было немагчыма, і Кацю ўжо ахутваў сон, як раптам мужчынскі голас, што, відавочна, належаў начному госцю, на імгненне ўзмацніўся, і яна выразна пачула два словы:

– Уцякай, Пятро...

Сцепануўшыся, Кацярына паднялася і, падышоўшы да дзвярэй, вызірнула вонкі. Мама стаяла каля стала, захінуўшыся ў вялікую ваўняную хустку. Тата з некім гаварыў, здаецца, у сенцах.

– Што такое?

– Нічога, – матуля таропка падышла да яе. – Да таты прыйшоў адзін чалавек наконт работы. Ідзі спаць.

Мама адвяла яе назад у ложак і зноўку выйшла ў пярэднюю хату. Гэтым разам шчыльна зачыніўшы дзверы.

Дзіўна... Наконт работы... Ноччу... І хто той чалавек... Думкі мітусіліся ў галаве Кацярыны. Але з-за дзвярэй цяпер не было чуваць амаль што нічога. Ёй нават падалося, што там ужо татка пра нешта размаўляе з матуляй. Значыць, усё добра. Дзённая стома давалася ў знакі, і неўзабаве ўсе неспакойныя пытанні аддаліліся ў шызыя сонныя туманы, а потым зніклі зусім.

Раніцай таты дома ўжо не было.

Мама сказала, што яму далі добрую работу на будоўлі ў Гомлі, і ён паехаў туды. Але ж татка ніколі не працаваў у горадзе. І чаго яму трэба было ехаць ноччу? Не развітаўшыся з імі? Мама гаварыла адно: так трэба, і неўзабаве тата вернецца дамоў. Але дні міналі, і ён не вяртаўся.

А потым да іх у хату ўваліўся Воўчар са сваёй хеўрай...

З тога часу і пачаліся маміны хаджэнні ў Гомель... А можа, яна ходзіць не ў Гомель? Хто ведае, дзе зараз тата. Мусіць жа, не прыснілася ёй тое пачутае знянацку слова. Уцякай...

Каб мог, татка абавязкова б прыехаў. Прыйшоў бы... Хоць на адзін дзень, хоць на адзін вечар... Адведаць іх, пабачыцца. Паглядзеў бы, што зрабілі з іхняй хатай. Ужо ж амаль год прайшоў... Яна б пажалілася яму, што ў школе ніхто не хоча сядзець з ёй побач, а настаўніца глядзіць на яе са шкадобай...

Што тую бульбу, якую яны сеялі ў той апошні дзень разам, – увосень выкапалі суседкі. Гэтаксама хаваючы вочы, як і тыя хлапцы, што разбіралі пуню і трохсцен. Можа, таму мама і не хацела нічога ад іх браць? Можа...

Вось і абшчэсцвеннае поле. Прыйшлі. Навокал цішыня. Хутка азірнуўшыся, Кацярына схілілася да халоднай зямлі. Шаманы трапляліся нячаста. Спачатку Волька паслухмяна круцілася побач, спраўна падстаўляючы кошык пад слізкія мяккаватыя камякі. Але, стаміўшыся ад аднастайнасці, урэшце панеслася разам з кошыкам уперад да старой таполі. Хай сабе... Можна покуль кідаць бульбу кудысь у адно месца. А потым сабраць.

Тая магутная адзінокая таполя ўзвышалася над наваколлем, мусіць, не адно стагоддзе. Ад яе пачыналася сенажаць... Як хораша было калісьці гарачым летнім днём адпачываць там, у цяню старога дрэва. Браць у рукі даўгія сцяблінкі мятліцы і, заціскаючы іх паміж вялікім і ўказальным пальцамі, сашморгваць знізу ўверх насенне з жоўта-зялёных мяцёлак. І штораз варажыць: хто ў выніку атрымаецца на пальцах – пеўнік ці курачка. У яе чамусьці амаль заўсёды выходзіў пеўнік.

Гэта было як бы зусім нядаўна. Але як жа даўно...

Настылыя рукі адмаўляліся слухацца. Ну, яшчэ шаманіны тры знайсці – і дахаты... Яшчэ дзве...

Раптам Волька кранула яе за плячук. Азірнуўшыся, Кацярына ўбачыла ў вачанятках малодшай сястры жах. Тая паказвала пальцам у бок таполі, адкуль наўскапыт імчалася да іх цёмная постаць на вараным кані.

Воўчар.

– Бяжы, Волька! – крыкнула дзяўчынка. – Бяжы дамоў!

Але малая стаяла і, нібы зачараваная, глядзела на конніка. Ён набліжаўся з кожным імгненнем. Кацярына ў адчаі схапіла сястру за плечы і страсянула:

– Волька, бяжы!.. Я за табой! Чуеш?!

Тая ачомалася. Неяк няўклюдна павярнулася і зноў прыпынілася. А потым пабегла. Падхапіўшы кінуты кошык, Кацярына хапатліва сабрала туды з тузін мяккіх бульбін і рванулася за сястрой.

Бегчы напрасткі полем было нязручна. Ногі ўвесь слізгалі, чапляліся і блыталіся ў непрыкметных ямінах паміж глыжамі. Хоць бы не ўпасці. Хоць бы не ўпала Воля. Хоць бы не... Хоць бы...

Яна ведала, што ім не ўцячы. Кошык са здабычай паляцеў убок. Мама даруе. Чорны коннік быў зусім блізка. Тупат конскіх капытоў станавіўся амаль аглушальным. Здавалася, ён выбіваў зямлю ўжо за самай яе спінай. Але сэрца ў грудзях дзяўчынкі тахкала яшчэ гучней. Яна дагнала сястру. Волька, якая яшчэ хвіліну таму бегла далекавата наперадзе, цяпер была побач. Малая неслася з усіх ног і ніяк не магла бегчы хутчэй. І Кацярына запынілася. Рэзка абярнулася назад, насустрач небяспецы, захінаючы сабою Вольку. Даганяты асадзіў каня.

– А-а-а, кулацкае адроддзе! Картошку красці?! У дзетдом адпраўлю!

Ён раз’юшана замахнуўся. Кацярына не паспела прыкрыць галаву, і твар ёй апякло, як гарачым шнуром. Дзяўчынка здранцвела. Але не ад жахлівага болю і крыўды. Нібы напалам разарваў ейную душу роспачны дзіцячы крык пад шэрымі беларускімі нябёсамі:

– Дзядзя Пана-а-а-ас!..

Крык маленькай Волькі, абарваны ў тое ж самае імгненне новым посвістам плеценай пугі.

Кацярына Тарасава



...калі цемра становіцца намі,
то мы – толькі ценямі...

# Белае

### *ПРА РОЗНЫХ ПАЭТАЎ*

Мне каля дваццаці
Я чытаю апошнія вершы.
Я спускаюся з лесвіцы ў неба
З замашкамі вершніцы,
Дзе гартала і ўзроўні, і стылі на прыступках вечнага,
Спаліўшы старонкі і кнігі на вогнішчы вечара.

Там усе пішуць, што больш не напішуць,
Што пішуць – не болей.
Што кожны не піша радкі,
А спраўляецца з болем.
Што ўсе, хто правёў кіламетры стрыжнёвага лесу
Ніколі не жыў дзеля вершаў.
Не ладзіў завесу

Свайго арэалу жыцця ў паэтычным абліччы,
Дзе для адчування паэта бракуе таблічкі:
“Я самы класічны паэт.
Я на класных гадзінах
Гляджу са сцяны тваёй класнай
Заместа карціны.
Бо я заслужыў, я паэт!
Я наплакаў шматтомнік,
А вы вывучайце мой боль,
Як аморфны пітомнік”.

Я бачу, што тут не пісалі пра тых, хто не склаўся.
Не скінуўся на сустрэчу, на кнігу, на царства
Астатнім паэтам.
Што тут па адным не ходзяць.
Калі ты ідзеш адзін – несумненна патопяць.
Тут не пішуць, пра тых, хто стварае радкі і кнігі,
Бо калі ты паэт, то абавязкова выпакутаваў.
Выплакаў тонны вершаў без рэдактуры,
А той, хто гэта аспрэчыць – зайздросны дурань.

Мне каля дваццаці.
Я чытаю апошнія выгукі
Тых людзей, што ўжо неаднаразова выраклі,
Што я вырадак творчасці.
Не жыццяздольная з’ява.
Што я нават не графаман, а бяздарны д’ябал.
Што я не пішу, не ствараю,
А клею словы
Аднабаковым скотчам да іх асновы.

Я спускаюся з лесвіцы ў неба
З замашкамі вершніцы.
І чакаю, пакуль мне паэт прапануе вешацца.

* * *

Мала чытаць Бродскага
І захапляцца Ніцшэ
Мала разумець музыку
І абстрактнае мастацтва
Мала танцаваць сучасныя
Танцы.

У гэтым жыцці ўсяго мала
Пакуль ты жывы.

## *ДАМЫ*

Нашы дамы.
Там мы.
І да нас
Прыбіраецца мноства птушак
І б'ецца ў шкло.
Мы слухаем музыку і адчуваем,
як нас
прывучаюць да думкі, што безвыходнасць ужо
нерухомая ў часе.
У коле кружэлкі
зноў шум...

Забіваецца пад іголку
вядомы скрып
не ідзе нікуды
і пераразае гук.
Шкло ляціць на падлогу...

Птушка
расплываецца па вакне ільдзяным вятрыскам...

## *БЕЛАЕ*

Сэрца без крыві
Белае
Чалавек без сну
Ведае
Колькі крокаў
Да апошняга

Кроку.

## *ШЧАСЦЕ*

Божухна. Божа – на:
Задушы мяне левай рукою.
Ці існуе той Бог, калі шчасце – труна
І спакой спасцігаецца болем.

Дэміург, прапануй мне другое жыццё –
Запраўляць блізарукай іголку.
Я запраўлю экватар і ўшыю яго
На абрысы зжаўцелай падкоркі.

Будуць шыць, і штораз вырываць гэты шлях
Пражываць, як дарогу дадому.
Дэміург, калі шчасце даецца не нам,
То навошта яно такое?

Калі
Не наша?

## *СПІ*

Спісы.
Спі, сын.
Заўтра ўдзень ты ў іх будзеш першы.
Першы ў школьным журнале.
У фізкультурнай калоне па два
І, напэўна, там.
Даганяюць.
Ты рушыў пешкі.
Пешка
На маім чорна-белым стале
Паляцела ў цела.
Неміргаючым поглядам ловяць
Кавалак ценю.
Зварухнецца – і будзе ціха,
Бо будзе спіс.
Але спі, сын.
Спі з
Сваёй першай набітай шышкай,
З пухнатым мішкам.
Тваім першым сямейным відэа.
Мы запішам,
Як ты спіш
У няхатняй вопратцы
Спі, сын.

Увага, вядзецца відэаназіранне.
Мы спім.

## *1937-20...*

Не вакно, а пано.
Не віно, а чырвонае варыва.
Мы на прыступках амфітэатра
Крычым эпітафіі
панявечаным шэрагам нашага роду і племені...

На калені!
За рукі,
За гукі,
За стогны,
За дзеянні.
Утрымацца.
Ды падаць штораз ад удараў па цемені.
Калі цемра становіцца намі, то мы – толькі
ценямі,
Што лунаюць па свеце пад гукі сваіх эпітафій.
Так, мы сталі пагоркам зямлі, але хто стане намі?

***ПЫЛ***

Мы расталі ў паветры
Пад палкім сонцам,
Пясок і прах аб'ядноўваюць нас.
Знікнем ў тумане, дзе шлях бясконцы
Ператвараецца ў час.
З'явімся там,
Дзе крывёю
І плоццю
Мерна кладзецца пыл,
Дзе нехта знішчае яго рукамі,
Хаця ў гэтым пыле – мы.

Сяргей Кавалёў



...народ наш, які даўно павінен быў знікнуць з гэтай зямлі па разліках чужынцаў, па-ранейшаму жыве, змагаецца, спадзяецца. Бо крыюцца пад зямлёй Лабірынты, крывіцкая Атлантыда...

# Лабірынты Власта

***П'еса ў дзвюх дзеях***

**АСОБЫ:**

Власт – менскі навуковец і пісьменнік
Іван Іванавіч – дырэктар Полацкага музея, ён жа – Рад
Ядзвіга Шыпіла – супрацоўніца Полацкага музея, яна ж – Ірэя
Рыта Лейман – супрацоўніца Полацкага музея
Андрэй Курловіч – настаўнік геаграфіі, ён жа – Кур
Рыгор па мянушцы Падземны чалавек – вартаўнік музея
Васіль Кандыба – начальнік полацкага ГПУ
Антаніна Сняжынская – спецыяліст з Масквы
Першы Чэкіст
Другі Чэкіст
Крывіцкія жрыцы

*Дзеянне адбываецца ў Полацку ў чэрвені 1928 г. і ў Саратаве ў студзені 1938 г. У п'есе выкарыстаны фрагмент аповесці Власта "Лабірынты" (1924).*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З'ява першая

Чэрвень 1928 года. Полацкі вакзал. На пероне ў чаканні цягніка з Віцебска праходжваюцца малады настаўнік Андрэй Курловіч, вартаўнік музея Рыгор па мянушцы "Падземны чалавек" і апрануты ў цывільнае начальнік полацкага ГПУ Васіль Кандыба. Непадалёк стаяць двое чэкістаў у скураных куртках, лускаюць семкі і плююць на перон. Стары Рыгор апасліва паглядае на чэкістаў, Курловіч трымае ў руках кветкі і не звяртае на чэкістаў ніякай увагі.

Нарэшце падыходзіць цягнік, з натужлівым рыпеннем спыняецца. З цягніка на платформу выходзяць трое пасажыраў: маладая супрацоўніца Полацкага музея Рыта Лейман з абгорнутымі ў мешкавіну карцінамі, спецыялістка з Масквы Антаніна Сняжынская з невялікім саквояжам і, нарэшце, менскі навуковец і пісьменнік Власт з дзвюма цяжкімі валізкамі.

Курловіч (*убачыўшы Рыту, узрадавана*). Рыта! (*Бяжыць да дзяўчыны*).

Рыта (*здзіўлена*). Андрэй? Навошта ты тут? *(Заўважыўшы ў руках настаўніка кветкі).* Ды яшчэ з кветкамі! Калі я цябе адвучу ад гэтых дробнабуржуазных манераў? Добра, калі ты ўжо прыйшоў, – дапамажы мне. Кінь свае кветкі і вазьмі карціны! *(Працягвае Курловічу стос карцін).*

Курловіч разгублена глядзіць то на кветкі, то на карціны, не ведаючы, што рабіць. Нечакана яму на дапамогу прыходзіць Сняжынская, якая міжволі сталася сведкай недарэчнай сцэны.

Сняжынская. Цудоўныя кветкі! Давайце я вазьму.

Разгублены Курловіч працягвае кветкі незнаёмцы і забірае ў Рыты карціны.

Рыта (*заўважыўшы Падземнага чалавека, які нясмела пераминаецца з нагі на нагу, махае яму рукой*). Дзень добры, дзядзька Рыгор! *(Да Курловіча).* Ты не ўяўляеш, якія карціны я набыла ў Віцебску! Перадавыя ўзоры рэвалюцыйнага мастацтва!

Курловіч (*нясмела*). Уяўляю, што скажа Іван Іванавіч...

Рыта. Мы яго пераканаем! Хадзем адразу ў музей!

Рыта з Курловічам мінаюць двух чэкістаў і знікаюць у нетрах вакзала. Убачыўшы Власта, чэкісты накіроўваюцца проста да яго, мінаючы Сняжынскую, якая з асалодай нюхае кветкі. Власт ставіць цяжкія валізкі на перон, шукае некага вачыма. Падземны чалавек хоча прыйсці яму на дапамогу, але баіцца чэкістаў.

Другі Чэкіст (*да Власта*). Грамадзянін, вы арыштаваны! Пойдзем з намі.

Власт (*разгублена*). З якой такой нагоды?

Першы Чэкіст. Там даведаешся.

Власт. Я прыехаў у Полацак на загад наркама асветы. У мяне ёсць адпаведныя дакументы.

Першы Чэкіст. Маўчы, сволач!

Сняжынская замест таго, каб хутчэй сысці, з цікавасцю назірае за сцэнай затрымання. З глыбіні перона з'яўляецца Кандыба, імкліва ўмешваецца ў размову.

Кандыба. Адставіць! Гэта не ён! (*Заўважае Сняжынскую*). А ты чаго, вырачылася, *дамачка*? Гэць адсюль!

Сняжынская паціскае плячыма і сыходзіць.

Другі Чэкіст (*здзіўлена*). Як не ён? Усе прыкметы супадаюць. Высокі, дыхтоўна апрануты, з багажом.

Кандыба. Супадаюць, але не ён. (*Да Власта*). Кажаце, на загад наркама

асветы? Пакажыце паперы. (*Бярэ ў Власта паперу, чытае*). Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея. Камандзіраваны ў Полацкі музей для прачытання лекцыі і абмену вопытам. (*Аддае паперу Власту*). Прабачце, таварыш Ластоўскі. *(Ветліва)*. Падвезці да музея?

В л а с т. Ды не, лепей я сам. Дзякуй за гасціннасць.

К а н д ы б а. Памылка. Здараецца ў чэкісцкай працы.

Кандыба сыходзіць, падаўшы знак чэкістам. Незадаволеныя чэкісты крочаць за ім. Да Власта бяжыць спалоханы Рыгор.

Р ы г о р (*махае Власту рукой*). Прафесар, прафесар! Я тутака. *(Вітаецца)*. Мяне па вас Іван Іваныч паслаў! Як раптам гэныя... Рыгор я, вартаўнік музея. Давайце валізкі, у мяне тамака падвода чакае.

В л а с т. Валізкі цяжкія, з кнігамі. Бярыце адзін, дзядзька Рыгор. (*Аддае старому адну валізку, другую нясе сам*).

Р ы г о р. Дзякуй Богу, абышлося. Як я за вас спалохаўся!

В л а с т. Памылка. Здараецца ў чэкісцкай працы.

Сыходзяць з перона.

**З’ява другая**

У вітальні Полацкага музея. Музей у стадыі арганізацыі, займае некалькі пакояў у былым дваранскім асабняку. Дырэктар музея І в а н І в а н а в і ч сцішаным голасам размаўляе з маладой супрацоўніцай Я д з в і г а й Ш ы п і л а й.

І в а н І в а н а в і ч. Ядзя, я вас прашу: будзьце асцярожнаю.

Я д з в і г а. Я стараюся, Іван Іванавіч.

І в а н І в а н а в і ч. Не выходзьце без дай прычыны ў горад. Альбо прасіце мяне ці Андрэя вас суправаджаць.

Я д з в і г а. Я памятаю, Іван Іванавіч.

І в а н І в а н а в і ч. Памятаеце... А хто ўчора бегаў цішком у кіно?

Я д з в і г а. Але ж гэта зусім блізютка, праз пляц. Паказвалі “Аэліту” Пратазанава. Рыта параіла падзівіцца на касцюмы Экслер. Я не думала, што нешта здарыцца па дарозе.

І в а н І в а н а в і ч. Але здарылася.

Я д з в і г а. Так.

І в а н І в а н а в і ч. Зноў птушкі?

Я д з в і г а. Гэтым разам сокал. Сеў мне на плячо.

І в а н І в а н а в і ч. Сокал! Не якая-небудзь варона ці галка. А мінулым разам была чародка малінавак... І па горадзе папаўзлі чуткі. Чаму гэта птушкі, як толькі заўважаць супрацоўніцу музея Ядзвігу Шыпілу, сядаюць ёй на рукі, на плечы, на галаву?

Я д з в і г а. Прабачце, Іван Іванавіч.

І в а н І в а н а в і ч (*уздыхае*). Не ведаю, што з вамі рабіць. Адна не слухаецца, другі закахаўся.

У вітальню шпарка ўваходзіць Р ы т а Лейман, услед за ёй – А н д р э й Курловіч са стосам абгорнутых мешкавінай карцін. Андрэй стаўляе карціны на падлогу, да яго падыходзіць Ядзвіга. Падчас агульнай размовы яны стаяць крыху воддаль і шэпчуцца пра нешта сваё.

Р ы т а. Іван Іванавіч, я прывезла карціны! Нам так пашанцавала!

І в а н І в а н а в і ч. Уяўляю...

Р ы т а. Лісіцкі, Чашнік, Коган! Супрэматысты, найлепшыя вучні Малевіча. І нават ранні эскіз самога майстра!

І в а н І в а н а в і ч. Зноў квадраты ды колы? Рыта, у нас правінцыйны музей. Большасць нашых наведнікаў прыходзяць у музей упершыню ў жыцці. Ім бы на пачатку якога Рэпіна ды Хруцкага паказаць.

Р ы т а (*з запалам*). Наадварот! Трэба ад пачатку прывучаць людзей да перадавога мастацтва. (*Да Ядзі*). Ядзя, скажы! (*Азіраецца на Андрэя*). Андрэй, чаму маўчыш?

А н д р э й (*разгублена*). Канечне, трэба...

І в а н І в а н а в і ч. Добра, развесце з Андрэем карціны ў галерэі. Я заўтра прыйду паглядзець.

Р ы т а (*абурана*). Заўтра? Сёння! Цяпер!

І в а н І в а н а в і ч. Сёння ў нас вельмі напружаны дзень. Госці з Менску і Масквы, лекцыя.

Р ы т а. Ну хоць краем вока! (*Просіць*). Іван Іванавіч!

У вітальню няспешна ўваходзіць А н т а н і н а С н я ж ы н с к а я з кветкамі ў руках, з цікавасцю разглядаецца.

С н я ж ы н с к а я. Дзень добры! Не падкажаце, дзе мне знайсці дырэктара музея?

І в а н І в а н а в і ч. Гэта я.

С н я ж ы н с к а я (*працягвае руку*). Антаніна. (*Вітаецца з Іванам Іванавічам*). Антаніна Сняжынская. Мастацтвазнаўца.

І в а н І в а н а в і ч. Наша маскоўская госця? Вельмі радыя! (*Прадстаўляецца*). Іван Іванавіч. А гэта нашыя супрацоўніцы, Ядзвіга і Рыта. І наш сябра, настаўнік Курловіч.

С н я ж ы н с к а я (*да Рыты*). Здаецца, мы з вамі разам ехалі ў цягніку з Віцебска?

Р ы т а (*зацікаўлена*). Мастацтвазнаўца? Скажыце, як вы ставіцеся да супрэматызму?

І в а н І в а н а в і ч (*з дакорам*). Рыта!

С н я ж ы н с к а я (*усміхаецца*). Стаўлюся з разуменнем. Як да важнага перыяду ў развіцці сусветнага мастацтва. Хоць мне асабіста з сучасных мастакоў больш падабаюцца Ларыёнаў і Ганчарова. Шкада, што яны пакінулі Расію.

Р ы т а. Як і наш Шагал.

І в а н І в а н а в і ч (*занепакоена*). Рыта! (*Змяняе тэму, да Сняжынскай*). Як добра, што вы прыехалі якраз сёння. Вечарам будзе лекцыя нашага менскага калегі пра старадаўні Полацак, потым дыскусія.

С н я ж ы н с к а я. Паслухаю з задавальненнем.

У вітальні з'яўляюцца дзядзька Р ы г о р з дзвюма валізкамі ў руках і В л а с т.

Р ы г о р (*радасна*). Прывёз прафесара! Сапраўднага! З дзвюма валізкамі кніжак!

І в а н І в а н а в і ч. А вось і наш лектар! (*Да Власта*). Вацлаў Юстынавіч?

В л а с т. Так. Ластоўскі. Можна проста: Власт.

І в а н І в а н а в і ч (*прадстаўляецца*). Іван Іванавіч, дырэктар музея. Знаёмцеся. (*Робіць знак прысутным*).

Р ы т а. Рыта Лейман!

Я д з в і г а. Ядзвіга Шыпіла.

А н д р э й (*сарамліва*). Курловіч, настаўнік.

С н я ж ы н с к а я. Антаніна Сняжынская.

І в а н І в а н а в і ч. Гэта наша госця з Масквы.

В л а с т (*з цікавасцю*). Сняжынская? Прабачце, а прафесар Сняжынскі...

С н я ж ы н с к а я. Мой бацька.

В л а с т. Я чытаў ягоныя працы.

С н я ж ы н с к а я. А я чытала вашыя кнігі, таварыш Ластоўскі. І мы з Вамі разам ехалі ў цягніку з Віцебска. (*Пасля паўзы*). Усё абышлося?

В л а с т. Так. (*Спахмурнеўшы*). Звычайнае непаразуменне.

І в а н І в а н а в і ч (*бадзёра*). Шаноўныя, да вечара ёсць крыху часу. Я займуся арганізацыйнымі клопатамі. Рыта і Андрэй развесяць карціны. А Ядзвіга пакажа нашым гасцям музей.

С н я ж ы н с к а я. На жаль, я мушу развітацца да вечара. Абяцала наведаць даўнюю сяброўку па гімназіі. (*Прыязна ўсміхаецца*). Пагляджу музей заўтра, ужо з супрэматыстамі.

Р ы т а (*узрадавана*). Файна!

В л а с т (*да Івана Іванавіча*). Я прывёз вам крыху беларускіх кніг...

І в а н І в а н а в і ч. Дзякуй вялікі, калега! Для нашага беднага кнігазбора кожны набытак – скарб.

Усе акрамя Власта і Ядзівігі пакідаюць вітальню.

Я д з в і г а (*вінавата*). Экспазіцыя ў нас пакуль небагатая. Затое сам будынак цікавы.

В л а с т. Я заўважыў. (*З цікавасцю разглядае вітальню*).

Я д з в і г а. Былы дваранскі асабняк.

В л а с т. Што сталася з гаспадарамі?

Я д з в і г а (*панурыўшыся*). Іван Іванавіч забараняе мне расказваць гэтую гісторыю наведнікам.

В л а с т. Разумею. (*Задумліва*). Рэвалюцыя, каламутны час, шмат зламаных лёсаў. Напэўна ноччу па пакоях блукаюць прывіды.

Я д з в і г а (*здзіўлена*). Адкуль вы ведаеце? Так, блукае прывід... Не толькі ноччу. Адзін... Адна... Толькі я чую яе крокі і нават часам бачу... (*Спалохана*). Але пра гэта мне Іван Іванавіч таксама забараніў распавядаць.

В л а с т. Як у вас усё таямніча. Зрэшты, як тое ў Полацку. (*Усміхаецца*). Ваш вартаўнік таксама вельмі таямнічы.

Я д з в і г а. Так, дзядзька Рыгор – незвычайная асоба. Яго ў нас называюць “Падземны чалавек”.

В л а с т. Чаму?

Я д з в і г а. Ён верыць у існаванне полацкіх Лабірынтаў. Усё жыццё прысвяціў пошукам падземных лёхаў, але пакуль не знайшоў. Бяскрыўдны гарадскі вар’ят, якога Іван Іванавіч з літасці ўзяў на працу вартаўніком. (*Занепакоена*). А чаму вы раптам пра яго згадалі?

В л а с т. Ваш Падземны чалавек падараваў мне цікавую рэч. (*Вымае з кішэні манету*). Медная манетка з вельмі дзіўнай выявай: з аднаго боку – птушка з галавой жанчыны, з адваротнага – змей. Ніколі такіх не бачыў.

Я д з в і г а. Пакажыце. (*Забірае манету ў Власта, робіць выгляд, што бачыць упершыню*). Адкуль яна ў яго?

В л а с т. Сказаў, што знайшоў на замчышчы.

Я д з в і г а (*усхвалявана*). Прашу вас, нікому не кажыце пра гэтую знаходку. Гэта вельмі небяспечна. Альбо лепш так: гэта мая манетка. Я яе згубіла, а зараз знайшла. (*Хавае руку з манеткай за спіну*).

В л а с т (*здзіўлена і нават абурана*). Але гэта – падарунак, і я не разумею чаму...

Я д з в і г а. Вельмі небяспечна! Для дзядзькі Рыгора, для вас... Я прашу... (*З мальбой глядзіць Власту ў вочы*).

В л а с т (*разгублена*). Ну... добра.

Я д з в і г а. Хадземце, я пакажу вам музей.

Ядзвіга і Власт сыходзяць. Па нейкім часе ў вітальню ўбягае Р ы т а, за ёй следам – усхваляваны А н д р э й Курловіч.

А н д р э й. Рыта, пачакай!
Р ы т а. Пакінь мяне ў спакоі!
А н д р э й. У цябе нехта ёсць?
Р ы т а. Не сачы за мной, я прасіла!
А н д р э й. Я толькі спытаўся...
Р ы т а. Не блукай за мной удзень і ўночы, як прывід!
А н д р э й. Але я кахаю цябе... Я хачу быць з табой, Рыта...
Р ы т а. А я цябе – не! Ніколі!

Рыта ўцякае, разгублены Андрэй застаецца сам-насам у вітальні.

А н д р э й (*ціха*). Ніколі, Кур.

**З'ява трэцяя**

Полацкі аддзел ГПУ. Кабінет начальніка. К а н д ы б а сядзіць пры стале, падпісвае дакументы. Перад начальнікам стаіць навыцяжку Д р у г і Ч э к і с т.

Д р у г і Ч э к і с т. Вы ўжо не сярдуйце, таварыш Кандыба. Памылачка выйшла.
К а н д ы б а (*не адрываючыся ад папераў*). Угу.
Д р у г і Ч э к і с т. А той, каторага мы чакалі... Няўжо сапраўдны польскі шпіён?
К а н д ы б а. Сапраўдны. Агент дэфензівы.
Д р у г і Ч э к і с т. Прасачыўся, гад!
К а н д ы б а (*скончыўшы працу*). Не прасачыўся. Шпіёна перахапілі віцебскія таварышы. А разам з ім – узнагароды і павышэнні па службе. (*Уважліва глядзіць на чэкіста*). Вось што, Шуневіч. Забудзь пра шпіёна. У нас намячаецца справа куды круцейшая. Цэлая падпольная арганізацыя. На ўсю рэспубліку прагрымім, а можа, і на ўсю краіну.
Д р у г і Ч э к і с т (*захоплена*). Вух ты! Хто такія? Трацкісты? Недабітыя эсэры? Белая эміграцыя?
К а н д ы б а. Больш пакуль нічога не скажу, і ты трымай язык за зубамі. І вось што. Справа сур'ёзная, дзейнічаць будзем пад кіраўніцтвам маскоўскіх таварышаў. Сам Мянжынскі абяцаў даслаць у Полацак свайго даверанага чалавека.
Д р у г і Ч э к і с т (*з павагай*). Масква... Не Віцебск, нават не Менск?
К а н д ы б а. Так трэба. Нікому ні слова. Нават Пеўнікаву.
Д р у г і Ч э к і с т (*здзіўлена*). Нават яму?
К а н д ы б а. Нават яму. Хлопец ён добры, але надта... спрытны. Сібірак. Прыедуць масквічы, знюхаецца са сваімі. Каб раптам не абскочыў.
Д р у г і Ч э к і с т. Зразумеў.
К а н д ы б а. І больш ніякіх ляпаў! Зладзілі мне цырк на вакзале...
Д р у г і Ч э к і с т (*вінавата*). Таварыш Кандыба...

Ціхі стук у дзверы. Уваходзіць 1-ы Ч э к і с т, ухмыляецца.

П е р ш ы Ч э к і с т. Таварыш начальнік! Да вас... баба.
К а н д ы б а (*здзіўлена*). Што?
П е р ш ы Ч э к і с т. У сэнсе, наведвальніца.
К а н д ы б а. Ты ахранеў, Пеўнікаў? Якая наведвальніца ў аддзеле ГПУ?
П е р ш ы Ч э к і с т (*пакрыўджана*). Петухоў я. Я яе не *впускал*, але яна сказала, што *уполномочена говорить* асабіста з начальнікам аддзела ГПУ па справе дзяржаўнай важнасці.

К а н д ы б а. Ты яе абшукаў?

П е р ш ы Ч э к і с т. Канечне, таварыш начальнік. (*Гмыліцца*). *Тщательно.*

К а н д ы б а (*павагаўшыся*). Добра, вядзі. І вось што... Петухоў. Забудзь свае маскальскія слоўцы. У нас тут беларусізацыя. *Понимаешь?*

П е р ш ы Ч э к і с т (*незадаволена*). *Понимаешь.* (*Знікае за дзвярыма*).

К а н д ы б а (*заўважыўшы, што 2-гі Чэкіст таксама ўхмыляецца*). А ты чаго выскаляешся? Ідзі працуй!

Д р у г і Ч э к і с т. А раптам, варожая дыверсія?

К а н д ы б а. Спраўлюся! (*Вымае з шуфляды пісталет і кладзе на стол*).

Другі Чэкіст выходзіць, мінаючыся ў дзвярах са С н я ж ы н с к а ю і Першым Чэкістам.

К а н д ы б а (*убачыўшы Сняжынскую, згадвае сустрэчу на вакзале*). *Дамачка*? Зноў ты? (*Пагрозліва прыўзнімаецца з-за стала*). Што за цырк?

С н я ж ы н с к а я. Дзень добры, таварыш Кандыба! Не будзем губляць час. (*Працягвае начальніку нейкую паперу*).

Кандыба ўважліва чытае паперу, змяняецца з твару.

К а н д ы б а (*прачытаўшы дакумент, да Першага Чэкіста*). Выйдзі.

Першы Чэкіст неахвотна выходзіць.

К а н д ы б а. Вітаю ў Полацку, таварыш Сняжынская. Сядайце, калі ласка. (*Паказвае на зэдлік перад сталом, потым усхопліваецца і прапануе сваё крэсла*). Можа, адразу сюды?

С н я ж ы н с к а я. Кіньце! (*Прысаджваецца на зэдлік*). Потым разбяромся з субардынацыяй.

К а н д ы б а. Выбачайце за канфуз на пероне. Не мог сабе ўявіць...

С н я ж ы н с к а я (*усміхаецца*). Не?

К а н д ы б а. Не... Паплечнік Дзяржынскага, давераная асоба таварыша Мянжынскага... (*Міжволі разглядае Сняжынскую*).

С н я ж ы н с к а я. Я таксама не магла ўявіць. Пакуль не пачалася рэвалюцыя. Пяройдзем да справы, а шостай у мяне лекцыя ў музеі. Вячаслаў Рудольфавіч выказвае вам падзяку за тое, што паведамілі пра падпольную арганізацыю адразу ў Маскву. Абмінаючы беларускае кіраўніцтва.

К а н д ы б а. Для мяне вялікі гонар...

С н я ж ы н с к а я (*перапыняе*). Я ўважліва прачытала ваш рапарт. Сапраўды, ніці арганізацыі могуць цягнуцца ў Менск, нават у кіраўніцтва рэспублікі.

К а н д ы б а. І я так падумаў.

С н я ж ы н с к а я. А назва бяскрыўдная: *"Археалагічная вольная контэрфратэрнія"*...

К а н д ы б а. Незразумелая. Контрхерня нейкая. (*Спахапіўшыся*). Выбачайце! Контррэвалюцыйная назва.

С н я ж ы н с к а я (*зірнуўшы на Кандыбу*). Раскажыце, што здарылася за той час, пакуль я сюды ехала.

К а н д ы б а. Здарыліся дзве рэчы. Першая – прыкрая: ноччу з гарадскога музея выкрадзены скарб. Той самы, пра які я пісаў у рапарце. Выпадкова знойдзены рабочымі – будаўнікамі на замчышчы.

С н я ж ы н с к а я. Думаеце, гэта яны? А, можа, прафесійныя злодзеі?

К а н д ы б а. Навошта мядзведнікам спарахнелыя медныя манеткі? Ні золата, ні срэбра. Крадзежа бессэнсоўная і таму – падазроная.

С н я ж ы н с к а я. Шкада, я б на гэтыя манеткі з цікавасцю паглядзела.

К а н д ы б а. Калі ласка. (*Вымае з шуфляды стала некалькі манетак і працягвае Сняжынскай*).

С н я ж ы н с к а я. Адкуль?

К а н д ы б а. Адзін з рабочых узяў сабе на памяць некалькі манетак. А сынок прынёс у школу.

С н я ж ы н с к а я. Дзіўная манетка... З аднаго боку – птушка з галавой жанчыны, з адваротнага – змей. Ніколі такіх не бачыла. Цікава. (*Злавіўшы здзіўлены погляд Кандыбы*). Да рэвалюцыі я вывучала мастацтвазнаўства ва ўніверсітэце. (*Змяняе тэму*). А якая другая рэч здарылася?

К а н д ы б а. Больш важная, чым манеткі. (*Самазадаволена*). Нам удалося завербаваць аднаго з удзельнікаў арганізацыі.

С н я ж ы н с к а я. Вось гэта навіна!

К а н д ы б а. Цяпер у нас ёсць падрабязныя рапарты з кожнай іхняй сходкі. (*Вымае з шуфляды стала паперку*). Вось апошні. (*Зачытвае*). "Учора, 13 чэрвеня ў гасцёўні музея адбылося чарговае паседжанне «Археалагічнай вольнай контэрфратэрніі». Прысутнічалі: Іван Іванавіч, дырэктар музея. Супрацоўніцы: Ядзвіга Шыпіла і Рыта Лейман. Настаўнік геаграфіі Андрэй Курловіч. Дырэктар прачытаў даклад пра жыццё святой Еўфрасінні з Полацку. Вельмі абураўся фактам ускрыцця мошчаў святой, праведзеным Савецкай уладай у 1922 годзе, і тым, што мошчы знаходзяцца цяпер у Віцебскім краязнаўчым музеі як нейкі экспанат. Потым Ядзвіга Шыпіла прачытала некалькі сваіх дэкадэнцкіх вершаў. Адзін з іх цытую па памяці: «Я носьбіт і дарога, сведка і князь, Айчына, прыяцель, прытулак; Першапрычына і мэта, і існасць рэчаў, Я і захоўнік, і вечнае семя». Вершы відавочна містычнага, рэлігійнага зместу. Наступнае паседжанне гуртка запланавана на 20 чэрвеня. Чакаюцца госці: прафесар Вацлаў Ластоўскі з Менску – вядомы беларускі нацдэм, аўтар фаліянта «Гісторыя крыўскай кнігі», а таксама спецыялістка па старажытнарускаму мастацтву Антаніна Сняжынская з Масквы... (*здзіўлена глядзіць з-пад ілба на Сняжынскую*), праўдападобна, звязаная з белаэмігранцкімі коламі". Подпіс: "Тутэйшы".

С н я ж ы н с к а я. Так, я збіраюся сёння там прысутнічаць. Спадзяюся, ваш "Тутэйшы" таксама будзе?

К а н д ы б а. Канечне. (*Замяўшыся*). Гэта...

С н я ж ы н с к а я (*перапыняе*). Не кажыце, хто ён! Праверу сваю чэкісцкую інтуіцыю. (*Узнімаецца з зэдліка*).

К а н д ы б а (*паспешліва*). Я мяркую, таварыш Сняжынская, што ўсе гэтыя лекцыі і вершыкі – хоць і шкодніцкія самі па сабе – толькі прыкрыццё для іх контррэвалюцыйнай дзейнасці, а іхні археалагічны гурток – дробная ячэйка вялікай падпольнай арганізацыі.

С н я ж ы н с к а я. Я таксама так думаю, таварыш Кандыба. Заўтра падзялюся больш дакладнымі меркаваннямі. (*Узнімаецца з зэдліка*).

К а н д ы б а. Вам патрэбна кватэра, таварыш Сняжынская? (*Паслужліва*). У нас ёсць некалькі кансператыўных.

С н я ж ы н с к а я. Не. Я наўмысна спынілася ў гатэлі. Побач з прафесарам Ластоўскім.

### З'ява чацвёртая

У полацкім гатэлі "Еўропа". У пакоі Власта сабраліся І в а н І в а н а в і ч, Я д з в і г а, Р ы т а, А н д р э й, С н я ж ы н с к а я, г а с п а д а р пакоя. П'юць гарбату і дзеляцца ўражаннямі пасля лекцыі.

І в а н І в а н а в і ч. Значыць, вы лічыце, Вацлаў Юстынавіч, што сучасных беларусаў трэба называць крывічамі, а нашу краіну – Крыўя?

В л а с т. Так.

І в а н І в а н а в і ч. Цікава, цікава.

С н я ж ы н с к а я. Мне таксама ваша крывіцкая канцэпцыя падалася цікавай. З навуковага пункту гледжання. (*Мякка*). Але з палітычнага... вы ўжо мне прабачце як рускаму чалавеку – несвоечасовай. Бо яна выразна падзяляе нашыя славянскія народы, а нам трэба трымацца разам.

Р ы т а (*з запалам*). Разам рыхтаваць сусветную пралетарскую рэвалюцыю!

В л а с т (*сумна ўсміхаецца*). І ў Менску не ўсе са мной згодныя. Некаторыя апаненты называюць маю канцэпцыю папросту шкодніцкай.

І в а н  І в а н а в і ч (*занепакоена*). Пакінем палітыку ў спакоі, у нас археалагічны гурток. Акрамя таго, наш госць, напэўна, стаміўся. Час разыходзіцца.

В л а с т. Што вы, я зусім не стаміўся і гатовы размаўляць да раніцы.

І в а н  І в а н а в і ч. У каго яшчэ ёсьць пытанні? *Навуковыя*.

Я д з в і г а. Скажыце, якая рэлігія больш блізкая нашаму народу: паганства ці хрысціянства?

В л а с т. Кожная з іх узбагаціла наш народ духоўна. На жаль, хрысціянства, запанаваўшы на нашых землях, вынішчыла багатую язычніцкую культуру: дойлідства, жывапіс, пісьменства,

Р ы т а. А цяпер папы крыўдуюць, што мы вынішчаем іх!

І в а н  І в а н а в і ч (*з дакорам*). Рыта!

С н я ж ы н с к а я. У мяне ёсць пытанне. (*Зазірае ў нататнік*). На лекцыі вы сказалі, што паводле чутак у Полацку глыбока пад зямлёй знаходзяцца падземныя лёхі, так званыя *лабірынты*. Вы верыце ў іх існаванне?

В л а с т. Веру. Магчыма менавіта там захоўваецца старадаўняя бібліятэка, схаваная полацкімі манахамі перад нашэсцем войскаў Івана Жахлівага.

С н я ж ы н с к а я (*да Івана Іванавіча*). А вы, Іван Іванавіч?

І в а н  І в а н а в і ч (*смяецца*). Гэта толькі прыгожая легенда. Накшталт Кіцеж-горада на Русі. Вы як спецыяліст па старарускай культуры цудоўна гэта ведаеце.

С н я ж ы н с к а я (*згаджаецца*). Ведаю.

І в а н  І в а н а в і ч (*узнімаецца з фатэля, пахопліва*). Усё, сябры, час разыходзіцца.

Ядзвіга, Рыта і Андрэй таксама ўзнімаюцца з фатэляў і зэдлікаў. Усхопліваецца і Власт. Толькі Сняжынская застаецца на сваім месцы.

В л а с т. Пачакайце, у мяне ёсць пытанне. Іван Іванавіч, я даўно шукаю сляды крыжа Лазара Богшы. Таго самага, зробленага майстрам для святой Еўфрасінні. Вы не ведаеце, куды ён знік са Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра?

І в а н  І в а н а в і ч (*паціскае плячыма, суха*). Не ўяўляю.

В л а с т. Дзіўна... Чаму, ствараючы ў Полацку музей, Вы не зацікавіліся экспанатам, які мог б стаць яго ўпрыгожаннем!

І в а н  І в а н а в і ч (*няўцямна*). Не даходзяць рукі... Столькі спраў. (*Кінуўшы погляд на Сняжынскую*). Прыходзьце раніцай у музей: можа, вы нам дапаможаце.

Р ы т а. І ў нашу карцінную галерэю прыходзьце!

Я д з в і г а (*сардэчна*). Дзякуй вам!

А н д р э й (*паспешліва*). Дзякуй! (*Бярэ Рыту пад руку, каб праводзіць*).

В л а с т. Дабранач!

Госці акрамя Сняжынскай выходзяць.

С н я ж ы н с к а я. Я таксама хацела вам падзякаваць за лекцыю. І не крыўдуйце на мяне за калючыя пытанні.

В л а с т. Што вы, Антаніна! Цікавыя пытанні. (*З павагай*). Адразу адчуваецца спецыяліст.

С н я ж ы н с к а я. Які там спецыяліст... Спецыялістам быў мой бацька. А

я – аматар. Дарэчы, наконт пытанняў. Маю яшчэ адно, так бы мовіць, у кішэні. (*Вымае з кішэні і працягвае Власту медную манетку*). Вам не даводзілася бачыць такія манеты?

В л а с т (*убачыўшы манетку, стараецца не выказваць свайго здзіўлення*). Дзіўная манета.

С н я ж ы н с к а я. Так.

В л а с т. Ніколі раней такіх не бачыў.

С н я ж ы н с к а я. А выявы вам нічога гавораць? З аднаго боку – птушка з галавой жанчыны, з адваротнага боку – змей.

В л а с т (*разглядае манету*). Выявы відавочна з дахрысціянскіх часоў. Паганская багіня Дзева-Сонца, яна ж – птушка Сірын у славянскім фальклоры. І змеявік – сімвал вечнасці. Гліняныя таблічкі з такімі выявамі часта знаходзяць на месцы былых паганскіх капішчаў. (*Кінуўшы погляд на Сняжынскую*). Па ўсёй славяншчыне.

С н я ж ы н с к а я. Таблічкі, медальёны, пячаткі. Але не манеты.

В л а с т (*згаджаецца*). Не манеты.

С н я ж ы н с к а я. Бо?

В л а с т (*робіць выгляд, што не разумее*). Бо?

С н я ж ы н с к а я (*смяецца*). Вацлаў Юстынавіч, я – аматарка, але не да такой ступені! Бо манеты – прыкмета дзяржаўнасці.

В л а с т. Маеце рацыю. (*Асцярожна*). Адкуль у вас гэтая манета?

С н я ж ы н с к а я. Былая сяброўка па гімназіі падаравала. Знайшла на полацкім замчышчы. Хочаце, вам адну ахвярую? У мяне дзве.

В л а с т. Не жартуеце?

С н я ж ы н с к а я. Бярыце-бярыце. Падзяка за лекцыю. (*Усміхаецца*). І за каштоўную кансультацыю.

В л а с т (*апусціўшы вочы*). Дзякуй...

С н я ж ы н с к а я (*узнімаецца з фатэля*). Дабранач. (*Працягвае руку*).

В л а с т (*далікатна пацiснуўшы руку госці*). Дабранач... Антаніна Вітальеўна.

С н я ж ы н с к а я. Цікавы вы чалавек, Вацлаў Юстынавіч. Нагадваеце майго бацьку.

Сняжынская выходзіць з пакоя. Власт задумліва разглядае манетку, то з аднаго, то з другога боку.

В л а с т (*ціха*). "Бо манеты – прыкмета дзяржаўнасці..."

Чуваць асцярожны стук у вакно. Власт паварочваецца і бачыць у вакне твар Р ы г о р а Падземнага чалавека. Рыгор падае яму нейкія таямнічыя знакі. Власт падыходзіць і адчыняе вакно. Рыгор забіраецца на падваконне.

Р ы г о р (*шэптам*). Хуценька збірайцеся, прафесар!

В л а с т. Куды? Што здарылася, дзядзька Рыгор?

Р ы г о р. Хутчэй! Я пакажу вам уваход у полацкія лёхі. Толькі вам аднаму.

В л а с т (*здзіўлена-заінтрыгавана*). Ноччу?

Р ы г о р. Цс-с! Ноччу! І выходзьце праз вакно, не праз дзверы.

Власт вылазіць у вакно ўслед за Рыгорам.

### З'ява пятая

Полацкія лёхі. Цемра. Запальваецца свечка і асвятляе твары Р ы г о р а Падземнага чалавека і В л а с т а.

Р ы г о р (*трымае свечку*). Я нікому не казаў, што знайшоў Лабірынты.

В л а с т. Чаму?

Р ы г о р. Небяспечна. Няхай думаюць, што я вар'ят. Але я ўжо стары, трэба, каб ведаў нехта яшчэ... (*Паслізнуўшыся*). А-а-а!

Свечка падае і гасне. Западае цемра.

В л а с т (*у цемры*). Дзядзька Рыгор! Дзе вы? (*Цішыня*). Вы мяне чуеце? (*Цішыня*). Халера, дзе гэтая свечка? (*Вобмацкам знаходзіць на падлозе свечку, потым запалкі. Запальвае свечку, разглядаецца. Бачыць, што сядзіць ля старадаўняй труны-корста: тоўстай дубовай калоды з высечаным усярэдзіне дуплом для нябожчыка. На труне заўважае надпіс глаголіцай. Чытае ўслых*). "Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і дэманаў пяці моцай слоў тайных на пільнаванне давечнае ўвязаў тут. Хай уносячага сюды прапусцяць, а на выносячым споўніцца слова". (*Праводзіць па труне рукой, але тут жа адымае руку, бо пальцы дакранаюцца да нечага мокрага, ліпкага, нібы кроў. Узнімае свечку вышэй і заўважае на падлозе недалёка ад труны цела Рыгора. Вакол галавы Падземнага чалавека расцякаецца крывавая лужына*). Дзядзька Рыгор! (*Свечка падае з рук Власта, навакол зноў западае цемра*).

Праз нейкі час у лёхах пачынае святлець. Невядома адкуль ліецца гэтае святло. Нібыта свецяцца самі сцены. Власт аглядаецца і бачыць, што знаходзіцца ў вялізнай зале дзіўнай трохкутнай формы. На высокіх столях – арнаменты ў рунічным стылі, на сценах – старадаўнія фрэскі, падлога выкладзена мазаікай. Пад сцяной у шэраг стаяць некалькі дзясяткаў трун-корстаў. Власт шукае вачыма цела дзядзькі Рыгора, але ўжо не знаходзіць яго. Знікла і лужына крыві на падлозе. Здалёк чуецца ціхая музыка, прыглушаны спеў, нечыя крокі. У адной з трох сценаў расчыняюцца незаўважныя дзверы, і ў залу ўваходзіць Р а д. Апрануты ён у белую вопратку ў форме доўгай шырокай кашулі з шырокімі пурпуровымі шлякамі на падлозе і рукавах, на галаве – мітрападобны клабук, таксама падбіты знізу пурпуровай тканінай.

В л а с т (*убачыўшы Рада, здзіўлена*). Іван Іванавіч!

Р а д. Я – Рад, крывіцкі жрэц, адзін з захавальнікаў падземных Лабірынтаў.

В л а с т (*усхвалявана*). Дзядзька Рыгор загінуў! Відаць, паслізнуўся і ўдарыўся галавой аб дубовы корст. А, можа... забіты?..

Р а д. Не парушай павагі святога месца мовай сваіх турботаў. Гэты чалавек без дазволу ўвайшоў у Лабірынты і пяць дэманаў, што ахоўваюць труну ўладара Яраміра, забралі яго ў краіну памерлых. Чытай. (*Паказвае на яшчэ адзін надпіс на старадаўняй труне*).

В л а с т (*чытае ўслых*). "Объятопрімчэ, прыймі другога с чары тайн піўшага". Што гэта значыць?

Р а д. Толькі адзін чалавек з усяго людства можа ведаць нашую таямніцу. Цяпер гэты чалавек – ты. Слухай уважліва, глядзі пільна, я правяду цябе па Лабірынтах, у якіх схаваная наша старадаўняя крывіцкая цывілізацыя... Мы знаходзімся ў галоўнай зале, дзе спачываюць да часу нашыя ўладары. (*Паказвае на фрэскі*). Вось тут, на гэтых сценах забразавана істота нашай старой веры, якая абапіралася на траістасці ўсяго існуючага. Пасярэдзіне бачым тры постаці славянскай Тройцы. Першая з іх ёсць *Найвялікшы*, бацька багоў, не маючы наймення. Імёны, даваныя Яму рознымі народамі: Баг, Бог, Дэос, Дзевае, Гот, Элохім, Алах-Адонай – гэта ўсё Яго прыметнікі, бо імені Яго нельга вымавіць. Другая асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая халдэя-вавілонскаму Эа, індуісцкаму Вішну – гэта пракавечны *Кон*, Які даў усяму жывому законы жыцця, назначыў кон, долю і акрэсліў канец, скон. Трэцяя асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая вавілонскаму Белу і індуісцкаму Шыву, – ёсць *Сіціўрыт*, Сіва. Халдэйцы лічылі Бела Богам апраметнай, царства вечнай цемры, дома, у які ўсе ўваходзяць, але скуль ніхто не выходзіць. Гэта не толькі славянская, але таксама дака-гецкая Тройца, а ўзыходзіць яна да вавілона-егіпецкага пантэону. Ёсць у нас і свая Багіня, якую мы, крывічы, асабліва шануем...

Рад націскае на нябачны рычаг у сцяне, адна з трох сценаў паварочваецца вакол восі, адкрываючы вачам уражанага Власта невялікае капішча. Перад барэльефам Дзевы-Сонца – птушка з дзявочай галавой – той самай, выяву якой Власт бачыў на меднай манетцы – моляцца крывіцкія жрыцы. У Галоўнай жрыцы, якая сядзіць на невялікім узвышэнні і раскачваецца ў медытатыўным трансе перад барэльефам Багіні, Власт пазнае Ядзвігу. Тры іншыя жрыцы сядзяць вакол яе, утвараючы трохкутнік, таксама хістаюцца з боку ў бок і спяваюць.

К р ы в і ц к і я  ж р ы ц ы (*спяваюць*):

*Я носьбіт і дарога, сведка і князь,*
*Айчына, прыяцель, прытулак;*
*Першапрычына і мэта, і існасць рэчаў,*
*Я і ахоўнік, і вечнае семя.*

В л а с т (*прыгледзеўшыся да Галоўнай Жрыцы, прыглушаным голасам*). Ядзвіга...

Р а д. Гэта нашая Багіня – Дзева-Сонца, акадская Ішт*а*р, шумерская Ін*а*на. Нашая галоўная жрыца – Ірэя – не звычайная жрыца, яна – вешчка, прарочыца. Занурыўшыся ў медытацыю, яна спаглядае ў мінулае і прадбачыць будучыню, папярэджваючы жыхароў Лабірынтаў пра небяспеку.

В л а с т. Дык гэтае падзямелле заселена людзьмі?

Р а д. Так. Пад ціскам чужынцаў нашыя продкі мусілі перасяліцца ў падземныя лабірынты, тут жа захоўваюцца найвялікшыя духоўныя і матэрыяльныя набыткі нашай цывілізацыі.

Рад зноў націскае на нябачны рычаг у сцяне, сцяна з капішчам паварочваецца вакол восі і закрываецца, затое разварочваецца іншая сцяна, адкрываючы вачам Власта багатую бібліятэку: гліняныя таблічкі, папірусы, берасцяныя граматы, пергаменты, кнігі.

Р а д. У гэтай залі знаходзіцца нашая бібліятэка. Тут захоўваюцца ўласнаручныя пісанні братоў Кірыла і Мяфодзія, святой Еўфрасінні, летапіс Полацкага княства і шмат іншых рарытэтаў. Напрыклад, сведчанні фінікійскага падарожніка, які бываў у нашым краі за некалькі сот лет да арабскага пісьменніка Масудзі, і той выкарыстаў ягоныя нататкі ў сваім трактаце. Тут мова аб гарадах і святынях славянскіх. Руін гэтых гарадоў і святынь цяперашнія археолагі не знаходзяць на паверхні зямлі, бо яны дзіўнай умеласцю старабытных нашых інжынераў апушчаны ўглыб зямлі, як вось і гэтая наша святыня, дзе мы знаходзімся.

В л а с т (*уражаны*). Крывіцкая Атлантыда! Як такое магчыма?!

Рад зноў націскае на нябачны рычаг у сцяне, сцяна з капішчам паварочваецца вакол восі і закрываецца, затое разварочваецца іншая сцяна, адкрываючы вачам Власта нешта накшталт лабараторыі. За тэхнічным прыборам сядзіць  К а р, у якім Власт пазнае настаўніка геаграфіі Андрэя Курловіча.

Р а д. Пра навуковыя дасягненні крывіцкай цывілізацыі раскажа брат  К а р, наш галоўны вынаходца. (*Падае Кару знак рукой*).

К а р (*з энтузіязмам распавядае*). Гляньце на гэтую салю. Вы тут не ўбачыце нідзе ніякіх прылад да асвятлення, а ў салі светла і цёпла. Гэта таму, што сцены гэтай салі пакрыты элементам, падобным да *радыю*, з якога пабудавана сонца. Пад гэтым святлом і расціны, і людзі могуць жыць без ушчэрбку для свайго здароўя. Гэты элемент, тут ужыты як маса да тынкавання сцен, акром святла і цяпла мае яшчэ і другія дзействы: хто знаходзіцца заўсёды пад уплывам яго святла, не падлягае старасці, якая паходзіць ад звапнення кроваточных начынняў у людскім арганізме. Пад уплывам гэтага святла вапна не можа ў арганізме зацвердзяваць, а дзеля гэтага чалавек застаецца назаўсёды ў адным веку, а як вынік гэтага – не падлягае смерці. Мы з вамі цяпер знаходзімся на глыбіні каля тысячы метраў ад паверхні зямлі, і аднак жа вы аддыхаеце лёгкім паветрам, гэта таму, што элемент гэты, які завецца *гетынам*, мае ўласнасць паглынаць лішкі кіслых газаў. Вось жа,

старыя вучоныя, сышоўшы з поля дзікага змагання на зямлі, жывуць тут, працуючы над навукай і ўмеласцямі ў сваіх абшырных і добра абстаўленых бібліятэках і лабараторыях. Працуюць, чакаючы часу, калі ім прыйдзецца ізноў выйсці да свайго народа. Адным з важных адкрыццяў, намі тут зробленых, ёсць *крывін*, пры помачы якога кожную рэч можна разлажыць на першапачатковыя высхады і з першапачатковых высхадаў злажыць любую рэч. Прыкладам: з высхадаў паветра і вады можна вытварыць камень, золата, хлеб, тлушч і, наадварот, кожную рэч можна перамяніць у другую. Той жа бруковы камень можна змяніць у хлеб ці золата, у паветра ці любога смаку сталовае масла. Бо першапачатковы высхад ва ўсім ёсць адзін і той жа, залежыць толькі ад таго, які надаецца кірунак руху яго праатамам. Гэтае вялікае вагі адкрыццё развяжа на зямлі праблему харчавання і вырашыць сацыяльнае пытанне.

Кар націскае нябачны рычаг у сцяне. Са сцяны выступае каменны блок у кшталце стала. На стале расстаўлена некалькі масіўных міс з жоўтага металу, на іх раскладзеныя свежая садавіна і гародніна, закускі, стаіць і келіх з пітвом.

К а р. Частуйцеся. Усё, што бачыце на гэтым стале, толькі што прыгатавана пры дапамозе высхаду *крывін*. Спрабуйце, ці згодна ўжытку.

Власт спрабуе колькі пачастункаў.

В л а с т. Не адрозніць ад сапраўдных.

К а р. Выпіце келіх пітва. Не горшае за ліцвінскую “Старку”.

Власт смакуе пітво з келіха. Рад з Карам пераглядваюцца.

В л а с т. Так, не горшае. (*Адстаўляе келіх*). Але скажыце мне, няўжо гэта ўсё будзе вечна схавана пад зямлёй? Няўжо цяперашнія беларусы ніколі не даведаюцца пра дасягненні сваіх продкаў?

Р а д. Прыйдзе час. А цяпер пакляніся, што нікому не раскажаш, пра тое што ты бачыў. Каб чужынцы не адабралі ў нас нашыя скарбы.

В л а с т. Клянуся.

Р а д. Клятва твая шчырая, аднак у сучасным свеце шмат спосабаў, каб прымусіць чалавека загаварыць. Не трывожся: пітво, якое ты выпіў, дапаможа табе маўчаць. Ты нікому нічога не раскажаш.

Святло ў лабірынтах пачынае меркнуць. Спеў жрыц сціхае.

В л а с т (*занепакоена*). Пітво? (*Траціць прытомнасць*).

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З’ява шостая

На канспіратыўнай кватэры ГПУ ў Полацку. На ложку ў начной сарочцы сядзіць, падціснуўшы пад сябе калені, заплаканая Р ы т а Лейман. Побач з ложкам няспешна апранаецца Васіль К а н д ы б а.

К а н д ы б а. Не скуголь. Не зношу, калі баба пада мной енчыць.

Р ы т а. Я больш не магу. Я не вытрымаю.

К а н д ы б а. Вытрымаеш, куды ты дзенешся. Ведаеш: адно маё слова – і твой бацька-бундавец апынецца на нарах.

Р ы т а. Ён стары, хворы чалавек.

К а н д ы б а. Такім у турме асабліва цяжка. Ты ж не хочашператварыць ягоную старасць у пекла?

Р ы т а. Я не магу даносіць на блізкіх мне людзей.

К а н д ы б а. Можаш. Не адна ты такая. І вось што: хопіць пераказваць

у рапартах нудныя лекцыі і бязглуздыя вершыкі. Мне патрэбна канкрэтыка: падпольная частка арганізацыі, сувязі ў іншых гарадах, у сталіцы.

Р ы т а. Яны пры мне нічога не гавораць.

К а н д ы б а. А ты справакуй іх на шчырую размову. Прасачы, чым яны займаюцца ноччу, куды ходзяць, з кім сустракаюцца. Дзейнічай больш актыўна.

Р ы т а. Я баюся. Вы абяцалі даць мне зброю... на ўсякі выпадак.

К а н д ы б а. На. (*Дае Рыце маленькі дамскі пісталет*). Хаця наўрад ці ён табе спатрэбіцца. (*Скончыўшы апранацца*). Здаецца, настаўнік закаханы ў цябе па вушы. Зацягні яго ў ложак: вось твая зброя. Можа, расколецца пасля любоўных пешчаў. Усё. Сустракаемся паслязаўтра на гэтай жа кватэры. Калі нешта пільнае – кінеш цыдулку ў пазначаную скрыню.

Кандыба выходзіць. Рыта нейкі час сядзіць нерухома, разглядае пісталецік у сваёй руцэ. Дзверы раптоўна расчыняюцца, у кватэру ўрываецца А н д р э й Курловіч. Бачыць напаўраспранутую Рыту ў ложку.

А н д р э й. Я так і думаў!

Р ы т а. Андрэй?! Што ты тут робіш? (*Хавае руку з пісталетам за спіну*).

А н д р э й. Я ведаў, што ў цябе нехта ёсць!

Р ы т а. Гэта не тое.

А н д р э й. Я сустрэў яго! Я бачыў, як ён выходзіў з кватэры!

Р ы т а (*гнеўна*). Ты сачыў за мной? Як ты мог?!

А н д р э й. Так, сачыў! Каторы раз ты прыходзіш у гэтую кватэру! І цяпер я ведаю, навошта, ведаю якая ты...

Р ы т а. Якая я... хто?

А н д р э й. Шлюха. Хлуслівая шлюха!

Р ы т а. Ідзі прэч. (*Адварочваецца*).

Прыгаломшаны ўласнымі словамі, Андрэй выходзіць. Рыта ўстае і машынальна пачынае апранацца. Засцілае ложак, сядае на краю. Хавае пісталет у рыдыкюль. Ціха рыпнуўшы, дзверы расчыняюцца. На парозе зноў з'яўляецца Андрэй, бледны і разгублены.

А н д р э й. Я не сачыў за табой, Рыта. Прынамсі сёння. Прабач... Я прыбег, каб сказаць... Цябе з раніцы шукае суседка, прыходзіла ў музей, у школу. Твой бацька памёр.

Р ы т а (*неспадзявана абыякава*). Дзякуй... А цяпер выключы святло і выйдзі.

А н д р э й. Рыта?

Р ы т а. Выйдзі, Андрэй. Я цябе прашу.

Андрэй паслухмяна выключае святло і выходзіць. Праз нейкі момант у пакоі чуваць стрэл...

Калі святло зноў запальваецца, робіцца зразумела, што ад часу папярэдняй сцэны мінула некалькі гадзін. На ложку ляжыць мёртвая Рыта Лейман, прыкрытая прасцінай. Побач у фатэлі сядзіць С н я ж ы н с к а я ў скураной чэкісцкай куртцы, чытае нейкую паперу. Перад сталом стаіць навыцяжку П е р ш ы Ч э к і с т, з нецярплівасцю чакае, калі Сняжынская скончыць чытаць.

С н я ж ы н с к а я (*скончыўшы чытаць, глядзіць на Першага Чэкіста*). Ты ўпэўнены, Петухоў?

П е р ш ы Ч э к і с т. Слова камуніста! І гэта не першы выпадак. Я даўно за ім сачу.

С н я ж ы н с к а я. Малайчына, трэба быць пільным. Я падумаю, як цябе ўзнагародзіць.

П е р ш ы Ч э к і с т. Забярыце мяне ў Маскву, таварыш Сняжынская. Замучылі яны мяне сваёй беларусізацыяй. З прозвішча здзекуюцца, Пеўнікавым называюць.

С н я ж ы н с к а я. Добра, але не цяпер. Нам патрэбны надзейныя кадры ў рэспубліках. Пакліч Кандыбу.

Першы Чэкіст выходзіць з пакоя. Сняжынская яшчэ раз перачытвае рапарт. Уваходзіць Васіль К а н д ы б а, кідае погляд на Сняжынскую.

К а н д ы б а. Бачу, таварыш Сняжынская, вы разабраліся з субардынацыяй.
С н я ж ы н с к а я. Вам што, іншых баб у Полацку не было, акрамя завербаванай агенткі?
К а н д ы б а. Здалі ўжо, памочнічкі. Цікава хто: Пеўнікаў ці Шуневіч?
С н я ж ы н с к а я. Здайце пісталет, Кандыба.
К а н д ы б а (*вымае пісталет і аддае Сняжынскай*). Я арыштаваны?
С н я ж ы н с к а я. Зняты з пасады да высвятлення ўсіх абставінаў. Вы далі пісталет Рыце Лейман?
К а н д ы б а. Я. Вельмі прасіла... Сучка.
С н я ж ы н с к а я. Ідэя шантажаваць агентку хворым бацькам была... правільная. А вось выкарыстоўваць дзяўчыну ў ложку ды яшчэ на канспіратыўнай кватэры – яўны перабор.
К а н д ы б а. Хто ж ведаў, што стары бундавец раптам адкіне ногі?
С н я ж ы н с к а я. Адзіная нітачка абарвалася. (*Задумліва*). А яшчэ вартаўнік музея знік. Нават не ведаю, што цяпер рабіць.
К а н д ы б а. Арыштаваць усіх нахрэн, пакуль не разбегліся.
С н я ж ы н с к а я. Дзякуй за параду. Давядзецца. Але адчуваю, што аперацыю мы правалілі. (*Кліча*). Петухоў! Шуневіч!

Уваходзяць Першы і Другі Ч э к і с т ы.

С н я ж ы н с к а я. Праводзьце вашага былога таварыша куды трэба. А потым паедзем у музей.

Кандыба ў суправаджэнні чэкістаў выходзіць. Сняжынская падыходзіць да ложка, адкідвае прасціну, углядаецца ў твар забітай.

С н я ж ы н с к а я. Супрэматыстка... А я думала, што “Тутэйшы” – гэта настаўнік. Старэеш, таварыш Сняжынская.

### З’ява сёмая

У вітальні Полацкага музея. Пасярод пакоя стаіць Я д з в і г а і з кімсьці размаўляе, трымаючы нябачнага суразмоўцу за рукі. Уваходзіць В л а с т, заўважае Ядзвігу, здзіўлены яе паводзінамі спыняецца.

Я д з в і г а. Бывай, Лізавета! Я мушу пакінуць гэты дом. І ты сыходзь. Больш цябе ніхто не пачуе, не пабачыць, не паразмаўляе з табой. Няхай твая душа суцешыцца і знойдзе супакой. (*Заўважае Власта, апускае рукі*).

Чуваць нечыя таропкія крокі, якія аддаляюцца і нарэшце сціхаюць.

В л а с т (*уражаны*). Вы з кімсьці размаўлялі?
Я д з в і г а. Развітвалася. Памятаеце, я расказвала вам пра прывіда, што блукае па гэтым доме?
В л а с т. Толькі згадвалі. Бо вам забаранілі пра яго расказваць.
Я д з в і г а. Цяпер можна. Бо з вамі я таксама развітваюся, Вацлаў Юстынавіч. У гэтым доме жыў адстаўны генерал і ягоная дачка Лізавета. Падчас Грамадзянскай вайны ў дом забраліся марадзёры з чырвонаармейцаў. Генерал сустрэў іх з паляўнічай стрэльбай у руках. Раз’юшаныя бандыты скруцілі старога і хацелі яго забіць, дачка ўступілася за бацьку. Яна была вельмі прыгожая, маладая. Марадзёры забілі генерала, а ягоную дачку згвалцілі. Калі бандыты сышлі, Лізавета павесілася на паддашшы...
В л а с т. Тужлівая гісторыя. Колькі такіх здарылася ў тыя крывавыя часы.
Я д з в і г а. На жаль. Бывайце.

В л а с т. Вы з'язджаеце?

Ядзвіга не адказвае. У вітальні з'яўляюцца І в а н І в а н а в і ч і А н д р э й Курловіч.

І в а н І в а н а в і ч. Мы ўсе з'язджаем. І вам таксама пагражае небяспека. Вяртайцеся ў Менск, Вацлаў Юстынавіч.

Я д з в і г а. Не. Не тут. Не цяпер. Далёка, тысячы кіламетраў.

І в а н І в а н а в і ч (*зірнуўшы ўважліва на Ядзвігу*). Што ж, калі Ядзвіга так кажа... Можаце пакуль не турбавацца.

В л а с т. Што здарылася?

І в а н І в а н а в і ч. Доўгая гісторыя, няма часу. Вы пыталіся ў мяне пра крыж Лазара Богшы?

В л а с т. Так, але вы не хацелі расказваць...

І в а н І в а н а в і ч. Не хацеў. (*Усміхаецца*). Бо ўся мая дзейнасць як дырэктара музея зводзілася не да пошукаў каштоўнасцяў, а да іх захавання ад Савецкай Улады. Як цяпер кажуць, я свядома займаўся сабатажам.

В л а с т. Чаму?

І в а н І в а н а в і ч. Бо ў адрозненне ад вас я не давяраю Саветам. Прададуць каштоўны мастацкі артэфакт за мяжу, каб атрымаць грошы на будаўніцтва дыктатуры пралетарыята.

В л а с т. Крыж у вас?

І в а н І в а н а в і ч. На жаль, не. Мы не паспелі яго выкрасці і схаваць. Крыж знаходзіцца ў мясцовым фінансавым аддзеле разам з іншымі скарбамі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Можа ў вас атрымаецца выцягнуць яго адтуль?

Я д з в і г а (*ціха*). Яны зараз будуць тут.

І в а н І в а н а в і ч. Знікаем праз таемны ўваход!

А н д р э й (*Власту, нечакана*). Яны забілі яе. Выкарысталі, а потым забілі. У яе проста не было выйсця.

І в а н І в а н а в і ч. Хадзем, Андрэй!

Іван Іванавіч, Андрэй і Ядзвіга таропка пакідаюць вітальню. Власт застаецца ў музеі сам, не ведае, што яму рабіць. Праз нейкі час у вітальню ўрываюцца ўзброеныя ч э к і с т ы на чале са С н я ж ы н с к а й.

С н я ж ы н с к а я (*загадным голасам*). Абшукайце музей! (*Першы і Другі Чэкіст кідаюцца выконваць загад*). Дзень добры, Вацлаў Юстынавіч!

В л а с т. Дзень добры, Антаніна Вітальеўна... (*Са здзіўленнем разглядае Сняжынскую ў чэкісцкай скураной куртцы, з рэвальверам у руках*). Вы...

С н я ж ы н с к а я. Так, я. Гэта мая... асноўная праца.

В л а с т. Зразумела. (*Маўчыць*).

С н я ж ы н с к а я. Не бойцеся, вам нічога не пагражае. Прынамсі цяпер.

В л а с т. Прыемна гэта чуць.

С н я ж ы н с к а я. Вы, канечне, не ведаеце, дзе дырэктар музея і ягоныя супрацоўнікі?

В л а с т. Не.

С н я ж ы н с к а я. Думаю, вы не хлусіце. Наўрад ці яны вам сказалі б. (*Хавае рэвальвер у кабуру*).

З'яўляюцца чэкісты.

Д р у г і ч э к і с т. Нікога няма.

П е р ш ы ч э к і с т. Збеглі, сволачы.

С н я ж ы н с к а я. Вазьміце яшчэ людзей і абшукайце Старое Замчышча.

Д р у г і ч э к і с т (*паказвае на Власта*). А з гэным што рабіць?

С н я ж ы н с к а я. Таварыша Ластоўскага я дапрашу, а потым ён вернецца ў Менск: працягваць культурнае будаўніцтва ў рэспубліцы.

П е р ш ы ч э к і с т (*падазрона*). *Панятна.*

Чэкісты выходзяць.

В л а с т (*пасля доўгай паўзы*). Даўно ў вас такая... праца?

С н я ж ы н с к а я. З часоў рэвалюцыі. Рамантычны парыў, так бы мовіць.

В л а с т. А навука, мастацтвазнаўства?

С н я ж ы н с к а я (*паціскае плячыма*). Дзяржынскі да рэвалюцыі пісаў вершы, Мянжынскі – раманы.

В л а с т. А што на гэта ваш бацька...

С н я ж ы н с к а я (*перапыняе*). Ён загінуў падчас Грамадзянскай вайны. (*Сумна ўсміхаецца*). Гэта допыт?

В л а с т (*сумеўшыся*). Прабачце. (*Пасля доўгай паўзы*). Вы ведаеце, што ў гэтым доме жыве прывід? Прывід дзяўчыны, замучанай чырвонаармейцамі-марадзёрамі. Яна спрабавала бараніць свайго бацьку-генерала.

С н я ж ы н с к а я (*рэзка*). Падчас вайны я марадзёраў расстрэльвала. Зрэшты, генералаў таксама. А ў вас ёсць дачка, Вацлаў Юстынавіч?

В л а с т. Дзве. Але яны засталіся за мяжой, у Коўне.

С н я ж ы н с к а я (*уважліва паглядзеўшы на Власта*). Лепей было і вам там заставацца.

В л а с т. Дзіўна чуць такую параду ад вас.

С н я ж ы н с к а я. Час цяпер неспакойны. Чэкісцкая інтуіцыя падказвае мне, што мы яшчэ сустрэнемся.

В л а с т (*прыгадаўшы словы Ядзвігі*). “Не тут. Не цяпер. За тысячы кіламетраў”. Я магу ісці?

С н я ж ы н с к а я. Так.

Власт накіроўваецца да дзвярэй, але нечакана вяртаецца.

В л а с т. Антаніна, можна вас папрасіць...

С н я ж ы н с к а я (*здзіўлена*). Слухаю.

В л а с т. У мясцовым фінаддзеле знаходзіцца крыж Лазара Богшы. Я даўно яго шукаю. У мяне ёсць ліст ад наркома асветы з рэкамендацыяй перадаць крыж, дзе б ён не знаходзіўся, у менскі дзяржаўны музей. Але, баюся, без згоды вашага... ведамства мне яго не аддадуць.

С н я ж ы н с к а я (*зразумеўшы*). Паехалі.

### З’ява восьмая

Студзень 1938 года. Саратаўскі аддзел ГПУ. Кабінет начальніка. За сталом сядзіць П е р ш ы Ч э к і с т, падпісвае дакументы. Пасярод пакоя на зэдліку сядзіць В л а с т, моцна збіты, са звязанымі за спінай рукамі.

П е р ш ы Ч э к і с т. Будзеш упірацца ці адразу падпішаш, сволач?

В л а с т. Што вы ад мяне хочаце? Я ўжо ва ўсім прызнаўся. Што польскі шпіён, прыслужнік міжнароднага імперыялізму. Нават у тым, што японскі агент.

П е р ш ы Ч э к і с т. Не спяшайся. Ёсць яшчэ адна справа. (*Крычыць*). Шуневіч!

В л а с т (*стомлена*). Зноў будзеце біць?

П е р ш ы Ч э к і с т. Ад цябе залежыць.

Уваходзіць Д р у г і Ч э к і с т.

П е р ш ы Ч э к і с т. Прывялі?

Д р у г і Ч э к і с т. Як прыказалі. Проста з карцара прывалаклі ясну панну.

П е р ш ы  Ч э к і с т. Давай яе сюды. І вось што, Шуневіч. Забудзь свае беларускія слоўцы. Ты ў Саратаве, а не ў Полацку. *Понял*?

Д р у г і  Ч э к і с т (*паслухмяна*). Поняў, таварыш Петухоў.

Другі Чэкіст знікае за дзвярыма, потым уводзіць у кабінет Антаніну С н я ж ы н с к у ю, вельмі моцна збітую, у падранай вопратцы. Усаджвае арыштаваную на зэдліку насупраць Власта, падтрымлівае, каб не ўпала. Першы Чэкіст падыходзіць да Власта.

П е р ш ы  Ч э к і с т (*да Власта*). Пазнаеш?

В л а с т (*прыгледзеўшыся*). Так... Таварыш Сняжынская.

П е р ш ы  Ч э к і с т. Знайшоў таварыша! (*Крычыць*). Здрадніца яна, пасобніца Ягоды!

В л а с т (*ціха*). Не ведаю.

П е р ш ы  Ч э к і с т. Канечне, пра змову Ягоды з Рыкавым і Бухарыным ты не ведаеш. Не твой узровень. Але як яна завербавала цябе ў Полацку ў чэрвені 1928 года павінен памятаць.

В л а с т. Завербавала? Не было такога.

П е р ш ы  Ч э к і с т. Шуневіч, нагадай яму.

Другі Чэкіст закасвае рукавы і падыходзіць да Власта.

С н я ж ы н с к а я (*пахіснуўшыся на зэдліку*). Не трэба, Петухоў. Я ўсё падпішу.

П е р ш ы  Ч э к і с т (*не верыць таму, што чуе*). Падпішаш?

С н я ж ы н с к а я. Але пры адной умове. Пакіньце нас сам-насам. На хвіліну.

Д р у г і  Ч э к і с т. Ах ты, курва! Будзеш нам загадваць, што рабіць! (*Замахваецца на Сняжынскую*).

П е р ш ы  Ч э к і с т. Пачакай! (*Падыходзіць да Сняжынскай, уважліва глядзіць на яе*). Праўда падпішаш?

С н я ж ы н с к а я. Праўда. Атрымаеце ўзнагароду за паспяховае следства.

Д р у г і  Ч э к і с т (*убачыўшы, што начальнік вагаецца*). Таварыш начальнік, нельга пакідаць арыштантаў сам-насам!

П е р ш ы  Ч э к і с т. Змоўч! Забыўся, колькі мы з ёй ужо вошкаемся? (*Да Сняжынскай*). Не падманеш?

С н я ж ы н с к а я (*з цяжкасцю ўсміхаецца сасмяглымі вуснамі*). Слова камуніста.

П е р ш ы  Ч э к і с т. Глядзі ў мяне! Пяць хвілін. І без хітрыкаў. Падманеш – кінем цябе да зэкаў. Успомніш маладосць, сучка.

Робіць знак Другому Чэкісту і разам з ім выходзіць за дзверы, захапіўшы з шуфляды стала рэвальвер.

В л а с т (*спачувальна*). Антаніна Вітальеўна... І вас таксама?

С н я ж ы н с к а я. Рэвалюцыя пажырае сваіх дзяцей, як сказаў Дантон. Няважна... Я не ведаю, як і чаму вы тут апынуліся, Вацлаў Юстынавіч.

В л а с т. Мяне саслалі ў Саратаў яшчэ ў трыццаць першым.

С н я ж ы н с к а я. Няважна... Але вы, мусіць, апошні чалавек, якога я пабачу перад смерцю. Я не кажу пра гэтых... У Маскве рыхтуецца вялікі працэс, Бухарын, Рыкаў, Ягода, іншыя таварышы. Нас усіх расстраляюць, абавязкова. Я хачу расказаць. Каму-небудзь. Значыць, вам. Калі я працавала ў Петраградзе ў 1921 годзе, дапамагала Дзяржынскаму. Мне прынеслі на подпіс спіс. На расстрэл. Спіс удзельнікаў контррэвалюцыйнай змовы. Там было шмат інтэлігенцыі, пісьменнікаў. Здаецца, быў Гумілёў... Але галоўнае, што ў спісе быў прафесар Сняжынскі. Мой бацька. І я падпісала... (*Замаўкае*).

В л а с т. Спачуваю вам.

С н я ж ы н с к а я. Я была палымянай рэвалюцыянеркай. Без ваганняў

і сантыментаў... А мой бацька ўсё жыццё шукаў Кіцеж-горад. Праводзіў археалагічныя раскопкі, спраўджваў розныя гіпотэзы. Ён верыў, што недзе пад зямлёй існуе славянская Атлантыда.

В л а с т. Я таксама веру. Часам бачу ў сне, як блукаю па яе падземных лабірынтах.

С н я ж ы н с к а я. Дзякуй, што выслухалі.

Дзверы адчыняюцца, уваходзяць чэкісты, падазрона аглядаюць арыштаваных.

П е р ш ы ч э к і с т (*да Сняжынскай*). Ну што, падпішаш прызнанне?

С н я ж ы н с к а я. Давайце паперу.

Першы чэкіст вымае з шуфляды стала загадзя падрыхтаванае прызнанне і асадку, дае Сняжынскай, жанчына з цяжкасцю падпісвае прызнанне разбітымі пальцамі.

Д р у г і ч э к і с т (*падазрона*). А раптам яны тут змовіліся?

П е р ш ы ч э к і с т. Нахер*а*? Усё роўна абодвух у расход.

**З'ява дзявятая**

Полацкія лабірынты. У цэнтральнай трохкутнай зале сядзяць на невялікім пастаменце Р а д, К а р і І р э я. Са столі і сцен ліецца на іх мяккае святло радыя.

Р а д. Што там, на паверхні?

І р э я (*нібыта прыслухоўваецца*). Усё па-ранейшаму. Чужынцы і іх паслугачы жалезнымі кіпцюрамі трымаюць уладу над зняволеным народам. Д'ябал правіць свой крывавы баль, нявечыць душы людзей хлуснёй і знявагай.

Р а д. Значыць, трэба чакаць. Цярпліва чакаць і назапашваць скарбы.

К а р (*усхвалявана*). Колькі яшчэ? Калі мы ўжо адкрыем таямніцу нашчадкам? Мінаюць дні, гады, стагоддзі!

Р а д (*цвёрда*). Мінаюць стагоддзі, і народ наш, які даўно павінен быў знікнуць з гэтай зямлі па разліках чужынцаў, па-ранейшаму жыве, змагаецца, спадзяецца. Бо крыюцца пад зямлёй Лабірынты, крывіцкая Атлантыда. Мы даем нашчадкам сілу.

К а р. Але калі мы ўжо выйдзем да іх з гэтых лёхаў? Марнуюцца адкрыцці, якія б маглі дапамагчы людзям, маглі б зрабіць іхняе жыццё больш шчаслівым і працаглым!

Р а д. Трэба захоўваць таямніцу. Нельга, каб нашыя скарбы трапілі ў рукі чужынцаў.

І р э я *(прыслухоўваецца)*. Але я чую нейкія зрухі. Нейкую надзею.

Рад і Кар запытальна глядзяць на Ірэю.

К а р (*з недаверам*). Зноў надзея? Каторы ўжо раз?

І р э я. Пакуль не спраўдзіцца.

Р а д. Слухай уважліва, сястра. І як толькі надыдзе час – дай нам знак.

І р э я. Я слухаю, браты мае. Прыслухоўваюся да кожнага неабыякавага зруху сэрца, адважнага крока, сумленнага слова. І малюся за нашу Бацькаўшчыну. (*Спявае ціхім голасам*):

*Я носьбіт і дарога, сведка і князь,*
*Айчына, прыяцель, прытулак;*
*Першапрычына і мэта, і існасць рэчаў,*
*Я і ахоўнік, і вечнае семя.*

*Люблін, жнівень 2020 г.*

пераклады

## Цыпрыян Каміль Норвід



…Ёсць пакаленні, гарады, плямёны,
Часы й краіны,
Што ўнукам пакідаюць не кароны, –
Аскепкі гліны.

# “Над попелам паразы – перамога!..”

*Пераклад з польскай і ўступ Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

24 верасня 2021 спаўняецца 200 гадоў аднаму з найвялікшых польскіх паэтаў Цыпрыяну Камілю Норвіду (1821-1883), які быў не толькі геніяльным вершатворцам, але й вельмі цікавым драматургам, празаікам, эсэістам, а таксама мастаком, скульптарам, філосафам. Але найперш – фантастычным лірыкам, які нашмат апярэдзіў свой час і, як вынік, быў гэтым часам моцна недаацэнены, а нанова адкрыты – і абагомлены! – толькі праз дзесяцігоддзі пасля смерці, ужо ў ХХ ст.

Нават сярод “выклятых паэтаў” Норвід вылучаецца выключна трагічным лёсам. Ранняе сіроцтва і паслядоўная страта ўсіх родных, блізкіх і сяброў, каго ён паспеў палюбіць. (“Сумую па сяброўстве вашым, людзі, / Што ўсюды мне было, як ратаванне, / Ды больш не будзе...”) Безнадзейнае каханне да недасяжнай “фатальнай жанчыны”, расчараванне і адзінота. (“Скажы... што нешчаслівую меў зорку, / І – будзь здарова...”) Поўнае забыццё або паблажліва-іранічнае стаўленне з боку больш паспяховых сучаснікаў, якія часам нават гатовыя былі дапамагаць Норвіду-чалавеку, адно каб Норвід-паэт не друкаваў незразумелых ім твораў (“Нябачны боль ніхто не супакоіць, / Пакуль маланкай Госпад не загоіць...”) Дзве трэціны жыцця, праведзеныя ў эміграцыі

цыі, праблемы са здароўем, падарваным у берлінскай турме, страта слыху і смерць у прытулку для польскіх ветэранаў і дзяцей-сіротаў у парыжскім прадмесці.

Няма чаго дзівіцца, што сваё жыццё і навакольны свет аўтар разглядае ў інфернальных метафарах, як падарожжа па пекле – напрыклад, у сваім найлепшым вершаваным цыкле “Vade-mecum” (“Ідзі за мною”), які пры жыцці Норвіда не быў апублікаваны, затое так уразіў наступнікаў-мадэрністаў на пачатку XX ст., што яны назвалі паэта сваім прадвеснікам і духоўным бацькам. Або ў знакамітым вершы “У нататніку”, што апавядае пра падарожжа па Лімбе – першым пякельным коле. Менавіта гэты верш натхніў Ежы Анджаеўскага на раман “Попел і дыямент”, а Анджэя Вайду – на яго экранізацыю: у фільме ёсць знакаміты эпізод, калі героі знаходзяць у закінутай капліцы радкі з гэтага твора, і персанаж Збігнева Цыбульскага падхоплівае цытату і чытае на памяць:

Пакуль гарыш смалістаю паходняй,
І яскаркі лятуць у чорнай стыні;
Ці паляціш, успыхнуўшы, свабодней –
Ці ўсё, што маеш, згасне і загіне?

Ці дагарыш на ветры, як зала і
Як попел? – ці са дна цябе самога
Нябесным дыяментам запалае
Над попелам паразы – перамога!..

Здабыць перамогу на дне сваёй паразы – формула, з якой атаясамлялі сябе інтэлектуалы не толькі ў Польшчы. Сучаснікі згадвалі, як любіў чытаць гэтыя радкі (па-польску і ў сваім перакладзе) нобелеўскі лаўрэат Іосіф Бродскі, які лічыў Норвіда адным з найгеніяльнейшых паэтаў, і не толькі ў XIX-м стагоддзі.

Упершыню выбраныя вершы Цыпрыяна Каміля Норвіда з’явіліся па-беларуску ў 1993 годзе: кніга “Ідзі за мною”, перакладчык Алег Мінкін. Сёлета да юбілею паэта выдавец Зміцер Колас рыхтуе новае вялікае выданне Норвідавых вершаў у беларускіх перакладах Васіля Сёмухі, Алега Мінкіна і аўтара гэтых словаў.

## *У НАТАТНІКУ*

***1***

Апроч кабет, каторым мандрагора
Парастрапала думкі, як валоссе, –
Дарогай Дантэ, шляхам Піфагора
І я прайшоў праз Лімбы – давялося!

***2***

Я напісаць бы мог дзесяцітомнік,
Пужаць жывых у суцяшэнне мёртвым,
Ды лепш на воды! Выдыхся паломнік –
Не везці ж гэта пекла на курорт вам!

***3***

Лепш паляваць на поспех, колькі ўлезе,
Глядзець на свет у роспачы і шале:
Вякоў пражытых, як грыбоў у лесе, –
А згадкі ўсё з усім перамяшалі.

*4*
Быць там і тут, цяпер, раней і потым,
І ўсё, што нешта значыць, перайначыць,
Каб не круціцца вечным калаўротам, –
Ды ўбачанага Пекла не разбачыць!..

*5*
Ці сустракаўся там з душою братняй?
Ці бачыўся з людзьмі? Скажы, з якімі?
Ні душаў, ні людзей у той вар'ятні,
А толькі гульні з душамі людскімі.

*6*
Няма пачуццяў, толькі іх спружыны
Ў напружанні ўзаемнага іспыту,
Нібыта неўжываныя машыны
Працуюць ад энэргіі нябыту.

*7*
Бязмэтная іржавая руціна,
Час – мёртвы і прастора – нежывая,
І толькі за гадзінай б'е гадзіна,
Нібы цвікі тупыя забівае.

*8*
Замершы ў неакрэсленым бясчассі,
Ды шпорай лёсу гнаныя ўсеўладнай:
Якая? дзе? падзея адбылася, –
Не могуць лічбай вызначыць дакладнай!

*9*
У тытанічным з вечнасцю змаганні
Стагоддзе? – ці хвіліна йдзе зямная, –
Кружляючы ў сумненні і ваганні,
Праходзіць, але цалкам не мінае...

*10*
Адначасова лічым і не лічым,
Як быццам пульс Іроніі бясконцы,
Хаду гадзін з аднолькавым аблíччам,
Што б'юць – адна адну – у вечнай гонцы!

*11*
А той спружынны механізм Нічога –
Трагедыя без словаў і актора:
Як шмат нуды і роспачы як многа,
Бы ў музыцы, што не знаходзіць хора!

***12***
І люты гнеў вантробы скалане вам,
Нібы хвароба мучае марская, –
Чаму? навошта ванітуеш гневам? –
Не ведаеш, ды гнеў не адпускае.

***13***
Вось тут і пачынаецца дазнанне –
Выпрабаванне ўсёй тваёй істоты:
Усе адказы маеш, без пытання,
Усё, як на далоні, – хто і што ты!

***14***
Пабачыш, як спадае, нежывое,
Усё, што ад традыцый, часу, моды;
Дзе ў прозвішча хаваўся радавое?
А што ў табе – тваім было заўсёды?

***15***
Пакуль гарыш смалістаю паходняй,
І яскаркі лятуць у чорнай стыні;
Ці паляціш, успыхнуўшы, свабодней –
Ці ўсё, што маеш, згасне і загіне?

***16***
Ці дагарыш на ветры, як зала і
Як попел? – ці са дна цябе самога
Нябесным дыяментам запалае
Над попелам паразы – перамога!..

***17***
Ды расказаць каму – з якой нагоды?
Што быў там, што глядзеў у вочы прорвам?
Стаміўся ваш паломнік! Лепш на воды –
Не везці ж гэта пекла на курорт вам!

***18***
Скакаць бы прэч ад гэтага вар'яцтва,
З адным табе адданым ягамосцем,
Што чхаў на ўсю гісторыю мастацтва,
Маўчыць, як манумент, бо ўласна ёсць ім.

***19***
Каб выйсці на дарогу без падзелу
На там і тут, на што было і потым,
Дзе толькі рух – мяжа душы і целу,
А небасхіл – за першым паваротам!

### *ФРАШКА (!)*

*What man dost thou dig it for?*
"Гамлет".

***1***
Адзін казаў: "Наш край ідзе праз церні
У зорны свет братэрства і свабоды!
Калі з дэмакратычных рэек зверне, –
Хай пад царызмам згіне назаўсёды!"

***2***
Другі пярэчыў: "Не! Паставяць клізму
Сацыялізм з анархіяй краіне!
Чым тая ганьба, хай ад панславізму
Пад маскалямі назаўсёды згіне!"

***3***
Размова перайшла на крык і енкі,
Затрэсся стол і задрыжэлі сценкі,
Упала й раскалолася распяцце, –
Але ніхто не саступіў ні пядзі.

*Версаль, 1850*

### *IX СІЛА. ФРАШКА*

Начальнікі ўсіх войскаў і паліцый,
Усе аслы ў пагонах – і асліцы...
Каго ж баіцца так вар'яцкі дом іх?
Дзвюх-трох ідэяў... да таго ж, вядомых!..

### *ЛІТАСЦЬ*

Дзе слёзы, там знаходзіцца насоўка;
Дзе з раны кроў, працуе губка лоўка;
А што канае дух, каму бяды?
Нябачны боль ніхто не супакоіць,
Пакуль маланкай Госпад не загоіць:
– Адно тады!..

### *ВАКАЦЫІ*

Правадыра пытаю пра навіны:
"Што робяць людзі?"
А ён: "Ніхто рабіць і не павінны –
І больш не будзе;
Гісторыі – канец..." Во, апрылюдніў!
І ты – без працы?

Ці ёсць, відаць, Правадыры для будняў
І – для вакацый.

### НІЯКАГА СТЫЛЮ

З натхнёных песняроў смяюцца мэтры стылю:
“Іх вершы рваныя для вечнасці сканалі”.
Ды сэрца праўнука – не помнік на магіле.
Рафінаваная, – і ўсё-ткі нежывая, –
Хоць ты разцом яе шліфуй найдасканалей,
Ды песня праз вякі н а ш ч а д к а м не спявае,
Калі с у ч а с н і к а ў крануць не паспявае.

### ЖУРНАЛІСТЫ І ПУБЛІЦЫСТЫ. НОВЫ ОРГАН

*Юзэфу Ігнацыю Крашэўскаму*

***1***
Я змайстраваў з паперы нос,
Вялізны і крывы –
І благаслаўляю ўласны лёс,
Бо орган – як жывы!..

***2***
Ды пагражае нос бядой,
Бо не магу ніяк
Я ні чыхнуць праз орган той,
Ні высмаркацца ўсмак!

***3***
Жывым, але малым насам
Зайзросціць не люблю,
Ды файна, калі можаш сам
Чыхнуць на ўсю зямлю!

### РЭЦЭПТ СТАЛІЧНАГА РАМАНА

Вазьмі шляхетных дурняў штукі тры
(Ці шэсць паўдурняў), мойшу з аканомам;
Падсмажыш на пяры – пасля вары,
Падлі вады, каб сталі тоўстым томам;
Нявінніцу вазьмі ў манастыры,
Перамяшай з нягоднікам вядомым –
І падагрэй, як любяць чытачы.
Дадай мяшок рублёў. І растаўчы.

*1879*

* * *

Капае крот пад дубам сутарэнне
Ды ўласны хваліць лёс арлу ў палёце:
“Твой дуб і мне належыць, бо ў карэнні
Ёсць тое, што ў галінах і ў лістоце.
Ты ў небе птах, я ў глебе крот. Там – сонца,
А тут – яго глыбокую ідэю
Ўяўляю так яскрава і бясконца,
Ажно ад прамянёў яе пацею”.

Арол яму: “Жывеш пры тым жа дрэве,
Дзе рыеш норы сэнсу ў глыбіні,
Ды свет мой – у пасеве, лісці, спеве,
Твой – падгразае карані!”

## З “ЧАРНАВІКОЎ”

Люблю Катула:
Па мёртвым вераб’і заплакаў чула,
Над горам любай вершы ліючы, –
Як у агонь алей... Ды спеў ягоны
Імперскія не славіў легіёны,
Не лез дыктатару ў паслугачы.

*

Ён маладым памёр... Такая смерць,
Напэўна, улюбёная багамі!

## ДЛЯ ПАНІ М., ШТО КУПЛЯЕ ТАЛЕРКУ

*1*

Ёсць пакаленні, гарады, плямёны,
Часы й краіны,
Што ўнукам пакідаюць не кароны, –
Аскепкі гліны.

*2*

А Даме ўвесь музейны скарб шляхетны –
Збаночак толькі:
Не ведае, што топчуць каля Этны
Абцасы полькі...

*3*

Народаў з гарадамі – колькі знікла
У занядбанні! –
Як слуг, што падаюць талерку звыкла
Вяльможнай Пані.

*Трэцяга дня 1869 г., разам з талеркай.*

Генадзь Бураўкін



…гісторыі меркаваць,
што мы зрабілі сумленна…

# Служыў праўдзе

## *Пра адно літаратурнае сяброўства*

### «З перакананнем, што пачуцці сяброўства даўжэйшыя за жыццё»

Генадзь Бураўкін не пакінуў успамінаў, хоць Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін (дый каб толькі яны) настойвалі на гэтым. Спачатку Генадзь Мікалаевіч пазбягаў пісьмовага стала, бо меркаваў, што яшчэ зарана брацца за працу, гаварыў: «Калі Васіль Быкаў напісаў успаміны, я зразумеў, што ён пастарэў. У мяне ж такога адчування пакуль што няма». Аднак пралятаў за годам год, і аднойчы Бураўкін у часе нашай з ім гутаркі нечакана прызнаўся, што адчуў, што й для яго надышоў такі час. Нават назва ўжо была ў будучай кнігі – «Вузлы памяці».

Зрэшты, задума засталася толькі задумай, бо Генадзь Мікалаевіч паставіўся да пытання з містычнай фатальнасцю ці, лепш сказаць, асуджанасцю: казаў, што пасля таго, як мемуары напісалі яго блізкія сябры Васіль Быкаў і Валянцін Болтач, яны хутка, надта хутка пайшлі з гэтага свету. У гэтым Бураўкін бачыў безумоўную прадвызначанасць нябёсаў, і гэта пэўна палохала яго сваёй няўмольнай наканаванасцю. Таму, імкнучыся перахітрыць лёс і нябёсы, ён адкладваў працу да апошняга, калі й адкладваць не было ўжо куды...

Гэткім чынам успамінаў пад назвай «Вузлы памяці» ў бібліяграфіі Бураўкіна няма – ёсць толькі асобныя тэксты, якія былі ці напісаны Генадзем Мікалаевічам ці прамоўлены ім у розныя часы. У тым ліку пра Васіля Быкава, з якім яго звязвала даўняе сяброўства, якое ніколі не перапынялася і нічым не азмрочвалася. І хоць розніца ва ўзросце была немалая – 12 гадоў, усё адно справядліва будзе сказаць не толькі пра ўзаемнасць, але і пра роднаснасць і сугучнасць дзвюх гэтых душ. «Вельмі хочацца, аднак, каб ты быў тут. Каб хоць пагаварыць. Бо без цябе зусім разбрылося-рассыпалася наша брацтва. Хаця наўрад ці яго цяпер можна ўжо склеіць...» – пісаў Васіль Уладзіміравіч у лістах да сябра. І іншым разам прасіў: «Пішы, дружа, заўжды – радасьць тваё пісьмо. Нават сумнае». І называў яго ў часе юбілейнага вечара (Бураўкіну споўнілася яшчэ толькі 50) чалавекам «вельмі шырокага душэўнага дыяпазону» і адным «з самых выдатных паэтаў Беларусі і нашага славянскага свету», «з чуйнасцю надзвычайнай», вершы якога «ўвабралі ў сябе шмат пяшчоты, кахання, усяго самага тонкага і інтымнага ў чалавечых перажываннях».

А праз дзесяцігоддзе ў «Сціплым слове вітання» Быкаў сярод найбольш важных чалавечых якасцяў сябра называў «абвостранае пачуццё таварыскасці, прыязнасці» і «сяброўскую цеплыню ягонай душы, якою ён надзелены шчодра і якую рэалізуе ў жыцці поўнаю мерай». «Менавіта ў памянёных якасцях Генадзя аўтар гэтых радкоў пераканаўся даўно, – распавядаў Васіль Быкаў следам, – можа, на самым пачатку нашага з ім знаёмства і пасля – на працягу немалых гадоў няпростых і нялёгкіх, але заўжды самых таварыскіх, самых цёплых адносін».

Размова ішла пра даўнюю гісторыю, калі маладыя паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі паўсталі на абарону аўтара «крамольнай» аповесці «Мёртвым не баліць». «Некаторыя з сяброў і равеснікаў перасталі вітацца, іншыя пачалі выступаць супроць – у друку і асабліва ў прысутнасці начальства, – згадваў Быкаў. – І толькі нямногія, азіраючыся, калі побач не было староніх, палахліва паціскалі руку і вымаўлялі словы спачування. Генадзь жа не казаў нічога. Абураны беспадстаўнымі нападкамі на аўтара крамольнай аповесці, ён разам са сваім сябрам Анатолем Вярцінскім напісаў ліст у ЦК і паехаў па кватэрах пісьменнікаў збіраць подпісы. Па тым часе тое было няпроста: добраахвотныя заступнікі справядлівасці наслухаліся рознага – ад глыбакадумных абгрунтаванняў немагчымасці заступіцца да пагрозаў наступствамі. Рызыкавалі яны таксама ўласнай партыйнай рэпутацыяй і, безумоўна, – кар'ерай, па сутнасці, на самым яе пачатку: абодва тады былі зусім маладыя. <...>

Але справа не ў выніках заступніцтва, якое практычна ці мела сэнс, – для пакрыўджанага болей важна было звычайнае пачуццё спачування, чалавечай спагады, якія грэюць болей, чым міласэрны прысуд начальства, якога тады якраз і не дачакаліся. І для мяне, і для маіх заступнікаў, якіх у Саюзе пісьменнікаў набралася аж за 60 асобаў, то быў учынак сумлення, хрысціянскай міласэрнасці. Ён не даў памерці надзеі і пабудзіў светлую спадзяванку, без якой чалавек – не чалавек. Тым болей не творца і наўрад ці грамадзянін».

Гэтае «сціплае слова вітання» завяршалася па-быкаўску аголенай эмоцыяй: «Але нічога, мілы Генадзь Мікалаевіч, не трэба смутку нават на рубяжы сталасці-старасці. Зробленае застанецца. Ацэненае, недаацэненае, зусім не ацэненае. На такім рубяжы лёс непадуладны суду людскому, тым болей начальніцкаму. Тут ужо судзіць Бог. А Ён, можа, адзіны ў свеце судзіць па справядлівасці і не робіць памылак. Будзем жа спадзявацца на Яго Боскую ласку, дарагі мой дружа Генадзь...»

Помню, як Генадзь Мікалаевіч гаварыў потым, наколькі каштоўным было для яго слова старэйшага сябра – даражэй за многія іншыя пахвалы і ўзнагароды...

Зрэшты, пра стаўленне Васіля Быкава кажуць не толькі гэтыя выступленні, але і дарчыя аўтографы на кнігах, што пасёння знаходзяцца на сваіх пачэсных месцах у бураўкінскай бібліятэцы: «Гена, разам з абдымкамі і братнім пацалункам... І болей – без слоў. Твой *Васіль. 3.III.79 г.*»; «Дарагі Генадзь, прымі гэты шматпакутны дар ад удзячнага аўтара – за дружбу, вернасць і так – назаўжды. *В. Быкаў. 11.VI.84*»; «Дарагому Генадзю, які заўжды дарагі. Са шчырасцю, *В. Быкаў*»; «Дарагому Генадзю – з перакананнем, што пачуцці сяброўства даўжэйшыя за жыццё. *Васіль Б. Лістапад 89*». Нарэшце, апошні, развітальны надпіс: «Міламу Генадзю, даўняму і нязьменнаму сябру майму, з сардэчнай ласкай. *Васіль. 28.V.03*»[1].

У сваю чаргу пра адносіны Генадзя Бураўкіна да Васіля Быкава лепш распавядзе, бясспрэчна, яго ўласны аповед. Таму каб не паўтарацца, узгадаю толькі тое, што

засталося па-за гэтым маналогам – гэта, вядома, найперш бураўкінскія артыкулы пра сябра: «Суровая правда войны» (Советская культура, 1974, 16 ліп.), «Крупным планом: герои военных повестей В. Быкова на телеэкране» (Правда, 1976, 5кастр.), «По долгу и праву солдата: несколько мыслей вслух о судьбе и книгах друга» (Неман, 1980, №1), «Салдат праўды: Васілю Быкаву – 60» (Беларусь, 1984, №6), «Гонар і сумленне» (Звязда, 1994, 18 чэрв.), «Вялікі» (Народная воля, 2003, 19 чэрв.), «Дарогамі памяці» (пра «Доўгую дарогу дадому» В. Быкава; датуецца *12.V.2003 г.*; месца публікацыі не выяўлена), «Жывы Быкаў» (прадмова да альбома фотамайстра Яўгена Коктыша, 2008). Гэта і дарчыя аўтографы на кнігах – вось толькі некалькі прыкладаў: «Дарагому Васілю Быкаву – з любоўю і вернасцю даўняй і нязменнай. *Генадзь. 11.VII.1978 г.*»; «Васілю Быкаву, якога даўно і глыбока люблю, дружбай з якім даражу і ганаруся, – шчыра. *Генадзь. 4.II.1996 г.*»; «Дарагому Васілю Быкаву – з вернасцю, верай і любоўю. *Генадзь Бураўкін. 20.XI.2000 г.*»[2].

Да таго ж менавіта Генадзь Мікалаевіч узяўся адразу пасля смерці сябра за архіскладаную працу, якая магла аказацца непад'ёмнай для любога іншага, але толькі не для яго, – сабраў кнігу ўспамінаў, якую так і назваў – «Наш Быкаў». І хоць некаторыя калегі ўпікалі, што зарана падступацца да падобнай працы – маўляў, і помнікі на магілах ставяць праз год, але час паказаў абсалютную слушнасць Бураўкіна, які за паўгода падрыхтаваў адну з найцікавейшых мемуарных кніг у беларускай літаратуры. «Год як няма з намі Васіля Быкава, – пісаў ён у прадмове да зборніка. – Яшчэ выходзяць часопісы з падрыхтаванымі ім да друку творамі. Яшчэ ўсё шлюць яму з далёкіх краёў лісты расчуленыя чытачы. Яшчэ ў пісьменніцкіх даведніках не паспелі пасля ягонага прозвішча закрыць чорную дужку з датаю смерці. Але ўжо не ўсміхнуцца болей пры сустрэчы яго добрыя, мудрыя вочы, не ўскіне ён прывычна на развітанне правую руку, а ў тэлефоннай трубцы не прагучыць ягоны стомлены глухаваты голас: "Ну і добранька... Ну і памагай Божа..."

Паэт сказаў некалі, што вялікае бачыцца з адлегласці. Напэўна, гэта сапраўды так. Але ці заўсёды варта доўгімі гадамі чакаць празорлівай дыстанцыі, калі ўжо сёння відавочна, якой волатаўскай постаццю ўзвышаецца ў гісторыі наш любімы і непахісны Васіль Уладзіміравіч, як трагічна не хапае яго ў нашы трывожныя, акаянныя дні?»

І былі, вядома, паэтычныя ахвяраванні сябру[3], у тым ліку адзін з самых пранізлівых развітальных вершаў Генадзя Бураўкіна:

### ***ДАРУЙ!***

*На смерць Васіля Быкава*

Даруй, Васіль,
За ўсё,
Што перанёс:
За ворагам нанесеныя раны,
За брудныя пляўкі з тэлеакрана,
За слёзы ўшацкіх ссечаных бяроз.

Даруй!
Што ўсе свае зямныя дні
Ты азіраўся з горыччу міжволі
На памяці закінутае поле
І спадзяванняў спаленыя пні.

Даруй!
За наш нялітасцівы час,
За ціхае кананне роднай мовы,
За ўдзячнасці запозненыя словы
І ласкі зэканомлены запас...

Тужлівымі пакутлівымі снамі
Ты будзеш вечна мроіцца сынам.
Я ведаю –
Ты ўсё даруеш нам...
Але ці зможам даравацъ мы самі?..

Нарэшце, вось гэты аповед. Гэта не эсэ і не ўспаміны ў традыцыйным сэнсе – гэта вусны маналог пра адно літаратурнае і чалавечае сяброўства, які складзены з нашых з Генадзем Бураўкіным гутарак, што запісваліся ў 2003-2005 гадах і цяпер у такім выглядзе друкуюцца ўпершыню. Бясспрэчна, калі б быў жывы Генадзь Мікалаевіч, ён напісаў бы пра гэтае сяброўства крыху іначай – з пяшчотай і з той непаўторнай даверлівай інтанацыяй, якая была гэтак уласціва аднаму яму. Аднак не лёс, бо не толькі гісторыя – літаратура таксама не прымае ўмоўнага складу.

**Сяргей ШАПРАН.**

Мне цяжка дакладна сказаць, калі мы пазнаёміліся з Васілём Быкавым – відаць, недзе ў сярэдзіне 1950-х. Тады пад Мінскам, у Доме творчасці ў Каралішчавічах праходзіла нарада маладых літаратараў, удзел у якой прымаў і Быкаў. Хоць тое першае знаёмства нельга назваць сапраўдным знаёмствам – проста мільгануў хлопец з Гародні, які пісаў сатырычна-гумарыстычныя апавяданні. Дарэчы, на той нарадзе мы пазнаёміліся і з Уладзімірам Караткевічам, які толькі-толькі прыехаў з Украіны. Але ж у нас была свая ўніверсітэцкая кампанія: Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Юрась Свірка, і ўсе мы былі паэтамі, а Быкаў – празаік. Таму памятаю, што ён быў, але самага знаёмства не згадаю. Нават літаратурнага – не прыпомню, каб мне ў душу запалі яго апавяданні таго часу. Прычына гэтага, можа быць, яшчэ й у тым, што Васіль быў старэйшы за нас, а Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Валодзя Паўлаў, Юрась Свірка, Янка Сіпакоў і нават Валодзя Караткевіч – усе мы былі маладзейшыя. Мы былі дзеці вайны, Быкаў быў яе салдатам.

Потым ужо, бясспрэчна, я звярнуў увагу на яго творы, якія друкаваліся ў «Маладосці», бо гэта было ярка і цікава. Асабліва ўразіў «Жураўліны крык» – светлая і маладая і разам з тым шчымлівая і праўдзівая аповесць. Яна адразу легла на душу. Менавіта тады ў самых дарагіх кутках сэрца засталося імя аўтара – Васіль Быкаў...

Я даволі часта бываў у Гародні, дзе ён тады жыў. Але нас падружыла, канечне, не толькі зямляцкая роднасць (мы блізкія землякі, абодва з Полаччыны: я – з Расонскага раёна, ён – з Ушацкага) – з цягам часу мы сталі блізкія і душою, і прынцыпамі, і адносінамі да літаратуры. Мабыць, тое атрымалася яшчэ й таму, што мы паспелі сваімі маладымі душамі ўспрыняць той глыток свабоды, з'яўленню якой паспрыяла грамадская атмасфера пасля XX з'езда, калі быў развянчаны культ асобы Сталіна. Апроч таго, нас збліжала тое, што мы разам пачыналі сябраваць з Віктарам Астаф'евым і Андрэем Вазнясенскім, што нашымі агульнымі сябрамі былі Мустай Карым, Алесь Ганчар і Іван Драч... Аднак па-сапраўднаму сяброўства звязала нас у сувязі з той жорсткай крытыкай, якая абрынулась на Васіля ў 1966 годзе ва ўсесаюзнай прэсе і ў нас, у Беларусі.

Быкава абвінавачвалі ў тым, што, паказваючы трагічны бок вайны, ён нібыта тым самым прыніжае гераізм савецкіх людзей. Справа ў тым, што ў той час панавала такое паняцце, як «акопная праўда» – гэта быццам бы не ўся праўда пра вайну, а маўляў, сапраўдная праўда – недзе там, у генеральных штабах! Падобныя пісьмы звычайна пісалі баявыя генералы, якія лічылі, што Быкаў недаацэньвае іх подзвіг. Нібыта Быкаў, які паказваў подзвіг радавых, мог пакрыўдзіць генералаў! Але пра штабістаў пісалі іншыя – напрыклад, Канстанцін Сіманаў, які, дарэчы, вельмі высока ацэньваў творчасць Васіля...

І вось пасля аднаго надзвычай несправядлівага, грубага і рэзкага артыкула, надрукаванага ў «Советской Белоруссии», мы, маладыя – Толя Вярцінскі, я і

Іван Чыгрынаў, – вырашылі напісаць пісьмо ў абарону Быкава і звярнуцца з ім у вышэйшую інстанцыю, якая тады была ў Беларусі, – у Цэнтральны Камітэт партыі. Пісьмо з пратэстам супраць такіх ацэнак і супраць праработачнай, як тады гаварылі, крытыкі творчасці Васіля Быкава. Мы пісалі, што, канечне, да кожнага пісьменніка (у тым ліку й да Быкава) можна ставіцца па-рознаму, права крытыкаваць ёсць у кожнага, але якая гэта крытыка?..



*Сябры: Ніл ГІЛЕВІЧ, Валянцін БЛАКІТ, Генадзь БУРАЎКІН, Мікалай МАТУКОЎСКІ, за кадрам – Васіль БЫКАЎ.*

Той факт, што пісьмо падпісалі нашы аднагодкі, людзі аднаго з Быкавым літаратурнага пакалення, быў зразумелым: усе мы былі дзецьмі ХХ з’езда. Але мне тады было вельмі важна – я й сёння гэтым вельмі даражу, – што нас у тым нашым парыве барацьбітоў за справядлівасць падтрымалі людзі, на якіх сам я заўсёды глядзеў з душэўным трапятаннем, бо мы вывучалі іх творчасць у школе. Нас падтрымалі выдатныя людзі літаратуры, у якую мы толькі-толькі ўваходзілі: Міхась Лынькоў, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Янка Брыль. Прычым для нашых класікаў гэта быў сапраўды грамадзянскі і мужны ўчынак. Іх падтрымка толькі надала нам сіл.

Але зразумела было, як пісьмо будзе ўспрынята ў ЦК, – ах, яны пратэстуюць! Пратэстуюць супраць органа ЦК КПБ газеты «Советская Белоруссия»!.. Тады ж было два бясспрэчныя афіцыёзы – «Советская Белоруссия» і «Звязда». Іх ацэнкі, у тым ліку літаратурных твораў, лічыліся ацэнкамі партыі і кіраўніцтва рэспублікі. А тут мы наважыліся рэзка не пагадзіцца з тым, што было напісана ў пагромным артыкуле не дзе-небудзь, а ў самой «Советской Белоруссии»! Гэта быў акт у нечым больш грамадзянскі, чым літаратурны, сяброўскі.

Пра гэты ліст хоць і не шырока, аднак ведалі і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Цэнтральным Камітэце. Пра яго стала вядома й ў Маскве... Што ж датычыцца Васіля, то пасля я, канечне, расказаў яму гэтую гісторыю – як мы збіралі подпісы, якая ў нас была канспірацыя, як перадавалі пісьмо з адных рук у другія, каб на яго след нельга было натрапіць... З часам да нас далучыліся іншыя пісьменнікі, у прыватнасці, Ніл Гілевіч, – гэта ўжо калі мы пайшлі да нашых класікаў, з якімі Ніл быў больш знаёмы, чым мы. Затым – Алесь Адамовіч. Але мы разумелі, што паколькі да нас прыходзяць усё новыя і новыя людзі – мы самі да іх звярталіся і прасілі паставіць подпісы, – доўга захоўваць сакрэт не ўдасца. Відаць, можна было б і болей сабраць подпісаў, але мы адчувалі, што пісьмо трэба хуценька, як кажуць, класці на стол, інакш хто ведае, чым усё можа скончыцца.

Мы чулі пра магчымасці адпаведных органаў і ведалі сілу ідэалагічнага апарату. Таму калі вырашылі закончыць збор подпісаў, распрацавалі з Анатолем Вярцінскім цэлы план, як здаць пісьмо ў ЦК. Тым больш што мяне паклікаў на гутарку сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Станіслаў Пілатовіч. Мы здагадваліся, што гэта будзе за гутарка, і склалі план: я еду да Пілатовіча і зацягваю размову як мага даўжэй, а Толя ў гэты час вязе пісьмо ў ЦК. Справа ў тым, што мы з Вярцінскім былі камуністамі і мелі права заходзіць у будынак ЦК КПБ без папярэдне заказанага

пропуска. Прычым, што было важна, Анатоль павінен быў здаць пісьмо ў канцылярыю і, зарэгістраваўшы яго, атрымаць адпаведны рэгістрацыйны нумар, каб пасля нам не казалі, што след пісьма згубіўся. Такая вось была задума. І яна спрацавала. Калі я сядзеў у Пілатовіча, у яго было адно патрабаванне: «Дзе пісьмо? Дайце мне пісьмо!» Я адказваў, што не ведаю, дзе яно. І вось падчас гэтай дзіўнаватай – калі б хто збоку паглядзеў – гутаркі Пілатовічу пазванілі. З кароткіх злосных рэплік сакратара ЦК я зразумеў, што Вярцінскі пісьмо здаў. Гаварыць пасля гэтага са мной патрэбы ў Пілатовіча не было, і ён мяне адпусціў.



*Мікалай МАТУКОЎСКІ, Васіль БЫКАЎ, Генадзь БУРАЎКІН. Фота Уладзіміра Крука.*

Менавіта гэтая гісторыя й зблізіла нас з Васілём. Адбылося гэта, відаць, па двух прычынах. Па-першае, ясна было, што мы знаходзіліся на адных пазіцыях – пазіцыях, калі гаварыць гучнымі словамі, служэння праўдзе. А па-другое, гэтая гісторыя, вядома, не магла не крануць душу Васіля – ён жа ведаў, што мы рызыкавалі, асабліва я і Толя Вярцінскі: мы працавалі хай на невялікіх, але ж пасадах у газеце «Літаратура і мастацтва», і рызыкавалі не толькі кар'ерай, але і вялікімі непрыемнасцямі па партыйнай лініі...

У той час і пачаліся нашы вельмі блізкія, чыста сяброўскія адносіны, калі сапраўды не толькі я, але і мая жонка Юля ўбачыла, які гэта мяккі і тонкі чалавек, з якім выдатным пачуццём гумару... Менавіта тады і бяруць адлік доўгія гады нашых сустрэч, калі Васіль, прыехаўшы ў Мінск, сядзеў у мяне дома на вуліцы Янкі Купалы да летняй прыгожай раніцы, а потым, дачакаўшыся першага трамвая, мы ехалі на вакзал, садзіліся на цягнік і ехалі ў Вільнюс пад самае адкрыццё кафэ, якіх тады ў Мінску не было. І цэлы дзень удвух з Васілём шпацыравалі па горадзе, сустракаючыся з літоўскімі сябрамі, і толькі ўвечары раз'язджаліся: я – на Мінск, Васіль – у Гародню...

Ён жыў літаратурай, ніяк не імкнучыся дэманстраваць сваю дасведчанасць. Аднак калі ў нас з ім заходзілі літаратурныя гутаркі... У той час у мяне была «завядзёнка» сачыць за літаратурным працэсам, і таму я выпісваў практычна ўсе літаратурныя «тоўстыя» часопісы, як, дарэчы, і Васіль. І калі мы часам у нашых размовах выходзілі на нейкія творы – ці то Барыса Мажаева, ці то Уладзіміра Дудзінцава, ці то іншыя гучныя імёны, – кожнага разу я пераконваўся, што Васіль не проста прачытаў – зыходзячы з ягоных ацэнак, было бачна, што гэта прачытана і прадумана ім. І адным з тых пісьменнікаў, якога мы абодва заўсёды не проста чыталі, але й любілі, быў Віктар Астаф'еў.

Так атрымалася, што я пазнаёміўся з Астаф'евым раней – мы павінны былі разам ехаць у складзе афіцыйнай дэлегацыі ў Югаславію. Віктар жа, надрукаваўшы тады ўсяго дзве свае першыя рэчы, але цікавыя і прыкметныя, толькі-толькі выходзіў на шырокую літаратурную дарогу. І першае, што ён спытаў, калі мы пазнаёміліся і я сказаў, што родам з Беларусі: «О! Быкава ведаеш?» – «Не толькі ведаю – гэта мой блізкі сябра», – адказаў я. І гэтага было дастаткова,

каб мы тут жа сталі сябрамі. Астаф'еў усю дарогу, пакуль ехалі да Белграда ў цягніку, распытваў пра Быкава, а потым сказаў: «Дзякуючы табе лічу, што пазнаёміўся з Васілём. Дзякуй, Гена». І калі пазней яны ўжо самі пазнаёміліся, то ў іх не было ніякой прыглядкі адзін да аднаго, бо яны былі абсалютна блізкія ў сваіх літаратурных прынцыпах і падыходах да таго, пра што пісалі. Яны нават у характарах былі вельмі падобныя, хоць Віктар, вядома, быў больш адкрыты і шумлівы. У літаратурным жа стылі больш сціслы і жорсткі быў Васіль, Віктар жа часам яшчэ купаўся ў рускай мове, якую бліскуча ведаў. Аб'яднала ж іх праўда вайны, якая была ў творах абодвух. Больш за тое, такі выдатнейшы пісьменнік сучаснай рускай літаратуры як Віктар Астаф'еў аднойчы прызнаўся мне: «Васіль Быкаў – мой настаўнік».

Нашы адносіны з Васілём будаваліся на чалавечым даверы і нават на супадзенні ў настроі. Усё-ткі характар у мяне эмацыйны і ўзрыўны і, як можа падасца на першы погляд, абсалютна процілеглы спакойнаму і разважліваму характару Васіля. Але справа ў тым, што ў глыбіні Васіль быў паэтам. Нават не сумняваюся ў гэтым. Проста для выказвання сваёй натуры, думак і жыццёвага вопыту ён абраў празаічную форму, бо яна найбольш падыходзіла яму.

Разам з тым за доўгія гады нашых сустрэч, споведзяў узаемных і аднолькавых грамадзянскіх пакут я заўважыў за Васілём адну цікавую рэч: як хутка ён станавіўся мудрым, як ён рабіўся філосафам. І чым больш праходзіць часу, тым відавочней ягоная веліч – веліч таленту і веліч мужнасці, урэшце рэшт веліч яго мудрасці.

Канечне, ужо яго першыя аповесці былі таленавітыя, з выдатным веданнем вайсковага побыту, жыцця і чалавечай псіхалогіі. Але разам з тым бясспрэчна і тое, што з цягам часу Васіль усё вышэй уздымаўся над гэтым сваім унікальным жыццёвым матэрыялам. І калі пераехаў у Мінск, быў ужо не проста таленавітым пісьменнікам – ён быў пісьменнікам-філосафам. Бо калі ўзяць тую ж «Трэцюю ракету» ці «Жураўліны крык», гэта творы, безумоўна, таленавітыя. Аднак калі параўнаць іх са «Знакам бяды» або «Сотнікавым», дыстанцыя будзе даволі прыкметная. Можа, чытач гэтага не заўважае, бо ўсе Васілёвы творы чытаюцца з велічэзным захапленнем, але калі ў першых яго аповесцях яшчэ не было глыбіні асэнсавання жыцця і філасофскай мудрасці, то пасля ўсё гэта прыйшло.

У дадатак Васіль, відаць, нечакана для самаго сябе станавіўся фігурай грамадскай і нават палітычнай. Хоць ісці ў палітыку ён не хацеў – яго жыццё прывяло да гэтага. Справа ў тым, што ў пэўны момант у Васіля з'явілася адчуванне, што за свае ідэалы і прынцыпы, у якія ён свята верыў, трэба змагацца не толькі творчасцю, але і словам трыбуна. І пачалося гэта не падчас гарбачоўскай перабудовы, як многія думаюць, а значна раней – яшчэ ў 1970-я гады Васіль стаў, як мы прывыклі гаварыць, не толькі пісьменнікам, але і грамадзянінам. І хоць характар у яго быў мяккі, але калі гэта датычылася нечага галоўнага для яго, тут ужо ён быў непрымірымы.

Асабліва гэта было прыкметна, калі стала вядомая праўда пра Курапаты, калі пачаў нараджацца Беларускі народны фронт, калі ўсчаўся духоўны парыў беларусаў да справядлівасці і гістарычнай праўды. Хоць многія знаёмыя масквічы пыталіся: «Што гэта сталася з Васілём Уладзіміравічам? Чаму гэта ён раптам пайшоў у палітыку?!» Але раней ён з прычыны свайго мяккага характару не адчуваў, відаць, неабходнасці ўдзелу ў палітыцы, ці – выкажу крамольную думку – можа, спадзяваўся, што нехта іншы ачоліць гэты рух. Аднак, калі ўбачыў, што гаварыць праўду і прымаць на сябе першы ўдар па вялікім рахунку няма каму, тады й сышоў з галавой у гэтую справу. Зрэшты, думаю, вялікую ролю ў гэтым адыграў Алесь Адамовіч.

Васіля і Алеся разам звёў, безумоўна аднолькавы шмат у чым падыход да

вайны. Хоць досвед вайсковы ў іх быў розны: у Васіля – франтавы, у Алеся – партызанскі. Але ў падыходзе да галоўнага – да таго, што яны адчулі і зразумелі на вайне, – яны былі блізкія.

А з іншага боку, калі гаварыць звыклымі фармуліроўкамі: ну якая была ў Васіля адукацыя? – усяго толькі сярэдняя. Алесь жа быў грунтоўна падрыхтаваны вучоны: у яго за плячыма былі ўніверсітэт і аспірантура, урэшце рэшт ён быў доктарам навук. Мяркую, што менавіта Алесева дасведчанасць і дапамагала ў нечым Васілю падняцца ў сваіх развагах на тую вышыню, якая сведчыць пра глыбокую духоўную падрыхтоўку...

Калі я па просьбе Ірыны Міхайлаўны разбіраў некаторыя паперы Васіля, то знайшоў такі мімалётны запіс: Васіль развaжаў аб тым, што ў некаторых сапраўды выдатных людзей – у Максіма Горкага, Івана Буніна, у шэрагу замежных пісьменнікаў – не было сістэматызаванай адукацыі. Васіль, відаць, адчуваў гэты свой недахоп – што не ўзяў у сэнсе адукацыі тое, што хацеў бы ўзяць. Але ж ён усё жыццё вельмі многа чытаў, і тыя, хто лічыў яго чалавекам у нечым абмежаваным, былі людзьмі не толькі не інфармаванымі, але і не надта празарлівымі, бо Быкаў – ведаю гэта пэўна – прачытаў практычна ўсё, што было выдадзена ў нас і ў бліжэйшым замежжы на тэму Другой сусветнай вайны: дакументальныя сведчанні, мемуары савецкіх і нямецкіх военачальнікаў, мастацкую прозу, прычым чытаў не толькі сапраўды выдатныя франтавыя рэчы Канстанціна Сіманава, Віктара Някрасава, Грыгорыя Бакланава, Юрыя Бондарава, Канстанціна Вараб'ёва, але і так званую «алілуеўскую», «маршальскую» літаратуру. І хоць сяму-таму здавалася, што Быкаў быў усяго толькі летапісцам салдацкага подзвігу, што ён апісваў выключна абмежаваны кавалак вайны, але насамрэч вайну ён ведаў так, як мала хто яшчэ ў беларускай літаратуры. Безумоўна, у яго творах няма сіманаўскай панарамнасці, але затое там ёсць праўда гэтага салдата і праўда гэтага акопа. І цяпер мы ўжо разумеем, што быкаўская праўда пра вайну – гэта і ёсць праўда ўсёй вайны...

Сам я, канечне, ведаў, што проза ў Васіля часам аўтабіяграфічная, але, чытаючы яго «Доўгую дарогу дадому», даведаўся, што з яго франтавой біяграфіяй у той ці іншай ступені цесна звязаны ледзь не ўсе яго рэчы. Гэтага я, прызнаюся, не ведаў. Аднак і Васіль не любіў пра гэта распавядаць.

Хоць, напрыклад, мне было вядома, што аповесць «Мёртвым не баліць» – якая не толькі праславіла яго, але і прынесла найбольш несправядлівай крытыкі, а разам з ёю і чалавечых пакут, – найбольш аўтабіяграфічная. Размова ў ёй ідзе аб так званай Кіравaградскай аперацыі, кіраваў якой маршал Конеў. Васіль распавядаў, што дачка Конева, якой падабалася ўсё, што піша Быкаў, аднойчы сустрэлася з ім. І Васіль, будучы вельмі тактоўным чалавекам, але памятаючы тую крытыку, што абрынулася на яго пасля выхаду аповесці, а тым больш крытыку людзей у вялікіх пагонах, спытаў у дачкі Конева: «Можа быць, і Іван Сцяпанавіч на мяне крыўдуе?» – «Так, Іван Сцяпанавіч вельмі пакрыўдзіўся», – адказала яна. «Я лічу, што сама Кіраваградская аперацыя, як вайсковая аперацыя, выдатная і, на мой погляд, адна з лепшых, – заўважыў на гэта Васіль. – Але я быў на тым участку ў гэтай аперацыі і ў той момант, калі адбылося так, як я й напісаў у аповесці, – калі адбыўся танкавы прарыў нямецкай арміі. Так, пасля ён быў ліквідаваны, але ж ён – быў». Васіль гаварыў, што пасля была яшчэ адна сустрэча з дачкой Конева, і тая сказала: «Тата дараваў».

...Вядома, гісторыі меркаваць, што мы зрабілі сумленна, а дзе аказаліся з'агітаванымі афіцыйнымі прапагандыстамі.

Ішоў усё той жа 1966 год. Не ведаю, згодна з чыёй задумай з'явіўся гэты ліст – думаю, што ідэя ішла з ЦК КПБ. Я даведаўся пра яе ад пісьменніка і супра-

цоўніка рэдакцыі вяшчання на замежжа Беларускага радыё Веніяміна Рудава: патэлефанаваўшы, ён сказаў, што ў сувязі з тым, што нацыяналістычная беларуская эміграцыя апошнім часам даволі актыўна заігрывае з маладымі беларускімі пісьменнікамі, робіць цэлыя перадачы пра нашы кнігі, таму ёсць прапанова даць адказ, бо рэверансы ў наш бок робяць людзі, якія заплямілі сябе ў гады Вялікай Айчыннай вайны крывёю суайчыннікаў. Паколькі я падобных перадач не чуў – замежныя радыёстанцыі «глушыліся» – і прэсы эмігранцкай не чытаў, я прыняў на веру тое, што казаў Рудаў. Адказ павінны даць, дадаў ён, найбольш таленавітыя і вядомыя ў Беларусі і за яе межамі пісьменнікі. Я выказаў жаданне прачытаць ліст. Не магу сцвярджаць, ці тэкст у той час быў такім, які пасля з’явіўся ў прэсе, ці трошкі іншым. Я паказаў яго сваёй жонцы Юлі, і мы пагадзіліся: непрыемна, калі на добрыя словы пра цябе адказваеш злосна, аднак што рабіць у гэтай сітуацыі... Я сапраўды верыў, што «дабрадзеі», прозвішчы якіх былі названы ў лісце, не проста супрацоўнічалі з акупантамі, а насамрэч прымалі ўдзел у расстрэлах і іншых карных акцыях. Я сапраўды верыў, што гэтыя людзі – злачынцы і ворагі... Таму і даў згоду падпісаць гэты ліст.

Пазней тагачасны загадчык аддзела прапаганды ЦК КПБ Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін паклікаў мяне да сябе і папрасіў з’ездзіць у Гародню да Васіля Быкава і дапамагчы атрымаць пад лістом і ягоны подпіс. Кузьмін так і сказаў: «Калі да Быкава паедзе Рудаў, хутчэй за ўсё Быкаў подпісу не паставіць. Таму прашу вас – з’ездзіце, пагаварыце з Васілём Уладзіміравічам». І што мяне асабліва кранула – дадаў: «А неафіцыйна перадайце ад мяне, лётчыка Вялікай Айчыннай вайны, што ўсё, што ён піша, – праўда, так і было на вайне». Пры гэтым Кузьмін падкрэсліў, што гаворыць гэта не як загадчык аддзела ЦК партыі, а як франтавік. І я паехаў да Васіля. Доўга мы хадзілі з ім вечарам над Нёманам і ўрэшце рэшт прыйшлі да невясёлай высновы: справа непрыемная, але падпісваць трэба... Подпісы астатніх, наколькі памятаю, у той час пад лістом ужо былі.

...Калі пасля я трапіў у Амерыку і пазнаёміўся з эмігрантамі бліжэй, толькі тады даведаўся, які няпросты быў іх лёс. Многія з нашых былых суайчыннікаў не прымалі ўдзелу ў карных акцыях, былі настаўнікамі ў школах ці працавалі ў бухгалтэрыях ці канцылярыях, зараблялі сабе і сям’і на кавалак хлеба, каб выжыць, крыві на іх руках не было. І яшчэ – яны сапраўды хацелі вольнай Беларусі. Даведаўшыся пра гэта, я зразумеў, наколькі крыўдным быў той ліст для іх...

Калі ж да Васіля прыйшлі, нарэшце, слава і прызнанне, ён здолеў вытрымаць выпрабаванне меднымі трубамі як мала хто, а можа, як ніхто з маіх добрых знаёмых. Не буду называць прозвішчаў, але некаторыя таленавітыя людзі, якіх я люблю й дагэтуль, часам станавіліся трошкі іншымі, калі на іх навальвалася слава. Але каго гэта абсалютна не закранула, дык Васіля.

У нашым з ім сяброўстве было адно правіла: калі мы сябры сапраўдныя, тым больш выпрабаваныя часам, у нас павінна быць поўная роўнасць незалежна ад таго, на якую пасаду аднаго з сяброў прызначаюць, і незалежна ад таго, якія ўшанаванні ці ўзнагароды атрымлівае твой сябар. Вядома, яно само сабой так склалася, мы пра гэта не дамаўляліся. І Васіль сапраўды ніколі не мог не тое, што сказаць, а нават даць зразумець мне ці каму іншаму: «Даруй, але ў мяне ёсць права маёй славы, права майго таленту, урэшце рэшт права маіх заслуг...». Ён лепш хмыкне і змоўкне. Мы – роўныя, інакш мы не сябры. Васіль вельмі даражыў гэтымі адносінамі. Хоць, канечне, да адных людзей ставіўся з большай увагай, да іншых з меншай, але нідзе і ніколі не дэманстраваў сваю «вышэйшасць».

І хоць у нас з ім была розніца ва ўзросце, прычым вялікая – дванаццаць гадоў, але дзякуючы характару Васіля яна ў нашых узаемаадносінах ніяк не адчувалася. Што ж датычыць розніцы ў літаратурным сэнсе, то я толькі радаваўся, калі ба-

чыў, як Васіль выходзіць на шырокі еўрапейскі прасцяг і ўвогуле на ўвесь свет. Але і тут паміж намі не было ні суперніцтва, ні зайдрасці. Гэта яшчэ адзін урок Васіля, урок ягонага сяброўства – абсалютная роўнасць...

Да слова, я ніколі не называў яго ні «Васіль Уладзіміравіч», ні на «Вы». Хоць ёсць такія людзі – у тым ліку мае равеснікі, ці нават маладзейшыя за мяне, – якіх я не магу называць на «ты». Ці таму віной мая бюракратычная звычка, што прыйшла да мяне на пасадзе старшыні Дзяржтэлерадыё і потым ўмацавалася на дыпламатычнай пасадзе ў Нью-Ёрку, ці таму прычынай самі гэтыя людзі, аднак з Васілём адразу неяк так само сабой атрымалася... Гэта, канечне, не мая заслуга, бо старэйшы ўсё-ткі ён. А можа, мела яшчэ значэнне, што мы сышліся не толькі як Васіль і Генадзь – мы сышліся сем'ямі, і сышліся нашы жонкі – мая Юля і першая Васілёва жонка Надзя. І Васіль добра ведаў маіх дзяцей, якія не толькі любілі яго, а і, паважаючы, пяшчотна ставіліся да яго. Да таго ж яго адрознівала тое, чаго не хапае мне і некаторым маім сябрам, – ён быў унікальна ўважлівы чалавек і ні пра каго ніколі не забываў. Не забываў, што ў мяне ёсць жонка і дзеці, і нават калі жыў за мяжой, то так разлічваў працу пошты, што заўсёды – а Юля нарадзілася 1-га студзеня – за дзень ці два мы абавязкова атрымлівалі яго віншаванне. І гэтыя віншаванні былі не шаблонныя, а вельмі шчырыя. Гэтаксама было і з маімі жнівеньскімі днямі нараджэння. І, вяртаючыся з-за мяжы, ён не мог прыехаць без падарунка...

Наша сяброўства не было паказным. Хоць ёсць такія сябры, якія патрабуюць, калі пішаш нейкі артыкул пра літаратуру, каб нешта абавязкова напісаў і пра іх, дый каб ім былі аддадзены самыя лепшыя словы, каб імя гэтага сябра стаяла сярод самых вялікіх ікон! У Васіля гэтага не было, ён ніколі не прыглядаўся, успомніў ты яго ці не. Ён ведаў, што сяброўства наша праверанае й без гэтага. Васіль і ў гэтым сэнсе быў для мяне ўзорам сябра. Сябра вельмі блізкага і вельмі патрэбнага...

У нас былі ўзаемны давер і ўзаемнае веданне адзін аднаго: калі ў цябе бяда, то гаварылі пра тваю бяду, калі ў цябе вясёлы настрой – так ці інакш гэта перадавалася другому. Ды Божа мой, быў час, калі мы былі маладзейшыя і здаравейшыя, і бралі чарку, а калі пачалі старэць і, як кажуць, «завязалі» з чаркай, але ўсё адно часам успаміналі нашы ранейшыя вясёлыя прыгоды. У гэтай сувязі ў Васіля было два любімыя выслоўі: «Ну што ж, гарэлку не п'еш, адкуль здароўю быць?» (гэта калі некаму прапаноўвалі чарку, а ён адмаўляўся, і тады пыталіся: «Чаму не п'еш?» – «Здароўя няма». – «Канечне! Гарэлку не п'еш, адкуль здароўю быць?!»), і другое, калі садзіліся за стол, Васіль мог сказаць: «Ну што, хлопцы, давайце вып'ем! З раніцы вып'еш – цэлы дзень свабодны!» І ў пісьмах апошняга часу, калі быў кепскі настрой, ён пісаў: выпіў бы як у ранейшыя часы чарачку і стала б весялей, а цяпер і гэтую радасць Бог забраў...

Ён быў вясёлым чалавекам і мог за сталом і анекдот расказаць, і займальную гісторыю. Ён не быў добрым танцорам, як, напрыклад, Барадулін – Рыгор любіў і ўмеў танцаваць. А, скажам, Ніл Гілевіч выдатна спяваў. Затое калі Васіль пачынаў нешта ўспамінаць, гэта быў рэдкі, унікальны расказчык! Не ведаю, ці ўсё было менавіта так, як ён апавядаў, – мо крыху па-пісьменніцку і ўпрыгожваў, але ён быў вельмі ў гэтым сэнсе вясёлым чалавекам. Напрыклад, калі расказваў, як вымяняў у вайну свой падпалены шынялёк на шынель балгарскага генерала. Шыкоўны быў шынель, з чырвонай падбіўкай! Але аднойчы, калі было пастраенне, генерал, убачыўшы Васілёў шынелак, іранічна запытаўся: «А вы, таварыш генерал, што тут робіце?»

Ці любіў расказваць пра свайго сябра Аляксея Карпюка, напрыклад, пра тое, як ён вучыўся на машыне ездзіць. Адну ж гісторыю не магу забыць дагэтуль, бо яна на ўзроўні «Прыгод бравага салдата Швейка» Гашака. Адбылася гэтая

гісторыя ў 1968 годзе, калі ў Чэхаславакіі надарыліся вядомыя падзеі. У той час няўрымслівы Карпюк захацеў убачыць усё сваімі вачамі і, накіраваўся ў ваенкамат, пасля ўлез у вагон, дзе знайшоў некім пакінутую вінтоўку. Паколькі Карпюк быў чалавек гаспадарлівы, ён узяў вінтоўку з сабой і потым не ведаў, куды яе збыць! І ўжо хацеў быў кінуць, аднак яму казалі: «Не, гэта ваша вінтоўка!» І як потым ён прывёз яе ў Гародню (як палітычна ненадзейнага яго ссадзілі яшчэ па дарозе)... Трэба было бачыць, як распавядаў гэта Васіль, – гэта было бліскуча па сюжэце і вельмі адпавядала характару галоўнага героя. Хоць многія нават не здагадваліся, які Васіль бліскучы расказчык і які наогул вясёлы гэта чалавек!

Разам з тым у памяці ўсплывае і нешта выключна чалавечае, можа, нават у нечым сентыментальнае... Мы ж даволі часта ў нашых узаемаадносінах звярталіся да іроніі, да жарта, але калі цяпер я перагортваю старонкі сваіх ўспамінаў, бачу што й тады ў нашых узаемаадносінах было і нешта сентыментальнае, і нешта дужа чуллівае, якога мы, можа, дарма саромеліся і дарма не хацелі прызнаваць, але яно было. Бо нават у тых надпісах на кнігах, якія рабіў мне Васіль, ёсць нейкая нават не характэрная для такога жорсткага пісьменніка, як Быкаў, замілаванасць... Мяне некалі ў гэтым сэнсе ўразіў Адамовіч, таму што мы з Алесем не былі такія ўжо блізкія. Так, былі добра знаёмыя і былі ў адных шэрагах, па адзін бок барыкады, але блізкага сяброўства, як у Васіля з Алесем, у нас не было. Аднак калі яго ўжо не было на гэтым свеце, я неяк пераглядаў сваю бібліятэку, і толькі тады ўбачыў, якія харошыя і чалавечныя надпісы рабіў Алесь! Хоць раней я так не думаў – можа, з-за маладосці, можа, з-за жыцця, што вакол віравала. Цяпер жа, калі яго не стала, мне падалося, што Алесь адчуваў нашу большую блізкасць, чым яна рэальна была ў нашых узаемаадносінах. Хоць, можа, мы проста не паспелі яе адчуць, не паспелі адзін аднаму пра яе сказаць...

З Васілём жа было іначай. І, ведаючы яго нешматслоўнасць і стрыманасць, я, канечне, вельмі даражу ягонымі выступленнямі пра мяне, напрыклад, калі ён па сваёй ініцыятыве надрукаваў у «Маладосці» артыкул да майго 60-годдзя. Не многімі словамі пра сябе я так даражу, як гэтымі. Можа быць, яшчэ словамі Пімена Панчанкі ці Рыгора Барадуліна, Мікалая Матукоўскага... І хоць мне нават трошкі няёмка ад таго, што напісаў пра мяне Васіль, але ўсё адно гэта, безумоўна, вельмі прыемна.

Я насамрэч не толькі ганарыўся (і па-ранейшаму ганаруся) гэтым сяброўствам, але і вельмі даражыў ім. І Васіль гэтаксама ставіўся да мяне па-сяброўску. Гэта для мяне, мабыць, вышэйшая з адзнак, пра якія я толькі мог калісьці марыць. І таму невыпадкова, калі я вярнуўся з камандзіроўкі з-за акіяна, з пасады пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН, мне была зроблена адна даволі хітрая прапанова: я, маўляў, мог бы разлічваць на высокі пост, калі прынародна адмоўлюся ад сяброўства з Быкавым. Я адказаў: «Перадайце вашаму патрону, што на свеце няма і не будзе такіх пасад, з-за якіх я мог бы прадаць сяброўства з Васілём Быкавым».

Разам з тым не магу сказаць, што лепш за іншых ведаў Васіля. Але я дакладна ведаў, які гэта тонкі і шчыры чалавек. Ён ніколі ні ў чым сябе не ўзвышаў і разам з тым нікому не дазваляў сябе прыніжаць, таму й не падлашчваўся пад начальства. Так, ён прымаў узнагароды (і не буду сцвярджаць, што гэта было яму непрыемна), аднак прымаў з годнасцю і ніколі не дзякаваў так, каб было зразумела, што ая-яй як ён хацеў! Наадварот, дзякаваў так, што было зразумела, што ён мог пражыць і без іх, але калі ўжо далі...

Апошнім часам некаторыя папракалі Васіля, што ён нібыта несправядліва ацэньваў тыя гады, калі савецкая дзяржава надала яму званне Героя Сацыялістычнай Працы і лаўрэата Ленінскай прэміі. Гэтыя людзі так казалі ці па сваёй недамысле-

насці, ці подла падмянялі паняцці. Справа ў тым, што ніводнаму рэжыму Быкаў ніколі не прыслужваў – ён служыў адной толькі праўдзе, якую знаў і ў якую свята верыў. А тое, што ў яго ёсць бясспрэчны талент, гэта было вядома нават тым, хто кіраваў ідэалагічнымі структурамі. І яны, прызнаючы ягоны літаратурны талент, проста вымушаны былі даваць яму гэтыя званні і ўзнагароды. Больш за тое, я ўпэўнены, што не гэтыя залатыя зоркі ўзвышалі Быкава – гэта Быкаў падымаў значымасць узнагарод. І як кожны вялікі пісьменнік, ён, думаю, здагадваўся пра сапраўдны кошт таго, што пісаў. І калі яго «Знак бяды» быў выдатнай з'явай, і за яго яму далі Ленінскую прэмію, чаму ён павінен быў адмовіцца? І потым, сярод тых, хто вырашаў даваць ці не гэтую высокую дзяржаўную ўзнагароду, былі ў тым ліку людзі, якіх Васіль паважаў: Чынгіз Айтматаў, Алесь Ганчар... Таму, калі сённяшнія нашы так званыя маладыя ваўкі пачынаюць папракаць Быкава ўзнагародамі, лічу, што гэта ідзе або ад маладой бяздумнасці (што яшчэ даравальна), або ад зайздрасці (што ўжо недаравальна), або ад духоўнай чэрствасці і няведання жыцця (што вельмі небяспечна). І я ніколі не папракаў і не папракну Васіля за тое, што ён прымаў гэтыя ўзнагароды. А тое, што ён не надаваў ім вялікага значэння, сведчыць ягонае завяшчанне – каб падушачак з узнагародамі на пахаванні не было.

Ён стаў мудрым намнога раней за іншых. І калі я ўважліва прачытаў яго «Доўгую дарогу дадому», толькі тады з усёй яснасцю зразумеў, як жыццё дзесяцігоддзямі выпрабоўвала нашага Васіля. Так, як не выпрабоўвала ні мяне, ні Рыгора Барадуліна, ні іншых. І, можа быць, ён і стаў мудрэй раней за іншых, бо прайшоў такую школу жыцця, якую не дай Бог нікому... А з іншага боку, у чымсьці само жыццё дапамагло праявіцца яму. Напрыклад, той жа Уладзімір Караткевіч жыў нацыянальнымі праблемамі не менш, чым Васіль, аднак выказацца напоўніцу не змог, бо жыў у не надта спрыяльны для таго час...

Наогул кажучы, думаю, што свет і асобу Васіля Быкава – не толькі як пісьменніка, але і як чалавека – трэба будзе яшчэ разглядаць і вывучаць гэтаксама, як і свет Льва Талстога, свет Янкі Купалы, свет Кузьмы Чорнага. Гэта адно з нашых няшчасцяў – адсутнасць сур'ёзнай літаратурнай крытыкі. Мы ж дагэтуль не ўсвядомілі, чаму апошнім часам Васіль Быкаў пачаў пісаць прыпавесці. Хоць здавалася, што ў такога рэаліста, як Быкаў, прыпавесцей быць не можа, але яны ёсць й прытым якія глыбокія! І ніхто чамусьці не прыгадвае, што ў канцы жыцця і Леў Талстой абраў гэты жанр, і мудрасці там ніколькі не менш, чым у «Ганне Карэнінай» ці ва «Уваскрашэнні». Хоць не скажу, што ўсе прыпавесці Васіля раўназначныя, але ў яго ёсць і выдатнейшыя рэчы – тое ж апавяданне «Сцяна», глыбокая і страшная прыпавесць, у якой вязень, прагнучы свабоды, па пясчынцы, па цаглінцы выкалупвае сцяну, пакуль нарэшце не вырываецца на свабоду, каб убачыць новую сцяну. Хіба гэта рэч не еўрапейскага ўзроўню?..

Можа быць, таму, што Васіль аддаліўся ад нашай паўсядзённай мітусні, гэта й прывяло яго да новага жанру? Ён нібыта ўзняўся над побытам і марнай тленнасцю нашага жыцця. Хоць, бясспрэчна, Быкаў – чалавек свайго часу. Аднак я лічу, што калі пісьменнік здолеў паказаць жыццё свайго пакалення, то яго дакладна можна назваць выдатным, калі ж творца ўздымаецца над вопытам цэлага пакалення і ўвогуле над жыццём, гэта ўжо геніяльны пісьменнік. Такімі былі Аляксандр Пушкін, Янка Купала і Максім Багдановіч. Такім я лічу і Васіля Быкава. Бо тое, што ён напісаў, жывучы ў нашым часе, было вышэй за гэты наш час. Гэта – своеасаблівы запавет не толькі нам, сучаснікам, але і будучым пакаленням.

І, вядома, несправядліва, што ён не атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Хоць усім – не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, на Украіне, у Польшчы

– было ясна, што Быкаў варты яе. І гэта было больш патрэбна нават не яму, а найперш самой Беларусі: тым самым быў бы афіцыйна засведчаны ўклад Беларусі ў сусветную літаратурную скарбніцу. Гэта было важна для Беларусі і з палітычнага пункту гледжання. Але сам Васіль не прадпрымаў ніякіх дзеянняў, каб атрымаць прэмію. Адпаведнай жа працы ні ўнутры Беларусі, ні тым больш за межамі праведзена не было. А Нобелеўская прэмія не абыходзіцца без нейкага ўздзеяння, палітычнага і арганізацыйнага, бо, скажам шчыра, у выпадках з расійскімі нобелеўскімі лаўрэатамі – і з Пастарнакам, і Шолахавым, і Салжаніцыным, і Бродскім – вялікае значэнне мела палітыка...

Я неаднойчы пытаўся ў Васіля: «Як там у цябе з Нобелеўскай прэміяй?» Але ён заўсёды казаў: «Ай, Генадзь, гэта не той клопат, якому я павінен аддаваць столькі думак, душы, часу. Там столькі заўсёды прэтэндэнтаў – 200-250! І што, мне з імі змагацца? Ну, будзе прэмія – дык будзе, не будзе – дык не будзе». Хоць, канечне, ён быў бы рады. А яшчэ больш рада была б наша Беларусь. Але гісторыя не павярнулася да беларусаў і гэтым разам...

У 1998 годзе ён з'ехаў у Фінляндыю з-за нашага вельмі цяжкога, мітуслівага і крыклівага жыцця. З'ехаў таму, што захацеў хоць трошкі папрацаваць у нармальных чалавечых умовах. Каб не спекулявалі яго імем і каб на яго не гаўкалі з розных падваротняў, уключаючы самую вышэйшую падваротню нашай краіны. Ён жа быў чалавекам ва ўзросце, тройчы паранены, не надта здаровы. Хіба ўлады не ведалі пра гэта? Але нічога не зрабілі для таго, каб дапамагчы яму. Дый яшчэ не выдавалі! У нас жа як робяць: калі хто стаў кіраўніком, дык ён лічыць, што ён ужо голас народа! І калі галоўнаму ідэолагу Замяталіну кнігі Васіля Быкава былі не патрэбныя, значыць, Замяталін быў упэўнены, што не патрэбны яны і людзям.

Гэта наша бяда і наша трагедыя, што мы, маючы такога чалавека (а ён быў у нас такі адзін), не змаглі, не пажадалі стварыць яму спрыяльныя ўмовы, каб ён змог развіваць свой рэдкі талент як мага больш паўней. І калі пройдзе час, і людзі ацэняць усе тыя памылкі, што мы нарабілі, жывучы ў гэтым часе, – у сэнсе выбару і шляху, і тых праваднікоў, што вядуць нас па гэтым шляху, – апраўданнем цэламу народу – нам, беларусам, будзе толькі тое, што разам з намі ў гэтым часе жыў такі чалавек, як Васіль Быкаў...

...Ужо вярнуўшыся з Прагі, ён на трэці дзень запрасіў нас да сябе – мяне, Сяргея Законнікава і Валянціна Болтача. Мы павінны былі прыйсці вечарам, але напярэдадні ён пазваніў і папрасіў завітаць назаўтра раніцай. Відаць, Васіль пагана сябе адчуваў, бо пасля прызнаўся, што пералёт для яго і для Ірыны Міхайлаўны быў вельмі цяжкі.

Помню, калі я яго ўбачыў... Я ведаў, якая цяжкая была аперацыя, што ён сябе пачувае не надта добра – мы ж гаварылі з ім па тэлефоне, і хаця ён ніколі не скардзіўся на здароўе, але я добра ведаў Васіля: калі ўжо ён казаў, што яму нялёгка, дык яму сапраўды цяжка, вельмі цяжка... Першае, што мяне парадавала, – выглядаў ён, як мне здалося, няблага. Я чакаў горшага. Адзінае, што адразу ўразіла, – у яго былі ўжо другія вочы, не тыя быкаўскія, якія я добра памятаў. У ягоных вачах была стома, прытым нават не фізічная – здавалася, што чалавек стаміўся жыць. Вось гэта прамільгнула ў ягоных вачах, калі мы сустрэліся і абняліся...

Першае, што я спытаў:

– Васіль, ты надоўга?

Ён паглядзеў на мяне «новымі», сумнымі вачамі і сказаў:

– Назаўсёды.

І тады я зразумеў, што са здароўем у яго сапраўды больш чым дрэнна. Але ён гэтую тэму адразу закрыў. Мы пайшлі за стол. Ён быў, можа, не такі актыўны, як звычайна, аднак такі ж мілы, слаўны Васіль...

А потым, калі мы сядзелі ўжо ў кабінеце, хлопцы зноў спыталіся: «Васіль Уладзіміравіч, а як самаадчуванне?» Ён горка ўсміхнуўся і адказаў:

– Ну якое можа быць самаадчуванне ў чалавека, у якога рак у чацвёртай ступені?

Праз некалькі дзён, калі я зноў да яго забегся, Ірына Міхайлаўна казала, што Васіль адчувае сябе блага. Хоць трымаўся ён па-ранейшаму мужна...

Яшчэ перад прыездам Васіля ў Беларусь мяне праз аднаго майго сябра папрасіў аб сустрэчы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Рамдракавіч Латыпаў. Гаворка павінна была ісці пра Быкава. Я згадзіўся...

Сустрэліся мы ў адным рэстаранчыку. Латыпаў папытаўся пра стан здароўя Васіля, ці не патрэбна якая-небудзь дапамога?.. Я тады збіраўся ехаць у Прагу праведаць Васіля. Заадно Аляксандр Старыкевіч, рэдактар газеты «Салідарнасць», папрасіў мяне зрабіць інтэрв'ю з Быкавым, які катэгарычна адмаўляўся ад усялякіх размоў з журналістамі. І я, тэлефануючы Васілю, сказаў, што хачу прыехаць (ён абрадаваўся) і заадно выказаў надзею, што ён не адмовіць у інтэрв'ю, самым кароценькім. На што ён адаказаў: «Прыязджай, тады паглядзім». Размова адбылася не болей чым за тыдзень да яго прыезду ў Мінск. Я пачаў збірацца. Але Васіль, відаць, ужо тады вырашыў, што вернецца, аднак нічога пра гэта не сказаў. Якраз тады мне і перадалі просьбу Латыпава.

Я так і сказаў Уралу Рамдракавічу, што збіраюся ў Прагу, што Васілю зрабілі аперацыю, вельмі няпростую, што ў яго метастазы ў печані... Латыпаў спытаў, чым можна дапамагчы – лекамі ці яшчэ як? Я адказаў, што, наколькі ведаю, ніякіх праблем з лекамі няма, а які ў яго стан і што наогул Васіль збіраецца рабіць, вось калі вярнуся, тады і змагу даць адказ, калі гэта вас цікавіць... Трэба адзначыць, што Латыпаў падчас размовы неаднойчы падкрэсліваў, што вельмі паважае Васіля Быкава і гаворыць толькі ад свайго імя.

Вось такая адбылася ў нас гаворка, працягнуць якую мы дамовіліся пасля таго, як я вярнуся з Прагі.

І раптам, нечакана для мяне – не ведаю, наколькі нечакана для іншых, – Васіль прылятае ў Мінск. Мы сустрэліся, і, будучы сам-насам, я сказаў Васілю:

– У мяне была сустрэча з Латыпавым, які пытаўся пра цябе і прапаноўваў дапамогу, калі яна патрэбна.

Васіль на гэта адказаў:

– Ты ведаеш мае адносіны да нашых кіраўнікоў.

– Так. Але я лічу Латыпава дастаткова інтэлігентным чалавекам. Тым больш што ўвесь час ён падкрэсліваў, што гэта яго асабістая ініцыятыва. Таму, калі штонебудзь трэба, ты скажы. Я сустрэнуся з Латыпавым яшчэ раз.

– Ніякай дапамогі мне не трэба. Ёсць толькі адна праблема – з прапіскай Ірыны...

Справа ў тым, што Ірына Міхайлаўна ў нашым консульстве ў Празе абмяняла стары пашпарт на новы. Аднак калі пайшла ў ЖЭС, каб паставіць штамп аб мінскай прапісцы, ёй сказалі, што зрабіць гэтага яны не змогуць, паколькі ў яе чэшскі штамп аб пастаянным пражыванні ў Чэхіі.

– Тут, Генадзь, у мяне праблема... – сказаў Васіль. – У выпадку чаго... – Ён сумна і шматзначна замоўк. – Для мяне гэта будзе трагедыя. Таму што, калі не будзе штампа аб мінскай прапісцы, Ірыну выкінуць, а кватэру забярэ дзяржава. Гэта мяне турбуе... А ўсё астатняе неістотнае...

Пасля гэтага я звязаўся з Латыпавым і сказаў, што ёсць патрэба сустрэцца. Ён прыехаў да мяне на дачу. Я папярэдзіў:

– Васіль не хоча быць некаму абавязаным, тым больш каб гэта было звязана з Лукашэнкам. Ён помніць, як Аляксандр Рыгоравіч сказаў, што на пахаванне Генадзю Дзмітрыевічу Карпенку чаравікі купляў. Васіль баіцца, каб нешта такое не было заяўлена пасля яго смерці.

На гэта Латыпаў заўважыў:

– Я ж вам сказаў, што гэта мая асабістая ініцыятыва.

– Калі сапраўды гэта не дойдзе да Лукашэнкі, тады я скажу аб адной турбоце, якая вельмі трывожыць Васіля. Гэта – прапіска Ірыны Міхайлаўны. Наколькі разумею, для вас гэта не праблема.

– Абсалютна... А яшчэ?

– А больш ніякіх просьбаў няма.

– Можа, з лекамі?

– Не. Гэта адзінае, аб чым сказаў мне Васіль.

– Добра. Дапамагу.

Потым я папрасіў яшчэ аб адным, ужо па ўласнай ініцыятыве:

– На паліграфкамбінаце ляжыць набраны першы том Збору твораў Быкава. Каб выпусціць яго, спатрэбіцца літаральна некалькі дзён. Дайце, калі ласка, каманду аддрукаваць хаця б дзясятак экзэмпляраў, каб Васіль патрымаў у руках гэты том...

Латыпаў адказаў:

– Генадзь Мікалаевіч, пастараюся і гэта зрабіць.

Што датычыцца першай просьбы, Урал Рамдракавіч дапамог аператыўна: Ірыну Міхайлаўну прапісалі вельмі хутка – усё было зроблена літаральна за некалькі гадзін. І Васіль сказаў мне: «Дзякуй, Генадзь». Думаю, што добра, што ён паспеў зняць з душы гэты клопат, – гэта было вырашана яшчэ да Бараўлянаў. Што ж датычыцца другой маёй просьбы, дык пазней я даведаўся: званок выдаўцам быў, аднак пасля – не ведаю ўжо, якія сілы ўмяшаліся – быў яшчэ адзін званок: не друкаваць. Гэты званок і аказаўся вырашальным...

А ў Бараўлянах было ўжо зусім сумна, бо мой цёзка – урач Генадзь Мікалаевіч Мураўёў адразу сказаў:

– Васілю Уладзіміравічу засталося жыць зусім-зусім нядоўга. Самая вялікая задача для мяне, каб ён адзначыў свой дзень нараджэння жывым...

У бальніцы Васіль быў мудрым, быў мужным, быў добрым, але ўжо быў слабым. Аднак зноў жа ніколі ні адным сваім словам ці рухам не выдаў, што яму балюча.

Я пытаўся ў той час у Мураўёва, як Васіль, – і Генадзь Мікалаевіч гаварыў, што трымаецца ён вельмі мужна, сціпла і мудра, разумее, у якім ён стане. Хоць многія ў такім становішчы капрызнічаюць, думаюць толькі пра сябе, крыўдзяцца на любую непрыемную для іх рэч. У Васіля гэтага не было зусім. А было яму, як казаў Мураўёў, вельмі цяжка, жахліва балюча...

У той час ён заўсёды прасіў прывезці яму газеты. Я прывозіў, і ён радасна дзякаваў:

– Вось і добранька...

Адзін раз толькі казаў... Я тады спытаў:

– Ну, Васіль, што ты тут робіш?

– Рыхтуюся да сустрэчы з Богам.

Не скажу, што гэта было сказана трагічна – гэта было сказана быццам бы і з усмешкай, а найбольш з нейкім спакоем, як пра нешта такое, што для яго ўжо вырашана...

Не ведаю, як у дачыненні да іншых, а ў дачыненні да мяне ён не хацеў паказваць свае пакуты і ўсведамленне блізкага адыходу. Хоць, цяпер успамінаючы тыя сустрэчы, думаю, што напрыканцы кожнай ён развітваўся назаўсёды.

...Ужо дастаткова многа часу прайшло пасля таго, як мы паклалі яго ў зямлю, але й сёння ў мяне яшчэ адчуванне, быццам ён тут. Ён жа доўга жыў спачатку ў Фінляндыі, потым у Германіі, і я знаў, што ён ёсць, але – далёка. Як пісьменнік ён ёсць і застанецца назаўсёды, а як чалавек... І сёння яшчэ часам міжвольна думаю: а вось жа там ёсць Васіль, і калі што якое, дык можна пазваніць яму і параіцца... Мне лягчэй жылося на зямлі, калі я ведаў, што хай не паблізу, у Хельсінскі, Нямеччыне ці ў Празе, але ёсць Васіль Быкаў, што ён жыве, думае, гаруе. Мне ад гэтага было нашмат святлей. А калі ён прыедзе, мы з ім абавязкова сустрэнемся і будзем хадзіць, як раней, над Свіслаччу, і ён будзе цікавіцца тым, што піша прэса, што робіцца ў Саюзе пісьменнікаў і ў нашай Беларусі... Я цяпер усё часцей задумваюся пра Васіля і ад таго, што ўспамінаю, ён робіцца яшчэ больш блізкім і дарагім...

*Літаратурны запіс і публікацыя Сяргея ШАПРАНА*

---

[1] Дарчыя надпісы на наступных кнігах: Быкаў В. Пайсці і не вярнуцца: аповесці. – Мінск: Маст. літ., 1979; Быкаў В. Знак бяды: аповесць. – Мінск: Маст. літ., 1984; Быкаў В. Праўдай адзінай: літ. крытыка, публіцыстыка, інтэрв'ю. – Мінск: Маст. літ., 1984; Быков В. В тумане: повести. – М.: Сов. пис., 1989; Быкаў В. Доўгая дарога дадому: кніга ўспамінаў. – Мінск: ГА БТ «Кніга», 2002.

[2] Дарчыя аўтографы на наступных кнігах: Бураўкін Г. Варта вернасці. – Мінск: Маст. літ., 1978; Бураўкін Г. Узмах крыла. — Мінск: Маст. літ., 1995; Бураўкін Г. Паміж зоркай і свечкай. – Мінск: Бацькаўшчына, 2000.

[3] В. Быкаву Г. Бураўкін прысвяціў вершы: «Балада пра мінёраў», «Усё не затухае бой...», «Даруй!» і «Ідзе жыццё...». Апроч таго, узгадаў яго ў вершы «Ну што, браткі Рыгор і Ніле...» (з падназвай «Да "мінімізацыі" праграм па беларускай літаратуры ў школах»).

Уладзімір Ліпскі



...наталяйцеся

святой прастатой

адкрытых душ...

# Пасля лазні...

***Гамана пісьменнікаў***

## Сустрэча першая

*Гімн лазні і жанчыне*

Цёплы вясновы вечар. Праз некалькі гадзін наступіць Дзень смеху, весялосці. Хацелася не на сумным, гаротным гарызонце ўсесціся, а звесіць ногі ў туман і адвесці душу.

Кажуць, усё на свеце трымаецца на сваёй троіцы. Вось і мы сабраліся ўтрох: Анатоль Кудравец, Віктар Карамазаў і я, Уладзімір Ліпскі. Прырода не стварала нічога аднолькавага. Усё індывідуальна! Мы, пісьменнікі, хаця і майстры аднаго цэха, але розныя. Па почырку розныя, па характарах. Ды нешта ёсць, што нас аб'яднала. Гэтае “нешта” – аптымізм, весялосць, жаданне заставацца людзьмі пры любой жыццёвай мітусні.

Так атрымалася: мы разам наведалі ў лазню, пасля разам пілі гарбату. Гаворка палілася сама сабою. Зашчымела сэрца, што мудрыя словы вылятаюць “у трубу”, і я, з дазволу сяброў, уключыў дыктафон.

Наталяйцеся святой прастатой адкрытых душ. У гэтым трыялогу не адзначаю аўтараў асобных фраз і аповедаў. Удумлівыя чытачы зразумеюць: час ад часу Анатоль Кудравец задумліва паўтарае фразу: "і ўсё такое", а Віктар Карамазаў мімаходзь паўтарае слова "панімаеш", іншым разам яно гучыць – "паймаеш". Мае пытанні, просьбы, "пракладкі" вы таксама ўловіце. Жадаю вам святочнай сустрэчы ў пісьменніцкай кавярні.

– Гледзячы на кільку, панімаеш, трэба мець вялікую адказнасць: што сказаць?

– Што цяпер на душы ў нашага задумлівага Анатоля?

– Дарагі Валодзя, ты малайчына, што прыдумаў гэту гульню. Ты прыдумаў яе, як дзіцячую, а яна – страшна сур'ёзная... Душа вясною рвецца на волю. Учора слухаў жаўранкаў, шпакоў – гэта сапраўдная вясна. А на вуліцах – неразбярыха. Куры ў магазінах даражэюць з кожным днём. І калі мерку браць ад кур і цэнаў, то не захочацца вясны, і ўсё такое... Але будзем аптымістамі. Няхай птушка ціўкае, лётае, спявае. А чалавек усё-ткі павінен думаць пра светлае, будучае, як зрабіць яго больш светлым... Сабраўшыся невялічкай сябрынай – раз, два, тры – і калі гэта сябрына – мужыкі, то было б грэшна, небяспечна забыцца пра жанчын. Хачу пажадаць ім здароўя, радасці, чакання і ўсяго такога...

– Дзякуй, Анатоль, за вясновы тост! А які ён у Віктара?

– Для пачатку маленькі ўспамінчык. Помню, на стале ляжала цыбулька, ну, не адна, панімаеш, а дзве, тры, пяць... Сала брус ляжаў, булка хлеба, пляшкі стаялі. За сталом сядзелі – Вялюгін, Астрэйка, я. І Астрэйка Анатоль расказваў, як ён жаніўся... Ну, панімаеш, немца выбілі з Беларусі, павыходзілі партызаны з лесу. Астрэйка прызнаўся, што ў лесе ў яго была дзяўчына вельмі харошая. Сказалі адно аднаму: як толькі скончыцца вайна – пажэняцца. А яна была з мінскай Грушаўкі. Умоўна называем яе Марыляй. От, Астрэйка, як прыйшлі ў Мінск, кажа: "Хлопцы, я пакідаю вас, у мяне тут ёсць каханка". А трэба ўлічыць, панімаеш, што хлопцы выйшлі з лесу не толькі з аўтаматамі, але і з самагонкаю... І, кажа, як сустрэліся з хлопцамі на Камароўцы, выпілі, то адразу аб'явіў: "Пайду-ка я шукаць сваю Марылю!.." Летам як пайшоў па разбітай Савецкай вуліцы, панімаеш, а кругом хлопцы знаёмыя з самагонкай. З кожным трэба выпіць, парадавацца, паплакаць, пацалавацца і ўспомніць. І гэта доўжылася да таго, пакуль снег не выпаў. Прыйшоў у Грушаўку, калі ляжаў снег. Знайшоў ён сваю Марылю, а ў хаце – гармонік грае, Божа мой, як усё роўна яго сустракаюць. Анатоль, панімаеш, узрадаваўся: "Дзе Марыля мая, каханне маё..." Ён у хату, а ў Марылі, панімаеш, – вяселле... Яна: "Дзе ж ты, Толя, быў?" А ён: "Марылька, я ж да цябе ўсё лета ішоў!.." – "Дык доўга ж ты, мой любы, ішоў, я страціла надзею..." Так вось ішоў Толя на сваё вяселле, а прышоў на чужое... Маладая, цудоўная гісторыя, панімаеш!..

– Колькі не ведаем мы цікавага! – уздыхнуў Анатоль, дадаў глыбакадумна: – І ўсё такое... Згодзен з Віцем, што час змывае ўсё, але больш за ўсё – лепшае. Насуперак часу, як сказаў пане Валодзя, трэба сустракацца, успамінаць лепшае. А лепшае, як заўсёды, – нешта мудрае, добрае. Яно ажывіць, трошкі падбадзёрыць, надасць нейкі штуршок. Кроч, браце, уперад, ваяваць трэба, жыць трэба.

– Дык давайце за лепшае, за жыццё!

– Хачу, хлопцы, толькі дадаць пару слоў пра лазню. Гэта – святое жыццё. Шырокае, поўнае, прыгожае. Мне нават бачацца яе грудзі, і ўсё такое... Яна дае прастору, яна дае... волю. Саграе. Ацяпляе. Расслабляе, а потым збірае ў кучу. Яна, лазня, як бы кліча да сябе і адганяе, але яна ў той час даказвае: "Дарагі мой, хто б ты не быў, ты павінен да мяне прыйсці, не абавязкова, каб ты быў маім каханым, маім любоўнікам, і ўсё такое, але ты абавязкова прыйдзі да мяне. Ты будзеш шукаць мяне. Ты знойдзеш мяне. І ты заплаціш, калі нехта скажа, што трэба плаціць талерамі, далярамі, дукатамі, золатам, і ўсё такое... Мой дара-

гі, любы, а ты не можаш не быць любым, бо для цябе я не проста лазня. Я ад слова... “лазіць”, “вылазіць”... Дык вось, ты заплоціш золата, каб прыйсці да мяне, ты заплоціш золата, каб вярнуцца да мяне...

– Толя, ты – не празаік, ты – паэт!..

– Таму што ў гэтым ёсць сутнасць, ёсць душа, душа жыцця. Без мяне ты нікуды не пойдзеш. Вярней, ты можаш пайсці куды хочаш, але калі ты не скажаш, што ты быў у лазні, калі ты быў са мной і я была з табой, ніхто не адкрыецца табе. Ніводная душа. Ні дзявочая. Ні жаночая. Прыходзь ка мне, мой дарагі!.. Я сумую па табе!..

Карамазаў смяецца на ўвесь голас, на поўныя грудзі! Мы радуемся за Толеў паэтычны экспромт. І аддзячваем яму, як толькі можам у “палявых умовах”.

– Пераспяваць нашага Толю, панімаеш, немагчыма... Але хачу ўспомніць маленькую лазню на беразе Сажа, у маім родным Крычаве. Толькі вярнуліся з бежанства. Гэта сорак пяты год. Кватаравалі ў Сцёпачкі. Памятаю яго дачок Марылю і Ніну і памятаю, як хлопцы з усяе вуліцы хацелі ў гэтага Сцёпачкі папарыцца. Ну, панімаеш, яны лезлі ў той двор з-за дочак. Яны сімпатычнымі былі. Пасля лазні ля стала завіхаліся, а хлопцам гэта даспадобы. Але я, панімаеш, быў малы тады, але што помню. Як гэты Сцёпачка мяне парыў. Браў за карак, а пацаноў ён чамусьці любіў парыць, прыціскаў да палка і хлястаў венікам. Кажа: “Ляжы, пакуль чалавечынай не запахне!..” І сцёбае! І сцёбае! І сцёбае, панімаеш... А потым я пасталеў, а гэта Сцёпачкава “пакуль чалавечынай не запахне” ўва мне жыве, сядзіць... Як здорава! От, панімаеш, і Толя паэму склаў пра лазню. А ўсё да таго, каб праз лазню мы былі людзьмі. Каб у лазні мы адраджаліся як людзі, каб яна дапамагала нам у гэтым, і каб ад нас, панімаеш, заўсёды несла добрым, чалавечым, здаровым, мужчынскім духам. Лазня выхоўвае, рупіцца, каб мы заставаліся мужыкамі...

– Лазня робіць усё для гэтага. Самае добрае, што лазня агаляе чалавека, паказвае, які ён ёсць. Чысты ці нячысты. Ад веніка, душка – чалавек размякчваецца, расслабляецца, адпускаецца і ўсё такое. Усю сваю злосць чалавек пасля яе пакідае на вецер, на дух. Лазня робіць чалавека новым. Жонка нелюбімая становіцца любімай. Дзяўчына далёкая становіцца блізкай. Да Божа мой, калі правесці венікам, калі прамыць вадой, ды пасля гэтага – халоднага квасу ці піва, і ўсё такое... Гэта цудоўна!

Мы адчувалі, што сёння лазня ўдыхнула ў Анатоля Кудраўца паэзію. Яго нельга было “пераплюнуць”, але Віктар Карамазаў не здаваўся:

– Яшчэ раскажу, як я аднойчы зімою бег босы дахаты. Гэта было калі? На Волзе, вёска Тургенеўка – у бежанстве, панімаеш. Мы ў сорак другім годзе туды трапілі, тры гады там жылі... Была ў нас у школе прыбіральшчыца Сажына. Яна, панімаеш, мела лазню. Бацька паслаў да яе: “Пасоб Марыі Паўлаўне вады прынесці, дроў у лазню. Я тады быў у трэцім класе. Прыбег, а лазня ўжо натоплена, Сажына дый кажа: “Віценька, лезь на палок, грэйся, мыйся, а потым мы, бабы, прыйдзем”. Я толькі залез на палок, панімаеш, чую жаночыя галасы. І голас Праскоўі Аляксандраўны. Да гэтага часу памятаю – Левіцкова такая. Яна – вельмі маладзенькая і прыгожая. І што адбывалася, панімаеш, я ў трэцім класе так яе кахаў, як усё роўна ў дарослыя гады... І раптам чую галасы настаўніц, і здагадаўся, што яны распранаюцца. Затаіўся на палку: што рабіць? І раптам адчыняюцца дзверы, і заходзіць голенькая мая настаўніца, а за ёю Сажына, прыбіральшчыца школьная. Божа мой!..

– А што ты, Віктар, першае прыкмеціў у яе?..

– Вой, не пытайся, Валодзя... Святло цьмянае было... Убачыў лябёдку, саскочыў з палка, а мая любімая настаўніца кажа: “Віця, ты не хвалюйся, мыйся, я табе спінку патру, папару...” А я выкуліўся з лазні, і голы, праз Тургенеўскі сад, панімаеш, бег да хаты – босы, голы. У траскучы мароз... Спрадвек было заведзена ў той вёсцы – мужчыны і жанчыны мыюцца разам. Я ж не ведаў гэтага, панімаеш. Грэху ў тым не бачылі. А я, малы, няўжо быў больш грэшны за іх?..

– Мы, хлопцы, праспявалі гімн лазні. Прызналі: адбылося пасля лазні прасвятленне. Давайце выкарыстаем гэта, будзем збірацца і весці “светлыя” размовы...

– Валодзя, перад намі мыюцца жанчыны, чаму б не аб’яднацца? От бы, панімаеш, баек ты паназапісваў...

– Не, савецкая наша суполка паказала, што там, дзе збіраецца болей трох чалавек – пачынаюцца праблемы, і ўсё такое... І сур’ёзнай гаворкі не атрымліваецца, калі багата людзей. Гэта ўжо з’езд ці сесія, а там – з паперак чытаюць...

– Адным словам, ты байкатуеш маю ідэю.

– Да жанчын немагчыма ісці з размовамі ці якімісь ідэямі. Да іх ідуць без ідэй, і ўсё такое...

– Давайце нашы размовы так і назавем “Пасля лазні”.

– О, Божа мой, Валодзя, калі гаварыць пра загалоўкі, то мы можам многа даць: “Да лазні”, “У лазні”, “Пасля лазні”, “Пасля, пасля лазні”.

– “Трэба лазня!”, “З лазняй і без лазні”, панімаеш...

– Хлопцы, пытанне лазні застаецца. Без яе мы не можам жыць. Важна: якая, з кім, калі, на колькі, і ўсё такое...

– Так вот, панімаеш, і створыцца пэўны трэст, канцэрн, асацыяцыя, калі завалодаем усімі лазнямі Мінска... І пачаць у іх высокаідэйную работу: адмываць свой народ!.. Ад каросты, панімаеш, мінулых дзесяцігоддзяў... Ці хопіць нам лазняў усіх, што ў Мінску?

– Потым, Віктар, трэба абагуліць усе лазні на Беларусі.

– І пабудаваць новыя!

– Ёсць новы лозунг: “Кожнага беларуса – у лазню!”

– А ведаеце, хлопцы, давайце абывацеля не пускаць у лазню, бо ён, панімаеш, будзе іншых парыць, а сам заскарузлым застанецца... Давайце падумаем: каго б першага пачалі парыць, зганяць з яго каросту? Каго пачаць адмываць? Сябе, можа? Я згодны – самы першы!..

– Правільна, каб мыць іншых, трэба самому быць чыстым!

– Трапіць у лазню павінны самыя ганаровыя людзі, і ўсё такое...

– Трэба самых небяспечных для нашага жыцця адхвастаць, як казаў мой Сцёпачка, пакуль чалавекам не запахне, панімаеш... Абшкрэбсці іх, сашкрэбсці з іх усё наноснае, адмыць і, як кажа Толя, усё такое...

– А я лічу, Віктар, трэба напачатку памыць самых харошых. Яны дадуць імпульс далей.

– Але, хлопцы, каго першага пачнем парыць?

– Ты, Валодзя, відаць, Адамчыка першага парыў бы?.. З яго можна трошкі сагнаць лыка. І будзе яшчэ лепшы пісьменнік пасля гэтага...

– Хлопцы, а можа, мы першым адпарым прэзідэнта, а? Грошай нам за літаратуру не дае, ганарараў няма, пісьменнікі – жабракі. Слухай, давай яго запросім ды дадзім добрага веніка. Бярозавага!..

– Не ведаю дзе, а ў лазні ён нас усіх пераможа... Варта ў яго такая, што і нас выпарыць. Але, панімаеш, стварыўшы такі сіндыкат, павінны ўлічыць: хто ўяўляе найбольшую небяспеку для Беларусі ад свайго бруду. Дык, можа, хлопцы, першым тут і не будзе наш прэзідэнт?

– Лазня не толькі ў асалоду, а як сістэма ачышчэння, узвышэння, перавыхавання, і ўсё такое. Вось з якіх крытэрыяў трэба падбіраць кліентаў у намі прыдуманую лазню...

– Я ведаю: у такую лазню першым запусцім беларуса. І, лупячы венікам, прыгаварваць будзем: не азірайся на ўсіх!..

– Чалавекам завіся!

– Каб чалавекам запахла!

– Каб ты помніў бацькоў свайго, род свой, мову сваю!

– Каб ад цябе чалавекам запахла!

– А Толя з сваёй дабрыні скажа: “Кладзіце мяне першым!”

– А я, як яго сябра, скажу: “Кладзіце мяне побач!”

– І я з вамі... Толькі хто ж нас парыць будзе?

– Запросім, панімаеш, кабету...

– Біць то знойдзецца каму... І ўсё такое...

– Самае сур’ёзнае пытанне: а суддзі хто? Хто ён з бізуном, сам узяў ці яму мы далі?

– Я, панімаеш, веру, што суддзём нашым, хочам мы таго ці не, была і застанецца жанчына.

– Мне бачыцца жанчына, якую трэба біць венікам, і ўсё такое...

– Не, Толя, не такі ты жорсткі, як ты тут сябе выдаеш... Давайце я раскажу пра адну дзяўчыну, якая б магла біць гэтым венікам любога прахвоста. Аднойчы, панімаеш, у сваіх сцежках-дарожках апынуўся я на беразе возера. Ой, Божа мой, кажу: “Як жа, Танечка, жывеш: і сямейка харошая, і мужычок ёсць, і двое дзетак...” Яна кажа: “Жыцця няма з-за майго сабакі...” Панімаеш, паляўнічы сабака ў яе, і мужык – паляўнічы. Мужык ідзе на паляванне. На зайца, ліса – на што б там ні было. Сабака бярэ след і мужык страляе. Сабака хапае здабычу і знікае. Туды-сюды – няма сабакі, збег, як у пустое. І што аказваецца? Сабака так ненавідзіць свайго гаспадара паляўнічага і так любіць гаспадыню, што ўпаляваўшы падстрэленага зайца, валачэ не гаспадару стрэльбы, хутчэй нясе ў хату гаспадыні, панімаеш... Прыходзіць мужык з палявання, а заяц ляжыць на дварэ. Звярэе мужык і пачынае біць гаспадыньку з-за рэўнасці, панімаеш... За колькі кіламетраў бяжыць сабака з зайцам, кладзе ў ногі гаспадыні сваю здабычу. А Танька не радуецца: “Божа, зараз прыйдзе мой паляўнічы, зноў біць будзе”. О, гісторыя, якую не знойдзеш нават у Прышвіна. Вось яна, Танька, панімаеш, магла б выпарыць і таго паляўнічага, і нас усіх... Бо яна – чыстая душа!.. Патрэбна, панімаеш, жанчына, якая б магла нас зрабіць святлейшымі... Сама прырода нясе ўсё да яе ног. Жанчына павінна гэтым пакарыстацца!..

– І ўсё такое!..

Свет ведае карціну Пяроўскага, на якой тры паляўнічыя азартна баюць пра нешта жыццёвае. Тое “нешта” – загадкавая тайна.

На нашай “карціне” – тры пісьменнікі. Вы чуеце іх галасы, інтанацыі. Будзьце ласкавы, далучайцеся да іх развагаў, хваляванняў, жартаў, смеху.

## Сустрэча другая

*Мышы, клапы і прыпеўкі*

Да размовы не рыхтаваліся. Парупіліся толькі пра “Пшанічную” ды кільку. Было прыемна і лёгка на душы, бо ўсе жадалі гэтай сустрэчы. Хацелася гаварыць абы пра што, толькі не пра палітыку. І пачаў гутарку Анатоль Кудравец. Стрымана ўсім усміхнуўшыся, кінуў нечаканую рэпліку:

– Мышэй не цярплю, і ўсё такое...

– А чаму ў нашага Анатоля, панімаеш, такая нелюбоў да мышэй?

– Усё гэта, як кажуць, смех і грэх. І горка, і сур’ёзна, і ўсё такое. Я з мышамі жыў нармальна...

– Колькі гадоў?

– Багата... Яны мяне не чапалі, і я іх не чапаў... Здавалася, яны жывуць на сваім гарызонце, а я – на сваім. Яны сваім жыццём, я – сваім. І ўсё было добра, але я неяк прыехаў на дачу. Зімой. Гэта было гадоў чатыры таму. Прывык пры-

язджаць так: распальваю грубку, нагрэюся, разагрэюся, і – будзь здароў!.. А на гэты раз што выйшла?.. Запаліў я агонь. Трашчаць дровы, сыплюцца іскры. Узяў матрац, каб падсушыць, бачу, адтуль выскакваюць етыя, мае дарагія-любімыя... Іх надта шмат... Мышы!.. Знайшлі добрае месца. Там ім цёпла, добра, і ўсё такое... Я страсянуў, рашыў, што ўсё воінства пабегла, пачаў сушыць...

– А ім добра і ў нясушаным?..

– Ну, яны прыгрэліся і так... І вата, і сукно – усё, што хочаш. Вот... Ну, справа ў тым, што іх няма, я высушыў коўдру, і ўсё такое... Лёг спаць, як заўсёды. Сярод ночы прачынаюся – нейкі шум у хаце. Што такое?.. Дача. Кругом на кіламетр – ні душы... Ні вартаўніка, нічога, толькі снег... Я ўключаю лямпу, гляджу, ажно бегаюць... Вельмі сімпатычныя...

– Мо правяралі ці моцна спіш?..

– Ага, яны, відаць, даўно там атабарыліся. Я не быў даўно на дачы. Яны прысвоілі, асвоілі хату, рашылі, што гэта іх мацярык, жыцёвая плошча. І ўсё такое... Але ж мне трэба начаваць. Хочацца спаць... А з другога боку, як убачыў гэтыя шэрыя спінкі...

– Яны, Толя, сабралі ўсіх суседзяў, каб цябе напужаць...

– Ага, з усяе акругі, відаць... Аказваецца, пакуль мяне не было, яны напраточвалі дырак у адным канцы, у другім канцы пакоя. Ну, што?.. Я ўзяў чаравік, я-як шпурлянуў, яны – ра-аз і ў дзірку. Другі чаравік запусціў. А іх у мяне толькі два. Мышэй – процьма... Сітуацыя складанейшая. Я іх ганяў, ганяў (*уздыхае*)...

– Ну, ты на іх зуб затачыў...

– Не, я не затачыў... Я той раз, лічу, перажыў цяжкія пакуты... Уключыў святло, думаю, пабаяцца... А яны бегаюць: адна на стол, другая са стала. І ўсё такое...

– Думаюць, чаго гэты чалавек прыйшоў – мы тут жывём... Заняў наша месца, лёг...

– Ага, я зразумеў, што ў тым часе я быў непажаданым госцем, можа, нечаканым... Можа, яны намячалі правесці Новы год, а я тут...

– Можа, як мы па чарцы сабраліся...

– Ва ўсякім выпадку я дачакаўся раніцы і сказаў: “Мае дарагія мышы, заставайцеся вы тут, а я паехаў дамоў!..” На тым скончыўся мой зімовы візіт на дачу...

– Гэтыя маленькія палёўкі, чарнамазікі, дак яны высакародныя істоты. Хітранькія, маленькія. Жыць хочуць... Хабататыя, панімаеш, пацукі – о, гэта брыдкія. А мышкі – як жанчыны ласкавыя... Я, хлопцы, клапоў і вошай не цярплю. Не дай Бог!.. Так брыдка, што неахвота ўспамінаць. Пра мышэй лепш... От, помню, перад вайной, пацаном быў, лавілі мышэй, панімаеш?.. У Крычаве жылі... Я тады, панімаеш, малы быў, але рабіў добра мышалоўкі. І мы аднойчы злавілі ў маю мышалоўку мыш. Ну, а дзеці жорсткія бываюць. Сабраліся з суседскімі пацанамі на кухні. Бацькоў не было. Лінулі газы на мышалоўку і запалілі. Потым самі спужаліся, панімаеш, падскочылі. Мышалоўка гарыць, драўляная... А мыш, от памятаю да гэтага часу, выскачыла. Камячок агню. Бяжыць, панімаеш, па етай кухні, па калідоры, па етым доме, па лесвіцах... Ляцеў камячок агню... А што яшчэ, Валодзя, успамінаецца?.. Як пачаў пісаць раман “Бежанцы”, заехаў у Казань, у Печышча Купалава, і мне расказала даглядчыцца музея, што Купала жыў на тэрыторыі хлебзавода. Давалі хлеба багата, дзве-тры буханкі. А ён што не з’есць – парэжа і сушыць сухары. Ад мышэй падвешваў той хлеб пад столлю. На круку вісеў мех з сухарамі. Дак панімаеш, аднойчы мышы знайшлі той мех. Па столі, панімаеш, праклалі дарогу і скакалі на той мех. Зрываліся з етага меху... Аднойчы Купала прачнуўся, расказвала музейшчыца, а ў тазіку мыш плавае. Ён і здагадаўся, што трэба таз ставіць пад мехам з сухарамі. Так, панімаеш, Купала лавіў мышэй (*смяецца, як толькі гэта ўмее рабіць Віктар Карамазаў*)...

– Ты ў рамане пра гэта пісаў?

– Яшчэ не, Валодзя. Я ж, панімаеш, толькі першую частку “Бежанцаў” напісаў. А далей у мяне Расія будзе, Чартаклы, татарская дарога на Казань. Яна ішла пад вокнамі Купалы, от тады хачу пра мышэй напісаць.

– А навошта і клапоў неўзлюбіў?

– Вот, гэта для мяне настолькі брыдка. Прыгадваю вайну. Малым быў, панімаеш, вакзал помню. Людзі ўпокат ляжалі і во так, панімаеш, мы ішлі – няма куды ступіць нагою, а маці кажа: “Асцярожна!” Людзі храпуць, спяць, а я гляджу – па іх поўзаюць во такенныя, здаравенныя вошы. Панімаеш, бацька нам кажа: “Асцярожна!..” А потым мы іх смажылі на агні. Я памятаю, ехалі і прыехалі ў Тургенеўку... Бацька ідзе за плугам, маці следам, панімаеш, з кошыкам... Сястра за ёй ідзе, я – за сястрой. Зняў сарочку, даўлю етых вошай, а яны – ва ўсіх рубцах. Сядзяць там тлустыя, не дай Бог... Тое ж і пра клапоў, ай не буду казаць болей нічога... Нічога няма большванючага і брыдкага, чым яны...

– Прырода для нечага стварыла іх... Дзівакі кажуць, што яны неабходныя, каб кроў адсмоктвалі ў чалавека...

– Некалі сусед мой Шварц сцвярджаў: “Хлопцы, што б вы не казалі, без вошай няма жыцця...” Ён расказваў: на фронце быў салдат, і раптам у яго на лобе пачала расці валбука. Расце нешта – і ўсё такое... І потым што? Зрабілі аперацыю, разрэзалі. Высыпаліся вошы... Во якія страхі баяў Шварц. Без іх нельга жыць – гэта легенда...

– Пра пачварнае можна закончыць нейкім гумарам, панімаеш... Памятаю, у Салігорску на беразе возера стаяў з прафесарам тэхналагічнага інстытута. А камарэча, камарэча!.. Лятае, заядае, ну проста немагчыма. Вогнішча развялі, а яна не глядзіць ні на што, панімаеш. Вучоны чалавек дый кажа: “Гэта ўсё хлопцы павінна быць! Раней у прыродзе жылі маманты... Але ў прыродзе маса не ўбывае і не прыбывае... Яна – у пастаяннай меры. Дык калі зніклі вялізныя звяры, а маса застаецца, то павінна быць дробнага звяр’я шмат. Вот адкуль дробных камароў так многа, панімаеш. Колькі на аднаго мамнта камарэчы выйшла! Па-вучонаму даводзіў, што мы не павінны злаваць, а блаславіць ету камарэчу, панімаеш... (*смяецца*). Ну, паехалі за ета!

– Павесялела на душы, давайце сябры, пра нешта весялейшае гаварыць.

– Некалі ў нас на вяселлі спявалі прыпеўкі. Выходзілі два танцоры ў круг і адзін аднаго стараўся пераспяваць. Загнаць пад каблук. Перамагаў мацнейшы... Пачыналася, дапусцім, так: “Я дару пяць капеек медзі, каб былі дзеці як мядзведзі”. А тады спявалі. Я быў сведкам, калі сустрэліся дастойнейшыя два чалавекі ў прыседках, у прыпеўках спаборнічалі. У фінале, Божа мой, як забыць іх, ён раптам праспяваў:

Ах, ё... тваю маць,
Не буду ругацца.
Сшыю з сучкі сапагі,
Буду абувацца...

А барышня яму ў адказ нешта граматнае:

Палюбіла Ваню я,
А ў Вані нет х...я,
А начорта мне без чорта,
Калі з чортам дачарта...

Напарнік прытупнуў ботамі і выйшаў на вуліцу...

Прыпеўка народная, а ў літаратуры не выходзіць выкарыстаць, яна цнатлівая...

– Літаратура не зусім народная...

– Ідзе нейкі адбор... Можа, і не пра ўсё можна пісаць, але прыпеўкі трэба даваць... І ўсё такое...

– Здаецца, што груба, а праз гэта народ выяўляе ўсе тонкасці душы. Сваю далікатнасць. Тут, панімаеш, і парадокс і праўда.

– Праўда яшчэ і ў тым, што сваёй адкрытасцю народ заганяе ў кут усю фальш. Няма меры праўды, але ёсць мера крайнасцяў. А во такая праўда, такое жыццё!.. Няхай нашу кніжку купіць не ўся Еўропа, Амерыка. Хай купяць у Чэрыкаве!..

– Ці дажывем, калі аўцюковец купіць не паўлітру, а кніжку?..

– Я от яшчэ жыву прыпеўкамі, што Толя прыгадаў. У іх аснове – не грубасць, гэта сродкі выяўлення далікатнасці сваёй, панімаеш.

– Гэта – не дурны секс. Гэта выражэнне чалавека. Словам, трэба сачыняць новыя прыпеўкі... Я прыгадваю, некалі арганізоўвалася “Мастацкая літаратура”. Я меў дачыненне да гэтага. Прыйшла адна дама. З Брэста, мела нейкае дачыненне да кіраўніцтва, але была адукаваная, сімпатычная, і ўсё такое... Хадзіла і ў Саюз пісьменнікаў. Раптам чую пра яе прыпеўку, амаль народная, а яе ж склаў нехта з нашых:

Яшчэ не згаслы кратар,
Штурмуючы ў пасцелі,
Загінуў Коля Татур
На Брэсцкай цытадэлі.

– Ёсць яшчэ такая прыпевачка руская. Вельмі далікатная, але панімаеш, метафарычная і мастацтва высокае (*спявае*):

По реке, по океану
Х.. на щепочке плывет,
П... в красненьких сандаликах
По бережку идет.

Якая паэзия!..

– А мне ў Аўцюках пяцігадовы Пецька праспяваў:

На гары стаіць сабака,
Пад гарой мядзведзь ляжыць.
Баба дзеда закапала,
У дзеда... “нос” тырчыць.

– У гэтым, так званым, сексуальным выражэнні наварочана багата дурнога, але гэта – жыццё, і ўсё такое... Я ўспамінаю, у нас гуляюць вяселле, пасля вядуць маладых у спальню. Старыя жанчыны спяваюць ім. А побач усе – і старыя, і малыя. (*Спявае*):

Нашу Ганначку ў клець вядуць,
Нашай Ганначцы “цукерачку” дадуць,
Не такую цукерачку, што ядуць,
А тую цукерачку, якой я...

Назаўтра сустракаюць маладых – новая прыпеўка:

Ой, дзякуй Богу,
за добрую ноч,
Хоць яна кароткая
Ды яна салодкая!..

Трэба ўсім задумацца, ці шмат радасці ў чалавека, загнанага ў кут... Яму хочацца аддушыны, і ён, панімаеш, спявае прыпеўкі...

– Адна аўцюкоўка, у якой трое дзяцей ад розных мужоў, сказала мне з ганарком: “Калі Бог дзяліў розум, дак я, каласок, цыцкі выбірала...”

Віктар Карамазаў адсмяяўшыся, сур’ёзным зрабіўся, паправіў акуляры, сказаў:

– Валодзя, а што саладзейшае далі гэтаму чалавеку? Нічога! Самае салодкае – гарэлка ды цыцкі. От і тост – за гэта!

– А мой тост элементарны – за жыццё!.. У прыпеўках людзі не прытвараюцца... І ўсё такое...

– Калі чалавек жыве па-народнаму, дык скажа: “Тост будзе пасля, а цяпер давай вып’ем!..” У нас на Чэрыкаўшчыне ёсць вёска Бакунавічы, як твае, Валодзя, Аўцюкі. Там адбываюцца самыя нечаканыя сітуацыі, панімаеш... От, сядзяць хлопцы на бярвеннях, баяцца зваліцца, дык лапці прывязалі аборамі за бервяно. А бервяно пакацілася. Яны – з ім разам ды й у лужыну. Давай сушыцца, панімаеш... Пасля Чарнобыля гэту вёску выселілі, і ім ужо не да смеху, не да гумару. Народ смяецца пад сітуацыю... Вёска ўмее і плакаць. Бабы, мужыкі раўлі, як высялялі. А была вясёлая вёска!

– Трэба ўслаўляць вёску! Збіраць усё, што там цікавага. Каб кожны пісьменнік напісаў кнігу пра сваю вёску, атрымалася б незвычайная гісторыя Беларусі.

– Вёска заўсёды жыла сваімі законамі: ад усходу да заходу сонца, ад вясны да вясны...

– Каляндар складала сама прырода.

– А пасля вёску так асядлалі, што нават перастала дыхаць. Усё даведзена да краю. І нават песні даведзены да краю. Я рэгулярна, раз у тыдзень, ездзіў у Быцень. І што мне там спадабалася? Бліжэй да выхаднога людзі збіраліся ў кучу, спявалі песні, па чарцы бралі... І ўсё такое...

– Гэта – Івацэвіцкі раён. Памятаю ўсё паселішча, бываў там...

– Што мяне там радавала і дзівіла? Традыцыя збірацца разам. Стол пад яблыняй ставяць. Там, і песні, і ўсё такое... Любілі песні!.. Для душы спявалі. Чалавек не можа, каб не паляцець. Збіраюцца і Марута, і Галя, і Віта, і Лена – вось і песня нараджаецца...

– Так, і песня, і гумар нават салёны – усё для душы, панімаеш... Ніхто не ставіць мэту некага зняважыць, альбо паказаць сябе грубым... Закранаюцца тонкія струны душы... От сядзяць маладыя: яна ў яго на каленях. Адзін аднаму прызнаюцца ў каханні. “Ё... маць, сучка, хіба ж ты не ведаеш, што я цябе вельмі кахаю”. Яна яму. “А ты, Пецька, ё... няшчасны, матка расказвала, што ў цябе на ім радзімка з мой пазногаць. Адкуль яна ведае гэта?” Сядзяць, чакаючы аўтобуса, і я чакаю, гавораць так і цалуюцца. Ім – па сямнаццаць гадкоў! Слухай, як гэта зразумець?..

– Лаянка раней была як бы самавыражэнне душы... На публіку, дзесяціпавярховымі – не дай Бог!..

– У нашай вёсцы Шоўкавічы такой “музыкай” маглі абкласці ўпартага вала, лянівага каня, але не чалавека...

– З Віктарам не зусім згодзен. Мацюк быў як страла Перуна. Пекануў дык пекануў. А цяпер прывыклі: мацюк стаў музыкай. Пад яе можна спяваць, танцаваць, цалавацца, і ўсё такое...

– Страла то страла, панімаеш, але ж гэта і выказнік нейкай смеласці, адкрытасці, шчырасці. Не было азвярэласці ва ўсёй гэтай лексіцы...

– Трэба, відаць, адрозніць мацюк мужчыны і жанчыны. Адам сячэ з-за пляча. А Ева – асцярожна, метка, рэдка...

– Мацюкаліся, панімаеш, удовы, салдаткі, даведзеная да адчаю жанчына. А маладзенькія – ніколі!..

– Жанчына заўсёды жанчына. Калі мацюкаецца, то гэта і віна яе, і бяда, і ўсё такое. Хто давёў?.. Усе яны чакаюць добрых слоў, пяшчоты... Мацюк прыходзіць не сам сабою...

Мы разыходзіліся ўзнёслыя і акрыленыя, бо сярод жыццёвага віру знайшлі

хвілінку, каб пасядзець ды паслухаць адзін аднаго. Як нам усім не хапае сустрэч – чалавечага багацця!

– Лёгка нам сёння, цудоўна, і ўсё такое...

Віктар Карамазаў дадаў:

– Весялей на душы зрабілася, панімаеш...

## Сустрэча трэцяя

*Дзеці – нашы настаўнікі і суддзі*

– Дзеці і дзяцінства. У гэтым чалавечым свеце – найбольш праблем. Яны не ўладкаваны, на вялікі жаль, ні ў дзяржаве, ні ў грамадстве, ні ў сем'ях. Мы прывыклі: дзеці – наша будучыня. А, калі ўдумацца: дзеці – наш сённяшні дзень, барометр нашага сумлення. Якім будзе заўтрашні дзень?

– Валодзя, ты зачапіў балючую струну, панімаеш. Але самае мудрае гаворым не мы пра дзяцей, а дзеці пра нас...

– Правільна, яны намі правяць, нас выхоўваюць...

– От, слухайце, гучыць і гучыць пахавальная музыка ў двары нашага дома. Мая ўнучка Алёнка стаіць на кухні ля акна, уплюшчыла носік у шыбку. Назірала, як панеслі дзядзьку ў труне. А тады і кажа: "Дзядуля, паміраюць людзі і паміраюць. Памруць усе, застанемся мы з табою ўдваіх..." Панімаеш, а ў мяне валасы дыбарам ад гэтай дзіцячай філасофіі. Яна думае наперад: як гэта будзе, калі ўсе памруць, а застанецца яна і я, яе дзед. Што нам рабіць тады? Во дзе мудрасць, не тое што наша, панімаеш...

– Мы не суддзі старым і не суддзі маладым, і ўсё такое... Можам распараджацца толькі самімі сабою...

– Анатоль, калі б ты стаў раптам вялікім палітыкам, з чаго б ты пачаў вырашаць дзіцячыя праблемы?

– Я не імкнуся ў начальнікі. Але я перакананы: пачынаць трэба альбо з грошай, альбо з адукацыі. Без грошай няма адукацыі, без адукацыі будзем бязгрошыя далей. Калі сур'ёзна, то шкадаваць грошы на дзяцей – гэта значыць падсякаць корань дрэва, якое завецца Дзяржавай... Без увагі, без эканамічнай падтрымкі дзяцей і ўсё такое – ніякай будучыні мець не будзем.

– Віктар, а што б ты зрабіў, каб стаў галоўным дрэвам на Беларусі?

– Толькі не дубам! Дуб, панімаеш, – гэта пень, дурань, таўстаскуры цяльпук. Такіх у нас багата: і ўнізе, і ўверсе. Ды не пра гэта... Валодзя, калі ты гаварыў, што дзеці – наш барометр сумлення і маралі, я падумаў вось пра што. Людзей, якія робяць сённяшні дзень, уплываюць на яго, панімаеш, іх усё-ткі робяць дзеці. Бацькоў, старых людзей робяць дзеці. Страшэнна мудра яны ўплываюць на дарослых. І гэтыя дарослыя паступаюць разумна толькі тады, калі на іх ёсць моцны ўплыў дзяцей... От уяві сабе, рosламу чалавеку сорак, пяцьдзясят гадоў, у яго няма дзяцей, унукаў, а ён будуе дзяржаўную палітыку, панімаеш. А ўплыву малых на яго няма. Што ён наробіць у дзяржаве?.. На Толю Анютка ўплывае, на мяне – Алёнка, на цябе, Валодзя – Антонік. Мы пад гэтай сілай знаходзімся!.. Панімаеш!..

– Дзіцячую тэму Віктар павярнуў глыбока і нечакана. Яе трэба ўздымаць на парламенцкім узроўні, і ўсё такое... Недзе чытаў, што за апошнія дзесяць год прырост насельніцтва ў Беларусі скараціўся ў тры і сем дзясятых разы...

– Хачу перабіць цябе, Толя, сцвердзіць, што ў тры і сем дзясятых разы за гэты час, панімаеш, падурнелі людзі...

– Можа, падурнелі і ў большай прапорцыі, але трэба ўсвядоміць: пры скарачэнні дзіцячага насельніцтва, хто будзе вучыць мудрасці? Згодзен: дзеці вучаць нас, бо не яны жывуць дзеля нас, а мы дзеля іх...

– А бацькі часцей за ўсё не разумеюць той простай мудрасці, што дзеці іх выхоўваюць.

– Ды яны да смерці гэтага незразумеюць. Наша мудрасць столькі важыць, колькі над намі дзяцей, панімаеш... От, як Толя называў лічбу, то на тры і сем дзясятых разоў мы ўжо страцілі сваю мудрасць і сілу...

– Усё правільна!.. Раскажу сямейную быль. Учора мама Анюткі пачала яе дыпламатычна і метадычна прыціскаць. Дысцыпліна ёсць дысцыпліна, і ўсё такое... Ёй сем гадзікаў з невялікім хвосцікам. Ну, нешта ўтварыла перад тым, як мама пачала ўшчуваць. Урэшце яна вывярнулася ад выхавання і заявіла: “Не мяшайце мне жыць!..”

– Не ўрокі рыхтаваць, а жыць!.. Панімаеш!..

– Гэтага не разумеюць і бацькі, і палітыкі нашы...

– Ды дзе яны, талковыя палітыкі!

– Мне здаецца, яны даўно не былі дзецьмі, і ўсё такое...

– От, хлопцы, каб мы мелі магчымасць прааналізаваць, як уплывалі і ўплываюць кіраўнікі нашы на сваіх дзяцей – о дзе кніга нераскрытых тайнаў!.. Сакрэтаў, панімаеш, нашых пралікаў, бедаў і слёз... Я ніколі не быў у начальстве, але ў мікраструктуры круціўся, і магу сцвердзіць: многае ўпусціў у выхаванні дзяцей. Таму мне лёгка зразумець кадры вышэйшага эшалону. Яны не бачаць сваіх дзяцей і мала на іх уплываюць... Мо таму і дзеці ўсяе Дзяржавы, панімаеш, для іх – драбяза, нявартая ўвагі?

– Сапраўды, калі бацькі ў сям’і няма – адсутнічае выхаванне, і ўсё такое. Але бацька – не як пудзіла, апостал, а як сябра свайму дзіцяці...

– Ведаю адну сям’ю з Мінску. Пры жывых бацьках павезлі Ігарка пад канвоем ў Магілёўскую спецшколу. Там, за бетоннай сцяной будуць перакоўваць яго. Горка да слёз. І смешна: здаровы бацька цяпер возіць перадачы сыну з Мінска ў Магілёў...

– Знаеш што, Валодзя, я прыехаў у Магілёў і мяне павялі выступаць у тую школу. Кажу: “Позна”. А мне: “Дык гэта ж не тая школа, што рана спаць кладуцца”. Прыехалі... Прахадная... Дзеці завуць настаўніка “бацькам”, майго Толю Ламановіча, школьнага друга, панімаеш, прызнаюць гэтыя лабатрасы бацькам. Здорава!.. Ён мяне з імі знаёміць: “Гэта Толя, гэта – Віця...” Пазайздросціў яму: у яго багата дзяцей!

– Я лічу, Божа мой, дзіцяці патрэбны і бацька, і маці. Няма сям’і – няма дзяржавы. Ну, як кажуць, усё гэта вядома, але дзяржава не можа замяніць бацькоўскія палюсы... Сям’я, як у атамнай бомбе, – ядро. Калі яно развальваецца, то чакай выбуху, вайны, бедаў...

– Можна лічыць, што ў нашым грамадстве ўзарвалася атамная бомба.

– Яна даўно ўзарвалася, хлопцы... Як толькі пачаўся развал сям’і, пачаўся вэрхал, і ўсё такое... Гэта нават не атамная бомба, як сказаў Валодзя. Атамная дзейнічае імгненна, а гэта бомба запаволенага дзеяння. Яна – спакойная, ціхая...

– Ну, панімаеш, бомба не бомба, а ідзе распад грамадства. Адчуванне такое, што нехта гэта запраграмаваў Ідзе цэпная рэакцыя распаду сям’і. І пачалося, панімаеш, тады, калі ні ўва што паставілі Чалавека. Мараль, светлыя ісціны іскаверкалі. І ўсё, панімаеш, рухнула ў труну...

– Паўліка Марозава натравілі супраць бацькі. Парушыўся нармальны працэс, калі дзеці, паважаючы бацькоў, тактоўна выхоўвалі іх, і ўсё такое...

– Што-та страшна глабальнае адбылося, панімаеш. У гэтым трэба разабрацца, раней чым будаваць новае, шарахацца ў іншы бок.

– Не адбылося, Віктар, а што зрабілі з намі?..

– Можа, грамадства, зямля гэтага патрабавалі?.. Крыві, бяды?..

– Прырода, Толя, бяды не патрабуе. Агрэсію можа запатрабаваць толькі

штучная філасофія, штучная рэвалюцыйнасць. Яны і бачылі прагрэс у разбурэнні ўсяго “до основания”. Больш сучаснымі ніякія грамадскія структуры, панімаеш, не могуць быць, чым сама прырода. З прыродай ваяваць нельга!

– Віктар сказаў важны тэзіс, як тост...

– Прымаецца...

– Валодзя, я ўдзячны, што ты падараваў мне сваю “Вясёлую азбуку”, а як яе экземпляраў дзвесце адвесці ў Крычаў?.. Гэта неверагодны падарунак для дзяцей!.. Мая Алёнка ў садзік ходзіць. Як бы і ім занесці?..

– Мае сябры, ці не паверыце, купляў сваю кніжку па блату... Няма паперы – надрукавана мізэрным тыражом. Але давайце пра іншае... Месяц назад вы, паважаныя празаікі Анатоль Кудравец і Віктар Карамазаў, абяцалі напісаць апавяданні для дзяцей. Дзе яны?

– Дружа, Валодзя, панімаеш, мы да гэтага часу памятаем, думаем – гэта важна. Не напісалі таму, што гэта вялікая адказнасць...

– А я не напісаў, і ўсё такое, толькі таму, што вельмі хутка час ляціць...

– Але ж не забывай, Анатоль, вельмі хутка і дзеці растуць.

– Тое, што дзеці растуць, адчуваю па Анютцы. Кладзёмся спаць, а яна кажа: “Дзядуля, хвілінку, а казку?..” Я пачаў ёй мінулы раз расказваць не казку, а самую сапраўдную гісторыю, якая адбылася ў нашай сям’і... У нас жыў кот Цімох, з ім здараліся прыгоды. І так доўга баяў, што Анютка заснула...

– Дык здорава! Гэта вынік казкі – дзіця супакоілася...

– І вось цяпер яна нагадала мне: “Дзядуля, ты не закончыў казку пра Цімоха...” Я пытаюся: “А на чым мы прыпыніліся?..” Алёнка, што мяне вельмі ўразіла, і ўсё такое, кажа: “А помніш, як ён зваліўся і зламаў нагу?..” Дык вось я хачу сказаць, што аснова для апавядання ўжо ёсць. Як кажуць, дай Божа, трошкі часу...

– Анатоль сказаў вельмі важнае: дзеці ўсё памятаюць, нічога не прапускаюць міма...

– Я думаю, панімаеш, быць мудрым, разумным, гэта значыць пазбавіцца маленства...

– Віктар, гэта твая мудрая іронія, а я лічу: той палітык нармальны, сур’ёзны і ў яго вялікая перспектыва, калі ён сам трошкі дзіця... Калі ён падымаецца да ўзроўню дзіцяці, то будзе думаць пра казку, кенгуру, вавёрку, і ўсё такое... Ён абавязкова падпіша ўказ, які тычыцца праблем дзяцей...

– Цікава ўчора вечарам было... Маладыя нашы Алёнка, панімаеш, палеглі спаць. Мы з жонкай на кухні сустрэліся. Ліда абхапіла галаву рукамі, скардзіцца: “Божа мой, колькі я ўжо гэтых казак напрыдумляла, далей не ведаю...” Панімаеш, Алёнка наша – дзіця дзіўнае, у яе ёсць свае лакатары, запатрабавальная, актыўная. Бацькі: “Спі! А то пакараю!” Панімаеш, а ў яе слёзы, плач... Тады ўжо мая Ліда бярэ Алёнку, укладвае. Яна яе слухаецца. “Як гэта табе ўдаецца?” Ліда кажа: “Ад Алёнкі патрабуюць дысцыпліны, а я ёй кожны вечар пакладу руку пад галоўку і пачынаецца размова. Прыдумаю ёй казачку, а яна ўжо спіць... От і баліць галава штодня: пра што прыдумаць казку?..” Панімаеш, Ліда разумее, як улагодзіць Алёнку, а бацькі – не, ім самім спаць ахвота.

– Бацькам хочацца, каб дзіця вельмі хутка стала і разумнае, і паслухмянае, і ўсё такое... А яно не становіцца...

– Трэці вечар запар, як толькі садзімся вячэраць, панімаеш, мая Алёнка пачынае размову: “А я нікуды адсюль не пайду... Я люблю дзядулю і бабулю...” Ім даюць кватэру. Бацькі абураны: “Алёнка, ты з намі не пойдзеш?..” Ёй цяжка адказаць. Падумае і зноў сваё: “Я застануся з дзядулем і бабуляй...”

– Дзяцей мучыць навязаная дысцыпліна, і ўсё такое... Жыццё дзіцячае – гульня, фантазія... Залаты век!

– Асабліва цяпер, панімаеш, у наш нервовы век... Дзіця павінна спакойна расці, не псіхаваць...

– Дзяцінства – гэта рай, і ўсё такое... Дзеці вераць у дабро, усмешку, радасць, песню. Дзіцячая душа не любіць прымусу. Як гэтага не зразумець? Ласку любіць – гэта дарога да душы. Казку любіць – тут ўсё!

– Ім, панімаеш, трэба абяцанне жыцця, дабрыні... Калі мы ведаем, што гэтага не будзе – наступнае старасць, жыццё канчаецца...

– Дзіця павінна паверыць: сонейка ўзыходзіць для яго!

– Жыццё наша нервовае, псіхаванае. І ў ім, панімаеш, дзеці гадуюцца. Гэта, хлопцы, самае страшнае няшчасце ў нашай дзяржаве...

– Страляем сёння ў дзясятку. У самае балючае...

– Валодзя, гэта зразумела. Толя гаворыць пра дзяцей, а, панімаеш, бачыць перад сабой унучку Анютку, я – Алёнку сваю, ты – Антоніка, усіх дзяцей, якіх бачыў у бальніцах, дзетдамах... Тэма дзяцінства нас кранае яшчэ і таму, што вострым было наша маленства...

– Мы думалі, хлопцы, што мы перажылі сваё ваеннае маленства, а нашы дзеці, унукі будуць азораны сонцам, і ўсё такое. Аж мы выйшлі на страшнейшы мірны віток.

– Да якога "прагрэсу" ідзём?

– Ісці трэба лагічна, па прыродных законах. Я б не захацеў ісці па ўзвышшу, а роўна, як і па стэпе, трэба шчасліва жыць пад сонейкам!..

– Уверх-уніз, як кажуць, усё роўна... Вучоныя даказалі, што за час свайго разумнага існавання чалавек ніяк не змяніўся, і ўсё такое. Дык што нам рабіць: засмучацца ці радавацца?

– Віктар, а от як ты думаеш: нашы ўнукі і праўнукі ці будуць так ацэньваць сала, як мы з табой?

– Я ўжо магу дакладна сказаць табе, Валодзя. Майму ўнуку Мішу – год і адзін месяц. Яго ручка, панімаеш, ні да чога так не цягнецца, як да сала. Сала дасі ў ручку – усмешка на ўвесь твар. Смокча, смокча – не адарвеш. Во, як любіць сала! Нішто так не любіць, як сала!..

– Я хачу сказаць проста: без сала я не ўяўляю, лепшыя свае гады, і ўсё такое. Некалі і дачка, і сын, калі я вяртаюся з працы і бяру сала з часнаком, яны робяць пару віткоў каля мяне і тады: "Татка, дай і мне!.." Гэта паўтарылася на новым вітку. Ужо ёсць унучка. А я, як і даўней, вяртаюся з працы і ем сала, і ўсё такое... Анютка: "Дзядуля і я!.." Калі няма сала, то гэта праблема і для мяне, і для яе...

– Дзіўна, панімаеш, што адбываецца з малымі. От, Алёнка ляпіла-ляпіла нейкія мячыкі з пластыліну. Загаварылі. Я кажу: "Што ты ўсё лепіш мячыкі, можаш што іншае..." Нагадваю ёй: "Мы з табой, Алёнка, ехалі па Мінску, на адной плошчы я табе паказаў помнік – сядзіць Якуб Колас. Зрабі нешта вялікае!.. Яе ўразіла, што з камячка пластыліну можна зрабіць нешта вялікае... Прайшло нейкіх пяць дзён, панімаеш, прыходжу вечарам дадому, а мне Ліда кажа: "Паглядзі, што сёння Алёнка панарабіла?!" Гляджу, з пластыліну вырабіла такія лялькі, хоць ты іх на міжнародную выстаўку пасылай. Якія сукенкі! Якія ножкі! Якія галоўкі! Ручкі! Слухай, усё жывое. Божа мой, мае прапановы не прайшлі міма, панімаеш... Праразаецца ў дзяцей талент! Толькі трэба нам, дарослым, гэта прыкмячаць.

– Хлопцы, мы гаварылі пра сваіх унукаў. Яны таленавітыя, і ўсё такое. А ўсе яны пачынаюцца з літары А: Анюта, Алёнка, Антон!..

– Маленства, узрост пачынаюцца з "А"! І мы будзем вінаваты, калі алфавіт не будзе закончаны... Трэба, каб чалавек прайшоў увесь алфавіт!..

– Вінаватыя тыя, Валодзя, хто нічога не робіць для дзяцей, панімаеш...

– Дык, Віктар і Анатоль, напішыце што-небудзь для дзяцей. Свае "Чытанкі"!

– Як яно будзе, панімаеш, адказаць не магу. Але мая Алёнка ўсё болей прываблівае. Стане ўнучка на дзядулева крэсла, пазірае ў вакно... А на балконе – мой "бабёр" з дрэва, кап. У кватэры – восем чалавек. От Ліда і выселіла яго туды.

Алёнка неяк пазірала на “бабра” дый кажа: “Дзядуля, холадна на вуліцы, твой бабёр замерзне... Раскажы мне пра яго...” А я, калі знайшоў тую бярозу з капам, разлушчыў іх, то ўбачыў: жывы бабёр! Мордачка – сюды, лапкі – сюды і нібыта з берага глядзіць, як нырнуць у рэчку. Я расказваю Алёнцы не казку, а быль, слухае, вочкамі не міргане, панімаеш... А было так. Прыехалі мы з Мішам Стральцовым у яго вёсачку Сычын. Маці кажа: “Бацька ў дровах”. Мы патапталіся ў двары, Міша прапанаваў прайсціся ў лес. Знайшлі бацьку. Павечарэла. Бачу: стаіць бяроза, а на бярозе магутны кап. Як дастаць? Піла заглохнула. Я ўжо і не рады, што абазваўся пра кап, бо Міша з бацькам загарэліся той цуд прыроды дастаць для мяне. Разабралі пілу, давай рамантаваць. Да гадзіны ночы мучаліся. Урэшце, панімаеш, зрэзалі бярэзіну, выразалі той кап. Я прывёз яго ў Крычаў, адтуль – у Мінск. Так мне той “бабёр” спадабаўся. А ў Мішы ёсць верш пра рэчачку Галуба, бабры на ёй вадзіліся. Пасля яна перасохла, і баброў не стала. От я і расказаў Алёнцы пра Мішу Стральцова, што гэты “бобрык” з яго маленства. Яна цяпер і даймае мяне штодня: “Дзядуля, раскажы яшчэ разік пра Мішу Стральцова, пра бабра...”

– Я таго “бабра” бачыў, і ўсё такое... Ён можа стаць героем першага Віктаравага апавядання для дзяцей...

– А якія Анатоль, у цябе задумкі для дзяцей?

– Думаю!.. А галоўнае, Валодзя, хочацца нешта зрабіць для дзяцей. Пра Анютку можна напісаць. Мая разумніца зведала ўжо мінскія ды замежныя бальніцы... Ты падмагаў ёй з лекарамі... Дзякуй!..

*(Заканчэнне будзе)*

Сяргей Ваганаў



...святла

там няма ...

# Шматкроп’і

## Міма Танка

Нарач... На ўзгорку, пад сонейкам, тры хаціны – першае, што бачу, прачнуўшыся, праз акенца Мацеевай хаты на ўскрайку Купы.

Раз на тыдзень я саджуся на Мацееў ровар са з’езджанымі тоўстымі коламі, каб перціся на біястанцыю па хлеб міма трох хацінаў. Па дарозе ўглядаюся ў жыццё за плотам. Агульным: паміж хатамі плота няма. Вось Танк, нахіліўшыся, фарбуе дрэўцы вапнай, Куляшоў чытае на лаўцы кніжку, прытрымліваючы старонкі ад ветру, а сівы Лынькоў у цяльняшцы рамантуе лодачны рухавік...

Я так прагнуў прачытаць Танку ягоны верш пра Нарач, дзеля чаго вывучыў на памяць: “Люблю твае, Нарач, затокі і тоні...”

Не атрымалася... Не адважыўся... Толькі міма праязджаў...

*Заканчэнне.*

*Пачатак у №3 (112).*

## Міністэрская дрэнь

Калі чую пра “народ” ад уладальнікаў шыкоўных катэджаў вакол менскага праспекта Пераможцаў, згадваю цётку з Гара-

дзішча, што непадалёк ад тагачасных, у 70-х гадах, урадавых дач. Ці не адна з той вёскі яна трымала карову. Але набыць у яе малака было вельмі цяжка, бо яна размяркоўвала пакупнікоў па адным крытэрыі: доступе да кілбаснага дэфіцыту. Пры гэтым вызначала іх статус адзіным выразам – “міністэрская дрэнь”.

Сённяшняя “міністэрская дрэнь” заклапочана толькі тым, як выцягнуць з народнай кішэні апошнюю капейчыну, прывабліваючы пернікам “светлай будучыні” ў 500 даляраў...

Наўрад ці дастаіцца да гэтай будучыні вялізная, на ўсю краіну, чарга старых ды нямоглых па бутэльку трошкі таннейшага малака...

## Навіна, што вымагала цішыні

25 жніўня 1991 года, з Нью-Ёрку рухаемся ў Балтымар. У аўтобусе журналісты з Масквы, з Украіны. З Беларусі я адзін. Раптам аднекуль з’яўляецца дзіўнаватая слухаўка. “Спадарожнікавая, – ганарліва паведамляе Гліб, – можна паразмаўляць з любой кропкай планеты”...

Гліб – палкоўнік ЦРУ, прафесар геаграфіі, каранямі з Валыні... З жалем спявае пра “сотню юных бойцов”...

Слухаўка нарэшце трапляе да мяне: “На, тэлефануй жонцы...” Тэлефаную Бураўкіну, прадстаўніку Беларусі ў ААН. Генадзь Мікалаевіч здзіўляецца, моўчкі слухае, як весела мы рухаемся ў Балтымор, і раптам пытаецца: “Да ты ці ведаеш навіну?!”

Праз хвіліну я крычу: “Ціха! Ціха! Беларусь абвясціла незалежнасць!”

І сталася ціха...

## Неспасціжная таямніца

У вёсцы, дзе калісьці настаўнічаў, узвышаўся над соснамі драўляны касцёл.

Выхаваны атэістам, я тым не менш любіў прыходзіць у касцёл, дыхаць мядовым паветрам, што сыходзіла ад цёплых, прылашчаных сонечным промнем, сценаў...

Аднойчы стары ксёндз дазволіў узяць некалькі акордаў на сіплаватым аргане...

А ў траўні, калі барада, якую адрошчваў, дасягнула бачных памераў, прыслужніца ксяндза крываножка Тэкля, кінуўшы пасвіць статак гусей, пабегла за мной, кульгаючы, пагражаючы дубцом і лямантуючы: “Маска-а-ль!”

Два гукі чую праз паўстагоддзя: таго лямaнту і таго аргана. І думаю, што з ўсіх пытанняў, якімі заклапочаны людзі, адно назаўжды застанецца неспасціжнай розумам таямніцай: скуль дадзена чалавеку музыка?

Кім і адкуль?..

## Парадны разлік

У сям’і знаёмых вырашалі маральную праблему: ці ўдзельнічаць у парадзе 9 траўня дачушцы-школьніцы, якая наважылася паступаць у гуманітарную ВНУ. Справа ў тым, што з-за бiдавочнай няздольнасці да матэматыцы сярэдні бал пагражаў быць значна ніжэйшы за пажаданы. Але гэта паўбяды. Бяда ж у тым, што дзяўчынка цудоўна таньчыць. І ёй прапанавалі разам з іншымі дзяўчынкамі паскакаць перад трыбунамі “Лявоніху”. А за тое паабяцалі “дзясятку” па матэматыцы...

З аднаго боку... З іншага...

Праз маральныя пакуты дзяўчынка знайшла трэці бок:

– ...Калі б не мана, дык нічога ж дрэннага ў тым, каб паскакаць на Дзень перамогі “Лявоніху”, няма?

– Так, няма, – адказаў я. – ...мусіць, няма...

## Перагруз

1986-ы, снежань, Масква, –27... Збіраюся ляцець у В'етнам, у тропікі... Кінуты ў рэдакцыі кажух, зімовыя боты... У "рафіку", які ператварыўся ў сапраўдны лядоўнік, тры гадзіны матляемся па Маскве, збіраючы дэлегацыю чыгуначнікаў, што таксама меліся ляцець у В'етнам. Мо яно было б троху хутчэй, каб не заплечнікі з прасамі. Нехта з бывалых людзей параіў прыхапіць як мага больш прасаў – лепшы падарунак, маўляў, альбо якісьці гешэфт... Адзін за адным чальцы дэлегацыі цягаюць тыя цяжкаважныя заплечнікі з паверхаў старых маскоўскіх дамоў. Ажно даверху...

У самалёце сусед, дасведчана: "Надзейны самалёт... толькі адзін разбіўся... перагруз..." Азіраюся. Спадарожнікаў няма.

Потым даведаўся: не пусцілі. З-за празмернай вагі багажу.

Перагруз...

## Пятро і Ганна

1959-ы... Другі курс гістфака.. Пад халодным дажджом поркаемся ў пошуку падгнілых бульбінаў у гразкіх барознах. Да хаты, дзе начуем, дабіраемся ледзь жывыя. Гаспадар, Пятро, здаецца, налівае ў жалезную конаўку, адну на трох, пякучай каламутнай вадкасці, кожнаму па глытку, а гаспадыня Ганна, памятаю дакладна, ладзіць яечню з мінулагодняй скваркай... Цяпло бяжыць па сасудах і, павячэраўшы, мы адразу валімся на шырокі сяннік, раскладзены па падлозе. Хата, аб адным пакоі, яшчэ будуецца. Ні ложкаў, ні канапаў – толькі печ ды падлога.

Пятро, Ганна... Гадоў недзе за 70. Але кожную ноч толькі і чуецца з печы валтузня і бясконцае: "Ды адчапіся ты... хлопцаў пабудзіш..."

Ага, пабудзіш...

## Рукі дзеда

1943-ці. Мяне, двухгадовага, маці прывезла з эвакуацыі ў Маскву. І, падаўшыся бліжэй да Беларусі, пакінула на сваю сястру, цётку Надзею. Аднойчы цётка гуляла са мной ля гатэлю "Якорь". Стаміўшыся, пасадзіла на высокі парапет. Але, відаць, жвавенькі быў хлопчык. З'ехаў з парапета і быў падхоплены з лёту нейкім дзядком. "Куды глядзіш, старая варона?! Ледзь дзіця не загубіла...". А "старая варона", з яе слоў, ажно разінула рот, гледзячы на дзеда і ордэн з-пад расхінутага кажуха...

Ордэн ордэнам, але ж і сёння мне зусім не цяжка ўявіць сабе, нават адчуць рукі дзеда Талаша.

Уратаваў ад калецтва, а мо і ад чаго горшага...

## Рэканструкцыя

Чытаю пра рэканструкцыю падзей Першай Сусветнай вайны пад Смаргонню: "...За полчаса зрители... увидели..." Дарослыя пры тым "плакали", а "дети просили больше не стрелять"...

Данбас. Два хлопчыкі, гадоў мо дзевяць-дзесяць, з драўлянымі "калашамі"...

Адзін хутка прамільгнуў, мусіць, недзе па-за кадрам абраў зручную пазіцыю. Камера засяродзілася на іншым. Ён так натуральна, так прафесійна то хаваўся за выступам паўразваленай сцяны, то высоўваўся на хвіліну, каб хуценька выпусціць у "ворага" смяротную чаргу...

Шмат аб чым дзеці просяць дарослых на сапраўднай вайне – піць... есці... не даць памерці... не паміраць... Але аб тым, каб не стралялі, не просяць.

Бо якая ж гэта вайна, калі не страляць?!..

## Сакрэт

Аднойчы ў дзяцінстве матуля павяла мяне пагуляць у цэнтр Мінска, у парк, бо далей за свой двор на Маскоўскай я мала дзе быў. Я бадзёра крочыў побач, пакуль не ўбачыў сярод крушняў будынак казачнай прыгажосці. Нейкі мужчына ў прапыленых ботах, шэрым шынялі, з рэчмяшком за плячыма глядзеў, узняўшы галаву, на калоны, і раптам спыніў нас: "Прабачце, мадамачка, які гэта тэатр?" Матчын твар адразу набыў стрыманую пільнасць: "Гэта адміністрацыйны будынак" – "А-а-а...", – з разуменнем прамовіў мужчына, а я тузануў маці за руку: "Што гэта, што?" – "Сакрэт".

І сёння на галоўным уваходзе ў таямнічы "адміністрацыйны будынак", то бок КДБ, адпаведнай шыльды няма...

## Сапраўдны палкоўнік

13 студзеня 1991 года, Масква. Знясілены клопатамі, валюся на гатэльны ложак, уключаю тэлевізар. Шалёна, бы дагістарычная пачвара, круціць гарматай танк, жаўнер крышыць натоўп аўтаматам... Вядучы праграмы "Время" зняпраўджвае чуткі пра нейкага палкоўніка Т., каторы нібыта заклікаў вайскоўцаў вярнуцца ў казармы: "Па афіцыйнай інфармацыі такога афіцэра ў Вільнюскім гарнізоне няма..."

Травень. Гасцюю пад Менскам у сяброў. "Валодзя", – працягнуў руку невысокі, з адкрытым тварам, чалавек...

...Калі вакол тэлевежы пачалася страляніна, палкоўнік Т. пайшоў на Літоўскае радыё. Хутка пра заклік паведамляў увесь свет. Акрамя Масквы: "...няма"...

Быў і ёсць – расейскі хлопчык з рэпрэсаванай сям'і, былы савецкі палкоўнік, што "дэзерціраваў" з СССР разам з Літвой...

## Спалох

...Першы сапраўдны спалох у сваім дзіцячым жыцці я зведаў увосень 1952-га ў калідоры Опернага тэатра, па якім, нібыта па коле, мы, вучні музычнай школы, гойсалі ў перапынках паміж рэпетыцыямі хору. Рыхтавалася Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве. І якіх толькі артыстаў ні сустракалі мы ў тым калідоры! У грыме і без...

Аднойчы я раптам уткнуўся ў чыйсьці шорсткі жывот. Падняў вочы. На мяне глядзеў... Сталін. "Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?", – Сталін ласкава паклаў на маю стрыжаную галаву цёплую далонь. Супакоены, я зноў падняў вочы. У вусах – усё тая ж спагадлівая ўсмешка. Але погляд жоўты, рысіны... "Правільна, хлопчык. Баісь..."

Увайшоў у ролю...

## Трэмар

Я бачыў яго тройчы.

Першы раз, калі ляцелі ў Зону. Яшчэ ў верталёце заўважыў ягоныя дрыжачыя рукі... Ля хаты, пад страху зарослай чартапалохам, ён доўга намагаўся расшпіліць шырынку – рукі трэсліся ў дробных дрыжыках...

Другі раз – назаўтра, калі ён прамаўляў нешта няўцямнае перад так званым партгасактывам. У нейкі момант ледзь не ўварваўся ў пакойчык за сцэнай, дзе я, стомлены нудотай, курыў. Папрасіў цыгарэту. Ніяк не мог уваткнуцца ў агеньчык запалкі...

Трэці раз – у тэлевізары. Прэс-канферэнцыя ГКЧП. Не ведае, куды схаваць рукі...

Калі сцвярджаюць, што магчыма было ўтрымаць СССР, заўжды згадваю дрыжачыя рукі Янаева. І хваробу трэмар.

Невылечную хваробу імперыі.

### "Ты забіты! Уставай!"

...– Ты забіты! Падай! Падай!

Воўка хістаецца, чапляецца за рыштаванне на другім паверсе будоўлі, аддзірае дошку і разам з ёю нязграбна чмякаецца на кучу пяску... Я радасна падскокваю да яго. І раптам заўважаю, як з-пад скроні па шчацэ цячэ кроў. Вочы заплюшчаны, не рухаецца. Адкідваю драўлянае ружжо, штурхаю ў грудзі: "Уставай! Уставай!"

1947 год, нам па шэсць, мы гуляем у вайну. Колькі моцы, трасу яго за плячо. Ён расплюшчвае вочы: "Я ж забіты..."

Праз дваццаць гадоў Воўка памёр. Рак. Але і сёння бачу, як па ягоным твары цячэ кроў – кроў айчыннай гісторыі.

І штурхаю яго ў грудзі, трасу за плячо: "Уставай!"

### У цырку пасля вайны

Сланоў вядуць з Таварнай станцыі па Маскоўскай. Яны плывуць паміж крушняў, нібы аэрастаты. Палахліва спыняюцца перад Заходнім мостам, уздымаюць хобаты, трывожна трубяць...

Сланоў вядуць у цырк шапіто, у парк Горкага, дзе ўжо нацягнуты цёмна-шэры купал.

... – Дзядзечка, правядзіце...

І вось ужо сядзіш побач з "татам" і забываешся на ўсё.

...Аркестр грае вальсы, сланы таньчаць, круцяць хобатамі і раскланьваюцца. Паміж імі лётае чалавечык, ляскае па хобатах, частуе цукрам... Раптам цішыня, нарастае барабанны дробат... Чалавечак кладзецца пад самага вялікага слана, каб усе думалі, што слон вось-вось яго расплюшчыць. Слон павольна апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй...

Але чамусьці шкада слана, а не таго чалавечка...

### Усё для народа

1953 год. Над Нараччу толькі чайкі. Ні качак, ні лебедзяў – ім ежы няма. Бацька кліча мяне разам ссоўваць човен у ваду. Уваходжу ў яе і нечакана правальваюся ў ледзяную ямку, адкуль нейкая таямнічая падземная сіла бурліць бурунчыкамі пяску. Яшчэ, яшчэ... "Крынічкі", – тлумачыць бацька, нахіляецца, зачэрпвае ваду драўляным каўшом, што ляжыць на дне чоўна, і прагна п'е, нібыта ўсё жыццё пакутаваў ад смагі. Потым працягвае коўш мне...

2015 год. Над Нараччу шэрая вільгаць. Да дрэва, якраз на тым месцы, дзе мы з бацькам ссоўвалі човен, прышпілена аб'ява аб забароне купацца з-за нейкай нябачнай брыдоты, на якую хварэюць качкі, лебедзі... Вунь колькі іх плавае ўздоўж берага!

...На адным з журналісцкіх семінараў галоўны рэдактар якойсьці з абласных "праўд" праліў слязу па Байкале – маўляў, гіне такі цуд. Я нагадаў пра Нарач. "А што Нарач?! – ускінуўся калега. – Там такі курорт пабудавалі! Усё для народа!"...

### Учынак

1951 год. Набліжаўся прыём у піянеры, хацелася здзейсніць нейкі "цімураўскі", з вядомай кніжкі Аркадзя Гайдара, учынак.

І вось пашанцавала: па дарозе ў школу ўбачыў сляпога. Імжэў лістападаўскі дождж, сляпы напружана рухаўся па вузкім ходніку Нямігі, пастукваючы палачкай па баках. Я дагнаў яго, учапіўся ў вільготны рукаў чорнага паліто...

Ледзь дачакаўся пачатку ўрока і, ускочыўшы з парты, закрычаў: "Фрума Ізральеўна! Фрума Ізральеўна! Я дапамог сляпому!" – "Малайчына, – ухваліла Фрума Ізраільеўна. І паморшчылася. – Толькі навошта так голасна?!"

...Мая першая настаўніца па-геройску змагалася з нацыстамі, у яе было шмат баявых медалёў і ордэн. Але я даведаўся пра тое толькі праз шэсцьдзесят гадоў, калі выпадкова пазнаёміўся і пасябраваў з яе сынам...

### Цёмныя вокны

Я ўбачыў іх зусім выпадкова, калі на праспекце Незалежнасці ў чаканні зялёнага святла на светлафоры немаведама чаму ўзняў вочы ўверх. Зіхацелі ліхтары, бруілася падсвечанае паветра... Толькі не свяцілася цёплым хатнім агеньчыкам аніводнае вакно ў дамах па абодва бакі праспекта, што праўда, чамусьці на двух ці трох апошніх паверхах...

З таго даволі даўняга часу кожны раз, калі позна ўвечары рухаюся ўздоўж праспекта, углядаюся ў тыя вокны.

Але святла там няма.

Чаму так? Хто ведае. Мо жыхары сышлі ў нябыт ці з'ехалі кудысьці далёка...

...Няма пераліку тым, хто ў розныя часы па розных разбуральных абставінах знік з твару менскай зямлі, пакінуўшы цёмныя вокны...

### Чалавек з жалезам

Упершыню ўбачыў яго ў сакавіку – па завулку, вакол якога лепяцца гаражы, ішла... чыгунная ванна. Зробіць два крокі, прыпыніцца і зноў калдыбаецца на калдобінах...

У снежні, калі на горад абрынулася пакрыўджаная працяглай адлігай зіма, заўважыў, як ён адважна піхае праз вуліцу, упоперак руху, старую лядоўню – рэшту чыйсьці хатняй мадэрнізацыі... Раптам паваліўся, не ўтрымаўшыся на слізгаце. Я падбег, працягнуў руку, ён – сваю: "Бедны Юрык..."

Увечары з тэлевізара пачулася, як галоўны начальнік распякае ўрад, пагражае кратамі за жалеза, што іржавее па заводскіх дварах...

Не дарэмна, аднак, працуюць на Беларусі пункты прыёму металалому. Чакаюць, калі "бедныя Юрыкі" пацягнуць, нарэшце, жалезныя краты.

### Шкарпэткі для галоўнага

Пачатак 90-х. Галоўны рэдактар буйной маскоўскай газеты заўважае на шкарпэтках чальцоў рэдкалегіі дзіркі. Згадвае, што найлепшыя ў былым СССР шкарпэткі рабіў віцебскі "КІМ"...

Аднак паспрабуй прывезці іх у Маскву, калі забараняецца вывозіць з Беларусі амаль усё. Мяжы, вядома, з Расіяй няма. Але куды схавацца ад патрулёў, што прагульваюцца ўздоўж цягнікоў і пільна сочаць за кожным?..

...Ноч, бясконцы снег, слізкая, ад самога Віцебска, шаша; палюбоўніца адказнага сакратара скурчылася ззаду карпунктаўскай "Волгі" пад вялізнымі скрынямі з шкарпэткамі; сакратар хвалюецца, ці абмінем патруль...

Дзе тая найвялікшая ў свеце газета? Дзе тыя шкарпэткі? Адно што даношвае мо былы галоўны, бо прыдбаў цэлую скрыню.

Назапашваў на гады.

## Бацькаў юбілей

Хтосьці, гледзячы сёння ў акно, ці коўзаючыся паміж сумётамі, лічыць, што такая заХАЎЕРвіруха – з'ява адносна новая на Беларусі. А я згадваю сакавік 1964 года, дакладней, надвячорак 21 сакавіка. 7 кіламетраў да Опсы са сваіх Далёкіх, дзе настаўнічаў, дабіраўся пешшу мо гадзіны са тры, ужо амаль па цаліне, у якую ператварыўся прасёлачны шлях. Праз Опсу ішоў аўтобус з Браслава на Менск, дзе мяне чакалі бацькі на татаў 50-гадовы юбілей, што меўся адбыцца якраз 21-га. Па маіх падліках і раскладзе аўтобусаў павінен быў паспець. Надзіва, аўтобус з'явіўся ў Опсе своечасова.

Пакуль ехалі на Відзы, і далей, на Камаі, у невялікі "ПАЗік" набілася жанчын, ў асноўным, сталага ўзросту, што вярталіся з вёсак, дзе яшчэ працавалі касцёлы – было каталіцкае свята. Між тым, завіруха ўзмацнілася, снег заляпляў шкло, фары... І ўрэшце рэшт, канчаткова пахаваў шашу... Спыніліся. Кіроўца, таксама немалады, выйшаў, за ім я. Іншых мужчынаў у аўтобусе не было. Паглядзеў, пачухаў патыліцу... Адно выйсце – развярнуцца і па ўласнай каляіне вяртацца ў Камаі, пакуль яе яшчэ не засыпала. Але як? Зімовых колаў тады не было... Юзаў, юзаў... Беспаспяхова. Аўтобус адразу зносіла ў кювет... "Жанчынкі, дапамажыце!"... І "жанчынкі", мо з які дзясятак, паўсталі абапал, узяліся і паціху, патроху развярнулі і паставілі аўтобус на ўласную каляіну... Вось такое МНС... Праз нейкі час "жанчынкі" павыходзілі ў Камаях. І мы засталіся ў аўтобусе ўдвух...

Ужо і не памятаю, якімі шляхамі даехалі да Менску. Памятаю толькі рыжыя валасы на руках кіроўцы і як усю ноч распавядаў яму розныя байкі. "Давай, давай, не маўчы..."

Прыехалі а пятай гадзіне раніцы. Госці, запрошаныя на вечарыну, ужо разышліся. Але бацька не спаў. Чакаў...

Пётра Садоўскі



...каб не знікнуць,
каб застацца,
каб быць...

# Для шчаслівай вечнасці

*УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. ЯГАЙЛА. Драматычная паэма ў дзвюх дзеях. Часопіс "Дзеяслоў" №6 (109), 2020 г.*

## Пра аўтара

Як толькі я дачууўся, што Някляеў напісаў драматычную паэму "Ягайла", запытаўся ў самога сябе: "Чаму раптам цяпер, на пачатку 2021 года ды нешта пра Ягайлу"? Чамусьці адразу ўзбеглі на яў словы Маркса, якія мы завучвалі на памяць на ўроках літаратуры ды гісторыі ў 8-м класе Мінскай Сувораўскай вучэльні, калі "праходзілі" "Слово о полку Игореве": «Смысл поэмы — призыв русских князей к единению как раз перед нашествием монголов»...

За Някляевым, як за асобай, я пачаў назіраць пасля таго, як прачытаў ягоныя празаічныя рэчы, і калі ён стаў "ворагам народу". Да гэтага ён быў для мяне проста выдатны паэт, здольны "збіраць стадыёны". Галоўны рэдактар "Крыніцы", кіраўнік Саюзу пісьменнікаў, старшыня ПЭН-Цэнтру. Увесь час мне здавалася, што гэта – вельмі шчаслівы чалавек.

Але аднойчы я ўбачыў яго абсалютна адзінокім, як героя антычнай грэцкай трагедыі, калі гіне хор. (Пра гэты хор я заўсёды ўзгадваю, калі думаю пра беларускае жывое слова). Гэта было ў 2003 годзе ў Тамперэ ў Фінляндыі, дзе праходзіла прадстаўнічая міжнародная канферэнцыя гуманістычнай скіраванасці. Я быў у складзе ўдзельнікаў нямецкага праекту Інстытута імя Георга Экерта (міжнародная экспертыза падручнікаў гісторыі і грамадазнаўства) разам з украінцамі і грузінамі. На пленарным пасяджэнні выступалі два ганаровыя госці – расійскі праваабаронца Сяргей Кавалёў і наш Васіль Быкаў, ужо з нязвыклай прычоскай: зачасаныя назад валасы, як у Аляксандра Салжаніцына. Таму быў нейкі новы, не зусім цёплы, але вельмі беларускі. І адзінокі.

Такім жа, вельмі беларускім і вельмі адзінокім, паўстаў перада мной сённяшні аўтар паэмы “Ягайла”. Быкаў быў на канферэнцыі з жонкай, а Някляеў з дачкой. Абодва не адны – і абодва адзінокія. І не праз тое, а дакладней, не толькі праз тое, што абодва ў той час падвяргаліся ганенням. Іх адзінота здавалася наканаванасцю, доляй.

Гэткага Някляева бачыў я ўпершыню. Пра яго некалі Леанід Дранько-Майсюк у “Паэтаграфічным рамане” напісаў: “Някляеў – не проста прозвішча, а знак, сімвал, ...стыль паводзін, ягоная паэзія – паляванне на спакой...” Потым я сфармуляваў для сябе: сапраўдны паэт у імгненне творчасці – заўсёды адзінокі, а сапраўдны народны паэт – адзінокі на чужыне шматкроць, як тая птушка ў выраі, што гнёзды не ўе і песень не спявае. Гучыць трошкі зацерта, але лепшага параўнання не знаходжу.

Напісаўшы гэтыя радкі, я ўзгадаў парадаксальны эпізод, я сказаў бы – “жыццёвую метафару” з турэмных успамінаў Някляева-вязня, калі будучы фізічна адрэзаны рэжымам ад свету, ад Беларусі, ён адчуў сябе абсалютна свабодным, выпадкова прачытаўшы на шматку газеты з волі, якой карысталіся сядзельцы ў побытавых мэтах, словы падтрымкі Яўгена Еўтушэнкі беларускаму брату Някляеву, што стаў на вастрыні лёсу свайго народу. Ланцуг маіх рэмінісцэнцый пайшоў далей – быкаўскі парадокс ВЯЛІКАГА ў МАЛЫМ (паводле семантыкі) у мастацкай метафары: фінал аповесці “Пайсці і не вярнуцца”. Тут устрымаюся ад тлумачэння. Пра гэта я спрабаваў напісаць у сваіх аўтабіяграфічных арабесках “Мой Шыбалет”, дзе апісваю тыднёвы сумесны побыт з Васілём Быкавым у Германіі падчас тыдняў беларускай культуры.

## Што ж такое напісаў Някляеў?

Перачытаўшы тэкст паэмы пра Ягайлу некалькі разоў, спрабуючы “сашнураваць” усе рэплікі, аўтарскія рэмаркі, алюзіі, свае гістарычныя веды і аўтарскую схаваную алегорыю (напрыклад, у адной дзеі героі гуляюць у шахматы, у другой – у карты, у іншай – б’юцца на кулакі), стылістыку дыялогаў у Вільні, Крэве, Кракаве і Масковіі, архітэктуру тэксту, я так і не магу дагэтуль вызначыць: што ўчыніў паэт Някляеў? Гістарычны апокрыф? Парабалу-перформанс для беларусаў на вясну-лета 2021 г., калі яны будуць рабіць гістарычны выбар? Ці гэта – своеасаблівая сублімацыя пачуццяў аўтара, што шукае чашу Грааля, у якую вылілася кроў беларускага Хрыста? Можа, аўтар шукае свае карані ад прозвішча сваёй маці, што звалася Стася Магер? У паэме ёсць негістарычны жаночы персанаж з сугучным прозвішчам, магчымая праўнучка стрыечнага брата Гедыміна. Ёсць звесткі, што ў старых зямельных кадастравых актах і касцельных кнігах Крэва, дзе нарадзілася маці Някляева, сустракаюцца прозвішчы Магер і Маргер.

Можа, такое ўспрыманне тэксту люструе хіба што стан маёй душы як эмпатычнага чытача? Чамусьці памяць вяртае мяне ў далёкія 80-я гады ў купалаўскі тэатр, дзе я глядзеў пінігінскую прэм’еру “Тутэйшых” з бчб-сцягам у фінальнай сцэне, і ў Дом афіцэраў на “Клеменса” Казіса Саі ў пастаноўцы Валера Маслюка.

Гэта той выпадак, калі дзея на сцэне з'яўляецца працягам жыцця на вуліцы, што валодае розумамі людзей.

## Рамантычны рэфлекс

Адразу напісаўся вельмі рамантычны тэкст. Я распраміў спіну перад хараством паэтычнага слова Някляева, так што аж "воблакі пачалі церціся аб локці". Здаецца, гэта – Пастэрнак? А, можа, хто іншы? Не сучасна, але ў адносінах да Някляева – не пошла.

Вось пачатак таго тэксту:

"Сын крэўскай зямлі, таленавіты паэт і грамадзянін, асоба з моцнай вітальнай мужчынскай сілай і непазбежным трагізмам у сваім паэтычным меласе, калі ён пачувае сябе як герой грэцкай трагедыі ў момант, калі гіне хор, Уладзімір Някляеў заўсёды з'яўляецца ў патрэбным месцы і ў патрэбны час не толькі з эпічнымі вершамі, але ў сваёй фізічнай іпастасі...

Так, рамантычнае сэрца паэта Някляева з верай разбудзіць хоць колькі прыспаных сэрцаў вывела яго на сцежку няроўнага двубою з антыбеларускім рэжымам у час прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, прывяла яго ў Вільню на пахаванне Кастуся Каліноўскага, дзе 22 лістапада 2019 г. у ягоным сэрцы нарадзіліся пранізлівыя радкі – помнік той тысячы беларусаў, якія з гістарычнымі сцягамі і з любоўю ў сэрцы ў зімную познюю восень прыехалі ў сваю сярэднявечную сталіцу, каб пакланіцца праху гістарычнага беларуса №1, што ў заключных радках "Лістоў з-пад шыбеніцы" і ў "Мужыцкай праўдзе" сфармуляваў для беларусаў іхную *conditio sine qua non*, каб не ўмерці і быць шчаслівымі...

Вось той верш, які быў першым зыкам і поклічам пушчанскага рогу да падзей гарачага лета 2020 года:

І расступілася зямля...
І выйшаў першы: "Гэта я", –
Сказаў ён. І за ім паўсталі
Усе, што пад зямлёю спалі.
"Так. Гэта я", – сказаў другі...
І ўсе яны ўзнялі сцягі,
І з несатлелымі сцягамі,
Хто ўперадзе, хто ўслед за намі
Пакрочылі –
а пасярод –
Вякамі палены, карчоны,
Скрываўлены, да не знішчоны,
Паўсталы з-пад зямлі
Народ!.."

Прыпыніўся і зрабіў выдых... Не, так не пойдзе. Неэмпатычны чытач звычайнага допісу, што прэтэндуе на жанр нататак кшталту рэцэнзіі, адкладзе такое чытво ўбок.

Пакіну сябе філолагам, гісторыкам-аматарам і неабыякавай асобай грамадзянскай супольнасці ў беларускую зіму і вясну 2021 года. Буду пісаць цвярозы філалагічны тэкст як уважлівы і збольшага падрыхтаваны чытач.

## Радаснае валоданне родным словам

Агульнае ўражанне ад прачытання тэксту паэмы – неймаверная эстэтычная радасць ад аўтарскага беларускага слова. Рытм, рыфма, метафары – нязмушаныя,

лёгкія, мова – вобразная, жывая. Надзіва пластычная. Някляеў валодае словам радасна. Гэтае азначэнне я пазычаю ў Рыгора Бярозкіна, на мой погляд, найлепшага літаратурнага крытыка-купалазнаўцы, якое ён некалі ўжыў, разважаючы пра мову Янкі Купалы ў вялікім эсэ "Свет Купалы".

Калі ілюстраваць гэтае радаснае валоданне словам, прыйшлося б цытаваць не адзін тузін пасажаў, дзе ў кожнай сцэне з рэмаркамі пра гістарычныя даты і месца дзеяння гучыць лёгкае, простае слова, слова эпохі, калі яшчэ не было салоннага палітэсу і відэльцаў, калі каталіцкая Еўропа яшчэ не насіла парыкоў і спрэс не душылася ў гарсэтах. Няма тут ні "жыбянцяяў", ні "жэглішча", як тое сустракаем у Міколы Арочкі, які спрабаваў у сваім "Крэве" (1982) стылізаваць мову персанажаў пад Сярэднявечча.

Верыцца, што і паганскія, і хрышчоныя каталіцкія нобілі, і князі з балцкімі і "рускімі" імёнамі, маглі, як простыя гандляры ці рамеснікі, сказаць: "Літву жаруць, як воўну моль...", " Вітаю цябе, Кейстут! Як дарога?// Каб я быў вернікам, сказаў бы – як да Бога. // Снягамі, як грахамі, замятае, // Куды цябе вядзе, сама не знае..."

Вось спеў, як пад пад баявыя паганскія скокі: "Гой, ліцвіны, гой!// Сонца над Літвой!.. Гой, ліцвіны, гой, // Хмары над Літвой!.. Чытаю і чую песню Лявона Вольскага "Сонца нам дапаможа". А вось – амаль што Лявоніха пад гармонік (крэўскія музыкі): "Я паляка палюбіла проста так // Палюбіла я паляка, бо паляк // Не па-руску, а па-польску круціць вус, // Круціць вус паляк не так, як беларус..." Камендант Крэўскага замка бядуе: "Як на пагорку дуб, Літва стаіць // На ўсіх вятрах... І кожны паваліць // Хацеў бы дуба..."

Доўгіх маналогаў няма. Яны кароткія, трапныя, як народныя прымаўкі: "Жыццё – нібы кап'ё.// Ёсць толькі вастрыё. // Астатняе ў кап'і – з любога лесу дрэўца... // Нібы і на гары валадары, // А ледзь піхнуў – і коцяцца з гары. // Дык мы з табой амаль што пад гарой... // Ягайла заключыў саюз з Ардой". "...Хоць сейбіта няма, а семя не звялося..."

Так і карціць сказаць, як некалі хвалілі "Новую зямлю": "Ягайлу" хочацца разабраць на цытаты і прымаўкі.

Думкі Ягайлы пра будучыню краю рассыпаныя па ўсёй паэме ("Спытайце суддзяў тых...): сам-насам, са старым бацькам, у спрэчках з братамі, з ужо нямоглай Ядзвігай. Яны дзіўна нагадваюць вядомую купалаўскую страфу пра суд нашчадкаў, што прыйдуць пасля нас: "І прыйдзе новых пакаленняў // На наша месца грамада // Судзіці суд, ці мы сумленна // Жыццё прайшлі, ці чарада // Зняваг мінулых нас не з'ела..."

Вечная небяспека з Усходу, не ад татар, а як бы ад братоў па крыві, маскоўцаў, не раз агучваецца братамі-ліцвінамі, калі яны ўзгадваюць Гедыміна, які "збіў рогі Маскве". Кожны раз літоўскі перамоўца адчувае падступны хіжы ціск усходняга суседа: "Бяруць яго ў ціскі, // Як зубра з двух бакоў бяруць на ловах // Не соладка яму ў Маскве на перамовах..."

## Паэтычная аўтарызацыя гістарычнага і царкоўнага міфу

Я з зачараваннем паглынаю паэтычныя фантазіі аўтара. Яны не менш кранальныя, чым легенды, сфармуляваныя пры беатыфікацыі і пры пасвячэнні Ядзвігі ў пачат святых папам Янам Паўлам ІІ, Каралем Вайтылам у 1997 годзе: не жадаючы йсці за Ягайлу, яна хоча ўцячы з Вавеля і спрабуе зламаць вароты цяжкай сякерай, але чуе голас-прыказанне Хрыста прынесці сваё каханне Ягайлу, як хрысціянскую ахвяру, на карысць Польшы і яе народа-суседа дзеля захавання агульнай дзяржавы перад небяспекай з Поўначы і Усходу. Праз біскупа Хрыстос перадае Ядзвізе Чорны крыж, што застаецца на ўсё жыццё ейным абярэгам.

У Някляева 25-гадовая Ядзвіга, пражыўшы разам з Ягайлам 15 гадоў жонкай-

каралевай[1], перад смерцю пасля заўчасных родаў пад салаўіны спеў узрушана-закахана ўзгадвае, як яна прымала першы грэх з Ягайлам на Ярылавай гары пад удары Перуна побач з ужо пабудаваным касцёлам, а потым, голая і бессаромная, прымала другі хрост разам з паганцамі, спускаючыся ў далёкім ад радзімы Крэве з гэтай гары ў Крэўскі Ярдан пад шматгалоссе тамтэйшых паганаў, што зачаравана падводзілі: "Купалінка-купалінка, цёмная ночка"... І перад смерцю гэтая мелодыя гучыць з вуснаў Ягайлы і паступова знікае разам з апошнім дыханнем Ядзвігі, калі ейны белы шалік адлятае ў адчыненае вакно.

Беларускі чытач з развітым "прымардыяльным" пачуццём успрыме з болем і разуменнем прызнанні "гістарычнай разлучніцы" Ядзвігі. Паміраючы, яна хавае ў сваім сэрцы "казкі-сны" роднай Вугоршчыны, кажа пра любоў да Польшчы і Літвы і наказвае Ягайлу берагчы яе, як вечнае каханне:"Мне спадабаліся браты твае // Я думала пра тое, што яны // Сказалі, я з вугорскай стараны, // І ў Польшчы я старалася стаць полькай, // І стала ёй, але ўсе казкі,сны // З той стараны ... З яе адной і толькі... Мне ўяўляецца – можа, Някляеў так і не "планаваў"? – што яго вялі словы Купалы са "Спадчыны". Я так прачытваю.

Для мяне лірычны герой Ягайла памірае разам з Ядзвігай (пазней былі яшчэ тры шлюбы), прызнаючыся амаль у стане малітоўнай клятвы вернасці і сваёй вечнай паганска-хрысціянскай любові словамі паэта Някляева з паэмы "Калі мяне не стане": "На тым шляху, што выбраны не намі, // На тым, які нам Божа даў, вяку // Я праз цябе з віною і грахамі // Прайшоў, нібы праз горную раку, // Дзе берагі іскрылі, як каралі, // Дзе й следу не пакінула брыда!.. // Я не баюся Божага суда, // Бо ты мяне абмыла, як вада, // Якою пры хрышчэнні абмывалі..."

## Фонавыя веды, якімі трэба валодаць чытачу

Пры другім і трэцім чытанні паэмы пачынаюць працаваць рэцэптары, што "ашчупваюць" тое, што называецца культурнай антрапалогіяй, бо паэма апісвае падзеі XIV стагодддзя, якія некалі прыйдзецца пераносіць у мізансцэны. Шмат якія еўрапейскія народы маюць даволі сістэмна апісаны, як кажуць, modus vivendi – культурную антрапалогію мінулых часоў: як людзі жылі, што елі, як апраналіся, як мыліся, каму маліліся, як будавалі сям'ю, якой зброяй карысталіся, як нараджалі дзяцей і г.д. У Еўропе абавязкова ў такіх кніжках бывае раздзел пра габрэяў. Класікам падобнага жанру для мяне з'яўляецца француз Жак Ле Гоф. У немцаў – Вольфганг Райнгардт. Ягоная апошняя кніжка на 700 з лішнім старонак называецца "Жыццёвыя формы Еўропы". У англічан і амерыканцаў ужываюць тэрмін "сацыяльная антрапалогія". Магчыма, сёння першымі ў даведніках, можна сустрэць імёны амерыканца Дорджа Пітэра Мёрдака і англічаніна Райманда Фёрса (*Firth*).

Тыя меркаванні, якія я зараз выкладу, нельга разглядаць, як крытычныя закіды аўтару. Не, ён піша згодна з універсітэцкай традыцыяй, якая закладзеная ў нас яшчэ з часу СССР. Я – у пэўным сэнсе – вырадак, бо апошнія гадоў 30 чытаю галоўным чынам еўрапейскія тэксты. Гэта агульныя пытанні аўтарам яшчэ не напісанага навуковага даследавання пра культурныя і побытавая норавы нашых землякоў ранняга і пазнейшага сярэднявечча. Якія норавы былі пры двары ў Крэве, Кракаве, Вільні, Навагрудку? Пра сярэднявечча мы маем уяўленне з жывапісных карцін, узнёслых цытат знакамітых людзей, але калі пазнаёмішся, напрыклад, з гістарычнымі сведчаннямі археолагаў ды рэканструкцыямі іншых спецыялістаў пра гігіену, забеспячэнне вадой, сродкі задавалення побытавых патрэбаў, ацяплення, ежы ў жытле часам прыходзіш у шок. Якая стылістыка панавала ў прыватных размовах так званай знаці? Напрыклад, мы даволі шмат ведаем пра суворасць

віктарыянскай эпохі ў Англіі. У адпачывальнях знатных дам было неверагодна пачуць слова, якое перадавала сэнс сённяшняга, што абазначае "аргазм". У іх лексіконе іх проста не было. Сама з'ява лічылася вялікім грэхам.

Напрыклад, ці мог ў эпоху Ягайлы гістарычны "Улуг Улус", або "Улуг Джучы", як гэта мы робім сёння, сустракаючы нават у падручніках, называцца "Залатой Ардой" ці проста Ардой? "Залатая Арда" – гэта ўсяго толькі "бела-залацісты шацёр, будан, палатка, юрта..." (цюрк., манг. *ordu*). Так бы мовіць, перасоўны сталец правадыра магутнага племені намадаў. Малодшыя браты сядзелі ў сініх і шэрых юртах. Дзе галоўны хан, – там і сталіца. Метанімія "юрта – дзяржава" пачало ўжывацца ў еўрапейскіх ды расейскіх апісаннях толькі з канца XVI стг. Самі так званыя татара-манголы таксама называлі маскоўскіх князёў "залатардынскімі ханамі", бо тыя сядзелі ў белакаменных "юртах"...

Або: ці мог Ягайла ў беларускай інтэрпрэтацыі ўжываць выраз "вернемся да нашых бараноў"? Гэта як бы пацвярджае факт валодання Ягайлам французскай мовай або тое, што выраз ужо бытаваў у асяродку літоўскай знаці? Аднак гэта агульнапрызнаная калька з французскай – *revenons a nos moutons*, якая бярэ вытокі з рамана Франсуа Рабле "Гарганцюа і Пантагруэль", першая частка якога выйшла толькі ў 1533 г.

Або: гістарычная асоба Ганул (у паэме – віленскі стараста) і Гануль у Стэфана К. Роўэла, пазначаны ў каталогу імёнаў у манаграфіі "Уздым Літвы" як ганзейскі гадляр з Рыгі – гэта адна асоба ці розныя людзі? Ці мог чалавек з "Гоцкага берага" заняць пасаду віленскага старасты, у польскай мове – "намеснік". Гэта агульнае пытанне аб правах займаць пасады ў ВКЛ, пра што гаворыцца потым у Статутах рукапісных і апошнім друкаваным 1588 г.

Або: ці мог хто з кракаўскага набілітэту ў вузкім коле ўжываць у эмацыйным стане словы "курва", "дупа"? Я не ведаю. Канечне, калі на інсцэнізацыю трагедыі прыйдзе прадстаўнік польскай амбасады ды пачуе з вуснаў Святой Ядзвігі "курва маць!", хоць гэта яна як бы паўтарае на польскай мове як бы сама сабе, пэўна, у жаху паўтараючы гэты выраз пасля Ягайлы, то ён гэта назаве "сакрылегіюм" – святатацтва, блюзнерства. Ядзвіга гэта шэпча, пачуўшы што прынц Вільгельм узяў 200 000 флорынаў адкупных.

Калі князь Андрэй, папракаючы Ягайлу за здраду, кажа яму "Ах, ты ім ср...кі цалаваць: ах бардзо міло...", то гэта ўспрымаецца натуральна. Кракаўскі каронны канцлер Радліца рэагуе на вестку пра абяцанні Ягайлы: "Do dupy jego slowy..." Гэта ў прысутнасці каралевы. Ці гэта адэкватна?

Хто з дзейных асобаў адчуваў сябе кім? Палякам, літоўцам, вугорцам? У якім стагоддзі з'явілася слова "літвін". Каля маёй вёскі быў побач фальварак Ліцвіны. Уладзімір Даль зафіксаваў прымаўку "Литвин умрет, но дзекнет". Скарына ідэнтыфікаваў сябе як доктара з Полацка, а студыёзус Салямон Рысінскі ці не першы назваў сябе ў матрыкуле Альтдорфскага ўніверсітэту (паблізу ад Нюрнберга) беларусам – *Solomo Pantherus Leucorussus*... У нашай мове тады слова, якое б абазначала тое, што цяпер завецца "нацыя", не было, бо не было самой з'явы. Палітонім "літвіны", пэўна, яшчэ не быў шырока ўкаранёны ў галовы жыхароў нашых абшараў і пры Гедыміне і пры Альгердзе. У адукаваных і знаных асобаў было пачуццё канфесійнай прыналежнасці, краёвасці і ўласнай годнасці. У гэтым сэнсе спевы крэўскіх музыкаў, дзе гучыць слова "беларус" і спевы "літвінаў" трэба прызнаваць адэкватнымі толькі пры разуменні, што гэта паэтычная фантазія абранага жанру.

Мне не даводзілася сустрэць сучасных беларускіх тэкстаў, дзе б разглядаліся ў сінхраністычным фармаце рэаліі гістарычных мастацкіх твораў. Назаву адно імя (магчыма, гэта шмат каму з прычыны асабістых метамарфозаў аўтара не спадабаецца) – Ігар Марзалюк. Ягоная кніжка называецца "Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы X-XVII стст." (2003). Яна

цікавая тым, што аўтар шмат месца адводзіць апісанню праваслаўна ахрышчаных "актараў" гістарычнага працэсу эпохі Ягайлы.

Нямецкія даследчыкі амаль без сумневу сцвярджаюць, што Ягайла да шлюбу з Ядзвігай быў прыняўшы праваслаўны хрост з іменем Іакаў і гаварыў толькі на русінскай і "віленскім" дыялекце літоўскай мовы. З марзалюкоўскага кантэксту вынікае амаль тое самае: "Ягайла быў нобілем літоўскага паходжання... Моўная асіміляцыя, скарыстанне "русчызны" яшчэ далёка не з'яўляецца сведчаннем змены этнічнай ментальнасці. Паказальным ёсць яго моўная рутэнізацыя і інтэграванасць у "рускую" культуру, напрыклад, ...аздабленне паводле яго загаду храмаў і капліц у фрэскамі ў "візантыйска-рускім" стылі... Нават паляваў ён, на той момант ужо кароль Польшчы, па "ўсходнім" паляўнічым звычаі". Аўтар усюды спасылаецца на архівы.

Я даўно мучыўся: як размаўлялі паміж сабой Ягайла і Вітаўт? На якіх мовах камунікаваў Ягайла са сваімі чатырма жонкамі ў сямейным ложку?

Першая, Ядзвіга Анжуйская, з якой ён сашлюбаваўся (злюб быў замоўлены біскупам Кракава і "наканаваны" як ахвяра Хрысту), калі яна мела 10 гадоў ад нараджэння (дажыла да 25 гадоў, мела рост 1м 80 см) і тытул "кароль Польшчы", бо жанчыны ў Польшчы не мелі тады права займаць каралеўскі сталец. Ягайлу было тады 30 гадоў. Карысталася роднай вугорскай, французскай, італьянскай, лацінскай, літоўскай і нямецкай, на якой потым магла б размаўляць з сваім першым нарачоным – аўстрыйскім прынцам Вільгельмам. Заклад на шлюб, *sponsalia de future*, (200 000 флорынаў) быў засведчаны папам Баніфацыям, калі ёй было 4 гады (па іншых звестках адразу пасля нараджэння) і быў ім жа скасаваны пры замустве з Ягайлам на карысць Вільгельма.

Стэфан К. Роўэл ў кэмбрыджскім выданні 1995 г. "Уздым Літвы. Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295-1345"[2] сцвярджае, што Вітаўт і Ягайла размаўлялі паміж сабой "па-руску" і па-літоўску, што на той час на польскай мове ў Літве размаўлялі хіба што нявольнікі і ў меншай ступені дыпламаты ды прышлыя гандляры ў Наваградку і Вільні. Для негісторыкаў нечаканым будзе факт, што адной з умоваў Крэўскай і наступных вуніяў было вяртанне польскіх ваяроў і закладнікаў з літоўскага палону ў Карону.

Застаецца ў вольны час заглыбіцца ў меркаванні польскіх ды літоўскіх даследчыкаў пра штодзённае жыццё Ягайлы, які дзяліў сябе паміж сям'ёй і абавязкамі валадара шматканфесійнай і шматмоўнай дзяржавы, што сапраўды сягала ад мора да мора.

Наастачу. Паэма Уладзіміра Някляева "Ягайла" – не проста асэнсаванне трагедый і трыумфаў мінулай гісторыі, дзе на чыстым аркушы недапісанага тастаменту Ягайлы пакінута месца для нашчадкаў, у тым ліку і для нас, хто мусіць рабіць гістарычны выбар тут і цяпер і сваімі практычнымі ўчынкамі будзе адказваць на штодзённы плебісцыт часу. Уладзімір Някляеў стварыў – на маё ўспрыманне – неверагодна глыбокі "герменеўтычны" перформанс-парабалу для беларусаў зімы 2021 года: усё ўзважыць і з любоўю ў сэрцы да свайго зрабіць гістарычны выбар, каб не знікнуць, каб застацца, каб быць.

А калі шырэй, дык драматычная паэма "Ягайла" – твор, напісаны Някляевым для шчаслівай вечнасці: у фінале драмы гучыць лірычны дуэт двух верных сэрцаў, як у паганскім "ЁН і ЯНА" у Купалы, як у "Тахір і Зухра", як у "Рамэа і Джульета"...

---

[1] У розных крыніцах даты нараджэння Ядзвігі, дамовы пра шлюб з аўстрыйскім прынцам Вільгельмам, узрост пры заключэнні шлюба з Ягайлам, дата смерці дачкі, колькасць дзён жыцця Ядзвігі пасля смерці дачкі і г.д. не супадаюць. Узрост Ягайлы пры заключэнні шлюбу таксама не супадае паводле розных даведнікаў.

[2] Lithuania Ascending: A Pagan Empire within East-Central Europe, 1295-1345, Cambridge: University Press. 1995. 375 p. Пераклад на беларускую мову А. Мікус (Мінск: Медысонт, 2015).

# Нашыя аўтары

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «Яблычны пах цішыні» ды інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Будовіч Яна (Будовіч Таццяна)** — паэтка. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй», «Лісты да запатрабавання», «Жураўліная пара» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980). Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Памёр у 2014 годзе.

**Ваганаў Сяргей** – журналіст, эсэіст, паэт. З 1961 года працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности». У 1976–2008 гг. – уласны карэспандэнт газеты «Труд», галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларуси». Аўтар шматлікіх эсэ і публіцыстычных нарысаў, частка якіх друкавалася ў розных тэматычных зборніках, а таксама ўвайшла ў кнігу «Мосцік над вечнасцю». Двойчы лаўрэат конкурсу «Вольнае слова». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Казані, у эвакуацыі. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць», «Павуцінка на агрэсце» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» ды інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Кузменка Змітрок** – празаік, паэт, гісторык. Аўтар зборніка паэзіі «Пакуль жыву, спадзяюся...» Стваральнік і адміністратар гісторыка-асветніцкага інтэрнэт-праекта «Свіслацкія аркушы – Кастусь Каліноўскі». Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лапцік Вячаслаў** – празаік, драматург, публіцыст. Аўтар кніг «Паядынак у ціхай затоцы», «Мой сум, Нарочча...», «Хвалі гамоняць пра легенды», «Нарач горка плача» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сіманы на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ліпскі Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Антонік-понік», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь» і інш., зборнікаў прозы «Раны», «Дзень нараджэння» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Я. Маўра (1993), імя В. Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001) і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шоўкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Мароз Уладзімір** — празаік, паэт, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Аўтар сцэнарыяў больш як 60-ці дакументальных фільмаў. Фільм «Успаміны пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Норвід Цыпрыян Каміль** – польскі паэт, драматург, празаік, жывапісец, эсэіст, скульптар і філосаф. Сярод найлепшых твораў Норвіда – паэтычны цыкл «Vademecum», філасофская паэма «A Dorio ad Phrygium», трагедыі «За кулісамі», «Клеапатра і Цэзар», «Пярсцёнак велікасвецкай дамы». Нарадзіўся ў 1821 годзе ў маёнтку Ляскова-Глухы, каля Варшавы. Памёр у 1883 годзе ў Парыжы.

**Рублеўскі Сяргей** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца», «Мамін шэпт пад абразамі».

Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Садоўскі Пётра** – публіцыст, мовазнаўца, грамадскі дзея і дыпламат. У 1992–94 гг. Працаваў Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам Рэспублікі Беларусь у ФРГ. Пасля адстаўкі займаецца грамадскай і палітычнай дзейнасцю. Быў сябрам Прэзідыума ды старшынёй камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета БССР і Рэспублікі Беларусь 12-га склікання. Аўтар кнігі ўспамінаў «Мой шыбалет». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Снарская Іна** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Тарасава Кацярына** – паэтка. Студэнтка 4 курса факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Нарадзілася ў 2000 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хадановіч Андрэй** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё», «Школа травы» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017), прэміі Наталлі Арсенневай (2019) і інш. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996). Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Самнасам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Стаса Смірнова, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.